№1 (110)
/студзень-люты/ 2021

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

## Сяргей Законнікаў



...Пісаць не лягчэй, чым проста жыць,
Калі ў цябе насцеж грудная клетка.
Пісаць – гэта значыць вісець на крыжы,
Вісець без ніякіх сведкаў...

# Адзінота

***Паэма***

*Дачцэ Алёне*

*Вершы гавораць пра тое, аб чым маўчаць.*
**Х.М. Энцэнсбергер**

***ЗАЧЫН***

Ноч. Я – адзін... Ды недзе там, удалечыні,
Загучала нечаканая, дзіўная нота:
Гэта на душэўныя, сігнальныя агні
Адгукаецца спадарожніца – адзінота.

За вакном – неба зорнае. Звініць цішыня,
Але амаль нячутна, ледзьве ў вушах жывая.
Мелодыю космасу хочацца пераняць...
Крывінкаю кожнай планеты рух адчуваю.

Як кружэлка патэфонная, плыве Зямля,
Іголкай на ёй – маё параненае сэрца.
Яно часам абмірае, і вены смыляць,
Але ўсё роўна нецярплівай надзеяй б'ецца...

Адзінота спявае для ўсіх... Не толькі ты
Зачараваны тым, як падае, гасне знічка...
Застаецца мне ціха ў захапленні застыць:
Як Божы свет жыве прыгожа і гарманічна!

### *1. ЗАБЫТАЯ СЯКЕРА*

Бацька смеласці вучыў мяне сурова,
А я, малы, доўга і шчыра верыў.
Калі нарыхтоўвалі трал ці дровы,
Ён ля кастрышча "забываў" сякеру.

Праз вярсту спыняў каня і прасіў збегаць,
Забраць інструмент нам вельмі патрэбны.
Ноч. Лясная дарога. Ты – адзін, бедны...
Але ідзеш, каранёў лічыш рэбры.

Цемра. Толькі ўверсе між дрэў у прагале
Палоска неба свеціцца прыкметна.
Арыенцір – у вачах, ды страх сцягае:
А раптам воўк выскачыць з чорных нетраў?

Лёс на смеласць мяне няшчадна праверыў,
Але іспыты не спыніць ніколі...
Тую "забытую" бацькаву сякеру
Я нясу і нясу праз сваю долю.

### *2. КАЛАСОК*

Стан і тэма – не старасці адкрыццё,
Пра адзіноту я думаю ўсё жыццё.
Адзінота – не толькі сум і слёзы...
У кнізе "Пакуль жыве мая бяроза",
Рукапіс якой выдавецтва "згубіла"
І затым ніяк не магло адшукаць,
Ёсць мой аповед пра лёс каласка...

Я ніколі спагады сабе не прашу,
Ды, быццам у камень тупое зубіла,
Адзінота ўгрызаецца ў маю душу:

*Наўзбоч асфальту ля кювета,*
*Дзе жвір пусты, сівы пясок,*
*Узняўся промнем ціха-светлым*
*Жытнёвы дробны каласок.*

*За ўзлескам пыльным, за ракою –*
*Палі, што вокам не абняць.*
*Звініць там дружнай талакою*
*Уся ягоная радня.*

*А тут з-пад шын шалёны вецер*
*Кулём злятае пад адхон.*
*Без спадзявання, што прыкмецяць,*
*Ён за паклонам б'е паклон.*

*Яму няўтульна і тужліва,*
*За зерне страшна: быць ці не?*
*Ды ўсё ж глядзіць на свет шчаслівы,*
*Свой лёс ніколі не кляне.*

*Наўзбоч гарачага асфальту,*
*Дзе жвір пусты, сівы пясок,*
*Пяе адзін, але без фальшу,*
*Жыццю падзяку каласок.*

### *3. МЕЛІЯРАЦЫЯ*

Адзінока блукаю па мёртвай пустыні,
Там, дзе балоты ахоўвалі водны неруш.
Вецер шпурляе ў вочы пясок, сэрца стыне,
Трымцяць напнутыя горкай памяццю нервы.

Але што гэта? На даляглядзе – сінеча...
Няўжо ты выжыла ў дэбільнай калатнечы?
Ты не высахла? Ты вярнулася?
Як душа ўстрапянулася!

Ты вярнулася, мая рака –
З таямнічай глыбінёй віроў,
З танцам на водмелі печкуроў,
З песняй, якую шэпча асака...
Ты вярнулася, мая рака,
Тая, дзе выцягнуў першага шчупака,
Ты вярнулася, мая рака.
Як хораша і радасна мне.
Ты вярнулася, мая рака...

Толькі ў сне...

### *4. МАЯ АДЗІНОТА*

Я разглядаю цябе нібы здалёку,
Але пазіраю ўважліва, хоць употай.
Сапраўды зразумець, разгадаць нялёгка...
Якая ж ты, мая адзіная адзінота?

Мая адзінота – дапытлівая...

Калі мама ці я вялі цябе ў дзіцячы садок,
Ты не хацела паслухмяна ісці па сцяжынцы,
А імкнулася, рвалася заўсёды некуды ўбок,
Каб разглядаць расу на траве, жылку на лісцінцы.

Мая адзінота – ранімая...

Калі з-за маіх поглядаў на экзаменах знізілі адзнаку,
Ты хадзіла да позняй начы па Мінску ў халодных боціках,
Ты не прыйшла ні да каго, каб на цёплым плячы
ціха паплакаць,
А засталася адна ў самой сабе, у маўклівай адзіноце.

Цябе ў спалоху мы доўга шукалі, і не раз прасілі потым:
“Не бяры да галавы! Прападзі пропадам – адзнакі, дурні!”
Адзінота сядзела ў парку між заінелых дрэў і сумётаў...
Яна плакала ад незаслужанай крыўды. І думала...

Мая адзінота – таленавітая...

А талент ведае сабе цану,
Яго нельга сагнуць.

Мая адзінота – працавітая...

Яна ненавідзіць нахабных лайдакоў.
Калі тыя ўхіляюцца доўга ў нечым,
Проста змахне пот з ілба прыгожай рукой,
І ўзваліць сама чарговы груз на плечы.

Васіль Быкаў, якому яна афармляла кнігу
“Крыжовы шлях”, напісаў у лісце:
“Тут я хачу пацалаваць залатыя ручкі мастачкі,
тваёй мілай Алёнкі”.

Мая адзінота – смелая...

Для яе няма непадступных начальнікаў,
Яна справядлівая, таму – адчайная.

Мая адзінота – праўдзівая...

Яна праўдзівая, прытым – паталагічна,
Што для многіх калегаў зусім непрывычна...
Хоць жыццё – гэта крохкі, падманны лядок,
Яна за праўдай ідзе – слядок у слядок.

### *5. БЛІЗКАЯ ПАРА*

Мы працуем у пары, хоць розныя мы,
Хоць падзел ёсць паміж пакаленнямі.
Шлях у нас – не крывы,
Ды па ўсім – не прамы,
Ён з лірычнымі адступленнямі.

Мы з табою намёртва ўпрэжаны ў плуг,
І пастромкі напнуты ад ворчыка.
Пуга нам не патрэбна, каб вершыць свой круг...
Плуг не намі названы творчасцю.

### *6. БЕЛАРУСКІ АРНАМЕНТ*

Вечнасць колеры дзеліць сама,
Хоць колеры ўсе – крутыя.
Народ наш выбраў з іх нездарма
Святочныя і святыя.

Мне імпануе строгі ранжыр:
Белы, чырвоны і чорны.
Ромбы, дзяды, спарышы, крыжы –
Долі абрус непаўторны.

Круцяцца жорны быцця і ляцяць
Дні і гады, як лістота...
Родны арнамент – жыцця працяг
Мілай маёй адзіноты.

### *7. ЧАЛАВЕК НА ЛАВАЧЦЫ*

Два тыдні пасля аперацыі спаць не мог,
Варочаўся на мулкім бальнічным ложку.
Спачатку ўладна слабасць плыла да ног,
А потым стаў падымацца патрошку.

Стаяў уначы ля акна, удзячна глядзеў
На горад мой сонны або на аблокі,
Бо хто не быў у пакутнай, страшнай бядзе,
Той не можа адчуць сэнс жыцця высокі...

Аднойчы заўважыў я нязвыклую дэталь
У быцці гарадскім, і з гэтай прычыны
Даўжэй і пільней у яе ўглядацца стаў:
На лавачцы сядзіць самотны мужчына.

Прыпынак насупраць кардыяцэнтра якраз,
Таму мне відно было, як на далоні.
Тралейбусы, аўтобусы ішлі ўвесь час...
Не сеў... Быццам нехта яго запалоніў.

А потым спыніўся наогул вулічны рух,
Таропкі прахожы стаў неспадзяванкай.
Пасля ўжо мы з ім засталіся толькі ўдвух,
Хоць ён не ведаў, што я не спаў да ранку.

Не бомж, не алкаш, а проста сівы чалавек,
Якога лёс па-свойму, відаць, прыгнечыў.
Маўкліва сядзеў ён.
Што было ў галаве?
Невядома. Але ён думаў аб нечым.

А я спачуваў, падзяляў трывогу і боль,
Бо сэрца яны адшукалі знянацку...
Ён думаў, і ў дзеянні ціхім была – соль...
Вядомы не ўсім гэты вечны занятак.

### *8. МІГРАЦЫЯ ДУШЫ*

*Над Мінскам пралягае шлях
міграцыі птушак.*

З маіх назіранняў

Калі над Мінскам жураўлі ці гусі
У цёплы край вядуць журлівы клін,
Душа мая непадуладна скрусе:
Я – з адзінотаю, то – не адзін.

Я застаюся ў запаветных межах,
І незалежнасць тую – не крані!
Палёт душы абуджанай залежыць
Найбольш не ад вясёлай мітусні.

Праз сум прыходзіць шчодрае натхненне,
Яно – як прысак, толькі варушы...
Мяне цікавіць душ перасяленне,
Але найперш – міграцыя душы.

## *9. МУЖЧЫНСКАЯ СЛЯЗА*

Жыццё падкідае сюжэтаў багата,
На ўсё не будзеш глядзець звысоку.
Скажы, чаму ты заплакаў, тата?
Гэта мне парушынка трапіла ў вока...

Ты плакаць не можаш з-за нейкіх боўдзіл.
Відаць, адбылася злая падзея?
Ну, што ты, дачушка... Слязы не бойся...
За ёй непазбежна прыходзіць надзея.

## *10. ТАТАВА ДЗІЦЯТКА*

Мамчын сынок – не спешчанае дзіця,
Як звыкла жыве паняцце ў народзе.
Мамчын сынок часам – волі працяг,
Якой не знайсці ў звычайнай прыродзе.

Моцная воля ўсім наўздзіў паўстае
З ласкі апантанай, мо й недарэчнай...
На конт гэты маю я думкі свае,
З канонам смела ўступаючы ў спрэчку.

Так, я – мамчын, вялікай любові – сын...
Яна, магчыма з такое прычыны,
Гладзіла мне, сівому ўжо, валасы...
Як жа мне не зразумець душу жанчыны?

А можа, і адчуваю яе лепш,
Усё, што да часу ў ёй прыхавана,
Таму і прыходзіць жанчына ў мой верш
Заўжды незапрошанай, нечаканай...

Цябе не супыніць апёк незнарок,
Смела кідаеш злу ў твар зноў пальчатку,
Робіш у нязведанасць рашучы крок...
Я – мамчын сын,
Ты – татава дзіцятка.

## *11. МАРНАЯ СПРАВА*

У краіне, дзе заняпаду прыкметы,
Дзе волю прыціснула гвалту пята,
Марная справа – спрачацца з паэтам,
Паэта трэба – проста чытаць.

## *12. РЫЗЫКА*

Слова “рызыка” таямніцамі скрозь атулена,
Я спрабаваў прыадчыніць завесу тую.
Верш, які спадабаўся Рыгору Барадуліну,
Для цябе, мая адзінота, працытую:

*А доля проста не рыфмуецца.*
*Не ўціснеш лёс у верш сілком...*
*Нясоладка і мне начуецца*
*Над незакончаным радком.*

*Ад хвалявання ў пальцах дрыжыкі,*
*Ды ўсё не тое...*
*Трэба спаць,*
*Як у мінёраў, гэта рызыка*
*Апошняй кропкай можа стаць.*

*Але праходзіць час,*
*І крэсівам*
*Душа аб будзень чыркане.*
*Адзін радок паспешна крэсліцца,*
*За ім другі імкліва мкне.*

*Пісаць – браць лёд рукамі голымі,*
*Пісаць – як жартаваць з агнём...*
*І ты ляціш з агню ды ў полымя.*
*Ну, што ж.*
*І ўсё-ткі рызыкнём!*

*Ноч. 30.01.1983 г.*

Час прайшоў, зноў жыццё на часткі пераламілася,
Ды ніколі мне не расстацца з адзінотай...
Як раней, я чакаю ад Усявышняга міласці,
Толькі ў рызыцы саспелі новыя ноты.

## *13. НА КРЫЖАХ*

*Сяргею Законьнікаву, зь якім разам*
*вісець на крыжах.*
*Такая доля!*
*В. Быкаў*
*20. VII. 99*

Дарчы надпіс на кнізе “На крыжах”

Пісаць не лягчэй, чым проста жыць,
Калі ў цябе насцеж грудная клетка.
Пісаць – гэта значыць вісець на крыжы,
Вісець без ніякіх сведкаў...

## *14. ДАРОГА Ў АДЗІН КАНЕЦ*

Я не думаў, што хутка жыццё праміне,
А нырнуў у глыбіні і веліч прыроды.
Далеч вечная, што хвалявала мяне,
Разам з ветрам прынесла святло і свабоду.

Не палохае космасу зманны прастор,
Лёс растворыцца проста ў чарнечы потым.
Палячу я спакойна да радасных зор,
Не сумуй без мяне, мая адзінота.

Забіраю з сабою твой боль і трывогу...
Я ведаю вечную малітву ў дарогу:
"Гасподзь Бог напярод,
Божая Маці пасярод,
А я ззаду".

*23 – 29 траўня 2020 г.*

Уладзімір Някляеў



...калі становішся Богам,

паэтам быць ужо не можаш?..

# Гэй бэн гіном

***Раман***

*Бацьку Пракопу, маці Анастасіі,*
*Крэву і Смаргоні*

*...і ніколі я не паміраў.*
**Янка Купала**

*Пазбегчы гэтага немагчыма,*
*але можна грэбаваць усім гэтым.*
**Луцый Анэй Сэнэка**

## I

Першага ліпеня 1942 года, прачнуўшыся з ранішнім сном, у якім убачыўся яму Хрыстос, Іван Луцэвіч чыста пагаліўся, папырскаўся адэкалонам “Духмяны гарошак”, надзеў белую кашулю з цёмна-чырвонымі агатавымі запінкамі, апрануў цёмна-карычневы, тонкага сукна ангельскі гарнітур, абуўся ў новыя карычневыя на тонкай скуранай падэшве чаравікі,

павязаў светла-шэры з цёмна-чырвонай агатавай шпількай гальштук, сунуў у заднюю кішэню штаноў карычневую з чырвонай аблямоўкай насоўку, у левую ўнутраную кішэню пінжака – чорны скураны партманэт з харчовымі карткамі на ліпень, пасведчанне сябра Саюза савецкіх пісьменнікаў і верш-улётку «Беларускія сыны», у правую – яшчэ адзін скураны партманэт, карычневы з абанементам у сталовую літэр “А”, нататнік і аловак з пазалочаным наканечнікам, размеркаваў па бакавых кішэнях партабак з тытунём «Эліт», пушачку з папяроснай паперай, запальнічку, пачаты пачак ізафеніну і, зачыніўшы за сабой дзверы нумара 414 гатэля «Масква», выправіўся ў Саюз савецкіх пісьменнікаў, каб паглядзець, як там яго будуць хаваць, бо тры дні таму, вечарам у нядзелю яго не стала.

Спусціўся ўніз на ліфце. Яму падабаўся ліфт у гэтым гатэлі: хуткі, мяккі.

«Іван Дамінікавіч! – гукнула яго адміністратарка і падала газету “Известия”. – Тут пра вас».

“Дзякуй, – сказаў ён. – Я чытаў”.

Такая ж газета з некралогам “Памяці Янкі Купалы” засталася на тумбачцы ў 414-м нумары.

Трызна была прызначаная на тры гадзіны, але ён вырашыў выйсці раней, прагуляцца па Маскве – калі яшчэ давядзецца?..

Дзень быў па-летняму ўтульны. Ён любіў такія мяккія летнія дні, калі сонца не пякло, а лашчыла, і паветра, прахалодна-празрыстае, пераламлялася, як крынічная вада ў крышталёвай шклянцы, і ўсё наўкол іскрылася, і ясным было ўсё да донца.

Колькі ў яго такіх дзён было?.. Палова? Траціна?.. Дзе там!.. На той зямлі, на якой пражыў ён свае шэсцьдзясят гадоў, не надта сонечна. Так што ясных дзён выпала ў жыцці няшмат. А па смерці такі першы выпаў. І добра, што серада.

Ён не задумваўся над тым, чаму добра, што серада – проста з усіх назваў дзён тыдня яму найбольш падабалася гэтая. Якая пасярэдзіне. І ён крочыў скрозь ясны дзень, скрозь сераду і радаваўся, не задумваючыся, з чаго, чаму?..

Пры жыцці гэтак радавацца рэдка яму ўдавалася, бо амаль заўсёды з радасці ўзнікала вострае адчуванне імгненнасці, матыльковай мімалётнасці жыцця, а праз тое страх, што яшчэ адзін матыльковы ўзмах – і ўсё скончыцца. Страх смерці. А тут вось яна, смерць, у табе, ты ў ёй – і няма чаго баяцца.

Ён нязвыкла сябе пачуваў. Пазачасава і пазасветна. Там, у тым свеце, дзе ён пакінуў жыццё, быў час мінулы, цяперашні, будучы. Былі гады, месяцы, тыдні, дні...

Няспраўджаныя спадзяванні.

Пра няспраўджаныя спадзяванні казаў у ранішнім сне Хрыстос. Казаў, што не страціў веры ў тое, што будзе Божы суд і царства Божае настане, але не тады, калі Ён прарочыў. Што спадзяванні Ягоныя не спраўдзіліся. “Як і твае, – ужо выходзячы са сну, у якім з’явіўся, сказаў Ісус. – Не ўсё спраўджваецца не толькі ў людзей, але і ў Бога”.

Чаму Ён прысніўся не ў жыцці, а ў смерці?.. Ці гэта не смерць?

Пра тыя гады, месяцы, дні, якія былі да апошніх сноў, Купала помніў. Але цяпер іх, асобных гадоў, месяцаў, дзён не было – усе часы былі ў адным часе. І нельга сказаць, што ў цяперашнім. Час гэты ўвогуле немагчыма было вызначыць, яго як бы не існавала. Нагэтулькі не існавала, нібы ён не пачынаўся і не сканчаўся, не мог пачацца і скончыцца – і Купала падумаў, што гэта вечнасць.

Бог прысніўся ў вечнасці?..

Вечнасць прыснілася ў Ім?..

Як раней, так і цяпер ён уявіць не мог, што такое вечнасць, але падумаў пра яе, бо, мусіць, толькі ў вечнасці можна сябе гэтак пачуваць. Ясна і бясстрашна.

Усе апошнія гады ён пражыў у страху, які ціснуў то мацней, то слабей, але не адпускаў. Гэта высмоктвала, выбірала ўсе сілы, і ўрэшце ён адчуў, што ўжо не столькі збаяўся, колькі стаміўся баяцца. Вось тады і стала яму ўсё адно, што з ім будзе далей.

А што далей будзе?..

Хрыстос казаў, што таксама не ведаў, што з Ім будзе далей. Бо да таго, як стаць Богам, быў паэтам.

Калі становішся Богам, паэтам быць ужо не можаш?..

Ягоныя вершы сталі казаннямі ды прароцтвамі? І Святое пісанне – гэта вершы Ягоныя, перапісаныя пракамі?..

"Я напісаў верш пра Божы агонь, які не гасне ў вадзе. Прачытаў яго падарожніку, і ён сказаў, што я паэт, і што шлях мой на Іярдан да прарока", – успомнілася прамоўленае Хрыстом, які казаў яшчэ пра дом, пра маці, пра тых, каго любіў і ад каго сышоў, не развітаўшыся, бо быў пакліканы.

Калі ты пакліканы, ты мусіш усіх пакінуць?..

Можа, павярнуць да Ільінкі – і на Кацельніцкую? Развітацца па-людску. У той вечар, калі яго не стала, гэтак не выйшла, як ён хацеў.

Выйшла як выйшла...

Ён павярнуў да Ільінкі, ступіў крок-другі – і ўявіў, як тая жанчына, ад якой ён сышоў, не развітаўшыся, спалохаецца. Збіраецца, пэўна, на пахаванне, а тут ён, нябожчык.

Не, так нельга. Хай прыйдзе, як усе, паплача з усімі... І ён павярнуў да Кавальскага моста.

Трохі падціскалі, мулялі зверху, націраючы костачкі на ступаках, новыя чаравікі, у якіх тры дні таму йсці было балюча, а цяпер – нічога. Можна шпацыраваць.

Ён любіў шпацыраваць. Ідучы, намацваў рух радка. Рытм, хаду верша...

Недзе ў ім блукала паэма пра сны.

Першы сон па смерці, у якім Хрыстос сказаў, што быў пакліканы на Іярдан да прарока Яна Купалы, здзіўляў, але так не трывожыў, як апошні сон пры жыцці.

Тры дні таму, у ноч на 28-е, апошнюю ноч у тым, які можна было палічыць, часе, ён бачыў сон, пра які, памёршы, забыўся, а сёння, убачыўшы ў ранішнім сне Хрыста, успомніў.

У тым начным сне ў 414-ы нумар, у якім ён жыў у гатэлі "Масква", увайшоў з выгляду блазнаваты, у лётным шлеме з чырвонай зоркай, чалавек. Ён быў падобны да гандляра з ГУМа, якому надпісаў летась Купала кнігу "Ад сэрца". Сеў на ложак, у ногі сеў: "Што ты робіш?" Купала спаў, таму адказаў: "Сплю". Той спытаў: "А чаму ты спіш?" – і Купала ў сне прамовіў так, як не адказаў бы на яве: "Бо мне ўжо не цікава не спаць". Тады чалавек той у лётным шлеме з чырвонай зоркай, які да ўсяго яшчэ й разнавокі быў, колер вачэй ягоных Купала не запомніў, але яны былі рознага колеру, перасеў бліжэй да ўзгалоўя, нахіліўся да вуха: "Заўтра ты не прачнешся, але і спаць не будзеш". З тым падняўся і пайшоў. Нават не пайшоў, а неяк так, як бывае ў снах, знік.

Як гэта: і не прачнешся, і не будзеш спаць?..

Той апошні ў жыцці сон быў з суботы на нядзелю. А з суботы на нядзелю, як было напісана ў старадаўнім сонніку, які ляжаў некалі на століку каля ложка маці, сніцца тое, чаго хочацца.

Вечарам у нядзелю яго не стала.

Можа, усё ж павярнуць на Кацельніцкую?.. Раптам жанчына тая, з якой не развітаўся, не пойдзе на пахаванне? Зазлуе, што яго не стала. Ці пабаіцца.

Ён ужо вырашыў павярнуць, яму хацелася сказаць ёй, каб не вінавацілася, бо ўсё адно было б так, як сталася, але на падыходзе да вуліцы Кавальскі мост два чалавекі ў чорных капелюшах упіхнулі яго ў чорную машыну і завезлі на Лубянку. У Камітэт дзяржбяспекі. Ехаць было зусім недалёка – і ён падумаў, калі прывезлі: “Нашто машыну ганялі? Не таму ж, што мне чаравікі муляюць. Вайна, а яны бензін паляць...”

## 2

Віктар Маргер прыснiў, што яго спалілі.

Прачнуўшыся сярод ночы ад прыснёнага кашмару, падумаў, што дарма ён гэтак рупіўся, каб пасяліцца менавіта ў тым нумары гатэля “Масква”, у якім пражыў апошнія дні свайго жыцця Янка Купала. “Тут пахне згубай”, – сказала Ганна, як толькі ўвайшла сюды, і калі ён перапытаў: “Смерцю?..” – яна паўтарыла: “Згубай. Гэта розныя пахі”.

Сярод усіх кашмарных сноў, якія тут яму ўбачыліся, сённяшні быў найкашмарны. Каб пазбавіцца яго, ён уключыў таршэр і, пасунуўшыся на край ложка, паглядзеў на Ганну, у якой была звычка спаць на падлозе. “Я твая сука”, – казала яна, калі ён пытаў, чаму? – “Але ж і сукі спяць з гаспадарамі на ложках...” – “Гэта хатнія. А я сука дзікая”.

Ганна спала, як звычайна, на баку, падабраўшы пад жывот калені, і дыхала ціха, роўна, спакойна. “Сны, – яна казала, – мне не сняцца. Ніякія. А калі сняцца, я іх не помню. Затое я помню ўсё, што не сны”.

Так. Усё, што не сны, яна не забывала. І яшчэ яна казала, што звычка спаць на падлозе ў яе ад маці. “Не ведаю чаму, але маці не спала ў адным ложку з бацькам. Клалася каля ложка на падлозе”.

Віктар падняўся, падышоў да вакна, каля якога стаяў на трыножніку тэлескоп, у які глядзеў ён у гэтым нумары ўжо больш за месяц. І цяпер зірнуў – цямнеча.

Марозна сканчаўся люты – цёмна пачынаўся апошні лютаўскі дзень. За вакном было так змрочна, так густа чорна, што гэтую густую цемрадзь не прабівалі нават агні сталіцы, якія, здавалася, замерзлі на яе галоўнай вуліцы і галоўнай плошчы.

Цьмяным золатам паблісквaў перад акном тэлескоп. Віктар займеў яго праз 300-ю секцыю – закрыты размеркавальнік на Кутузаўскім праспекце, куды выдалі яму запрашэнне ў Сенацкім палацы Крамля, дзе мясцілася Упраўленне справамі Савета міністраў СССР, якім кіраваў флегматычны чалавек з зоркай Героя сацыялістычнай працы, з прозвішчам Смірцюкоў і мянушкай Смерць. “Ого!..” – сказала Ганна, убачыўшы подпіс на запрашэнні, і проста зацягнула Віктара ў тую 300-ю секцыю, “дзе ёсць такое, пра што ты нават не ведаеш, што яно ў свеце ёсць!” – і дзе да іх прычапіліся: “Што б вы хацелі купіць?”

Ён нічога не збіраўся купляць, таму сказаў, што тэлескоп. З залацістай

трубой. Такі, пра які марыў у дзяцінстве. Проста так сказаў, каб адчапіцца і каб адчапіліся, а яму паказалі каталог з фотаапаратамі, біноклямі, тэлескопамі: "Выбірайце".

Такога тэлескопа, які ён хацеў бы мець, у каталогу не знайшлося, але дырэктарка секцыі ўспомніла: "Па-мойму, у нашай краме антыкварыяту я нешта такое бачыла. Гэта не тут, у ГУМе... – Патэлефанавала і трубкай бразнула. – Ёсць! І ведаеце, што… Кажуць, што ён быў сярод асабістых рэчаў Сталіна. Нават карціна напісаная, на якой Сталін у той тэлескоп глядзіць. Можаце і карціну купіць, яна таксама там. Звычайна такія рэчы, – зірнула яна на Ганну, – мы толькі сваім прадаем, але калі запрашэнне з подпісам Смерці…"

– Дык мы і ёсць свае! – дагаварыла за яе Ганна і павезла Віктара ў ГУМ, дзе ў антыкварнай краме 300-й секцыі ім не прадалі, а падаравалі тэлескоп разам з карцінай.

Дырэктар крамы, які зрабіў ім гэтыя падарункі, быў, пэўна, гіпнатызёрам. Інакш немагчыма патлумачыць тую фантасмагарычную дзею, якую ён для іх наладзіў. Яе проста не магло быць у звыклым свеце, але яна была. Больш за тое: яны ў ёй удзельнічалі, пра што сведчылі шмат якія рэальныя рэчы – найперш карціна і тэлескоп.

Тэлескоп напраўду быў марай ягонага дзяцінства. Мястэчка, дзе ён нарадзіўся, стаяла на ўзвышшы, там трохі бліжэй было, чым у іншых месцах Беларусі, да неба, і там яно было яснейшае, чым у іншых месцах. А ўночы такое зорнае, як болей нідзе.

Летам ён спаў на сене ў пуні, саламяная страха якой была ўся ў дзірках. Гледзячы ў іх, ён падарожнічаў ад дзіркі да дзіркі, ад галактыкі да галактыкі, уяўляючы, якія дзіўныя на планетах у тых галактыках лясы і сады, звяры і птушкі, рыбы і людзі, і калі засынаў пад раніцу, дык лятаў у тыя галактыкі на тыя планеты і бачыў тых дзіўных рыб і птушак, звяроў і людзей, сярод якіх амаль заўсёды з'яўлялася паненка ў белай сукні з чырвоным поясам, якая кожны раз пытала, як яго зваць, а ён быў у такім захапленні ад палёту, ад дзівосаў, якія бачыў, што забываў, не памятаў свайго імя – і ніяк яны не маглі пазнаёміцца. Таму ён проста кінуўся, рынуўся знаёміцца з Ганнай, калі ўбачыў яе ў белай сукенцы з чырвоным поясам…

Ганна была падобная да той паненкі. Да іншапланецянкі. Пасля аказалася, што яна насамрэч жыла на іншай планеце, жыхары якой карысталіся паслугамі не толькі 300-й секцыі, у антыкварнай краме якой можна займець у падарунак музейны тэлескоп. І Віктар здагадваўся, што падарунак яму зрабілі зусім не таму, што ён меў запрашэнне ў тую секцыю, "дзе ёсць такое, пра што ён нават не ведаў, што яно ў свеце ёсць", а таму, што прывезла яго туды іншапланецянка. Свая.

Ён зацягнуў іншапланецянку ў двор літаратурнага інстытута, у якім тады вучыўся, у падвал дома ў двары, дзе начаваў, падрабляючы качагарам, і дзе яны пілі з бутэлькі, на якой была наклееная самаробная этыкетка "Calvados", таннае, якое піць было немагчыма, яблычнае віно, а пасля ён да раніцы чытаў ёй, бо яна раптам папрасіла, беларускія вершы, і калі прачытаў Купалаў, яна сказала: "Мая маці была з ім блізкая. Настолькі блізкая, што… магчыма…" – "Што?.. Што магчыма?.." – паспрабаваў ён яе, сонную, расштурхаць, а яна з тапчана, на якім спаў ён у качагарцы, слізнула на чорную, усю ў вугальным пыле, падлогу. Ён падумаў, што ёй

проста цесна з ім на тапчане, падняўся: “Кладзіся, я на падлозе лягу”, – але яна ўжо заснула. На баку, імгненна, падабраўшы ногі да жывата.

З гэтага ўсё й пачалося. І паднялося з падвала качагаркі да нумара ў гатэлі “Масква”. А там, тады, прачнуўшыся апоўдні на падлозе ў качагарцы, Ганна дагаварыла тое, з чым апоўначы заснула: “Я, магчыма, ягоная дачка…”

– Ну-ну, – дапіў ён недапіты ўчора, бо яго немагчыма было дапіць, самаробны, куплены на Рагожскім рынку “Calvados”, які з’явіўся і на Рагожскім, і на іншых рынках з кніг Хэмінгуэя, фотапартрэты якога віселі нават на кухнях гандляроў. – А чаму “магчыма”?

– Бо ў той час маці блізкая была…

Яна запнулася, ён спытаў:

– Не з ім адным?

Ганна ўскочыла.

– Дзе тут памыцца? Вада ў тваіх апартаментах ёсць?

– За печчу кран.

Яна пайшла за печ і адтуль, плёхаючы вадой, што цякла з крана ў праіржавелую балейку, сказала: “Са Сталіным, з Берыем…”

Ён нават не падумаў, што яна кажа пра тых, з кім блізкая была яе маці.

– Што са Сталіным з Берыем?

– Тое, пра што ты спытаў…

Ганна выйшла мокрая, кроплі вады між палоскамі не дарэшты змытага вугальнага пылу дыяментамі бліснулі ў сонечных, што раптам коса ўпалі з вакенца пад столлю, промнях – такая дыяментавая зебра.

Яна была трохі старэйшая за яго, але выглядала, як толькі што створаная Ліліт.

– Ты думаеш, што я прыпыленая?

Што ж, калі нават… У літінстытуце ён да такіх ужо звык, нармальныя на аддзяленні паэзіі амаль не сустракаліся. Адна імпульсіўная паэтка, якая, убачыўшы яго з вакна на чацвёртым паверсе літінстытуцкага інтэрната, раптам закрычала: “Хочаш, каб у імя нашага высокага кахання я ўніз скочыла?” – і калі ён абыякава, бо ніякага кахання, ні высокага, ні нізкага не было, кіўнуў: “Скачы, калі хочаш…” – рынулася сторч галавой і жывая засталася, бо ненармальных Бог шкадуе.

Потым яна пра сустрэчу з Ахматавай распавядала. Як прыехала ў санаторый, дзе Ахматава памірала, прачытала ёй вершы. Тая заплакала, абняла яе: “Ты – мая дачка, благаслаўляю цябе на высокае служэнне рускай паэзіі. А мне час”. І ў яе на руках памерла. “Я таму і не забілася, калі з чацвёртага паверха скочыла, бо ў мяне служэнне…”

Ні зебры, ні лані, ні лісы вершы не пішуць і з глузду не едуць. Ён абняў Ганну, зебру: “Я думаю, Ганя, што табе нельга піць самаробны кальвадос”.

Яна пацепнула плячыма так, як пацепвае чалавек, якому ўсё адно, верацьяму ці не, вызвалілася з ягоных абдымкаў, дастала з сумачкі, кінутай учора пад тапчан, залаты медальён, на якім, нібы кропля крыві, чырванеў маленькі рубін: “Вось… Паглядзі…” Падняла вечка – і з медальёна, з партрэта на белай эмалі вочы ў вочы Віктару зірнуў Купала.

– Яна памерла з гэтым медальёнам на грудзях. Казала, што нядоўга, але і Купала яго насіў. З партрэтам Сталіна. Толькі я не зразумела, чаму? Ён жа не быў сталінцам. Проста вершы пісаў…

Так. Проста вершы пісаў.

Віктару было ўсё адно, кім яшчэ быў Купала, апроч таго, што быў паэтам.

І датуль гэта яму ўсё адно было, пакуль адзін былы зэк у запалярным горадзе Нарыльску не сказаў, калі яны пра смерць Купалы загаварылі: "Ён двойчы памёр. Спачатку паэзію пакінуўшы, а пасля – кінуўшы маці. У першыя дні вайны ў Мінску, калі горад ужо гарэў. Жонку ўзяў, транты ўзяў, а маці кінуў! Ты б кінуў сваю?.."

Гэты былы зэк, Грахавец, таксама паэт, меў за спінай 20 лагерных гадоў, у чым вінаваціў усіх – ад Сталіна да Купалы, "якому ў гэты час медалі чаплялі і прэміі выдавалі! За што?!. – гэтак выдыхаў Грахавец, нібы спірту хлебануў. – Дваццаць апошніх гадоў – спрэс сталінскія агіткі! Нібы не ім, іншым чалавекам напісаныя. Але ж гэта ён, не я пісаў!.."

Зразумела было, што ў Грахаўцы крычыць крыўда, але ж і праўда таксама: маці сваю Купала, пакідаючы Мінск, з сабой не ўзяў. Магчыма, яна не хацела ехаць. Куды і па што? Са свайго жыцця, якое ўжо скончалася…

Але магчыма, што і не…

Так ці інакш, але адносіны Віктара да Купалы ўскладніліся. Да праблемы кінутай маці дадалася, – хоць ён гэтага не хацеў, гэта замінала яму чыста чытаць Купалу, чыста любіць яго, – праблема пакінутай паэзіі. Праблема агітак, "дрындушак", як зняважліва пра тое, што напісаў у апошнія гады, а значыць, зневажаючы самога сябе, казаў Купала. Разумеў, што ён піша, і пісаў. Самазневажаючыся. Чаму?.. Страх, грошы, званні, прэміі – усё яно так, усё нібы відавочна. Але чаму?..

Гэтага Віктар не ведаў. Як не ведаў і таго, чаму так важна яму знайсці адказ на гэтае пытанне.

Пад той час ён ужо аб'ездзіў Савецкі Саюз па ягоных найдальніх кутах і закутках, пабачыўшы на Сахаліне і Камчатцы, у Сібіры і на Поўначы такое, пра што ні ў якіх кнігах не прачытаеш, што ніяк не супадала з ягонымі ўяўленнямі пра краіну, у якой ён нарадзіўся і жыў. Праз тое паўзнікала процьма пытанняў, куды важнейшых за літаратурныя, бо гэта былі пытанні жыцця, якія патрабавалі зразумелых, ясных адказаў, але ў той краіне, у якой жыў, у тым свеце, у тым жыцці, якое звярэла наўкол, з грубай сілай варочаючы, як камянямі, чалавечымі лёсамі, ён адказаў не знаходзіў. Тады пачаў шукаць іх у самім сабе: паспрабаваў пісаць. Аказалася, што для яго гэта найлепшы спосаб пошуку. І аднойчы падумаўшы пра літаратуру як пра магчымы занятак жыцця, паехаў з Нарыльска ў Маскву, дзе паступіў у Літаратурны інстытут.

Установа была прэстыжная, на аддзяленне паэзіі набіралі ўсяго дванаццаць чалавек, а ў Савецкім Саюзе кожны пастух і бухгалтар вершы пісалі, так што давялося вытрымаць вялізны конкурс, каб даволі хутка зразумець, што ў інстытуце тым можна было і не вучыцца. Але, калі б не вучыўся, не хадзіў бы ён па кантрамарках, якія выдаваліся студэнтам літінстытута, ва ўсе маскоўскія тэатры, у адным з якіх, тэатры на Таганцы, і пазнаёміўся з паненкай у белай сукенцы з чырвоным поясам, якая назвалася Ганнай і сказала, што яна дачка Купалы. А калі не Купалы, дык дачка ці Берыі, ці Сталіна…

Праз дзесяць гадоў пасля іх знаёмства ў тэатры, Віктар увайшоў у 414-ты нумар гатэля "Масква", дзе сорак гадоў таму дажываў свае апошнія дні Купала, са сталінскім тэлескопам. Паставіў яго каля вакна, глядзеў то на Маскву, то ў неба, якое сцякала пад ноч на захад, тупаў у нумары з кута ў кут і ўсё спрабаваў уявіць сябе на месцы Купалы ў гарачым чэрвені 1942 года, калі яго выклікалі з Казані, дзе ён быў у эвакуацыі, пасялілі ў гэтым гатэлі і нібы забыліся, дзеля чаго выклікалі. 60-годдзе ягонае адзначыць? Дык

чаму пра гэта ніхто ні слова? А вось пра тое, што немцы ў нейкай газеце ў Мінску надрукавалі побач з патрэтам Гітлера ягоныя вершы і назвалі ягоным іменем вуліцу, на якой ён жыў, сказалі...

Гэтую вуліцу ягоным іменем збіраліся назваць яшчэ да вайны. Бальшавікі, не немцы. Але чамусьці перадумалі. І вось цяпер...

Можа, яго прывезлі, каб пакаяўся?..

У Казані ўжо змушалі пакаяцца. Нават напісалі тэкст пакаяння. "Немцы, гэтыя крывавыя дзяблы яшчэ прабуюць прыкідвацца нявіннымі авечкамі і спекуляваць сумленнымі і чыстымі імёнамі! Кажуць нават, што яны вуліцу, па якой я жыў у Мінску, назвалі маім імем…"

Ён не стаў гэты тэкст зачытваць. Тады яму сказалі, што трэба ехаць у Маскву. Для чаго?.. Каб ён тупаў з кута ў кут у гэтым нумары і думаў: калі свае не захацелі вуліцу ягоным іменем назваць, а ворагі назвалі, дык хто ён цяпер для сваіх? У час, калі вайна, калі Мінск пад немцамі, а немцы пад Масквой? І невядома, колькі вайна працягнецца, калі і чым скончыцца?..

Навошта яго выклікалі ў Маскву з Казані?!.

Ніхто ж нічога не кажа! Ніхто нічога!.. Робяць выгляд, нібыта ўсё так і павінна быць. Нібы так і трэба: выклікаць з Казані, пасяліць у гатэлі і забыцца, дзеля чаго выклікалі...

І так з дня ў дзень. З ночы ў ноч. Нехта стукне ў дзверы – ён сцінаецца, баіцца спытаць: хто?.. Бо як да вайны, гэтак і ў вайну ў Маскве арышты, арышты, арышты... Шпіёны, здраднікі, ворагі народа...

У дзверы нумара пастукалі, Ганна ўскінула галаву: "Хто?.." Віктар падышоў да дзвярэй: "Хто там?.." – "Пакаёўка. Вы прасілі кашулю на сёння папрасаваць". – "Прасіў. Але ж не ўночы". – "Дык у вас святло. Падумала: можа, збіраецеся..."

Ён адчыніў дзверы – за імі, адсунуўшы ўбок пакаёўку, паўсталі двое міліцыянтаў. Адзін прайшоў у нумар: "У вашым нумары ў начны час староннія. – І ступіў да Ганны, якая як ляжала, гэтак і засталася голай ляжаць на падлозе. – Дакументы!"

Міліцыянт стаў пры таршэры каля тумбачкі, на якой ляжала чырвонае, з фотакарткай і пячаткай пасведчанне дэлегата XXVI з'езда КПСС. Зірнуўшы на фотакартку, на Віктара, міліцыянт казырнуў: "Выбачайце!" – і спінай выйшаў з нумару, акуратна зачыніўшы дзверы, з-за якіх пачулася: "Ты што!.. Падставіць нас?.."

– Гэта простым савецкім грамадзянам простую савецкую прастытутку нельга мець, – ускінулася на ложак Ганна. – А дэлегату XXVI з'езда КПСС можна мець прастытутку з тэлескопам! – І ўхапіла яго за руку, пацягнула да сябе. – Уф!.. Ну ты й пахнеш... Як цырульнік...

Яна была нястомная ў любові... Неспатольная... А пасля балбатала абы што. Напрыклад, што яе маці ў ложку Леніна кахалася. Не з Леніным, гэтага яна не казала, але ў ягоным ложку. З Купалам. "Магчыма, што ў тым ложку я і была зачатая".

Ленінка.

У іх тут, у Маскве, не толькі ў кожнай акторкі, а ў кожнай гандляркі і цырульніцы была свая тэатральна-літаратурная гісторыя. Абавязкова амурная.

Учора Ганна завяла яго ў цырульню на плошчы Маякоўскага. Цырульня называлася "Агні Масквы", і там школьная сяброўка Ганны шчабятала, нажніцамі чыкаючы: «У гэтай цырульні яшчэ бабуля мая стрыгла, яна каханкай Маякоўскага была, ён у яе пастрыгся, потым пайшоў і застрэліўся... вы бачылі

фота, на якім ён у труне... о, як пастрыжаны!.. ніхто б яго так не пастрыг, як мая бабуля... а маці стрыгла Талстога... не таго, які “Вайна і мір”, а які... забылася, як кніга называецца... кіно яшчэ па ёй глядзела... але таксама, як называецца, забылася... ну, вось і ўсё... глянь, Ганна, які ў цябе прыгажун... хоць у кіно здымай... спадзяюся, не застрэліцца... зараз мы яго яшчэ й асвяжым... “Одеколон “Огни Москвы”, чтобы Москвою пахли вы!..” – гэта Маякоўскі напісаў, пасля яму помнік каля нашай цырульні паставілі...” – і калі Ганна спытала: “За рэкламу адэкалона?” – сяброўка не пачула ў тым ніякага жарту. “Магчыма. А што?..” – “Нічога. Ты выпадкова не помніш, што ён яшчэ напісаў?..” – і яе знаёмая цырульніца Соня сур’ёзна адказала: “Як што?.. Паэму пра Леніна... І нешта там пра савецкі пашпарт...”»

Пра Леніна паэму. І пра савецкі пашпарт нешта.

З цырульні Ганна павезла яго на пахаванне даўняга сябра яе бацькі. “Паехалі. На пахаванні будуць людзі, якія не бываюць нідзе”.

Ён зразумеў, пра што яна сказала, але перапытаў: “Нідзе, апроч пахаванняў?..”

“Ён яшчэ і мой хросны, – як бы не расчула яна не надта ўдалы жарт. – Ніхто пра гэта не ведае, маці ўпотай мяне хрысціла. У Малым саборы Данскога манастыра. Назвала Ганнай, бо ў нашым родзе ўсе жанчыны Ганны”.

Паехалі ў Данскі манастыр. Віктара здзівіла, што там, у Першым маскоўкім крэматорыі, яшчэ гараць печы. Ён чуў, што працуе новы, Мікола-Архангельскі крэматорый, а крэматорый у Данскім манастыры зачынены. “Для ўсіх, – сказала Ганна. – Але не для тых людзей, якія там будуць. Яны могуць, калі захочуць, хоць усе ў тым крэматорыі спаліцца. – І нібы пажартала ў адказ на ягоны няўдалы жарт. – А ты не хочаш?.. У той жа печы, у якой Купалу спалілі”.

Вось праз гэта, мусібыць, і ўбачыўся сон. Праз тое, што яна так сказала...

Прыснілася, нібы ён прыйшоў у крэматорый і сам лёг у печ, у якой спалілі Купалу, і сам жа, неяк аддзяліўшыся ад сябе самога, глядзеў, як ён, паэт Віктар Маргер, а не паэт Янка Купала, згарае. Як спачатку лопнулі вочы, потым праз вачніцы, праз рот, праз вушы пачала выкіпаць кроў, галава адкінулася назад, шво чэрапа разышлося і зеленаватым полымем запаліліся мазгі, і тут нейкая жанчына, не Ганна, іншая нейкая, пачала прасіць, за ягонай спінай стоячы і чамусьці Янкам яго называючы: “Не глядзі, Янка не глядзі...” – і далонькай спрабавала засланіць яму вочы, а ён адводзіў яе руку, не мог адарвацца ад жахлівага, якое магнетычна прыцягвала, відовішча, адхіснуўшыся толькі тады, калі тулава ў печы прыпаднялося, скрыжаваныя рукі раскінуліся, абнялі яго полымем, у якім ён згараў… “Гэй бэн гіном”, – пачуўся аднекуль чыйсьці голас, і з гэтымі словамі ў тым полымі ён прачнуўся...

Пякельна балела ў грудзях, у якіх толькі што згарэла, попелам рассыпалася ягонае сэрца.

– Гэй бэн гіном, – прытуліў ён да грудзей Ганну. – Ты чула такое? Што гэта?

– Чула... У Ерусаліме нешта.

– Скуль ты ведаеш, што ў Ерусаліме?

– Была там. Здаецца, гэта гатэль. Ці...

– Ці што?

– Не помню. Якая розніца, што?

Калі б не сон, не голас, дык ніякай.

– Нейкі ты ўскаламучаны з ранку, – на цырлах прайшла Ганна ў прыбіральню. – А табе сёння, як ніколі, спакойным трэба быць. Як па смерці.

Нібы яна ведае, як яно там – па смерці – бывае.

## III

Усевалад Мяркулаў паліў папяросу за папяросай, у попельніцы ўжо месца не было, попел сыпаўся на стол, на падлогу, а ён паліў і паліў.

Іван Луцэвіч любіў чысціню. Неахайнасць Мяркулава яго раздражняла, але ён не мог сказаць пра тое камісару 2-га ранга, 1-му намесніку наркама дзяржаўнай бяспекі СССР. Калі б ведаў, што ўжо амаль год Мяркулаў – намеснік наркама толькі фармальна, дык, можа, сказаў бы. Але ён не ведаў.

Не мог ён ведаць і пра тое, што амаль год таму наркам Берыя камандзіраваў свайго намесніка Мяркулава ў Куйбышаў. Фармальна – кіраваць эвакуяванай часткай наркамату дзяржбяспекі і кантраляваць працу эвакуяваных заводаў, а насамрэч – саслаў. І Мяркулаў са страхам здагадваўся, за што...

Увосень сорак першага Берыя сказаў яму, што Маскву, хутчэй за ўсё, давядзецца здаць немцам. Як некалі здалі французам. І прапанаваў застацца ў сталіцы, каб стварыць падполле. Мяркулаў адмовіўся. Сказаў, што таварыш Сталін нікому Маскву не здасць, і адмовіўся. А з Куйбышава, узважыўшы тое, што можа быць з ім далей, напісаў таварышу Сталіну ліст. Распавёў пра размову з Берыем увосень 1941 года. І вось учора Берыя выклікаў яго ў Маскву. Доўга размаўляў з ім, распытваў, як яму там, у Куйбышаве, жывецца... "Куеш зброю перамогі? Ну й добра. А то запанікаваў... Помніш, як ты запанікаваў, калі немцы да Масквы падышлі?.."

Так і спытаў: "Помніш, як ты запанікаваў?" Не ён, Берыя, запанікаваў, а Мяркулаў.

Пасля анекдот расказаў. «Выдумляюць, ведаеш, пра мяне і Сталіна анекдоты. Нібы ў Сталіна любімая люлька прапала. І ён пытае: "Лаўрэнцій, хто маю любімую люльку ўкраў? Ніхто не прызнаецца... Разумееш, якая гульня?.. Дык я дзесяць чалавек знайшоў, якія прызналіся. А Сталін знайшоў люльку за канапай. Смешна?..»

Мяркулаў разумеў, якая пачалася гульня, і Берыя бачыў, што Мяркулаў гэта разумее, таму трэба было прыдумаць нейкую важную прычыну, па якой ён свайго намесніка выклікаў. І Берыя сказаў: "Ты ж працаваў перад вайной з беларусамі і палякамі? Таму й адказнае даручэнне табе, Усевалад: арыштаваць Луцкевіча". – "Якога Луцкевіча?" – "Івана Луцкевіча. Купалу, паэта іхняга". – "Дык гэта любы лейтэнант зрабіць можа. Чаму я?.."

Берыя ўсміхнуўся.

– Ну, Купала – паэт, ты – драматург. Каму ж яшчэ?.. – А ўбачыўшы, што намеснік ягоны ўспрыняў усмешку як насмешку, пстрыкнуў пальцамі. – Эх, помніш, як мы ў Грузіі!.. "Шенма сурвілма дамліа..." – заспяваў ён, павёўшы, нібы танцуючы, плячыма, і паклаў руку на цёмна-шэрую, якая адна ляжала пасярод стала, тэчку. – Тут сфера тонкая, Усевалад. Гэты Луцкевіч ужо тры дні ў нябожчыках. Вось дакументы, пачытай. Мы і раней вырашыць гэтую праблему спрабавалі, але неяк... Я б сказаў: неяк нерашуча. А цяпер немцы сімвал барацьбы беларусаў з бальшавікамі зрабіць з яго надумалі. З намі, – падміргнуў грузін Берыя грузіну Мяркулаву, – маскалямі. Ягоным іменем вуліцу ў Мінску назвалі. Нават маюць намер, калі верыць нашай агентуры, вывезці яго з Масквы. Дык чаго яшчэ чакаць? Няма чалавека – няма праблемы. І тры дні таму ў гатэлі, дзе Луцкевіч жыў, ён зляцеў з дзясятага паверху... А пасля ўсяго Сасо раптам сказаў, што патрэбны публічны працэс.

Берыя часцяком, каб падкрэсліць сваё блізкае сяброўства са Сталіным,

называў яго даўняй, яшчэ дзіцячай мянушкай Сасо. Хоць быў маладзейшы за яго на дзесяць гадоў і пазнаёміўся з ім ужо тады, калі ніхто Сталіна так не называў. Ніхто, апроч маці, якая пяць гадоў як памерла.

– Над кім публічны працэс?

– Над гэтым Луцкевічам. Каб паказаць, як мясцовы нацыяналізм зліваецца з фашызмам. Ясна?

Ясна было, што Берыя яго падстаўляе.

– Лаўрэнцій, ён жа мёртвы.

– Хто мёртвы?.. Фашызм?

– Луцкевіч.

– Сасо сказаў, што не. Разумееш?.. А калі таварыш Сталін, – з націскам прамовіў Берыя словы *таварыш Сталін*, – так сказаў, значыць, так і ёсць. Ці ў кожным разе мусіць так быць. І пакуль ты ў Куйбышаве быў, мы ўсялякіх біёлагаў з дактарамі і гэтых... як іх... якія каля Вавілава круціліся... генетыкаў у адну шарашкіну кантору сабралі – і яны нам 1-ю лабараторыю прыдумалі. Ажыўляльнік такі... Твой сябар Кабулаў свайго памочніка кіраваць там паставіў. Здольны аказаўся ягоны памочнік. Такі, ведаеш, вядзьмак... – І зірнуўшы ў недаўменныя вочы намесніка, Берыя дадаў спачувальна. – Так, Сева, гэта ўсё нялёгка зразумець. Але Сталін сказаў, што жывы, значыць, жывы.

Зразумець такое сапраўды было нялёгка. Калі толькі Берыя не вырашыў паздзеквацца. Ці яшчэ адзін анекдот пра сябе і Сталіна прыдумаць. Але не, на такі анекдот ён не асмеліўся б... Хоць дазваляў сабе іншым разам такое, чаго ніхто іншы дазволіць сабе не мог. Неяк Сталін спытаў яго: “Ты, Лаўрэнцій, можа быць, меціш на маё месца?..” – і Берыя зрабіў жартаўлівы выгляд: “А чаму не? Хіба благі той салдат, які марыць стаць генералам?”

Мяркулаў бачыў, якой усмешкай усміхнуўся Сталін. І падумаў, што салдацкага жарту гэтага ён Берыю не забудзе.

– Значыць, таварыш Сталін сказаў, што паэт Купала жывы? – пагартаў Мяркулаў цёмна-шэрую тэчку з дакументамі. – А з гэтых дакументаў вынікае, што мёртвы. Не супадае адно з адным, – падсунуў ён тэчку да Берыі, касавата на яго паглядзеўшы, а той адсунуў паперы назад: “Вось бачыш... А кажаш: любы лейтэнант. Каб лейтэнант мог мёртвага арыштаваць, генералам стаў бы...”

“Праз гэта генерал можа лейтэнантам стаць, – зноў пасунуў тэчку Мяркулаў. – Калі жывы застанецца. Дзе я арыштую яго? На тым свеце?” – а Берыя ўстаў і пад руку павёў яго з кабінета: “Чаму на тым? Яшчэ на гэтым паспееш. На пахаванні. Ён жа не можа на сваім пахаванні не быць... – І ў дзвярах, сунуўшы Мяркулаву тэчку пад паху, Берыя на хвіліну задумаўся. – Хоць не, на пахаванні няёмка. Мы ўсё ж не рускія, грузіны мы з табой. Значыць, трэба раней, бо потым позна будзе, – паглядзеў Берыя на свайго намесніка з той пранізлівасцю, якой працінае вецер, калі пасля бабінага лета замаразкі надыходзяць. – Пахаваюць”.

## 4

На пахаванні хроснага Ганны, даўняга сябра яе бацькі, сабралася ў рытуальнай зале крэматорыя ці не палова партыйна-савецкага кіраўніцтва. Не было Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева, якому не дазволілі на пахаванне пайсці дактары, але астатняга начальства,

у тым ліку членаў і кандыдатаў у члены Палітбюро хапала. Адзін з іх, бацька Ганны, падышоў: “Ты як? Гатовы?..” – і калі Віктар кіўнуў: “Так, Васіль Дзям’янавіч, гатовы…” – той цісакнуў ягонае плячо: “Глядзі, каб усё... – І палец падняў. – Каб усё!”

Яму было ўжо за семдзесят, але рука Васіля Дзям’янавіча Грачына была зусім не слабая. Моцная ў яго была рука.

Упершыню Віктар адчуў яе моц, калі сказаў, што збіраецца пакінуць і літінстытут, і Маскву…

– І Ганну? – перапыніў яго Васіль Дзям’янавіч. – Ты думаеш, я дазволю, каб ты вось так? Каб пакруціў і кінуў?!

– Не змусіце ж вы мяне!

– Змушу!

Віктар ужо ведаў, як і хто змусіў бацьку Ганны ажаніцца з яе маці, таму сказаў: “Але ж вы не Берыя. Тым больш не Сталін. І часы не тыя”.

Грачын гэтак сціснуў яму плячо, што яно хрумснула.

– Не Берыя, але часы тыя самыя. Нават лепшыя. Мае.

Яны сядзелі на лецішчы, куды Васіль Дзям’янавіч прывёз Віктара і дзе ўжо быў накрыты стол: “Давай па-сапраўднаму, як мужыкі, пагаворым. Мне па-сапраўднаму і пагаварыць няма з кім. – І ён ледзь не адным глытком кульнуў шклянку каньяку. – А табе ёсць?..”

У сапраўднай мужчынскай размове высветлілася, што Ганна нічога не прыдумляла. Ну, амаль… «Яна, можа быць, усё ж мая дачка, – казаў, закусваючы, Грачын. – І я без прымусу гатовы быў з яе маці ажаніцца. Ды тая ў рожкі… Яна ж не толькі ў Малым тэатры, але і ў іншым грала. У большым за Вялікі, можна сказаць, мела ролю. І не мела ніякага жадання сысці з той сцэны, выйсці з той ролі на кухню. Так што прымусілі хутчэй яе, чым мяне. І ў ёй гэта сядзела. Свідравала. Яна ў адным ложку са мной спаць не хацела. Клалася каля ложка. “Табе навязалі мяне, як суку. Вось я і буду, як сука…” Між іншым, так і памерла, – поўна наліў другую шклянку і адставіў пустую бутэльку Грачын. – Сталін… Берыя… – Раптам усхліпнуў. – За яе!.. – І спытаў, выпіўшы. Жорстка, нібы і не ўсхліпваў. – Ты чаму ў ЦК камсамола не пайшоў? Я ж дамовіўся, што цябе туды бяруць. І Ганна за цябе Аляксандра Анісімавіча прасіла. Ты хоць разумееш, які гэта трамплін? На якую ты з такога трампліна скочыш сцэну, у якую ролю?..

Віктар разумеў. Таму і вырашыў з’ехаць з Масквы ў Мінск. Але пасля размовы з Грачыным ён усё ж схадзіў у ЦК камсамола, дзе яму прапанавалі месца намесніка загадчыка аддзела. І калі ён сказаў, што падумае, папстрыкалі пальцамі: “Думайце, толькі хутчэй. Бо на гэтае месца…”

Віктар не думаў доўга. У той жа дзень забраў у камсамольскім выдавецтве, дзе галоўны рэдактар назваў яго прыдуркам, падрыхтаваны да друку рукапіс сваёй кнігі, зайшоў у інстытут і напісаў заяву рэктару: “Прашу адлічыць мяне, прыдурка…”

– Ты можаш патлумачыць прычыну? – пытаў рэктар. – У цябе ўсё складваецца, як мала ў каго. Ды ні ў каго болей так не складваецца! Я дзесяць гадоў упіраўся, каб займець тое, што ты займеў за год. Можаш ты патлумачыць?..

– Не.

– Чаму?

– Бо не магу. Цяпер не магу.

– А калі зможаш?

– Калі сам зразумею.

– А зараз не разумееш?

– Не. Проста адчуваю.

– Што?

– Што Енісей не для мяне.

– Пры чым тут Енісей?

– Тры гады таму я з Краснаярска да Ігаркі па Енісеі плыў. Лета, прыгожа. Велічная рака. Тайга, скалы па берагах. Груваздзяцца адна на адну. І дзіўна так: як бы й наглядзецца не магу – і не па сабе мне. Цісне. Гэткая веліч, моц прыроды, што наш цеплаходзік з баржай… Ну, цацкі, у якія гуляе Енісей. І я таксама цацка. Пагаварыў пра гэта з капітанам, той сказаў: "Енісей не вінаваты, што ён не для цябе".

Рэктар не падпісаў заяву. Парваў, буркнуўшы: "Енісей не для яго… У Маскве рака Масква…"

Але гэта нічога не мяняла. Віктар купіў квіток на цягнік у Мінск.

На вакзале яго праводзіў Алег Шкляр, якому ён таксама распавёў пра Енісей. Шкляр быў старэйшы за яго, з'ехаў з Мінска ў Маскву раней. Пісаў па-руску і здолеў воўкам угрызціся ў маскоўскае мяса. Дапамог талент, але і сіла, каб угрызціся, патрэбная была немалая – і Шкляр яе меў. Таму і стаў магілёўскі паваенны падшыванец адным з лепшых рускіх паэтаў. Цяпер ён бегаў па пероне, размахваў шведскім спінінгам, купленым за рубель у нейкага мужыка, якому не хапала таго рубля на гарэлку, і крычаў: "Ты ідыёт! Паэтаў ствараюць імперыі! Іх сталіцы, а не правінцыі! Усе пруцца адтуль сюды! А ты назад?!. – І маленькі, пругкі, як тэнісны мячык, Алег падскокваў да пасажыраў. – Ну скажыце вы яму, што ён ідыёт!.."

Нейкая жанчына пазнала Шкляра: "Для вас – што заўгодна!" – і падышла да Віктара: "Вы – ідыёт!"

"Я не хачу ўгрызацца ў маскоўскае мяса. Яно з крывёй", – казаў Віктар на развітанне Шкляру. Гэта была фраза, і Шкляр разумеў, што гэта проста прыдуманая фраза, але ўхапіўся за яе: "Паэт і павінен рваць жывое мяса і піць жывую кроў! А не жэрці дзярмо і піць сцулі, размазваючы прывінцыйныя соплі! Як Купала размазваў! Жыў у Піцеры, у Маскве! Мог стаць…" – "Кім?.. З Купалы мог Купаловым стаць? Што б ён рабіў, стаўшы Купаловым?.." – "А ты што робіш?.. Што ты робіш, калі, кідаючы Маскву, яшчэ і рукапіс кнігі з выдавецтва забіраеш, надумаўшы, што твая першая кніга не можа быць рускай! Ды хоць якой яна можа быць, калі цябе выдаюць адразу, а ўсе астатнія па дзесяць гадоў у чарзе стаяць! І не чакай, што ў Мінску цябе па-беларуску адразу выдадуць! Думаеш, там табе ўзрадуюцца?.. Адпіхваць пачнуць! Прыпёрся з Масквы – у Маскву і вяртайся! Там і выдавайся, маскаль!.. Я праз гэта праходзіў і кажу табе: не едзь! Плюхнешся ў тое балота – не выберашся!.. – І ўжо калі Віктар скочыў у тамбур, Шкляр бег за вагонам, махаў спінінгам: "Ты не ад Масквы адмаўляешся! Ты адмаўляешся ад велічы Енісея! Ад лёсу! Ад сапраўднага жыцця! Ну ў каго ты ў Мінску сапраўдны спінінг за рубель купіш? Ні ў каго! І за сто рублёў, і за тысячу! Там і няма нікога, у каго сапраўдны шведскі спінінг ёсць! Там толькі вуды самаробныя з паплаўкамі з коркаў!.."

Шкляр ведаў, што крычаў. Ні з кнігай, у выдавецкай рэцэнзіі на якую яго звінавацілі ў веры ў Бога, ні з працай у Мінску нічога не выходзіла. Год, другі, трэці… І аднойчы Віктар купіў квіток на маскоўскі цягнік. Але па дарозе на вакзал яму сустрэўся яшчэ адзін старэйшы сябар, Рыгор Барада. Ён не стаў угаворваць яго не ехаць. "Пайшлі, – сказаў, – хоць развітаемся па-людску". Яны селі ў рэстаране, каб развітацца – і прапілі Маскву.

“Я не пытаю, чаму ты зноў туды сабраўся. Разумею. Але чаму ты з’ехаў адтуль?” – пытаў Барада. – “Бо я беларускі паэт. Беларускі, а не рускі”. – “Кінь. Не падымай пыл. Беларускім паэтам можна і ў Маскве быць. А ў Мінску – рускім. Вунь як Шкляр”. – “Што, як Шкляр?” – “Ён у Мінску быў рускім паэтам. І ў Магілёве”. – “Дык ён і ў Маскве рускі”. – “Ну, правільна”. – “Што правільна?..”

Пасля другой пляшкі гарэлкі ўсё было правільна. І тое, што ў Мінску, і што ў Маскве. І ў той жа час няправільна. Бо немагчыма жыць у прымаках – няхай нават асобна і няхай нават ты не прымак. Калі табе нават кажуць, што ты – як сын. А ты не хочаш быць не толькі прымаком, але і сынам. Сынам нават больш не хочаш быць, бо тады ў цябе бацька… Грачын. Увогуле ён нічога мужык, але надта доўга ў вялікіх начальніках – і прывык, каб раз сказаў і два не паўтараў. І праціскае ў начальнікі зяця. Ну, які, як сын, а не зяць, бо з дачкой таго мужыка не ажаніўся. І ён не настойвае… Добра, што не настойвае. Хоць гэта добра. А таго, што не ўсе ў начальнікі могуць хацець, проста не разумее. “Ты не хочаш у ЦК? Як гэта?..” І суне ў той ЦК, як у… Яшчэ добра, што дачка разумее. “Едзь ты, – кажа, – адсюль. Енісей не для цябе”. Ну, ягоная дачка… Ці не ягоная, хто яго ведае. Можа, Сталіна дачка, ці Берыі… Ці Купалы…

“Чыя?.. – нічога не разумеючы з п’янай споведзі Віктара, пытаў Барада. – І пры чым тут Енісей?..”

Барада працаваў рэдактарам у выдавецтве. Праз дзень ён патэлефанаваў: «Я папрасіў Пімена паглядзець рукапіс тваёй кнігі. Ён прачытаў і напісаў рэцэнзію. Яна кароткая: “Калі якія-небудзь кнігі і выдаваць, дык гэтакія”. Так што як хочаш: ці ў Маскву едзь з рускай кнігай, ці прыходзь у выдавецтва падпісваць дамову на беларускую».

Пімен быў народным паэтам, што ў тыя часы мела вагу. Пераважыць яго было цяжка. Кніга выйшла, і Віктар застаўся ў Мінску.

Не раз пасля, калі пра яго пісалі, што ён хоць і беларус, але рускі, што ён “выпадае з кантэксту беларускай паэзіі”, калі даставала правінцыйная валтузня, Віктар згадваў Бараду, Пімена… Вось для чаго яны тады выйшлі на ягоную дарогу? Перанялі на ёй… Каб ён лавіў рыбу на самаробную вуду?

У Маскве пра яго не забыліся – беларускую кнігу адзначылі ўсесаюзнай камсамольскай прэміяй. Барада сказаў: “Каб паказаць, дзе пернікі смачнейшыя”. А пасля з Масквы, з ЦК камсамола патэлефанавалі: “Перад з’ездам партыі мы збіраем нашых лаўрэатаў. Ты знойдзеш час, каб прыехаць да нас?”

Не знайсці часу нельга было. Лаўрэат.

– Не бяры гэтую прэмію, – казаў яму Бычык, пісьменнік, адносінамі з якім ён даражыў і да якога прыйшоў параіцца, што рабіць? – Лепш адмовіцца. Тут пытанне маралі…

Віктар слухаў і думаў: “А ты чаму браў?.. І дзяржаўную прэмію, і ленінскую, і зорку героя?..” Ён не сказаў гэта Бычыку, але той угадаў. “Ты, мусіць, думаеш, чаму я не адмаўляўся?..” І калі Віктар кіўнуў, спытаў: “Чаго ты ў такім разе да мяне прыйшоў? Каб потым сказаць, што са мной раіўся?..”

І зноў ён угадаў.

“У мяне жытла свайго няма, – развітаўся з Бычыкам Віктар. – Туляюся па чужых кутах, па наёмных каморах. А вы мне пра мараль”. І Бычык сказаў: “Што ж, вырашай сам. Табе жыць”.

Так. Яму жыць. Таму ён і не адмовіўся ад прэміі. Бо збіраўся жыць, а не адмаўляцца. Наадмаўляўся, досыць.

Зрэшты, невядома, ці была б тая прэмія, калі б не Ганна. Гады чатыры ні гуку, а тут тэлефануе – і нібы ўчора бачыліся: “Ты на святкаванне 100-годдзя вызвалення Балгарыі ад ярма Асманскай імперыі хочаш паехаць?”

Калі збіраюцца жыць, не адмаўляюцца ні ад якіх святаў. Нават ад ярэмных. Ён сказаў Ганне, што хоча яе бачыць, і яго ўключылі ў склад афіцыйнай дэлегацыі для паездкі ў Народную Рэспубліку Балгарыя на свята вызвалення.

Святкавалі на Шыпцы.

Гара, якую сто гадоў таму рускія з балгарамі спачатку адваявалі ў туркаў, а потым ад туркаў баранілі яе, да самай вяршыні была засыпаная людзьмі. І адным з тых, хто павінен быў прамаўляць да іх з гары, быў паэт Вірсаў. Заслужаны. Афіцыйны. Але калі даехалі да гары, ён быў глыбока ў нізіне. Не здолеў выйсці з машыны, на нагах стаяць не мог. Па дарозе ад Сафіі да Шыпкі ў кожным паселішчы сустракалі “рускіх братушак” музыкай і ракіяй, і ў кожным паселішчы Вірсаў чытаў верш “Шыпка” і выпіваў “за крэўнае, вечнае славянскае братэрства”, спачатку яшчэ думаючы пра магчымыя наступствы, а пасля ўжо і не…

За чвэрць гадзіны да святочнай дзеі да Віктара падбегла задыханая, не звыклая па гарах бегаць Ганна: “Пішы верш. Я дамовілася, што замест Вірсава выступіш ты”.

Пісаць не было калі. Ва ўрадавай ложы ўжо занялі свае месцы, пад руку падняўшыся ў яе, Генеральны сакратар ЦК КПСС, герой Савецкага Саюза і герой Балгарыі таварыш Брэжнеў і Першы сакратар ЦК Балгарскай камуністычнай партыі, герой Балгарыі і герой Савецкага Саюза таварыш Жыўкаў. Віктар яшчэ сутаргава ўспамінаў, шукаў у памяці тое, што магло б прыдацца да сённяшняй дзеі, калі да яго падышоў рэжысёр свята: «Я праняведу вас да Арлінага гнязда… – і падвёў да сцэны на вяршыні скалы, якая называлася Арліным гняздом. – Як толькі пачуеце сваё імя, калі ласка, вось па гэтых прыступках да цэнтральнага мікрафона…»

Вечарэла. Па схілах Шыпкі, разрэзанай промнямі пражэктараў, ярчэй і ярчэй рассыпаліся агні. Яны калыхаліся ў руках сотняў тысяч людзей, твары якіх паблізу яшчэ можна было разгледзець, а далей – толькі калыханне, толькі ціхі гул над горнымі хвалямі чалавечага мора… “Паэт Віктар Маргер!..” – прагучала, рэхам азвалася недзе ў горных вышынях, і ён падняўся да мікрафона. “Ху-гу, ху-гу, ху-гу…” – дыхала ў мікрафоне, і Віктар, да апошняга імгнення не ведаючы, якія словы прамовіць, выдыхнуў у мікрафон, у прамяні пражэктараў, у агні на гары і ў змяркальнае неба над імі беларускія вершы. І не таму беларускія, што вершаў, напісаных у Маскве па-руску, не ўспомніў. Проста так выдыхнулася.

Змоўк – цішыня. Толькі “ху-гу, ху-гу, ху-гу” ў мікрафоне. Ён павярнуўся, падышоў у гэтай страшнай, пагрозлівай цішыні да сходаў, да пяці прыступак, па якіх падымаўся на мыліцах чалавек у вайсковым кіцелі, увешаны ўзнагародамі ветэран, які заспяшаўся, бо ўжо выгукнулі ягонае імя – і адна мыліца саслізнула з прыступкі. Віктар падаўся ўперад, укленчыў, каб падхапіць мыліцу, не даць ветэрану ўпасці, а выйшла, ва ўсякім разе знізу глядзелася так, як потым Ганна казала, нібы ён стаў перад ветэранам на калені, пацалаваў ягоную мыліцу, і тут жа, раптам ажыўшы пасля жахлівай цішыні, гара выдыхнула: “Гух!” – і рэха авацыі пракацілася па яе агністых схілах і ўзнялося ў змяркальныя нябёсы.

– Калі пачула, што ты чытаеш па-беларуску, падумала, што лепш бы ты п’яны быў, – казала ўжо на іншай гары, на Вітошы пад Сафіяй, дзе назаўтра

таварыш Жыўкаў даваў абед у гонар таварыша Брэжнева, Ганна. І смяялася. – Але Брэжнеў вырашыў, што ты чытаеш па-балгарску, а Жыўкаў, што не так добра ведае рускую мову… Вось Людміла можа пацвердзіць.

Людміла, дачка Жыўкава і сяброўка Ганны, пацвердзіла, што так, бацька вырашыў, што рускую мову ведае не надта – і на абедзе Віктара ўзнагародзілі медалём “100 год вызвалення Балгарыі ад асманскага рабства”.

– Ты нават не ўяўляеш, на якую ўзняўся гару! Што ты зрабіў для нашага... для савецка-балгарскага братэрства!.. – віншаваў яго выпіты, размяклы, усім задаволены Брэжнеў, якому Жыўкаў яшчэ на Шыпцы ўручыў такі самы медаль. – Ды за гэта… – аблапаў ён Віктара, а паміж імі ўкруціўся неяк, хоць нібы й дзірачкі не было, каб укруціцца, Посух: “Мы яго на прэмію вылучылі, Леанід Ільіч…”

Пра “асманскі медаль”, займеты ў кампаніі з Брэжневым, Віктар, каб не падначвалі, нікому не казаў, але Бычык, у якога якраз тады ў Балгарыі кніга выйшла, ад перакладчыка дазнаўся і спытаў: “Бярэш усё?..”

– Ты думаеш, я проста так напіўся? Не разумеючы, што раблю? – прызнаваўся Віктару, калі з Сафіі ў Маскву ляцелі і ў самалёце выпівалі, Вірсаў. – Дачка Грачына сказала, каб я табе саступіў. Маўляў, бацька прасіў. У гэта я не паверыў, Грачыну не да такіх дробязяў, але падумаў, што калі не саступлю, дык яно мне дарага абыйсціся можа. І вырашыў саступіць. А як?.. Сказаць, што ты маладзейшы, і глядзецца будзеш лепей? Ці што чытаеш лепш, што вершы ў цябе лепшыя?.. Вось я і скарыстаўся гасціннасцю балгарскага народа.

– Гэта праўда? – тузануў Віктар за плечы Ганну, калі з аэрапорта прыехалі да яе на Кацельніцкую, а яна скінула ягоныя рукі і сказала, што не. Што Вірсаў гэта прыдумаў. “Трэба ж п’янтосу апраўдацца нечым”, – абыякава пракінула Ганна, і ён ёй паверыў, бо лепш было паверыць ёй, чым Вірсаву.

У кватэры Ганны, дзе пяць гадоў не быў, ён убачыў экспандэр, гантэлі, гіру… Мужчынскія забаўкі. “Так, – сказала яна. – Пажыла пару гадоў з адным касманаўтам. Але ж ты таксама ажаніўся. І давай болей не будзем пра гэта”.

Ён пра гэта і не хацеў. І не таму, што таксама ажаніўся. Проста Ганна не была створаная для такіх размоў. І калі ўночы яна сказала, што хацела б ад яго дзіця, ён здзівіўся: “Ты?.. Дзіця?..”

Прагучала яно не надта далікатна, але яна не пакрыўдзілася. “Так. Толькі ў мяне праблема. Я і з касманаўтам таму… Думала, калі яго ў касманаўты выбралі, дык здароўе такое, што… Але аказалася, што гэта ў мяне. І зрабіць нічога не могуць. Я і ў Балгарыі паказвалася. Прызналася Людміле. А яна сказала, што ў Індыі лекарка ёсць. Ёй дапамагла… – І Ганна прыўзнялася над ім. – Паедзеш са мной? Будзеш мець дзіця ад дачкі Купалы, калі ад дачкі Грачына не хочаш…”

## V

Пра тое, чаму рускім можна, а грузінам арыштоўваць нябожчыкаў на пахаванні нельга, камісар Мяркулаў, у якога маці была грузінка, а бацька рускі, пытацца ў Берыі не стаў. Яго займала іншае: ці дазнаўся Берыя пра ягоны ліст Сталіну? А калі дазнаўся, то як? Нехта данёс, ці Сталін сам сказаў? Калі першае, дык яшчэ ёсць шанец. А калі другое...

Не было каго спытаць, не было з кім параіцца! Пустэча вакол – а столькі наўкол народу!..

“І ўсе сябры... Тут, на Лубянцы. Там, цераз Лубянку, у Малым тэатры. І ў Вялікім... Недзе ў Тыфлісе, Петраградзе, Арэнбургу, Новачаркаску, Роўне, Орску... Паўсюль, дзе ён быў, служыў. Скрозь – і нідзе. Побач нікога, апроч мёртвых... – паліў ён папяросу за папяросай, гледзячы на элегантна апранутага ў файны гарнітур беларускага паэта. – Дзе яны там, у той Беларусі, такія касцюмы бяруць? У немцаў?..”

Камісар быў у Беларусі два гады таму. Вясной 1940-га, калі яго прызначылі кіраўніком “тройкі” НКУС, якая пастанавіла расстраляць больш як 20 тысяч беларусаў і палякаў. І ён прыехаў пракантраляваць, як ідуць расстрэлы...

Расстрэлы ішлі нармальна.

А вось з гэтым Луцкевічам не ўсё нармальна йшло. І ўжо даўно не нармальна. З дакументаў вынікала, што рашэнні па ім прымаліся тройчы, але кожны раз нешта замінала давесці справу да канца. Нават цяпер, калі да справы падшыты дакумент пра ягоную смерць.

– Ніяк мы з вамі да канца не можам дайсці, – сказаў камісар, зноў прыпальваючы. – Давайце вернемся да пачатку. Калі вы апошні раз бачылі сябе жывым?

– Апошні раз жывым я бачыў сябе ўвечары 28 чэрвеня 1942 года.

– Што вы рабілі ў той вечар?

– Быў у гасцях.

– У каго?

– У сяброў.

– У якіх сяброў?

– Літаратараў.

– Якіх літаратараў?

– Нашых.

– Што значыць: нашых?

– Беларускіх.

– Вы лічыце іх сябрамі?

– Лічу. А кім мне іх лічыць?

Камісар у каторы раз затушыў дапаленую папяросу і запаліў новую.

– Тут пытанні задаю я. Вы лічыце іх сябрамі?

– Лічу.

– Усіх?

– Усіх.

– І Качарыгу?

– І Качарыгу. Чаму мне вылучаць яго з астатніх?

– Пытанні тут я задаю. Качарыга таксама ваш сябар?

– Таксама.

– Але ж ён скінуў вас у лесвічны пралёт.

– Хіба?

– Я вам кажу: скінуў. Хоць і не наўпрост. Вобразна кажучы.

– Як?

– Вобразна. Ён данёс на вас, разумееце? Напісаў, што вы сцяг беларускіх нацыяналістаў, што сцяг гэты ўздымаюць фашысты, што...

Камісар хацеў яшчэ сказаць, што па данясеннях мінскай агентуры немцы маюць намер вывезці “сцяг нацыяналістаў” з Масквы, але ў апошні момант падумаў, што ведаць пра гэта Купалу не трэба. Незалежна ад таго, ці стаіць нешта за данясеннямі з Мінску, ці гэта чуткі, ці наўмысна запушчаная дэза, каб падштурхнуць Берыю прыняць тое рашэнне, якое ён прыняў.

– Дык што з вамі рабіць? – спытаў камісар. – Калі вайна... Я вам кажу пра гэта, бо вы нябожчык, не перакажаце. Жывому не сказаў бы, мы сваіх не здаём.

Арыштант памаўчаў, пацёр чыста паголенае падбароддзе. “Там чыста голяць, – падумаў Мяркулаў. – Трэба дазнацца, хто цырульнік? Да сябе ўзяць, калі браць будзе куды...” І перапытаў:

– Вы разумееце, што ўсё, што сталася з вамі, сталася праз ягоны данос?

Арыштант паклаў рукі на стол. Акуратна, далонямі ўніз.

– Разумею. Чаго тут не разумець? Што Качарыга ваш, я і жывы ведаў.

– І тым не менш лічылі яго сябрам?

– Лічыў. Але гэта не азначае, што ён мой сябар.

– Як гэта?

– Так.

– Як так?

– Так, што ў мяне няма сяброў. Хоць лічыцца, што ёсць. А ў вас ёсць сябры?

– Тут я пытаюся.

– Прабачце. Я проста падумаў, што ў вас, як і ў мяне, не можа быць сяброў.

– Чаму?

– Бо ў вас ёсць магчымасць ці пакідаць ім жыццё, ці пазбаўляць іх жыцця. Людзі надта ад вас залежаць. Сяброў у такіх выпадках...

Камісар перапыніў арыштанта, спытаўшы хутка:

– Хіба і ў вас ёсць такая магчымасць? Пакідаць некаму жыццё, ці пазбаўляць жыцця?

– Не.

– Чаму ў такім разе вы нас параўналі? Сябе са мной?

– Бо ад мяне залежыць, як будуць пра людзей думаць тады, калі іх не стане. Добра. Блага. Пра тых, зразумела, з кім я сутыкаўся.

Камісар ужо дастаў з пачка новую папяросу, але не запаліў – рука ягоная завісла над сталом перад тварам арыштанта.

– І пра мяне?

Арыштант не чакаў такога пытання.

– А што пра вас думаць?..

– Як гэта: што? Вы ж вырашаеце: добра ці блага?

– Так, але...

Мяркулаў нахіліўся над сталом бліжэй да арыштанта:

– Але вам пра мяне нават падумаць няма чаго?

– Бадай што... – паспрабаваў адсунуцца арыштант, але зэдаль, на якім ён сядзеў, быў прыкручаны да падлогі, і камісар ударыў. З носа арыштанта лінула кроў, а з раструшчанай папяроснай гільзы сыпануў тытунь.

Мяркулава здзівіла, што столькі крыві. На трэці дзень па смерці...

Адна актрыса Малога тэатра, з якой быў у яго маленькі раман і якую пасяліў ён у “берыеўскім” доме на Кацельніцкай, неяк сказала, прыдыхаючы, яны ўсе ў Малым тэатры прыдыхаюць: “У вас, Усевалад Мікалаевіч, адчуваецца кроў...”

Так, кроў адчуваецца.

– Цяпер ёсць што пра мяне падумаць?.. – спытаў ён, падзьмуўшы на кулак, на сярэднім пальцы якога задралася на костачцы скурка. – Вы ведалі, што немцы вашым іменем назвалі вуліцу ў Мінску?

Арыштант дастаў карычневую з чырвонымі кантамі насоўку, закінуў галаву назад... Прагаварыў цераз насоўку:

– Нядаўна я ў адной актрысы на Кацельніцкай гасцяваў. Яна сказала, што вы шляхціч. І пішаце п’есы.

Мяркулаў зірнуў насцярожана.

– Вы гэта да чаго?

– Ды так... Адчуваецца, што шляхціч. І што п’есы пішаце.

– Як адчуваецца? – аблізаў камісар збітую скурку на пальцы. – Калі вы ў лесвічны пралёт... Насмерць.

Арыштант адняў насоўку.

– Таварыш Сталін сказаў, што я жывы. Ці вы не згодны?

Гэта было так нечакана, што камісар разгубіўся. На момант, але разгубіўся – нават тытунь са стала на калені змахнуў...

Скуль гэты нябожчык ведае, што Сталін сказаў? Калі ён, камісар Мяркулаў, сам пра тое толькі сёння ўраніцы дазнаўся?

– Я згодны з усім, што кажа таварыш Сталін. Але лепш бы вам памерці. Вы не ўяўляце, што вас чакае, – трыма рэзкімі рухамі строс камісар тытунь з каленяў, кінуўшы пранізлівы позірк на арыштанта, які памаўчаў і сказаў: “Дык і вы не ўяўляеце”.

Пра тое, што пасля смерці Сталіна яго расстраляюць разам з Берыем як ворагаў народа, камісар Мяркулаў, вядома, і падумаць не мог. Дый не да таго было. Ён думаў і думаў пра адно: што рабіць? Як ратавацца? Калі Берыя ўзяўся за яго, дык хто можа дапамагчы? Ніхто, апроч...

Выходзіла, што ніхто, апроч Сталіна. Але для гэтага трэба з ім спаткацца. А каб спаткацца, трэба патэлефанаваць. А каб патэлефанаваць, трэба мець прычыну. Важкую, бо інакш... Бо інакш скажа, як генералу Ваннікаву: “Вы тэлефануеце мне, бо не ведаеце, чым заняцца? Я знайду народнаму камісару ўзбраенняў занятак...” І назаўтра Мяркулаў дапытваў генерала Ваннікава, які, аказалася, уваходзіў у падпольны антысавецкі ўрад, створаны нямецкай выведкай па прапанове Гімлера.

– Не падумайце нешта благое, мне проста цікава, пра што вы з ім гаварылі? – чамусьці сцішана, нібы баючыся, што іх падслухоўваюць, спытаў арыштант, і камісар, забыўшыся, што гэты Луцкевіч не адказаў яшчэ на пытанне пра тое, ці ведаў ён, што ягоным імем немцы ў Мінску вуліцу назвалі, ускінуў галаву: “З кім?..” І тут жа зразумеў, пра што арыштант пытае. Яму цікава, якія размовы мог весці першы намеснік наркама НКУС Мяркулаў з кіраўніком гестапа рэйхсфюрэрам Гімлерам? Перад вайной, позняй восенню 1940 года ў Берліне. На сняданку, які міністр замежных спраў СССР Молатаў даў у гонар міністра замежных спраў Нямеччыны Рыбентропа...

– Дамаўляліся пра сустрэчу таварыша Сталіна з Гітлерам? – дапытаў Купала, і па спіне камісара прабег халадок.

Скуль гэты Луцкевіч пра тое ведае? Берыя яму сказаў?.. Тады гэта зусім не гісторыя з беларускім паэтам, якога скінулі ў лесвічны пралёт. Што ж тады гэта?..

– Давайце яшчэ раз спачатку, – выпрастаў пахаладзелую спіну сутулаваты камісар. – Калі і з кім вы апошнім часам сустракаліся, пра што размаўлялі?

Купала не адчуваў часу ранейшага ці пазнейшага, таму спытаў: “Якім апошнім часам?” – і калі камісар удакладніў: “Гэтымі днямі”, – адказаў, задуменна на камісара гледзячы: “З Ісусам”.

– З кім?
– З Ісусам Хрыстом.
Мяркулаў помніў тое, што сказаў яму Берыя: чалавека, які гэтымі днямі размаўляў з Хрыстом, ажывілі дзеля публічнага працэсу, каб паказаць, як мясцовы нацыяналізм зліваецца з фашызмам. Пры старанні можна было б, вядома, звязаць нацыяналізм з фашызмам і праз Хрыста, але Мяркулаў быў усё ж не дубаломным лубянскім следчым, а намеснікам наркама ўнутраных спраў, таму пацікавіўся выключна дзеля інтарэсу:
– Пра што была размова?
– Пра няспраўджаныя спадзяванні. Ён сказаў, што яны бываюць не толькі ў людзей, але і ў Бога.
Нечакана для яго самога Мяркулава гэта зацікавіла.
– Так-так, – крутнуў ён запальнічку на стале. – І на што ж не спраўдзіліся вашы надзеі? На вашу Беларусь?.. На цуд?.. На вашых тутэйшых?
Арыштант маўчаў. І па выглядзе ягоным відаць было, што не надта хацеў адказваць.
– Вы сказалі яму, на што спадзяваліся?.. – перапытаў камісар, раптам адчуўшы, што тут можна за нешта зачапіцца, але арыштант пахітаў галавой: “Не. Я з Ім не гаварыў. Толькі Ён са мной”.
– Вы размаўлялі, не размаўляючы? Як гэта?
– Проста. Ён казаў – я слухаў.
– А калі б гаварылі, сказалі б?
– Не.
– Чаму? Хіба надзеі вашы такія, пра якія сказаць нельга?
– Не.
– Чаму ж тады?
– Бо яны не спраўдзіліся.
Мяркулаў ад пачатку бачыў, што размова з гэтым чалавекам будзе не простай. Таму дарма ён дазволіў сабе адхіліцца на староннее ў ёй. На тэалагічную гутарку. Але ўсё ж не стрываў, каб не спытаць:
– А на што не спраўдзіліся надзеі Хрыста?
Арыштант паглядзеў на камісара, нібы ўзважваючы, ці адказваць. Узважыўшы, адказаў так, як адказваюць, калі некаму ў нечым моцна спачуваюць.
– Як я зразумеў, на Страшны суд... На ўваскрашэнне з мёртвых...
Мяркулаў Хрысту не паспачуваў.
– Не выйшла ў Бога! А ў нас выйшла! І тое, і другое!.. – пляснуў ён па цёмна-зялёнай тэчцы, як кропку ў тэалагічнай размове паставіў, і выглядала, быццам ён задаволены тым, што прароцтвы Хрыста не спраўдзіліся: на ўваскрашэнне пасля Страшнага суда камісар, пэўна, не разлічваў. – Дык ведалі вы, – разгарнуў ён тэчку, – што немцы ў Мінску назвалі вуліцу вашым іменем? Ці не ведалі?
Такога рэзкага развароту ў размове арыштант не чакаў. Напружыўся, торгнуў скуламі. Адной, другой...
– Не. Я ў Казані быў, скуль мне было ведаць, што ў Мінску немцы робяць?
“Скуламі ён торгаць будзе... Зараз ты ў мяне паторгаешся,” – вырашыў пачаць сапраўдны допыт камісар і ўзяў паперыну з тэчкі.
– Значыць, не ведалі... А вось тут напісана: “Немцы, гэтыя крывавыя дзяблы яшчэ прабуюць прыкідвацца нявіннымі авечкамі і спекуля-

ваць сумленнымі і чыстымі імёнамі! Кажуць нават, што яны вуліцу, на якой я жыў у Мінску, назвалі маім імем". Напісана і скрэслена. Вамі скрэслена?

– Мной.

– А кім напісана?

– Сакратаром ЦК таварышам Гарбуновым.

– Для чаго?

– Для дакладу.

– Якога дакладу?

– Які сакратар ЦК таварыш Гарбуноў напісаў для мяне, каб я прачытаў яго на сесіі Акадэміі навук Беларускай ССР.

– У Казані?

– У Казані.

– Дзе вы не ведалі, што немцы робяць у Мінску?

– Так. Дзе я не ведаў, што робяць у Мінску немцы.

"Вось цяпер самы момант спытаць, скуль і што ён ведае пра Берлін?" – мільгнула ў галаве камісара, і ён спытаў, рэзка наперад падаўшыся:

– Вы не ведалі, што робяць немцы ў Мінску, але вам вядома, што намеснік наркама ўнутраных спраў рабіў у Берліне? Адкуль?

Ягонае пытанне ніколькі Купалу не збянтэжыла.

– Нічога я тады не ведаў. Гэта цяпер я ўсё ведаю. Не ведаю толькі, адкуль? І навошта?

Відаць было, што арыштант не хітруе. Не прыкідваецца. І яшчэ было відаць, што пра тое, што ведае, ён нікому не збіраецца распавядаць. Таму камісар, паспакайнеўшы, вярнуўся з Берліна ў Казань.

– Але ж сакратар ЦК таварыш Гарбуноў напісаў вам, што немцы робяць у Мінску. А вы тое, што напісаў сакратар Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, скрэслілі! Выкінулі! Так?

– Так.

– Чаму? Бо не згодны з нацыянальнай палітыкай партыі?

Мяркулаў часта карыстаўся такім прыёмам: знянацку задаць пытанне, якога, зыходзячы са зместу размовы, чалавек ніяк не чакае. І апошняе пытанне відавочна было для арыштанта больш нечаканае, чым папярэдняе. Яно, здавалася, прыгорбіла яго, і хвіліну ён сядзеў моўчкі, нібы нешта ўспамінаючы. Пасля, выпрастаўшыся на зэдлі, прагаварыў – і толькі глухі б не пачуў і сляпы не ўбачыў бы, як яно нялёгка яму далося:

– Так, я не згодны з нацыянальнай палітыкай партыі...

– Што? – маланкава зыркнуў на яго камісар, дастаючы з тэчкі кнігу, якая ляжала ўнізе пад паперамі, і арыштант сказаў цвярдзей, нібы пасмялеўшы:

– ...але гэта цяпер я магу сказаць, што не згодны, а раней...

Камісар кінуў кнігу і рэзка адчыніў шуфлядку стала.

– Наце! – падаў ён чысты аркуш паперы, паклаўшы яго, каб лепей пісалася, на тэчку, якую пасунуў да Купалы. – Напішыце тое, што сказалі.

– ...а раней не мог, бо баяўся, што заб'юць, ды вось усё адно забілі, хоць маўчаў і баяўся... адно што вершы пра тое пісаў, але што тыя вершы... – скамечыўшы паперу, дагаварыў арыштант і ўпёрыўся позіркам у вокладку тэчкі: – Гэта не я.

– А хто? Я?.. – раззлаваўся Мяркулаў, падумаўшы, што арыштант кажа пра скамечаную паперыну, а той ткнуў пальцам у тэчку: "Тут не маё прозвішча напісана. Я не Луцкевіч".

Да камісара нарэшце дайшло, пра што ён.

– Тады хто вы?

– Я Луцэвіч, – дастаў з левай унутранай кішэні пінжака партманэт з харчовымі карткамі і пасведчанне сябра Саюза савецкіх пісьменнікаў арыштант. – Іван Луцэвіч. Літаратурны псеўданім: Янка Купала. І я ніколі палітыкай не займаўся.

– Ды што вы кажаце! – тэатральна здзівіўся камісар. І спытаў, беручы пасведчанне з карткамі і зноў падсоўваючы тэчку да сябе. – А хто, прыехаўшы са Смаленску ў Мінск, стаў намеснікам старшыні БНК? Беларускага нацыянальнага камітэта, які незаконна прэтэндаваў на ўладу ў Беларусі, у той час як у Смаленску ўжо быў законны ўрад БССР? Не вы?..

“Не было яшчэ БССР... ССРБ была ў Смаленску... Ці ССР ЛітБел?..” – з цяжкасцю ўспаміналася Купалу, які даўно забыўся на тую гісторыю, у якую разам з прафесарам Ігнатоўскім ўцягнуў яго паэт Алесь Гарун, старшыня таго самага БНК, а камісар не стаў, дзякуй Богу, далей распытваць пра гэта невядома каго, уважліва перабіраў дакументы...

Прозвішча, запісанае ў пасведчанні Купалы, адрознівалася ад прозвішча, што было напісанае на вокладцы тэчкі, якая ляжала на стале перад камісарам. У дакументах, якія даў яму Берыя. У спецданясенні на імя наркама ўнутраных справаў СССР Л. Берыі (з копіямі старшыні Саўнаркама Сталіну і ягонаму намесніку Молатаву) было зафіксавана, што «28 июня в 22 часа 30 минут в гостинице “Москва” упал в лестничную клетку и разбился насмерть поэт Белоруссии *Луцкевич Иван Доминикович*». Што “примерно в 21 час *Луцкевич* был приглашен в комнату 1034 (десятый этаж той же гостиницы) к проживающему там председателю Союза советских писателей Белоруссии Лынькову”. Што “*Луцкевич* пришел в нетрезвом виде”. Што “примерно в 22 часа *Луцкевич* из номера вышел”. Што “момент и обстоятельства падения *Луцкевича* никто не видел”. Што “при осмотре комнаты, занимаемой *Луцкевичем*, обнаружены около стола две бутылки из-под шампанского и не убранная со стола посуда с запахом вина”. І ў спецданясенні, і ва ўсіх іншых дакументах: *Луцкевич, Луцкевич, Луцкевич*... Хіба аператыўнікі сапраўднае прозвішча не маглі ў пасведчанні ці пашпарце паглядзець?

Такое выключалася. Спецданясенне было падпісанае начальнікам 3-га Упраўлення НКУС СССР Мікалаем Гарлінскім, які калі й рабіў у гэтым жыцці нейкія памылкі, дык толькі наўмысныя. Коля Дрышчаў, якім насамрэч было прозвішча маёра Гарлінскага, памыляўся толькі так і толькі тады, як і калі хацела начальства, перад якім ён дрыстаў.

Сярод шмат якіх дзіўных паперчын была ў тэчцы даведка, падпісаная Максімам Бененсонам, начальнікам 1-га аддзела 3-га ўпраўлення, якое займалася “прафілактычнай працай” з інтэлігенцыяй, а па сутнасці ліквідацыяй асобаў, што мелі дачыненне да антысавецкіх груповак. У адмысловым спісе такіх асобаў, складзеным яшчэ ў канцы 20-х з супрацоўнікаў Інбелкульта і прыкладзеным да даведкі Бененсонам, пад нумарам 7, значылася прозвішча (некім падкрэсленае чырвоным алоўкам): “*Луцкевич* Иван (Янка Купала)”.

І яшчэ адна паперка была прыкладзеная да даведкі Бененсона – ужо з 30-х гадоў: выпіска са спецпаведамлення СПА (сакрэтна-палітычнага аддзела) Галоўнага ўпраўлення НКУС СССР “О ходе подготовки к I Всесоюзному съезду Союза советских писателей”, дзе (цяпер ужо пад нумарам 2) таксама значыўся “*Луцкевич И.Д.,* белорусский народный поэт, беспартийный, активный лидер национального демократизма»”. І паперадзе прозвішча *Луцкевич* былі пастаўленыя тры крыжыкі.

Не адзін. Тры. Рознымі алоўкамі і, хутчэй за ўсё, рознымі людзьмі. А значыць, "прафілактычнай працай" з Купалам займаліся тройчы. І ўрэшце тры дні таму ў гатэлі "Масква"...

З ягоным досведам працы ў НКУС Мяркулаву не цяжка было зразумець, якую справу ён трымае ў руках. Злепленую. А не пабаяліся яе зляпіць для таварыша Сталіна, бо даволі лёгка апраўдацца: карайце, памыліліся. *Луцевич, Луцкевич...* Маўляў, пераблыталі.

Што з гэтага вынікае? Выходзіць, што працавалі адмыслоўцы 1-й лабараторыі не з тым аб'ектам? Калі ўвогуле працавалі, жулікі. Можа, прыпёрлі ім партызаны з Мінска, ці самі яны ў Маскве знайшлі нейкага яшчэ жывога Луцкевіча. І выдаюць яго за ажыўленага паэта, прыдумаўшы казку пра "жывую" ваду, якая, як было напісана ў даведцы пра доследы ў 1-й лабараторыі, "вяртае да жыццядзейнасці любы біялагічны аб'ект (труп), якому не болей за тры дні, калі аб'ект не страціў жыццядзейнасць ад невылечнай хваробы".

Вось і "ажывілі". Каго?.. І што цяпер з гэтым "аб'ектам", з Луцкевічам-Луцэвічам-Іванам-Янкам-Купалам, увогуле з усім гэтым рабіць?

– А хто такі Іван Луцкевіч, калі гэты не вы? – спытаў камісар, вяртаючы арыштанту ягонае пасведчанне з харчовымі карткамі, пра якія падумаў, што наўрад ці яны хоць Луцкевічу, хоць Луцэвічу спатрэбяцца. – Таксама паэт? Нацдэм?

Купала, падобна, не думаў, што карткі яму цяпер без патрэбы. Акуратна склаў іх, сунуў разам з пасведчаннем зноў у кішэню.

– Археолаг. Але ў руху ўдзельнічаў.

– Якім руху?

– Нацыянальным.

– Значыць, нацдэм. Жывы?

– Памёр.

– Сам?

– Сам.

– Калі?

– Даўно.У дзевятнаццатым.

– Дзіўна.

– Што тут дзіўнага?

– Што нацдэм і сам памёр. Тым больш, што ў нас любілі расстрэльваць археолагаў.

– Ён у Польшчы памёр.

– Гэта і ёсць у нас. Ці ва ўсякім разе недалёка... А чаму, калі паляк, вуліца ў Мінску?

– Ён не паляк.

– А хто?

Больш як дваццаць гадоў таму памерламу Луцкевічу, да якога незразумела з чаго прычапіўся намеснік народнага камісара ўнутраных спраў СССР, нашкодзіць было нельга, і Купала ўзлаваўся:

– Нацдэм!

– Ну вось, – зморшчана сказаў Мяркулаў. – Так вы нам усё пра ўсіх і раскажаце...

Купала не здагадваўся, што камісар распытваў пра Луцкевіча, цягнучы час, бо яму ў носе заказытала, і ён зморшчыўся, чакаючы, калі чхне. У яго ў носе заўсёды з'яўлялася такое лёгкае казытанне, калі ўзнікала, знаходзілася выратавальная думка, ідэя...

– Апчхі!..

Нібы перапрашаючыся за сваю нястрыманасць, Купала падаў насоўку.

– Будзьце здаровы!.. Бачыце, як практычна мець карычневую насоўку з чырвонымі кантамі. Амаль і не відно крыві.

Мяркулаў насоўку не ўзяў. Шморгнуў носам:

– Што ж гэта за кроў, якой не відаць?.. Вы калі апошні раз з таварышам Сталіным сустракаліся?

“Вясной сорак першага на ўручэнні прэміі...” – сабраўся адказаць Купала, але злосць з яго не ўся, як чых з камісара, выйшла, і нехта ў ім замест яго самога раптам спытаў: “А чаму вы пасля крыві – адразу пра таварыша Сталіна? Вы неяк гэта звязваеце?..” – і Мяркулаў, нічога на ягонае пытанне не адказаўшы, разгарнуў перад ім тую, якую дастаў з тэчкі, кнігу: “Прачытайце, калі ласка, надпіс на тытульным лісце. Гучна, каб я чуў”.

На тытульным лісце кнігі “Ад сэрца”, за якую атрымаў Купала Сталінскую прэмію, было напісана: “Таварышу Сталіну – правадыру ўсіх часоў і народаў”. Усё, як трэба... Калі б толькі два першыя словы не былі скрэсленыя.

“Таварышу Сталіну – правадыру ўсіх часоў і народаў”, – прачытаў Купала зусім не гучна, і камісар узвіўся: “Вы не закрэсленае чытайце! Чытайце тое, што над закрэсленым напісалі. Вось тут, пад назвай кнігі! Ну?.. Што вы знямелі?” – “Я не знямеў...” – “Тады чытайце”. – “Чорту лысаму...” – прачытаў Купала і замаўчаў. – “Далей! – стукнуў кулаком па стале Мяркулаў. – Чорту лысаму і далей! Якому чорту?..” – “Чорту лысаму – правадыру ўсіх часоў і народаў”, – прачытаў ужо гучней Купала, падумаўшы, што й насамрэч д’ябал – правадыр усіх часоў і народаў, але камісар думаў іншае. “Вы пісалі?” – “Не помню”. – “Як гэта не помніце? Почырк ваш?” – “Падобны да майго”. – “Падобны... Значыць, падобна, што пісалі вы. А скрэсліў хто? Вы скрэслілі?” – “Не помню...” – “Як не помніце, калі праўка над скрэсленым зробленая той жа рукой? Вашай рукой?..” – “Падобна, што маёй. Але ж подпісу майго няма...” – паспрабаваў неяк бараніцца Купала, з жахам уяўляючы, што будзе, калі гэты надпіс з праўкамі пакажуць Сталіну, ці апублікуюць у газетах, але абараніцца Мяркулаў яму не даў. – “У такім разе падобна, – падаўся да Купалы камісар, – што скрэслілі вы не толькі сакратара ЦК таварыша Гарбунова, але і таварыша Сталіна! Перарабілі яго ў чорта лысага! І пасля гэтага вы яшчэ спрабуеце мяне палохаць? Намякаць, што я звязваю імя таварыша Сталіна з крывёй? Ды я вас!.. Ды вы сто разоў гэтаму Луцкевічу, які сам памёр, пазайздросціце! – перагнуўся камісар цераз стол і моцна, так, што шыя хруснула, зацягнуў на горле Купалы гальштук. – Ну?!. Сталін лысы? Сталін чорт? Д’ябал?..”

Купалу на гэта не было чаго, ды ён і не мог нічога, задыхаючыся, сказаць. Прахрыпеў: “Сталін не лысы...” – успамінаючы, як год таму, ідучы ў Крэмль на ўручэнне прэміі, надпісаў кнігу “Ад сэрца” Сталіну, але па дарозе...

– Я магу нікому гэтую кнігу не паказаць, – раптам супакоіўшыся, аслабіў пятлю на шыі Мяркулаў. – Яна ж, – усміхнуўся ён, – без подпісу. Але і вы мне не паказвайце свой нораў. Дамовіліся?

Трымаючыся за горла, Купала сутаргава кіўнуў.

– Паколькі па дакументах вы нябожчык, а размовы з нябожчыкамі ў нас ніхто не запісвае, магу прызнацца, што ў мяне таксама ёсць праблема, – вярнуўшыся на месца, сабраў тэчку і паклаў яе ў шуфлядку стала

камісар. – Не такая, як у вас, але ёсць. І я падумаў, пакуль размаўляў з вамі: а раптам вы дапаможаце яе вырашыць? Вы мне, я...

Ён не дагаварыў “я вам”, бо наўрад ці ўяўляў, чым і як можна дапамагчы нябожчыку. А вось як зратавацца самому, Мяркулаў, як яму здалося, прыдумаў. “Прыглядзі тут, я адыду на хвіліну!..” – кінуў ён, выходзячы з кабінета, памочніку, і ў дзвярах, павярнуўшыся і прыжмурана глянуўшы на Купалу, прадэкламаваў: “Я люблю цябе, Д’ябал, я люблю Цябе, Бог...[1]”

## 6

Бог уратаваў…

Віктар апрытомнеў у пакоі з двума ложкамі, на адным з якіх ляжаў ён з катэтарамі ў абедзвюх руках, абкручаны трубкамі і правадамі, а на другім сядзела, неадрыўна гледзячы на яго, Ганна. “Вярнуўся?.. – спытала яна, нібы некуды ён ад’язджаў, і заплакала. – Гэта ў мяне пасля аварыі, – сказала скрозь слёзы, калі ён спытаў, што з ёй? – Доктар абяцаў, што пройдзе. Пачакай…”

– І ты пачакай. Што са мной? Дзе я?..

– У лякарні.

– Даўно?

– Не. Ты хутка ачуняў.

– А з табой што?

– Са мной нічога, апроч слёз.

Ганна выйшла – і праз хвіліну ў пакоі, які нагадваў шпітальную палату, з’явіўся чалавек у халаце, пэўна, доктар, толькі халат ягоны быў не белы, а сіні, і сам ён быў падобны да опернага Мефістофеля. “У вас сур’ёзная чэрапна-мазгавая траўма, – казаў ён, здымаючы катэтары і вызваляючы Віктара з наплеценых на яго правадоў і трубак, падведзеных да нечага такога, што нагадвала вылічальную машыну з вялізным асцылографам. – Несумяшчальная з жыццём. Таму вас падключылі да рэгенератара функцый унутраных органаў”.

– Хіба мозг – унутраны орган?

– А які?

– Я думаў, што знешні.

– Які знешні?

– Антэна.

– А… Космас… Ёсць такая тэорыя. З гледзішча псіхіятра, можа быць, і знешні. Але з гледзішча хірурга, унутраны. Бо пад чэрапам, а не над, – дробненька пастукаў доктар Віктару па галаве, што як бы азначала, што функцыі мозга адноўленыя, а, можа быць, значыла нешта іншае. – Яшчэ ў вас бізуновая траўма шыі, таму мы надзелі на вас «ашыйнік», які ўжо можна зняць. Падымайцеся… – дапамог ён Віктару ўстаць з ложка, пасадзіў на крэсла і стаў здымаць з яго гіпсавы “ашыйнік”, з якога выпалі і пакаціліся па падлозе два бліскучыя шарыкі. “Што гэта?” – спытаў Віктар, і доктар, па якім відаць было, што ён зрабіў нешта не так, што шарыкі не мусілі выпадаць, а Віктар не мусіў іх бачыць, адказаў, што нічога такога. Проста магнітныя шарыкі, якія ствараюць магнітнае поле, што змяншае боль.

---

[1] З верша К. Бальманта.

Можа, яно і так, але і боль зменшыўся, і памяць праяснілася якраз тады, калі доктар зняў ашыйнік з шарыкамі. І выразна, набліжана, як у тэлескопе, Віктару ўбачылася тое, што нібы за туманам віднелася, расплывалася ў памяці...

Калі з Кутузаўскага праспекта, дзе месцілася 300-я секцыя, Ганна вырашыла паехаць у ГУМ па карціну і тэлескоп, яна папрасіла бацьку прыслаць ягоную машыну. Патэлефанавала яму: "Хто ведае, якіх памераў тыя рэчы, трэба такая машына, каб улезлі".

"Ты б яшчэ прапанавала яму самому прыехаць, каб карціну паглядзець", – незадаволена, бо не любіў, калі ў ёй пракідваліся замашкі "іншапланецянкі", якой патрэбная ўрадавая машына, каб у краму з'ездзіць, буркнуў Віктар, і Ганна тут жа пралапатала ў трубку: "Віктар хоча, каб ты сам прыехаў паглядзець карціну…"

Як пасля аказалася, дарма яна гэта пралапатала.

Калі пад'ехаў "ЗІЛ-114", чорны лімузін на сем месцаў, Грачына ў ім не было. Ганна, якой загадчыца 300-й секцыі сказала, каб яны паспяшаліся, "бо такія рэчы ў крамах не залежваюцца, хутка знаходзяць гаспадароў", кінула кіроўцу: "Хутчэй!" – і яны панесліся. З'ехаўшы з Новаарбацкага моста, кіроўца газануў на скрыжаванні пры ўжо чырвоным светлафоры, потым рэзка затармазіў, але позна – і ў бок лімузіну ўрэзаўся "Масквічок". Трохтонны лімузін на сталёвай раме адкінуў таго "Масквічка" да ходніка, але ўдар быў моцны – і якраз у правы бок, туды, дзе сядзеў Віктар. Счарнела ў вачах – і падумалася, што гэта таму, што ён у чорным лімузіне…

З таго моманту ён пачуваў сябе амаль гэтаксама, як пачуваўся ў стане, калі пісаў вершы. Дакладней, не пісаў, а як бы запісваў іх, прыслухоўваючыся да таго, хто іх дыктаваў. Гэта быў Голас, які то набліжаўся здаля, найчасцей з вышыні, і пры першых гуках ягоных прападала ўсё знешняе, што замінала гэты Голас чуць, а ўнутры, недзе над сэрцам, дзе трымціць тое, што мае назву душы, узнікала музыка, мелодыя, рытм, на які без ніякіх высілкаў, нібы самі па сабе клаліся словы, што прамаўляў Голас, які гэтак жа раптам, як набліжаўся і прамаўляў, аддаляўся і нямеў, калі Віктар пачынаў зважаць на іншыя галасы, якія спакушалі не прыдуманым, няхай сабе і пад нябесную музыку, а рэальным, з усімі ягонымі пернікамі жыццём, і на гэтых пераходах з рэальнасці ў фантастыку, у фантасмагорыю і з яе зноў у рэальнасць Віктар звычайна доўга блукаў, пакуль вяртаўся да ўсведамлення таго, у якім ён свеце.

– Вось і ўсё, – выключыў апарат, які называў рэгенератарам унутраных органаў, падобны да Мефістофеля доктар. – Найгоршае, што можа вас чакаць, перыядычная страта памяці. Але з часам усё нармалізуецца, так што будзьце здаровы! І ведаеце, – праводзіў ён Віктара да дзвярэй, у якіх чакала Ганна, – на вашым месцы я купіў бы вашай жонцы кветкі. "Я не жонка", – усміхнулася так, нібы рада была, што яна не жонка, Ганна, і доктар зачыніў за імі дзверы: "Тым больш".

На будынку лякарні, з якой яны выйшлі недалёка ад Лубянкі, не было ніякай шыльды, і Ганна, перахапіўшы ягоны позірк, сказала, што гэта "крамлёўка". Таму яна без шыльды, як і 300-я секцыя. А калі селі ў "ЗІЛ", з якім, як і з ёй, нічога не сталася, толькі кіроўца памяняўся, спытала: "Ты як пачуваешся? Мог бы ты зараз замест кветак купіць мне карціну, па якую мы ў ГУМ ехалі? Баюся, што яе могуць прадаць".

Ён пачуваў сябе дзіўна. Зірнуў у люстэрка: выглядаў даўно няголеным.

А раніцай галіўся. І гэта таксама дзіўна. Але дзіўна – не кепска. І калі ўжо так закарцела Ганне тую карціну мець…

У ГУМе яны ў каго толькі ні пыталіся пра антыкварную краму 300-й секцыі – ніхто не ведаў, дзе яна, што гэта такое? Нарэшце грузчык з віннага аддзела гастранома правёў іх па закутках, па складах універмага і паказаў на лесвіцу ў сутарэнні: "Туды".

Крама сапраўды аказалася ў сутарэннях. Крамніца, жанчына ў зялёнай блузцы, высокая, хударлявая, белатварая, з доўгімі і чорнымі, як смала, валасамі і жаўтаватымі, нібы ў савы, вачамі, усміхнулася, калі яны спыталі пра тэлескоп і карціну: "З гэтым вам да дырэктара". І правяла да дзвярэй, якіх за шафай у дальнім куце крамы не відаць было: "Тут".

На дзвярах вісела шыльдачка, на якой прыгожа, з вензелямі, было напісана: *"Вензель Назар Януаравіч. Дырэктар".*

У вялізным, большым за спартыўную залу кабінеце дырэктара можна было б гуляць у футбол, калі б ад сцяны да сцяны не быў ён застаўлены рэчамі. Каля самай дальняй сцяны стаялі легкавыя машыны, матацыклы і ровары, бліжэй – ложкі, канапы, крэслы, патэфоны, радыёлы, самавары, жырандолі, кніжныя паліцы з кнігамі і без, этажэркі з партабакамі і запальнічкамі, ордэнамі і медалямі, шафы, на якіх і ў якіх стаяла розная драбната са шкла, крышталю, каменя, срэбра, золата… Карціны і скульптуры, дываны і абрусы былі навалены ад падлогі да столі – не зразумела было, як усё гэта стаіць, вісіць і, чапляючыся адно за адно, не падае.

Дырэктар, хударлявы, з учэпістымі рознакаляровымі вачамі, якія глядзелі, не міргаючы, і вузкім, як бы завостраным носам чалавек, выгляд якога, бо быў ён чамусьці ў лётным шлеме, здзівіў не менш, чым ягоны кабінет, сядзеў за сталом пасярэдзіне залы. На стале залаціўся тэлескоп, збоку стаяла на мальберце карціна, на якой у гэты залацісты тэлескоп глядзеў Сталін. За карцінай віднеўся яшчэ адзін столік з трыма кубкамі ды імбрыкам на ім, з канапай і зэдлікам побач.

– О, якія госці! – падхапіўся "лётчык", як адразу назваў для сябе гэтага чалавека Віктар. – Мне тэлефанавалі, тэлефанавалі… – рушыў ён, трохі прыкульгваючы, насустрач. – І вы нават не ўяўляеце, які для мяне гонар ваш візіт, – пацалаваў ён руку Ганне. – Я ведаў, меў шчасце ведаць вашу маці, вялікую актрысу Ганну Трубяцкую! Яна была не толькі вялікай актрысай, не толькі… – павярнуўся ён да Віктара, якога да ўсяго, з чаго здзівіўся ён раней, здзівіла яшчэ і тое, што "лётчык" назваў Ганну не дачкой цяперашняга вялікага начальніка, аднаго з кіраўнікоў краіны, а дачкой колішняй, амаль забытай акторкі. – І ведаў вашага бацьку, – узяў Віктара пад локаць "лётчык". – Духоўнага бацьку, духоўнага, – неяк дробненька, мітусліва ўдакладніў ён, убачыўшы недаўменне на твары Віктара. – Каго вы называлі духоўным бацькам? Ну? Успомнілі?.. Вядома ж, успомнілі, як можна забыць… Дык вось гэты тэлескоп належаў яму. Нядоўга, але належаў. А гэтая карціна, Ганна, падараваная вашай маці… Вось глядзіце, – павярнуў ён мальберт. – На звароце карціны напісана: *"А.Т. от И.С. 28.06.1942".* Што гэта за дзень, вы памятаеце? – адным вокам зыркнуў ён на Віктара. – Ну, вядома ж… Не можаце вы не помніць дзень, у які быў забіты ваш бацька. Духоўны, я кажу, духоўны. – І другім вокам "лётчык" зыркнуў на Ганну. – Як вы думаеце, чаму менавіта ў гэты дзень Сталін карціну для вашай маці надпісаў?.. Подпісу на карціне няма, але графалагічная экспертыза засведчыла, што почырк ягоны. Так што рэчы гэтыя

па праву, як спадкаемцам, належаць вам, і ніякіх грошай за іх я з вас не вазьму. Хоць каштуюць яны… – зрабіў паўзу, нібы завагаўся, якую цану назваць, дырэктар крамы, і сам сябе паправіў… – хоць каштавалі яны іх гаспадарам дорага. Вельмі дорага.

Ганна падышла да карціны. Насцярожана так – крок, другі, трэці… Стала з таго боку, у які павярнуў карціну дырэктар крамы – тварам да Віктара… І глядзела, глядзела, глядзела на Сталіна, які глядзеў у тэлескоп.

Віктар ніколі не бачыў у яе такога твару. Іншым разам мільгала на ім нешта з таго, што праглядвалася на музейных партрэтах царскіх ды княскіх, блакітнакроўных асобаў: я вам не роўня! А тут яно з'явілася не адно на твары, заклубілася ў вачах – і не знікала, напаўняючы іх усё глыбей. "Я вам не роўня!"

Ён адчуў сябе не ў сабе.

– Ды што мы стаім! – зноў зыркнуўшы на яго адным вокам, як бы спахапіўся гаспадар кабінета. – Прашу да стала, – усадзіў ён на канапу Віктара з Ганнай, а сам сеў на зэдлік і напоўніў кубкі. – У мяне для вас цудоўны напой, чароўныя зёлкі. Яны даюць… зрэшты, самі адчуеце, што яны даюць, толькі піць іх трэба без нічога. Таму, выбачайце, ніякіх пернікаў, – пасунуў ён кубкі бліжэй да гасцей і крануў руку Віктара. – Пернікі будуць пасля.

Рука была не халодная, не зімная – ледзяная. Такая, якіх не бывае – Віктара проста пранізаў востры холад. Ён здрыгануўся, беручы кубак, праліў напой, амаль нагбом выпіў яго, каб сагрэцца, і хутка, нечакана для сябе самога спытаў:

– Скуль вы ведаеце, што яго забілі?

– А я там быў, калі забівалі, – гэтак жа хутка, не перапытваючы, каго ён мае на ўвазе, адказаў дырэктар антыкварнай крамы Назар Януаравіч Вензель, дастаючы карычневую з чырвонымі кантамі насоўку і выціраючы стол. – Я, ведаеце, заўсёды бываю там, дзе цікава. А дзе не цікава, там не бываю. Што там рабіць, праўда?.. Вы дапівайце, дапівайце, – даліў ён з імбрыка напою, які нагадваў Віктару той, які маці настойвала, як яна казала, з усётраўя. – І сказаў, калі Ганна дапівала зёлкі дробнымі глыточкамі. – Я і каля Новаарбацкага моста быў.

Ганна выпусціла кубак.

– Ды што гэта вы!.. – з напускной незадаволенасцю зноў дастаў карычневую насоўку з чырвонымі кантамі дырэктар. – Стол антыкварны, камісару Гамарніку належыў… Вы ж ведаеце, хто такі камісар Гамарнік, – нахіліўшыся да Віктара, працёр ён інкрустацыю на стале, стылізаваную чырвоную зорку. – Некалі на ягонай вуліцы ў Мінску жылі…

Гэта ўжо было занадта, каб здавацца звычайным. Віктар і сам забыўся, што кватараваў з паўгода на вуліцы Гамарніка, колішняга кіраўніка Беларусі. А каб яшчэ незвычайней было, гаспадар кабінета падняўся, падышоў да кніжнай паліцы, узяў з яе часопіс. – Бачыце, як называецца? "Чырвоная Беларусь". І глядзіце, які ён чырвоны… Вокладка гэтак залітая крывёй, што партрэта Сталіна на ёй амаль не відаць. Бо тут кроў на крыві. Першая, унізе, трохі святлейшая, кроў народнага паэта Купалы. А зверху, цямнейшая, угадайце, чыя?.. Так, народнага камісара Гамарніка. Першы спрабаваў зарэзацца, а другі застрэліўся. Адзін у Мінску, другі ў Маскве, куды паехаў з Мінска, узяўшы з сабой гэты скрываўлены часопіс. З ім, са Сталіным пад галавой і застрэліўся, – паднёс дырэктар палец да скроні. – Бачыце, як яно звязана… Як яно… – тыцнуў ён пальцам у вокладку часопіса… – як

яно зліта. У мяне ўсё тут гэтак звязана, зліта, нічога выпадковага. Таму і дарагое ўсё.

Аповед "лётчыка" ўразіў, але нешта ў ім, хоць было звязанае і злітае, не вязалася і не злівалася. Віктар ведаў, што першы нумар часопіса "Чырвоная Беларусь" быў выдадзены ў падарунак Сталіну на ягонае 50-годдзе. Гамарнік тады ў Мінску камандаваў усім і ўсімі, але жывот сабе Купала ўзрэзаў пазней. Зрэшты, начальнік палітупраўлення Рабоча-сялянскай чырвонай арміі Якаў Гамарнік, наўпрост звязаны з НКВД, мог і пазней з Масквы ў Мінск завітаць.

Віктару закарцела дазнацца, як і чаму аказаўся ў антыкварнай краме часопіс, але тут Ганна спытала:

– Як вы каля Новаарбацкага моста маглі быць?

– Не верыце? – зрабіў выгляд, нібы пакрыўдзіўся, "лётчык". – Што ж, прашу за мной.

Ён правёў іх па сваёй вялізнай краме да самай дальняй сцяны, каля якой за двума легкавікамі, амерыканскім Chevrolet 1937 года і савецкім прадваенным "КІМ-10" стаяў пабіты "Масквічок", за стырном якога нерухома сядзеў кіроўца. Віктар мог паклясціся, што паўгадзіны таму, калі яны ўвайшлі ў краму, гэтага "Масквіча" тут не было.

– Кіроўца яшчэ жыў пасля аварыі, – сказаў так, нібы нічога незвычайнага ім не паказваў, дырэктар крамы. – Памёр на Лубянцы, на допыце ў КГБ. Сэрца спынілася, калі яго звінавацілі ў замаху на жыццё члена Палітбюро ЦК КПСС таварыша Грачына.

Сказаўшы гэта, ён адчыніў дзверцу "Масквіча", каб Віктар з Ганнай лепш разгледзелі кіроўцу, і застаўся задаволены тым, што адбілася на іх тварах.

– Але ж у машыне ехалі мы, а не бацька, – нервова зглытнуўшы, сказала Ганна, і "лётчык" павярнуўся да яе:

– А хто ведаў, што ехаў не Грачын?

Віктар глядзеў на кіроўцу, і яму здавалася, што ён, Віктар Маргер, падвоіўся – настолькі кіроўца быў падобны да яго. У гэткім жа адзенні, у такіх жа чаравіках.

– Вы кінулі мяне, – прамовіў раптам нябожчык. – Не ведаючы, жывы я, ці не. А самі ў шпіталь.

Віктар здзівіўся не з таго, што мёртвы нешта прамовіў. Ён здзівіўся з таго, што гэта яго не здзівіла, і сказаў, апраўдваючыся:

– Я непрытомны быў. Мяне і ў шпіталь павезлі непрытомнага.

Ганна таксама глядзела на кіроўцу не як на мярцвяка. І яна не апраўдвалася, таму Віктар дадаў за яе: "А ў Ганны, мусіць, шок быў…"

– Непрытомны… шок… – выйшаў з машыны кіроўца. – Але ж калі апрытомнелі, калі шок прайшоў, маглі спытаць, што са мной? Хоць пацікавіцца, дзе я? Хай сабе я не чалец Палітбюро і не зяць ягоны.

"І праўда пацікавіцца маглі. Але не пацікавіліся. Чаму?.." – падумалася Віктару, а Ганна ступіла да кіроўцы, падала руку: "Ганна. Трубяцкая. Актрыса", – і той руку падаў: "Віктар. Маргер. Паэт".

Як гэта?..

– Беларускі паэт? – спытала Ганна такім голасам, нібы нічога іншага ў адказ пачуць не чакала, а кіроўца перапытаў: "Чаму беларускі?.."

Некалі яна гэтаксама з Віктарам знаёмілася – іншапланецянка ў белай сукні з чырвоным поясам. Толькі тады першы ён падаў руку: "Віктар Маргер", – і яна падала: "Ганна Трубяцкая".

Кіроўца прысеў пару разоў, размінаючыся. Абышоў машыну:

– Капцы майму “Масквічку”. Не трэба было ехаць… А ведаеце, чаму паехаў? Гэбіст патэлефанаваў, які спрабаваў завербаваць мяне гадоў пяць таму. Сказаў, што ў псіхушку мяне вырашылі пасадзіць, дык па даўнім знаёмстве ён можа параіць, як выкруціцца. Сустрэцца прапанаваў у кавярні на Новым Арбаце. Я вырашыў паехаць, каму ў псіхушку хочацца? І во куды прыехаў… А гэбісты яшчэ прыдумалі, нібы я наўмысна ў “ЗІЛ” урэзаўся, члена Палітбюро забіць хацеў. Праўду сказаць, я б іх усіх пазабіваў, але ж хацець – не зрабіць. І ты таксама пазабіваў бы, – стаў ён насупраць Віктара. – А танцуеш каля іх, круцішся… Ды Бог не цяля, бачыць круцяля.

Апошнія словы ягоныя прагучалі так, як быццам Віктар сам сабе іх сказаў. І падумаў: “Так, пазабіваў бы, а танцую каля іх, кручуся. А Бог не цяля, бачыць круцяля. Калі ёсць ён, Бог”.

– Ёсць, – сказаў кіроўца. – І ён дараваў мне, бязвінна забітаму. – А табе…

– Што мне? – не стрываў, хоць і веры не даваў, што ўсё гэта насамрэч адбываецца, Віктар.

– Не ведаю, што. Бог ведае. Але думаю: не даруе.

– Чаму?

– Бо ты перастаў чуць Ягоны голас. Бо спакусіўся. Захацеў таго, што не тваё, і сумленне ў табе закруцілася, як вятрак. У той бок, адкуль вецер. Кінуў яе, – кіўнуў ён на Ганну. – З’ехаў. А там, куды з’ехаў, не выйшла так, як ты хацеў. Вярнуўся. Хіба да яе? Хіба ты ў каханне вярнуўся? Ты вярнуўся да тых, каго забіў бы. А прыкідваешся, што любіш іх. Гэта яшчэ горш, чым вярнуцца да раскаханай. Калі ты паэт, нашто табе гэта?

Пра вяртанне да тых, каго забіў бы, кіроўца, паэт з ягоным іменем і прозвішчам, чалавек, з якім яны нават пальцамі былі падобныя, у якога, як і ў Віктара, быў шнар на сярэднім пальцы правай рукі, сказаў тое ж, што Віктар сам сабе мог сказаць, але пра Ганну – не! Яна не была раскаханай, такія жанчыны проста не могуць раскаханымі быць, і Віктар запярэчыў: “Што ты можаш ведаць пра нашы адносіны?.. Пра мяне?.. Чаго я хачу, чаго не хачу…” – а кіроўца стаў перад ім твар у твар: “Тое самае, што і ты!”

Яны глянуліся адзін у аднаго, як у люстэрка, закружыліся адзін перад адным, нібыта пеўні перад бойкай, і не распазнаць было, хто з іх Віктар Маргер, а хто ягоны адбітак, хто нябожчык, а хто жывы?..

– Ну?.. Хто з іх ваш?.. – задаволена спытаў Ганну, падыходзячы да машыны і адчыняючы багажнік, “лётчык”. Ганна нічога не змагла адказаць, а “лётчык” усміхнуўся. – Ды жарт гэта, жарт. Бо слухаць абрыдла: адзін, адзіны… – нахіліўся ён, дастаючы нешта з багажніка. – А вось гэта ўжо не жарт. Выбухоўка. Гаспадар машыны не ведаў пра яе. Падклалі. Чаму яму? Бо і паэты ў Доме літаратара, і артысты ў Доме кіно не аднойчы чулі, як ён гразіўся пазабіваць усіх крамлёўскіх старцаў. Чаму не выбухнула? Бо, як заўсёды ў краіне, грамадзянамі якой вы маеце шчасце быць, нешта ў апошні момант абавязкова не спрацоўвае. Гэтым разам дэтанатар. Калі б ён спрацаваў, вы б усе трое… Нават чацвёра: капітан КГБ Малькоў, які кіраваў машынай Грачына, таксама… Ведаю-ведаю, чаму вы хочаце запярэчыць, – заўважыў ён нязгоду на твары Ганны. – Таму што самі бачылі, як машыны сутыкнуліся па віне кіроўцы “ЗІЛа”, а не “Масквіча”. Дык вось кіроўца вашага бацькі спачатку набраў хуткасць, а потым рэзка затармазіў, каб “Масквіч” уляцеў у бок “ЗІЛа”, бо яму сказалі, што аварыя за Новаарбацкім мостам падстройваецца наўмысна, што гэта праверка

ўрадавай машыны на трываласць. У рэальных дарожных умовах, – з націскам прамовіў "лётчык". – А якія ў краіне рэальныя дарожныя ўмовы?.. Яны такія, што кіраўнік краіны, Генеральны сакратар ЦК КПСС таварыш Брэжнеў моцна хворы і праз год памрэ. А ў старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі таварыша Андропава, які меціць на ягонае месца, адзіны супернік – таварыш Грачын. Мог быць яшчэ таварыш Суслаў, але таварыш Суслаў памрэ раней за таварыша Брэжнева.

Ён прымоўк, быццам вылічваючы, наколькі Брэжнеў перажыве Суслава, і Ганна спытала ў паўзе, гэтак жа нервова, як тады, калі пачула пра спробу замаху на бацьку, зглытнуўшы: "Скуль вы ведаеце, хто і калі?.." – але "лётчык", нібы не пачуўшы яе, казаў далей да Віктара – невядома, да якога.

– Разумееце, паблізу чаго вы апынуліся? Дзе вы праз гэта можаце быць, уяўляеце?.. – апусціў, потым зноў падняў ён дзверцу багажніка. І ляснуў замком. – На самым нізе, ці на самым версе! Гэта шанец, які выпадае раз у жыцці! А вы будзеце слухаць лухту пра ветракі сумлення?.. – нечакана ўсхадзіўся, узнерваваўся больш за Ганну "лётчык", сарваўшы з галавы шлем і махнуўшы абодвум Віктарам: "Можаце ехаць!"

Дырэктар антыкварнай крамы быў лысы. Зусім. Можа, таму і насіў шлем, без якога не толькі злысеў, але й прыгорбіўся, гэтак за імгненне пастарэў, як за сто гадоў не старэюць.

У сцяне перад "Масквічом" паволі расчынілася шырокая брама, за якой адкрылася Лубянская плошча. Гэта было зусім нечакана, бо Лубянка знаходзілася даволі далёка ад ГУМа, ці ва ўсякім разе не так блізка, каб на яе можна было выйсці ці выехаць з сутарэнняў універмага. Значыць, сутарэнні, у якіх была гэтая дзіўная антыкварная крама, былі большымі, чым здавалася – цягнуліся, можа быць, пад усёй Масквой.

Але Ганну здзівіла не гэта. Яна глядзела на абодвух Віктараў і бачыла, што хоць яны і скачуць пеўнямі, але абодва ў нерашучасці. У такой нерашучасці, нібы ні адзін не ведаў, хто з іх хто? Не разумеў, каму махнуў шлемам "лётчык": "Можаце ехаць!.." Нарэшце адзін з іх, развітальна зірнуўшы спачатку на Ганну, потым на "лётчыка", няўпэўнена сеў за стырно. Тузануўшыся, "Масквіч" выехаў на плошчу, апісаў круг вакол помніка Феліксу Дзяржынскаму, спусціўся ўніз і схаваўся ў падзямеллях будыніны Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

"Машына ім належыць, – трохі ніякавата, бо псіхануў, і вінавата, бо паказваў легкавічок як экспанат сваёй крамы, – сказаў дырэктар. – Як матэрыяльны доказ замаху. Я папрасіў на паўгадзіны. Не адмовілі... Мая вам парада, – нацягнуў ён шлем і энергічна павёў гасцей да выхаду з кабінета, да дзвярэй, за якімі высокая, хударлявая, белатварая з доўгімі і чорнымі, як смала, валасамі і жаўтаватымі, нібы ў савы, вачамі жанчына ў зялёнай блузцы, мусібыць, сакратарка дырэктара, пакавала ў кардонныя скрынкі тэлескоп і карціну. – Сябруйце са спецслужбамі! Гэта адзінае сяброўства, з якога бывае нейкі толк! Так, Сюзана?"

– Так, – сказала Сюзана. – Я толькі з імі й сябрую. Больш няма з кім.

Яна была падобная да ведзьмы, гэтая жаўтавокая Сюзана, да прыгожай, але да ведзьмы, і таму, мусіць, Ганна спытала: "А з д'яблам?.. – і кінулася да дзвярэй, у якія выходзіў «лётчык». – Чакайце! Вы хто? Д'ябал?.." – але той не стаў чакаць, дзверы зачыніліся, і дарма Ганна торгала лапезную, пазалочаную, са змяінай галавой дзвярную ручку.

У краму ўвайшоў новы кіроўца Грачына з грузчыкам віннага аддзела. Яны моўчкі ўзялі і вынеслі пакункі.

“Што гэта было?” – спытаў, сеўшы ў машыну і трымаючы галаву абедзвюма рукамі, Віктар, голас якога здаўся Ганне як бы ягоным і як бы не, і яна павярнулася да яго з тым жа тварам, з якім глядзела на карціну: “Нас далучылі”. – “Хто далучыў? Да чаго далучылі, Ганна?..” – пытаў Віктар сваім і не сваім голасам, не разумеючы, пра што пытае, а яна глядзела і глядзела на яго, як на тую карціну, і ён не вытрываў: “Ганна! Нас ці падпаілі нечым, ці з намі такое пасля аварыі! Зацьменне нейкае найшло, мы звар’яцелі!..” – а яна, усё гэтак жа гледзячы, наблізілася да яго – тварам да твару: “Калі так, дык ёсць у цябе якая-небудзь выратавальная ідэя?..”

## VII

Выратавальную ідэю, якая прыйшла ў галаву камісару Мяркулаву, пакуль ён са справай Луцкевіча-Луцэвіча разбіраўся, няпроста было рэалізаваць. Прамы тэлефон да Сталіна яму, пакуль ён быў у Куйбышаве, адключылі. Можна было скарыстацца толькі тэлефонамі з кабінета Берыі ці Багдана Кабулава, калегі па “расстрэльнай тройцы” – ягоны кабінет бліжэй.

Ён увайшоў у прыёмную Кабулава, рвануўшы дзверы, як уваходзяць вельмі занятыя, у якіх тэрміновая справа, людзі:

– Багдан у сябе?

– Да таварыша Берыі выйшаў, – не ўскочыў, як звычайна пры з’яўленні начальства, а неяк вальяжна падняўся, нібы ведаючы, што Мяркулаў цяпер не начальнік, а калі і начальнік, дык не ягоны, памочнік Кабулава, якога камісар упершыню бачыў і які ў прыёмнай намесніка народнага камісара ўнутраных спраў сядзеў чамусьці ў лётным шлеме. “Я пачакаю яго!” – прайшоў Мяркулаў у кабінет, зачыніўся і адразу ўзяў трубку чырвонага, які асобна ад усіх стаяў, тэлефона. Азірнуўся на дзверы, якія памочнік Кабулава мусіў зараз адчыніць і папрасіць госця выйсці, а калі госць не выйдзе – вывесці: у кабінеце намесніка народнага камісара ўнутраных спраў без гаспадара нікога не можа быць. Але памочнік не ўвайшоў, не папрасіў госця выйсці і не вывеў яго.

Мяркулаў расстраляў бы такога памочніка.

Гудкі йшлі доўга...

З чаго пачаць?.. Адразу пра 1-ю лабараторыю? Пра “жывую” ваду?.. Не, пра гэта Берыя паспеў дакласці... Таму адразу пра таго, каго ажывілі... І аказалася, што гэта не памылка з прозвішчам, а наўмысна спланаваная таварышам Берыя расправа над лаўрэатам Сталінскай прэміі, каб кінуць цень на таго, хто яму гэтую прэмію...

Памочнік усё ж зазірнуў у кабінет – бліснулі вочы: адно зялёнае, другое карычневае. Мастакі такія вочы нячысцікам звычайна малююць, дзе Кабулаў такога ўзяў?

– Кабулаў у таварыша Берыі, таварыш Сталін!.. Так, гэта я!.. – зрабіўшы выгляд, нібы дакладвае Сталіну, пагрозліва памахаў Мяркулаў кулаком памочніку, які, як здалося камісару, паблажліва ўсміхнуўся і, цалкам задаволены тым, што пачуў і ўбачыў, шчыльна зачыніў за сабой дзверы – і тут на тым канцы знялі трубку...

Калі камісар выйшаў з кабінета, прыёмная Кабулава была пустая. На стале памочніка ляжала паперка: “Пайшоў у ГУМ”.

“Што за жарты дурныя?.. Які ГУМ?.. Галоўнае ўпраўленнне чаго?

Мерцвякоў?..” – пацепнуў плячыма Мяркулаў і з прыёмнай Кабулава патэлефанаваў у гараж. Патэлефанаваўшы, падумаў: “Трэба будзе распытаць Багдана пра гэтага рознавокага ў шлеме. Хто ён і скуль? І чаму гэты «лётчык», пастаўлены, калі верыць Берыі, кіраваць 1-й лабараторыяй, сядзіць у памочніках Кабулава? Нешта тут не так...”

Праз дзесяць хвілін тая ж чорная машына, якая прывезла Купалу на Лубянку, панеслася з Лубянкі да Крамля. “Кажаце, гэта б’юік? – пытаў Купала камісара. – А ў мяне шэўрале...”

Камісар не падтрымаў размовы. Размаўляюць на доўгім шляху. А гэты шлях быў кароткі.

## 8

– Мы праводзім у апошні шлях чалавека, прозвішча якога было вядомае не многім, бо дзейнасць ягоная звязаная з дзяржаўнымі сакрэтамі, з такой вялікай справай, значэнне якой для бяспекі нашай краіны, для будучыні савецкай дзяржавы, нашага народа, які будуе камунізм, выключнае. Тое, што вынайшлі савецкія вучоныя пад ягоным кіраўніцтвам, дазваляе матэрыялізаваць, пераўтварыць у бачныя, практычна рэальныя вобразы як любую тэхнічную, гэтак і гуманітарную ідэю, а значыць, ажыццявіць любую, самую смелую чалавечую мару – у тым ліку мару пабудовы камуністычнага грамадства. Схіляючы галовы перад тваёй памяццю, дарагі Аляксандр Анісімавіч, мы клянёмся быць вернымі... – і пакуль бацька Ганны, член Палітбюро ЦК КПСС таварыш Васіль Дзям’янавіч Грачын кляўся над труной яе хроснага і свайго сябра быць верным ідэям ленінізму і справе камунізму, Віктар спрабаваў знайсці ў сваёй памяці хоць нешта, што казала б яму пра заслугі чалавека з іменем Аляксандр Анісімавіч, але нікога, апроч Аляксандра Анісімавіча Дзяругі, які ў дзяцінстве вучыў яго граць на акардэоне, не ўспаміналася.

“Не тутэйшы, хлопчык, у цябе характар. Як і ў бацькі твайго. Я бываў там, адкуль ён родам – дзікія рускія стэпы! Дзі-кі-я! Вось яны і ў ім, і ў табе. Ніводны беларус не зрабіў бы тое, што ты! І ты можаш кепска скончыць, – казаў яму Аляксандр Анісімавіч, калі акардэон, які абрыдла цягаць тры разы на тыдзень з дому ў музычную школу, Віктар скінуў з віядука над чыгункай пад колы цягніка. Ён паставіў акардэон, вялізны ў карычневым футарале, на шырокую парэнчу віядука, калі ўнізе йшоў таварняк, і загадаў: “Не ўпадзе – буду цягаць”. Таварняк тахкаў, грымеў пад віядукам, акардэон уздрыгваў, хістаўся, але не падаў, і Віктар, калі паказаўся хвост таварняка, крануў футарал мезенцам левай рукі...

Тры дні ён не прыходзіў дахаты. Баяўся, што бацька заб’е. На чацвёрты дзень яго злавілі. Маці глядзела на яго вачамі, поўнымі неразумення, жаху: “Ты што нарабіў?..” А бацька, калі дазнаўся, толькі хэкнуў, шклянку гарэлкі выпіўшы: “Ну ты даеш!..”

– І лёс твой, хлопчык, бачу я такі, – сумна казаў Аляксандр Анісімавіч, адзіны на ўвесь іх раённы гарадок інтэлігент, чалавек, які яго любіў, даводзіў ягоным бацькам, што ў яго талент, чаму і прадалі яны карову, каб купіць акардэон. – Ці сядзець табе ў турме, ці стаяць на сцэне. А калі не на сцэне, дык хоць на хрэсьбінах ды на хаўтурах граць. Гэта, вядома, не тое, пра што можна марыць, але ўсё ж лепш, чым турма.

Аляксандр Анісімавіч падараваў Віктару новы акардэон. Ну, не новы,

якраз стары, затое які! Не “Беларусь” маладзечанскай фабрыкі, а нямецкі трафейны “Weltmeister” з 11 рэгістрамі. “Ён твой, але няхай пакуль у мяне пабудзе. Каб ты яго не цягаў і пад цягнік не кінуў”.

Грачын скончыў развітальную прамову, труна з нябожчыкам паволі паплыла ўніз. У сутарэнні крэматорыя. Пад усю Маскву.

– На памінкі, на памінкі, – убачыўшы, што Віктар з Ганнай збочваюць да брамы з новых могілак на старыя, да Данскога манастыра, павярнуў іх да машыны Грачын. – І без пытанняў, без ніякіх пытанняў, – абняў ён Ганну, якая прапанавала Віктару прайсці да надмагілля непадалёк ад Малога сабора, куды часцяком хадзіла адна, а яго прывяла на другую ноч пасля іх першай ночы ў качагарцы.

Ён добра яе ў той ночы запомніў.

“Бачыш?.. – правяла яна Віктара паўз Малы сабор, пазалота якога тускла свяцілася пад цьмяна-туманістым месяцам, і звярнула ўлева на зарослую дарожку, пасярэдзіне якой узвышалася над астатнімі помнікамі бронзавая постаць анёла. – Крылаты геній… Нават стоячы на каленях, схілены над магілай, ён узвышаецца над усім і ўсімі. Ведаеш, чаму?.. Бо гатовы ўзляцець! Бачыш?.. – І памаўчаўшы, падвяла яго да надпісу на пастаменце. – Анёл гэты над грудком Ганны Трубяцкой. Мяне ў яе гонар назвалі. І маці мая з Трубяцкіх, і бабуля, і ўсе продкі па кудзелі, якія род свой вядуць ад унука вялікага князя літоўскага Гедыміна”.

Віктар не чакаў такога.

“Дык ты літвінка?”

“Як сказаць… Продкі збеглі з Літвы пяць стагоддзяў таму. Але…”

Яна прытулілася да яго, абняла. Моцна, парывіста. “Не забывай, што ты крылаты. Што крылатыя ўзлятаюць нават з каленяў”.

Ён не зразумеў тады, да чаго гэта яна?.. Толькі пасля…

– Я не разумею цябе, – заштурхаў Ганну ў машыну Грачын. – Гэта твой хросны. І ён памёр тры дні, а не тры стагоддзі таму.

З Данской плошчы паехалі на Нікітнікаў правулак у сталовую ЦК, дзе за памінальным сталом Віктара пасадзілі побач з Паўлам Посухам, першым камсамольскім сакратаром.

– Слухай, – адразу нахіліўся да яго Посух. – Ты з Грачыным, бачу, зноў па-свойску. Закінь за мяне слова. Сталі пагаворваць, нібы я засядзеўся ў камсамоле, пара пераводзіць. Дык каб не паслом у Манголію. – І падміргнуў. – Камсамольская прэмія не апошняя. Наперадзе іх яшчэ… Дзяржаўная, ленінская… Ты мне – я табе.

“Пасля…” – кіўнуў Віктар, хоць ні цяпер, ні пасля прасіць за Посуха не збіраўся. Падумаў толькі, калі Посух падміргнуў яму: “Усё ж маскоўскія купцы – не мінскія мальцы. Учора прададуць, а заўтра купяць”.

Посух уручаў яму прэмію. Потым, калі Віктар, ужо лаўрэат, прыехаў на сустрэчу ў Маскву, Посух запрасіў яго ў свой кабінет, дзе былі яшчэ два чалавекі. Не з камсамольцаў, камсамольскіх Віктар ведаў. “Мы тут параіліся, хто б мог прывітаць з’езд партыі ад імя савецкай моладзі? Вырашылі, што ты, – урачыста, нібы помнік адкрываў, прамовіў Посух. – І ўбачыўшы, як Віктар скрывіўся, дадаў, каб не крывіўся. – Твая кандыдатура падтрыманая ў ЦК партыі. Так што пішы выступ”.

Чамусьці першае, пра што падумаў, пачуўшы гэта, Віктар: “Хто са мной выпіць пасля гэтага захоча? Шкляр, можа, вып’е… За імперыю. А Барада – не”.

Але як адмовіцца? Калі выбралі? Калі ўжо ўзгаднілі з ЦК? І, мяркуючы па двух маўклівых таварышах у кабінеце Посуха, не толькі з ЦК узгаднілі…

Вярнуўшыся з Балгарыі з медалём за вызваленне ад асманскага рабства, ён амаль усё лета прабыў у Маскве, дзе было спякотна, душна, і Ганна часцяком вазіла яго на ўжо знаёмае лецішча – урадавую дачу Грачына. Аднойчы прыехалі, а там Грачын са старшынёй КГБ Андропавым і яшчэ двое "крамлёўскіх старцаў". І пра нешта яны, замкнуўшыся ў кабінеце гаспадара, баілі, баілі…

Калі госці раз'ехаліся, гаспадар вывеў Віктара ў сад: "Ты нікога тут не бачыў. Зразумеў?.. – І калі Віктар кіўнуў, працягнуў. – Але зараз я не пра гэта, пра гэта пазней… Помніш нашу даўнюю размову пра Ганну? Дык вось правільна ты зрабіў, што з'ехаў тады. Я таксама з ёй не жыў бы. Як з ёй жыць? Ведаеш, што яна мне сказала? Ці ты, кажа, дапаможаш Віктару заняць месца, якога ён варты, ці я скажу Брэжневу, што ты з Андропавым у змове супраць яго! І хоць я не ў змове, мне без Брэжнева адразу кердык, толькі праз яго і трымаюся, – скажа! У мяне сумневу няма, што скажа. Бо такая ж, як маці. Так што ты глядзі. Буду дапамагаць – не кандыбобернічай. Дамовіліся?.."

Віктар не сказаў, што дамовіліся, але Грачын палічыў, што так.

– Выступ напішу, – паабяцаў Віктар Посуху, калі два маўклівыя таварышы пайшлі з кабінета. – А прачытае няхай нехта іншы. Актрыса, студэнт, касманаўт… Так лепей будзе.

Камсамольскі сакратар глянуў на яго, скрывіўшыся: "Можа, і лепей, калі касманаўт. Толькі таварышу Грачыну пра гэта ты сам скажы. – І калі Віктар падняўся, каб пайсці, Посух зрабіў выгляд, нібы толькі зараз нешта вельмі важнае ўспомніў. – Ледзь не забыўся… Мне выступаць на з'ездзе. Ты ўключаны ў групу, якая піша даклад. Бюро ЦК вырашыла, што ў дакладзе трэба павіншаваць Леаніда Ільіча з юбілеем: ён 50 гадоў у партыі. А з 1923-га года, што важна, у камсамоле. І добра было б павіншаваць яго вершамі, гэта ажыўляе… Напісаць нешта маладое, баявое. Вось такое, як гэтае прывітанне «Германскаму камсамолу»", – падаў Посух аркуш паперы з надрукаваным на ім вершаваным тэкстам:

*Смело, вперёд! Разорвите оковы,*
*Сбросьте кровавые цепи царей,*
*Юным порывом, огнистой волною,*
*К новому счастью – смелей!*
*К жизни, к прекрасному солнцу свободы,*
*К светлым идеям великих творцов,*
*Смело шагайте же, юные взводы,*
*Помня заветы отцов!*
*Кровью залейте позорные троны,*
*Мысли о гнете в крови утопи...*
*Смело... Вперед... Разбивайте хоромы...*
*Жизни не нужны рабы!*

Віктар не зразумеў.

– Пры чым тут германскі камсамол?

– Ні пры чым. Але аўтар гэтага верша – 17-гадовы камсамолец Леанід Брэжнеў. Вось і напішы пра вечна маладое камсамольскае сэрца.

– Пад такое я не падпісваўся, – паклаў Віктар на стол паперу, якую Посух зноў яму падаў:

– Яшчэ ёсць варыянт перакладу.

– Якога?

– На беларускую мову. Мы на бюро падумалі, што Леаніду Ільічу прыемна было б пачуць праз столькі гадоў свой першы верш у перакладзе.

– Дык перакладзіце на нямецкую. Верш жа пра германскі камсамол.

Посух усміхнуўся – ён іншым разам усміхаўся. Але не суразмоўніку, а як бы самому сабе, і ў такія імгненні Віктар думаў, што не ўсё недзе там, глыбока ў Посуху, проста: “Ленін! Партыя! Камсамол!”

– Што ён зразумее па-нямецку? А па-беларуску, ён жа ўкраінец, будзе пазнаваць, згадваць.

– І думаць, што перакладзена на балгарскую? – успомніў Віктар банкет з медалём, якім узнагародзілі яго за вызваленне Балгарыі ад ярма Асманскай імперыі, і не чакаючы, пакуль Посух уцяміць, пра што ён, вярнуў яму паперу, паўтарыўшы: “Пад такое я не падпісваўся”, – а Посух, калі ўжо Віктар выходзіў, прайшоў услед: “Мяне таварыш Суслаў выклікае, дык так яму і перадаць? І сказаць, што ты стаў дэлегатам партыйнага з’езда, не з’яўляючыся членам партыі? Падманам падняўся на высокую партыйную трыбуну!..” – “Я на яе не шчыміўся, вы самі паклікалі!”

– Ніхто ў мяне не пытаўся: у партыі я, ці не? – пераказваў Віктар Грачыну размову з Посухам. – І я не ведаю, чаму мне выпісалі пасведчанне дэлегата! А не госця, як касманаўту Рыленку, хоць ён і камуніст!

Грачын махнуў рукой.

– З гэтым разбярэмся. Мусіць, Ганна пазавіхалася. Але хоць ты дэлегат, хоць госць, а вітанне з’езду з віншаваннем Брэжневу напішаш. І верш ягоны перакладзеш, і прачытаеш сам! Бо напісаць, каб нехта за цябе прачытаў, гэта як у латарэю выйграць і аддаць білет суседу. – А калі Віктар упёрся: “Я аддам білет”, – Грачын да болю сціснуў яму, як заўсёды рабіў, калі яны спрачаліся, плячо: “Ты спачатку яго купі”.

Білет Віктар купіў: вершы да з’езду напісаў. Віншаванне Брэжневу пісаць не стаў – трэба ж было на нечым сваім настаяць. Хоць разумеў, што ці з віншаваннем, ці без… Хоць дэлегат, хоць госць…

Гульня з самім сабой.

Даклад Посуху пісалі ўпяцёх. “Каб узнёсла – і каб як мага болей апладысментаў!” – паставіў творчую задачу Посух. І калі даклад друкавалі, Віктар паўстаўляў пасля кожнага абзаца: *(Апладысменты).* Думаў, што пажартаваў. Але Посух падумаў іначай.

Папера на імя сакратара ЦК КПСС таварыша Суслава, копію якой Віктару паказаў Грачын, называлася “Дакладная запіска”, і ў ёй дакладвалася, што “лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Віктар Маргер адмовіўся пісаць віншаванне Генеральнаму сакратару ЦК КПСС таварышу Леаніду Ільічу Брэжневу ў звязку з 50-годдзем ягонага ўступлення ў партыю, а таксама выказаўся супраць дапамогі Савецкага Саюза братняму народу Афганістана”.

– Ты разумееш, што гэта такое? – спытаў Грачын. – Гэта ўжо не проста блытаніна з тым, у партыі ты, ці не ў партыі... – і Віктар нервова, разумеючы, што гэта такое, стаў казаць пра подласць, пра данос, а Грачын цяжка паклаў руку на паперу. – Гэта інфармацыя першага сакратара ЦК камсамола. Як ты яе ні назаві. І калі пра віншаванне Брэжневу можна сказаць, што не здолеў, не ўдалося, таму і не напісаў, дык пра Афганістан што ты скажаш?

– Што гэта нагавор! Што Посух перайначыў тое, што насамрэч было.

– А што было?.. Што ты скажаш Суславу, калі я ўгавару яго прыняць цябе, бо толькі ён цяпер можа цябе ўратаваць?

– Знайду, што сказаць.

– Што?.. Ты – гэта не тое, што ты можаш сказаць. Ты – гэта тое, што пра цябе напісана. У аб'ектыўках, даведках, характарыстыках...

– І ў даносах?

– І ў даносах! Бо кожны думае: не бывае дыму без агню! Кожны рады падумаць пра іншага горш, каб пра сябе падумаць лепш. Хоць было тое, што напісана, хоць не было!..

А было вось што.

Лаўрэатаў прэміі Ленінскага камсамола сабралі ў Маскве на прагляд фільма пра амерыканцаў, якія надумалі размясціць у гарах Афганістана ракеты, каб напасці на СССР, а Генеральны сакратар ЦК КПСС таварыш Леанід Ільіч Брэжнеў разгадаў іх планы – і Савецкі Саюз дапамог братняму афганскаму народу звергнуць крывавы, праамерыканскі рэжым Аміна і звяршыць народна-дэмакратычную рэвалюцыю пад кіраўніцтвам сябра савецкага народа Кармаля. І хоць у Афганістане, куды Савецкі Саюз увёў войскі, ужо год ішла вайна, у фільме не чуваць было ніводнага стрэлу, не відаць было ніводнага забітага ці параненага, толькі мільгалі шчаслівыя твары афганскіх сялян і рабочых на “вахтах добраахвотнай працы”.

Фільм быў зняты па сцэнары Посуха.

– Ну як, Рустам?.. – падняўся Посух пасля прагляду, павярнуўшыся, як да калегі, да сцэнарыста аднаго з лепшых савецкіх фільмаў “Белае сонца пустыні”, які патыліцу пачасаў: “Па-мойму, пустыня…” – “Што?..” – зрабіў выгляд, нібы нечага не зразумеў, Посух, хоць і ён, і ўсе ўсё зразумелі, проста ніхто такога не чакаў. Посух разгубіўся, стаў шукаць падтрымкі: “А паэты што думаюць?..” – і Віктар сказаў: “Тое самае”.

– Калі ты цяпер, пасля гэтай паперы адмовішся выступіць на з'ездзе, я нічым табе не змагу дапамагчы, – схаваў у стол “дакладную запіску” Грачын. – Дый не буду дапамагаць. Тым больш, што ў папцы, якую склалі на цябе на Лубянцы, не толькі данос Посуха. І нават не толькі допісы сведкаў таго, што ты выступаў супраць дапамогі Савецкага Саюза Афганістану. Там і колішнія твае грахі. І не адны маскоўскія, але і мінскія. Андропаў сказаў мне, што ты, аказваецца, яшчэ сапляком быў у нейкай антысавецкай групоўцы. Гэта так?

Гэта было не так, і Віктар стаў даводзіць Грачыну, што гэта не так, што гэбісты, каб выслужыцца, выдумалі моладзевую антысавецкую групоўку ў Мінску, да якой ён – ніякім бокам, проста знаёмы быў з некаторымі хлопцамі, якіх, як антысаветчыкаў, судзілі, двух нават пасадзілі, на што Грачын рукамі развёў: “Ну, брат, калі пасадзілі… Думай”.

А што тут думаць?.. Пачыналіся 80-я. Да канца эпохі абвешанага зоркамі і анекдотамі Брэжнева заставаліся чатыры гады. Да ягонай смерці – усяго год. Гарбачоў ужо быў сакратаром ЦК. У краіне блукаў прывід таго, што пасля назвалася перабудовай. І ў гэтакі час вітаць з'езд партыі?..

– Я не выступіў яшчэ, а мяне ўжо дасталі, – жаліўся ён Ганне, падазраючы, што гэта яна як з ягоным выступам на Шыпцы пазавіхалася, гэтак і з выступам на з'ездзе. Тая бажылася, што не, і аднойчы не вытрымала: “А ты прапануй каму-небудзь з тых, хто дастае, замест цябе выступіць. Пабачыш, як схопяцца!.. Ты ведаеш, да каго падобны? Да прыдурка, якому казырная карта прыйшла, а ён думае, ці не скінуць яе?”

Тое самае казаў Шкляр, з якім Ганна, мусіць, згаварылася, і ці ён паўтараў яе словы, ці яна ягоныя.

– Мне ж адслужыць прапанавалі, Алег, – здзівіўся Віктар, пачуўшы ад Шкляра пра казырную карту, якая прыйшла прыдурку. – За прэмію.

– Дык і адслужы! Як Пушкін камер-юнкерам. Ён, між іншым, у цара ўсё браў, што той даваў. І не рабіў выгляд, нібы гэта прыніжае яго.

– Адно – у цара, іншае…

– Што іншае?.. У Расіі не бывае нічога іншага! Толькі цар.

Бадай што так.

Калі Ганна пазнаёміла яго з Грачыным, дык па першым уражанні той здаўся яму чалавекам са сталёвым характарам, які пра ўсё мае ўласнае меркаванне, прымае самастойныя рашэнні. Але ад размовы да размовы, ад сустрэчы да сустрэчы як сам-насам з ім, гэтак і ў кампаніі з ягонымі хаўруснікамі было ўсё відавочней, што ўплыў, які мелі яны ў савецкім кіраўніцтве, вызначаўся не іх асабістымі якасцямі і пасадай, якую займалі яны ў партыйнай іерархіі, а набліжанасцю да першай асобы – і тут паперадзе ўсіх, адразу за "царом" быў Суслаў, які і на памінках, дзе Брэжнева не было, яго прадстаўляў.

– Леанід любіў Аляксандра Анісімавіча, – пачаў Суслаў, і Віктар упершыню пачуў, каб нехта з крамлёўцаў публічна назваў Брэжнева так па-свойску, проста Леанідам. – І перш за ўсё ад яго я хачу перадаць спачуванні родным і блізкім. "Перадайце ім, – папрасіў ён, – што іх муж і бацька быў сапраўдным савецкім патрыётам, вялікім грамадзянінам…"

– Дзякуй, дзякуй… – ускочыла маладая, у чорнай хустачцы, кабеціна, а сталага веку жанчына побач з ёй, апранутая ў гэткія строі, быццам на самадзейны канцэрт балалаечнікаў у парку Горкага прыйшла, сказала нібы сама сабе, але так, што ўсе пачулі: "Сапраўдны п'яніца ён быў. П'яніца і бабнік…" – і кабеціна ў чорнай хустачцы заплакала, сядаючы: "Ма-а-ма…"

– З улікам заслуг Аляксандра Анісімавіча перад савецкай дзяржавай, – доўжыў, нібыта не пачуў нічога, Суслаў, – дзяржава бярэ на сябе ўсе выдаткі па пахаванні і ўвекавечанні памяці, а таксама абавязкі па матэрыяльным забеспячэнні сям'і, удавы і…

– Колькі? – спытала ўдава, не пачуць якую ўжо не выпадала, і Суслаў, дагаварыўшы: "І дачкі…" – разгублена сеў. Узнікла паўза, ніякаватасць, хаўтуры ператвараліся ў немаведама што – і тут побач з Віктарам рэзка падняўся Посух.

– Паважаныя таварышы! Перш за ўсё ад імя ўсёй савецкай моладзі дазвольце пажадаць здароўя Генеральнаму сакратару ЦК КПСС таварышу Леаніду Ільічу Брэжневу, – пачаў камсамольскі сакратар, і хоць за памінальным сталом пажаданне гэтае гучала дзіўнавата, але пасля рэплік удавы нікому яно дзіўным не здалося, твары ва ўсіх былі такія, нібы здароўя Генеральнаму сакратару ЦК КПСС можна жадаць і ў труне. – Уся савецкая моладзь, акрыленая грандыёзнымі планамі будаўніцтва камунізма, акрэсленымі ў дакладзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева, гатовая да працоўных подзвігаў і абароны заваёў вялікага Кастрычніка, мірнай працы савецкага народа. На змену старэйшаму пакаленню прыходзіць пакаленне юнае… – зноў не зусім да месца сказаў Посух і, зірнуўшы на крамлёўскіх старцаў, сам зразумеў гэта, перавёў стрэлкі на Віктара. – Як напісаў у прывітальным слове з'езду прысутны тут малады беларускі паэт Віктар Маргер, "за счастье не окончена борьба, и

мы готовы и к труду, и к бою, Отечества великая судьба для всех нас стала личною судьбою!..”

Выйшла, што словы, напісаныя Віктарам для выступу на з’ездзе КПСС, упершыню прагучалі на памінках, і пазней, калі Суслаў, Брэжнеў, Андропаў, Чарненка, тыя людзі, якія сядзелі ў прэзідыуме з’езда, адзін за адным клаліся ў зямлю каля крамлёўскай сцяны, ён усё часцей згадваў тыя памінкі, на якіх быў яму знак, а ён не рызыкнуў яго зразумець.

– Што ж, някепска… – прыўзняў галаву над сталом, за якім сядзеў паныла, Суслаў. – Думаю, Аляксандру Анісімавічу гэта спадабалася б. – І ўстаў, павярнуўшыся да ўдавы. – Як вам, Леакадзія Цэзараўна?

Леакадзіі Цэзараўне было ніяк.

– Дык колькі?.. – не адступала ад свайго ўдава, бачачы, што ўслед за Суславым усе пачалі падымацца, і Грачын сказаў, падышоўшы да яе: “Ну ты даеш, Лёдзя…” – на што тая ўзялася рукі ў бокі: “Не болей, чым твая Ганя давала!”

– Леакадзія Цэзараўна… – пахітаў галавой Суслаў. – Леакадзія Цэзараўна… – і тая грудзьмі на яго пайшла: “Што?.. Ведаю я вас. Адразу не возьмеш – потым не вырвеш!” – а дачка зноў працягнула бездапаможна: “Ма-а-ма…”

Худы, як салома, Суслаў, збіты з ног грудзямі Леакадзіі Цэзараўны, сеў і, павярнуўшыся да Грачына, нечакана спакойна прапанаваў:

– А давай мы з табой з’ядзім што-небудзь, Вася. Сталін, калі помніш, на памінках заўсёды еў. Казаў: колькі жуеш, столькі жывеш.

## IX

– Вы ешче, ешче, – падліваў Купалу ўжо трэці апалонік Сталін. – Бачыце, які чырвоны. Я люблю, калі такі чырвоны. У белай талерцы... Вы колькі не елі?

– Дні тры. Як памёр, так і не кармілі, – налягаў Купала на боршч, які не надта любіў, але Сталін сказаў, што нічога болей няма. Маўляў, вайна, і жонка захварэла.

– Дык яна ж застрэлілася дзесяць год таму, паклаў лыжку Купала. – Як яна цяпер магла захварэць?

Камісар Мяркулаў зірнуў на яго няўхвальна. Маўляў, гэта асабістае, сямейнае. Думай, пра што пытаеш.

– Ажывілі, – сказаў камісар незадаволена. – Як і вас.

Ён паглядзеў на Сталіна, які згодна кіўнуў: маўляў, так, ажывілі. І пацікавіўся:

– А вы чаму без жонкі? Застрэлілася? Ці так памерла?

Купала хацеў перахрысціцца, пальцы склаў, але ўспомніў, хто перад ім, і пацёр складзенымі пальцамі лоб.

– Нічога, можна, – паблажліва сказаў Сталін. – Я некалі ў семінарыі вучыўся... Дык памерла?

Купала перахрысціўся.

– Не, жывая. Гэта я памёр, таварыш Сталін. Забілі мяне, таму яна не са мной.

Мяркулаў зноў зрабіў незадаволены выгляд.

– Вас не забілі. Вас ажывілі. А што да вашай жонкі, дык яна ў Казані. Таму не з вамі.

Купала задумаўся. Відаць было, што нейкія канцы з нейкімі канцамі ў ягонай галаве не сходзяцца.

– А за што?

– Што за што?.. За што ваша жонка ў Казані?

– Не. За што мяне ажывілі?

– Бо вы вялікі беларускі паэт.

– А нашто вам вялікі беларускі паэт? Каб яшчэ рускі...

Мяркулаў рукі ўскінуў.

– Ды якая розніца? Савецкі! І не зрабілі нічога шкоднага.

– Ад беларускіх паэтаў увогуле ніякай шкоды, – стаў прыбіраць са стала Сталін. – Зрэшты, як і...

“Карысці”, – хацеў ён, мусібыць, дагаварыць, але не дагаварыў, толькі махнуў рукой, выпусціўшы і ледзь не пабіўшы талерку, якую падхапіў Мяркулаў, спрыт якога здзівіў Купалу: гэтакі жыватасты, а пад стол паспеў скочыць і пад сталом злавіць.

– Як, зрэшты, і ад рускіх, – кіўком пахваліў камісара Сталін, сеў да стала і пачаў набіваць люльку. – Вось паслухайце, што адзін рускі паэт прыдумаў: “Хачу назваць яго не Сталін – Джугашвілі!” Што ён хацеў сказаць?.. Калі я Джугашвілі быў, сам лепш пісаў.

– Ды ён не рускі, – памыў талерку і вярнуўся Мяркулаў. – Габрэй.

– Габрэй... – пыхнуў люлькай Сталін. – Дык вось да нацыянальнага пытання. Калі б, скажам, Мяркулаў размаўляў на ідышы, я гаварыў па-грузінску, а вы па-беларуску, мы б адзін аднаго зразумелі? Не. А гаворым на адной мове – і разумеем... Дык вось: каб усімі савецкімі народамі, як адным народам, будаваць сацыялізм, нам патрэбная адна мова. – І тут Сталін, сказаўшы нешта па-грузінску, хітра глянуў. – Так?

– Выбачайце, – не зразумеў Купала. – Што – так?..

– Бачыце, вы не разумееце. Адзін Мяркулаў мяне разумее, – павярнуўся Сталін да камісара. – Ты разумееш мяне, Усевалад?

– Не зусім, таварыш Сталін, – асцярожна адказаў Мяркулаў. – Чаму я павінен размаўляць на ідышы, калі я грузін? – І ўбачыўшы, як Сталін усміхнуўся, асмялеў. – І яшчэ... У сорак першым я вас цалкам разумеў. А ў сорак другім, калі адправілі ў Куйбышаў працаваць...

– Ну й адправіў у Куйбышаў працаваць, – паморшчыўся і пастукаў люлькай аб край попельніцы Сталін. – Не ў Беларусь жа партызаніць паслаў. – А вы партызанілі?.. – зноў хітравата глянуў ён на Купалу, і той дастаў з левай унутранай кішэні пінжака, дзе ляжалі харчовыя карткі і пасведчанне сябра Саюза савецкіх пісьменнікаў, верш-улётку “Беларускія сыны”.

– Не. Я пісаў. Пачытайце. Гэта пра партызанаў.

Сталін падняўся, перайшоў ад абедзеннага стала да пісьмовага, начапіў акуляры (ён, аказваецца, акуляры насіць!) і пачаў чытаць. Спачатку запінаючыся, а пасля з усё большым імпэтам, з цудоўным беларускім вымаўленнем, без ніякага, што ў ягонай рускай мове было чуваць, акцэнту:

Па беларускім бітым шляху,
Б’ючы ў кайданавы званы,
Брыдзе чужынец, а зь ім побач
Хто?
– Беларускія сыны!

У беларускім вольным краі,
Зь ярэмнай збрыўшы стараны,
Царыць чужынец, а ў паслугах
Хто?
        – Беларускія сыны!

Над беларускай беднай хатай,
Як полка вырвана з труны,
Вісіць чужы сьцяг, а трымае
Хто?
        – Беларускія сыны!

У Беларусі сьпеў чужацкі,
Як над касьцямі груганы,
Крумцяць чужынцы, а іх складам
Хто?
        – Беларускія сыны!

На беларускім буйным полі
Зь вясны да новае вясны
Растуць крыжы, а пад крыжамі
Хто?
        – Беларускія сыны!

Прычытаў, як песню праспяваў. І спытаў, прачытаўшы:

– Вы не будзеце супраць, таварыш Купала, калі я гэты верш сабе на памяць пакіну?..

“Калі б тут з кінахронікі хто-небудзь быў, дык беларускае нацыянальнае пытанне было б вырашанае раз і назаўсёды! – падумаў Купала. – Каб нехта зняў і ўсяму свету паказаў, як па-беларуску прамаўляе Сталін! Як правадыру ўсё болей падабаецца інтанацыя верша! Як пад самы канец ён ускідвае рукі, выдыхаючы: «Растуць крыжы, а пад крыжамі Хто? Беларускія сыны!» – і так замаўкае, гэтак сцішваецца, нібы вось-вось закрычыць ад болю за Айчыну і абудзіць, з вечнага сну падыме беларускіх сыноў...”

Абудзіўся камісар. Зірнуўшы на Сталіна, які стаяў крыжам, нібы чакаючы апладысментаў, Мяркулаў падышоў да Купалы і спытаў, з пятаў на наскі і з наскоў на пяты кіўнуўшыся:

– Вы што сабе дазваляеце? З каго надумалі жартаваць? Якія тут партызаны? Нацыяналісты – партызаны?

Сталін, не дачакаўшыся апладысментаў, апусціў рукі.

– Што?.. Дык чужынцы – не немцы? Рускія?

– Не толькі, – чамусьці не спалохаўся і сам здзівіўся з гэтага Купала. – Немцы таксама. І палякі...

Мяркулаў крывёў наліўся – у ім хапала крыві.

– А ну ўстаць! – гэтак ухапіў ён за каўнер Купалу, нібы яшчэ раз сабраўся скінуць у лесвічны пралёт, пацягнуў з кабінета, але Сталін спыніў яго.

– Ты не бойся, Усевалад. Я цябе не расстраляю. Хоць за тое, што ты дазваляеш сабе пры таварышы Сталіне ў адносінах да лаўрэата Сталінскай прэміі, можна й расстраляць. Правільна я кажу, таварыш Купала?

Купала не любіў расстрэлаў, таму прамаўчаў.

Сталін глянуў на Мяркулава, той выцягнуўся ў струнку: “Правільна, таварыш Сталін!” – і Купала ўпершыню з таго моманту, як зляцеў на мармуровую падлогу гатэля “Масква”, адчуў, як добра быць мёртвым.

– І што палякі, правільна, – вытрымаўшы паўзу, каб Мяркулаў яшчэ павыцягваўся, спакойна пыхнуў люлькай Сталін. – І правільна, што немцы. А што рускія – не. Няправільна. Рускі народ – вялікі народ, таварыш Купала. Вось маглі б немцаў перамагчы беларусы? Ці хай нават грузіны? Не. А рускія перамаглі. Яны нават Украіну могуць заваяваць, калі захочуць.

– А навошта ім заваёўваць Украіну?

– Як навошта? Бо яны рускія. Не беларусы і не грузіны. Вам не трэба? І мне не трэба. А рускім трэба. Правільна, Усевалад?

Мяркулаў стаяў, выцягваючыся, і лыпаў вачыма.

– Што ты разлыпаўся? – не дачакаўся адказу Сталін. – Крым наш, ці не наш?..

Сілячыся ўцяміць, пра што ў яго пытаюцца, камісар перастаў лыпаць, заплюшчыў вочы, і тое, што ён бачыў у цемры сваёй, не толькі на ягоным твары, на ўсім ім шрыфтам газеты "Правда" было напісана.

– Ён жа не ведае, таварыш Сталін, што праз 70 гадоў рускія на ўкраінцаў нападуць, – засмяяўся Купала. – Яму гэта і ў дурным сне не прысніцца!

Сталін узняў люльку цыбуком у столь.

– І нам не прысніцца!.. І мы не ведаем! Але прадбачым! А што дае нам магчымасць прадбачыць гістарычную хаду падзей? Вялікае вучэнне марксізму-ленінізму дае нам такую магчымасць! Правільна, Усевалад?

– І сталінізму... – зусім ужо не цямячы, як яму на ўсё гэта рэагаваць, каб зратавацца, прашаптаў, Мяркулаў, на што Купала запярэчыў: "Не. Сталінізм падчас вайны Расіі з Украінай ужо цалкам будзе дыскрэдытаваны, спроба ягонай рэанімацыі не ўдасца..." – і Сталін цяжка паглядзеў на камісара:

– Чуў?.. – І пацямнеў тварам. – Ты чаго заплюшчыўся? Праз каго будзе дыскрэдытаваны сталінізм?.. Ты скажаш, што праз яго? – тыцнуў ён цыбуком люлькі ў бок Купалы. – Праз тое, што ён кепскія вершы таварышу Сталіну прысвячаў? Дрындушкі?.. А я скажу, што не. Праз гэтакіх заплюшчаных, праз такіх, як ты, Усевалад, сталінізм будзе дыскрэдытаваны. Праз тых кіраўнікоў народнага камісарыята ўнутраных спраў, якія замест таго, каб справай займацца, той вялікай дзяржаўнай справай, якою даручыла ім партыя, даручыў таварыш Сталін – п'есы пішуць! Хто табе сказаў п'есы пісаць?..

Сталін узяў ёршык, прачысціў цыбук пагаслай люлькі, зноў паказаў ім на Купалу.

– Хіба гэта яму даручыла партыя, даручыў таварыш Сталін кіраваць народным камісарыятам унутраных спраў? Не. Таму ён і піша. Вершы, п'есы. Займаецца сваёй справай, а не тваёй. А ты займаешся ягонай... Ведаеце, чым ён займаецца? – даверліва, як са сваім чалавекам, падзяліўся тым, што набалела, Сталін. – Падыходзіць да мяне на прыёме ў Крамлі адна актрыса, – падышоў ён да Купалы, паказваючы, як падышла да яго актрыса: "Ах, таварыш Сталін! Як вы ўмееце падбіраць кадры! Ах, які таварыш Мяркулаў геніяльны кіраўнік! Ах, які ён драматург, якія п'есы піша!.." Я падумаў, што яна пра крымінальную справу, якую напісаў наш "драматург", каб яе мужа пасадзіць. Але не! Яна...

Сталін вярнуўся да стала, узяў запалкі, раскурыў рэшту тытуню ў люльцы.

– Яна, актрыса тая, пра п'есу, а не пра справу. Дык у мяне ёсць іншыя людзі для п'ес, Усевалад. Я цябе не для таго з Грузіі ўзяў, каб ты мне ў Маскве п'есы пісаў. Для гэтага ў мяне Горкі ёсць, якога я ўзяў з Італіі.

Купала хоць і адчуваў, што зараз у размову лепш не ўлазіць, але не стрываў:

– Горкі памёр, таварыш Сталін. І кажуць...

Сталін люлькай паветра рассек.

– І кажуць, што я атруціў яго?.. Горкі – буравеснік рэвалюцыі! Як я мог атруціць буравесніка?

Купала нарадзіўся і жыў не ў марской, а ў балоцістай мясцовасці. Ён ніколі не бачыў буравеснікаў і не ведаў, як іх можна атруціць. Таму й сказаў: "Не ведаю", – а Сталін, мусібыць, падумаў, што Купала ўсё ж яго падазрае, і ў вачах ягоных мільгнула нешта буравеснае.

– Калі вораг не здаецца, яго знішчаюць! Гэта я напісаў? Гэта Горкі напісаў – і няхай не крыўдуе.

"Праўда што..." – падумаў Купала, і тут жа праз тое, што так падумаў, яму стала ніякавата: усё ж Горкі яго, хоць і не аднаго, а на пару з Якубам Коласам некалі пахваліў. Ёсць, сказаў, у Беларусі Колас і Купала, някепскія хлопцы. І ўспомніўшы гэта, Купала прагаварыў, як бы абараняючы Горкага:

– Тады і вы не крыўдуйце. 5 сакавіка 1953 года вас знішчаць.

Круглявы твар Мяркулава ў блін расплюшчыўся – яго на плямы пабіла. А Сталін зноў здзівіў: успрыняў словы Купалы спакойна. Пыхнуўшы люлькай, спытаў:

– Хто знішчыць?.. – І паказаў на Мяркулава. – Гэты?

Мяркулава можна было б, вядома, даканаць, каб ведаў, як паэтам у зубы біць, але Купала не меў гэбісцкіх звычак.

– Не. Берыя.

Камісар так выдыхнуў, што, здавалася, больш не ўдыхне.

– Сукін сын! – сеў за стол і адкінуўся на спінку крэсла Сталін. – Грузін грузіна! – І тут жа нахіліўся ўперад, да Купалы, глыбока зазірнуў у вочы. – Вось скажыце мне, таварыш Купала: беларуса, які ўзняўся на такую вышыню, што стаў правадыром усіх часоў і народаў, мог бы знішчыць беларус?..

Купала адвёў позірк.

– Пайду я, бадай, у Дом літаратара. А то няёмка неяк: без мяне мяне хаваюць, – падняўся ён, каб пайсці, а Мяркулаў, які ўсё ж выдыхнуў, спыніў яго, выслужваючыся: "Вам хто дазволіў?.."

– Няхай ідзе, – махнуў рукой Сталін. – Калі не хоча ведаць, што далей будзе.

Купала, пастаяўшы вочы ў вочы з Мяркулавым і ўбачыўшы, што страх з іх так і не выйшаў, застаўся на дне, зноў сеў.

– Я ведаю, што будзе далей. Па смерці адкрываецца ўсё, што было і будзе ў жыцці. І я мог бы вам пра ўсё расказаць, але стаміўся...

Ён памаўчаў.

– Я вельмі стаміўся, таварыш Сталін. Ад вас, ад яго, – кіўнуў ён на камісара. – Ад здрадлівых і верных сяброў, ад жонкі і палюбоўніц, якіх да мяне прыстаўлялі, каб яны мяне кахалі. І ў той вечар адна прыйшла...

– З дома на Кацельніцкай? – нібы абыякава спытаў Сталін, зноў пераключыўшыся на амаль сяброўскі тон, і Купала ў каторы раз здзівіўся, як мяняюцца мужчыны, калі пераходзяць на размовы пра жанчын. Можа, ім ні пра што болей і не размаўляць ніколі?..

– Так, з Кацельніцкай, – кіўнуў ён, разумеючы, што Сталін і без яго гэта ведае. – І між намі ў той вечар... Ды яно не важна, што было між намі. Ад яе я таксама стаміўся, але...

Ён пакутліва пацёр скроні, відавочна не жадаючы доўжыць амурную размову.

– Але найбольш я стаміўся ад беларусаў, якія гатовыя быць кім заўгодна, толькі не беларусамі. Невыносна я ад іх стаміўся. Насмерць. Што ні казаў, што ні рабіў... Не хочуць.

– Хіба? – здзівіўся Сталін. – А што ж тады мне дакладваюць пра арганізацыі вашы нацдэмаўскія... – уперыўся ён у Мяркулава, каб спытаць нешта, але зноў перавёў позірк на Купалу. – А што ім трэба, каб яны захацелі? Якога ражна?

Купала скінуў рукі са скроняў.

– Думаю, справа тут не ў тым, *што* трэба, а ў тым, *хто*... – І ён гэтаксама ўперыўся ў Сталіна, як той хвіліну таму ў Мяркулава. – Сталін тут патрэбны. Сталін, які б захацеў стаць беларусам.

Сталін задумаўся. Раз зацягнуўся люлькай, другі. Пругка ўстаў, прайшоўся. Зноў пыхнуў дымам... Нарэшце ўзняў рукі, нібы здаючыся.

– Не. Дзякуй. Мне падабаюцца беларусы, але не. Я грузін. – І раптам сказаў, вусы пагладзіўшы. – Хіба што Усевалад... Як ты на гэта, Усевалад? Гэта ж лепш, чым у Куйбышаў?

Мяркулаў, узрадаваны, што пакуль яго не расстраляюць, хлёстка ляснуў абцасамі.

– Як загадаеце, таварыш Сталін! Гатовы выканаць любое...

Сталін паморшчыўся.

– Ды што ты заляскаў... Як можна грузіну загадаць стаць беларусам? Ці хай нават рускаму. Гэта ж толькі па поклічы сэрца. Ты адчуваеш покліч?

Відаць было, што Мяркулаў не ведае, адчуваць яму покліч сэрца, ці не. З аднаго боку, трэба адчуваць, а з іншага, як будзе расцэнена тое, што ён прадасць у сабе грузіна? Вось жа Сталін у сабе грузіна не прадаў. Але ён грузін і Сталін, а Мяркулаў – толькі грузін. І тое напалову.

– Няма ў яго сэрца, – выручыў камісара Купала. – Дык які можа быць покліч?

Сталін прыклаў далонь да грудзей, сціснуў яе і расціснуў, сціснуў і расціснуў...

– Няма дык няма. Для чэкіста яно й не патрэбнае. Чэкіст без сэрца – ідэальны чэкіст. Як Дзяржынскі. Дарэчы, ён беларус, ці паляк?

– Паляк, таварыш Сталін, – выцягнуўся Мяркулаў, і Купала не стаў змагацца за тое, каб запісаць першага савецкага чэкіста ў беларусы: няхай будзе палякам.

Сталін сказаў з жалем:

– Шкада. А то ажывілі б і паставілі. Ён бы справіўся... – І раптам спрытна крутнуўся на адной назе. – А што, калі мы вас паставім, таварыш Купала?

Купала не зразумеў.

– Куды?

– На першага сакратара ЦК кампартыі Беларусі. На месца Панцеляймона Панамарэнкі! Вы ж былі некалі намеснікам старшыні Беларускага нацыянальнага камітэта? Па сутнасці адным з кіраўнікоў часовага ўрада! – крутнуўся Сталін на той жа назе, толькі ў зваротны бок. – Дапускае такое рашэнне кадравага пытання член Усесаюзнага ЦК таварыш Мяркулаў? І як ён думае: апраўдае таварыш Купала давер партыі?

Па тым, як успрыняў гэтую прапанову камісар, відаць было, што яму прасцей застрэліцца, чым такое дапусціць.

– Я думаю, што таварыш Панамарэнка цалкам апраўдвае давер партыі, таварыш Сталін. І не зусім разумею, навошта нам...

Сталін спыніў яго нецярпліва.

– Як гэта не разумееце? Панамарэнка – хто? Украінец! Значыць, не любіць рускіх. І можа ваяваць з Расіяй. А беларус можа ваяваць з Расіяй?.. Вось вы, таварыш Купала, можаце з Расіяй ваяваць?

– Не, – сказаў Купала. – Не магу. Я не ваеннаабавязаны.

– І беспартыйны ён, таварыш Сталін... – каўтнуў адамавым яблыкам пад тлустым падбароддзем камісар, на што Сталін плячыма пацепнуў.

– Ну і што? Прымем! Вось зараз я напішу рэкамендацыю, ты напішаш... – прайшоў ён да пісьмовага стала, каля якога спыніўся, пачасаў цыбуком люлькі за вухам. – Але трэба тры рэкамендацыі... Панамарэнку пазвані.

Мяркулаў, які ведаў, што ў Сталіна даўнія, яшчэ з грамадзянскай вайны прыязныя адносіны да Панамарэнкі, сказаў нерашуча:

– Рэкамендацыі, думаю, дастаткова адной вашай...

– Вось! – раскінуў рукі чамусьці не да Мяркулава, а да Купалы Сталін. – Будзем замест трох адну рэкамендацыю даваць, партыйны статут парушаць, савецкі закон парушаць, самавольна арыштоўваць, страляць, а потым казаць: таварыш Сталін суворы. А гэта не Сталін суворы, – пагразіў ён пальцам камісару. – Гэта закон. Dura lex, sed lex. – І націснуў кнопку на стале. – Таварыш Паскробышаў, дзе там ваш пісар? Давайце яго сюды!..

## 10

– Давай збірайся! – з’явіўся на парозе качагаркі, у якой Віктар падрабляў невялікія, але ўсё ж грошы ў дадатак да стыпендыі, Алег Шкляр, які ўгаварыў яго парыбачыць на Кольскай паўвыспе, і праз дзень яны пілі гарбату ў цягніку Масква-Мурманск, дзе Віктар паўдарогі шкадаваў, што згадзіўся паехаць, а Шкляр паўдарогі даводзіў яму, што адна яшчэ не вылаўленая ім сёмга вартая ўсіх ягоных яшчэ не напісаных паэм… Потым біла па твары прыбярэжнае кустоўе, боты былі поўныя вады, парэзаныя лёскай рукі зводзіла холадам, пальцы ўжо не трымалі цвічок шпулькі, калі Віктар спрабаваў падцягнуць лёску, а з ёй і рыбу, якая пасля таго як двойчы не змагла ўзяць парог, адчула, што стамілася, вырашыла перадыхнуць пад парогам, яшчэ не ведаючы, не адчуваючы, што гэта апошні яе перадых, а ён гэта ўжо ведаў, адчуваў яе стомленасць, і дрыжыкі білі яго не толькі праз холад, а яшчэ і праз тое, што сёмгу, гэтую срэбную субмарыну вагою пад пуд, не меней, якая вымучыла яго, змушаючы то скакаць па слізкіх камянях, то кідацца ў ледзяную ваду, ён усё ж вылавіў, гэтую пружыністую сілу, якая ўспеньвала хуткаплынную раку, адолеў, але дрыготка-салодкае адчуванне перамогі прыйшло не тады, калі ўрэшце выцягнуў рыбіну на бераг, а ў той міг, калі знясілена сеўшы каля яе на тапляк, убачыў твар Шкляра, тонкі нос якога нервова торгаўся, а вочы пазелянелі ад зайздрасці, што перарастала ў нянавісць, бо першую, ды яшчэ гэткай неверагоднай сілы і прыгажосці рыбіну на Умбе мог узяць толькі ён, любімец вады, любімец ракі Алег Шкляр – і больш ніхто.

“Тонкі пах вады злучае мяне з пачаткам жыцця...” – прамаўляў ён, ведаючы, што нехта, як пастушок за сляпым Гамерам, гэта за ім запіша, а тут толькі і змог сказаць: “Дурням шанцуе”.

Права першай рыбы было для Шкляра як права першай ночы для яко-

га-небудзь сярэднявечнага герцага. Выйграўшы гэтае першынство, Віктар паквапіўся на тое, што яму не належала і чаго даравацъ яму Шкляр не мог. Потым кожны раз, калі ўдавалася выйграць, стаць першым, калі прыходзіла перамога, Віктару ўспаміналася тая срэбная рыбіна з зялёнымі вачамі Шкляра.

Парыбачыць на Умбе, на Кольскай паўвыспе яны сабраліся ў кастрычніку. Віктар падаў у дэканат заяву на творчы адпачынак, сказаў дэкану, куды і з кім едзе, і той даў яму 25 рублёў. “Гэта на цягнік назад, калі не вытрываеш. Жывым вяртайся. А не вернешся жывым, выключым”.

У літінстытуце ўсе ведалі, што дэкан аднойчы з’ездзіў са Шклярам на рыбалку. Не змог вытрываць, але грошай, каб раней вярнуцца, не меў. Таму пайшоў, як распавядалі гэтую легендарную гісторыю студэнты, пехатой. З Мурманска да Масквы.

Алег не надта сумаваў праз тое, што нехта ад яго сыходзіў, як і не асабліва радаваўся, калі хтосьці ўваходзіў у ягонае жыццё, бо ведаў, што ні ў кога няма нічога, апроч адзіноты.

Магчыма, і Віктар не вытрываў бы халерычны, увесь у прыдзірках, як дзядоўнік у калючках, характар Шкляра, але ў першую ж ноч над Кольскай паўвыспай, над іх лесніčоўкай на беразе Умбы паўстала Паўночнае ззянне. Віктар уявіць не мог, што недзе на зямлі, а тым больш на Поўначы можна ўбачыць гэткую касмічную феерыю. “Здаецца, Бог падбірае фарбы для карціны Сусвету”, – сказаў ён Шкляру, які хоць і не верыў у Бога, але быў не супраць пра яго пагаварыць, таму згодна кіўнуў: “Так, Бог – мастак... – І дадаў, проста не мог не дадаць, бо гэткае ў яго, у Шкляра, нутро. – Калі казаць банальнасці”.

Пасля Віктар не помніў, ці пакрыўдзіўся, бо ў тую ноч, праведзеную з Алегам каля вогнішча на беразе ракі пад плынню ззяючых усімі фарбамі свету нябёсаў, адчуў тое, пра што раней пісаў, не адчуваючы, пра што піша. Ён адчуў Вечнасць.

Вечна цякла вада. Вечна гарэў агонь. Вечна маўчалі камяні. І ў гэтым вечным маўчанні яны дамовіліся ніколі не паміраць.

– Але ў нас цяпер праблема, – неадрыўна гледзячы ў неба, сказаў Віктар. – Як вечна жыць так, каб не было сорамна перад гэтай прыгажосцю? Перад Богам... Калі нават у нявечным жыцці... – і Шкляр перапыніў яго: “Для мяне праблемы няма”.

Маўляў, ён не вернік.

– Тады перад людзьмі.

– Перад якімі?

– Усімі.

– Якімі ўсімі? Перад племенем караваеў з Новай Гвінеі? Перад Саюзам пісьменнікаў СССР?.. Дык яны людаеды.

– Хто людаеды? Караваі?

– Усе.

Алег ніколі не меў асаблівага піетэту да чалавецтва. Казаў, што людзі на зямлі – гэта птушка, рыба і звер.

– Ну, некаму ж перад некім мусіць быць сорамна. Мне перад табой, табе перада мной...

– А-а-а... – працягнуў Шкляр. – Сумленне заела, – схадзіў ён у лесніčоўку, прынёс яйкі, паклаў іх у зроблены з нямецкай каскі кацялок, павесіў над агнём. – Рыбу маю не лавіў бы – і сорамна не было б.

Прамовіў ён гэта ўжо без зялёнай зайздрасці і злосці, бо рыбу сваю паспеў узяць. Не гэткую, якую ўзяў Віктар, але і не такую, каб перад егерам Максімавым, які прывёз іх у леснічоўку, сорамна было.

– Глядзі, – падняў Алег, каб падкінуць у вогнішча, бярозавы кругляк. – Кольцы на спіле. На ўроках батанікі нам казалі, што гэтак, кольцамі, дрэва лічыць свае гады. Але навошта дрэву гады лічыць, калі яно не ведае, не памятае, што памрэ? А калі ведае, дык для чаго яму ведаць тое, пра што ніхто яго не спытае?.. Ні для чаго. Тады што гэта такое?.. Кольцы сусвету – вось што ў стрыжні дрэва! І так ва ўсіх, ва ўсім. Ува мне і ў табе, у рыбе – сусвет у кожным з нас. Цалкам. Увесь. І ён адзін – і не адзін, як кольцы спіралі. Вось што такое Бог. Я гэта ведаю, таму не дапытваю яго, як жыць. І не чакаю ад яго адказу. Мяне не раздражняе тое, што ён маўчыць.

На шкарлупіне аднаго яйка, што выступала над вадой у кацялку, як маленечкая выспа, мітусіўся, зваліўшыся з кругляка, муравей. Можа, сарваўся, а можа быць, сам скочыў, каб не згарэць. Вада ўжо ўскіпала – у мураша не было шанцаў. Шкляр узяў трэску, прыставіў да шкарлупіны – муравей па трэсцы ўзбег на палец...

Адзін Сусвет быў уратаваны.

Мы ўсе на пальцы Бога.

– Ты геній! – крычаў Шкляр егеру Максімаву, які час ад часу Богу тэлефанаваў.

У леснічоўцы вісеў на сцяне тэлефон. Звычайны вулічны аўтамат, які Максімаў прыцягнуў па п’янцы з Мурманску, вырваўшы яго з тэлефоннай будкі на вакзале. Тэлефон ні да чаго не быў падключаны – тут не было да чаго яго падключыць. Егер Максімаў кідаў у шчыліну манетапрыёмніка дзве капейкі, круціў дыск, набіраў нумар і слухаў бясконцае маўчанне, што плыло над Божым шляхам, над лесам і ракой, над леснічоўкай... Гадзінамі слухаў...

– Пагаварылі, – казаў ён, чапляючы трубку і забіраючы дзве капейкі. – Плаціць, Бог сказаў, не трэба.

“Нешта было яшчэ да Сусвету... – слухаючы маўчанне Максімава, ціха казаў Шкляр. – І пытаў егера: – Як ты думаеш: што магло быць да Бога?..”

Гэтага Максімаў не ведаў. І запісваў тое, што казаў Шкляр, характар якога не замінаў яму быць паэтам. Сапраўдным, хоць тыя, хто Шкляру зайздросціў, пісалі, што ўсе ягоныя вершы – для рубрыкі “На рэках і азёрах” у часопісах па лясной і воднай гаспадарцы.

“Пігмеі! – стоячы над парогам Умбы, вяшчаў паэт Шкляр, перакананы, што егер Максімаў за ім гэта запіша. – Тут я дацягваюся канцом вуды да Гамера! А яны там нават да мяне дацягнуцца не могуць”.

“І не дацягнуцца, – падліваў ялею Максімаў. – Нават са шведскім спінінгам ніхто з іх блешню далей за цябе не кіне”.

Егер Максімаў, чалавек, які тэлефанаваў Богу, не мог не паважаць у Шкляры паэта. Чалавека, Богам пазначанага. Але яшчэ больш егер Максімаў паважаў у Шкляры рыбака. “Ён смецця не бярэ, – з павагай казаў Максімаў. – Толькі рыбу”.

Калі на Умбе кажуць пра рыбу, гэта значыць пра сёмгу. Ну, яшчэ пра кумжу. Што не сёмга ці не кумжа – не рыба. Шчупак, язь, сіг, акунь…

Усе егеры па ўсёй Умбе ведалі, як Шкляр упраўляецца са спінінгам. Пры кароткім, ледзь заўважным замаху блешня далятала да другога берага любой ракі.

Шкляр і пісаў гэтак, як блешню кідаў. З кароткім, які няведама скуль у ім браўся, замахам, і з высокім палётам верша. Няхай не кожнага, але ж і не кожная блешня далятае да другога берага.

Яны, Шкляр і Максімаў, паэт і егер, часта гаварылі пра “другі бераг”. Можа, таму, што Умба – гэта Край Зямлі, як назвалі сваю раку саамы. Там, за краем зямлі і пачынаецца той бераг, на які рана ці позна кожны ступае, пераплыўшы сваю раку. І што, і хто нас там чакае?..

Невядома.

“Ну і добра, што невядома, – казаў Шкляр. – Бо невядомае – усё, што захочаш, а вядомае толькі адно”.

Егер Максімаў думаў, што на тым беразе чакае Бог. Паэт Шкляр ведаў, што Ніхто і Нічога, але не казаў пра тое егеру Максімаву. Ён чытаў яму вершы.

*Я видел паклю и кресало*
*В руках у матери больной,*
*Но только небо потрясало*
*Меня своею глубиной.*
*Мир окружала тьма ночная,*
*И небо надо мной текло,*
*И бился ум, изнемогая,*
*Как бьется бабочка в стекло.*

– Неяк дзіўна пра маці... – уздыхаў егер Максімаў, і паэт Шкляр згоднаківаў: “Так, дзіўнавата. Як наша адзінота да самых зор...”

“Ты чаму п’еш?..” – спытаў ён у адной з такіх задушэўных размоў Максімава, і той паспавядаўся яму. Прызнаўся, што п’е праз грэх на душы. Праз віну перад маці. “Я ў Мурмане быў, калі яна захварэла. Мне суседка тэлеграму даслала, што маці захварэла моцна, што яе трэба ў шпіталь. А ў мяне ў Мурмане… Ну, важная справа. Намеснікам у інспекцыю праз адну кралю, якую я на кручок узяў і ў якой бацька начальнік, могуць прызначыць. Ты ж ведаеш, што такое інспекцыя. Гэта… У нас гэта ўсё. А калі і краля з кручка, і справа сарвалася, я запіў. Маці памерла, мяне шукалі, я ў яе адзін… Не знайшлі. Можа, яна і са мной, і ў шпіталі б памерла, але… Чужыя людзі пахавалі. Яна памірала, а я з кралям… Яе хавалі, а я з інспекцыяй… Якая краля, якая інспекцыя?.. Калі маці... Дык вось тут, – сціскаў Максімаў грудзі заветранымі, задубелымі рукамі, паказваючы, як баліць… – Дасюль… І ўсё мацней… Ужо й выпіваю – не лягчэе…”

Егер Максімаў паважаў паэта Шкляра – і паэт Шкляр паважаў егера Максімава. І абодва хацелі зрабіць адзін аднаму што-небудзь прыемнае. Таму аднойчы, калі Максімаў затужыў, а затужыўшы, выпіў, каб не тужыць, у леснічоўцы зазваніў тэлефон-аўтамат. Віктар, ведаючы, што тэлефон зазвоніць, бо ўчора яны са Шклярам сустрэлі недалёка ад леснічоўкі вайсковых сувязістаў і за дзве пляшкі гарэлкі пра ўсё з імі дамовіліся, зняў трубку і расштурхаў захмялелага егера: “Гэта цябе”. – “Хто?.. Хто мяне?..” – “Не ведаю. Кажа, што Бог”.

Максімаў узяў трубку. “Гэта егер Максімаў?” – спытаў Бог. – “Так. Егер Максімаў”. – “Я ведаю пра твой грэх перад маці, Максімаў. Гэта цяжкі грэх, але ты выкупіў яго сваімі пакутамі. І я дарую табе грэх гэты, плыві да другога берага спакойна”.

Тэлефон змоўк, Максімаў выскачыў з леснічоўкі, але сувязісты са Шклярам схаваліся на другім беразе – і нідзе не было Нікога і Нічога, толькі

Паўночнае ззянне пералівалася, цякло між берагамі… “І ў гэтым ззянні, – распавядаў пасля Максімаў, – плыла рыбіна, і на ёй сядзеў Бог”. А Шкляр пытаў: “З тэлефонам?..”

Дзіўна, але ў той дзень, у які вылавіў Віктар сваю рыбу, у ноч таго дня, прагаворaную з Алегам каля вогнішча на беразе бязлюднай паўночнай ракі пад плынню ззяючых усімі фарбамі свету нябёсаў, яму таксама ўбачылася нешта падобнае. І рыбіна, на якой плыў Бог, была ягонай.

– Ты помніш сваю першую сёмгу на Умбе? – спытаў Шкляр, калі Віктара ў чарговай размове зноў дастаў Посух: “Мы чакаем вершы пра Леаніда Ільіча”, – і Віктар, сустрэўшыся са Шклярам у більярднай Дома літаратара, прапанаваў яму выпіць, а калі выпілі, той сам загаварыў пра ягоны выступ на з’ездзе, пачаўшы са згадкі пра рыбалку. – Дык вось там была насамрэч рыба! А зараз не ведаю, што ты зловіш.

– Ты ж казаў, што мне выйгрышная карта прыйшла.

– Казаў, бо Ганна папрасіла: “Вы яго толькі не адгаворвайце”. Дык я і падумаў тады: навошта мне?..

– А цяпер адгаворваеш?

– Не. Цяпер думаю. А думаць фосфар дапамагае. Я сёння выйграў, так што можам у рэстаране сёмгай закусіць. Толькі кій забяру, каб які-небудзь лох не збіў прыцэл. Тое, што для цябе дарагое, нельга пакідаць нідзе і нікому.

Шкляр не пакідаў кій нідзе і нікому не толькі таму, што асцерагаўся, каб “які-небудзь лох прыцэл не збіў”. Каб шафт не паламалі ці фірменную, якой ён свае ўнікальныя эфы закручваў, набойку не сплюшчылі. Паэт Алег Шкляр калі й любіў нейкія рэчы, дык выключна вертыкальныя: рыбацкую вуду, паляўнічую стрэльбу, більярдны кій... “Імі, – казаў ён, – можна пісаць на вадзе і паветры”.

Рэстаран Цэнтральнага дома літаратара далёка не ўсім літаратарам быў па кішэні. Большасць з іх прагульвала свае выпадковыя, найчасцей газетныя ганарары ў верхнім бары ці ў ніжняй кавярні, у якой Віктар са Шклярам і выпілі. У більярднай побач з кавярняй Шкляр не проста шары ганяў, а жыў, адыходзячы дахаты толькі паспаць. За тыя грошы, якія выйграваў, часцяком сканчаючы партыю з кія, б’ючы і трыплеты, і картбаны, а зусім не за ганарары ён і закусваў у рэстаране сёмгай, палавіць якую дзесяць гадоў таму прапанаваў Віктару ў рацэ Умбе на Кольскай паўвыспе.

У рэстаране ніхто не цясніўся, людзей было мала. Можна сказаць: зусім не было. На другім паверсе сядзеў у адзіноце паэт Юры Каваль, а на першым, у дубовай залі – Круча з кампаніяй. Зрэшты, Круча з кампаніяй – гэта не так і мала. “Нас многа, нас, можа, чацвёра”, – як напісаў адзін з іх у вершы, прысвечаным Бэле, паэтцы і колішняй жонцы Кручы, якую ўсе яны ці то некуды праводзілі, ці аднекуль сустракалі.

– Бэла ў Лондан едзе, – хуценька сказаў на маўклівае пытанне Шкляра афіцыянт. – У нейкі клуб. Дык Дзіна, – кіўнуў ён у бок Кручы і кампаніі, пятай у якой была жонка скульптара Стругавога, – адносіны высвятляе. Чаму ўсім ім можна за мяжу, а ёй не?..

Яны, сам Круча, Андрэй Вышэнскі, Роберт Ружэвіч, Бэла Ахметава, былі неверагодна знакамітыя. Не менш, чым галівудскія акторы ці алімпійскія чэмпіёны. У Лондане быў нават клуб фанатаў Ахметавай, да якіх яна, пэўна, і ехала. “Фут-ба-ліст-ка”, – цадзіў пра яе не прыстроены ні да якіх клубаў паэт Каваль, які зараз пахмурна глядзеў з веранды другога паверха. Ён імгненна ўскіпаў, калі размова заходзіла пра некага з гэтай чацвёркі: “Паэт

не можа мець футбольнай славы!" – "А калі ён займеў яе?.." – пытаў Віктар, якому якраз такой славы і не хапала. "А калі займеў, значыць, не паэт". – "А хто?.." – "Блазен!" – адразаў Каваль і гразіў ніколі болей ніводнага верша Віктара не перакласці, "няхай цябе блазны перакладаюць!"

Паэт Юры Каваль меў дар не меншы за дар Шкляра, хоць Шкляр казаў, што Каваль усё – нават свіст ветра – у яго перапісвае. Таму, калі Шкляр, вітаючыся, махнуў Кавалю кіем, той нават брывом не зварухнуў у адказ.

– Алег! Віктар!.. – падняўся з-за стала заўсёды гасцінны Круча. – Давайце да нас! Бэлу праводзім, заўтра ў Лондан едзе.

Віктару хацелася дагаварыць са Шклярам сам-насам, але не падысці нельга было, і калі падыходзілі, Віктар убачыў, як у калідоры, які вёў з рэстарана ў бар, прамільгнуў, невядома скуль узяўшыся, дырэктар антыкварнай крамы 300-й секцыі. Гэта не здзівіла, гандляроў у рэстаране Дома літаратара заўсёды было не меней, чым паэтаў, але дырэктар антыкварнай крамы быў не звычайны гандляр, і Віктару падумалася, што ён тут не выпадкова.

– Ты можаш кіем Каваля з веранды дастаць? – спытаў Алега, калі яны падышлі да стала, Круча. – А то запрашаем-запрашаем – дазапрасіцца не можам. – І пацікавіўся ў Віктара: – Ты дзе прападаеш? У більярднай са Шклярам жывеш?

Шкляр нервова павёў носам.

Алег не гразіў, як Каваль, што ніколі болей ніводнага верша Віктара не перакладзе, але да сяброўства ягонага з Ягорам Кручаненкам, Кручам, адносіўся стрымана. І Віктар падазраваў, што праз рэўнасць. Дзіўна, але жанчын сваіх, нават жонку, Шкляр ні да каго і ніяк не раўнаваў, а вось сяброў – яшчэ як! Тым больш да такой знакамітасці, як Круча…

Старэйшы і за Віктара, і за Шкляра, Ягор Кручаненка быў лідарам таго пакалення, якое называлі пакаленнем "шасцідзясятнікаў", і якое вывела паэзію на стадыёны. Гэта быў фантастычны час: уся краіна ад Сахаліна да Масквы і Брэста сцялілася пад ногі паэтаў літаратурнымі падмосткамі. Людзі тысячамі йшлі слухаць вершы – гэтаксама, як прыходзілі глядзець футбол ці хакей. І хоць Каваль казаў, што ідуць яны не на паэзію, бо паэзіі на стадыёнах быць не можа, сам ён таксама стаяў перад трыбунамі стадыёнаў і быў імі любімы. Праўда, не так, як Круча, і ў тым была праблема. Не толькі ў Каваля – у Шкляра таксама. І яшчэ ў многіх і многіх паэтаў, якія, называючы Кручу з ягонай кампаніяй эстраднікамі, штукарамі, блазнамі, як бы баранілі чысціню паэзіі, а насамрэч люта зайздросцілі ім.

Пазней, калі час гэты скончыўся, шасцідзясятнікі зайздросцілі самім сабе… Што ж, калі ты хоць аднойчы адчуў тыя пульсацыі, тую энергетыку тысяч людзей, якая, наскрозь пранізваючы цябе, касмічным ветрам ляцела на сцэну, калі ты пастаяў на тым ветры, удыхнуў наркатычнае паветра стадыёна, які адгукаўся табе то цішынёй, то гулам, то громам, ты ўжо нічога больш пранізлівага не адчуеш, не ўспомніш, не знойдзеш у памяці нічога, што магло б раўняцца з тым ветрам, з тым гулам, з той цішынёй… Усё гэта разам з мільённымі накладамі кніг і літаратурных часопісаў, з дэбатамі ў інтэрнатах і на інстытуцкіх вечарынах, з неверагодным, бо было самым нечаканым з усяго, што не чакалася, адчуваннем свабоды называлася адлігай – і талай вадой сышло разам з ёй.

Віктар быў агаломшаны, упершыню пачуўшы Кручу, Вышэнскага, Ружэвіча, Ахметаву на стадыёне ў Лужніках. І хоць ён спазніўся, бо пазней за іх

нарадзіўся, у шасцідзясятніках, але ўсё ж паспеў, дзякуючы Кручу, адчуць тое, што адчувалі яны.

“Зямляк! – моцна, нібы даючы зразумець, што сёння спаткаўшыся, заўтра яны не развітаюцца, абняў яго пры знаёмстве Круча. – Я таксама беларус, мая бабка з Палесся”. І хоць Круча, які называў сваю беларускую бабку Ганну “бабуляй усяго свету”, кім толькі ні называў сябе самога, ён сапраўды па-зямляцку падаў руку Віктару, тады яшчэ амаль хлапчуку, усцягнуўшы яго на прыступку апошняга вагона цягніка стадыённай паэзіі, у якім Віктар хоць і не ад Сахаліна да Брэста, бо цягнік ужо сыходзіў са свайго часу, але некалькі станцый паспеў праехаць. З ветрам, як у вершах Каваля.

– Маргер! Ты ім вершы прачытай, якія да партыйнага з’езда напісаў, – раптам цяжка, як валун уніз кінуў, прамовіў Каваль. – Ім спадабаецца. Яны пра гэта якраз, пакуль цябе не было, гаварылі. У якое ты лайно ўліпнуць можаш.

У голасе ягоным не было зайздрасці – ды Каваль і не мог гэтаму зайздросціць. Калі Вышэнскі напісаў: “Нас многа. Нас, можа, чацвёра”, – Каваль напісаў: “Я адзін!” І ўвесь ён быў у гэтым.

Зрэшты, як і Шкляр.

– Што вы такое прыдумалі, Юры? – плаўна ўскінула галаву на вытанчанай шыі Ахметава, якая, пабойваючыся Каваля з ягоным характарам, заўсёды звярталася да яго на вы. – Мы размаўлялі зусім пра іншае. Андрэй, праўда, сказаў, калі Віктар увайшоў: “Вось і з’ездаўскі паэт”, – але нічога болей. Тым больш пра...

Пра лайно яна, пачырванеўшы, не вымавіла.

Віктар не бачыў, ці пачырванеў ён, але кроў, якая прыліла да твару, адчуў.

– Няхай прачытае! – не супакойваўся Каваль. – Я паслухаю. Ад часоў Сталіна з’ездаўскіх вершаў не чуў.

Што яго сёння – ды яшчэ аднаго – сюды прывяло? Ці хто прывёў? – чамусьці ўспомніўся дырэктар антыкварнай крамы, які сышоў, убачыўшы Віктара са Шклярам, у бар.

Каваль не быў хадаком па рэстаранах. Ён калі ўжо запіваў, дык не меней як на трое сутак, і што яму тры гадзіны ў рэстаране? Да таго ж ён меў жонку татарку, праз якую ўсе яму зайздросцілі, бо яна трывала любыя ягоныя капрызы, выконвала, як тая рыбка залатая, любыя жаданні: басанож па снезе магла ў краму пабегчы, калі ён прачынаўся сярод ночы, што з ім здаралася, і кідаў: “Выпіць!”

Ён і цяпер быў нападпітку, Каваль, але раней нават п’яны нічога такога ў адносінах з Віктарам сабе не дазваляў, наадварот, бараніў яго ад нападак, і Віктар падумаў, слухаючы, як голас Каваля пульсуе разам з крывёй у скронях, што калі зараз дараваць яму, дык ніколі ўжо іх адносіны не выраўняюцца, так і будзе Каваль глядзець на яго з другога паверха, а Круча, Вышэнскі, Ружэвіч, Ахметава, Шкляр будуць ведаць, чаму ён зверху глядзіць, значыць, гэтага нельга дапускаць, нельга зараз яму прайграць, і Віктар не прыдумаў нічога лепшага – ускінуў, пастараўшыся зрабіць гэта плаўна, як толькі што зрабіла Ахметава, галаву і стаў чытаць напісаны да з’езда верш, чуючы шорхат лёду, у якім патанае ягоны голас, і Каваль не даслухаў яго: “Хто пераклаў? Шкляр ці Круча?..” – паспрабаваў дастаць ён яшчэ і Шкляра з Кручам, але перш чым тыя паспелі што-небудзь адказаць, Ружэвіч прагаварыў ціха: “Мутня якая...” – на што Каваль ускочыў, ледзь парэнчы веранды не абламаўшы: “А што ў вас не мутня?..” І працытаваў Ружэвіча: “Па нацыянальнасці я са-

вецкі” – не мутня? – І тут жа, ён дзеля гэтага, мусіць, і справакаваў Віктара на з’ездаўскі верш, каб “залатую чацвёрку” дастаць, успомніў радкі Кручы: “Считайте меня коммунистом – вся жизнь моя скажет вам!” – не мутня?.. А “На все вопросы отвечает Ленин” – перакінуўся ён на Вышэнскага, – не мутня?.. – Дык чаго вы тады да Маргера прычапіліся? – гаркнуў ён зверху ўніз, хоць ніхто, апроч яго, да Віктара не чапляўся.

– Ніхто да яго не чапляецца, апроч цябе, – міралюбіва сказаў Круча. – Да чаго тут чапляцца? Звычайныя, як на замову, вершы. Як помнік Леніну каля праўлення калгаса. Проста фігура. Каму ў галаву прыйдзе ацэньваць яго як скульптуру? – паспрабаваў Круча абараніць Віктара, а Дзіна, жонка скульптара Эдуарда Стругавога, які гадоў пяць таму з’ехаў у ЗША, а ёй з ім выехаць не дазволілі, з СССР не выпусцілі, сказала: “Мне. Мне прыйдзе ў галаву любы помнік ацэньваць як скульптуру. І Эдзіку тое самае ў галаву прыйшло б. Гэта для партыйцаў з гэбістамі Ленін фігура, а не скульптура”.

Афіцыянт, які нёс віно да стала, зрабіў выгляд, нібы забыўся нешта ўзяць на кухні, і пайшоў назад, каб жонку эмігранта не чуць.

Пра Кручу хадзілі плёткі, нібы ён звязаны з Лубянкай, з КГБ, і, пэўна, праз гэта Стругавы і ягоная жонка лічылі, што Круча мог ім дапамагчы ўсёй сям’ёй выехаць за мяжу, але не дапамог.

Кручу ўвогуле ў чым толькі ні вінавацілі – без дай прычыны. Не толькі паэты, але і мастакі, музыкі лічылі, што яны нечым праз яго абыдзеныя. Прэміямі, званнямі. І крыўдавалі, немаведама што пра яго выдумляючы.

Аднойчы Круча, які любіў запрашаць на свае вечарыны эпатажных, нечаканых для публікі людзей, запрасіў выступіць разам з ім Стругавога. Са сцэны Стругавы нічога эпатажнага не сказаў, а калі пасля вечарыны і пасядзелак у рэстаране заехалі да яго ў майстэрню, дзе яшчэ выпілі, раптам усхадзіўся. “Ты гэбэшны агент! Сексот! Пляваў я на цябе!” – крычаў п’яны скульптар Стругавы паэту Кручаненку, якога, колькі той ні выпіваў, Віктар ніколі не бачыў п’яным, але праз нервы, мусібыць, Круча ўсё ж захмялеў, шпурнуў раззлавана, цэлячы ў гаспадара майстэрні, бутэльку з шампанскім, прамахнуўся – і бутэлька ўдала, так, што белы пыл пасыпаўся, гахнула ў “Дрэва жыцця”, якое Стругавы хуценька зляпіў з гіпсу, каб паказаць француженкам, дзвюм дамам з парыжскай мэрыі, якім перад тым на пальцах расказаў пра ідэю, маўляў, кожны палец, кожная галіна дрэва – нейкая сусветная падзея, знакамітасць, і дамы з мэрыі зацікавіліся, сказалі, што ў Парыжы такая скульптура прыйшлася б да месца, але ж самой скульптуры не было, Стругавы некалькі разоў пачынаў ляпіць яе і кідаў, бо калі са знакамітасцямі старажытнай Грэцыі ці Рыма ён больш-менш разабраўся, дык шмат хто з новых знакамітасцяў, як жаліўся Стругавы, абавязкова аказваўся сукай, а зараз вось гэткая ж сука, сексот, які прыкідваецца паэтам, яшчэ й ягонае дрэва жыцця раструшчыў! Дык што цяпер рабіць? Зноў перад французамі пальцы загінаць, на кучы гіпсу седзячы? І хто заплоціць за шампанскае, за гіпс, за скульптуру на *Place des Victoires*?

– Чаму не ў самым цэнтры? На плошчы Згоды, ці на Вандомскай? – вінавата пытаў Круча. – Ты варты цэнтра Парыжа, Эдзік…

У той вечар яны зрабілі выгляд, нібы памірыліся. А насамрэч памірыліся, можа быць, толькі тады, калі абодва скончылі жыццё ў Амерыцы. І адзін папрасіў, каб яго пахавалі дома, а другі – не.

– Я магу зразумець студэнта, якому есці няма чаго, і ён ленінскі пакой у калгасе афармляе, – дагаворвала сваё жонка Стругавога. – Хоць Эдзік

і галодны гэтага не зрабіў бы. А тым больш не пісаў бы лозунгі ці лісты ў ЦК. Бог усё бачыць, усё чуе! – не адставала яна ад Кручы, і Шкляр, пэўна, вырашыў выручыць яго, на іншае размову перавесці: “Часам бывае, што нават тэлефануе”. – “Хто тэлефануе?” – не зразумела Дзіна. – “Бог. У мяне знаёмы егер на Умбе ёсць. Ён праз дачку начальніка вырашыў кар’еру зрабіць. На кручок яе, як ён казаў, узяў. Разумеў, што яно не надта прыстойна, нават падлавата выглядае. Папрасіў Бога дараваць”. – “І што?” – “І Бог пачуў яго. Патэлефанаваў, дараваў”.

– Ха! – хакнуў зверху Каваль, а Бэла плаўна павярнулася да Віктара, які, зноў адчуўшы, як прылівае кроў да твару, сказаў: “Дзякуй, што запрасілі…” – падняўся і пайшоў.

Вось Круча не мог зрабіць такога. А Шкляр мог. І зрабіў, разумеючы, што ўсе ведаюць пра Ганну…

Таму і зрабіў. Ён называў гэта прафілактыкай вірусных захворванняў.

Вірусолаг знайшоўся.

Віктар як любіў у Шкляры паэта, гэтак жа ненавідзеў у ім “вірусолага”, якога зараз быў гатовы на часткі парваць, засмажыць. І ці самому з’есці, ці сабакам скарміць.

– Ды пачакай ты! – дагнаў яго ў бары Круча. – Мусіць, я ўсё ж не беларус, бо не такі крыўдлівы. А калі беларус, дык трохі.

Да іх, дробненька перабіраючы нагамі, падбег, нібы толькі й чакаў, калі яны з рэстарана выйдуць, дырэктар антыкварнай крамы. «Вы величайшй поэт России, Егор Александрович! Ве-ли-чай-ший! И у вас, Виктор Павлович, большущее будущее! Боль-шу-щее! Буду польщен, если позволите с вами за ваше здоровье выпить! – пстрыкнуў ён пальцамі бармену, які тут жа напоўніў тры келіхі, і Круча, каб, мусібыць, не затрымлівацца, без ніякіх слоў у адказ выпіў, таму і Віктару нічога не заставалася зрабіць, як выпіць свой келіх, пітво ў якім нагадала напой, што смакаваў ён у кабінеце дырэктара крамы, а той толькі прыгубіў. – Какие вы, Егор Александрович, на концерте в день чекиста стихи на Лубянке прочитали! “Что толку шумным быть поэтом, какая в этом благодать! А вот бесшумным пистолетом полезней, право, обладать”. Это потрясающе, потрясающе! А как пошутили, как пошутили! Подарите, мол, бесшумный пистолет! Потому что если узнают, что я у вас выступал, мне ничего не останется делать, как застрелиться, а я не хочу шума… Жаль, жаль, что уходите… Желаю здравствовать, желаю здравствовать! Польщен, польщен…»

– Паехалі да мяне, – прапанаваў Круча, калі выйшлі на вуліцу . – Дома ў мяне скрыня “Хванчкары”. Віна, якое заўсёды было ў кабінеце Сталіна.

## XI

Адчыніліся дзверы, у сталінскі кабінет укаціўся Качарыга. Купала і не пазнаў яго адразу. Падумаў, что карла нейкі ў Сталіна, як у цара ці караля, – гэтак і без таго маленькі Качарыга, укаціўшыся ў сталінскі кабінет, зменшыўся. Зрабіўся не вышэй за стол.

– А вы думалі... – задаволена сказаў Сталін, убачыўшы, як здзівіўся Купала. – Сталін таксама жывы чалавек, і пакуль яго Берыя не знішчыў, можа іншым разам пажартаваць, – падвёў ён Качарыгу да Купалы. – Ну, павітайцеся...

Качарыга сутаргава падаў руку. Купала вяла, але паціснуў.

– Вось і спаткаліся старыя сябры, – касавата зірнуў Сталін на Купалу. – А вы думалі, не спаткаецеся? – пад локаць павёў ён Качарыгу да пісьмовага стала. – Вы ў партыі, таварыш Качарыга? – І калі Качарыга гэтак жа сутаргава, як падаў руку, кіўнуў, Сталін пасадзіў яго за стол. – Тады пішыце рэкамендацыю ў партыю таварышу Купалу.

– Таварыш Сталін... – пачаў Купала і змоўк.

– Што? – яшчэ больш узвесяліўся Сталін. – Хочаце сказаць, што ён данос на вас напісаў? Дык ён жа пісьменнік. Таму й піша. У розных жанрах. Учора – данос, сёння – рэкамендацыя, заўтра зноў данос. Цяпер ён і на таварыша Сталіна данос можа напісаць, бо рэкамендацыя ў партыю – справа добраахвотная, а не змушаная. “Таварыш Сталін, – напіша таварыш Качарыга, – змусіў мяне даць рэкамендацыю...” А спытайце яго, таварыш Купала, данос ён напісаў добраахвотна?.. Ці змушана?..

Качарыга проста на вачах змяншаўся, нібы ўрастаў у падлогу.

– Пішыце, – падаў яму самапіску Сталін. І сказаў, зірнуўшы на Мяркулава. – Можа, так напіша, што адной рэкамендацыі хопіць.

Камісар, падбадзёраны позіркам правадыра, дазволіў сабе пажартаваць:

– Так не зможа. Не Пушкін.

– Бо не прызначылі, – з нечаканай сур’ёзнасцю падхапіў банальны жарт Сталін. – А прызначылі б, быў бы Пушкін. Хай бы й нічога, апроч даносаў, не напісаў.

Сталінскага жарту Купала не зразумеў.

– Можна міністра прызначыць міністрам, таварыш Сталін. А Пушкіна прызначыць Пушкіным нельга. Ён нарадзіўся паэтам.

– Паэтам – так, – згадзіўся Сталін. – Але не Пушкіным, разумееце?.. Пушкіным ён прызначаны. Замест яго мог быць прызначаны нехта іншы. Дзяржавін. Прозвішча нават больш падыходзіць, чым Пушкін... Ці вы мяркуеце, што Купалам вы сталі, бо нарадзіліся Купалам? Гэта мы вас Купалам зрабілі. Мы вас ім прызначылі. Хоць маглі прызначыць іншага. А вас пакінуць Луц-ке-ві-чам. Так, таварыш Качарыга?

Качарыга, які за сталінскім сталом сталінскай самапіскай пісаў Купалу рэкамендацыю ў сталінскую партыю, падскочыў.

– Луцэвічам, таварыш Сталін! Гэта я памылкова... – І ўбачыўшы, як ускінуў галаву Мяркулаў, раптам выгукнуў: – Я таксама вершы пішу!

Такой пругкай рэакцыі ад здавалася б насмерць запалоханага чалавека ніхто не чакаў, Сталін нават разгубіўся трохі.

– Вось бачыце... Таксама піша... На машыну напісаў. А кажуць, што безгаловы.

Падобна было, што Сталін сапраўды, як распавядалі пра яго па радыё, усё пра ўсіх ведае. У крытыка Качарыгі была мянушка “Вершнік без галавы”. У Мінску ён быў адзіным, калі не лічыць Купалу і Коласа, пісьменнікам, які меў машыну. Калі ён сядаў за стырно, дык праз нізкарослаcць сваю з-за таго стырна амаль не віднеўся, праз што і меў мянушку, узятую з рамана Майн Рыда.

Яго баяліся. Не праз тое, што, не падклаўшы падушку пад азадак, не бачыў дарогі і мог задушыць. Баяліся, бо мог задушыць, напісаўшы пра тое, чаго не бачыў.

– Та-а-к... – зайшоў за спіну “вершніка без галавы” Сталін. – Што вы тут напісалі?.. “Даўно ведаю таварыша Луцэвіча Івана Дамінікавіча і рэкамендую прыняць яго ў партыю вялікага правадыра савецкага народа таварыша Сталіна...” І гэта ўсё? А што вы пра яго ведаеце?.. Тое, што ён

памёр, ведаеце? Тое, што фашысты, лютыя ворагі нашай партыі, нашага народа ягоным іменем вуліцу ў Мінску назвалі, ведаеце? Што нацыяналісты, як сцяг, узняць яго гатовыя, ведаеце?..

Сталін спытаў – і чакаў. Твар Качарыгі стаў зялёным, як сукно на стале.

– Ве... ведаю... – заікнуўся ён аднекуль з-пад стала, і Сталін болей не стаў чакаць.

– Ведаеце? І рэкамендуеце ворага нашай партыі ў нашу партыю? Ды яшчэ мёртвага? Наша партыя, па-вашаму, партыя нябожчыкаў? Партыя мёртвых?

Качарыгі з-за стал*а* не ст*а*ла відаць.

– Гэта не яго... – ледзь прамовіў ён шэптам, і Сталін нахіліўся: “Што не яго?..” – не ягоным іменем... – дашаптаў Качарыга, – названая вуліца... Але я думаў, што так лепей...

– Каму лепей?

– Вам... мне здалося, што вам... нам... вашай партыі...

– Чыёй партыі?..

Качарыга ўсхліпнуў. Раз, другі...

– Партыі вялікага правадыра савецкага народа таварыша Сталіна...

– І ўгадаў! – весела сказаў Сталін і падаў Качарыгу карычневую з чырвонымі кантамі, як у Купалы, насоўку. – Угадаў, а плачаш. Вось калі б не ўгадаў, плакаў бы, а так чаго плакаць? Ну-ну... Ідзі. Можаш сказаць таварышу Паскробышаву, што мы мяняем табе ордэр на ордэн.

– На які? – спытаў адразу Качарыга, і тут жа зразумеў, убачыўшы, як Сталін насупіўся, што дарма спытаў. Шморгнуў носам. – Мне б насоўку вашу на памяць, таварыш Сталін.

Насоўку Сталіну, як здалося Купалу, было шкада больш, чым ордэн, але і скнарам пры беларускім паэце выглядаць не хацелася, таму ён буркнуў:

– Бяры. Але яна са смэркамі.

– Мне... – пачаў Качарыга і замоўк, бо далей, відаць, не ведаў, што сказаць. “Не скажаш жа, – падумаў Купала, – што і сталінскія смэркі ўзнагарода”, – а Качарыга, памаўчаўшы, сказаў: “Мне і смэркі таварыша Сталіна ўзнагарода”.

Сталін узяў у яго насоўку, высмаркаўся.

– Калі ласка. Свежыя, – вярнуў насоўку і, чхнуўшы, націснуў кнопку на стале. – Аляксандр Мікалаевіч...

Увайшоў ягоны сакратар, генерал Паскробышаў. Сталін махнуў рукой у бок Качарыгі: “Выдай яму «Знак пашаны»”.

Паскробышаў кіўнуў і зрабіў выраз на твары, нібы яшчэ нечага чакае.

– Усё, – зноў махнуўся рукой Сталін. – Што яшчэ?

– А што пасля?.. – спытаў сакратар, падводзячы да дзвярэй Качарыгу, і Сталін плячыма пацепнуў, а Мяркулаў сказаў, на гадзіннік зірнуўшы: “Пасля няхай начэпіць ордэн і замест таварыша Купалы ў труне паляжыць. Бо людзі там ужо збіраюцца, а труна пустая, могуць няправільна зразумець”.

Жаданне займець ці большую, ці яшчэ адну ўзнагароду на імгненне перамагло ў Качарыгу страх. “Дык у таварыша Купалы ордэн Леніна...” – сказаў ён, і тут жа яшчэ раз пашкадаваў, што раптам асмялеў, бо Сталін згадзіўся з Мяркулавым.

– Няхай паляжыць. А мы тут падумаем. Магчыма, замест таварыша Купалы таварыша Качарыгу пахаваем. Вядома, за дадатковую ўзнагароду,

– як бы супакоіў ён абселага ў дзвярах Качарыгу і зноў чхнуў. Раз, другі, трэці... Стаяў і чхаў, шукаючы на стале, чым бы нос выцерці.

Расчхаліся яны... То Мяркулаў на Лубянцы, то Сталін у Крамлі.

– Магу сваю даць, – дастаў насоўку Купала. – Яна, праўда, з крывёй, але на чырвоным не відаць.

Ён не чакаў, што Сталін возьме насоўку, а той узяў, выцерся.

– Без крыві нічога не бывае, – ціха, але выразна прамовіў Сталін, пачакаўшы, пакуль Качарыга, як рак, задам, чапляючы нагой за нагу, выпаўз з кабінета. – І паўтарыў, узвысіўшы голас: – Нічога, таварыш Купала, не бывае без крыві! Горкі песню пра сокала правільна напісаў. “Ён захлынуўся б маёй крывёю!..” А я паглядзеў, як вы з гэтым смаркачом, з карлам гэтым курдупым, які на вас данёс, праз якога вас не стала, за руку паздароўкаліся, і падумаў... – Тут ён рэзка, не зрабіўшы ніякай паўзы, павярнуўся да Мяркулава. – А ты што падумаў, Усевалад?

Мяркулаў ужо зразумеў, што і сцэнку з даносчыкам, і ўвогуле ўвесь сённяшні спектакль Сталін разыграў не толькі для Купалы, але й для яго, і што цяпер ад ягонага адказу залежыць вельмі многае, калі не ўсё. Таму ён сабраўся і, адолеўшы імгненную разгубленасць, вырашыў пайсці ва-банк.

– Я падумаў, што Берыя сказаў вам, нібы гэта я запанікаваў у мінулую восень. Пабаяўся, што вы здасцё Маскву. А гэта ён запанікаваў і пабаяўся, таварыш Сталін! Усё было так, як я вам напісаў!

Сталін моўчкі паклаў люльку ў попельніцу, узяў са стала рэкамендацыю ў партыю, напісаную Качарыгам, склаў у чатыры столкі, падаў Купалу.

– Вось бачыце, таварыш Купала: усе нешта пішуць. Усеагульная адукацыя... – І павярнуўся да Мяркулава. – А ты паздароўкаўся з Лаўрэнціем, калі з Куйбышава вярнуўся, Усевалад?

Мяркулаў прамаўчаў.

– За руку? – працягнуў правую руку Сталін. – За руку, Усевалад?

– Так, – адступіўшы на крок, выціснуў з сябе камісар. – За руку, таварыш Сталін.

Ён адступіў на крок, каб не казаць гэта Сталіну ў твар, каб не дай Бог сліні не пырснулі, а выйшла так, нібы адступіў, каб не паціснуць завіслую ў паветры сталінскую руку.

Сталін гэта скарыстаў. Руку не апусціў. Рука вісела. Мяркулаў стаяў, не ведаючы, што рабіць? Паціскаць позна. Не паціснуць... Пацалаваць?..

– Праблема з паэтамі, таварыш Купала, палягае ў тым, што іх, прызначыўшы, даволі цяжка зняць, – не апускаючы рукі і не гледзячы на Мяркулава, сказаў Сталін. – Складана. Але гэта з паэтамі складаная праблема, а не з міністрамі, – апусціў ён руку, і Мяркулаў укленчыў: “Таварыш Сталін...”

Сталін сеў за стол, вычысціў лапаткай люльку, прадзьмуў яе, разламаў дзве папяросы, набіў люльку тытунём.

– Растлумачце мне, таварыш Купала, як інжынер... – прыпаліў ён і чамусьці не дагаварыў знакамітую, якую любіў паўтараць, фразу: “Інжынер чалавечых душ”, – ...як можна з чалавекам, які цябе прадаў, здароўкацца? Юда Троцкі мяне прадаў, я забіў яго. Ці я зрабіў няправільна, трэба было паехаць у Мексіку і паздароўкацца з ім?.. Вось чаму вы гэтаму юду Качарыгу руку паціснулі?

– Ён пад*а*ў... – сунуў Купала ў кішэню, дзе ляжалі харчовыя карткі, качарыгінскую рэкамендацыю ў партыю. – Я паціснуў...

Сталін звёў – і раскінуў рукі.

– Ён падаў – вы маглі не пацiснуць. I нiхто б яму болей руку не пацiскаў. А цяпер усе пацiскаць будуць, бо пацiснулi вы. I ён, гэты Качарыга, гэты юда, якi вас прадаў, усiм казаць будзе, што Купала пацiснуў яму руку нават на тым свеце. Пры таварышу Сталiну.

Купала не думаў, цi пацiскаць руку Качарыгу, цi не? Той падаў – i не рабiць жа было пры Сталiну з гэтага праблему.

– Казаць, што пры таварышу Сталiну, не будзе. Таварыш Сталiн неўмiручы, на тым свеце быць не можа.

З тым, што ён неўмiручы, Сталiн не стаў спрачацца.

– Ну, добра, пры таварышу Мяркулаву, – сказаў ён лагаднейшым голасам. – Мяркулаў на тым свеце можа быць?.. Думаю, можа. Тым больш, што ён, можна сказаць, ужо там.

Калi б камiсар не стаяў на каленях, ён бы, пэўна, упаў – гэтак яго хiснула.

Купалу, якi хоць i разбiўся насмерць, але адчуванне цэхавай салiдарнасцi ў iм не памерла, стала шкада драматурга Мяркулава. Што той зрабiў яму кепскага? Раз у зубы даў? Дык жа перад тым ажывiў. Адразу ж, праўда, арыштаваў, але ўсё адно тое на тое выходзiць.

“Каб толькi сабе не нашкодзiць”, – падумаў Купала, тут жа ўспомнiўшы, што нашкодзiць сабе ўжо нiяк не можа, i падышоў да стала.

– Можна вас папрасiць, таварыш Сталiн?.. Не расстрэльвайце, калi ласка, таварыша камiсара, няхай п’есы пiша. А раптам напiша такую, што адной будзе дастаткова, каб...

Сталiн падаўся ўперад, абапёрся на стол, спрабуючы з крэсла ўстаць, але нешта хруснула ў ягоным калене – i ён адкiнуўся назад.

– Каб што?.. Ну, скажыце: каб што?.. Вунь Горкi напiсаў “На дне” – i што? Нехта з дна падняўся?

Купалу апошнiмi гадамi ногi балелi, толькi па смерцi перасталi, i ён падумаў, што Сталiну таксама баляць, калi з крэсла ўстаць не змог. А хоча, каб нехта з дна...

I ў Горкага, дарэчы, ногi балелi – даўся яму той Горкi. Нiбы iншых пiсьменнiкаў няма. Пачытаў бы Чорнага, дык не пытаўся б, цi можа знiшчыць беларус беларуса.

– Чорнага?.. Гэты Чорны хiба пiсаў пра беларусаў?.. – перапытаў, нiбы думкi не толькi жывых, але i мёртвых чытаў, Сталiн. – Я паслаў яго ў Пскоў, прызначыў намеснiкам камiсара Паўночнага фронту. А ён збег у Парыж! Антысавецкi часопiс там выдаваў. Мне антысавецкi часопiс ягоны чытаць?.. – I ўбачыўшы на твары Купалы неверагоднае здзiўленне, Сталiн дагаварыў весела. – Што? Не ведалi?.. Вось я i папрасiў французскiх камунiстаў, каб яго... А яны дом ягоны спалiлi! Ён i памёр. Так яму дома стала шкада, што... Што гэта вы гэтак на мяне вырачылiся, таварыш Купала, нiбы ў мяне рогi выраслi?

Тое, што Чорны быў намеснiкам камiсара Паўночнага фронту, а пасля выдаваў антысавецкi часопiс, меў у Францыi свой дом, было такой навiной, што Купала пашкадаваў, што памёр. Да ўсяго ён бачыў Чорнага тры днi таму жывога. Таму i вылупiўся на Сталiна, нiбы ў таго выраслi рогi.

– Таварыш Сталiн, я бачыў Чорнага тры днi таму. Жывога.

Цяпер ужо Сталiн на Купалу вырачыўся. Не так, нiбы той абрагацiўся, а так, нiбы сказаў нешта такое, чаго не можа быць.

– Дзе вы яго бачылi? На тым свеце?

– На гэтым. У Доме лiтаратара. Пасядзелi з iм, выпiлi.

– Выпілі?
– Так.
– З Чорным?
– З Чорным.
– Што пілі?
– Гарэлку. Што яшчэ піць, калі вайна?
– За перамогу?
– Не. За здароўе, – сказаў Купала і адразу пашкадаваў, што не зманіў, бо Сталін сціснуў чашу люлькі ў кулаку. Так, што костачкі пабялелі.

– Я ніколі не давяраў французскім камуністам, таварыш Купала. Мексіканскім давяраў, а французскім не... А вы?

У Купалы не было ні французскіх, ні мексіканскіх знаёмых камуністаў, і ён не ведаў, каму з іх можна давяраць, каму не, таму не адказаў нічога, а Сталін, пагладзіўшы калена, усё ж падняўся, кульгаючы пракрочыў да Мяркулава.

– Вайна. У Маскве шпегі. А ты па Маскве з нябожчыкамі цягаешся?.. Знайдзі мне гэтага Чорнага. Вершаплёта гэтага, які прыдумаў, што ў Сталіна калматае сэрца. Хоць жывога, хоць мёртвага.

Ён сказаў "вершаплёта", і Купала ўспомніў, што апроч беларускага празаіка Чорнага, у якога Сталін мог нешта прачытаць пра беларусаў, ёсць рускі паэт Чорны, у якога прачытаць пра беларусаў Сталін нічога не мог, таму й спытаў: "Чорны хіба пісаў пра беларусаў?.." – а значыць, гэта зноў блытаніна з прозвішчамі. Рускі паэт Чорны сапраўды памёр і, здаецца, памёр недзе ў замежжы, так што ніякага шпіёна Чорнага ў Маскве няма, але ёсць беларускі пісьменнік Чорны, з якім можа стацца тое самае, што сталася тры дні таму з Купалам, на пахаванні якога ў Доме літаратара зараз амаль усе беларускія пісьменнікі – і сярод усіх Кузьма Чорны, якога ўжо ледзь не знішчылі ў Мінску, кінуўшы за краты, у адзіночку, каб там ён калі не сканаў, дык звар'яцеў...

*Если лучшие будут бросаться в пролёты,*
*Скиснет мир от бескрылых гиен и тупиц!*
*Полюби безотчётную радость полёта,*
*Разверни свою душу до полных границ –*

згадаў Купала амаль прарочыя вершы паэта Чорнага, але вершы вершамі, а нешта трэба было рабіць. І ён рашуча ўстаў:

– Пара мне ў труну, заляжаўся ў маёй труне Качарыга! Не прынята ў беларусаў замест нябожчыкаў хаваць жывых. Мяне чакаюць.

– Хто? – жэстам спыніў Сталін камісара Мяркулава, які арлом узляцеў з каленяў, каб выканаць загад, злавіць Чорнага жывога ці мёртвага. – Чорны чакае?.. Кузьма?.. Дык ён жа разам з усімі даў на вас паказанні. Вас таксама маглі арыштаваць, пасадзіць, вы харакіры сабе праз тое ўчынілі, жывот узрэзалі... І што цяпер? Спяшаеце яго ратаваць? Папярэдзіць, што арол ляціць, – кіўнуў Сталін на Мяркулава, – каб задзяўбаць яго да смерці? Дык хай задзяўбе. Гэта ж адплата. У вас і паэма ёсць, якая так называецца. І гэта справядліва, хіба не?

– Не, – не згадзіўся Купала і хацеў сказаць, што Чорнага катавалі, што ў адзіночнай камеры ён ледзь не звар'яцеў, што справядлівай была б адплата не яму, а ягоным катам, але падумаў: "Каму я ўсё гэта казаць буду?.." – і нічога не сказаў, апроч "не".

Тое, што Сталін прачытаў ягоныя думкі, гэтым разам Купалу не ўразіла.

Ну, прачытаў і прачытаў. Ён сам ужо чытаў Сталіна, як кнігу. Такую, якую б ніколі не напісаў, бо нават не ўяўляў, што такая можа быць.

Пра ўсё, што цяпер чуў ад Сталіна, Купала не раз думаў раней. Думаючы пра гэта, не спаў, рваў нервы, піў, ледзь трываючы боль, які не заглушаўся ні самаўгаворамі, ні гарэлкай – нікім і нічым. Боль здрады. Боль страты. Здрады і страты сяброў. Паплечнікаў. Каханых. Урэшце рэшт ён, гэты боль, які пасяліўся там, дзе была душа, выцясніў душу з яе жытла, з маленькага гняздзечка на сэрцы, у якім яна спявала, і боль гэты, заняўшы месца душы, як бы стаў ёю, душою, якая развучылася спяваць, а толькі крыкам крычала, гэтак драпаючы сэрца, што кроў, здавалася, пырскала з вачэй, якімі ўжо глядзець на свет не хацелася, бо ўдзень і ўначы ў іх было цёмна, чорна, – дык вось гэты боль, які ў ім жыў і які ім стаў, а не ён, не Іван Луцэвіч і не Янка Купала пачаў шукаць шлях з невыноснага святла ў цемру, у чарнату... І проста так выйшла, што гэты шлях супаў з тым, які выбраў для яго таварыш Сталін. Але не казаць жа пра тое Сталіну.

– Я не пісаў паэму “Адплата”. Я напісаў паэму “Адплата каханнем”, таварыш Сталін. Яшчэ тады, калі быў малады. І цяпер напісаў бы, каб у маленькім гняздзечку на сэрцы...

Яго ўсё ж цягнула выказаць тое, што хвіліну таму падумалася, і ён запнуўся, бо казаць пра душу, якая стала болем, пра песню, якая стала крыкам, можна было толькі самому сабе, а Сталін спытаў з цікаўнасцю: “Што ў маленькім гняздзечку на сэрцы?..” – і Купалу кальнула пад сэрцам, хоць яно не білася, ён ва ўсякім разе не адчуваў, што яно б’ецца.

– Нічога ў гняздзечку... Я памёр, таварыш Сталін. Памёр, так і не пабачыўшы той новай Беларусі, пра якую пісаў, якую прарочыў, пра якую марыў усё жыццё. Не спраўдзіліся прароцтвы, не здзейсніліся мары. Я памёр, не сустрэўшы тых новых людзей, якіх спадзяваўся сустрэць, не дачакаўшыся той новай беларускай літаратуры, якой чакаў. І не пабачыўшы, не сустрэўшы, не дачакаўшыся гэтага ў жыцці, я хачу пабачыць, сустрэць, дачакацца гэтага ў смерці. На тое ў мяне цяпер ёсць і вечны час, і вечная надзея.

Сталін расчаравана, нібы чакаў нечага іншага, уздыхнуў.

– Гэта вашы беларускія сны... Кіньце вы гэта. Усё, што ў вас ёсць, 1-я лабараторыя. А ў ёй тое, што мы для вас прыдумаем. І мы прыдумалі не толькі БССР. Са сцягам, гербам і “Лявоніхай”. Мы для вас, таварыш Купала, прыдумалі, нібы ў маленькім гняздзечку на сэрцы, дзе была душа, пасяліўся боль, які выцясніў душу з жытла, у якім яна спявала, і боль гэты, заняўшы месца душы, як бы стаў ёю, душою, якая развучылася спяваць, а толькі крыкам крычала, гэтак драпаючы... ну, працягвайце... – паклаў Купалу руку на плячо Сталін, і Купала працягнуў, бо ўсё ж невыносна хацелася гэта выказаць, – «...гэтак драпаючы сэрца, што кроў, здавалася, пырскала з вачэй, якімі ўжо глядзець на свет не хацелася, бо ўдзень і ўночы ў іх было цёмна, чорна, і я пачаў шукаць шлях з невыноснага святла ў цемру, у чарнату, дзе сыходзяцца ўсе шляхі, дзе сыдуцца некалі мой з вашым, як сышоўся той, які я шукаў, з тым, які вы для мяне выбралі... але вы памыляецеся... – зрабіў ён намаганне, каб сказаць тое, што яшчэ не сказаў, і Мяркулаў тут жа скарыстаў момант, каб заняць страчаныя пазіцыі: “Таварыш Сталін не памыляецца!” – на што Сталін ніякай увагі не звярнуў, спытаў: “У чым памыляюся?..” – і Купала дагаварыў, – ...вы памыляецеся, мяркуючы, нібы ўсё гэта па ва-

шай волі, што выбралі шлях для мяне вы, што вы мяне прыдумалі – вы прыдумалі самога сябе!»

Сталін выслухаў усё, ходзячы па кабінеце, і калі Купала скончыў, стаў насупраць яго. Твар у твар.

– Няхай так. У нечым кожны з нас сам сябе выдумляе. І што?

– Нічога. Салавей не выглядае так, як ён спявае.

Сталін руку да вуха прыклаў, нібы паслухаць хацеў, як пяе салавей. Апусціў:

– І паўлін... Самі прыдумалі, ці народнае? Зрэшты, вы ж народны паэт... І што далей?

– А тое, што як толькі самі сябе выдумляць вы ўжо не зможаце, вас пачнуць выдумляць іншыя – і зусім іншае ў вас жыццё настане. Пра пяты дзень сакавіка не забыліся?.. Вашы паплечнікі, вашы выхаванцы з той трыбуны, за якой вы ў авацыях стаялі, будуць зневажаць вас, проста здзеквацца з вас...

Мяркулаў, счырванеўшы, ужо набраў паветра ў грудзі, каб крыкнуць: “Тое, што ты мёртвы, не значыць, што не можаш стаць яшчэ мярцвейшы!” – але Сталін апярэдзіў яго:

– А з вас, думаеце, не?.. Думаеце, вас будуць услаўляць? Гэта я думаю, як вас уславіць! Стварыць з вас не проста паэта – неўміручую легенду! Бо гэта і мая неўміручасць, мая легенда! Бо я такую, з адных легендаў, стварыў краіну! Вечную ў легендах! А Хрушчоў пасля мяне надумае ўсё гэта парушыць! Маўляў, парушу легенду пра Сталіна – і стану легендай сам. Ідыёт. Легенда – не кукуруза. Легенда можа вырастаць толькі з легенды! Ці з крыві, што тое самае. Дзе кроў, там легенда! З гною легенды не вырастаюць. Дык ён дурань, невук! Паўлін, як і большасць тых, хто са мной. Але я не пра іх. Я пра тых, што з вамі. Пра салаўёў... Кніг панапісваюць, за мяжой атабарацца, вучэльні ўсялякія там пасканчаюць. На розных мовах рулады выдаваць навучацца. І што? Ведаеце, як яны вас назавуць? Каян Лупака! Куды да іх Хрушчову з ягоным культам! Нацыянальны геній, народная легенда – Каян! Га?.. Вось вы рускіх не надта любіце, а скажыце: рускія перарабілі б Пушкіна ў якога-небудзь Пукніша? Вінавацілі б яго ў тым, што ён не тое напісаў, не так жыў і не так згінуў, як ім хацелася б? Учынілі б здзек з яго памяці?..

Сталін упершыню за ўвесь час, які яны размаўлялі, узнерваваўся, наліў з крышталёвага графіна на крышталёвым падносе вады. Выпіў, паглядзеў на пабялелага Купалу, напоўніў яшчэ адну шклянку.

– І ведаеце, што яны пра вас скажуць?.. Што калі б вы застрэліліся ці зарэзаліся, засталіся б паэтам. А так – не. Так вы здраднік. Застаўшыся жыць, здрадзілі паэзіі... Вы тут бароніце Чорнага, будучыню новай беларускай літаратуры ратуеце, а гэтая будучыня, гэтая новая літаратура, яшчэ нават не нарадзіўшыся, вас ужо прадае! Дык нашто вам яе ратаваць?

У Купалы перасохлі губы, ён глытнуў вады... Зубы прастукалі па шкле, вада пралілася на падбароддзе. Сталін забраў у яго шклянку, паставіў на паднос, прайшоў за свой стол.

– І навошта вам паміраць? За каго? Дзеля чаго? Ажывілі мы вас – і жывіце сабе. Вечна. Жывы з імі вы справіцеся, не піскнуць, а мёртвы...

Купала пастаяў, шукаючы насоўку. Не знайшоў, выцерся даланёй, падышоў да стала і стаў выкладваць з кішэняў цёмна-карычневага, тонкага сукна ангельскага гарнітура тое, што ў іх было: з левай унутранай кішэні пінжака чорны скураны партманэт з харчовымі карткамі, пасведчанне сябра

Саюза савецкіх пісьменнікаў і качарыгінскую рэкамендацыю ў партыю, з правай – яшчэ адзін скураны партманэт, карычневы з абанементам у сталовую літэр “А”, нататнік і аловак з пазалочаным наканечнікам, з бакавых кішэняў – партабак з тытунём “Эліт”, пушачку з папяроснай паперай, запальніцу, пачаты пачак ізафеніну, памацаў, ці не засталося нечага ў кішэнях, паправіў цёмна-чырвоную агатавую шпільку на гальштуку, цёмна-чырвоныя агатавыя запінкі на абшэўках белай кашулі і сказаў:

– Я не хачу жыць.

Відаць было, што Сталіна гэта па-сапраўднаму ўразіла, бо дасюль у яго ўсе прасілі жыцця. Толькі жыцця. Хоць якога, але жыцця.

– Жыць не хочаце?.. – пагартаў ён Купалаў нататнік. Доўга гартаў, потым адклаў, узяў аловак, пакруціў у пальцах, кінуў, той пакаціўся па стале... – А чаго вы хочаце, калі не хочаце жыць?

Мяркулаў, якому, бо ўсё ж драматург, пытанне Сталіна спадабалася, стаяў, чакаючы: “Што ты, маўляў, на гэта скажаш?” – а Купала, абышоўшы камісара, сеў на крэсла да стала, за якім нядаўна абедаў, паклаў на яго рукі, на рукі галаву: “Спаць”. – “Хіба, калі памруць, яшчэ і спяць?..” – страсянуў яго за плячо камісар, і тут на стале Сталіна зазваніў тэлефон. Паслухаўшы, Сталін спытаў: “Самалёт гатовы?..” Паклаўшы трубку, высунуў верхнюю шуфлядку стала, згроб у яе ўсё, што ляжала зверху, замкнуў і рушыў да дзвярэй кабінета, якія, падбегшы, паслужліва расчыніў перад ім камісар. “Няхай паспіць”, – сказаў Сталін сакратару, кіўнуўшы на Купалу, і выйшаў з кабінета разам з Мяркулавым, размінуўшыся ў дзвярах з Гітлерам.

## 12

Круча жыў у тым жа доме на Кацельніцкай, што і Ганна, толькі не ў старым, яшчэ даваенным корпусе, які будаваўся па загадзе Берыі, а ў новым высотным. Кватэра была вялізная, такая ж, як у дачкі Брэжнева, што жыла паверхам ніжэй, і маскоўскія літаратары, большасць якіх тулялася ў спальных мікрараёнах, ужо толькі праз гэтае жытло ў прэстыжным доме не маглі Кручу не зайздросціць. Не кажучы ўжо пра ягоныя замежныя камандзіроўкі, пра заробкі, на якія ён мог дазволіць сабе купіць тое, пра што яны маглі толькі марыць. Тую ж “Волгу”, машыну, на якой ездзілі міністры ды сакратары абкамаў і купіць якую было немагчыма без таго, каб сакратары з міністрамі табе ў тым не паспрыялі.

– Хто гэта частаваў нас? – спытаў Віктар, калі яны, выйшаўшы з бара, селі ў Кручаву “Волгу”, у якой ён ездзіў і нападпітку. Здаралася, што пападаўся. Тады даставаў з багажніка і надпісваў даішнікам кнігі, за што яны пакідалі яму правы. Паэтаў у той час любілі не толькі гандляры, але і міліцыянты.

– Дырэктар цырка.

– Чаго дырэктар?

– Цырка.

– А што ён рабіў на Лубянцы?

Круча на яго пакасіўся.

– Ты б мог адразу спытаць, што я на Лубянцы рабіў? Памочнік Андропава патэлефанаваў. “Як у Штаты з’ездзілі?..” Пра сёе, пра тое. А потым: “Будзем рады пачуць вашы вершы на нашым святочным канцэрце”. Я падумаў, што адмаўляцца не варта. Ці ты б адмовіўся, калі б пра цябе хадзілі плёткі, што ты лубянскі агент?

Віктар прамаўчаў, і Ягор не стаў чакаць загадзя вядомага адказу.

– Вось я і вырашыў... – праехаў ён на чырвонае святло. – Якраз таму, што плёткі... А цыркач гэты таксама там выступаў. Потым даў мне два запрашальнікі ў цырк. Я схадзіў з сынам. Аказалася, ён не толькі дырэктар. Яшчэ і штукар. Штукі ўсялякія з галаграмамі паказвае. Публіка шалее. Бо ўсё, як у рэальнасці, але не існуе. Ты ведаеш, што гэта такое? Бачыў?

– Не.

– Як не? Трэба паглядзець. Толькі не ў цырку. Сходзім у інстытут оптыкі, там у мяне свае людзі. Пакажуць...

Перад імі зноў чырвона загарэўся светлафор, Круча газануў і праскочыў скрыжаванне.

– Ты заб’ешся калі-небудзь.

– Самалёт не ўпадзе і карабель не патоне, калі на караблі ці ў самалёце ёсць хоць адзін, каму не час. У каго яшчэ наперадзе тое, чаго чакае ад яго Бог.

Наўрад ці, сказаўшы гэта, ён Віктара меў на ўвазе.

– Але слухай далей, – доўжыў Круча, язык якога, як здалося Віктару, пачаў заплятацца. – Калі я ўпершыню з ім... не з Богам, з цыркачом гэтым сустрэўся, адразу падумаў: каго мне ён нагадвае? Падумаў і забыўся. А потым успомніў. Гады два таму я вырашыў пра Маякоўскага напісаць. Ну, чаму ён найвялікшы паэт эпохі, як Сталін сказаў. Чаму помнік у цэнтры Масквы ды ўсё астатняе... І ў архіве на фотаздымак наткнуўся: Маякоўскі ў карты гуляе. Партнёры ўсе пазнавальныя. Асееў... Ты, дарэчы, паэму ягоную пра Маякоўскага пераклаў бы. “И красное знамя белесою чайкой на сереньком занавесе заменено”, – працытаваў Круча, пра якога казалі, што няма вершаў, якіх ён не ведаў бы на памяць. – Метафара якая! Гэта не толькі пра мхатаўцаў. Пра ўсіх… Дык вось з Маякоўскім за покерным сталом паэт Асееў, актор Яншын, жонка ягоная Паклонская, Валянцін Катаеў. Людзі, якія на сконе жыцця Маякоўскага былі да яго блізкія. А шосты за сталом – хто б ты думаў? Наш дырэктар цырка! “Польщен, польщен…”

– Не можа быць!

– Так, такога нібыта не можа быць, але – ён. Адзін у адзін! Потым я схадзіў яшчэ раз паглядзеў. Ён! Сярод набліжаных да Маякоўскага людзей – нікога падобнага. Нават не ведаю, што думаць. Можа, табе нешта вядома? Як я зразумеў, ты з цыркачом гэтым знаёмы. Хоць зрабіў выгляд, нібы не.

Круча меў такую якасць: заўважаць тое, чаго не заўважалі іншыя.

– А ён... – пачаў Віктар, разважаючы, ці сказаць Кручу, што дырэктар цырка зусім не дырэктар цырка, а... А хто?.. Дырэктар крамы? Лётчык?.. – А ён не ў лётным шлеме быў?..

Круча не паспеў адказаць – іх спыніла ДАІ: “З суседняга паста паведамілі, што вы праехалі на чырвонае святло. Вашы правы...”

Уздыхнуўшы, Круча вылез з машыны і пайшоў да багажніка. Атрымаўшы надпісаную кнігу, даішнік казырнуў: “Дзякуй!.. Дзіўнавата выглядаеце, Ягор Аляксандравіч. Давайце на ўсялякі выпадак мы вас падвязем...”

“Падвязіце, – не стаў адмаўляцца Круча. – Нешта сапраўды са мной... І нібы не выпіваў, а як выпіў”.

У пад’ездзе дома сядзела ў акенцы, як сава ў гадзінніку, жаўтавокая кансьержка, яна ж ліфцёрка, якая, адклаўшы надкусаны бублік і адставіўшы бутэльку кефіру, падала Кручу перавязаны шпагатам з сургучнай пячаткай пакунак:

– Ягор Аляксандравіч, гэта для вас.

– Ад каго?

– Не назваліся. Папрасілі перадаць і ўсё.

Не адразу, бо і апранутая яна была інакш, і валасы ў яе былі светлыя, але Віктар усё ж пазнаў у жаўтавокай кансьержцы сакратарку дырэктара антыкварнай крамы Сюзану. Круча таксама, падалося Віктару, глядзеў на Сюзану, некага ў ёй пазнаючы, і калі ўвайшлі ў кватэру, успомніў: "Гэта ж Люцыя! Асістэнтка дырэктара цырка! Таго штукара, які фокусы з галаграмамі паказваў".

Ён ламануў сургучную пячатку, сутаргава, ледзь пальцы не параніўшы, разрэзаў шпагат, здзёр шэрую паперу, у якой ляжала нешта, загорнутае ў карычневую з чырвонымі кантамі насоўку. Ужо па абрысах было відаць, што гэта такое – і Круча асцярожна прыпадняў ражок насоўкі: пісталет! Яны абодва кінуліся ўніз, але на месцы кансьержкі нікога не было: у яе акенцы стаяла бутэлька кефіру і ляжаў надкусаны бублік.

– Браўнінг, – разгарнуў Круча, калі вярнуліся, насоўку. – Такі ў Маякоўскага быў… – І спрытна дастаў абойму, Віктар ніколі не падумаў бы, што ён гэтак хвацка з пісталетамі ўпраўляецца. Як Шкляр са спінінгамі. – Поўная. Калібр 7,65. – Ён увагнаў абойму ва ўручча, зняў засцерагальнік. – На! Мне здалося, калі Каваль на цябе наскочыў, ты застрэліцца хацеў… Ці спачатку вып'еш?

Аднойчы Віктару ўжо прапаноўвалі пісталет, каб застрэліўся. Бацька прапаноўваў. І вось цяпер старэйшы сябар.

– Усё пасля цябе, – сказаў Віктар, паставіўшы на месца засцерагальнік і паклаўшы пісталет на паліцу з кнігамі, а Круча выцягнуў з-пад стала скрыню віна.

– "Хванчкара". Каштаваў калі-небудзь? Шклянка файнага віна перад развітаннем з жыццём – не самае горшае, што ў гэтым жыцці можа быць.

Яны выпілі не шклянку і не бутэльку. Гаварылі, гаварылі, гаварылі… "Бэла зманіла, што пра цябе размовы не было. Была. І сёння, і раней. Андрэй сказаў… ці гэта Каваль мне казаў, не помню, што ў цябе ёсць шанец". – "Які?" – "Што ты героем можаш стаць, калі не пабаішся". – "Чаго не пабаюся?" – "Не пабаішся сказаць на з'ездзе не тое, што напісаў, а што думаеш. Пра партыю, пра Брэжнева. Як яно ёсць. Што крамлёўскі старцы, што застой. Тады..." – "Што тады?" – "Тады цябе пасадзяць. Ці вышлюць за мяжу". – "І ў тым мой шанец?" – "Не. Шанец твой у тым, што Брэжневу не доўга засталося, гады два ад сілы. І хто б ні прыйшоў пасля яго, цябе выпусцяць. Або, калі вышлюць, дадуць магчымасць вярнуцца". – "Гэта калі Грачын да ўлады прыйдзе. А калі Андропаў?" – "Дык ён і прыйдзе! Хто яшчэ, калі за ім КГБ? Ён і выпусціць. Яму кроў з носу трэба будзе паказаць змену курсу. Няўжо не разумееш? Раней ён дакладваў у ЦК, што я антысаветчык. А цяпер, ведаеш, што мне сказаў?.. «Больш вы, – сказаў, – Ягор Аляксандравіч, ніколі не будзеце невыязным. І ніхто вам указваць не стане, што пісаць і дзе друкаваць»". – "Так і сказаў?" – "Так і сказаў. І нават паўтарыў: ніхто не будзе ўказваць!" – "Цікава... А мне..." – "Што табе?.." – "Ну, не мне, а пры мне, калі ён у Грачына на лецішчы быў, ведаеш, што казаў?" – "Што?" – "Што ў народа можна забраць свабоду, але ўзамен трэба даць кілбасу". – "Андропаў?.. Так сказаў?" – "Так". – "А дзе ён кілбасу возьме?" – "Не ведаю. Але ж сказаць што заўгодна можна. Табе і Хрушчоў шмат чаго казаў. Хіба не?" – "Казаў. Я нават лісты яму пісаў".

– “Ты? Хрушчову? Лісты?” – “Так”. – “Дык Дзіна праўду сказала?” – “Так. Праўду”. – “А скуль яна пра тое ведае?” – “Аднекуль дазналася. Ці проста так сказала. Наўздагад”. – “І што за лісты?” – “Яны мяне прыціснулі тады. Дык у вернасці і любові кляўся. Яму, партыі. Пісаў, што я беспартыйны камуніст. Дурыў іх. А ты не падурыць, ты абдурыць іх можаш!” – “Каб яны мяне прыціснулі?”. – “Цісkануць, канечне. Але яно таго варта. Шанец рэальны. Толькі паспець сказаць. Не доўга, коратка. І назаўтра ўвесь свет... Ты ўяўляеш, якая на цябе абрынецца слава? Давай за гэта вып’ем!”

Віктар з ліку збіўся, якую выпівалі яны пляшку, яму станавілася хмельна, дзіўна хмельна, як тады, калі піў ён з Ганнай зёлкі ў кабінеце дырэктара антыкварнай крамы. Толькі тады сорамна не было, хоць забіты Віктар Маргер вінаваціў жывога Віктара Маргера ў смерці. А цяпер ён адчуваў сорам. Неяк так адчуваў, што не зразумець было: гэта ён, жывы Віктар Маргер адчувае сорам перад забітым, ці забітаму сорамна за жывога?

Усё блыталася... Больш і больш... Круцілася, віравала... І калі паплылі між вірамі залёныя чаўны, ён, памятаючы, што з кватэры не выходзіў, падумаў, што гэта галюцынацыі. Аказалася, што не. Не зусім галюцынацыі. Але і не зусім чаўны, а хатнія тапкі Кручы, якія плылі па кватэры, бо нехта, ці Віктар, ці Круча, вырашыў перад сном ванну прыняць, адкруціў кран і заснуў, не закруціўшы...

“Во!.. – сказалі, увайшоўшы ў кабінет, у якім яны выпівалі, а цяпер адзін на канапе каля кніжнай паліцы, другі на крэсле за сталом спалі, Сюзана з Люцыяй, зусім голыя. – Можна плаваць, а мы купальнікі не ўзялі...”

Круча цяжка падняў галаву над сталом – і апусціў яе, не ўтрымаўшы.

“Да вас, Ягор Аляксандравіч, такія госці, – сакаталі Сюзана з Люцыяй, – такія госці, што мы не маглі не ўпусціць”, – і дзве голыя ведзьмы, якія прыйшлі ў кватэру Кручы, каб паплаваць, прапусцілі паперадзе сябе Брэжнева ў маршальскім мундзіры з усімі зоркамі і медалямі, а за ім у парусінавым касцюме, з кефірам і надкусаным бублікам у руках Хрушчова, пра якога Віктар ніяк успомніць не мог, ці ён жывы, ці памёр, а калі памёр, дык калі?..

– Вы затапілі маю дачку, – праплёхаў па вадзе, гайдаючы зялёныя тапкі, Генеральны сакратар Камуністычнай партыі Савецкага Саюза Леанід Ільіч Брэжнеў. І забраўшы ў Хрушчова кефір з бублікам, сеў да стала, над якім ніяк не мог падняць галаву яшчэ не праснуты Круча. – П’яце і распусьнічаеце? – спытаў яго Брэжнеў і, пальцам падазваўшы ці то Сюзану, ці то Люцыю, паляпаў яе па азадку. – Эх, я ў маладосці!.. Але зараз не пра тое... Я табе, Ягор, хіба не дапамог? – наліўшы кефіру ў шклянку з недапітым вінном, падсунуў Брэжнеў шклянку бліжэй да Кручы. – Цябе Хрушчоў, – кіўнуў ён, не гледзячы, за спіну, – прыціснуў? Прыціснуў. Нагляд за табой быў? Быў. Я адмяніў? Адмяніў. Кватэру выдзяліў? Выдзяліў. Дзе? Там жа, дзе і дачцэ. А ты яе затапіў... Яна, між іншым, плаваць не ўмее. Добра, што галазадыя гэтыя пазванілі: “Ваша Галя ўтапіцца можа!..”

Брэжнеў адламаў кавалачак бубліка, падаў Кручы.

– На... Я табе, Ягор, як сыну... Як сабе... І табе, Віктар, медаль, як сабе, даў. Ды яшчэ прэмію. На з’езд партыі вершы чытаць паклікаў. Аднаго з усіх! З усяго Савецкага Саюза!.. На з’езд партыі – беспартыйнага, мне сёння сказалі, што ты беспартыйны! І я стрываў, не загадаў цябе за падман партыі... што я зрабіць з табой хацеў за гэта, не помню, але не загадаў!.. А вы мяне за ўсё гэта – скідваць? У шыю гнаць?

Хрушчоў, скочыўшы з-за спіны Брэжнева, схапіў адламаны для Кручы кавалак бубліка, пакруціў перад носам Леаніда Ільіча:

– А ты мяне хіба не скінуў? Хоць я табе даў не бубліка агрызак! Я ўсё табе даў! Адно што вершы на з'ездзе не прапаноўваў чытаць!

Да Брэжнева падплыў адзін з тапкаў. Леанід Ільіч паклаў бублік на стол, вылавіў тапак, прымераў.

– Вось усе думаюць, што ў мяне ўсё ёсць. А ў мяне нават тапкаў зялёных няма. Хоць, мусіць, і не трэба. Бо я ў іх буду, як жаба, – адкінуў ён тапак і выцер рукі аб лампасы. – Я цябе, Мікіта, не скідваў. Я цябе зняў. Бо ты валюнтарыст. Вось жа прасіў цябе абаранкі да кефіру купіць! А ты купіў бублік... І што мне сказаў? Калі абаранкі, сказаў, дык каму як. Каму адзін, каму два. Каму тры... Гэта капіталізм. А бублік – адзін на ўсіх! Гэта камунізм!

Віктару ўспомнілася, як Хрушчоў прыязджаў у Мінск. Выступаючы на мітынгу, абвясціў, што камунізм ужо не за гарамі і беларусы будуць у ім першыя. Бо гавораць па-руску. У камунізм, выходзіла, будуць прапускаць па моўным прынцыпе.

"Гэта рускі камунізм, – сказаў тады Барада. – А не нейкі там камунізм хахлоў ці бульбашоў".

– Мы ўжо былі б у камунізме, калі б ты змоўшчыкаў супраць мяне не сабраў, – крыўдліва зморшчыўся Хрушчоў, на што ці то Сюзана, ці то Люцыя зняла з ягонай галавы капялюш, пацалавала ў лысіну: "І мы былі б з вамі! Бо голыя!" – а Брэжнеў павярнуўся да Віктара, вочы звузіўшы: "Як там Грачын? Капае пад мяне?.. Андропаў кажа, што капае. Ты не ўздумай таксама рыдлёўку ўзяць, на з'ездзе што-небудзь ляпнуць. Хоць і дзіцячая твая рыдлёвачка, але ёй і закапаю. Ці ўтаплю, – скінуў са стала шклянку, якая, булькнуўшы, патанула, Генеральны сакратар ЦК КПСС і падняўся, здзіўлены, папоўз уверх бровамі. – Галя!.. Ты чаму голая?.."

На парозе кабінета, засланіўшы ўвесь дзвярны праём, узнікла дачка Брэжнева, апранутая гэтак жа, як Сюзана з Люцыяй. "Купаюся, – сказала яна. – Мне басейн з кватэры зрабілі. Плаваю і чую, як Круча падбівае Маргера супраць цябе выступіць. На з'ездзе. Маўляў, героем станеш, слава на ўвесь свет! І Маргер пабойваецца, але не адмаўляецца. Так што абодвух у басейне ўтапіць і ў падлогу закапаць. Разам з гэтымі лярвамі, – непрыязна зірнула голая Галя на голых Сюзану з Люцыяй, якія ўскрыўдавалі: "Дарма вы так, Галіна Леанідаўна! Мы пісталет ім перадалі, каб яны застрэліліся. Вунь на кніжнай паліцы ляжыць", – паказала, дзе ляжыць пісталет, ці то Сюзана, ці то Люцыя, і Брэжнеў зашлёпаў ад стала да паліцы, звужанымі вачамі гледзячы на Віктара, які раптам зразумеў, чаму застрэліўся Маякоўскі: бо не хацеў, каб яго ў басейне ўтапілі, у падлогу закапалі, лепей самому…

"На! – падаў пісталет Брэжнеў. – Сам дык сам. За падман партыі!" – "Я не падманваў, – узяў пісталет Віктар. – У мяне ніхто не пытаўся, у партыі я, ці не? У Мінску думалі, што я ў Маскве партыйны, а ў Маскве – што ў Мінску". – "У партыю ўступаюць не па месцы, а па сэрцы!" "Я не думаў уступаць!" – "А што ты думаў?" – "Нічога!" – "Дык цяпер падумай, куды лепш страляцца? Маякоўскі ў сэрца, але лепш, мяркую, у галаву. Каб пасля не думаць: а на хрэна застрэліўся? Ну, давай! На лік тры!.."

Віктар прыставіў браўнінг да скроні, Брэжнеў пачаў лічыць: "Раз, два…" – і на лік тры ў дзвярах узнік дырэктар антыкварнай крамы Вензель: "Засцерагальнік здыміце!" Ці то Люцыя, ці то Сюзанна засмяялася: "Засцерагальнік паставіў, каб застрэліцца. Во ідыёт!.." – і тут пісталет стрэліў. Сам,

Віктар не націскаў курок. Адчуў, як увайшла, прабіўшы левую скронь, куля, і як яна, прабіўшы правую, выйшла. Здзівіўся, што без крыві і без болю. Дачка Брэжнева закрычала: “Прыдуркі! Я прыйшла, каб выпіць з вамі! Ягор налівае, калі залівае!..” – і Круча схадзіў на кухню, прынёс келіхі.

Віна не было, за ноч усё выпілі. Вензель узяў пустую пляшку, нагнуўся, набраў вады з-пад ног. Разліў па келіхах, падняў свой: “Галоўнае ў жыцці – правільна засцерагацца. Тады ў ім не будзе ідыётаў!”

Вада ў келіхах стала барвовай. Усе выпілі, дырэктар антыкварнай крамы сказаў, губы аблізаўшы: “А цяпер – памінкі!” – і ўсчалася памінальная оргія. Брэжнеў ці то з Сюзанай, ці то з Люцыяй, Хрушчоў ці то з Люцыяй, ці то з Сюзанай, Круча з дачкой Брэжнева, а Вензель падышоў да Віктара, сеў на канапу: “Гэта не я, гэта яны самі. Увогуле, каб вы ведалі: усе ўсё самі і кожны сам. Пасля выдумляюць, нібы нехта іх ці змусіў, ці спакусіў. Вось і вы пасля выдумляць будзеце, што не самі, што вас ці спакусілі, ці змусілі. Круча, Сюзана, Брэжнеў, партыя, я… – І забраў у Віктара пісталет. – Без мяне фокус не паўтарайце, можа не выйсці. Як у Маякоўскага не выйшла”.

## XIII

Купала ўжо задрамаў на скуранoй канапе, калі ў кабінет Сталіна ўвайшоў Гітлер. У лётным шлеме з чырвонай зоркай.

– Прыснулі? – спагадліва спытаў ён Купалу. – І замахаў рукамі, убачыўшы, што Купала падымаецца. – Спіце, спіце!.. Мы з Іосіфам час ад часу мяняемся. Ён там за мяне, я тут за яго... Сеў на самалёт – і ў Крамлі.

Гітлер падышоў бліжэй, і Купала ўбачыў, што ў яго розныя вочы. Адно зялёнае, якое міргала, а другое карычневае, якім ён глядзеў не міргаючы.

– Бачу, што здзівіліся, – угледзеўся ён у Купалу неміргаючым вокам. – Не можаце зразумець... Нашы ідэі пераўтварэння свету падобныя. Як і спосабы дзеянняў. Так што і я тут, і ён там, як дома. Без асаблівых праблем. Ну, хіба з габрэямі... Ды спіце, спіце! Што вас так занепакоіла? Вы ж, наколькі мне вядома, не габрэй.

Ужо не спрабуючы зразумець, як гэта Гітлер, няхай і ў лётным шлеме з чырвонай зоркай, замест Сталіна можа быць і як Сталін можа быць замест Гітлера, Купала падумаў: “Габрэй, не габрэй... Скуль ён увогуле мяне ведае?..” – а фюрэр сказаў, нібы не паверыўшы, што Купалу пра тое невядома:

– Як скуль ведаю?.. Я ведаю вас праз майго даўняга партыйнага сябра Вільгельма Кубэ, якога паставіў генеральным камісарам у Беларутэніі. – І Гітлер міргнуў зялёным вокам. – Нічога, што я гэтак Беларусь называю?.. Вільгельм настойвае менавіта на такой назве. Ён у мяне вучоны. Яшчэ й паэт, драматург, як і вы. І як Мяркулаў, – раптам весела ўспомніў фюрэр. – Абое рабое. Што ў Сталіна, што ў мяне. Сталінскі “драматург” на свайго начальніка, на Берыю данос напісаў, а мой – на майго намесніка. На Бормана. Прыдумаў, нібы ў таго цешча габрэйка. Калі высветлілася, што не, непрыемнасці былі ў Вільгельма. Судзілі за паклёп партыйным судом. Хоць, можа быць, дарма. Яшчэ нябожчык Гейдрых западозрыў, праз што ангельцы і забілі яго, што ў маім блізкім атачэнні з’явіўся “крот”. Сталінскі агент з мянушкай Вектар. Дык вось гэтым Вектарам, калі верыць амерыканцам, быў якраз Борман. Так што нездарма ўнюхаў Кубэ ў ім нешта не тое. І я адчуў, што нездарма, дапамог Вільгельму выслізнуць з-пад суда за паклёп. Як ён некалі, даўно, яшчэ ў тую вайну, дапамог мне высліз-

нуць з-пад суда за сімулянцтва. – Гітлер хіхікнуў. – Я, між намі, калі на вайну ўзялі, надта не хацеў, каб мяне забілі. А хто хоча?.. Дык Вільгельм доктара знайшоў, габрэя, які напісаў, што я не зусім нармальны. Маўляў, мастак. І паглядзіце, што малюе. У судзе паглядзелі і згадзіліся, што так, ненармальны... А я неблагім мастаком мог быць, калі хочаце ведаць. Калі б не іншае прадвызначэнне... І калі ўжо Кубэ за нагавор судзілі, я сказаў: ён жа драматург! Ці мала якія ў драматурга могуць быць фантазіі! І саслаў яго ў правінцыю, далей ад рэйхсфюрэра Гімлера, які на яго зуб вастрыў. Пасля перавёў, хоць усе былі супраць, у Мінск. Ён, дарэчы, і пасля вайны хацеў у Мінску гаспадарыць. І каб не мець лішніх праблем, пачаў збліжацца з вашымі, як вы іх назвалі, тутэйшымі. Пад Мінскам раскопкі правёў, шкілет нейкі выкапаў і ў Берлін прыцягнуў, каб даказаць, што беларусы – арыйцы. І што ў адносінах да іх трэба праводзіць іншую палітыку, чым у адносінах да рускіх. Продкі беларусаў, маўляў, былі ў Еўропе – і нашчадкаў іх трэба вяртаць да Еўропы. Уключыць Беларутэнію ў склад Рэйху. Як аўтаномію. Даць ёй прыкметы дзяржаўнасці. Сцяг, герб... Во як усё магло павярнуцца. А вы: "Партызаны, партызаны, беларускія сыны, біце ворагаў паганых, каб не ўскрэслі век яны!.." Яно ўвогуле правільна, толькі не ў той бок напісана. Ці ў той?.. Вы хітры такі? – раптам зыркнуў фюрэр на Купалу карычневым вокам. І доўжыў, не дачакаўшыся адказу. – А Кубэ, каб давесці, што вы арыйцы, што ў нас з вамі адны карані, вось што пісаў... Пачакайце, дайце ўспомніць. Як там?.. "*Мы з Рэйху, звязаныя ніткай адной З сівой даўнінай, што не стлела, Саткаць дапаможам вам белы сувой, Каб гэта краіна пад зоркай сваёй І хлеб свой, і радасць займела",* – прачытаў па-беларуску нават лепш за Сталіна, без ніякага акцэнту Гітлер. І рукі пацёр задаволена. – Бачу, што ўразіў вас. Я і сам уразіўся, наколькі гнуткая мова. Яна і для вершаў, і для вайсковых загадаў. Як і нямецкая. Таму мне й падумалася, што, мажліва, Кубэ не такі ўжо фантаст. Перагаварыў пра гэта з Гімлерам, спытаў, што ён думае пра арыйскі шкілет, пра вершы? Пра ўсё, што робіць Кубэ ў Беларутэніі. І ведаеце, што мой намеснік адказаў? Што Кубэ за гэта адразу можна было б расстраляць, але можна й пачакаць, пакуль яго за гэта кончаць рускія... Вось вы ўсё цяпер наперад ведаеце, дык скажыце: сапраўды яго рускія заб'юць? Ці нашы?..

Купала ведаў, што скажа Гімлер, калі Кубэ скончыць жыццё на міне, падкладзенай пад ложак у ягонай спальні. "Якое шчасце для Айчыны!" – скажа рэйхсфюрэр Гімлер.

Фюрэр пазяхнуў.

– Зрэшты, гэта не так важна, спіце... Каб вы толькі ведалі, як я сам спаць хачу! Заснуў бы мёртвым сном, здаецца. Але як заснеш, калі вайна? Калі за табой Айчына, нацыя... – прайшоў ён углыб кабінета і сеў на месца Сталіна. – За вамі, між іншым, таксама. Не такая, вядома, як за мной, Айчына і не такая нацыя, але кожны мае тое, што мае. Што вырваў у іншых! – сціснуў у кулачок левую руку, якая была не большай за скалечаную руку Сталіна, Гітлер. – Ці што іншыя далі. У тую вайну вы нічога не займелі, і з гэтай вайны не вырвалі нічога, але Кубэ кажа, што пара вам нешта даць. Праблема толькі ў тым, што даваць няма каму... Вось я выканаў сваё прадвызначэнне, узвысіў Нямеччыну і немцаў, – узняўся над сталом Сталіна Гітлер, – а вы сваё – не! Хоць маглі выканаць, калі б не падаліся ў Маскву. Гэта не я прыдумаў, гэтак Кубэ напісаў мне тры дні таму. І яшчэ ён напісаў, што праз тое, што мы збіраліся вас сімвалам зрабіць, вас і забілі. Спытаю сёння Іосіфа, ці так?..

Гітлер зноў прысеў, зірнуў на гадзіннік.

– Калі дачакаюся яго... Ён у Берліне ў генералаў маіх... З імі там думае, што з намі тут рабіць? Мы Севастопаль сёння ўзялі. На чарзе Сталінград. У, як Іосіфу гэта не падабаецца! Ну, што мы збіраемся на Сталінград пайсці. Кажа мне: ідзіце на Варонеж! Там абарона не такая моцная. Быццам я не ведаю, дзе і якая ў яго абарона...

Гітлер, як нешта ўспомніўшы, засунуў руку ў правую кішэню нагавіц, дастаў пісталет.

– Ледзь не забыўся... Што гэта, думаю, мне муляе ўнізе?.. Іосіфу, калі Сталінград возьмем, толькі страляцца. А хто яму пісталет дасць? Дый пісталеты савецкія так сабе... Асечка можа быць, потым будзе мучацца. Нюрнберг, суд... А гэта "Вальтэр", – паклаў ён пісталет на стол. – Без асечак. – І ўздыхнуў. – Не трэба было яму сваім іменем горад называць. Вось у мяне ж няма Гітлерграда. Навошта ён Сталінград прыдумаў? З гэтага нават Манштэйн, які Севастопаль сёння ўзяў, жартуе. Маўляў, няхай зноў назаве горад Царыцыным. Тады можна будзе сказаць, што наўмысна яго здаў, каб пакончыць з царызмам. Дык Іосіф ускрыўдаваў. Гумару нямецкага не зразумеў. Хоць, калі па праўдзе, іншым разам Манштэйн не надта ўдала жартуе. Мне можа нагадаць, што я яфрэйтар, а ён генерал. Іосіф такога генерала тут жа расстраляў бы, як Тухачэўскага, а я трываю. Бо хто мне гарады будзе браць?.. Я Манштэйну гэтаму, – зноў скрушна ўздыхнуў фюрэр, – сёння званне фельдмаршала прысвоіў. Дык Іосіф паляцеў, каб павіншаваць яго. Ну, заадно... А Манштэйн цяпер будзе казаць, што я яфрэйтар, а ён фельдмаршал...

У Гітлера твар скрывіўся – гэтак яму не падабалася перспектыва размовы з Манштэйнам, які стаў фельдмаршалам.

– Можа, мне генералісімусам стаць? Гебельс вушы прасвідраваў: станьце, станьце... І вам, дарэчы, калі б у Мінску засталіся, я мог званне прысвоіць. Не фельдмаршала, вядома. А, напрыклад, ганаровага сябра Імперскай палаты літаратуры. Ці народнага паэта Рэйху. Або лаўрэата Гітлераўскай прэміі. Зрэшты, можна і тое, і другое. Прэміі Гітлера, праўда, пакуль няма, ёсць прэмія Гётэ, але чаму б не заснаваць маю?.. Ці вам не падабаецца ідэя? – трохі ўзнерваваўся фюрэр. – Па вачах бачу. Чаму?.. Лаўрэатам сталінскай прэміі можна быць, а лаўрэатам гітлераўскай прэміі – не? А якая розніца, калі я там – тое самае, што ён тут? І я там, да вашага ведама, столькі літаратараў, колькі ён тут, не знішчыў. Паэтаў нямецкіх сотнямі не страляў, як ён савецкіх. Ці я проста сам па сабе вам не падабаюся?..

Гітлер, уважліва паглядзеўшы на Купалу, мусібыць, вырашыў, што так, не падабаецца ён яму, і ўскрыўдаваў.

– А Кнуту Гамсуну падабаўся! І Герхарту Гаўптману! А Гаўптман не нейкай там Сталінскай прэміі лаўрэат. Нобелеўскай! Як і Кнут Гамсун, пра якога ваш Горкі сказаў, што ягоныя творы – святое пісанне. І што мы ў тым пісанні чытаем?..

Фюрэр дастаў з адной кішэні фрэнча ключ, з другой фотаздымак, паклаў яго на стол: "Пачакайце, надпішу, а то забудуся..." – і, надпісаўшы фота, адамкнуў верхнюю шуфлядку сталінскага стала, узяў з яе нататнік.

– Гэта Іосіфа нататнік, ён запісаў тое, што Гамсун пра мяне сказаў. Зайздросціць, – пагартаў нататнік Гітлер. – Слухайце: "Англія хацела вайны, і Гітлер агаліў меч. Ён, крыжаносец і рэфарматар, хацеў стварыць новую эпоху і новае жыццё для ўсіх народаў, усталяваць непарушнае міжнароднае адзінства дзеля росквіту кожнай краіны. І высілкі ягоныя

не сталі марнымі, народы і нацыі падтрымалі яго, сталі поплеч з ім, каб разам змагацца і перамагчы!..” І ведаеце, што, сказаўшы так, яшчэ зрабіў Гамсун? Аддаў свой нобелеўскі медаль майму “святапісцу” Гебельсу! Той жа таксама пнецца ў пісьменнікі... усе чамусьці ў пісьменнікі пнуцца... дык ачмурэў ад шчасця, падумаўшы, што гэтак Гамсун ацаніў ягоную пісаніну. Спытаў Гамсуна: “Чым я магу аддзячыць вам?” І пачуў: “Сустрэчай з Адольфам Гітлерам”. І “святапісец” мой павесіў нос на квінту.

Паклаўшы на месца нататнік і зверху пісталет, Гітлер дастаў з шуфлядкі складзена аркуш паперы. Разгарнуў:

– А гэта што?.. “Даўно ведаю таварыша Луцэвіча Івана Дамінікавіча і рэкамендую прыцяць яго ў партыю вялікага правадыра савецкага народа таварыша Сталіна...” А вы, Іван Дамінікавіч, у партыю вялікага правадыра нямецкага народа не жадаеце ўступіць? Я напішу рэкамендацыю, – перавярнуў аркуш Гітлер і на звароце той жа паперы, на якой Купала быў рэкамендаваны ў партыю Сталіна, той жа самапіскай Гітлер напісаў яму рэкамендацыю ў Нацыянал-сацыялістычную нямецкую рабочую партыю. – Няхай будуць дзве, – хукнуў ён на свой подпіс і склаў паперу. – Ці мала як справа павернецца... Вунь у Гамсуна як павярнулася, калі ён са мной сустрэўся? Гвалт ва ўсім свеце ўсчаўся! Ангельцы, амерыканцы, французы, самі нарвежцы калабарантам яго, здраднікам назвалі. “Як можна, – крычалі, – паціскаць руку, якая ў крыві!..” Дык уся гісторыя – кроў! Праз Хрыста колькі крыві пралілося? Ён сам казаў: “Не думайце, што я прыйшоў, каб прынесці мір на зямлю. Не мір прыйшоў я прынесці, а меч!” Ні праз каго не пралілося болей крыві, чым праз яго, а вы яму не рукі, вы ногі яму цалуеце! Божы сын прыйшоў свет ўратаваць! А каго ён ўратаваў, што ён зрабіў сваім прышэсцем? Парушыў, у друз перамалоў антычны свет! Свет волатаў, свет герояў, які праз яго стаў светам убогіх! Дык вось я сваім прышэсцем сапраўды ўратую свет, вярну ў яго волатаў і герояў. У гэтым мая місія! І той жа Гамсун, у адрозненне ад многіх, гэта разумеў. Вось ён – герой! Ведаеце, дзеля чаго ён хацеў пабачыцца са мной, разумеючы, як яго за гэта будуць ганьбіць, зневажаць? Што прасіў пры сустрэчы? Бачу, што ведаеце... І ён гатовы быў дзеля гэтага паставіць сябе на скрыжаванне ганьбы і знявагі. А паставіць сябе дзеля Айчыны на скрыжаванне ганьбы і знявагі – гэта нават не грудзьмі на кулямёт кінуцца. Там імгненне, іскра, а тут... Тут насамрэч вялікі подзвіг. І вы маглі б паўтарыць яго. Шкада, што вы пра гэта не падумалі, перш чым ад нас з Мінска ў Маскву ўцякаць.

У дзверы асцярожна пастукалі. Гітлер хуценька сунуў паперку з рэкамендацыяй у шуфлядку, замкнуў яе, падняўся з-за стала: “Заходзьце!”

– Адольф Алаісавіч, ваш самалёт запраўлены, гатовы да вылету, – зазірнуў у кабінет сакратар Сталіна генерал Паскробышаў, пра якога Купала раптам успомніў, што Сталін жонку ягоную расстраляў, і, мусібыць, сакратар адпомсціць Сталіну хоча, таму Гітлера ў кабінет пускае і ключы яму ад сталінскага стала дае, дзе самыя сакрэтныя паперы ляжаць, а Гітлер сказаў, выходзячы ў дзверы, у якія ўваходзіў Сталін: “Зусім не таму... І зусім не пра тое вам, Іван Дамінікавіч, думаць трэба. Пра місію Гамсуна думайце, пра тое, што ён прасіў...” – і яны, Гітлер са Сталіным, прайшлі адзін скрозь аднаго, не размінаючыся, так, нібы абодва былі бесцялесныя, жывыя нябожчыкі...

“Во як выкруціў, – пачаў паціху ачомвацца Купала. – Ведаю я, пра што Гамсун прасіў. Прасіў Нарвегію пакінуць Нарвегіяй... Прасіў захаваць незалежнасць краіны, не рабіць з яе пратэктарат... Прасіў спыніць гвалт, расправы... Прасіў, прасіў, прасіў... А Гітлер адказваў: “Гэта пасля вайны,

пасля вайны, пасля вайны...” І ўсё б нічога, можна было б лічыць гэта місіяй і нават вялікім подзвігам, калі б пасля вялікай вайны і вялікай крыві вялікі нарвежац не напісаў: “Мы, верныя прыхільнікі Гітлера, схіляем свае галовы перад тварам ягонай смерці”.

– Прачнуліся? – прайшоў да свайго стала Сталін. – Зноў снілі вашы беларускія сны? Цуда нейкага ўсё чакаеце?.. А там, – кіўнуў ён на дзверы, – камісар чакае.

Купала падняўся, падышоў бліжэй, каб развітацца, а Сталін сеў, узяў фотаздымак, пакінуты Гітлерам.

– Дзе гэта мы з ім?.. – перавярнуў ён фота. – Што тут напісана?.. – І ўголас прачытаў: “Іосіф! Манштэйн хоча на поўдзень, але я пашлю яго на поўнач. На Ленінград. Твой Вектар”.

Купалу, можа быць, і здзівіла б тое, што ён пачуў, калі б не ўразіла тое, што ён убачыў. На павернутым да яго здымку Сталін з Гітлерам сядзелі на лаўцы ў Горках. На той самай, на якой сядзеў некалі ў Горках Сталін з Леніным.

– На Ленінград, – кінуў Сталін здымак на стол. – А сёння яны ўзялі Севастопаль. – І спытаў, тэлефонную трубку заклапочана падымаючы: – Як вы думаеце, Іван Дамінікавіч: нам вяртаць Крым?.. Мне дык болей Каўказ даспадобы...

## 14

Кабінет члена Палітбюро ЦК КПСС, сакратара ЦК КПСС таварыша Міхаіла Андрэевіча Суслава, які адказваў у СССР за правільную ідэалогію, быў такі вялізны, што чалавека, які сядзеў за сталом у канцы кабінета пад партрэтам Леніна разглядзець можна было хіба ў тэлескоп. “Праходзьце, таварыш Маргер…” – зачыніў за Віктарам дзверы памочнік таварыша Суслава, і Віктар доўга, нават вельмі, як яму здалося, доўга йшоў па кілімавай дарожцы спачатку да стала, які стаяў, абстаўлены крэсламі, уздоўж кабінета, пасля ад стала, які стаяў уздоўж, да стала, які стаяў упоперак, з-за якога сухі, як Кашчэй, гаспадар кабінета кіўнуў вузенькай даланёй: “Сядайце там…”

Вярнуўшыся да стала, што стаяў уздоўж, Віктар стаў каля апошняга крэсла, чакаючы, калі таварыш Суслаў падымецца і перасядзе з-за аднаго стала за другі стол, а той не падымаўся, адной рукой гартаючы, бо другую трымаў так, як яна застыла, калі ён кіўнуў далонню Віктару, нейкія паперы, а потым падняў той рукой тэлефонную трубку… адну, другую, трэцюю, нібы хацеў паказаць, колькі ў яго тут усялякіх тэлефонаў, нарэшце сказаўшы ў нейкую: “Праз паўгадзіны Смірцюкова да мяне…” – з чаго вынікала, што на аўдыенцыю Віктару адпушчана паўгадзіны і, мусібыць, Суслаў выклікаў Смірцюкова, каб разабрацца, як гэта паэт, ды яшчэ беспартыйны, якому проста даручана вершык прачытаць, дэлегатам партыйнага з’езда стаў, на што Віктар быў гатовы адказаць, а Суслаў усё гартаў, перакладваў паперыну за паперынай, пакуль у дзверы за ягонай спінай не ўвайшла пухленькая, уся ў кудзерках жанчына ў белым хвартушку з падносам, на якім стаялі крышталёвая цукерніца, сподак з нарэзаным лімонам і шклянка ў бліскучым падшклянніку. Шклянка на падносе была адна, праз што жанчына, убачыўшы, што ў кабінеце двое, нерашуча спынілася, а таварыш Міхаіл Андрэевіч Суслаў паківаў ёй даланёй у бок Віктара: маўляў, гэта

яму, – і калі афіцыянтка, ці як тут такія жанчыны называюцца, паставіўшы каля таго крэсла, дзе стаяў Віктар, цукерніцу, сподак і шклянку, выйшла, таварыш Суслаў перастаў перакладваць паперы: “Знайшоў. А то таварыш Андропаў пакрыўдзіўся б…”

Чамусьці Віктар падумаў, што імя таварыша Андропава, старшыні КГБ СССР, таварыш Суслаў у самым пачатку размовы назваў не выпадкова.

– Ён вершы піша, – падняў знойдзеную паперу таварыш Суслаў. – У нас амаль усе, ведаеце, пішуць вершы. Вось паслухайце… “Сбрехнул какой-то лиходей, как будто портит власть людей. О том все умники твердят с тех пор уж много лет подряд, не замечая (вот напасть!), что чаще люди портят власть”. – І гаспадар кабінета адклаў паперку. – Як вам?..

Віктар не ведаў, што сказаць. Дакладней, ведаў, але ж не скажаш такое пра вершы старшыні КГБ СССР члену Палітбюро ЦК КПСС.

– Не ведаеце, што сказаць? – разгадаў, што не цяжка было, ягонае маўчанне Суслаў. – Вось і я не ведаю. Думаю… – паклаў ён на месца паперку з вершамі таварыша Андропава, якому, пэўна, нехта ва ўладзе не падабаўся, інакш для чаго б таварыш Суслаў гэтыя вершы чытаў, а ён прачытаў іх вельмі выразна і ўзяў з зялёнай тэчкі, якая ляжала справа ад яго, іншую паперку. – Калі ласка, растлумачце мне, чаму з’езд партыі можна вітаць: “Плыви, страна, эпохи ледокол!..” – між іншым, не кепска, зусім не кепска... а Генеральнага сакратара партыі – не? У чым тут праблема?.. Не разумею. І таварыш Андропаў не разумее. Дарэчы, я патэлефаную зараз яму, скажу, што вы ў мяне… Ды вы не стойце, сядайце. Піце гарбату, ешце цукеркі. Крамлёўскія. Такіх смачных вы ніколі не елі. Дый я не еў. Я ўвогуле не ем цукеркі, а мне прыносяць…

Віктар сеў. Пачуваў ён сябе скавана, няўтульна, тым больш, што яго адразу “канторай” палохаць сталі, але ўсё ж з цікаўнасцю глядзеў на чалавека, які, па словах Грачына, нічым і ніяк, калі не лічыць таго, што быў худзейшы за ўсіх, не вылучаўся сярод членаў Палітбюро, а вось жа больш за іншых патрэбны быў і Сталіну, і Хрушчову, і Брэжневу, якія набліжалі яго да сябе, даручаючы тое, што мала каму маглі даручыць. “Давяралі, – казаў Грачын. – У ягоных руках даўно ўжо, яшчэ ад часоў Сталіна, партыйная валютная каса – усе сродкі на фінансаванне братніх замежных партый. Гэтыя грошы практычна немагчыма кантраляваць, а ён капейкі сабе ў кішэню не паклаў – ды яшчэ двойчы ў год пералічвае ў партыйную касу частку сваёй зарплаты. Трыццаць гадоў адно і тое паліто з каракулевым каўняром носіць. Неяк Брэжнеў на Палітбюро прапанаваў скінуцца на паліто Суславу, дык ён сам нарэшце новае купіў. У яго дома нават мэбля не свая, казённая з цэтлікамі «Упраўленне справамі ЦК КПСС». Свае ў яго хіба толькі галёшы, якія ён ні зімой, ні летам не здымае”.

Суслава так і называлі: “чалавек у галёшах”. Яшчэ «бухгалтар». Але гэты нехлямяжны з выгляду “бухгалтар у галёшах” быў хітрым, крутлявым палітыкам і жорсткім чалавекам. Той жа Грачын распавядаў, як Суслаў дапамог Хрушчову скінуць маршала Жукава з пасады міністра абароны. “Дарэчы, мала хто, – казаў Грачын, – ведае, за што? А за тое, што Жукаў таемна, не сказаўшы ні слова Хрушчову, вырашыў стварыць школу дыверсантаў, сваю асабістую, можна сказаць, армію, у якую набраў дзве з паловай тысячы галаварэзаў, якім немалую зарплату збіраўся плаціць. Як некалі Берыя гэта зрабіў. І ўсе баяліся з Жукавым звязвацца, Хрушчоў саюзнікаў не мог знайсці. А “бухгалтар” пралічыў сітуацыю і стаў на бок Хрушчова.

Абвінавацiў Жукава ў падрыхтоўцы ваеннага перавароту. Рызыкаваў, але выйграў. А пазней выступіў ужо супраць Хрушчова, свайго дабрадзея, дапамогшы заняць ягонае месца Брэжневу і стаўшы другім чалавекам ва ўладзе. Цяпер, калі галёшы не згубіць, можа і першым стаць”.

Андропаву тэлефанаваць Суслаў не стаў, падсунуў бліжэй да сябе і разгарнуў зялёную тэчку.

– У ЦК камсамола вам прапанавалі напісаць некалькі радкоў, прысвечаных таварышу Леаніду Ільічу Брэжневу. Вы адмовіліся. І мы маглі б знайсці іншага паэта, які палічыў бы гэта за найвялікшы гонар. Так, пэўна, і зробім. Толькі перад тым… – замоўк на некалькі секунд гаспадар кабінета… – перад тым таварыш Грачын, да якога я даўно стаўлюся з вялікай павагай, папрасіў мяне пагаварыць з вамі. Сказаў, што вы савецкі чалавек, патрыёт, а ўсё, што тут, – пальцам пастукаў па зялёнай тэчцы сакратар ЦК, і Віктар успомніў, што Суслаў на пасадзе сакратара ЦК ужо амаль трыццаць пяць гадоў, што ён прасядзеў у гэтым крэсле даўжэй, чым Віктар жыве на свеце, – усё гэта нагаворы і паклёпы ворагаў і зайздроснікаў. Што ж, у нас, на жаль, такое пакуль бывае, і я гатовы паверыць, але… Але глядзіце: вы яшчэ хлапчук – і ўжо ў антысавецкай групоўцы. Групоўка ў Мінску, а справай яе займаецца Лубянка. І як вы мне дакажаце… – падумаў пра нешта і трохі змяніў інтанацыю, сцішыў пракурорскія ноткі Суслаў… – хоць мне, можа, і дакажаце, але як вы пераканаеце таварыша Андропава, што маскоўскія чэкісты займаліся ў Мінску абы-чым? Прыдуманай справай. Ці вось… Вы ўжо ў Маскве, студэнт літінстытута. Антысавецкі спектакль на фабрыцы “Дукат”. Як тут напісана: “У падвальным памяшканні… Са здзекам са сцяга СССР”. Вас пасадзілі б, калі б таварыш Грачын не заступіўся… – паглядзеў Суслаў нейкую паперку і адклаў яе ўбок. – Дарэчы, апошнім часам вы бываеце ў таварыша Грачына дома, на дачы. А таварыш Андропаў у гасцях у таварыша Грачына апошнім часам бывае?..

Віктар часта ўспамінаў гэтае пытанне Суслава, калі таго не стала, і калі папаўзлі па Маскве чуткі, што ён не сам, што сысці на той свет яму дапамаглі. Хто дапамог? Вядома, КГБ. Хто ж яшчэ, калі месца Брэжнева заняў старшыня КГБ Андропаў? Хоць мусіў заняць, як другі чалавек ва ўладзе, Суслаў. Калі б раней за Брэжнева не памёр.

“Брэжнеў ледзь целяпаецца, – казаў Віктару, дамовіўшыся пра ягоную сустрэчу з Суславым, Грачын. – Суслаў хоць і старэйшы за яго, але здаравейшы. Так што ён яшчэ паспее генсекам стаць. Таму я і хачу, каб ён пагаварыў з табой зараз. Іншага выпадку не будзе.

Гэта адно.

Другое. Калі ты ўвойдзеш у дзверы кабінета Суслава, ты бокам абыдзеш дзверы кабінета Андропава. Ніхто з камітэта пасля тваёй сустрэчы з Суславым чапляцца да цябе не стане. Да кожнай, нават самай дробязнай справы, да любой сустрэчы Суслаў рыхтуецца сур’ёзна, таму абавязкова запатрабуе ад камітэтчыкаў тое, што ў іх на цябе ёсць. Юначыя твае забаўкі – такой бяды, а вось тое, што Посух напісаў... Суслаў, каб ты ведаў, быў першы ў Палітбюро, хто прагаласаваў за ўвод нашых войскаў у Афганістан. І настойваў на тым. Але сказаць, што нехта напісаў кепскі сцэнар фільма пра Афганістан, не азначае быць супраць нашай дапамогі Афганістану. Ты ж не супраць?.. Вось я Суславу так і патлумачыў. Ён, дарэчы, прызначаны старшынёй камісіі ЦК КПСС па польскім пытанні. Таксама прапаноўваў войскі ўвесці, калі ў Польшчы “Салідарнасць” вэрхал усчала. Але ў гэтым

яго не падтрымалі. Ваяваць на поўдні, ваяваць на захадзе – гэта занадта. І цяпер ён шукае іншыя варыянты. Кажа: “Не штыком, дык пяром”. Калі раптам пра Польшчу з табой загаворыць, будзь асабліва ўважлівы. З’явіцца талковая ідэя – выкажы. Але – калі талковая. Калі не – лепш памаўчы.

І трэцяе. Ты павінен спадабацца Суславу. Найперш дзеля гэтага я і ўгаварыў яго прыняць цябе. Калі спадабаешся, ніхто з пісанінай Посуха не будзе разбірацца. Кар’ера твая можа пачацца ў абыход камсамола. Рыўком. Зразумеў?..”

– Дык як часта ў Грачына гасцюе Андропаў? – пачакаў трохі Суслаў адказу Віктара, але паўза гэтая цягнулася не даўжэй за іншыя. – Зрэшты, можаце не адказваць. Я ведаю, што бывае – і часта. І ведаю вашы адносіны да Васіля Дзям’янавіча. Дый таварыш Андропаў ведае. Таму дзіўна, што ён патэлефанаваў і сказаў… – узяў Суслаў з тэчкі яшчэ адну паперку… – сказаў, што яму даклалі пра вас… даклалі, нібы вы маеце нейкае дачыненне да замаху на жыццё таварыша Грачына. Я разумею, што лухта, што не можа такога быць, я нават Васілю Дзям’янавічу, які пра гэта не ведае, нічога не казаў і казаць не збіраюся, – убачыўшы, як у Віктара, які ў гэты момант узяў шклянку з гарбатай, здрыгануліся рукі, з ціхай даверлівасцю прагаварыў і тут жа дастаў чарговую паперку з тэчкі Суслаў. – Але на Лубянцы нехта можа паспрабаваць з гэтага лайна цукерку зрабіць, бо ёсць паказанні дырэктаркі 300-й секцыі, у якой вы былі з дачкой Васіля Дзям’янавіча перад самай аварыяй, і дырэктарка гэтая сведчыць, што вы настойвалі, каб… як тут напісана, “каб таварыш Васіль Дзям’янавіч Грачын не толькі прыслаў машыну, як дачка прасіла, а прыехаў сам”.

Віктар паставіў на паднос шклянку з пралітай гарбатай і, хоць ногі слаба трымалі, устаў.

– Ды вы не ўскоквайце, сядзіце, – кіўнуў сваёй сухой далонькай, якая, пэўна, шмат на каго паківала, таварыш Суслаў. – Ніхто сюды не ўвойдзе і нікуды вас не павядзе. Я нават не буду пытацца, што вы можаце на гэта сказаць, бо цікавіць яно не мяне, цікавіць таварыша Андропава, але… Але як зразумець усё астатняе? Адкуль яно ў вас? У маладым чалавеку, выхаваным савецкай школай, камсамолам… – І раптам ён змяніў тэму, у яго, мусібыць, быў такі адпрацаваны прыём у размове: раптам тэму мяняць. – Тут напісана, што вы польскую мову ведаеце. Ведаеце?.. – І калі Віктар кіўнуў, спытаў. – Тады, пэўна, вам вядома, што ў Польшчы ваенны стан? Вельмі напружаная сітуацыя. Трэба вяртаць яе да нармальнай, мабілізаваць дзеля гэтага ўсе магчымасці і сродкі. Польскім пытаннем займаецца адмысловая камісія ЦК КПСС, на апошнім пасяджанні якой вырашана паслаць у Польшчу дэлегацыю работнікаў культуры. Яны там баяцца, што мы войска пашлём, а мы ім – паэтаў, музыкаў, спевакоў. Як вам такая ідэя?.. – І не паспеў Віктар нічога адказаць, як Суслаў, які, здавалася, і не чакаў адказаў на свае пытанні, бо загадзя іх ведаў, працягнуў. – Да рускіх у палякаў адносіны не найлепшыя, таму прынятае рашэнне паслаць беларусаў. Ну, вы там бліжэй, адзін аднаго лепей ведаеце... Між іншым, чаму вы запісаны беларусам, калі ў вас бацька рускі? Па маці?.. Дык у нас так не прынята... Але гэта добра, што вы рускі і беларус. Беларус і рускі. Мы ўсе да гэтага прыйдзем. Грузін і рускі, літовец і рускі... Але беларусы, вядома, найбліжэй... Прымаць дэлегацыю будуць таварышы з польскай рабочай партыі. Ні з кім больш, на жаль, пакуль не ўдалося дамовіцца. Кантакты з тымі, хто за нас, зразумела, важныя, але значна важней – нефармальныя

кантакты з тымі, хто супраць. Найперш з інтэлігенцыяй. З вашымі знаёмцамі, – зазірнуў Суслаў у зялёную папку, у якой, пэўна, было нешта і пра замежныя паездкі Віктара. – Гэта яны ўсё прыдумалі. “Салідарнасць” і ўсякае такое. Яны. Рабочыя – толькі інструмент, матэрыял... – І ўжо зусім нечакана, гэтак нечакана, што Віктар ледзьве не сеў, хоць гэтым разам сесці яму не прапаноўвалі, гаспадар кабінета сказаў, падняўшыся з-за стала. – Можаце перадаць Грачыну, што я не супраць, каб вы былі ў дэлегацыі. Падрыхтуйце вашы прапановы. Калі паездка дасць плён, калі будзе выніковай, тады вернемся да нашай размовы без гэтага, – адсунуў Суслаў зялёную папку ўбок, бліжэй да краю стала... І калі Віктар павярнуўся, каб пайсці, бо яму відавочна давалі зразумець, што аўдыенцыя скончаная, таварыш Суслаў спытаў. – А чаму вы цукеркі не елі?..

Выйшаўшы з кабінета і спусціўшыся на Старую плошчу, Віктар завярнуў у пельменную на вуліцы Горкага, выпіў, не закусваючы, шклянку гарэлкі і толькі тады ўсвядоміў, што ён не толькі ніводнай цукеркі не з’еў, але й ніводнага слова не сказаў. За паўгадзіны размовы – ніводнага.

## XV

Камісар Усевалад Мяркулаў выйшаў з кабінета Сталіна ў добрым настроі. Нават у вясёлым. Ён рызыкнуў – і выйграў. Перажыў некалькі нязручных, небяспечных момантаў, але ўрэшце тое, што задумаў, дзеля чаго прыцягнуў Купалу да Сталіна, удалося.

Сталін сёння дзіўны быў. Такі, якім Мяркулаў раней яго не бачыў. Нешта за гэтым стаяла, штосьці ён задумаў, але зараз не да таго было, каб гадаць: што? Галоўнае, што Сталін даў яму асабістае даручэнне. А значыць, вярнуў давер. Тым, каму не давярае, таварыш Сталін асабістых даручэнняў не дае. І няхай цяпер таварыш Берыя застрэліцца. Ці павесіцца – на выбар.

– Ну як? Выспаліся?.. Можа, са свежымі сіламі на Кацельніцкую завернем? – весела прапанаваў ён Купалу, якога правёў да машыны генерал Паскробышаў, па дарозе яму нешта распавядаючы, а Купала сакратара Сталіна не слухаў, нават неяк гідліва, як здалося Мяркулаву, ад яго адварочваўся. – Там нам абодвум ёсць з кім і ёсць пра што пагаварыць.

Так, ёсць з кім і ёсць пра што. Але позна. Дый не гаварыць жа з каханай жанчынай пасля размовы з Гітлерам. Хоць ён у той размове, на чым злавіў сябе толькі тады, калі выйшаў з кабінета Сталіна ў прыёмную, нічога не сказаў.

Вось што гэта было? Смяротны сон?..

Над Краснай плошчай нізка праляцеў самалёт са свастыкай на адным і зоркай на другім крыле.

– Не, дзякуй, – сеў у машыну побач з камісарам Купала. – Я тут пагаварыў ужо, з кім хацеў і не хацеў. А на Кацельніцкай вы пагаварыце, калі ласка, без мяне.

Моўчкі праехалі Красную плошчу, выехалі на вуліцу Горкага.

Мяркулаву ў добрым настроі маўчаць не хацелася.

– А я заўважыў, як вы раўнавалі, калі таварыш Сталін пра яе казаў. Нават больш раўнавалі, чым тады, калі ён казаў пра Горкага. – І камісар пляснуў Купалу па плячы, так яму было хораша. – Дзіўная вы ўсё ж публіка! Каго толькі з вашай браціі ні бараніў я перад таварышам Сталіным! Пісьменнікаў, актораў... Думаеце, гэта ўсё проста давалася? Лёгка абыходзілася? Ды праз гэта ў Берыі ордэн Леніна, а ў мяне ордэн Рэспублікі

Тува. – Мяркулаў залез у адну, у другую кішэню кіцеля, пашукаў... – Не, у Куйбышаве пакінуў... Шкада, вам было б цікава. На тувімскім ордэне амаль ваша “Пагоня”, толькі вершнік не з м*е*чам, а з кап’ём, – паказаў ён, як вершнік кап’ё трымае... – Дык вось і ў Маскве, і ў Туве, і паўсюль, дзе бываў, я ратаваў вашу брацію. Куляшова, не вашага паэта Куляшова, а то зноў прозвішчы зблытаем, а рэжысёра Куляшова, гэтую “вясёлую канарэйку”, як яго называлі, яшчэ ў Тбілісі з турмы выцягнуў... І што? Ён чуткі распусціў, нібы ў падзяку за тое я змусіў яго кінасцэнар пад маім іменем напісаць. Дык цяпер я п’есу напісаў, а ўсе кажуць, што напісаў не я, а ён. Ну, не кажуць, баяцца казаць, але, сабакі, думаюць. А што вы, Іван Дамінікавіч, думаеце пра чалавека, які вас ад смерці ўратаваў?

– Вы мяне ўратавалі? – гэтак здзівіўся Купала, што нават кіроўца, які сядзеў наперадзе з каменным каркам, шыю павярнуў. – А куды мы ў такім разе едзем? Не на маё пахаванне?

Мяркулаў штурхнуў яго плячом у плячо.

– Гэта вы самі выбралі. Я вам толькі што прапанаваў стаць суаўтарам лепшай, весялейшай п’есы. Кшталту вашай “Паўлінкі”. Дарэчы, як у вас з ёй? Ведаю, што сустракаліся, я не пра тое... Вы праз ўсё жыццё правялі жанчыну, якая столькі разоў вас... – раскінуў ён рукі, як чалавек, які нечага не разумее. – Вось я чаго не магу ўцяміць, хоць і п’есы пішу. Можа, хоць пра гэта скажыце?

– Я ўсё пра ўсё сказаў, – далей ад Мяркулава адсунуўся, да самых дзверцаў прытуліўся Купала. – Пэўна, вы не чулі.

Да Саюза пісьменнікаў даехалі моўчкі.

– Ну, Кучар, што тут у вас?.. – спытаў Мяркулаў маленькага, да Качарыгі падобнага чалавечка, які ў Саюзе савецкіх пісьменнікаў адказваў за пахаванні, і той за галаву схапіўся: “Кашмар! Прыйшоў нейкі карла, зусім не падобны да нябожчыка, лёг у труну і сказаў, што з яе не вылезе, бо таварыш Сталін загадаў пахаваць яго замест таварыша Купалы. І за гэта даў ордэн”.

– Рэспублікі Тува? – спытаў Мяркулаў, і Кучар вачамі залыпаў: “Якой Тува?..”

У двары Саюза савецкіх пісьменнікаў, рассыпаннымі вакол скульптуры Сяргея Мяркурава “Думка”, відавочна перадранай з радэнаўскага “Мысляра”, стаялі савецкія пісьменнікі. Рускіх савецкіх было мала: драматург Трэнёў, якому, мусібыць, даручылі развітальнае слова сказаць; побач з ім вусаты, падобны да казака марыніст Новікаў-Прыбой, якога называлі Прабоем; публіцыстка Караваева, знакамітая не столькі тым, што яна напісала, колькі тым, што з Мікалаем Астроўскім, які “Як гартавалася сталь” напісаў, сябравала – і, пэўна, пра тое сяброўства распавядала кіраўніку габрэйскай секцыі Саюза пісьменнікаў Перацу Маркішу, які, быццам прадчуваючы, што Сталін яго расстраляе, глядзеў на Караваеву так, нібы яна разам з Мікалаем Астроўскім можа дапамагчы яму ўратавацца.

Асобнай купкай стаялі літаратары з братніх савецкіх рэспублік: татарын Ерыкееў, з якім не так даўно сустракаўся Купала ў Казані, летувіс Пятрас Цвірка, украінец Пятро Панч... Каля іх, як таксама “братні”, пакурваў югаслаўскі паэт Радуле Стыйенскі. Чамусьці ён адзін з усіх убачыў Купалу, узняў руку з цыгарэтай, памахаў яму – і над галавой мармуровага мысляра німбам праплыў лятучы дымок.

Злева, пад круглай сцяной флігеля “дома Растовых”, як называлі сядзібу Саюза пісьменнікаў, бо дом гэты апісаў у сваім рамане Леў Талстой,

стаялі беларусы. Амаль усе былі ў вайсковай форме: старшыня Саюза беларускіх савецкіх пісьменнікаў Лынькоў, драматург Крапіва, паэты Глебка, Броўка, Танк... Не ў форме былі, ды ўвогуле былі як бы ні ў чым толькі трое расплывістых, як дым, як німб над галавой мяркураўскага мысляра, маладзёнаў. Нават не маладзёнаў, а хутчэй парасткаў, дзяцей, якія спрабавалі выдаць сябе за дарослых, а на іх усе глядзелі і не верылі, што яны дарослыя, і яны праз тое злаваліся – гэткі ў іх быў выгляд... Хто былі гэтыя трое, Купала ці не ведаў, ці па смерці сваёй іх не пазнаваў.

Каля прыступкаў пры ўваходзе ў дом выдзялялася купка начальства: сакратары беларускага партыйнага ЦК Панамарэнка, Гарбуноў, намеснік старшыні Саўнаркама Крупеня... На прыступках стаяла спявачка Ларыса Перапёлка, якая нешта даводзіла пісьменніку Кузьме Чорнаму. Той ківаў галавой і разгублена паглядаў то на яе, то на Панамарэнку.

– Ну что, товарищ Купала, будем хорониться? – спытаў маленькі, падобны да Качарыгі чалавек з прозвішчам Кучар. – Я за это мероприятие ответственный, так что прошу следовать за мной.

Нешта ў гучанні слоў, прамоўленых Кучарам, падалося нязвыклым, напружыла слых. Купала не адразу ўсвядоміў, што тут нязвыклага, і толькі калі Кучар дадаў: “Пожалуйста...” – да Купалы дайшло, што гэта першы чалавек, які пасля ягонай смерці загаварыў з ім па-руску. Апошнія тры дні ўсе, нават Сталін пасля таго, як верш купалаўскі прачытаў, па-беларуску з ім размаўлялі, але Купала гэтага не заўважаў: гавораць і гавораць – як яшчэ людзям гаварыць?

– Калі ласка, прашу за ім... – як бы перадаў яго з рук у рукі Мяркулаў і рушыў да ўваходу ў дом, дзе стаяў Кузьма Чорны.

“Можа, гэта мне чуецца па-беларуску?..” – падумалася Купалу, але задумвацца не было калі, бо Мяркулаў падыходзіў да Чорнага, і Купала ўзмаліўся: “Божа!.. Ты ведаеш: я не найпершы Твой вернік, але і не апошні грэшнік. Нікога не забіў, нічога не ўкраў. Можа, некаму й зрабіў шкоду, але хіба несвядома. Свядома – не. Нават калі мяне, як Горкага, пасылалі за мяжу агітаваць эмігрантаў, каб яны вярталіся, я нікога не агітаваў. Казаў на вуха: не вяртайцеся. Я не прадаваў сяброў, не пісаў даносаў, толькі вершы. Ты даў мне дар паэта, а чалавеку, да якога зараз ідзе пасланнік д’ябла, каб забраць яго ў Цябе, дар празаіка. Ці не найлепшага ў Беларусі. Дык зрабі што-небудзь, каб яго не знішчылі, Госпадзі!..”

– Кузьма, – павярнуўся да Чорнага і голасна сказаў Панамарэнка, павітаўшыся з Мяркулавым, які падышоў да прыступак. – А чаму б табе не выступіць, не сказаць развітальнае слова? – І спытаў Лынькова: – Вы не супраць, таварыш Лынькоў?..

Дзверы нумара старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Міхася Лынькова ў гатэлі “Масква” былі апошнімі дзвярыма, якія зачыніў за сабой у зямным жыцці Купала. І адбылася незразумелая, дзіўная рэч: да таго, як тыя дзверы зачыніліся, ён помніў усё, што было ў той вечар у гатэлі. А пасля – нічога.

Зусім не помніў, як ён, зачыніўшы дзверы на дзясятым паверсе, адразу апынуўся на першым. На доле. Нехта заўважыў, як з суседняга нумара выйшлі ўслед за ім двое мужчын, хуткім крокам дагналі яго і перакінулі цераз парэнчы, каля якіх чакаў яго трэці – але што гэта былі за мужчыны?.. Нехта распавядаў, што бачыў, як ён упіраўся, калі яго, як арыштанта, схапілі, пацягнулі ўніз – і паверхам ніжэй, на дзявятым, ён, вырваўшыся, кінуўся ў лесвічны пралёт...

Як яно насамрэч сталася?

Ён нічога не мог сказаць, бо нічога не памятаў.

Толькі сон.

У тым сне патэлефанавала жанчына. Ён ведаў яе, але забыўся імя. Яна папрасіла надпісаць кнігу. Ён спытаў, якую, і яна сказала, што тую, якая з вянком на вокладцы: “Ад сэрца”. За якую сталінская прэмія. А каму надпісаць, калі імя не помніш? Не пытаць жа жанчыну, якую ведаеш, з якой, можа, нават блізкі быў, як цябе зваць? І ён не кнігу для яе ўзяў, а толькі вянок з вокладкі, бо яго можна было аддаць не надпісваючы. “Кнігу, – падумаў, – надпішу, калі імя ўспомню”. Выйшаў з нумара ў калідор, падаў той жанчыне вянок, яна прытуліла яго да грудзей – і вянок у яе абдымках такі вялізны стаў, як надмагільны. “Калі такі вялікі вянок, дык якая ж тады кніга!” – усклікнула тая жанчына з забытым іменем і паляцела на вянку па калідоры. Ён пабег за ёй, каб падтрымаць, калі ўпадзе раптам, а яна перад лесвіцай спынілася: “Давай разам палятаем!” І ўсцягнула яго, хоць ён упіраўся, на вянок, які завіс над лесвічным пралётам. “Не помніш, хто я?” – абняўшыся з ім, спытала тая жанчына, і ён пачаў пазнаваць яе абдымкі, але не паспеў. “Ты нават забыўся маё імя!” – крыўдліва ўскрыкнула яна і, адхіснуўшыся, штурхнула ў грудзі...

І той сон, і ўсё, што было ў тым жыцці, засталося там, дзе засталося тое жыццё. За дзвярыма нумара старшыні Саюза беларускіх савецкіх пісьменнікаў Лынькова.

– Я не супраць, няхай Чорны выступіць з развітальным словам, – сказаў Лынькоў Панамарэнку. – Чаму я супраць павінен быць?..

“Бог пачуў, – з палёгкай выдыхнуў Купала. – І тут адно з двух: ці Ён беларус, ці я не такі ўжо грэшнік, як пра сябе думаю”.

– А вы? – павітаўся Панамарэнка з Мяркулавым. – Скажаце слова ад органаў?

Панамарэнка быў прававерным бальшавіком, і якую-небудзь з гісторый пра тое, як ён ратаваў ад Сталіна беларускую нацыянальную інтэлігенцыю, гэтая інтэлігенцыя, можа быць, і пацвердзіла б, калі б магла. Калі б жывая засталася. Але ўсё ж іншым разам Панамарэнка, карыстаючыся прыхільнымі адносінамі правадыра, дазваляў сабе сякія-такія вольнасці. Гэтакія, якія нічым не пагражалі. Вось і цяпер сакратар беларускага партыйнага ЦК зразумеў, што Мяркулаў прыйшоў па Чорнага, але якая розніца, забярэ ён Кузьму да пахавання Купалы ці пасля? Калі б Панамарэнка ведаў, што камісар з’явіўся з асабістым даручэннем Сталіна, ён бы і не заікнуўся пра ягонае “слова ад органаў”, але гэтага ён не ведаў, а Мяркулаў яму пра гэта не мог сказаць: Сталін нікога не караў.

– Хто-небудзь ад органаў што-небудзь скажа, – паціснуў камісар руку Панамарэнку, падумаўшы: “А ці не ўзяць гэтага Чорнага цяпер?..” – але тут на ганак выбегла ўскудлачаная жанчына, хутчэй за ўсё сакратарка некага з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў: “Таварыш камісар, вас да тэлефона!” – і на пытанне Мяркулава: “Хто?..” – пажавала губамі і не змагла адказаць.

Мяркулаў скочыў на ганак.

– Можна мне перад тым, як у труну легчы, перадаць прывітанне вялікаму сыну братняга югаслаўскага народа таварышу Ёсіпу Броз Ціта? – заўпіраўся Купала, калі Кучар пацягнуў яго да ўваходу ў дом. І вырваўшыся ад Кучара, падышоў да Радуле Стыйенскага. – Вас не здзівіла, што я жывы?

– Я казачнік, – паціснуў руку беларускаму паэту югаслаўскі паэт. – Мяне б здзівіла, што вы мёртвы.

– Тады дапамажыце выжыць вунь таму чалавеку, – паказаў Купала на Чорнага. – Скажыце яму, каб схаваўся хоць у паволжскіх стэпах, хоць у беларускіх лясах, бо тут ён ненадоўга мяне пераяжыве.

Радуле зацягнуўся цыгарэтай, зірнуў у бок купкі начальства, дзе Мяркулаў нешта даводзіў Панамарэнку, і задуменна выдыхнуў дым.

– Мяркую, што ў стэпах і лясах яму таксама не выжыць. А вось у гарах... – сцішыўшы голас, нахіліўся ён да Купалы, але распавесці, як можна выжыць у гарах, не паспеў, бо Купалу павёў на прыступкі Кучар. “Опаздываем хорониться, товарищ Купала, опаздываем! Быстренько, быстренько!..” – нібы яны на цягнік, які на той свет адыходзіў, спазняліся.

Застаўленая вянкамі труна стаяла ў канфрэнц-зале Саюза пісьменнікаў, і ў ёй, склаўшы рукі на грудзях з ордэнам “Знак пашаны” і сумна гледзячы на жырандолю над галавой, ляжаў Качарыга. Па ягоным выглядзе не сказаць было, што ордэн, выдадзены яму Паскробышавым, ён лічыў дастатковай кампенсацыяй за тое, каб яго, Качарыгу, пахавалі замест Купалы. Вядома, гонар, пашана, але... Але невядома, як на тым свеце прымаюць савецкіх ордэнаносцаў, і Качарыга прыкідваў, якой можа быць дадатковая ўзнагарода, паабяцаная на развітанне Сталіным? Глядзеў на жырандолю над ім, думаў: “Можа, жырандоля?..” – і далей яму не думалася, бо жырандоля ў труну ўлезці магла хіба разабраная, а хто на тым свеце збіраць яе будзе? Дый не помніў ён, каб некага з жырандоляй хавалі. Са зброяй хавалі, з баявымі коньмі, нават з жонкамі, каб і на тым свеце каля мужыкоў круціліся. Але ж не з жырандолямі, навошта там жырандолі? Зрэшты, як і жонкі.

Ён успомніў жонку ў машыне. Як яна сядзела побач і як ганарылася, што ў яе гэтакі муж, у якога машына. Адна на ўвесь Саюз пісьменнікаў, калі не лічыць Купалы з Коласам. Хоць Купалу з Коласам можна і не лічыць, бо машыны яны за так займелі, а Качарыга на сваю зарабіў.

Ён шмат працаваў. Любы і кожны скажа, што не гультайнічаў. Пісаў, пісаў, пісаў...

А што яшчэ скажуць?

Цяпер – нічога. Пабаяцца.

А пасля?.. Калі яго не стане?..

Сёння, калі ён, самога сябе са страху не помнячы, выйшаў з кабінета Сталіна, дык першае, пра што падумаў, ачомаўшыся: “А мяне ж таксама баяцца! Лынькоў, Крапіва, Броўка, Глебка, Танк, Панчанка, Куляшоў – уся гэтая хеўра! Няхай не гэтак баяцца, як таварыша Сталіна, а на палову, на траціну, на чвэрць, але ж дрыжаць са страху! Дык якая розніца, што скажуць пасля? Калі цяпер калоцяцца!”

Ён здрыгануўся ў труне, страх з яго яшчэ не выйшаў, але гэта быў ужо не той густы, ліпучы страх, які цяжка заліваў яго, не даючы дыхаць, у кабінеце Сталіна, а нейкі іншы, як бы ўзнёслы... Дзяржаўны, сталінскі страх, які маглі адчуваць толькі дапушчаныя, набліжаныя – і сярод іх ён, Качарыга, якога будуць баяцца цяпер амаль гэтаксама, як...

І тут ён дапяў: вось яна, узнагарода, пра якую казаў правадыр! Гэта не нейкі там ордэн – хоць ордэн Леніна! Ці нават прэмія! З такой узнагародай нельга паміраць, не скарыстаўшыся ёй, таму ён ускочыў, нібы спружынай падкінуты, убачыўшы ў дзвярах Купалу: “Іван Дамінікавіч! Як я рады бачыць вас, Іван Дамінікавіч!” – і ў Купалы не ўзнікла ніякага сумневу ў тым, што Качарыга ў сваіх пачуццях зараз гэтакі шчыры, як ніколі.

– Калі ласка, кладзіцеся, – разгладзіў прымятую падушачку і замітусіў-

ся, выбраўшыся з труны, Качарыга. – Бліжэй во сюды, улева, бо справа нешта муляе. Я ўсё жыццё любіў вас, Іван Дамінікавіч, ніхто вас не любіў болей за мяне, – ладкаваў ён Купалу ў труне. – А тое, што напісаў нешта на вас, дык калі б яны не хацелі, маглі б не чытаць, але яны хацелі, таму я і напісаў, так бывае, гэта інтуіцыя, вы самі ведаеце, бо яна ў вас, як ні ў каго, таму не разумею, навошта вы з Казані прыехалі, там ніхто б вас не чапаў, каму і хто патрэбны ў Казані, а вы ў Маскву захацелі, каб справіць юбілей, так што самі вінаваты, Іван Дамінікавіч... – І, паправіўшы на вянку, што навісаў над галавой Купалы, стужку з надпісам “Мне сняцца сны аб Беларусі”, падаў руку. – Усё. Адпачывайце!

Рука павісла ў паветры...

– Праз хвіліну пачынаем, так што будзьце, таварыш Купала, гатовы! – зірнуўшы на гадзіннік, падхапіў Качарыгу пад руку і павёў да дзвярэй Кучар. – У вас няма радні ў Прапойску? Мая жонка з Прапойска, вы так падобны да... – не паспеў ён сказаць, да каго ў Прапойску падобны Качарыга, бо ў канферэнц-залу хутка ўвайшоў Мяркулаў: “Не спяшайцеся, таварыш Качарыга, паляжыце ў труне. Вы ў ёй файна выглядаеце. А вас, Іван Дамінікавіч, прашу ў кабінет старшыні на паседжанне камісіі па святкаванні вашага юбілею”.

Купала выбраўся з труны, у якую зноў лёг, склаўшы рукі і тужліва ўтаропіўшыся ў столь, Качарыга.

– Падобна, што мая смерць адмяняецца, цябе замест мяне жыўцом пахаваюць, – паправіў падушачку пад галавой “вершніка без галавы” Купала, які, успомніўшы словы Сталіна пра Юду, з задавальненнем убачыў, як звычайна вяртлявыя вочы Качарыгі застылі і напоўніліся жахам, што страсянуў труну.

## 16

– Грачын казаў, што машыну прышле, – выйшла з лазенкі, страсаючы мокрымі валасамі, Ганна. – Каб ты не з усімі.

Яна рэдка называла Грачына бацькам. Часцей па прозвішчы.

– Што значыць не з усімі?

– Каб асобна ехаў. Уяўляеш, як ты асобна ўязджаеш у Крэмль? Не сёння, гадоў праз… Няхай нават праз дваццаць. Сакратаром ЦК. Грачын кажа, што гэта рэальна. Калі рабіць будзеш тое, што трэба рабіць. Без выкрутасаў, – закінула яна валасы за спіну. – Уяўляеш, якая гэта ўлада? Якія магчымасці? Людзі за такое прадаюць, забіваюць… А тут… – І нечакана скончыла. – А тут адграбеш дзярма лапатай. Сам запахнеш. Але якія магчымасці!

Ганна села да люстэрка, пачала прыхарошвацца. Ён прытуліўся да яе са спіны, паклаў рукі на грудзі – і адразу запульсавала ў ім, соладка працякло жаданне.

Так заўсёды бывае, калі з табой твая жанчына. Але здараецца такое не часта. Куды часцей твая жанчына з іншым, а ты з іншай жанчынай.

– Ты спакушаеш мяне? – апусціў ён рукі ніжэй, а яна нахілілася да люстэрка, акуратна нафарбавала адно вейка, другое: “Цябе Грачын спакушае. Што б ты ні казаў…”

Так, што б ён ні казаў. Хоць не аднойчы ўжо даводзіў, што не. І неяк яна спытала: “Дзеля чаго ты тады вярнуўся ў Маскву? Дзеля мяне? Дзеля мяне ты б вярнуўся раней, чым я паклікала”.

Ганна паківалася з боку ў бок, разглядаючы сябе ў люстэрку, і ў каторы раз Віктара здзівіла, як плаўна, гнутка рухаецца яе цела. Нібы ў змяі.

Жанчына і павінна быць змяёй. І змяя сказала, звіваючыся, нацягваючы на сябе бліскучую скуру атласнай сукенкі: “Збірайся. Пара”.

А магла не нацягваць скуру, магла сказаць: “Мы нікуды не едзем”.

Магла. Але што б ні казала…

Каля ўваходу ў гатэль стаялі мікрааўтобус і машына Грачына. У мікрааўтобусе ўжо сядзелі касманаўт Рыленка і актрыса Южкова. Сесці пад іх позіркамі ў машыну было б… Ну нельга было сесці пад іх позіркамі ў машыну Грачына – і Віктар скіраваўся да мікрааўтобуса. Ганна пайшла за ім, але яе спыніў, падбегшы ад гатэля, таварыш у цывільным: “Вас няма ў спісе, Ганна Васільеўна”. Тая ад нечаканасці як укапалася. “Я дачка Грачына!” – “Так, але ў спісе вас няма”.

Ганна рэзка павярнулася, рушыла да грачынскай машыны, з якой выскачыў кіроўца, расчыніў дзверцы. Яна села: “Паехалі!”

Ад гатэля “Масква” да Палаца з’ездаў не тое што ехаць, ісці было ўсяго нічога, так што ні для чаго былі ні машына, ні аўтобус. За пару хвілін даімчалі да Троіцкай брамы, праз якую штурмавала некалі Крэмль войска гетмана Хадкевіча, а пазней ступіў Напалеон. Войска ягонае пехатой, а ён на кані. Асобна. Як сакратар ЦК.

Ганну ў Крэмль не прапусцілі. “На вас няма пропуску”. – “Я да бацькі. Да Грачына!” – “Пропуску няма”.

Віктар ніколі не бачыў на твары Ганны гэтакай разгубленасці. Ні раней, ні потым.

Потым казалі, што ў час з’езда на Генеральнага сакратара Камуністычнай партыі Савецкага Саюза рыхтаваўся замах і што Камітэт дзяржаўнай бяспекі яго прадухіліў. Усе разумелі, што замах, каб прадухіліць яго, прыдумаў Андропаў, і ўсе віншавалі яго з узнагародай, якую атрымаў ён пасля з’езда з рук Брэжнева.

“Каб ты ведаў, – сказаў Віктару ўчора Грачын. – Суслаў адсунуў убок тэчку з кампраматам на цябе, бо я за цябе паручыўся. І ў Польшчу з дэлегацый паехаць ён табе прапанаваў, бо я папрасіў, а яму патрэбны саюзнік. Я, а не ты. Так што не падвядзі ні сябе, ні мяне. А заўтра на з’ездзе будзь гатовы да таго, што тваім выступам у любы момант могуць дзірку заткнуць, калі нешта не так пойдзе. У Леаніда Ільіча фантазіі…” – “Якія?” – “Розныя”.

Грачын не сказаў, якія? Але сказала Ганна. “Нібыта сысці Брэжнеў хоча. Заявіць на з’ездзе пра адстаўку. У Палітбюро згоды прасіў. Ды хто яго адпусціць? Калі кожны з іх сам сабе Брэжнеў за ягонай спінай”. – “Выдумляеш”. – “Не выдумляю. Што чула, тое кажу”. – “Ад каго чула? Ад бацькі?” – “Не. Ад Смерці”. – “Ад Смірцюкова?” – “Так. А Смерць выдумляць не стане”.

“А што можа пайсці не так?” – спытаў Віктар Грачына пасля размовы з Ганнай. – “Ды што заўгодна. Усе разумеюць, што час Брэжнева злічаны, і нехта можа паспрабаваць...” – “Што паспрабаваць?” – “Паспрабаваць выявіць смеласць”.

І Грачын уважліва на яго паглядзеў. Доўгім такім позіркам.

Сёння ці ў Грачына, ці ў Брэжнева нешта не так можа пайсці, а ў яго пайшло не так не сёння і не ўчора. Ад пачатку. Ад таго дня, калі ён вітальны верш напісаў, калі згадзіўся сам яго прачытаць, калі…

Калі вырашыў паспрабаваць выявіць смеласць.

Гэта ён дарэшты зразумеў у студыі на Шабалаўцы, дзе запісалі фанаграму выступу.

У той дзень, прыехаўшы з касманаўтам Рыленкам і актрысай Южковай (Посух хоць і не зусім, але ўсё ж прыслухаўся да ягонай парады) у Палац з'ездаў на чарговую рэпетыцыю, яны ўбачылі ў зале празрыстыя калоны. Пластыкавыя цыліндры, якія былі такімі чыста-празрыстымі, што калі б не каляровыя стужкі на іх, дык былі б незаўважнымі. Паміж імі бегаў, ускудлачваючы і без таго кудлатую галаву, узнерваваны каратканогі чалавечак, які адказваў за пастаноўку палітычнага спектакля пад назвай "Прывітанне савецкай моладзі XXVI з'езду КПСС", рэжысёр масавых прадстаўленняў Артур Дворкін.

– Хто прыдумаў галаграфію? Дэнеш Габар прыдумаў галаграфію! Ён савецкі фізік? Не савецкі! І што?.. Мне праз гэта адмяняць рэпетыцыю? Адмяняць галаграфію! Адмяняць з'езд?.. – падбег ён да Рыленкі, тыцнуўшы пальцам у бок сцэны. – Ідзі туды! Ты адзін у форме! Ды не сюды ідзі, туды! На авансцэнцу. Стань там!.. Дзе крыжыкам пазначана, стань. Бачыш крыжык? На ім і стой... Лазер давайце!.. Ну, бачыце? – павярнуўся ён да цэкоўскіх чыноўнікаў у сярэдзіне залы, калі ў цэнтральным праходзе паміж крэсламі ўзнік яшчэ адзін касманаўт Рыленка. – Два касманаўты Рыленкі вітаюць з'езд КПСС! І так ва ўсіх сямі праходах і па баках партэру. Дзевяць касманаўтаў, дзевяць паэтаў, дзевяць актрыс! У адным вобразе, у адным камсамольскім парыве! Гэта ідэя! І гэта відовішча, якое дэлегаты ніколі не забудуць! Усё забудуць, а гэта – не! Я ўбачыў такое шоў на Брадвэі – ашалеў! Мне там сказалі, што гэта самы якасны метад стварэння галаграм, які на сёння ёсць! Хто вінаваты, што ён амерыканскі? Я вінаваты, што ён амерыканскі? Скуль я ведаў, што ёсць савецкі, калі мяне толькі ўчора выклікалі?.. Дзе вы былі, таварыш... – падскочыў Дворкін да цэкоўца, які быў інструктарам аддзела навукі і якога Віктар не аднойчы за дні рэпетыцый бачыў, але прозвішча ягонага, як і Дворкін, не помніў... – дзе вы, таварыш, былі раней? Чаму толькі цяпер, калі ўсё гатова для рэпетыцыі з галаграмамі, вы мне заяўляеце, што нічога амерыканскага, нават нябачнага, – адбег Дворкін да празрыстага, якога без стужкі на ім і не відаць было б, пластыкавага цыліндра, у якім стаяў у сваёй форме з усімі сваімі ордэнамі і медалямі "другі", галаграфічны касманаўт Рыленка, гледзячы на якога Віктар успомніў "лётчыка", падумаўшы: "Можа быць, у антыкварнай краме тое самае было? А ніякае не трызненне, не сіла нячыстая?.." – нічога нават нябачнага, калі яно не савецкае, – вярнуўся Дворкін да інструктара, – на з'ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза быць не можа! Чаму да сёння магло быць, а ад сёння – не?

Інструктара, жыватастага чалавека ў глухім гарнітуры эмоцыі рэжысёра ніяк не закранулі. Ён не стаў яму адказваць, чаму тое, што да сёння можна было рабіць, ад сёння рабіць нельга, прагаварыў вяла: "Хочаце гэта паказаць, мяняйце ўсё амерыканскае на савецкае. Таварышы з інстытута оптыкі вам дапамогуць. Іх метад, між іншым, не патрабуе цыліндраў, так што дэлегаты не будуць галовамі аб пластык біцца. Паспееце падрыхтавацца, дык паспееце, не – без вашых фокусаў абыдземся. Тут Палац з'ездаў на Краснай плошчы, а не вар'етэ на Брадвэі. І каб увогуле ніякіх фокусаў не было, едзьце на Шабалаўку, запішыце фанаграмы выступаў. На тым усё".

І панёс інструктар свой жывот у свой кабінет.

– Я сыходжу! Сы-хо-джу! Едзьце самі на Шабалаўку, я не паеду! Я

адмяняю рэпетыцыю! Я адмяняю з’езд!.. – крычаў рэжысёр Артур Дворкін у спіну інструктару ЦК КПСС, а той спыніўся, выходзячы: “Вось гэта вы, таварыш Дворкін, дарма”.

У радыёстудыю на Шабалаўцы рэжысёр Артур Дворкін не паехаў. Калі сядалі ў аўтобус, яго спыніў чалавек у шэрым паліто, нешта яму сказаў – і Дворкін пайшоў з ім.

З выступоўцамі на Шабалаўку паехала Вера Леанардаўна, колішняя акторка МХАТа, кансультантка па сцэнічнай мове. “А навошта фанаграмы запісваць?” – спытала яе актрыса Южкова, і Вера Леанардаўна паглядзела на яе, як на дурніцу. Але сказала: “Каб вы не хваляваліся, што тэкст забудзеце...”

На рэпетыцыі з фанаграмамі рэжысёр Артур Дворкін быў ціхі і задумены. “Ведаеце, я падумаў, што не трэба мудрыць. Людзі да чаго звыклі? Да таго, што нехта выходзіць на сцэну, нешта ці прамаўляе, ці спявае, ці паказвае – і сыходзіць. Навошта людзям галовы галаграміць? Таму давайце так: выйшлі на сцэну, прагаварылі і пайшлі… Вера Леанардаўна зараз з вамі папрацуе, каб артыкуляцыя з фанаграмай супадала – гэта не так проста, як вы думаеце…”

Каб да іх глыбей дайшло, што ўсё не проста, той таварыш у шэрым паліто, які рэжысёра Дворкіна на размову забіраў, падышоў на рэпетыцыі: “Не бойцеся памыліцца. – І падвёў Віктара да мікрафона. – Паспрабуйце прачытаць не так, як напісалі…” – “Як не так?” – “Хоць як. Напрыклад: “Тони, страна, как в море ледокол”. Віктар прачытаў: “Тони, страна, как в море ледокол”, – але ніхто, апроч яго і таварыша ў шэрым паліто, які быў побач, гэтага не пачуў, па залі пракацілася: “Плыви, страна, эпохи ледокол!”

Так што цяпер – што ні кажы...

Але і смеласць цяпер позна не выяўляць. Напісаны тэкст выступу на з’ездзе ён пакінуў Кручу, які пакляўся перадаць яго знаёмым заходнім журналістам. Круча нават сам прачытаць выступ па “варожым” радыё паабяцаў, так што...

– А раптам Круча пабаіцца? – нервовымі крокамі мераючы закулíссе Палаца з’ездаў і спыніўшыся каля грымёркі актрысы Южковай, спытаў самога сябе Віктар, уголас самога сябе спытаў, такой нечаканай была думка, і актрыса Южкова, якая гэтак нервавалася, што дрыжыкі ў руках не магла суняць, не зразумела. – “Хто пабаіцца?.. Каго?..”

Паэт Круча пабаіцца генсека Брэжнева! І гэбіста Андропава пабаіцца, і сціплага сакратара ЦК Суслава. Не перадасць нічога заходнім журналістам. І што тады выйдзе? Выйдзе, што ён, паэт Віктар Маргер, страляць з бясшумнага пісталета халастым патронам, а таварыш у шэрым паліто ўпакуе паэта Маргера так, нібы ён стрэліў баявым.

– Сцісні мне далоні, – цераз парог працягнула рукі з расчыненых дзвярэй грымёркі актрыса Южкова. – Моцна. Нечага я баюся, дрыжыкі суняць не магу. А праз гэта голас дрыжаць будзе.

Ён узяў яе далоні, сціснуў. Яна войкнула:

– Мацней! Яшчэ...

– Ніхто не пачуе твае дрыжыкі пад фанаграму.

– Таварыш Брэжнеў пачуе. Мы ж побач будзем.

Актрысу Южкову, як і касманаўта Рыленку, Брэжнеў таксама цалаваў. Усе тут Брэжневым пацалаваныя. І Брэжнеў пацалаваны ў адно месца ўсімі.

– Тупайце да пульта ў правай кулісе, вам адтуль на сцэну выходзіць, – падбег да іх рэжысёр Дворкін, якога пасля ўсяго можа Брэжнеў пацалаваць, а можа і таварыш у шэрым паліто. Зрэшты, як і кожнага.

Ад пульта ў правай кулісе, дзе была чырвоная кнопка супрацьпажарнай заслоны, які пры любой небяспецы імгненна аддзяляў сцэну ад залы: маўляў, гарыце вы гарам, абы мы ўраталіся! – добра відаць была ўся сцэна з прэзідыумам з’езда. Брэжнеў, Андропаў, Суслаў, Грамыка, Гарбачоў, Ельцын, сакратар беларускага партыйнага ЦК Кісялёў, госць з Кубы Фідэль Кастра, Хонекер з ГДР, Жыўкаў з Балгарыі, Бабрак Кармаль з Афганістана, Чаушэску з Румыніі – чалавек сто, не меней. Уся камуністычная вярхушка ўсяго свету. І амаль пяць тысяч дэлегатаў з’езда ў зале.

Адной ракеты дастаткова з гор Афганістана.

На трыбуне, павярнуўшыся бокам да залы і тварам да Брэжнева, прамаўляў камсамольскі сакратар Посух. “Камсамол бачыць сваю задачу ў тым, каб выхоўваць у моладзі палітычную пільнасць, класавую нянавісць да ўсяго буржуазнага, усебакова выкрываць імперыялізм, ягоную ідэалогію, мараль, лад жыцця. Падручнікамі для камсамольцаў сталі вашы, дарагі Леанід Ільіч, кнігі “Малая Зямля”, “Адраджэнне”, “Цаліна”.

Неяк Грачын сказаў Віктару, што да 70-годдзя Брэжнева Палітбюро вырашыла выдаць ягоныя ўспаміны. “Толькі няма чаго выдаваць, – развёў рукамі Грачын. І спытаў. – Напісаць не хочаш?” – “Што напісаць?” – “Мемуары генеральнага сакратара”. – “Дык, мусібыць, запісаць, а не напісаць?” – “Кажу табе: напісаць. Якраз зараз падбіраюць людзей. Магу закінуць слова”. – “А навошта мне гэта?..”

Тую размову Ганна чула, Грачын паківаў ёй спачувальна: “Кідай ты гэтага бульбаша, толку з яго не будзе”, – а Ганна ўскінулася: “Ты сам толкам сказаў бы, для чаго яму чужыя ўспаміны пісаць!”

Брэжневу за тры кнігі ўспамінаў далі Ленінскую прэмію. Тым, хто іх пісаў, каму кватэру, каму ордэн, каму пасаду. Імёны не называліся – і ў рэстаране Дома літаратара кожны другі шаптаў па сакрэце, што гэта ён пісаў мемуары генсека. Але тыя, каму было што прашаптаць, маўчалі.

А па краіне анекдот хадзіў. «Ты маю “Малую зямлю” чытаў?” – пытае Брэжнеў Суслава. “Двойчы, Леанід Ільіч”. – “Трэба і мне пачытаць”».

“Спаўняецца 50 год з таго дня, калі вы, дарагі Леанід Ільіч, уступілі ў Камуністычную партыю, – захлёбваўся ў шчасці напомніць Брэжневу пра тое, што ён грыб спарахнелы, Посух. – Нібы на чырвоным сцягу Айчыны, з’ядналіся ў вашым жыцці святыя сімвалы – молат рабочага, серп селяніна і зорка салдата. А ў нашых камсамольскіх сэрцах заўсёды б’ецца ваша маладое сэрца камсамольца, якім вы сталі ў 1923 годзе і застаецеся ім па сёння!” – выгукнуў Посух, і зала, ўзняўшыся хваляй, патанула ў авацыях.

У гэтым месцы павінны былі прагучаць вершы пра маладое сэрца камсамольца – і якраз у гэтым месцы “малады камсамолец” Леанід Брэжнеў паглядзеў на паэта Віктара Маргера. Павярнуў галаву да Посуха на трыбуне, а паглядзеў за трыбуну, за кулісу – на Віктара. Вачамі мудрай старой чарапахі, якая перажыла ўсіх, хто хацеў яе зжэрці.

Чарапаха пазнала Віктара і паківала яму лапай. Двухсэнсоўна неяк паківала: прывітальна – і не надта. Што ж ты, маўляў, вершы пра маё сэрца не напісаў?

Двойчы кіўнула. Туды-сюды, туды-сюды...

## XVII

У кабінеце старшыні праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў Аляксандра Фадзеева сядзелі за сталом рускія савецкія і братнія савецкія пісьменнікі. Рускія савецкія – з аднаго боку доўгага, аточанага крэсламі стала, братнія савецкія – з процілеглага. І тыя, і гэтыя выглядалі трохі разгубленымі, бо не разумелі, дзеля чаго іх гэтак спешна сабралі? Апроч Фадзеева, тут былі ўсе сакратары Саюза, старшыні творчых секцый, камісій, яшчэ нейкія, невядомыя Купалу, людзі – усяго, разам з беларускімі кіраўнікамі і літаратарамі, чалавек трыццаць.

Фадзееў, які хваліўся аднойчы Купалу за чаркай, што падаўляў Кранштацкі мяцеж, сам выглядаў падаўленым. Вяла паздароўкаўшыся з Купалам, ён высунуў шуфлядку свайго старшынёўскага, прыстаўленага да агульнага, стала, стаў там нешта шукаць, прыпадняў тэчку – і Купала ўбачыў у шуфлядцы пісталет.

Да таго дня, калі Фадзееў завершыць свой зямны шлях самагубным стрэлам у сэрца, напісаўшы ў перадсмяротным лісце: "З вялікай радасцю іду з жыцця, збаўляючыся ад подлага існавання..." – было яшчэ амаль пятнаццаць гадоў, але пісталет у шуфлядцы ўжо ляжаў.

Ружавашчокі і адзін з усіх, бадай, вясёлы Аляксей Талстой, з якім пяць хвілін падпісвалі яны летась на Усеславянскім мітынгу Зварот да народаў свету супраць вайны, а пасля пяць гадзін абедалі, абняў Купалу: "Рады бачыць жывым-здаровым! У госці заходзь, паабедаем!.." Потым спытаў Фадзеева, які яшчэ да вайны змяніў яго за сталом старшыні: "Не скажаш, чаго я тут?.."

"Не абедаць", – сказаў Фадзееў, і Талстой, без асаблівай любові глянуўшы на свайго пераемніка, рушыў у канец стала, дзе сядзеў чарнявы чалавек у кіцелі пракурора.

"Вось хто, гледзячы зараз на ружовага Талстога, скажа, што праз тры гады ён памрэ ад раку? – падумаў Купала. – Ніхто не скажа. Але так будзе. Усё будзе так, як ніхто не кажа. А так, як усе кажуць, не будзе".

Нядаўні Генеральны сакратар Саюза пісьменнікаў, а цяпер ваенны карэспандэнт газеты "Правда" Стаўскі, які фактычна кіраваў Саюзам пры сібарыце Талстым і даносіў Сталіну на ненадзейных Мандэльштама, Пастэрнака, Шолахава, падскочыў да Мяркулава: "Усіх, каго маглі, сабралі, нават з фронта і з эвакуацыі прывезлі..." – на што камісар паківаў галавой: маўляў, малайцы, – і падаў знак Фадзееву: "Пачынайце".

Купала пашукаў месца, дзе можна сесці, і, сам не ведаючы, чаму, не захацеўшы пераходзіць на беларускі бок стала, сеў побач з Маршаком, з якім апошні раз бачыўся ў Казані, праз якую той выпраўляўся ў эвакуацыю ў Алма-Ату – і была ў іх перад дальняй дарогай доўгая размова.

– Таварышы, – пачаў Фадзееў, падняўшыся за сваім, з пісталетам у шуфлядцы, сталом, у адным тарцы якога сеў Мяркулаў, у другім – Панамарэнка, – мне патэлефанаваў таварыш Сталін... – усе ўсталі... – перадаў прывітанне савецкім пісьменнікам. Найперш тым, хто на фронце, на першай лініі змагання з фашызмам. Асобна таварыш Сталін прасіў прывітаць нашых беларускіх сяброў, франтавікоў і партызанаў. А потым... – узяў паперку са стала, нібы не давяраў памяці, старшыня Саюза пісьменнікаў... – а потым таварыш Сталін спытаў, як мы збіраемся адзначыць юбілей народнага паэта Беларусі Янкі Купалы? Як паэта жывога, – зірнуў Фадзееў на Мяркулава, – ці як паэта мёртвага?..

Не заўважыць на твары кіраўніка пісьменніцкага Саюза пакутлівае намаганне зразумець, што стаіць за пытаннем Сталіна, было немагчыма, і такое ж пакутлівае намаганне правільна зразумець пачутае праступіла на тварах усіх савецкіх пісьменнікаў, якія стаялі, перамінаючыся з нагі на нагу, і калі Фадзееў сказаў: "Сядайце..." – ніхто не сеў. Нават Талстой, які не выглядаў надта заклапочаным праз тое, што адбываецца, заняты размовай з чалавекам у пракурорскім кіцелі.

– А сёння мы хіба не яго хаваем?.. – няўпэўнена падаў голас старшыня камісіі абароннай мастацкай літаратуры Ліберман, на якога Фадзееў зірнуў так, нібы той не цяміць, што кажа, і Ліберман тут жа паправіўся. – Хоць гэта, вядома, нічога не значыць.

У Фадзеева і без таго твар быў такі, нібы яму зуб мудрасці зараз вырываць будуць, а тут яшчэ Ліберман... Навошта было ўсіх збіраць? Таго ж Лібермана, Стаўскага, Талстога, Маршака... З фронту забіраць, з эвакуацыі цягнуць... Ён сказаў Сталіну, калі той патэлефанаваў: "Амаль нікога з праўлення няма, дык, можа, мы вырашым гэтае пытанне ўдвух з таварышам Мяркулавым..." – а Сталін зрабіў выгляд, нібы нават не зразумеў, пра што ён? "Як гэта вы будзеце кулуарна вырашаць тое, што вырашаецца калегіяльна?" Потым паклікаў да тэлефона Мяркулава, і той, узяўшы слухаўку, кіўнуў Фадзееву на дзверы. Фадзееў і так бы выйшаў, але камісар кіўнуў раней, чым гаспадар кабінета зрабіў крок да дзвярэй.

Спрактыкаваны апаратчык, палітработнік, які ўжо ў дзевятнаццаць гадоў быў інструктарам палітаддзелу і чакаў прызначэння на месца камісара палка, Фадзееў інтуітыўна адчуваў, што званок Сталіна – гэта нейкая праверка, тэст, але не мог вызначыцца з тым, як гэты тэст, праверку гэтую прайсці, якое прыняць рашэнне, каб яно аказалася правільным? Як не памыліцца, зрабіць тое, чаго чакае Сталін, адносіны якога да старшыні Саюза пісьменнікаў былі прыдзірлівыя, чаму "паспрыяў" Горкі, напісаўшы Сталіну, што ён, Фадзееў, спыніўся ў сваім развіцці, але выстаўляе сябе літаратурным правадыром. Потым Сталін сказаў на прыёме, якраз на тым, які ладзіўся ў дзень уручэння Купалу Сталінскай прэміі: "Ты, Аляксандр, не правадыр, ты – Мечык, які ў сабе Мечыка ненавідзіць, а правадыром ты толькі тады зможаш стаць, калі ў сабе Мечыка палюбіш", – што значыла: "Калі палюбіш у сабе нягодніка", – і тым самым Сталін даў зразумець не толькі тое, што прачытаў "Разгром", фадзееўскі раман, але і тое, з каго пісаў аўтар галоўнага героя. – "І тады, – дагаварыў Сталін, – Мечык у табе не застрэліцца".

Не "ў цябе" сказаў, што значыла б "у тваім рамане", у якім Мечык, галоўны герой, спрабаваў скончыць самагубствам, а "ў табе", што азначала...

– Што значыць нічога не значыць? – спытаў Лібермана, сядаючы, Мяркулаў, і следам за ім, хто адразу, хто яшчэ трохі паперамінаўшыся, селі ўсе. – Што вы маеце на ўвазе, таварыш Ліберман?

У старшыні камісіі абароннай мастацкай літаратуры Саюза савецкіх пісьменнікаў стаў гэтакі выраз твару, з якога павінна было вынікаць, што "нічога не значыць" значыць толькі тое, што нічога не значыць, а болей ён, дальбог, нічога на ўвазе не меў.

– Якія будуць прапановы? – пачакаўшы, пакуль пад пісьменнікамі крэслы рыпець перастануць, спытаў Фадзееў. – Можа, паслухаем спачатку беларускіх таварышаў?..

"Так, так, так, – дружна заківалі старшыні творчых секцый і камісій. – Беларускіх таварышаў спачатку паслухаем", – і пад гэтыя ківанні сакратар

пісьменніцкага саюза спытаў сакратара партыйнага ЦК: “Што вы па гэтым пытанні можаце сказаць, таварыш Панамарэнка?”

Панамарэнка адкінуўся на спінку крэсла.

– Нічога. Пытанне не да мяне. Старшыня камісіі па пахаванні таварыш Гарбуноў.

Усе заўважылі, як здзівіўся Мяркулаў. Ён ведаў: Панамарэнку было што сказаць. У справе Івана Луцкевіча-Луцэвіча камісар бачыў два дакументы, падпісаныя сакратаром ЦК. І былі яны даволі, калі не сказаць цалкам, супярэчлівыя. У адным Панамарэнка называў Купалу небяспечным для савецкай улады нацыяналістам, прафашысцкім пісьменнікам, якога трэба неадкладна арыштаваць і аддаць пад суд, што азначала знішчыць, а ў другім пісаў пра яго як пра савецкага паэта-патрыёта, які варты высокай узнагароды: ордэна Леніна. На дакументах былі рэзалюцыі, з якіх вынікала, што і папера “пад суд”, і папера “да ордэна” напісаныя як адказы на запыты з Масквы. Якімі былі запыты – гэткімі былі і адказы. Арыштаваць – дык арыштаваць, узнагародзіць – дык узнагародзіць.

Фадзееў не ведаў, хто такі таварыш Гарбуноў, таму паглядзеў на беларускіх таварышаў неяк касавата – і на ўсіх адразу: “Вы маглі б, таварыш Гарбуноў, ахарактарызаваць таварыша Купалу?”

– Спачатку трэба стварыць камісію па выкананні даручэння таварыша Сталіна! – выгукнуў, пакуль Фадзееў вылічваў, хто з беларусаў Гарбуноў, старшыня секцыі гісторыка-рэвалюцыйных пісьменнікаў Злічэнка, у адной пісьменніцкай групе з якім Купала ездзіў некалі ў Кіеў на экскурсію, і ў справаздачы пра тую паездку кіраўнік групы Злічэнка напісаў, што Купала дэманстратыўна не захацеў разам з усімі слухаць оперу “Запарожац за Дунаем”, а пайшоў з украінскімі нацыяналістамі выпіваць і купацца ў Дняпры. – Потым ужо будзем слухаць характарыстыкі! – рашуча рассякаў рукой паветра старшыня секцыі гісторыка-рэвалюцыйных пісьменнікаў. – І не тыя, якія сваімі напісаныя. Бо вядома, што свае напішуць. Святога намалююць. А вось я не разумею, чаму таварыш Купала, калі памёр, дык паводзіць сябе так, нібы ўжо ні за што не адказвае?

“Знайшоў сваіх...” – падумаў Купала, а Фадзееў паёрзаў на крэсле: “Мы і ёсць камісія, таварыш Злічэнка”, – і тады Гарбуноў дастаў з кішэні складзены аркуш паперы, зірнуў на Панамарэнку, які згодна кіўнуў, і перадаў паперу Фадзееву.

– Таварышы, сябры нашы! Сёння мы сабраліся, каб развітацца з адным з найслаўных сыноў Беларусі, – разгарнуўшы паперу, стаў чытаць Фадзееў, і Купалу прыемна здзівіла, што ў Фадзеева, які нарадзіўся ў Кімрах і ніколі не жыў у Беларусі, такое файнае, не горшае, чым у Сталіна і Гітлера, беларускае вымаўленне. – Нямала магутных асілкаў-ваякаў, людзей вялікага розуму нараджваў беларускі народ. Такім быў заснавальнік беларускага кнігадруку Георгі Скарына, такімі былі асветнікі-гуманісты Сімяон Полацкі, Васіль Цяпінскі, Багушэвіч, але нават сярод іх Янка Купала, з якім са слязьмі на вачах і болем у сэрцы мы назаўсёды развітваемся... – пакруціў над сталом паперыну Фадзееў. – Пачакайце... Гэта ж развітальнае слова. На пахаванні.

– Ну так, – сказаў Гарбуноў. – Характарыстыка.

Пра абсурднасць сітуацыі падумалі ўсе. Але адно – падумаць, іншае – сказаць. Сталін, дарэчы, ніколі не пытаў: “Што вы думаеце, таварыш...” Ну, там, таварыш Жукаў, ці таварыш Берыя... Бо ведаў, што яны думаюць. “Каб ды здох!” – думаюць яны. Таму пытаў: “Што вы скажаце, таварыш?..” Ну, там, таварыш Фадзееў, ці таварыш Панамарэнка...

– Гэта характарыстыка ЦК партыі? – палічыў не лішнім удакладніць Фадзееў у Панамарэнкі, які, таксама разумеючы, што гульню ў “жывога і мёртвага” Сталін прыдумаў не проста так, вырашыў адмаўчацца, але паколькі ён, седзячы побач з Фадзеевым, бачыў, што “характарыстыка” надрукаваная на бланку ЦК, яму нічога не заставалася рабіць, як сказаць: “Так”. І тут жа старшыня камісіі абароннай мастацкай літаратуры Ліберман, палічыўшы, што гэта зручны момант, каб выправіць сваю памылку, падняўся з урачыстым тварам: “У такім разе таварыш Купала, безумоўна, жывы! І менавіта ў гэтым аспекце нам трэба падумаць пра юбілей, прадставіць юбіляра да ўзнагароды. Можа быць, да прэміі, да ордэна, да...”

То Гітлер прапаноўвае, то Ліберман...

Панамарэнка, адзіны з усіх прысутных, хто ведаў, чаму і як не стала Купалы, а таму вельмі сумняваўся, што Сталін захацеў раптам забітага ажывіць, каб юбілей ягоны справіць, усё ж вырашыў не выяўляць пакуль свайго сумневу, але і з юбілейнымі ўзнагародамі не спяшацца.

– Ды ўсё ў яго ёсць! – перапыніў ён Лібермана. І ордэн, і прэмія. І званне... Народны паэт! Што яшчэ можа быць?

– А двойчы! – сказаў, нават не перапыніўшыся, Ліберман.

Панамарэнка не зразумеў.

– Што двойчы?

– Двойчы народны! – з тварам, асветленым новай і, як яму, мусіць, здалося, вельмі ўдалай ідэяй, не перапыняўся Ліберман. – Двойчы народны паэт. Беларусі і Расіі. Як жывы сімвал вечнага братэрства.

Усе паглядзелі на Мяркулава, той сядзеў з індыферэнтным тварам: маўляў, вам вырашаць. “Ну, не зусім... – усё ж заўважыўшы нешта не надта жывое на індыферэнтным твары камісара... – не зусім жывы”, – хацеў, мусібыць, сказаць драматург Трэнёў, які напісаў п’есу пра тое, як бальшавічка-жонка выдала на смерць белагвардзейца-мужа, спектаклі па якой трыумфальна прайшлі пад расстрэльныя залпы па ўсім СССР, але тут сярод беларускіх паэтаў, якія, сеўшы цеснай купкай, дасюль маўчалі, заўважылася ажыўленне, пра нешта яны перашапталіся, падняўся Пятрусь Броўка: “Мы, беларускія паэты, падтрымліваем прапанову таварыша Лібермана”.

Панамарэнка, як па ім відаць было, ніякіх самастойных рашэнняў ад беларускіх паэтаў не чакаў, таму спытаў незадаволена: “Якую канкрэтна, таварыш Броўка, вы падтрымліваеце прапанову?” – і Броўка, убачыўшы рэакцыю Панамарэнкі, хоць і зрабіў паўзу, завагаўся, але ўсё ж не прамаўчаў: “Прапанову надаць Янку Купалу яшчэ адно званне народнага... двойчы народнага, беларускага і рускага, як сімвал вечнага братэрства”.

Не ведаючы, што сказаць, каб не памыліцца, у адказ на гэткую нечаканку, першы сакратар беларускага партыйнага ЦК спытаў Мяркулава, які іранічна ўсміхаўся, седзячы насупраць: “Але ж у Расіі, па-мойму, няма такога звання?..” – а потым, зірнуўшы на рускіх савецкіх паэтаў, пасля на савецкіх паэтаў беларускіх, на Броўку, Глебку, Танка, як бы пажартаваў: “Калі яшчэ адно званне Купалу надаць, дык некаму з вас яно не дастанецца...” – і старшыня секцыі дзіцячых пісьменнікаў Маршак засмяяўся.

Ён засмяяўся не праз жарт Панамарэнкі, якога й не чуў, распавядаючы на вуха Купалу пра свае дзіцячыя гады, пражытыя ў доме дзеда, казённага равіна Бера Гіцельсона на Бібкіным правулку ў Віцебску, горадзе, пра які думаў, што гэта габрэйская сталіца, бо дзед казаў, што ў Віцебску нават коні размаўляюць на ідышы. Успомніўшы гэта, Маршак і засмяяўся,

а Стаўскі, якому відавочна не спадабалася ні прапанова Лібермана, ні двухсэнсоўная пазіцыя Панамарэнкі, раптам спытаў: “Свае антысавецкія фельетоны ўспомнілі, Самуіл Якаўлевіч? Ці з чаго вам смешна?..”

Усё як заўсёды...

“Усё як заўсёды, – мутарна падумаў Купала. – Вось для чаго Сталін загадаў Мяркулаву сабраць іх усіх? Каб яшчэ раз я паглядзеў, у якім свеце жыў?..”

Пытанне Стаўскага было зусім не смешнае. І не толькі таму, што вайна, што нядаўні Генеральны сакратар Саюза пісьменнікаў Стаўскі быў на вайне карэспандэнтам газеты “Правда”. Пытанне ягонае і без вайны было б небяспечнае – вунь як паглядзеў невядомы Купалу, нечым падобны да Сталіна чалавек у кіцелі пракурора.

Звычайна інтэлігентны Маршак ад падобных пытанняў ніякавеў, а тут, можа быць, праз тое, што блукаў ва ўспамінах дзяцінства, якія, што Купала па сабе ведаў, нагадваюць чалавеку пра найлепшае, што ў ім было... вось жа было – і куды падзелася?.. як і чаму ты ператварыўся ў таго, кім зараз ёсць?.. як стаў такім, якім ні за што не хацеў бы быць?.. і як цяпер глядзець на сябе такога адтуль, з дзяцінства, для якога ты гэтакі, якім стаў, чужы?.. – можа быць, праз гэта, а, можа, праз тое, што не толькі сёння, але і не так даўно ў Казані ён даверліва размаўляў з Купалам, спачувальна казаў яму: “Я ведаю, колькі ў вас паэтаў расстралялі, і, ведаеце, мяне таксама маглі расстраляць, у апошні момант Сталін з расстрэльнага спісу выкрасліў, а сяброў маіх за нейкія прыдуманыя контррэвалюцыйныя сувязі, якія нібыта былі ў іх са мной, знішчылі, і мне так было страшна, балюча, сорамна, я нават пра самагубства падумваў, толькі, ведаеце, наўрад ці я змог бы, як вы, харакіры зрабіць...” – невядома, з якой прычыны, але Маршак раптам падняўся, павярнуўся да Стаўскага: “Гэта зусім не смешна. Нічога з таго, што тут адбываецца, не смешна. Так, я пісаў у маладосці, як і цяпер пішу, фельетоны. І ў белагвардзейскай газеце падчас грамадзянскай вайны, пра што ўсе ведаюць, іх друкаваў. А вось пра тое, як цяжка мне было разабрацца ў тым, што адбываецца, як няпроста было зрабіць выбар, вырашыць, з кім быць? – не ведае ніхто. Але я зрабіў яго, выбар. Я з вамі, тут, а не ў эміграцыі ў Парыжы. І Купала тут, з намі, а не з немцамі ў Мінску, – сеў Маршак і дагаварыў, сеўшы. – Што само па сабе кажа пра тое, мёртвы ён ці жывы”.

Выступ Маршака, эмацыйны ўсплёск, з якім ён прамаўляў, быў для гэтага кампраміснага чалавека такім незвычайным, што ніхто не ведаў не толькі, што сказаць, але што й падумаць. “Я не разумею, як тое, што ён з намі, даказвае тое, што ён... Ён, калі мы ў Мінску... калі мы ў Кіеве былі...” – паспрабаваў нешта сказаць і заблытаўся, зноў успомніўшы экскурсію ў Кіеў, Злічэнка, а ўсе астатнія, чакаючы рэакцыі ці Мяркулава, ці Панамарэнкі, маўчалі.

Купала добра помніў той стан, у якім пакідаў Мінск, памятаў трывогу, адчай – і думку, якая мільгнула: а, можа, застацца?.. І думка тая, што ён таксама добра помніў, мільгнула не толькі праз тое, што маці з Мінску не хацела ехаць, не адно праз страх за яе. За сябе таксама. А калі зусім шчырым перад самім сабою быць, дык найперш за сябе.

Але што было б далей?.. Гэта цяпер ён ведаў, калі ўжо й ведаць няма патрэбы, усё, што будзе наперадзе, а тады пра тое можна было толькі гадаць. Немцы, дый не толькі немцы, свае таксама, як і тады, у 20-я, калі палякі ў Мінск прыйшлі, не далі б яму спакойна жыць... Потым з імі, са

сваімі, эміграцыя... Толькі ўжо не тая эміграцыя, на якую пасля рэвалюцыі спакушалі яго Гіпіус з Меражкоўскім, угаворвала княгіня Магдалена Радзівіл. Зусім не тая... Можа быць, быў бы зараз жывы, але як бы жыў? Як ганаровы сябар Імперскай палаты літаратуры?..

– Дзіцячы пісьменнік не па-дзіцячаму выступіў, – пачуўся чыйсьці нетаропкі, трохі хрыплаваты голас, і чамусьці Купала, яшчэ не ўбачыўшы, хто прамаўляе, падумаў пра чалавека ў кіцелі пракурора. І не памыліўся. – Але калі таварыш Маршак мяркуе, што выступіў на карысць таварыша Купалы, – нетаропка доўжыў той, апрануты ў пракурорскі кіцель, чалавек, які сядзеў у самым канцы стала, і было відаць, што не толькі Купала, а ніхто, нават Талстой, які сеў побач з ім, не ведае, хто ён такі, – дык, памойму, у гэтым ён памыляецца. Але не памыляецца ў іншым: у інстынктах, або, калі заўгодна, у філасофіі. У такой, – пстрыкнуў пальцамі "пракурор", – жыццёва-пабытовай філасофіі, зыходзячы з якой прымаюць рашэнні людзі. Найперш слабыя. А паколькі, як сведчыць Святое пісанне, і гэта адзінае сведчанне ў ім, якому я веру, слабыя ўсе, дык можам лічыць, што ўсе мы, за рэдкімі выключэннямі, прымаем рашэнні, зыходзячы менавіта з гэтай самай жыццёва-пабытовай філасофіі. Нават тады, калі лічым, што выбар, які мы робім, – уважліва паглядзеў "пракурор" на Маршака, – прадыктаваны нам нейкай іншай, значна вышэйшай за нашу пабытовую філасофію ідэяй, усё адно любое наша рашэнне абумоўленае найперш тым, наколькі яно для нас бяспечнае ці небяспечнае. Няхай сабе яно як бы й не звязанае з бяспекай, з тым, пагражае нешта табе, твайму жыццю, – ну, скажам, у якую краму лепш па хлеб схадзіць, – ці не пагражае, падсвядома ў гэтым прысутнічае не толькі хлеб, але і асцярога за жыццё. – Тут ён, адчуваючы, што занадта ўдаўся ў філасофію, у якой не ўсе пісьменнікі падкаваныя, вырашыў выказацца прасцей. – Я ўсё, зразумела, спрошчваю, але чалавек падсвядома ўзважвае: колькі трэба вуліц перайсці, па якіх машыны імчаць, ці ёсць скрыжаванні па дарозе ў тую краму, ці ў гэтую... Дык вось уявіце чалавека, – гэтак жа ўважліва, як толькі што на Маршака, зірнуў "пракурор" на Купалу, – на скрыжаванні вайны. У горадзе, які вось-вось будзе заняты немцамі. І які мае досвед жыцця ў гэтым жа горадзе, некалі занятым палякамі. Што яму рабіць дзеля бяспекі? Адыходзіць з Чырвонай арміяй? Мінулым разам ён не адышоў – і застаўся жывы. Яго не расстралялі, не арыштавалі. Нават сімвалам сяброўства з акупантамі паспрабавалі зрабіць... Нешта ён праз тое страціў, але захаваў жыццё. А значыць, рашэнне, якое прыняў, выбар, які зрабіў, быў правільны. Вось і праз гады, калі ўжо не палякі, а немцы ўваходзілі ў Мінск, у якім не толькі ягоная маці, але і шмат хто з блізкіх яму людзей застаўся, ён падумаў... Вось пра што вы падумалі, таварыш Купала?.. Не тады, зараз?.. Пра тое, што калі б засталіся ў Мінску, былі б жывы?

Так, ён падумаў якраз пра гэта. Яшчэ падумаў: "Ды пайшлі вы з вашымі юбілеямі! Праз гэта таіцца, хавацца? Ды яшчэ па смерці, калі ўжо ведаеш усё, што наперадзе... Вунь Маршак, які хоць і не ведае, што наперадзе, і то не стаіўся". І Купала ціха, але выразна сказаў: "Так, падумаў, што калі б застаўся ў Мінску, быў бы жывым".

– Та-а-к... – пагрозліва ўстаючы, працягнуў Панамарэнка, і тут жа: "Так, так, так – говорит пулемётчик, так-так-так – говорит пулемёт..." – праспяваў нехта ў расчыненым акне, і ўсе, павярнуўшыся да вакна, убачылі дзіўнаватага чалавека ў лётным шлеме з чырвонай зоркай, які, адным, зялёным вокам падміргнуўшы Мяркулаву, а другім, карычневым, Пана-

марэнку, сказаў: “Кур’ер з Крамля. Узнагарода для таварыша Купалы”, – і пакуль Мяркулаў намагаўся ўспомніць, дзе ён гэтага разнавокага бачыў, кур’ер з Крамля, паклаўшы на белае падваконне чырвоную пушачку, як ніадкуль з’явіўся, так у нікуды знік.

Пушачка была такой чырвонай, нібы распаленай, здавалася – вось-вось запалае. Яна нагадвала тыя футаральчыкі, у якія звычайна кладуць для ўручэння зоркі герояў. Фадзееў неяк няўпэўнена ўстаў, асцярожна, нібы апячыся баяўся, узяў пушачку, вярнуўся да стала, падняў вечка... Здрыгануўся, быццам напраўду апёкся, пушачка выпала з ягоных рук – і ён абамлела сеў. На стале перад ім ляжаў крыжык з раскрыжаваным Сталіным. У фрэнчы, у галіфэ і ў ботах.

– Стаяць! – схапіўшы крыжык, малпай скочыў у вакно Мяркулаў, Купала ніколі не падумаў бы, што такі грузны чалавек можа гэтак скочыць. – Стой!.. – яшчэ раз крыкнуў камісар, а потым з двара пачуўся стрэл, і нехта грузна ўпаў. Усе кінуліся да вокнаў: пасярод параднага двара дома Растовых курыўся пыл над паваленай на камісара, з рук якога выпаў пісталет, скульптурай мысляра, на патыліцы якога свяціўся чырвонай зоркай лётны шлем.

## 18

– Дэлегатаў і гасцей XXVI з’езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза вітае савецкая моладзь, ленінская піянерыя і ленінскі камсамол! – разнёсся пад дахам Палаца з’ездаў голас дыктара, і першым за супрацьпажарную заслону ступіў да трыбуны касманаўт Рыленка, за ім актрыса Южкова, за ёй Віктар... “Смела наперад! Спілуйце кайданкі! Скіньце скрываўлены царскі ланцуг!” – успомніўся юначы верш Брэжнева, які Віктар усё ж пераклаў (бо чаму не?), але Суслаў ідэю Посуха прачытаць верш па-беларуску не ўхваліў: “Вы на з’ездзе пісьменнікаў пераклады ягоных вершаў чытайце. А на з’ездзе партыі скажыце пра ягоныя партыйныя кнігі. Узнёсла скажыце, як песню праспявайце”. І Посух праспяваў пра “Малую зямлю”.

“Мы пройдем сквозь шторм и дым. Станет небо голубым. Не расстанусь с комсомолом, буду вечно молодым...” – з песняй і сцягамі пацяклі ручаінамі ва ўсе праходы залы Палаца з’ездаў піянеры і камсамольцы, лепшыя з лепшых, адабраныя на піянерскіх сходах, на камсамольскіх будоўлях, на заводах і фабрыках, у інстытутах і калгасах, у арміі і на флоце, і так доўга, як у тыя хвіліны, пакуль набліжаліся яны ад уваходаў у залу да сцэны, пакуль Віктар падыходзіў па сцэне да трыбуны, пакуль стаяў за ёй, чакаючы, калі ручаіны перастануць цячы, застынуць, зледзянеюць, – ніколі гэтак павольна, так доўга не цягнуўся час...

– Трэба ўстаць, Леанід Ільіч... Нашу змену прывітаць... – пачуў Віктар за спінай голас Суслава, а за голасам пачуўся хруст, з якім пачаў падымацца Брэжнеў: вось хруснулі ў локцях рукі, якімі абапёрся ён на стол, вось у плячах захрусцела, вось адно калена хруснула, другое: “Так, Міхаіл Андрэевіч, трэба падняцца...” – і ў скронях Віктара запульсавала: “Трэба падняцца! Так, трэба падняцца! Над самім сабой, над страхам! Трэба сказаць, трэба сказаць, трэба сказаць!.. Не можа чалавек, які ледзьве падымаецца, кіраваць краінай. Яму трэба сысці, пакуль ён сам гэта разумее. Калі перастане разумець, тады будзе... А што будзе? Тое самае, што ёсць. Бо ўжо не ён кіруе. Сміруцюкоў сказаў Ганне, што на гэтым з’ездзе дарагі Леанід Ільіч

хацеў заявіць пра адстаўку, але тыя, хто за ім, супраць. Бо надта дарагі... А раптам плюне і заявіць? Што тады?.. Тады выйдзе, што паэт Віктар Маргер прапанаваў генеральнаму сакратару ЦК КПСС сысці з пасады – і той сышоў!”

Віктару ніводнага разу не падумалася раней пра такую магчымасць. А тут падумаў – галава кружанулася. Так, што яго хіснула. І хоць рэжысёр Дворкін сто разоў казаў: “Калі сталі за трыбуну, ні ў якім разе не паварочвацца да прэзідыума! Толькі ў залу глядзець, толькі на дэлегатаў!” – Віктар павярнуўся да Брэжнева, які падняўся і пляскаў камсамольцам з піянерамі: “Сыдзі! Сыдзі! Сыдзі!..”

Брэжнеў глядзеў паўз яго. У залу. На дэлегатаў. І так на іх глядзеў, што Віктар на заклад мог са Смерцю пабіцца: не сыдзе! Бо хто яго, калі сыдзе, гэтак вітаць будзе?..

Як цягнецца час! Здаецца, яны столькі на сцэне, колькі Брэжнеў ва ўладзе, а яшчэ нават касманаўт не выступіў... І Южкова ўсё калоціцца, дрыжыкі суняць не можа.

Віктара не калаціла. Ніякіх дрыжыкаў. Ён быў напружаны, але спакойны. Як заўсёды, калі трэба было сабрацца, каб прыняць рашэнне.

“Але ж ты прыняў яго. Напісаў тое, што вырашыў сказаць. Аддаў напісанае Кручу. Папрасіў перадаць замежным журналістам. Можа быць, Круча ўжо аддаў ім. І яны чакаюць, пакуль...”

Ён уявіў Кручу з журналістамі. Як ён нервуецца, а яны пытаюць: “Што?.. Выступіў?.. Сказаў?..”

Трэба сказаць. Бо калі не сказаць тут, дык што тады казаць там?..

Чакай, а для чаго трэба?

Дзеля каго?

Вось яно. Ключавое.

Для чаго і дзеля каго?

Дзеля народа? Для Радзімы? Дык калі з тым, што народ, яшчэ можна неяк мірыцца, дык з тым, што Радзіма, ну ніяк! Нездарма адзін з паэтаў-эмігрантаў ваўчыцай яе назваў.

Але праблема не ў ёй. Ваўчыца, не ваўчыца. Як каго карміла... Праблема ў ім. У тым праблема, што ўсё, што ён зрабіў, каб стаяць на гэтай сцэне за гэтай трыбунай, усё, для чаго і зараз стаіць ён тут, і збіраецца сказаць тое, што напісаў, – дзеля сябе. І калі не збярэцца сказаць, калі не скажа, дык дзеля сябе таксама. Нічога дзеля Брэжнева, Суслава, Андропава, для Палітбюро ЦК, нічога для дэлегатаў, нічога для журналістаў, нічога дзеля Кручы, Шкляра, Вышэнскага, Ружэвіча, Ахметавай, Бычыка, Пімена, Бура, Барады, нічога для Саюза пісьменнікаў, дзеля народа, савецкага ці нямецкага, нічога для Радзімы, дзеля Ганны нічога, усё – дзеля сябе.

Каб падняцца.

Успомніў, як на Шыпку падымаўся. Як цяжка было ісці ўверх па схілах гары, узыходзіць шляхам, якім узыходзілі ўсе. І як лёгка ўзляцеў ён у вышыню з Арлінага гнязда, з якога ўзлятаць, падымацца, здавалася, ужо не было куды.

Праз тое ўзляцеў, што арол?

Не. Праз выпадак.

Але чаму той выпадак менавіта яму Бог паслаў? У Вірсава забраў і яму аддаў. Бо Вірсаў не гэтакі гнуткі, на вузкай лесвіцы ветэрана з мыліцамі не падхапіў бы? Не скарыстаўся б выпадкам?..

Скарыстаўся б. Вірсаў казаў: «Я магу ўсё, што могуць усе».

Стоп. Недзе тут тое, што ён шукае... Ён ветэрана падтрымаў для сябе? Ну, не для Брэжнева ж, не для Жыўкава, не для Палітбюро. Савецкага ці балгарскага... Але і не для сябе. Хіба ён думаў, што калі не дасць ветэрану ўпасці, дык ветэран яго падыме вышэй за Арлінае гняздо? Што выйдзе так, як выйшла? Не. Ён не даў ветэрану ўпасці, каб ветэран не ўпаў. Ён зрабіў гэта дзеля ветэрана – больш ні для каго і ні для чаго.

Не дзеля сябе. І тое, што ён зрабіў не дзеля сябе, дзеля іншага, вярнулася яму з лішкам.

Але гэта банальна. Біблейшчына.

А што не банальна? Што не біблейшчына? Хрыстос хіба ўзважваў, вагаўся, сказаць ісціну, якая Яму адкрылася, ці не сказаць?..

Во куды яго занесла! На з’ездзе антыхрыстаў да Хрыста.

“Паважаныя дэлегаты з’езда, дарагі і любімы Леанід Ільіч! – пачаў прамаўляць напісаны яму тэкст касманаўт Рыленка. – Ад атрада савецкіх касманаўтаў, ад стваральнікаў нашай касмічнай тэхнікі, якая ўзняла Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік вышэй за ўсе краіны ўсяго свету, прыміце прывітанне XXVI з’езду КПСС... з космаса!..” – выгукнуў Рыленка так, як навучылі яго рэжысёр Дворкін з колішняй акторкай МХАТа Верай Леанардаўнай, і ўсе дэлегаты з’езда гэтак узвіліся з крэслаў, нібы ў космас узляцелі, каб вітаць адтуль дарагога Леаніда Ільіча, і ўсе піянеры, усе камсамольцы разам з іх заводамі, калгасамі, фабрыкамі, інстытутамі, разам з арміяй і флотам, разам з камсамольскімі будоўлямі грымнулі “ура!..”

“Задралі! – казаў яму, калі выпівалі пасля адной з рэпетыцый, Рыленка. – Я Герой Савецкага Саюза, касманаўт, палкоўнік, а нейкі сутэнёр са старой курвай мяне шыхтуюць, як навабранца! Стань тут, павярніся гэтак, разяўся так! Ты ведаеш, чыёй яна палюбоўніцай была, Леанардаўна? Яжоўскай! Сталінскага падручнага палюбоўніцай! Ты бачыў, што ў яе грудзей няма? Ён выразаў! Прыраўнаваў і адрэзаў! Ці, можа, гэтую страшылку пра Яжова прыдумалі, проста высахлі грудзі ў курвы. А яе ў Крэмль! Таксама, відаць, нейкі былы палюбоўнік па старой памяці прыцягнуў... Я што: не мог прыйсці і прачытаць тое, што ты мне напісаў, сам? Без курвы Леанардаўны, без дэбіла Дворкіна? Ці гэта я дэбіл? Я касманаўт! Герой Савецкага Саюза!..”

– Твой выступ не я пісаў, – перапыніў яго Віктар, і Рыленка здзівіўся:

– Хіба?.. А ўсе кажуць, што ты. І мне, і Южковай... Усім. Нават Леаніду Ільічу.

– Што Леаніду Ільічу?

– Ягоныя ўспаміны пісаў. Таму цябе і ўзялі на з’езд. А потым паставяць на камсамол. У Палітбюро адны дзяды, дык яны вырашылі ў камсамоле амаладзіць кадры. – І Рыленка засмяяўся. – Во логіка.

– Хто так кажа?

– Усе. Апроч цябе.

Героем Савецкага Саюза Рыленка стаў яшчэ да таго, як стаў касманаўтам. Выпрабоўваў нейкі найсакрэтны самалёт, той пачаў падаць, але Рыленка яго не кінуў. Не катапультаваўся. Віктар спытаў: “Чаму? Стаць героем хацеў?” – і Рыленка сказаў, наліваючы каньяк: “Не думаў пра гэта. Палётнае заданне было: падняць і пасадзіць самалёт. Я падняў і пасадзіў”.

Гэта з ім, з Рыленкам, падумаўшы, што калі герой і ў касманаўты запісалі, дык здароўе ў яго такое, што народзіцца дзіця, пажыла пару гадоў Ганна. І гэта яна, мусібыць, прыцягнула яго ў Крэмль. Па старой памяці.

“А заўтра смерць цябе спаткае, ніхто не ведае, якая…” – спяваў,

наліваючы каньяк, Рыленка, і калі Віктар спытаў: “Чаму ты выбраў працу такую, на якой рызыкуеш жыццём?” – пацепнуў плячыма: «А хто ў мяне пытаўся? Паклікалі, праверылі, сказалі: “Падыходзіш!” І што мне адказаць на гэта было? Што не? Калі ўсе рваліся ў касманаўты. Калі ўсіх у нашым палку адсеялі, а мяне паклікалі. Заўважылі. Вось і цябе заўважылі ў тваім палку. Паклікалі, праверылі, сказалі: “Падыходзіш”. Гэтак з усімі, хто падыходзіць. А з тымі, хто не падыходзіць, інакш. Так што давай вып’ем за тое, што падышлі. І за рызыку. Я люблю рызыкаваць. Для мяне жыць – гэта ў адкрыты космас выходзіць. Таму я і падышоў. А чаму ты падышоў, не ведаю. У адкрыты космас не выходзіш. Чым ты рызыкуеш?.. Тым, што старому пердуну Брэжневу не спадабацца можаш? Кашчэю Суславу? Палітбюро?.. Анекдот пра гэтых мухамораў ведаеш? Што такое чатыры нагі на сорак зубоў? Кракадзіл. А сорак ног на чатыры зубы? Палітбюро. Чаму не смяешся?.. А, чуў... Тады пра генсека. Наш, касмічны анекдот, ты не мог чуць. Паляцеў Брэжнеў у космас. І забыўся вярнуцца... Ты чаму не смяешся?..»

Бо нічога смешнага. Бо чаму ты, Герой Савецкага Саюза, касманаўт, палкоўнік Рыленка, чалавека, якога гэтак не любіш, так горача вітаеш? Актрыса Южкова дык хоць любіць – ажно калоціцца. У гэтай зале, можа быць, адна яна і любіць усімі любімага Леаніда Ільіча.

Актрыса Южкова калацілася і тады, калі ў гатэлі завяла Віктара ў свой нумар. Не пытаючыся, ці хоча ён заходзіць, узяла пад руку і завяла. Яны вярнуліся з Дома мод, дзе яму прымяралі касцюм, які шылі на выступ, а ёй сукенку. Такую строга-шэрую, якая толькі і можа пасаваць ідэйнай камсамолцы. Там безліч вісела сукенак, адна шыкоўна-шаўковая, святочная, і актрыса Южкова спытала: “А можна мне гэтую?” Ёй хуценька, яе ведалі і любілі, падалі тую сукенку: “Калі ласка! Прымерайце!” –і калі яна выйшла з прымяральні, дырэктарка Дома мод прыцмокнула: “Шык! Галівуд! Можаце не здымаць. Толькі гэта не для выступу”.

Актрыса Южкова зняла сукенку, як толькі яны ўвайшлі ў нумар. І ўся ў дрыжыках, пацягнула яго ў ложак… Потым, калі перастала дрыжаць, паднялася, зноў сукенку прымерала. “Я прыгожая? Не горшая за Ганну?..”

Так, яна была прыгожая. Гэтакая маскоўская Мэрылін Манро. Але… Але яна дрыжэла, а ў ім – ніякіх дрыжыкаў. Такіх, як з Ганнай…

Потым яна папракала яго ў няшчырасці. «Ты не шчыры быў са мной. Навошта, калі не шчыра? Ты і вершы пішаш так, як кахаеш? Чытаеш ва ўсякім разе так. Як ледакол пра лёд. Я гэта заўважыла, Веры Леанардаўне сказала. Яна згадзілася. “Толькі што я, – спытала, – магу зрабіць? Нельга навучыць шчыра прамовіць тое, што напісана не шчыра”. А ты ж сам пісаў... Тады скажы мне: навошта табе ўсё гэта? Дзеля чаго?..»

“Шаноўныя таварышы дэпутаты! Дарагі і любімы Леанід Ільіч! Дазвольце мне ад імя работнікаў кіно і тэатра, ад імя мастакоў, музыкаў, ад імя ўсіх дзеячаў савецкай культуры прывітаць вас і пажадаць плённай працы XXVI з’езду нашай роднай камуністычнай партыі!..” – выпіраючы грудзямі Мэрылін Манро са строга-шэрай, якая толькі і можа пасаваць ідэйнай камсамолцы, пашытай у маскоўскім Доме мод сукенкі, шаўкова-шыкоўным голасам пачала прамаўляць актрыса Южкова, адвярнуўшыся ад залы да прэзідыума, да Леаніда Ільіча, чым адразу парушыла ўсе рэжысёрскія ўстаноўкі Дворкіна, але да канца вытрымала ўсе ўстаноўкі былой актрысы МХАТа, старой курвы Веры Леанардаўны, якая за сваё жыццё гэтак высахла, што ў яе не было ніякіх грудзей, калі толькі яна не паклала ў ліфік пару гранат.

“Ведалі б вы, – казала Вера Леанардаўна, калі Віктар пасля адной з рэпетыцый праводзіў яе дахаты, і яна запрасіла яго на каву, – колькі ўва мне нянавісці да гэтай улады, гэтай партыі, гэтай краіны! Мне тры гады было, мы жылі ў сваім доме на Палянцы, калі яны сваю рэвалюцыю прыдумалі, і з таго часу я столькі ператрывала! Бацьку забралі, расстралялі, маці саслалі ў Казахстан, яна там памерла. Мяне Маркелаў, не Мяркулаў, а Маркелаў, генерал, ведаеце такога? – замуж узяў, таму не чапалі, а пасля і яго арыштавалі. Я ўжо ў тэатры была, дык уявіце!.. Жонка ворага народа ў тэатры, у які Сталін ходзіць! Хацелі выгнаць, за мяне Якаў Баярскі заступіўся. Дырэктар МХАТа, ведаеце такога? Ён з Беларусі, з вашых мясцін. Я ў яго на дачы жыла, бо жыць не было дзе, дом у нас забралі. Ён разам з Яжовым, такога вы мусіце ведаць, дачу наймаў, дык там у гасцях хто толькі ні бываў! А пасля галоўнага энкэвэдыста Яжова звінавацілі ў гомасексуалізме, і ён назваў Баярскага… ну, сваім каханкам, дык Якава, як і Яжова, расстралялі, яшчэ й Мейерхольда разам з ім, а мяне як толькі ні цкавалі, ні прыніжалі – лесбіянка, маўляў, сука, калі ў кампаніі з гомасексуаламі, ды яшчэ з ворагамі. І вось мне за семдзесят, я старая і нікому не патрэбная, як наш касманаўт кажа, курва, а тут мне прапануюць – бо школа, такой школы цяпер няма! – узяць групу, падрыхтаваць да выступу на з’ездзе. Дык я і ўзяла. Вазьму, думаю, пару гранат, пранясу як-небудзь на рэпетыцыю, схаваю, а на з’ездзе ці кіну, ці разам з сабой падарву…”

– Павярніся! Павярніся! – шаптаў з-за кулісы і пальцам актрысе Южковай гразіў рэжысёр Дворкін, які праз дзень пасля таго, як таварыш у шэрым паліто запрасіў яго праехаць з ім на Лубянку, сядзеў у гатэлі ў нумары Віктара і даводзіў, што СССР – гэта адна срань ад Хабараўска да Брэста, і што наваляла гэтай срані ад Брэста да Хабараўска сраная КПСС, у з’ездзе якой, у стварэнні антуражу сходкі старых засранцаў яны з Віктарам маюць сраны гонар браць сраны ўдзел. І вось гэты рэжысёр з ягонай трупай, у якой адна актрыса Южкова шчырая на сцэне, як у ложку, гэтыя людзі, якія не баяцца выходзіць у адкрыты космас, але баяцца сказаць тое, што думаюць, бо адкрытая праўда страшней за адкрыты космас, таму яны хаваюцца ад яе за анекдотамі і, ведаючы праўду пра срань ад Брэста да Хабараўска, узнёсла вітаюць тых, хто гэтай срані наваляў. І так не толькі тут, так паўсюль: на заводах і фабрыках, у інстытутах і калгасах, у арміі і на флоце, на камсамольскіх будоўлях, на ўсіх будоўлях камунізму, у ЦК камсамола і ЦК КПСС, у ЦК ленінскай піянерыі – скрозь і ўсюды фальш, як пусты фанцік на каляднай ёлцы, з якога даўно нехта дастаў і ўпотай з’еў цукерку.

Вось чаму трэба прамовіць тое, што ён напісаў. І не памыліцца ні ў слове, ні ў руху. Асабліва напрыканцы. Сказаць, павярнуўшыся да прэзідыума: “Час зірнуць у вочы праўдзе: не можа выконваць абавязкі кіраўніка краіны чалавек, які проста не мае на тое фізічных сіл”, – і павярнуцца да залы...

Не раз і не два прамаўляў ён свой выступ перад люстэркам, шукаючы дакладную інтанацыю, вывяраючы кожны рух і ўяўляючы залу, людзей, якія будуць яго слухаць. Так, яны дэлегаты партыйнага з’езду, большасць з іх яшчэ тыя морды, але ж людзі. І трэба звярнуцца да іх даверліва. Гэтак даверліва, каб хто-небудзь з іх не стрымаўся, пляснуў – яны ж усе будуць сядзець і думаць пра тое ж! Пра што ім яшчэ думаць? Пра народ, пра краіну? Наўрад ці. На з’езд яны прыпруцца не дзеля народа, не дзеля краіны, а дзеля сябе.

Зрэшты, як і ён.

Апошняя думка была зараз лішняй. Дэструктыўнай, як сказаў бы камсамольскі сакратар Посух, і Віктар адкінуў яе. Ён не дзеля сябе. Ён падае руку інвалідам.

"Вунь яны..." – уважліва паглядзеў ён у залу. І ў ёй убачыў, у зале ўбачыў, а не дома ў люстэрку, што не: ніхто не плясне. Ні камуністы ў крэслах дэлегатаў, ні камсамольцы, што замёрлі ў праходах паміж крэсламі. А калі й запляскаюць, дык каб спыніць яго, не даць дагаварыць. Каб утапіўся ён разам з санкамі, на якіх, разагнаўшыся, скочыў з высокага берага, як з трампліна, на тонкі лёд.

Яму сем гадоў было. Сем з паловай. Ён праваліўся ў палонку, рака разам з санкамі, вяроўка на якіх блытанула ногі, цягнула пад лёд, сябры, што каталіся на каньках, кінуліся ўрассыпную, нехта з берага крычаў: "Не падыходзьце да яго, ён вас з сабой пацягне!.." – а ён тануў і думаў: "Ну чаго я з санкамі прыпёрся? Усе з карькамі, а я з санкамі..."

Дзякуй Богу, бацька якраз з працы йшоў. Звычайна ён пазней дахаты вяртаўся, а тут, як пасля казаў, нібы нехта штурхануў яго: "Напрацаваўся, досыць на сёння. Ідзі, цябе дома чакаюць". І бацька ланцуг нёс, каб Цэзара навязваць. Усе вяроўкі Цэзар, напалову аўчарка, напалову воўк, перагрызаў, дык бацька выкаваў ланцуг. Не надта доўгі, але яго хапіла, каб, лёгшы на лёд, кінуць канец ланцуга ў палонку.

"Ну, не ведаю, – казаў бацька, які ўсё цвеліў маці, што тая ходзіць да царквы, дома па тры разы на дзень моліцца. – Можа быць, і ёсць ён, Бог. Ці нешта такое. Колькі разоў збіраўся ланцуг выкаваць! А сёння не збіраўся – і скаваў. Ёсць нешта такое..."

З бацькамі таксама праблема. Калі бацька, які сам з характарам, нікому ні ў чым і ніколі не спусціць, сына-ворага як-небудзь перажыве, дык маці... Хоць яна і казала, як Бычык: "Вырашай, сыне, сам. Табе жыць". Але казаць – адно, жыць – іншае. Вось яна ідзе да суседзяў, ці прыходзіць на працу ў сваю бухгалтэрыю, а ад яе адварочваюцца, як у тэатры ад Веры Леанардаўны. І цкуюць, прыніжаюць, нехта кідае ў спіну, калі яна выходзіць: "Во, сука, нарадзіла!.."

Думаць пра гэта, уяўляць такое было невыносна, але яно ўяўлялася, пра гэта думалася і думалася. Бо ён ведаў, што будзе менавіта так, а не інакш. І ён нічым і ніяк не здолее бацькам дапамагчы.

Яму таксама чакаць дапамогі няма ад каго. Ён будзе, як у палонцы. "Не падыходзьце да яго, ён вас з сабой пацягне!.." Хіба Грачын кіне ланцуг. А, можа, і не, бо ён каваў яго, каб навязваць, а не ратаваць.

Думка пра Грачына прыйшла разам з адчуваннем, нібы пра нешта ён забыўся. І не мог успомніць, пра што?.. Тэкст помніў. Не забыўся, што пасля выступу трэба павярнуцца і пайсці. Абавязкова адразу павярнуцца і пайсці са сцэны. Роўненька паўз прэзідыум... А дзе Грачын? І Віктар павярнуўся, бо не мог успомніць, ці бачыў Грачына ў прэзідыуме? Няма яго, ці ён яго не заўважыў? Але як мог не заўважыць? Той звычайна сядзеў у першым шэрагу. З левага боку, – крутнуў Віктар галаву ўлева: Грачына не было! На ягоным месцы ў першым шэрагу бліжэй да левага краю сядзеў дырэктар антыкварнай крамы.

Не можа такога быць! Што ж сталася?.. Таму і Ганну ў Крэмль не пусцілі, што Грачына ў Крамлі няма? Няма на з'ездзе, ці ўжо няма ў ЦК? Суслаў нездарма пытаўся, ці бывае Андропаў на лецішчы Грачына, і што яны там за размовы вядуць?..

Але ж Андропаў тут.

У кулісе з левага боку, за некалькі крокаў ад крэсла сакратара ЦК КПСС, на якім сядзеў дырэктар антыкварнай крамы, стаяў рэжысёр Дворкін і гразіў кулакамі. Спачатку левым, пасля правым, потым абодвума. Выгляд у Віктара быў, мусіць, такі, што старая чарапаха ў акулярах, якая сядзела ў прэзідыуме наўпрост перад ім, адсунула ўбок нейкія паперы і запытліва тузанула, гледзячы на яго, галавой: маўляў, нешта здарылася?

Што?..

## XIX

Пра “кур’ера” з Крамля, пра мысляра ў шлеме, пра Сталіна на крыжы, пра тое, кім і для чаго быў гэты знак пададзены, думаць Купала не стаў. “Процьма часу, вечнасць наперадзе. Надумаюся яшчэ”.

– Я ўсё ж вырашыў, што не па-беларуску яно будзе, калі цябе замест мяне пахаваюць, – вярнуўшыся ў канферэнц-залу, падаў ён, каб з труны дапамагчы выбрацца, руку Качарыгу, які схапіўся за яе так, што не вырваць, стаў цалаваць: “Дзякуй, Іван Дамінікавіч! Дзякуй, дзякуй, дзякуй!” – і, не знаходзячы іншых слоў, бо ўсё ж моцна, мусібыць, яго страсянула, стаў казаць тое самае, нібы яно на мазгах ягоных са страху запісалася, што казаў, калі першы раз з купалаўскай труны выбраўся: “Калі ласка, кладзіцеся, бліжэй во сюды, улева, бо справа нешта муляе... Я ўсё жыццё любіў вас, Іван Дамінікавіч, ніхто вас не любіў болей за мяне, а тое, што напісаў нешта на вас, дык калі б яны не хацелі, маглі б не чытаць, але яны хацелі, таму я і напісаў, так бывае, гэта інтуіцыя, вы самі ведаеце, бо яна ў вас, як ні ў каго, таму не разумею, навошта вы з Казані прыехалі, там ніхто б вас не чапаў, каму і хто патрэбны ў Казані, а вы ў Маскву захацелі, каб справіць юбілей, так што самі вінаваты, Іван Дамінікавіч, маглі б увогуле ні ў Казань, ні ў Маскву не ехаць, жывым бы засталіся, бо каму б я тады напісаў на вас?.. Немцам?.. Гітлеру?.. Дык я па-нямецку пісаць не ўмею...”

Купала ўспомніў, як Гітлер прапаноўваў яму стаць народным паэтам Рэйху, і спытаў, уладкаваўшыся ў труне.

– Паслухай, Качарыга, а што ты са сваім ордэнам рабіць будзеш?

– Як што?.. Насіць.

– А калі насіць не будзе на чым?

– Чаму не будзе на чым? Новы пінжак сабе я заўсёды куплю.

– А калі ўжо не зможаш купіць?

Па твары Качарыгі можна было беспамылкова ўгадаць, што ён не ўяўляе, як гэта ён не зможа купіць пінжак?

– Калі памру, ці што?.. Ну, пакольkі з узнагародамі не хаваюць, недзе мой ордэн ляжаць будзе.

– Дзе?

– Дзе-небудзь.

– Для чаго і для каго?..

Прыадчыніліся дзверы, Качарыга азірнуўся на іх – яму відавочна хацелася пайсці...

– Ні для каго і для чаго, – нібы самому сабе адказваючы, доўжыў Купала. – Дык што ў такім разе ўзнагарода?..

Качарыга ўжо разумеў, пра што гаворка, і хоць яна не падабалася яму, бо падабаўся ордэн, сказаў:

– Сон на кургане. Так?..

Ён не дурны быў. Подлы, але не дурны, і гэткая, не дурная подласць, як пераканаўся, пажыўшы на свеце, Купала, самая подлая.

– Так. Ці “На Куццю”, ці “Безназоўнае”. Паэмы, вершы... Толькі тое, што напісаў. Што Бог напісаць даў. Вось што ўзнагарода. Астатняе, – тыцнуў ён пальцам у ордэн Качарыгі, – дзірачка ў пінжаку.

“Ну, дзірачкі ў мяне не відаць пакуль...” – зірнуўшы на лацкан пінжака Купалы, дзе віднеўся след ордэна, падумаў Качарыга, і хацеў спытаць: “А з Казані ў Маскву вы па ўзнагароду Бога прыехалі?..” – але ўляцеў, насцеж расчыніўшы дзверы, Кучар: “Таварышы, таварышы, па месцах, па месцах, паніхіда, паніхіда, ад труны, ад труны, калі ласка, вунь туды, за вянкі, далей, далей, таварыш Качарыга...”

У канферэнц-залу ўвайшоў, паціраючы пабітыя мармуровым мысляром бакі, Мяркулаў, следам за ім Панамарэнка з Гарбуновым, а за імі – адзін за адным – пацягнуліся савецкія і братнія пісьменнікі, чацвёра з якіх, Лынькоў, Крапіва і Глебка з Броўкам, аддзяліліся ад астатніх і сталі ў ганаровую варту.

Твары іх былі жалобнымі і ўрачыстымі. Такімі, якімі павінны быць твары людзей, якіх першымі паставілі ў ганаровую варту на пахаванні дзяржаўнага ўзроўню. Паперадзе ўсіх.

“Гэтаксама яны і на банкеце дзяржаўнага ўзроўню выглядалі б, – падумаў Купала. – У нас банкеты, як хаўтуры, і хаўтуры, як банкеты: адны і тыя людзі з аднымі і тымі ж тварамі адно і тое кажуць. На хаўтурах нават весялей, бо ніхто не зайздросціць нябожчыку”.

– Таварышы, сябры нашы, – напусціўшы на твар жалобную ўрачыстасць і дастаўшы з той жа кішэні тую самую паперыну, якую прад’яўляў Фадзееву і ўсёй “камісіі па выкананні даручэння таварыша Сталіна” як характарыстыку на Купалу, пачаў паніхіду Гарбуноў. – Слаўных асілкаўваякаў, людзей вялікага розуму народжваў беларускі народ. Такім быў заснавальнік беларускага кнігадруку Георгі Скарына, такімі былі асветнікі-гуманісты Сімяон Полацкі, Васіль Цяпінскі, Багушэвіч, такімі сёння з’яўляюцца Якуб Колас і Янка Купала.

Як у свой час Пушкін у рускай літаратуры, Янка Купала ў беларускай з’явіўся роданачальнікам беларускай мовы, якой жыве цяпер уся беларуская культура, – усё вышэй, нібы спадзеючыся, што яго пачуе сам Усявышні, узносіў голас сакратар беларускага партыйнага ЦК, а Купала гадаў: “Вось калі б я не скрэмзаў, а прачытаў даклад, напісаны гэтым чалавекам для майго выступу ў Казані, ляжаў бы я цяпер у труне, ці не?..” – і нехта мяккім, спагадлівым голасам шапнуў над ім: “Не. Ты быў бы цяпер са мной”.

Купала падняў вочы і ўбачыў над сабой жанчыну ў белых строях і чырвоным шаліку. Яна сядзела ў вянку, як на арэлях, калыхалася – і белая сукня з чырвоным шалікам развіваліся, як сцяг.

Не, гэта была не тая жанчына-сон, якая лятала на вянку з вокладкі кнігі “Ад сэрца” і штурхнула яго ў лесвічны пралёт гатэля “Масква”. Гэтую ён не сустракаў ніколі. Яна была не падобная ні да адной – і ў той жа час нагадвала ўсіх жанчын, якія былі ў ягоным жыцці. І ён ведаў, помніў імя гэтай жанчыны, якой штодня, штоночы яму не ставала, а яна з’явілася толькі цяпер. Калі ўжо не трэба нічога, калі позна.

Яе звалі Спагада.

Ён не стаў пытаць, з чым яна прыйшла, чаго яна хоча? “Ты позна

з'явілася, мне ўжо нічога не трэба, – сказаў ён, штурхнуўшы вянок, які адхіснуўся і вярнуўся. – Позна! – піхнуў ён зноў. – Позна!.. Позна!.. Позна!..” – раз за разам штурхаў ён вянок, адпіхваў жанчыну, што звалася Спагадай, якая гушкалася на вянку, як на арэлях, і чым мацней ён штурхаў, чым далей адпіхваў яе ад сябе, тым бліжэй яна вярталася, схілялася да яго – і ўрэшце заплакала над ім, зашкадавала: “Ясік, Янка, Яначка, як жа цябе намучалі, накрыўдзілі, як жа ўсе жылкі з цябе павыцягвалі, як жа з цябе наздзекваліся, як жа ты натрываўся, бедны мой Ясік, любы мой Янка, родны мой Яначка...”

Ён натрываўся, гэта праўда.

– Хто такая?.. – нахіліў, наколькі змог, пабітую мысляром спіну Мяркулаў да Панамарэнкі, за якім стаяла, нервова цярэбячы букет палявых кветак, спявачка Перапёлка, і калі Панамарэнка, азірнуўшыся, адказаў: “Артыстка наша, зараз выступаць будзе...” – камісар зразумеў, што жанчыну на арэлях ніхто, апроч яго і Купалы, не бачыць, і яму стала так не па сабе, што яго ажно хіснула: раптам здалося, што з Куйбышава ён прыехаў у Маскву мерцвяком, якога ажывілі ў 1-й лабараторыі.

– Дык прамовіце слова ад органаў? Ці ад драматургаў?.. – спытаў Панамарэнка, і камісар, падумаўшы, што ўсё ж зашмат гэты партызан сабе дазваляе, пракінуў, каб адчапіцца: “Пазней нехта ад нашых скажа...”

Услед за Перапёлкай, якая паклала ў ногі Купалу палявыя кветкі, адзін за адным прамаўлялі савецкія і братнія пісьменнікі, апошні з якіх, Радуле Стыйенскі, пашкадаваўшы, што “перастала біцца сэрца паэта, песні якога, як хвалі сіняга мора, перахлiснуліся далёка за межы яго радзімы”, раптам павярнуўся да Чорнага: “Але жывыя ягоныя паплечнікі, сябры, і адзін з іх – Кузьма Чорны, якога камандуючы Народна-вызваленчай арміяй таварыш Ёсіп Броз Ціта запрашае... – ступіў Радуле бліжэй да Мяркулава з Панамарэнкам... – запрашае ў горы Югаславіі, каб геніяльны беларускі пісьменнік апісаў гераічную барацьбу югаслаўскіх партызанаў з нямецкім фашызмам, і з гэтай просьбай таварыш Ёсіп Броз Ціта звяртаецца да свайго старэйшага брата, правадыра ўсіх часоў і народаў таварыша Сталіна!..” – скончыў узнёсла, як на ўрачыстым сходзе, Стыйенскі, а Купала прыпаднняў руку ў труне і паказаў югаслаўскаму паэту вялікі палец.

З хвіліну ўсе стаялі, як бы не ведаючы, што далей рабіць? Пляскаць Стыйенскаму? Крычаць славіцу Сталіну? Віншаваць Чорнага?.. “Ну, арыштуй цяпер Кузьму ў беларускіх лясах ці паволжскіх стэпах!” – пераможна глядзеў на Мяркулава Купала, хоць і ведаў, што Чорны пераживе яго не надоўга, памрэ праз два гады, чатыры месяцы і 22 дні, запісаўшы ў дзённіку ў дзень смерці: “Божа, напішы за мяне мае раманы...” – але гэта ўжо не залежала ні ад Сталіна, ні ад Панамарэнкі, ні ад Мяркулава, які крануў за плячо Гарбунова: “Працягвайце, таварыш Гарбуноў...”

– Наш дарагі, наш любы Янка Купала, – ступіў на месца югаслаўскага паэта-казачніка Радуле Стыйенскага беларускі драматург і байкапісец Кандрат Крапіва, які гадоў дзесяць таму напісаў п'есу пра тое, як сябар сябра прадаў, і так хітра напісаў, што п'есу паставілі ў дзяржаўным акадэмічным тэатры, дзе на банкеце пасля спектакля аўтар п'есы шаптаў Купалу: “Нас датуль, Іван Дамінікавіч, прадаваць будуць, пакуль мы адзін аднаго будзем прадаваць, пакуль у адзін беларускі кулак не сціснемся”, – а калі Купала спытаў: “У кулак з дуляй?..” – Крапіва ўсміхнуўся: “Гэта, Іван Дамінікавіч, сюжэт для новай п'есы, я абавязкова яе напішу...” – але пакуль п'есы пра беларускі кулак ён не напісаў, а напісаў толькі пра дулю, якую ўсе

беларусы для некага ў кішэні трымаюць і самі яе з’ядаюць. – Мы, твае малодшыя сябры і вучні, абяцаем табе, што традыцыі высокага служэння народу, якія ты нам перадаў, будзем свята ахоўваць у беларускай літаратуры і перададзім іх наступнаму пакаленню, якое прыйдзе нам на змену, – пакланіўся Купалу Кандрат Крапіва, і як толькі ён скончыў прамову, адзін з трох расплывістых маладзёнаў, якіх усе заўважылі яшчэ ў двары Саюза пісьменнікаў і якіх праз іх расплывістасць ніхто распазнаць не мог, неяк так бокам-скокам, на дзіва спрытна праслізнуў скрозь апошнія шэрагі ў першыя: “Я!.. Я скажу ад пакалення, якое прыйдзе на змену...”

Гарбуноў, заступіўшы яму дарогу, зірнуў на Панамарэнку, які, мяркуючы, што гэта нехта з людзей Мяркулава, кіўнуў: “Няхай скажа...” – і Гарбуноў саступіў. “Слова мае таварыш... – нахіліўся ён да расплывістага, які сказаў нешта яму на вуха, на што Гарбуноў, зноў на Панамарэнку зірнуўшы, здзіўлена плячамі пацепнуў... – Слова мае таварыш Расплывісты.

– Хто?.. – даволі гучна спытаў Мяркулаў, і Панамарэнка падумаў, што, можа, дапусціў памылку, дазволіўшы Гарбунову даць слова невядома каму, але таварыша Расплывістага было ўжо не спыніць.

– Вось мы тут робім жалобныя твары, кажам кранальныя прамовы, – пачаў ён такім голасам, якім кажуць не на хаўтурах, а на сходах ці ў судах. – Думаем, што хаваем Янку Купалу. А хаваем мы сёння не яго. – І выгукнуў. – Хаваем мы сёння Каяна Лупаку!..

Сярод першых асобаў узнікла лёгкае замяшанне.

– Каго мы сёння хаваем?.. – разгублена паглядзеў на Купалу ў труне Гарбуноў, які меркаваў, што развітальнае слова прамаўляе чалавек ад органаў, а таму не ведаў, як на пачутае рэагаваць, і ягонай разгубленасцю скарыстаўся яшчэ адзін з расплывістых.

*– Можна быць у жыцці падонкам і пісаць знакамітыя кнігі?* – падскочыў ён да Кузьмы Чорнага, нібы той і ёсць падонак, які піша знакамітыя кнігі. – *Безумоўна, так. Але тут,* – кіўнуў ён на нябожчыка, – *яшчэ і іншае. – Пісьменніку можна выбачыць здраду калегаў і таварышаў, можна выбачыць здраду ідэалаў, але нельга выбачыць здрады літаратуры. Бо здрада літаратуры аўтаматычна стаўляе аўтара па-за літаратурай. Пісьменнік тады знікае, а з’яўляецца ідэолаг, агітатар, голем, Каян Лупака.*

*Ці быў у Купалы іншы выбар? Канечне, быў. Ён мог падацца ў эміграцыю, ён мог пакончыць самагубствам, ён мог сказаць «не» бальшавікам і ўпасці ў дол у Курапатах. Нічога такога Купала не зрабіў. Ён здрадзіў не толькі ідэалам сваёй маладосці і сваім маладым калегам, якія падалі з кулямі ў патыліцы ў ямы ў Курапатах, але і здрадзіў літаратуры. Ён перастаў быць паэтам, а стаў агітатарам або яшчэ кімсьці значна горшым...*

– Што ён сказаў?.. Кім стаў Купала?.. – спытала Чорнага спявачка Перапёлка. – Каінам? Чаму Каінам?..

“Каян! Каян! Лупака! Лупака!..” – закрычаў, прабіраючыся наперад, трэці расплывісты, які, крутнуўшыся вакол вянка, на якім калыхалася Спагада, паўстаў над труной.

*– Так! Зваць гэтага чалавека Каян Лупака. Той, ранейшы, з іншым імем, хацеў памерці; Каян Лупака хацеў жыць. Каян Лупака прыняў правілы гульні без агаворак ці хаця б унутранага супраціву – бо не мог інакш, для таго ён і быў створаны замест таго, ранейшага, іншага. Гэта быў зусім новы чалавек, злеплены іншымі людзьмі са смалы і дзёгцю, скалочаны з драўляных страхаў, склеены са старых газецін... Калі ён ішоў, чулася, як шалясціць на ветры папера, што вылезла з-пад шва, і пранізліва паскрыпваюць яшчэ не*

*прыгнаныя добра адна да адной часткі. А калі ён пачаў пісаць вершы – яны таксама рыпелі: «ну-у» і вохалі: «вох-вох».*

Купала слухаў прамовы расплывістых, стараючыся спакойна трымаць складзеныя на грудзях рукі. Ён не ведаў гэтых людзей, калі гэта ўвогуле былі людзі, каля былі яны жывыя, і яму павінна было быць усё адно, што яны пра яго кажуць. Каян дык Каян, Лупака дык Лупака... Тым больш, што па смерці ён нічога не мог ім адказаць...

Так ён думаў. Але нават са складзенымі на грудзях рукамі адчуваў ён сябе інакш... Гэтак, як пачуваўся ў кабінеце Сталіна, калі той казаў яму пра салаўёў, якія кніг панапісваюць, за мяжой атабарацца, вучэльні ўсялякія там пасканчаюць, на розных мовах рулады выдаваць навучацца – “...і ведаеце, як вас назавуць? Каян Лупака!”

Думанне і адчуванне не супадалі. У адчуванні была крыўда. І яна перамагала думанне. “Во яно як... Калі б застрэліўся, зарэзаўся, было б ім добра. Быў бы для іх паэтам. А застаўся жыць, дык не... Застаўся жыць, дык нейкі Каян...”

– І ніводзін з іх ні праз гэта, ні праз што заўгодна іншае не застрэліцца, жывот сабе не ўзрэжа, – пачуўся чыйсьці Голас з высокага, разнасцежанага вакна, у якім над дахам суседняга дома віднеўся краёк неба з нізкай, што на даху, захінаючы комін, ляжала, ружовай аблачынкай, з якой, здавалася, і гучаў Голас. – І не таму, што грэх. Проста час, які ў іх жыве, іншы. Не такі, які жыў у табе.

Голас гучаў спагадна, калісьці Купала ўжо чуў яго, і зараз яму хацелася яго чуць, таму ён сказаў, каб Голас не змоўк:

– Так, падобна, што яны жывуць у іншым часе.

– Іншы час жыве ў іх, – паўтарыў сваё Голас. – Час увогуле толькі ў людзях, больш ні ў чым і нідзе яго няма, вось што трэба пра час ведаць. Толькі таму ён *твой*. І ты ўжо ведаеш пра тое, а яны – не. Хоць, начытаўшыся кніг, мяркуюць, што ўсё зразумелі і пра *твой* час, і пра цябе. Але паглядзеў бы я на іх, калі б апынуліся ў тваім часе на тваім месцы. Каб Сталін паклікаў: “У вас няма жадання напісаць вершы пра партыю?..” Ці каб Гітлер спытаў: “Сталінская прэмія для вас нармальна, а Гітлераўская – не?”

Купала не зусім зразумеў, што сказаў яму Голас пра час, і паўтарыў тое, што разумеў:

– Яны ў іншым часе жывуць. – Пасля дадаў, бо Голас прамаўчаў: – І кнігі пішуць іншыя.

– Але якая кніга можа перадаць жах часу?.. – запытаў, зноў пачуўшыся, Голас. І сам адказаў: – Ніякая, бо час не ў кнігах, а ў людзях, і жах ягоны знікае разам з імі. Вось ты знік – і не адчуваеш у сабе жаху, бо часу ў табе не стала. А помніш, як страшна было?..

Так, ён помніў. І моўчкі спытаўся ў Голаса, ведаючы, што той пачуе яго: “Так, я помню, як жыў ува мне страх. Але ці апраўдвае мяне тое, што ён ува мне жыў?.. Можа быць, яны пра гэта?”

– Яны пра сябе, – адказаў Голас, і болей, як ні хацеў Купала пачуць нешта большае ў адказе, не сказаў нічога.

Па тварах людзей, якія прыйшлі развітацца з Купалам, было відаць, як цяжка да іх даходзіла тое, што казалі расплывістыя таварышы, бо сэнс прамоўленых імі слоў ніяк не вязаўся з сэнсам дзеі, з жалобай, з вечным развітаннем, і намагаючыся ўцяміць, што ж адбываецца, усе глядзелі то на Панамарэнку, то на Мяркулава, які стаяў каля труны і ледзь заўваж-

на, але ўсміхаўся, таму не адзін Чорны падумаў: “Яны задаволеныя, што Купалы не стала...” – а спявачка Перапёлка зноў не стрывала: “Ды што ж гэта такое.... Як так можна... Гэта здзек, святатацтва...” – і аслупянела, калі трэці расплывісты торкнуў пальцам, як скальпелем, Купалу ў грудзі, нібы ўзрэзаць хацеў:

*– Гэх, Каян Лупака! Ці адчуваў ты ў нутры сваім драўляным цьмяны, ціхі боль, ці, хутчэй, цень ампутаванага болю, які застаўся ў табе ад таго, ранейшага, знішчанага? Ці адчуваў нейкі рэцыдыў сораму? Той, на месцы якога ты з’явіўся, ставіўся да жывога зусім інакш. Але ж Каян Лупака не вінаваты ў тым, што піша. Ён жа вам не Купала які-небудзь...*[1]

– Хто-небудзь... што-небудзь... – ледзь не ў адчаі глядзела на ўсіх артыстка Перапёлка, і тут ужо не толькі яна, але і сакратар ЦК Гарбуноў не вытрываў, спытаў Кабулава: “Таварыш камісар, гэта вашы людзі?..” – на што той, крутнуўшы галавой: “Не! – тут жа дадаў задаволена. – Але не горшыя за нашых”.

“Іншы час жыве ў іх”, – рэхам прагучала ў вушах Купалы, калі паднялі і панеслі труну, паварочваючы яе насупраць высокага вакна, у якім з даху суседняга дома сплывала ружовая аблачынка, адкрываючы комін, прываліўшыся спінай да якога сядзеў і ўсміхаўся “кур’ер” з Крамля.

“Д’ябал хаваецца за Богам...” – згадаліся некалі чутыя словы, але ніяк не ўспаміналася, хто, калі і дзе іх яму сказаў?

## 20

– Чорт, чорт! Д’ябал!.. Дэбіл! І ты, і бацька твой! І маці твая дэбілка! – крычаў рэжысёр з прозвішчам Дворкін на гукарэжысёра з прозвішчам Дэблікаў, які праз прозвішча сваё, пэўна, і стаў дэбілам, і які спрабаваў сказаць нешта ў сваё апраўданне, але Дворкін чуць яго не хацеў. – Хто так працуе? Толькі дэбілы! Толькі дэбіл, а не гукарэжысёр мог уключыць фанаграму выступу Маргера на апладысментах Южковай! І толькі дэбіл можа вярзці, што ніхто нічога не заўважыў! Я заўважыў! І ўсе заўважылі, каму трэба. Маргер толькі пачаў, а яму ўжо пляскаюць! Ты хто? – перакінуўся Дворкін на Віктара. – Леанід Ільіч? Генеральны сакратар, якому пляскаюць яшчэ на падыходзе да трыбуны? Ты чаму зад дэлегатам выставіў, калі я сто разоў казаў, каб ніхто не паварочваўся? Бо Южкова павярнулася? Дык у яе хоць ёсць на што паглядзець! – пляснуў Дворкін па азадку Южковай, тая ўскінулася: “Вы што?..” – і гукарэжысёр скарыстаўся момантам, каб апраўдацца. “А што я?.. Маргер спінай да мяне, ад мікрафона адвярнуўшыся, стаіць, я не бачу, не чую: чытае, не? Брэжнеў яму галавой ківае. Значыць, думаю, Маргер пачаў чытаць. А ты кулакамі махаеш, бо злуеш, што я з фанаграмай спазняюся. Я і ўключыў без паўзы пад апладысменты. Бо калі ён разяўляецца, а яго не чуваць, дык яно яшчэ горш, чым голас на апладысментах. Тады відаць, што фанаграма. А нам што казалі? Што трансляцыя на ўсе краіны свету! І каб ні ў якім разе відаць не было, што пад фанаграму! Дык і не было відаць...”

Віктар слухаў іх і не чуў, што яны казалі. Як не пачулі тое, што ён хацеў сказаць, Брэжнеў, Андропаў, Суслаў, Грамыка, Гарбачоў, Ельцын, сакратар беларускага партыйнага ЦК Кісялёў, госць з Кубы Фідэль Кастра, Хонекер з ГДР, Жыўкаў з Балгарыі, Бабрак Кармаль з Афганістана, Чаушэску з

[1] Тэкст, пазначаны курсівам, А. Бахарэвіча і Я. Максімюка.

Румыніі – увесь свет. Ніхто і нідзе яго не пачуў, бо ён, паэт Віктар Маргер, які ў сваім выступе на XXVI з’ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза хацеў сказаць... ды якая розніца, што ён сказаць хацеў, калі не сказаў нічога! За хвіліну да выступу ён раптам запанікаваў праз тое, што не ўбачыў у прэзідыуме з’езда сакратара ЦК КПСС таварыша Грачына, на якога разлічваў як на заступніка, абаронцу, без якога ён застанецца самнасам з усімі, хто ў прэзідыуме, хто ў зале, і хто за імі ў шэрых паліто. “За счастье не окончена борьба, И мы готовы и к труду, и к бою! Отечества великая судьба Для всех нас стала личною судьбою!..” – разнеслася па Палацы з’ездаў, па Маскве, па Савецкім Саюзе, і пасля таго, як скончылася фанаграма, ён не выйшаў, як збіраўся, на край сцэны, каб прапанаваць сысці з яе Генеральнаму сактарару ЦК КПСС таварышу Брэжневу, які, з хрустам падняўшыся, перагнуўся над сталом прэзідыума і раскінуў рукі для абдымкаў, не пайсці ў якія пад авацыі залы ніяк не выпадала, як не выпадала адвярнуцца ад мокрага, вусны ў вусны пацалунка, і ён, цалуючыся, скасіў вочы ў левы край стала, дзе толькі што на месцы Грачына бачыў ці то дырэктара антыкварнай крамы, ці то дырэктара цырка, і дзе цяпер ніякага дырэктара не было, а быў сакратар ЦК таварыш Грачын, які стаяў і разам з усімі пляскаў, – вось як і каму ўсё гэта расказаць?..

Потым ён чытаў у публікацыях па праблемах зроку, што такое можа быць, што на нешта можаш глядзець і гэтае нешта, ці кнігу на стале, ці чалавека за сталом нейкія імгненні не бачыць, што здараецца гэтак у хвіліны моцнага псіхалагічнага напружання і найчасцей тады, калі ўпэўнены, што ўбачыш тое, што чакаеш убачыць, і што прычына тут не ў вачах, а ў мазгах, бо вочы – гэта вынесеная за чэрап частка мазгоў, з якімі ў цябе нейкая праблема, але хто ў такое паверыць?..

З мазгамі праблема?.. Магчыма. Але пасля ўсяго, што сталася, хто паверыць, што праблема з мазгамі, з тым, што, не ўбачыўшы Грачына, яны, вынесеныя наперад, запанікавалі, і што калі б не гэтае панічнае імгненне, не зацямненне зроку, ён сказаў бы тое, што напісаў і пакінуў Кручу? Хто потым будзе такое слухаць, калі цяпер, ідучы ўздоўж стала прэзідыума, за якім пляскалі яму сакратары ЦК, члены Палітбюро, з-за якога выйшаў і за кулісай пацікнуў руку, абняў яго Грачын: “Малайчына! Без выкрутасаў!..” – ён сам не ведаў, ці стаў бы на край сцэны? Ці хапіла б яго на гэта, калі б нават былі ў яго заступнікі і абаронцы?..

Адбылося тое, што адбылося: стаў выпрабоўваць самалёт – і не выканаў палётнае заданне.

Не касманаўт Рыленка. Не Герой Савецкага Саюза.

Ён упадаў у адчай. Трэба было выйсці з гэтага стану, з некім пагаварыць, але з кім? З Кручам? Вось з кім менш за ўсё ён хацеў бы зараз сустрэцца, дык гэта з ім. Тады да каго пайсці, каму паспавядацца? З кім пасядзець за чаркай – яму захацелася, моцна захацелася выпіць. Не з Рыленкам жа, які, адсунуўшы ўбок Дворкіна: “Ты чаго да яго прычапіўся?” – павёў Віктара з грымёркі актрысы Южынай, дзе Дворкін адразу, як толькі сышлі са сцэны, пачаў разбор палётаў. І не таму з Рыленкам быць не хацелася, што ён з космасу вітаў тых, каго не любіць, Віктар сёння таксама іх павітаў, а таму, што не той ён чалавек, якому можна паспавядацца.

Тады каму?

Не было каму. Ці ні ўпершыню ў жыцці Віктар ясна зразумеў, адчуў, балюча, пранізліва ўсвядоміў, што няма ў яго нікога, апроч яго самога. З

касманаўтам Рыленкам можна было б пасядзець за чаркай і пагаварыць пра многае, нават пра Ганну, і шмат з кім яшчэ можна было б пагаварыць пра многае, але пра тое, у чым сорамна было прызнацца сабе самому, пагаварыць не было з кім.

Хіба што з Ганнай?

Так, з Ганнай.

Трэба яе знайсці. Зараз жа, адразу... Дзе яна? У гатэлі? Дома? На лецішчы?..

Ён успомніў, што каля пульта за сцэнай вісіць тэлефон, падбег, стаў нервова круціць дыск, але нумар не набіраўся, пасля першай жа лічбы доўгі гудок зрываўся ў гудкі кароткія, нібы занята... – чым яна ў такі дзень можа быць занятая?.. – і нехта сказаў за ягонай спінай: "Гэта ўнутраны тэлефон, у горад праз дзявятку". Віктар азірнуўся: у кулісе каля пульта стаяў чалавек у шэрым паліто. Нібы чакаў яго, нібы ведаў, што ён падыдзе да тэлефона.

"Давайце ў буфет зойдзем, там у мяне буфетчыцы знаёмая, – прапанаваў ён Віктару. – Чаго-небудзь па знаёмстве нам накапае. – І спытаў Рыленку, які чакаў іх каля дзвярэй грымёркі актрысы Южковай. – Вы не супраць, калі я забяру вашага сябра?"

– Супраць, – нечакана сказаў Рыленка. – Але што з таго, што я супраць? Нічога. Проста супраць і ўсё, – махнуў ён рукой і пайшоў.

Віктара ўжо спрабавалі вербаваць. Адразу пасля таго, як ён стаў лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола. "Не думайце, што без нас вы лаўрэатам сталі. Без нас у вас нічога б не было. А з намі будзе ўсё. Прэміі, званні, пасады. Адмовіцеся – згубіце тое, што маеце. Згубіце ўсё".

Ён тады выстаяў. Што ні абяцалі, як ні ціснулі, ні палохалі – не спакусіўся на абяцанкі, не паддаўся ціску, страху. І ад яго адчапіліся. Але, відаць, не назаўсёды.

У буфеце, дзе буфетчыца "па знаёмстве" наліла ім грузінскага каньяку 25-гадовай вытрымкі, чалавек у шэрым паліто, распрануўшыся, паказаў чырвонае пасведчанне Камітэта дзяржаўнай бяспекі. "Я раней не прадстаўляўся, бо не ведаў, як у нас з вамі далей усё пойдзе... Палкоўнік Рутневіч Алег Дзмітрыевіч... Так, па прозвішчы відаць, што ваш зямляк. І хачу перад вамі прабачыцца за маіх мінскіх калегаў. Яны проста не разумелі, якога ўзроўню вы паэт. Якога маштабу. Цяпер зразумеюць, – схаваў ён пасведчанне ў кішэню пінжака і падняў кілішак. – Віншую, Віктар Паўлавіч! Сёння вы сталі першым паэтам краіны!"

Сказаў бы ён гэта пры Кручы, які зараз глядзіць на замежных журналістаў, а яны глядзяць на яго...

Пра гэта нават думаць не хацелася!.. Віктар выпіў, каньяк мякка аблізаў губы, цёпла працёк па горле. Файны каньяк. Вось што б і дзе ён зараз піў, калі б...

– Тое, што я сёння прадэкламаваў, адносінаў да паэзіі не мае, – паставіў ён кілішак. – А за выпіўку дзякуй. Па знаёмстве тут наліваюць файны каньяк.

– Без знаёмства тут не наліваюць ніякага, – паставіў свой кілішак Рутневіч. – І вось што я хачу вам сказаць па знаёмстве. Неяк у нашым архіве я знайшоў дзённік Усевалада Мікалаевіча Мяркулава – быў такі, калі памятаеце, намеснік наркама дзяржаўнай бяспекі СССР. Выпадкова знайшоў, шукаў іншае. Пачаў чытаць і зачытаўся. Цікава. І што цікава для вас? Ён піша, як прысутнічаў пры размове Сталіна з адным паэтам. Народным. З якім?.. Ну, дапусцім, з Купалам. І загаварылі яны пра іншага

паэта, пра якога Мяркулаў, які не толькі прысутнічаў, але і ўдзельнічаў у размове, пажартаваў, што той не Пушкін. І ведаеце, што Сталін на гэты банальны жарт сказаў? Што не Пушкін, бо яго не прызначылі Пушкіным. А прызначылі б, быў бы Пушкін. І калі народны паэт, ну, дапусцім, Купала запярэчыў: маўляў, можна міністра прызначыць міністрам, а Пушкіна прызначыць Пушкіным нельга, ён нарадзіўся паэтам, Сталін згадзіўся, што так. Нарадзіўся паэтам. Але не Пушкіным. Пушкіным ён быў прызначаны. Хоць замест яго мог быць прызначаны нехта іншы. Напрыклад, Дзяржавін, сказаў Сталін. Прозвішча нават больш падыходзіць, чым Пушкін... Ці вы мяркуеце, – спытаў таварыш Сталін народнага паэта, – што Купалам вы сталі, бо нарадзіліся Купалам? Гэта мы вас Купалам зрабілі. Мы вас ім прызначылі, хоць маглі прызначыць іншага, – узяў Рутневіч кілішак, які па знаёмству зноў напоўніла буфетчыца. – Разумееце, Віктар Паўлавіч?..

Віктар зразумеў. Чаго тут было неразумець? І сказаў, выпіўшы, бо ўсё яшчэ хацелася выпіць: “Але, каб прызначылі Пушкіным, трэба ўсё ж напісаць хоць бы маленькія трагедыі”, – на што новы ягоны знаёмец, зямляк з Камітэта дзяржаўнай бяспекі раптам засмяяўся. “Гэта пры цары. А пры таварышы Брэжневе, як і пры таварышы Сталіне, не абавязкова. Дрындушкамі абысціся можна. А трагедыі без вас прыдумаюць. Хоць маленькія, хоць вялікія”.

Апошнія словы ён прагаварыў ужо не смеючыся. Падсунуўся з крэслам да Віктара: “Мы ведаем пра вашу размову з Суславым. Ён сказаў таварышу Андропаву пра тое даручэнне, якое хоча вам даць”. – “Пра якое?” – “Пра польскае. Менавіта таму мы, а не праз вашыя грахі юнацтва, як, можа быць, вы падумалі, і вырашылі пазнаёміцца з вамі бліжэй. Уважлівей прыглядзецца. Гэта ж нармальна?..” – “Ну, не ведаю. Ніякага даручэння я пакуль не маю”. – “Калі будзеце мець, позна будзе. Ці мала што можаце выкінуць у Варшаве. – І раптам гэтак проста, як пытаюць, ці ёсць запалкі, каб прыкурыць, палкоўнік Рутневіч спытаў: – Вы ж і на з’ездзе збіраліся нешта такое выкінуць? Прызнайцеся, што хацелі… Але ці перадумалі, ці не змаглі”.

Наўрад ці ён проста ўгадаў. Аднекуль яны гэта ведаюць. Ад Кручы?.. Можа, нездарма жонка Стругавога кажа, што Круча з КГБ не вылазіць? Але калі так, калі б Круча перадаў ім тое, што абяцаў перадаць журналістам, Рутневіч зараз гаварыў бы з ім не пра Польшчу.

Выбачай, Круча.

Палкоўнік гэты – панцяршчык. На панты бярэ. Паглядзець на рэакцыю хоча. Ну, глядзі…

– Мне таварыш Суслаў сказаў, што дасье маё ў таварыша Андропава, і што ў таварыша Андропава ніякіх заўваг і ніякіх пярэчэнняў… – пачаў ён, і Рутневіч рукі ўскінуў.

– А я хіба пра заўвагі? Пра пярэчанні? Калі б былі заўвагі і пярэчанні, выступалі б вы на з’ездзе? Паручыўся б за вас таварыш Грачын перад таварышам Суславым, а таварыш Суслаў перад таварышам Андропавым? Так што ніякіх пярэчанняў. Я так… як з паэтам, з вамі. Здагадкі ўсялякія, фантазіі. Люблю маленькія трагедыі… Але я не Пушкін, – зноў замяяўся ён, выводзячы размову з той напружанасці, якая ў ёй узнікла. – Сябар Міцкевіча… У вас жа таксама сябры ў Варшаве… Для нас вельмі важна, Віктар Паўлавіч, якой выйдзе Польшча з палітычнага крызісу. У любым выпадку яна застаецца нашай, але якой? Гэта будзе залежаць ад таго,

што мы зробім, каб яна засталася нашай. Ад нашых дзеянняў. І перш чым пайсці на рашучыя… ну, скажам, на такія, як у Чэхаславакіі… я вам кажу гэта, каб вы зразумелі сур'ёзнасць сітуацыі і вашай місіі, мы вырашылі зрабіць некалькі папярэдніх крокаў. У тык ліку і вось такі крок... ці, як назваў яго таварыш Андропаў, ход мастацкай дыпламатыі. І нам трэба ўяўляць, дакладна ведаць, што нам чакаць ад нашых мастацкіх дыпламатаў? У гэтым спісе вашых калегаў, рэкамендаваных нашымі калегамі, – ледзь заўважна ўсміхнуўшыся свайму выпадковаму жарту, дастаў ён з кішэні пінжака, з іншай, не з той, з якой даставаў пасведчанне, складзеную ў чатыры столкі паперыну, – ёсць людзі, цесна звязаныя з Польшчай. Напрыклад, – разгарнуў ён паперыну, – Танкевіч… Ці Брылец…

– Яны ў складзе дэлегацыі?

– Так. Рэкамендаваныя. І мы хацелі б, каб вы ахарактарызавалі гэтых таварышаў. Не толькі названых, – паклаў Рутневіч паперу на стол, – а ўсіх. Бо раптам нехта з іх закліча замагацца за нашу і вашу свабоду! *Walczyć o twoją i naszą wolność!*

Вось яно!

Віктар сам наліў сабе кілішак, выпіў…

Так было і ў першы раз. "Мы ж вас не ў сексоты вярбуем. Не даносы пісаць. Аналітычныя запіскі. Якія тэндэнцыі бачыце ў сучаснай культуры? Як ацэньваеце дзейнасць яе вядучых прадстаўнікоў?.. Што тут кепскага?.."

Яму ад бацькі, якога праз даносы ледзь не расстралялі, перадалася нянавісць да сексотаў. Гідлівасць да іх. Ні да каго не было ў ім большай нянавісці і гідлівасці.

Ганна казала, што гэта паталогія. Можа быць. Але ён уявіць не мог, як сядае за стол, бярэ чысты ліст паперы і піша не верш, не паэму, а данос. На чыстым лісце паперы.

– Я не пайду да вас сексотам.

Рутневіч паглядзеў на яго, нібы не разумеючы, пра што ён…

– Вас ніхто ў сексоты і не кліча. Вас клічуць, наколькі я зразумеў, ва ўладу. А ўлада – гэта і таварыш Суслаў, і таварыш Андропаў. І ЦК КПСС, і мы.

Віктар падняўся.

– Ці мы зменем тэму, ці я пайду.

– Сядзьце! – рэзка кінуў Рутневіч – і тут жа змяніў інтанацыю. – Хоць можаце і пайсці. Але я ў такім разе змушаны буду дакласці, што вы катэгарычна адмовіліся ад супрацоўніцтва. Па палітычных матывах.

З гэтым пайсці нельга было, хто ведае, якія ён матывы прыдумае? – і Віктар адсунуў крэсла, ступіў да Рутневіча.

– Па якіх палітычных матывах?.. Майго бацьку па даносе ледзь не расстралялі. Цудам жывы застаўся. Але ў іншых, у мільёнаў іншых цуда не сталася. У мільёнаў! А тыя, хто падвёў іх, абылганых, пад расстрэл, балявалі. Без ніякіх пакутаў сумлення, бо ў іх, сучараў, было апраўданне! Адно-адзінае: па палітычных матывах! А якія палітычныя матывы ў сукі? У мярзотніка? У кончанага стукача? – рызышоўся, выпіўшы, Віктар, і Рутневіч таксама падняўся, абхапіў яго за плечы: "Добра, добра, Віктар Паўлавіч, супакойцеся. Які ў вас аднак характар… – І дадаў ціха, як бы даверліва, спрабуючы пасадзіць Віктара на месца: – З такім характарам маглі і выступіць".

Нешта ўсё ж ён ведае. Тады тым больш нельга, каб дакладваў пра нейкія палітычныя матывы… Трэба сесці, супакоіцца.

– Выбачайце… Вы мяне, Алег Дзмітрыевіч, не зусім зразумелі. Танкевіч народны паэт. Брылец народны пісьменнік. Абодва аўтарытэтныя літаратары. Абодва старэйшыя за мяне, абодвух я паважаю… – і Рутневіч, не даўшы яму дагаварыць, тыцнуў у паперыну:

– Вось вы іх і ахарактарызавалі! І за што ці ім, ці некаму вас ненавідзець?

– Дык вам жа не гэта трэба!

– А што? Я хіба сказаў вам, што не гэта? Прапанаваў даносы пісаць? Гэта вы самі прыдумалі пра даносы… Вашага бацьку, які двойчы за вайну прайшоў праз штрафбат, па даносе ледзьве не расстралялі, а майго праз данос гэтак катавалі, што ён звар'цеў. Між іншым, капітанам НКВД быў, свае катавалі. А ён Сталіна любіў. Так, як не любяць Бога. І стукнула яму ў галаву, што ён Сталін. Кароў, авечак, ды любы статак гоняць з поля, а ён стаіць, парад прымае. Як мне гэта, малому, было? Ну, думаю, вырасту, я вам… І вось вырас. І разам з імі служу. Бо ўсё даўно іншае, Віктар Паўлавіч. Інакшае. І яшчэ, Віктар Паўлавіч, выбачайце за ўзнёслыя словы, Радзіма. Абавязак. Вось я з вамі пра што. І вы мне тут гонар паказваеце. Калі Польшча адыдзе на захад, нашы ворагі прыйдуць на ўсход. Да самых межаў Беларусі. Мы не можам гэтага дапусціць. І вы, дэлегацыя беларускіх дзеячаў культуры, можаце ў гэтым паспрыяць, дапамагчы. Вось вам што даручаюць як паэту, які…

– Прызначаны?

– Так! Прызначаны!.. Мы пра гэта хіба не гаварылі, пра дзённік Мяркулава я вам не казаў?..

Такога ўсплёску эмоцый ад палкоўніка КГБ, хай сабе ён трохі нападпітку, Віктар не чакаў. Радзіма, абавязак... Калі за выпіўкай гэтак узнёсла прамаўляюцца такія словы, дык той, хто іх прамаўляе, ці канчаны нягоднік, ці шчыры ідыёт...

На ідыёта зямляк ягоны не выглядаў. Але і на нягодніка таксама. Ва ўсякім разе на канчанага.

– Добра, – адсунуў кілішкі Рутневіч. – Больш пакуль не выпіваем. Можна было б яшчэ пагаварыць, але вас, пэўна, дачка Грачына чакае. Дарэчы, ведаеце, чаму бацькі яе падчас вашага выступу не было, толькі пад канец з'явіўся? Адзін дэлегат з Навасібірску вырашыў смеласць выявіць, прапанаваць Генеральнаму сакратару партыі пайсці на пенсію. Якраз перад вашым выступам рваўся ды трыбуны. А ён даўні сябрук Грачына, – ва ўпор глянуў, проста стрэліў позіркам Рутневіч. – Дык Леанід Ільіч і папрасіў Грачына сябрука супакоіць. Так што не ўсё ў нашым чалавечым свеце, Віктар Паўлавіч, так трывала, як часам здаецца… Але пакуль, калі ласка, – палез ён у кішэню пінжака, дзе чаго толькі ні было, можа, быў і пісталет бясшумны, – запрашэнне на банкет. На дзве асобы. – І спытаў весела, нешта ўсё ж у ім праглядвалася такое, што калі й дазваляла прыняць яго за нягодніка, дык не за канчанага: – Можа быць, земляка свайго возьмеце? Не запрасілі мяне, Віктар Паўлавіч, на банкет з нагоды закрыцця з'езда. Служу верай і праўдай, а не запрасілі. Вы бывалі, дарэчы, на крамлёўскіх банкетах? Сотні людзей – і ва ўсіх вочы лопаюцца ад нянавісці ды зайздрасці адно да аднаго… Калі праўду казаць, дык са сваёй буфетчыцай у буфеце лепш.

*(Працяг будзе).*

Леанід Дранько-Майсюк



...Вораг свабоды
Пойдзе на звод...
Буду заўсёды
Я і народ!..

# Плыт

***Драматычная паэма ў дзвюх дзеях і з заключнай часткай паводле аповесці Андрэя Платонава "Катлаван"***

**Асобы:**

Вошчаў.
Жачаў.
Упаўнаважаны.
Прушэўскі.
Сафронаў.
Чыклін.
Казлоў.
Насця.
Старшыня.
Мядзведзь.
Іншыя грабары.
Гаспадар.

Дзеецца ўлетку 1929 года недзе на поўдні Расіі паблізу мора.

## ПЕРШАЯ ДЗЕЯ

### З’ява 1

*Нэпманская піўнушка з радыёрупарам. Вокны адчынены. Недзе далёка іграе духавы аркестр, чуецца выразная факстротная музыка, – яна то ўзмацняецца, то сціхае.*

*На самым бачным месцы вісіць партрэт Леніна. За прылаўкам у белым хвартуху Г а с п а д а р.*

*Інтэлігент-пралетар В о ш ч а ў і бязногі анархіст Ж а ч а ў п’юць піва, іхні столік застаўлены куфлямі. Іншых наведнікаў пакуль няма. Вошчаў сядзіць на крэсле, а Жачаў у адмысловым інвалідным вазку.*

В о ш ч а ў
Я без работы і сям’і,
Ісці не ведаю куды;
Гатоў ісці на край зямлі,
На край агню і край вады.

Мне трыццаць стукнула гадоў,
А я адзін, як у дрыгве...
І толькі піва піць гатоў, –
Ад піва светла ў галаве!

Забыла ісціну душа,
І сэнс падзей не зразумець.
Наўкол балотная іржа
І чутнага аркестра медзь.

Што ад таго мне хараства,
Якое тлуміць галаву,
Калі жыву, нібы трава,
Бо нарадзіўся і жыву.

*Факстротная музыка ўзмацняецца і паволі сціхае.*

Ж а ч а ў
Ты доўга думаеш і часта,
І што ні думка, то ныццё...
Ты – дробны пралетар няшчасны –
У сон ператварыў жыццё.

Ты жыць не ўмееш вольна, смела,
Любому кодэксу назло,
Здароўе гнаць з пустога цела,
Каб цела больш пустым было.

Устроіць бучу хоць малую
Не здолееш слабак, а я...
Устрою штуку я любую,
Вайной скалечаны ўдвая!

Калі ў дарозе дзе захрасну,
То, не разявіўшы раток,
Бяру я топленае масла
І гэты змазваю вазок!

*Факстротная музыка ўзмацняецца і паволі сціхае.*

В о ш ч а ў
Знікаючы суздром
У прывіднай дрыгве,
Быць добра камаром, –
Нядоўга ён жыве.

Аддаўся я на суд
Табе, таму скажы:
Ці я патрэбен тут –
Жабрак на кірмашы!

Ж а ч а ў
Ах, ты, капыт авечы,
Заношаны каптур,
Курэй лавіў з-пад печы,
Калі іх пудзіў шчур!

Прыроду не падманеш,
Няпэўнасці камар, –
Ды будзе толк, як станеш
Пад ленінскі штандар!

В о ш ч а ў
Тады з маёй няпэўнасці
Ствару я шчасце новае –
Без роспачы і рэўнасці,
І да жыцця гатовае.

Работай гэтай існаю,
Што дух увекавечвае,
І буду ўсім карысны я
Як аўтар шчасця вечнага!

Ж а ч а ў
Пустой работаю душа зацемнена,
Пустымі словамі марнуеш час,
Бо шчасце вечнае
прыйшло ад Леніна,
І ўсё ад Леніна прыйшло да нас.

Наперад рухацца не хопіць пораху,
Бо ты глядзіш адно ў сваю душу,
Як несвядомага, я ў спісы ворагаў
Пад першым нумарам цябе ўпішу.

В о ш ч а ў
Я холад стомленасці чую
І ў нейкай дзіўнай варажбе
Сябе вартую і пільную,
І ўкрасці мару сам сябе.

Калі знікае цень сумнення,
Нібы яго і не было,
То з гліны ўласнага натхнення
Хачу я вылепіць святло.

Ж а ч а ў
Ты на вайне не быў, я знаю,
А хто лізаў вайне руку, –
Святло не з гліны здабывае,
З крывавага бярэ пяску.

Ён, можа, чалавек і мілы,
Аднак знаходзіцца на дне,
І зверства напаўняе жылы,
Бо ён лізаў руку вайне.

*Прагна дапіваюць піва, Гаспадар тым часам уключае радыёрупар, – чуецца лёгкая песенька:*

*І разам з тым, і разам з тым –*
*Хачу быць Гэтым, а не Тым,*
*Як не Сабой, то толькі Гэтым!*

*Бо Гэты... Ён не проста свой,*
*А Ён з вясёлай галавой,*
*Якую маюць прайдзісветы.*

*А Той? Таксама ж не чужы,*
*Але, ну што тут ні кажы,*
*Ім быць – страшэнная пакута!*

*Чаму? Не ведаю чаму...*
*І хочацца сказаць Яму:*
*«Быць не хачу Табой, зануда!»*

*У радыёрупары лёгкую песеньку раптам перабівае ўпэўнены марш, і Гаспадар тут жа выключае радыёрупар.*

Г а с п а д а р
Цудоўныя наведнікі,
Цікавыя сябры,
Жывыя субяседнікі, –
Хоць у тэатр бяры!

Артысты незвычайныя,
Выдатныя майстры,
Бывалыя, адчайныя, –
Хоць у тэатр бяры!

Настрой адчуў нязвычны я
Ад вашае ігры,
Вы – таленты сцэнічныя...
Хоць у тэатр бяры!

А піва браць прывычныя
На брата куфляў тры,
Вы – хлопцы энергічныя...
Хоць у тэатр бяры!

Ж а ч а ў
Стаяў пачвараю маўклівай,
Ды раптам голас паказаў,
А ну, нясі яшчэ нам піва
І дзве таранкі, ваўкадаў!

Г а с п а д а р
Вы тут ад самага ад ранку
Наелі добра й напілі...
Зноў піва прынясу й таранку,
Як вашы ўбачу я рублі!

Ж а ч а ў
Заплаціш сам, а не, дык юшку
Спушчу і дам па гарбузу;
Тваю паганую піўнушку
На трэскі ўмомант разнясу!

*Жачаў пагрозліва накіроўваецца ў сваім інвалідным вазку да прылаўка.*

### З'ява 2

*У піўнушку ўваходзіць У п а ў н а в а ж а н ы, а за ім інжынер П р у ш э ў с к і, а таксама грабары С а ф р о н а ў і Ч ы к л і н.*

Упаўнаважаны
А тут, я чую, сварка будзе,
Карчма без крыку – не карчма;
Сварыцца любяць нашы людзі
За ўсё, што ёсць, чаго няма.

Гаспадар
Ды сітуацыя такая:
Я абслужыў, а гэты гном
Плаціць не хоча, пагражае,
Што ўчыніць у піўной пагром.

Упаўнаважаны
Не называй калеку гномам
І заўтра ліквідуй шалман, –
І з намі пад будоўлю дома
Капаць рыхтуйся катлаван.

Гаспадар
Капаць?! Ды што вы,
пан-начальнік?!
Вось гэта, вам скажу, удар!
Ды і ніякі я капальнік,
Я не грабар, а піавар...

Жачаў
Капаць – сапраўдная работа,
Не тое, што віляць хвастом,
Капаць навучышся, істота,
Паможаш людзям ставіць дом!

Упаўнаважаны
Не проста дом, а дынамічны
Працоўнай радасці палац,
І пад яго маштаб касмічны
Слупкамі вызначаны пляц.

Прушэўскі
Я, – аўтар будучага дома, –
Працуючы не напавер,
Размецію катлаван, вядома,
Як прафесійны інжынер.

Упаўнаважаны
Карціць вялікая турбота:
Каб, скажам, заўтра давідна
Над катлаванам тым работа
Пайшла ад верху і да дна.

А паслязаўтра – што марудзіць –
Падмурак, сцены, кроквы, дах...
Няхай жывуць у доме людзі,
Іх будзе ў доме – проста страх!

У дом збярэцца босы-голы
З усіх краёў, з усіх мясцін...
Навокал вёскі знікнуць, сёлы,
І будзе толькі дом адзін.

*Далёкі духавы аркестр зайграў факстротную музыку.*

Сафронаў
Скажу як майстар кладкі бутавай,
Каменне гонячы ў зямлю,
Факстрот я слухаю з пакутаю, –
Я маршы мужныя люблю.

Таму кажу беспаваротна я,
Нас павядзе на катлаван
Не гэта музыка факстротная,
А піянерскі барабан.

Як не пачую для работнікаў
Бадзёры марш і тут, і там, –
Я трубы забяру ў факстротнікаў
І кожнаму рыдлёўку дам!

*Гаспадар тут жа ўключыў радыёрупар, і факстротная музыка заглушаецца маршам.*

Чыклін
*(Паказвае на радыёрупар.)*
Пад музыку такую дзейны член
Шчэ больш актыўней дзеяць будзе;
Не трэба думаць, трэба дзейнічаць,
Глыбока дыхаць на ўсе грудзі!

Вошчаў
Людзей бяздумных многа,
І для такіх людзей
Не значыць анічога
Свет вобразаў, ідэй.

Вы ў людзях тых адкрылі
Практычны інтарэс?
Бяздумныя згубілі
Усё – карысць і сэнс!

Чыклін
Знайшоўся, дзякуй лёсу,
Не жнец і не касец, –
Яшчэ адзін філосаф,
Яшчэ адзін мудрэц!

Такіх багата вёрткіх
У нашай старане
Удалых да гаворкі,
А да работы – не!

Вошчаў
Не навучыўся я баяцца
За век свой шчыра працаваць;
Сумленне абуджае праца, –
Як што раблю, то ўжо на яць.

Пакуль тыднёвая свабода
Трымае на лайдацкім дне,
Бо з механічнага завода
За думкі звольнілі мяне.

Аднак жа стану я ў прыгодзе,
Прыму ваш нечаканы план:
Кажу свабодзе сёння: годзе!
І заўтра йду на катлаван!

Сафронаў
Нам трэба малайцы такія –
Зямлі працоўнай соль і сок!
А людзі сёння дарагія,
Як бляха, цэгла, тынк, пясок...

Адкінуўшы пустыя слоўкі,
Шукаем ад зямлі майстроў,
Работнікаў кайла, рыдлёўкі,
Нястомнай сілы грабароў.

Жачаў
Капаць пайшоў бы, ды калека,
Але магу дапамагчы, –
Я буду з нэпманскіх засекаў
Вазіць на катлаван харчы.

Ну, ваўкадаў, рыхтуй рупліва
І хлеб, і шынку, і гуркі,
І не забудзь каністру піва,
Цыбулі свежай тры пучкі...

*Жачаў пагрозліва накіроўвае свой вазок да прылаўка, Гаспадар пачынае мітусіцца, заклапочана аглядаць свае паліцы. З радыёрупара чуецца марш і неўзабаве сціхае.*

Чыклін
Марш адгучаў удала,
Ды не забыць, аднак:
Капальнікаў замала, –
Амаль пусты барак.

Яшчэ патрэбны людзі,
Дзясяткі грабароў,
Тады й работа будзе
Хутчэй у сто разоў!

Прушэўскі
У біржы сто рабочых
Прасіў тры дні назад,
Аднак, адвёўшы вочы,
Прыслала пяцьдзясят.

Чыклін
Прысланых бачыў – скура, рэбры
Ды сківаўцы галоднай косць,
Аднак жа пачынаць патрэбна
З той колькасці, якая ёсць.

Аб'ём пастаўленай задачы
Ім давяду я, не сакрэт,
Казлоў я навучу ішачыць,
Капаць іх навучу як след.

Са мной забудуць тары-бары...
Капаць усё-ткі лепш, казлы,
Чым, скажам, рушыць на базары
Па п'янцы будкі і сталы!

Сафронаў
*(Чыкліну.)*
Ты – майстар працы грунтавой,
І дбайны, і ахвочы,
Адказваць будзеш галавой
За кожны дзень рабочы.

Казлам настроіш галаву
На добры лад вясёлы,
Каб меней дбалі пра траву,
Як дзікія жывёлы.

Калі кайло, рыдлёўка, лом
Грунт разаб'юць трывалы,
Тады і пабудуем дом
Аб'ёмам небывалым.

Вошчаў
Дом, як нейкі страшны схоў...
Як даверыцца яму...
Зрэшты, шмат вакол дамоў,
Часам жыць няма каму.

Прушэўскі
Свет – гэта мёртвае цела,
Незразумелае намі,
І не заўсёды ж умела
Забудавана дамамі.

Трэба заместа старога,
Бо замінае старое,
Йсці да жыцця маладога,
Славіць жыццё маладое.

Як узвядзём рыштаванне,
Прымем тады пастанову:
Славіць сваё збудаванне!
Славіць сваю пабудову!

*Усе, нават Гаспадар, крычаць: «Ура!» Гаспадар за свой кошт усіх частуе півам. Усе, акрамя Гаспадара, выходзяць. Радыёрупар змаўкае, бо Сафронаў, адключыўшы яго, зняў са сцяны і забраў з сабой.*

## З'ява 3

*Катлаван. Сафронаў, Чыклін, Вошчаў ды іншыя грабары займаюцца капаннем. Асобна працуе Казлоў – худы слабы работнік.*

Казлоў
Я раблю бяздонную магілу,
Я капаю дол.
Да мяне ідуць па небасхілу
Д'ябал і анёл.
Да мяне ідуць, як вартавыя,
Я ж мярцвяк зусім...
Абсякаю карані жывыя
Капачом тупым.

Я накормлены пясчаным пылам,
Ашуканы злом...
Я хачу ў магілу, бо магіла –
Самы лепшы дом!

Я не веру людзям і прыродзе, –
Пустата наўкол...
Да мяне ідуць і не даходзяць
Д'ябал і анёл.

Двое іх... А дзе ахоўца трэці?
Божа мой, дзе Ты?!
Д'ябал і анёл у гэтым свеце –
Родныя браты.

Я да болю вечнага прыкуты
На магільным дне.
Д'ябал і анёл мае пакуты
Не паменшаць, не.

Толькі б Ты паменшыў, Божа мілы,
І Твая любоў,
Толькі ці збярэш на тое сілы,
Ці ўваскрэснеш зноў?!

І заміж Цябе ў маю магілу,
У глыбокі дол
Пазірае д'ябал з небасхілу
І глядзіць анёл.

Без Цябе сыду з зямлі нямілай,
Стану вечным сном...
Я хачу ў магілу, бо магіла –
Самы лепшы дом!

Сафронаў
*(Казлову.)*
Ты гарод не гарадзі:
«Самы лепшы дом – магіла...»
І глядзі ў мяне, глядзі,
Па хрыбціне дам пахілай!

Што за словы, што за верш?!
Мы будуем дом навекі –
Ты ж абы пра што пяеш,
Строіш кепікі і здзекі.

Не грабар, а далакоп,
Бо і сапраўды ж магілу
Ты капаеш, медны лоб,
Трацячы дарэмна сілу.

Ч ы к л і н
*(Казлову.)*
Бачу я – не ад слаты
У цябе сырыя вочы,
І з дарогі нашай ты,
Пэўна што, ужо і збочыў?!

Калі так, то знай адно:
Я цябе, нібы на плаху,
Пакладу на бервяно
І сякерай – гах! – з размаху.

Лепш працуй, а то заб'ю,
Недалуга, небарака...
Шкуру тленную тваю
Кіну пацукам, сабакам!

*Далёкі духавы аркестр падаў некалькі маршавых акордаў.*

К а з л о ў
Ад працы грэецца зямля,
Ад працы грэюцца нябёсы,
Аднак жа халадзею я,
Нібы жабрак той голы-босы.

Ніхто на ўвесь абшар зямлі
Мяне, я ведаю, не любіць...
Любові людзі не далі,
Каб не даваць – на той й людзі!

В о ш ч а ў
Каб сілы падтрымаць свае,
Вы на людзей і не зважайце,
І колькі моцы вам стае –
Заўсёды ісціну шукайце.

К а з л о ў
Маёй увагі не міне
Парада слушная такая,
Даруйце за пытанне мне:
Вы – той, хто ісціну шукае?!

*Духавы аркестр з ледзь чутнага марша перайшоў на нешта, блізкае да вальса.*

В о ш ч а ў
Адзіны клопат маю
На досвітку і ў прыцем, –
Я ісціну шукаю,
Дзе ісціна, скажыце?

У кніжках і ў народзе
Шукаў я, прагі поўны, –
На захадзе і ўсходзе,
На поўначы і поўдні.

Не кідаў слоў на вецер,
Дум не замазваў глінай...
Жыць сорамна на свеце
Без ісціны адзінай.

Без праўды гэтай смелай,
Як і без добрай волі,
Паволі слабне цела,
І слабне кроў паволі.

Усё тады мадзее,
Жывую траціць казку;
Марнее і скупее
На радасную ласку.

Цябе адну шукаю
О, ісціна-спакуса!
Ты пад якім, не знаю,
Знаходзішся прымусам.

Асветленая сонцам,
Атуленая ценем,
Адданая чырвонцам,
Ці толькі летуценням?!

С а ф р о н а ў
Каб аж па целе – шорах,
Грайце, музы́кі, марш...
Ісціна – гэта вораг,
Класавы вораг наш!

*Павольныя гукі вальса тут жа ператвараюцца ў марш.*

В о ш ч а ў
Вы, пэўна, будзеце смяяцца,
А я пра ісціну скажу:
Яна з'яўляецца ў душу,
Каб спорна рухалася праца.

Ч ы к л і н
Прычым тут ісціна, прычым?!
Ніякай ісціне не веру...
Энтузіязм, душэўны ўздым
Даюць рабоце сэнс і меру!

*Духавы аркестр грае новы кароткі марш і змаўкае.*

<u>Іншыя грабары</u>
Баль вясёлы на нашым пагосце,
І не ружы цвітуць – лебяда,
І з'яўляюцца вечныя госці
Па-сваяцку – падман і бяда.

Не аднойчы той баль і не двойчы,
На даўгія расцягся гады...
У падману вясёлыя вочы,
І вясёлыя вочы ў бяды.

І не знаюць ні ўтомы, ні зморы,
За сабою не бачаць віны, –
Гэта лепшыя нашы танцоры,
На магілах танцуюць яны.

Палюбілі нас гэтыя госці,
Мы таксама ж прывецілі іх,
Разам з імі на нашым пагосце
Топчам родных і блізкіх сваіх.

І не год, і не два – спаконвечна,
І не год, і не два – кожны міг...
Дзе купіць, дзе набыць чалавечнасць
Па талонах і картках якіх?

Па якому дзяржаўнаму плану,
З кіраўнічай якой дабраты –
Хоць на міг адцурацца падману,
Хоць на міг адцурацца бяды...

Мы стаім на пустым раздарожжы,
Нас рыхтуюцца зноў падмануць...
Можа, Біблія нам дапаможа?
Можа, Біблію нам разгарнуць?!

<u>Сафронаў</u>
Годзе нуднае спяваці...
Калыханачку б хаця
Заспявалі для дзіцяці –
Бачыце, ідзе дзіця!

<u>Чыклін</u>
Зараз піскнеце іначай
І пад нашую дуду, –
Гэта Насця, з ёю Жачаў,
Ён вязе для нас яду!

*Духавы аркестр пачынае граць нешта, блізкае да калыханкі.*

### З'ява 4

*Катлаван. Сафронаў, Чыклін, Вошчаў, Казлоў, іншыя грабары. Да іх далучаюцца дзяўчынка Насця і Жачаў. Седзячы ў сваім вазку, Жачаў пхае перад сабой вазок з харчам.*

<u>Іншыя грабары</u>
*(Вітаючы Насцю.)*
Так было і будзе так –
Гора шмат з бядой, аднак
Для шчаслівага жыцця
Нараджаецца дзіця.

І святлее ўсё наўкол,
І пяе ў душы анёл...
Кажуць людзі нездарма:
«Большай радасці няма!»

Маці (хай ёй Бог дае!)
Над калыскаю пяе
Калыханку: «Лю-лі-лю...
Зорка, я цябе люблю...

І без Божай ласкі, і
Без цябе няма сям'і,
А з табой прыйшла сям'я,
Зорка любая мая!»

<u>Насця</u>
Мая памерла маці,
Маёй сям'і няма,
Жыву я ў гэткай страце
Які ўжо дзень сама.

Аднак жа ёсць удача,
З вачэй прапаў туман, –
Мяне паклікаў Жачаў
Да вас на катлаван.

Да глыбіні да самай
Патрэбнай, што на дне,
Хачу капаць таксама,
Рыдлёўку дайце мне!

У вашае адзінства
Мне хочацца ўвайсці, –

Павінна быць дзяцінства
Карысным у жыцці!

Сафронаў
Табе занятак знойдзем лепшы,
Маленькія ж твае гады, –
Таму чытаць нам будзеш вершы,
Спяваць на розныя лады.

Чыклін
Мы ўдзячны за тваё жаданне
Нам памагчы, аднак жа знай:
Патрэбна сіла на капанне,
Таму з капаннем пачакай.

Жачаў
Хоць кожны тут зусім не волат,
А моц апошнюю збяром, –
Стары імгненна знішчым горад,
Як толькі пабудуем дом!

Цябе ж сюды паклікаў, Насця,
Каб з намі ела і піла,
Бо можна з голаду прапасці,
Свайго не маючы стала.

*Далёкі духавы аркестр іграе павольную музыку. Жачаў дастае ежу і пітво. Усе, акрамя Насці, пачынаюць есці.*

Насця
Вы пабудуеце радасці дом,
Будучай песні маёмасць...
Сілу стварае не ежа з пітвом,
Сілу стварае свядомасць.

Але да часу... У новым жыцці
Скрышыцца ўсё ў пацяруху...
Мне ж пасярэдзіне часу ісці
І пасярэдзіне руху.

Вошчаў
Як да цярпення-пакуты,
Д'ябал прывучыць і час
Да разумення-атруты:
Дзеці не слухаюць нас!

## З'ява 5

*Катлаван. Сафронаў, Чыклін, Вошчаў, Казлоў, іншыя грабары капаюць. За імі назіраюць Жачаў і Насця. З'яўляюцца Упаўнаважаны і Прушэўскі.*

Упаўнаважаны
На сваё жыццё забыцца,
Жыць агульнай гаспадаркай,
Не марнець, а біць крыніцай
І глыбокаю, і шпаркай.

І тады ўжо незваротна
Знікне сум жыцця старога;
Па-сапраўднаму свабодна
Ляжа па жыцці дарога.

І тады з паўдня, з паўночы
Вымкне выбухам раптоўным
Дом агульны для рабочых,
Дом агульны для працоўных.

Прушэўскі
Дзеянне высокай пробы,
Як распісана па нотах,
А закончаць землякопы, –
Пойдзе іншая работа.

Грунту вывалілі масу,
Цэглы бітае і шлаку,
Хатняга не знаўшы часу,
Нары маючы ў бараку.

До на сёння! Адпачынку
Аж да ранку будзьце рады...
Жачаў, забірай дзяўчынку,
Далучайся да брыгады.

Жачаў
А я і так з брыгадай разам,
І, як прынята гаварыць,
Працоўным дастаўляю масам
Правізію, як мае быць.

Насця
*(Звяртаецца да капальнікаў.)*
І я з брыгадай... Толькі смутны
З вас кожны – злеплены з нуды...
Як зморыць сон вас непрабудны,
Я кожнага паб'ю тады.

Сафронаў
Твайму дзіцячаму сарказму
Скажу: працуем талакой
І дыхаем энтузіязмам,
А не нудою там якой.

Чыклін
А з той зямлі, што з катлавана
Накопанай даволі шмат,
З вясёлай сілай нечуванай
Насыпаць можна Арарат.

Вошчаў
Аднак жа трэба адпачынку
Аддаць пашану і паклон
І пад дзяружку ці аўчынку
Залезці, каб убачыць сон.

Казлоў
Барак чакае – наша хата,
Сон кліча на яе парог,
А сон таксама, як зарплата,
Заробак для душы – дай Бог!

Іншыя грабары
У бараку ўтульна,
У бараку проста
Пагуляць у дурня,
Пагуляць у воза!

*Далёкі духавы аркестр выканаў некалькі акордаў блатной мелодыі.*

### З'ява 6

*Барак. Нары. На нарах Сафронаў, Чыклін, Вошчаў, Казлоў, Жачаў, Насця, іншыя грабары. Іншыя грабары гуляюць у карты. Насця гуляе з цацкай – гліняным мядзведзікам.*

Насця
Дай мне лапку, дай,
І са мной спявай
Пра далёкі край,
Дзе духмяны май,
Дзе бяжыць ручай
Аж за небакрай;
Там чакае, знай,
Смачны каравай...
Дай мне лапку, дай!

*Раптам загучала блатная мелодыя.*

Іншыя грабары
*(Спыніўшы гульню.)*
Картаю шчаслівай выпала дарога,
І канца дарозе не відаць.
Па дарозе крочаць Гога і Магога
Золата чырвонае шукаць.

То па лесе цёмным,
то па полі чыстым,
То высокім берагам ракі, –
Весела шыбуюць два авантурысты,
Два авантурысты-спевакі.

Нам трэба золата, нам трэба золата,
Нам трэба золата, каб добра жыць;
Нам трэба золата,
каб жыць нам соладка,
Каб жыць нам весела і не тужыць.

Гога і Магога не жывуць з зарплаты,
А з таго, што выкіне ім лёс,
А з таго, што гэты вельмі край багаты
Ад балот да самых да нябёс.

Ні сям'і, ні дому, ні дзяцей, ні цешчы,
Ні каханкі (хоць бы аднае!) –
Золата іх вабіць, золата іх цешыць,
Золата спакою не дае.

Нам трэба золата, нам трэба золата,
Нам трэба золата, каб добра жыць;
Нам трэба золата,
каб жыць нам соладка,
Каб жыць нам весела і не тужыць.

Золата глыбока недзе закапана,
Ад вачэй схаванае на дно, –
Як не закапана, як не захавана,
Усё роўна знойдзецца яно!

Будзе яго столькі – разбягуцца вочы!
І таму, каб хто чужы не ўзяў, –
Гога і Магога па дарозе крочаць
І спявае кожны, як спяваў:

Нам трэба золата, нам трэба золата,
Нам трэба золата, каб добра жыць;
Нам трэба золата,
каб жыць нам соладка,
Каб жыць нам весела і не тужыць.

*Блатная мелодыя сціхае.*

С а ф р о н а ў
Гэта з’ява бандытызму,
Бачная адрыжка нэпа;
У расол сацыялізму,
Каб адмыць, вас кінуць трэба.

І каб спевамі блатнымі
Не паганіць нашай чэсці,
І ў бараку жыць на ўздыме, –
Трэба радыё правесці.

*Вешае на сцяну канфіскаваны ў піўнушцы радыёрупар, з якога тут жа чуецца:*

*У новы час*
*Нас кліча шлях,*
*І кліча нас*
*Чырвоны сцяг.*

*Нібыта птах*
*Махне крылом, –*
*Чырвоны сцяг*
*Аздобіць дом.*

*Чужых кругом*
*Ахопіць жах, –*
*Высокі дом,*
*Высокі дах...*

*На радасць нам*
*Паўстане гмах,*
*А ворагам*
*Той гмах на страх...*

*Песня змаўкае, радыёрупар выключыўся, нібыта сам.*

К а з л о ў
А ці добрага прыбудзе?
Бумкаючы без пярэрвы,
Нібы качак, можа спудзіць
Тое радыё ўсе нервы.

Гаварыць не дасць нікому,
Будзе толькі лезці ў вушы
І, як у сяннік салому,
Песні пхаць у нашы душы.

Ч ы к л і н
З большым вынікам ці меншым
Думкі давядзе да ладу
І настрой яно палепшыць,
Бо тэхнічная прылада.

Мова ў радыёталерцы,
Як евангелле, якое
Створана для новых сэрцаў
Бальшавіцкаю рукою.

Ж а ч а ў
Хто на галаву не хворы,
Радуйся з такой карціны, –
Будзем з радыёпрасторы
Браць патрэбныя навіны.

І парады будзем з плошчаў
Чуць ад краю і да краю...
Ці не так, таварыш Вошчаў,
Каб ніякага адчаю?!

В о ш ч а ў
Я слабы, радасці няма,
І глыбіню сваю губляю,
І тая глыбіня сама
Майму здзіўляецца адчаю.

Прастора падае́ мне знак,
Ураджаная: «Гэта ж трэба!»
Гляджу на неба я, аднак
Гляджу без сэнсу я на неба.

Не ведаю, ці ёсць яна –
Мая адметнасць існавання,
І ці анёл, ці сатана
Складуць патрэбнае казанне?!

Ніхто не прачытае, не –
Статут сусвету мне на памяць,
І не парадуе мяне
Убачанае, – толькі раніць!

Чаруюць космасу вуглі,
Там свет гаворыць нешта свету...
А ўсе падзеі на зямлі
Не любы сэрцу, як дагэтуль.

Н а с ц я
Ад таго, што я пачула,
Страшна робіцца й няміла...
«Хай вам сядзе ў горле скула!» –
Гэтак маці гаварыла.

У барачнай вашай хаце
І не ўлежаць, і не ўседзець...
Я пайду да мёртвай маці,
Я скажу пра вас Мядзведзю.

*Нібыта пагражаючы гліняным мядзведзікам, паказала яго ўсім, а тады, схаваўшы цацку ў кішэньку, пачала марудна збірацца, быццам яшчэ хацела сёе-тое ў бараку паслухаць.*

<u>Сафронаў</u>
*(Вошчаву.)*

Языком сваім палошчаш,
Нібы той анучай вецер...
Ты не хочаш ведаць, Вошчаў,
Для чаго жывеш на свеце?!

І не ўбудзе, не прыбудзе, –
Калі будзеш век хістацца...
Чым змаганне болей будзе,
Тым ярчэйшай будзе праца.

<u>Вошчаў</u>
Працы той скупое шчасце
Не ўратуе, не спатоліць,
Бо Мядзведзь, хаўруснік Насці,
Павядзе вас па юдолі.

Я ж у крыўду вам не дамся,
Тоячы сваю трывогу,
Без капейкі, без авансу
Рушу з думкамі ў дарогу.

*Выходзіць. Усе хвіліну маўчаць.*

<u>Чыклін</u>
Можа, пугай хто адхвошча
Вошчава за гэту здраду?!
Але нам патрэбен Вошчаў,
Я вярну яго ў брыгаду.

За адсталым элементам,
Каб далей не даў усадку,
Вошчавым-інтэлігентам
Прасачу я для парадку.

*(Выходзіць.)*

<u>Казлоў</u>
А не буду я парады
Слухаць з радыёпрасторы,
З вашай выйду я брыгады, –
Не паддамся на ўгаворы.

Цела дробнага ўладальнік,
Стану лепей бюракратам,
Выйдзе і з мяне начальнік, –
Буду вас атульваць блатам.

<u>Жачаў</u>
Ты не рыпайся, казліна,
Для такой, як ты, казліны,
Выпала жыццё – маліна!
Лепшай захацеў маліны?!

Не развітвайся з фартунай,
Што прыйшла ад беднай хаты...
У начальнікі надумаў?!
Будзь начальнікам лапаты!

*Ніхто не заўважыў, як з барака выйшла Насця. А радыёрупар тым часам зайграў:*

*Неба атуліў туман,*
*Атуліў і горы...*
*Барабань у барабан,*
*Піянер вясёлы!*

*Сонца ўкрыў... Паўзе, плыве*
*На шляхі-дарогі...*
*Той туман і ў галаве*
*Кожнага нябогі.*
*Ён схаваў усе сляды, –*
*Дзе шукаць ратунку,*
*І нябачна йсці куды,*
*У якім кірунку.*

*Дзе рака, а дзе гара,*
*Дзе гары падножжа...*
*Выйсці з роднага двара*
*Аніхто не можа...*

*Б'е, аднак, у барабан*
*Піянер бясконца –*
*І знікае скрозь туман,*
*Ярка свеціць сонца.*

## <u>ДРУГАЯ ДЗЕЯ</u>

### З'ява 1

*Калгасная кантора. Старшыня, Упаўнаважаны, Прушэўскі праводзяць нараду.*

С т а р ш ы н я
Прыйшла з раёна дырэктыва:
Павінны мы, як першы рад,
Не валаводзячы, імкліва
Умацаваць калгасны лад.

У нашым руху пераможным
Пад лозунгам бальшавікоў
Заціснуць трэба ўсіх заможных,
Усіх дарэшты кулакоў.

А от сераднякоў прымусіць,
Каб самі шыліся ў калгас
І з беднымі ў адным хаўрусе
Перамяшаліся зараз.

Хай нішчыць кулакоў прастора –
Адносна іх такі мой план:
Загнаць усіх на плыт – і ў мора,
Пусціць у мора-акіян.

У п а ў н а в а ж а н ы
Ну, як па мне – план дасканалы,
І каб усё зрабіць у час,
Прышлю работнікаў удалых,
Бо лідар мас – рабочы клас.

З глыбокай ямы катлавана
Падымецца рабочых раць,
Каб тых сераднякоў старанна
У калектыў адзін сабраць.

А кулакоў, – бяльмо на воку, –
З бярвення збіўшы ёмкі плыт,
І сапраўды, у мора змроку,
Патрэбна сплавіць у нябыт.

Няхай за морам-акіянам
Спаткаюць прадказальны лёс,
А мы над нашым катлаванам
Свой дом узвысім да нябёс.

*Раптам пачулася джазавая музыка.*

П р у ш э ў с к і
Учора я сядзеў і марыў
Пра джаз, віно і рэстаран,
Прыгожа танцавалі пары,
І бэзавы стаяў туман.

Хаваўся цень мой у вітрыну,
Тануў у дыме залатым,
Я незнаёмую жанчыну
У рэстаране бачыў тым.

І што рабілася на сэрцы
Ні лёс не выкажа, ні час...
Ад асалоды той памерці
Хацеў я, слухаючы джаз.

Ды гэта ўчора быў маркотны,
А сёння – зноў я барацьбіт,
І з тым, што сказана, я згодны:
Усіх нягоднікаў – на плыт!

*Джазавая музыка сціхае. У кантору ўваходзяць В о ш ч а ў і Ч ы к л і н.*

## З'ява 2

*У канторы С т а р ш ы н я, У п а ў н а в а ж а н ы, П р у ш э ў с к і, В о ш ч а ў і Ч ы к л і н.*

У п а ў н а в а ж а н ы
А вось і нашы выканаўцы,
Яны не толькі грабары,
Што ў мелкай рыюцца канаўцы,
Яны яшчэ і цесляры.

С т а р ш ы н я
Не пазычаць майстрам умення
І, скажам так, цяслярскі спрыт,
Як толькі ступяць да бярвення, –
Адразу й будзе спраўны плыт.

П р у ш э ў с к і
Каб выйшаў плыт вялікі, ладны,
Арыфметычны дам абмер,
Чарцёж накрэслю я дакладны,
Дапамагу, як інжынер.

В о ш ч а ў
Мы служым праўдаю і верай
Сваім начальнікам даўно,
Махаць рыдлёўкай ці сякерай,
Па праўдзе, гэта ўсё адно.

Ч ы к л і н
Загад выразны ваш і бачны,
Як з лозунгам чырвоны шчыт,

І хоць аб'ём работы значны, –
Мы зробім хутка гэты плыт.

*Ідуць рабіць работу.*

### З'ява 3

*Барак. Нары. На нарах* С а ф р о н а ў, К а з л о ў, Ж а ч а ў, і н ш ы я г р а б а р ы. *З радыёрупара чуецца:*

*Сцяг плыве чырвоны*
*Аж у небе самым, –*
*Выкінем іконы*
*І закрыем храмы.*

*Зрыем лад адвечны,*
*Маючы на мэце*
*Збудаваці вечны*
*Камунізм у свеце...*

*Нікім незаўважаныя ўваходзяць* Н а с ц я і М я д з в е д з ь. *Мядзведзь у скуранай тужурцы, з маўзерам на поясе. Радыёрупар змаўкае.*

<u>І н ш ы я г р а б а р ы</u>
Што далей? Мо надарыцца лепшае?
І не думаючы «...што далей?», –
Па гарэлку чарга ані меншае,
А даўжэе, нібы ў маўзалей.

Пакрычыць, пагамоніць і сцішыцца,
І стаіць на сваім з году ў год,
Як гаворыцца там, ці як пішацца, –
Гераічны савецкі народ.

Сапраўды гераічны, нязломлены
Па вайне, у вайну, да вайны,
Але ён змардаваны і стомлены
Ад малой і вялікай маны.

І, напэўна, таму напіваецца,
Што яму, як салодкі капрыз,
Пасля кожнае чаркі з'яўляецца
Абяцаны душы камунізм.

*Насця і Мядзведзь выходзяць на сярэдзіну барака.*

<u>Н а с ц я</u>
Я ж табе казала, Міша,
Бачыш, нібы камунары,
А паводзяцца, як мышы, –
З нараў хоць гані пад нары.

Не, не трэба мышалоўку,
А з рашучасцю ў паставе
Маўзер трэ, а то й вінтоўку,
І да сценкі ўсіх паставіць.

І Сафронава, бо гэты
З працай мне не даў з'яднацца
І прасіў чытаць куплеты,
Не выконваючы працы.

І Казлова... Нечакана
Здрадзіў пралетарскай чэсці,
Хоча проста з катлавана
У начальнікі пралезці.

Толькі Жачаў недарэка
Хай жыве з усёй пароды,
Не таму што ён калека,
А таму што свой заўсёды.

<u>М я д з в е д з ь</u>
*(Пагрозліва пасунуўшы на поясе зброю.)*
Добра, Жачава пакіну,
Як калыміў, хай калыміць
І пясок, зямлю і гліну
Топча коламі сваімі.

Ну, а гэтага Казлова,
Што начальнікам быць хоча,
На цугундар – і гатова,
Каб не ганьбіў клас рабочы!

І Сафронаў не катлеты
Будзе нюхаць, а парашу,
Раз ён вершы і куплеты
Цэніць больш за працу нашу!

І капальнікі-артысты
Адспявалі, што хацелі, –
Не адзін не выйдзе чысты
З іхняй спеўнае капэлі!

І таму збірайся кожны,
Каб удалечы прапасці,
Атрымаўшы хлеб астрожны
Ад мяне і пільнай Насці.

Жачаў
Чыклін, Вошчаў! Пыл дарожны
Вы каўтаеце там недзе, –
Падпішуся я пад кожным
Словам Насці і Мядзведзя.

Чыклін, Вошчаў! Клікну зноў я,
Вы пакуль яшчэ на волі...
Ні жыцця і ні здароўя
Не шкадуем мы ніколі.

Нам шкадоба не да смаку,
Без яе памром і самі...
Кожны з гэтых, што ў бараку,
Знікне ў бур’яне, ці яме.

Вам далей у катлаване
Калупаць за грудай груду...
Не спыняючы катанне,
Ежу вам прывозіць буду.

Маю слоў я незлічона,
Ды зацягваецца драма,
І таму – бывай, Сафронаў!
І, Казлоў, бывай таксама!

Сафронаў
Якой атручана атрутаю
Паветра нашае наўкол,
Што мушу, майстар кладкі бутавай,
Упасці ў безыменны дол?!

Спявала сэрца, духам поўнае;
Ішоў да мэты напралом
І марыў для вясны працоўнае
Пабудаваць высозны дом.

Мізэрнасць вечная бянтэжыла,
Несамавітасць век гняла,
Ды быў душою разнасцежаны
Да будучыні і святла.

З рыдлёўкай, ломам ці аглоблінай –
На чым стаяў, на тым стаю...
А тое ўсё, што недароблена,
Табе я, Жачаў, аддаю.

Хай твой вазок, душа гаротная,
Цябе не завязе ў капкан...
Заместа музыкі факстротнае
Бі, піянерскі барабан!

*Радыёрупар маўчыць, таму замест гучных ударaў барабана, нібыта назло Сафронаву, далёкі духавы аркестр выконвае факстротную музыку.*

Казлоў
Раскажу Мядзведзю-здаравілу:
Я тупым кайлом
У каменным грунце біў магілу –
Самы лепшы дом.

І невыпадкова так рабіў я,
Кволы, нібы ліст, –
Адчувала зморaная шыя
Злой сякеры свіст.

Смерць я чуў, худы і нездаровы...
І каб хто хоць раз
Мне сказаў лагодныя два словы, –
Падтрымаў у час?!

Ды адна гняла цяжкая праца,
І штодзень мацней
Марыў я ў начальнікі падацца,
Каб дыхнуць вальней...

Я скажу Мядзведзю-здаравілу:
Ты, Мядзведзь, мацак,
У сваю глыбокую магілу
Наш вядзі барак!

Іншыя грабары
Раз, два, тры, чатыры, пяць
Кветак на галіне, –
З пісталета пастраляць
Хочацца хлапчыне.

Палец ляжа на курок,
Рух у пальца плаўны...
Варашылаўскі стралок
Той хлапчына слаўны.

Зоры. Ноч. Турэмны двор...
З чорнай асалодай
Будзе ён страляць ва ўпор
Ворагаў народа.

Варашылаўскі стралец –
Клопат аб народзе,

І таму заўжды канец
Ворагам прыходзіць.

Раз, два, тры, чатыры, пяць
Кветак на галіне, –
З пісталета пастраляць
Хочацца хлапчыне.

*Пад пільным канвоем Насці і Мядзведзя ўсе, акрамя Жачава, пакідаюць барак.*

### З'ява 4

*Вошчаў і Чыклін пасля напружанай працы адпачываюць. За імі, далёка ў глыбіні на беразе мора, на толькі што зроблены плыт Насця і Мядзведзь заганяюць арыштаваных.*

Вошчаў
Страціўшы ісціну, веру,
Станеш, як той інвалід, –
І не ўтрымаеш сякеру,
Новы будуючы плыт.

Чыклін
Плыт мы адзін збудавалі,
Хопіць пакуль аднаго,
Хай акіянскія хвалі
Пруць у магілу яго.

Вошчаў
До ўжо такое карості!
Доўжыць пустое дарма...
Трэба спыніцца на простым:
Ісціны проста няма!

А як была, – і дзень кожны
Зоркай глядзела ў мой лёс?!
Хцівы прайшоў падарожны,
Здзёр тую зорку з нябёс.

А як не зоркай-заранкай,
А чарвяком на пяску?!
Ластаўка чорнай маланкай
Жах – і канец чарвяку!

Чыклін
Вошчаў, ты з ліку адсталых,
Б'еш, як уперты баран,
Не ў барабан, а ў цымбалы...
Біць трэ заўжды ў барабан!

Нібы той курыцы проса,
Полю вясноваму гной,
Ты мне патрэбен, філосаф,
Для працэдуры адной.

Ад філасофскага бруду
І мудрагельнай лухты,
Вошчаў, цябе вечна буду
Чысціць і гэткіх, як ты.

*Да Вошчава і Чыкліна падыходзяць Насця і Мядзведзь.*

### З'ява 5

*Вошчаў, Чыклін, Насця і Мядзведзь.*

Насця
Казала маці: «Загадаюць –
Ары, ды чорным дагары!»
Што б ні было, а нам гадамі
Бурыць у душах лад стары.

Мядзведзь
Мы тое споўнілі, што трэба, –
І плыт няхай плыве туды,
Дзе ані солі, ані хлеба,
І дзе няма пітной вады.

Вошчаў
Ці трэба думаць, каб даўмецца,
Што плыт умацаваў калгас,
Аднак чамусьці мне здаецца,
Што гэты плыт знявечыў нас.

Чыклін
Ты свой язык на сметнік выкінь,
І сам сябе шпурні на злом...
Галоўнае, што свет вялікі
Наш упрыгожыць слаўны дом.

Насця
Не нам будоўлі вашай слава,
А іншым людзям акурат...
Далей мы пойдзем, кліча справа,
Работы маем вельмі шмат.

Мядзведзь
*(Паправіўшы на поясе маўзер.)*
Сказала Насця: значыць – згода...
І ў зброі воўчы апетыт,

І новых ворагаў народа
Мы прывядзём на новы плыт!

Н а с ц я
Новаму богу
Новых акоў
Дам у падмогу
Ўласную кроў.

Кроўю ж чужою
Дух наталю,
Ёю адною
Ўмыю зямлю.

Шчыра прызнаюся вам:
Я не гібею ў чарзе,
Бо не спыняюся там, –
Там, дзе спыняюцца ўсе!

Ворагаў з доўгай чаргі
Выведу ўсіх, і яны
Будуць насіць ланцугі,
Будуць насіць кайданы!

Мне сваім торам
Рухацца ў свет;
Дзеці парторгаў
Пойдуць услед, –

Пойдуць па свеце
Ў звоне акоў
Іншыя дзеці
Іншых бацькоў.

Злыя дарогі,
Буры прайду...
Да перамогі
Я прывяду.

З новаю верай
Ў новым жыцці
Толькі наперад
Трэба ісці.

Неба – як грыва
Чырвань-каня;
Будзе шчаслівай
Будучыня.

Вораг свабоды
Пойдзе на звод...
Буду заўсёды
Я і народ!

В о ш ч а ў
А я вам проста на дарогу
Скажу: відаць, сабе на здзек,
За перамогай перамогу
Перамагае чалавек.

Ч ы к л і н
*(Звяртаецца да Насці.)*
Адолееш любую змогу
Яшчэ дзіцячымі грудзьмі, –
Вазьмі цукерак на дарогу
І пернікаў маіх вазьмі.

*Насця бярэ пачастунак і разам з Мядзведзем адыходзіць, а тым часам, здаецца, што нехта зайграў на барабане.*

### З'ява 6

*Нэпманская піўнушка з новым радыёрупарам. Вокны адчынены. Пад партрэтам Леніна за прылаўкам у белым хвартуху Г а с п а д а р. В о ш ч а ў, У п а ў н а в а ж а н ы, П р у ш э ў с к і, Ч ы к л і н, С т а р ш ы н я п'юць піва. Ж а ч а ў (ён збоку стала ў сваім вазку) таксама п'е піва. З радыёрупара чуецца:*

*Павінен лес чырвоным быць,*
*Рака чырвонай мусіць плысці;*
*Чырвонае, як кроў, ляціць*
*Пад хмараю чырвонай лісце.*

*Чырвоны сцелецца туман,*
*Чырвоныя крычаць вароны:*
*«Капай чырвоны катлаван*
*Пад незвычайны дом чырвоны!»*

*Гаспадар выключае радыёрупар.*

У п а ў н а в а ж а н ы
А над чырвоным катлаванам,
У строй з'яднаўшыся адзін,
Капанне скончым апантана,
Як той казаў, за пяць гадзін.

Узвысім дом і ўсе пры гэтым
Адчуем: гэта – манумент!

І будзе новым ён сусветам,
Ці там – сусветны элемент.

І добра, што нібы мякіну,
Малоцячы ва ўсе бакі,
Паспелі ворагаў адкінуць
З рабочай нашай талакі.

Старшыня
Варожая не слабне маса,
І каб аслаб яе граніт,
То нашых ворагаў з запасам
Было пагружана на плыт.

Той плыт ужо накрылі хвалі,
Бывай, кулацкая братва...
За гэта нас раён пахваліць,
І нават вобласць, і Масква!

Аднак жа трэба пільнавацца,
Бо вораг скрозь – і тут, і там...
І вашым сябрам можа стацца,
З кім піва п’еш або сто грам!

Жачаў
А я сяброў не маю
І так скажу: яны,
Нібыта папугаю
Кашуля ці штаны.

Нібы (таксама ж дзіва!)
Галёшы вераб’ю, –
Таму гарэлку, піва
З сябрамі я не п’ю.

Сябры нясуць няшчасце,
Што ні душа – змяя...
З адною толькі Насцяй
Шчасліва чуўся я.

Чыклін
Дзіця – якога мала!
Нам Насці не стае...
Без Леніна (казала!),
Што не было б яе.

Якое прасвятленне,
Якая навіна –
Калі з’явіўся Ленін,
З’явілася й яна!

Аднак жа Ленін мёртвы,
Ды веру, што ў Маскве
Намер навукі цвёрды:
Наш Ленін ажыве!

Прушэўскі
З навукі шмат дакукі
Здараецца аднак;
Як блізкі да навукі,
Сказаць я мушу так.

Надзею-спадзяванне
Вам дасць хіба факір,
Што ў нейкі момант стане
Жывым наш правадыр?!

Вяртанне з мёртвых – штука...
Смерць не аддасць ключы...
Не здолее навука
Тут нам дапамагчы.

Жачаў
*(Незадаволена крутнуўшыся ў сваім вазку.)*

Не ласкай, не прынукай,
Не звонам медзякоў, –
А розумам навука
Ажывіць мерцвякоў.

Навуцы дапаможа
Марксізм, а ён такі,
Што горы пераможа
І глыб любой ракі.

І ў тым гранітным цені,
Дзе ўсё ў граніце спіць, –
У маўзалеі Ленін
Не проста так ляжыць.

Ён верыць: пройдзе мука,
І нават больш таго,
Ён верыць, што навука
Ажывіць і яго!

Не дробную маркоту,
А збыць гару-бяду, –
Я Леніну работу,
Як ажыве, знайду.

Яму змагу давесці,
Дам спісы, не сакрэт, –
Каго ў магілу звесці,
На той адправіць свет!

Каго – і смех, і гора –
Без дзіркі ў галаве
На новы плыт, – і ў мора,
У мора хай плыве!

*Раптам пачуліся неспадзяваныя факстротныя рытмы. Праўда, гэтым разам незразумела адкуль – з радыёрупара ці з адчыненых вокнаў, за якімі мог зайграць усё той жа далёкі духавы аркестр. Усе паглядзелі на Гаспадара. Гаспадар пачынае вінавата завіхацца, – выцірaць прылавак. Факстротныя рытмы сціхаюць.*

Упаўнаважаны
*(Гаспадару.)*
З табой, відаць, не будзе ладу,
Хоць настаўляй у лоб наган?!
Хіба не чуў майго загаду
Закрыць, як мае быць, шалман!

Кайлом узброіцца, рыдлёўкай
І не забыць пра ёмкі лом,
І от з такою падрыхтоўкай
Узводзіць незвычайны дом.

Гаспадар
Калі піўнушку збудзеце,
Тады скажыце мне:
Дзе піва піць вы будзеце –
У яме, бур'яне?!

Тут піва лепшай якасці
І Леніна партрэт,
Які, скажу для яснасці,
Прыхоўвае сакрэт.

*(Дакрануўся да партрэта Леніна, і з-пад яго вылез партрэт Сталіна.)*

Вось неабходны атрыбут –
На ім раблю акцэнт:
Не проста піва льецца тут,
Тут выхаваўчы цэнтр!

Насельніцтва адсталае
(І гэта не брахня!)
Я Леніным і Сталіным
Выхоўваю штодня.

Даю карысць практычную
Ад пят да галавы –
Работнік палітычны я
Амаль такі ж, як вы.

Кажу кліентам весела,
Што Сталін – гэта лёс,
А Ленін уваскрэсіцца,
Нібы Ісус Хрыстос.

Старшыня
А выступленне вартае
Тхара-гаспадара,
Таму лічу, што ў партыю
Прыняць яго пара.

Упаўнаважаны
Прайшоў ён апрабацыю
Ну, проста на віду, –
Даю рэкамендацыю,
Як кажуць, на хаду.

*Упаўнаважаны адсоўвае ад сябе куфаль і пачынае пісаць Гаспадару рэкамендацыю ў партыю.*

Прушэўскі
Прапагандуе Леніна
І Сталіна, таму
Усё як след ацэнена –
Залічана яму!

Вошчаў
Калі шанцуе, шчасціцца,
То й верабей – арол...
Заўсёды неба ясніцца,
Заўсёды чысты дол.

Жачаў
А хто хвастом віляе,
Таму ўсяго стае –
І ў партыю ўступае,
І піва прадае.

Чыклін
Пайшла гульня азартная,
Ні два ні паўтара...
Хай багацее партыя
На нэпмана... Ура!

*Усе, Гаспадар таксама, крычаць: «Ура!» Радасны Гаспадар за свой кошт усіх частуе*

*півам. Тым часам Вошчаў выйшаў на сярэдзіну піўнушкі.*

В о ш ч а ў
Здаецца, лодка прыплыла,
А ў лодцы, калі хто спытае,
Ні ветразя і ні вясла,
І прыстань нейкая не тая.

Хлусня, падман, самападман...
Вагон пяску і лыжка солі...
Недакапаны катлаван
Не дакапаецца ніколі.

Наўкол шырокі краявід,
А мае вузкае дыханне,
І шмат каго на новы плыт
Пагоняць плысці ў акіяне.

Пагоняць, мусіць, і мяне,
Калі бяда не пройдзе бокам,
І супакоюся на дне
Магілы самае глыбокай.

Як пашанцуе, то тады
Жыць давядзецца, як жывецца,
Неспадзяванасцю бяды
Палохаць стомленае сэрца.

Магчыма, да сям'і дайду,
Ды толькі з ісціны-крыніцы
Наўрад ці здолею напіцца,
Патрэбную здабыць ваду.

Надзеі брак, лагоды брак
І брак уласнае пасцелі,
Ды не застоіцца барак,
Куды на нары зноў паселяць.

Адчайным думкам грош цана,
Усё душа прыняць здалее,
І радасць у душы адна:
Ад піва ў галаве святлее!

### Заключная частка

*Катлаван. В о ш ч а ў і Ч ы к л і н капаюць. З імі Ж а ч а ў у сваім вазку. Раптам прагучала жалобная музыка, і з'явіўся М я д з в е д з ь з мёртвай Насцяй на руках. Мядзведзь не ў скураной тужурцы з маўзерам, а ў цывільным чорным адзенні.*

М я д з в е д з ь
Асцярожнай быць не ўмела
Наша Насця ў гэтым свеце
І душою загавела,
Як вугольчык на загнеце.

Насця рвалася на часткі,
Сем работ рабіла зразу
І хадзіла крокам частым,
І не шкадавала часу.

Смелая, нібы арліца,
Аж у сонцы крылы грэла,
І маланкай-бліскавіцай
Лётам уначы ляцела.

Па любой ішла дарозе,
На парог любы ступала,
А як падала ў знямозе, –
На парозе й начавала!

Не раздзьмухвала кадзіла,
Не прасіла: «Памажыце...»
На абед сама лавіла
Перапёлку ў рэдкім жыце...

Меў я клопату задужа...
Дзе пяшком, а дзе і конна,
Насціны загады тут жа
Я заўжды як след выконваў.

Ворагаў лавіў у полі,
Дзе балоты і дзе горы,
А пасля пускаў даволі
Плаваць іх па сінім моры.

Насця ж і сама ці мала
Ворагаў знішчала нашых
І здароўе надарвала
Пасярод крывавай кашы.

Сілы аддала змаганню
І памерла, стала ценем,
Падуладная змярканню
Мары: маці там сустрэне...

Вошчаў, ты (як дзяк прычасця!)
Прагнуў ісціны штосілы

І не здагадаўся: Насця
Ісціну ў сабе насіла!

Жачаў, радасны калека,
З Насцяю ты быў шчаслівы
І ад суму іншых лекаў
Не шукаў, яздок імклівы!

Чыклін, Насцю чын па чыну
Пахавай у катлаване,
Дай у гэтую хвіліну
Ёй апошняе прыстанне.

*Чыклін пачынае капаць у катлаване магілу, а Мядзведзь, пакінуўшы сабе на памяць глінянага мядзведзіка, паклаў Насцю на зямлю, падаслаўшы брызянтоўку.*

Вошчаў
Каб наша Насця не памерла,
То ісціна ў крыві яе
Займела б радасць і займела
Усе адметнасці свае.

Ды не адолее салома
Жалеза і бетону сплаў,
Таму і катлаван не домам,
Не домам, а магілай стаў.

Жачаў
Не салавей, – крумкач над краем
Аб тым пяе, аб тым рыпіць,
Што раз надзея памірае,
Тады зусім не варта жыць.

Такая страшная падзея
Мяне ўсяго скруціла ўраз,
Бо Насця і была надзеяй
На новы дзень, на новы час.

Чыклін
*(Апусціўшы Насціна цела ў магілу.)*
Ты завяршыла дзеі...
Лёс, як цемра, сляпы...
Быццам у маўзалеі,
У катлаване спі.

Выемка там, ці яма, –
До ўжо далей капаць...
Ляжам і мы таксама
У катлаване спаць.

*З'яўляюцца цені Сафронава, Казлова, іншых грабароў.*

Цень Сафронава
За пацярухай пацяруху
Чорт вее з палітычнай цьмы,
Але на троне свой па духу,
Таму заўсёды збоку мы.

Цень Казлова
А тое збоку не здалёку,
Не ў ценю ямы ці турмы,
Яно заўжды навідавоку –
Навідавоку, значыць, мы.

Цені іншых грабароў
Адсюль, – такая наша доля, –
Да райскай брамы шлях прамы,
Таму чужога аніколі
Да трона не дапусцім мы.

Заслона

*28 чэрвеня 2020 г.; 14 ліпеня 2020 г.; жнівень 2020 г.*
*Менск.*

проза

Міхась Булавацкі



…любіць людзей цяжка.

Можна, але не трэба.

Або трэба, ды нельга…

# Лена. Гісторыя жыцця

***Аповесць***

Трэці паверх студэнцкага інтэрната, на якім жылі выкладчыкі педагагічнага інстытута, гуў навіной: да нас прыязджае выпускніца Маскоўскага ўніверсітэта. Каб выпускніца галоўнай савецкай ВНУ, ужо са ступенню кандыдата філасофскіх навук, была накіравана ў правінцыйны інстытут, – такая навіна была сапраўды вартай увагі.

Лену Оськіну пасялілі ў пакой 316, побач з маім 317-м. Суседка аказалася сапраўды цікавым чалавекам. Яе даволі свабодныя для савецкага чалавека выказванні, меркаванні, разважанні ўзбуджалі думкі, прыцягвалі сваёй свежасцю і адчуваннем нейкай правільнасці. З ёй цікава было... хацеў напісаць “спрачацца”, але не, спрачацца з ёй было амаль немагчыма. Грунтоўнае веданне вялікіх філосафаў мінулых часоў, якіх яна амаль даслоўна цытавала, дапамагала ёй выразна раскласці па палічках любую жыццёвую сітуацыю, любую складанасць грамадства.

Родам яна была з Іркуцка. Бацька быў трэцім сакратаром гаркама партыі, а маці ніколі не працавала, была хатняй гаспадыняй, абслугоўваючы мужа і дваіх дзяцей. Але дзеці, Лена і яе старэйшы брат, ужо выраслі і пайшлі на свой хлеб, вольнага часу хапала, і жанчыне можна было (ды, мабыць, і трэба было) знайсці сабе нейкі занятак, але яна “за мужам” нічога не навучылася рабіць і не ведала, куды прыткнуць свой вольны час; так і заставалася гаспадыняй у кватэры. У выніку не разварушыла свае мазгі, якія засталіся, як я пазней зразумеў, кісельнай масай у галаве. Лена сваю маці не паважала, лічыла яе неразумнай і старалася па магчымасці абыходзіцца без кантактаў з ёй. Праўда, пасылкі амаль штомесяц адпраўляла.

Бацьку ж паважала. Ён хаця і быў партыйным бюракратам, але не замацярэлым, з ім можна было размаўляць на “пікантныя” палітычныя тэмы. Шмат што разумеў з ненармальнасці палітыкі сваёй партыі, але вымушаны быў існаваць і круціцца ў гэтай ненармальнасці, і такая раздвоенасць урэшце адклалася на дзейнасці сэрца і нярвовай сістэмы.

Скончыўшы школу, Лена паступіла ў Іркуцкі пед, дзе самымі цікавымі лекцыямі для яе сталі лекцыі па філасофіі. Усвядоміўшы, што гэта яе тэма, пад лямант маці кінула інстытут пасля першага курса і паехала ў Маскву паступаць на філасофскі факультэт. Як адну з найбольш паспяховых студэнтак яе пакінулі пры аспірантуры. І за тры гады аспірантуры яна здолела падрыхтаваць і абараніць дысертацыю па філасофскіх аспектах творчасці Ф. Дастаеўскага.

Па сканчэнні аспірантуры яе накіравалі ў родны Іркуцк. Але жыць з бацькамі яна не хацела, а іншы варыянт там прадугледжваўся не хутка, і яна вярнулася ў Маскву, каб перазаявіцца на іншы горад.

Так яна апынулася ў Магілёве. Яе з’яўленне ў інтэрнаце стала сапраўды нейкім культурніцкім узрушэннем. Яна прывезла раздрукаваныя на машынцы тэксты вершаў непрызнаных уладай і да таго невядомых нам паэтаў, у тым ліку Іосіфа Бродскага. У яе мы ўпершыню пачулі магнітазапіс рок-оперы “Юнона і Авось”, кружэлка з’явілася ў кагосьці з нас толькі праз год. Нарэшце, у яе быў поўны збор твораў Фёдара Дастаеўскага. Падпісацца на любімага пісьменніка пры савецкім кніжным дэфіцыце было немагчыма, але яна папрасіла падтрымкі рэктарата ўніверсітэта, аргументаваўшы тым, што збор твораў патрэбны ёй для падрыхтоўкі дысертацыі, і такім чынам дамаглася жаданага.

Усім гэтым яна прыцягвала людзей, у яе пакойчыку часта збіралася разнастайная кампанія паслухаць бардаўскія запісы, паразмаўляць пра паэзію ці на філасофскія тэмы. Пару разоў зазірнуў туды і я, але доўга не вытрымаў: Лена курыла, а калі курыць гаспадыня, то гэта як бы дазвол курыць іншым. Фортка ці нават расчыненае вакно мала дапамагалі. Над галовамі суразмоўцаў плавала воблака шызага дыму, і адпаведныя нікацінавыя пахі перашкаджалі мне ўспрымаць пачутае. Далейшыя кампаніі ў Лены абыходзіліся без мяне.

Але ў нас былі размовы за кубачкам чаю. Яна час-почас заходзіла падзяліцца ўражаннямі ад Беларусі, ад Магілёва, ад інстытуцкіх парадкаў, якія не вельмі паходзілі на парадкі ў Маскоўскім універсітэце. Аднойчы зайшла даволі ўзрушаная тым, што яе выклікалі ў гаркам партыі і там прачыталі натацыю наконт яе экскурсіі са студэнтамі ў царкву.

– Я чытаю курс навуковага атэізму, распавядаю студэнтам пра рэлігію,

пра касцёл, пра царкву. І што, я не магу паказаць ім усё гэта ўжывую? Што, мне на пальцах паказваць тое “мракобесіе”?

– А што, – усміхнуўся я, – вы сапраўды лічыце рэлігію мракабесіем?

– Я дык не, і вы гэта ведаеце. Але ў нас на кафедры некаторыя так лічаць. Яны не разумеюць, што рэлігія мае такую доўгую і багатую гісторыю, што ўявіць гісторыю чалавецтва без рэлігіі немагчыма. Рэлігія паспрыяла шмат у чым і адукацыі, і культуры, і сацыяльнаму ўпарадкаванню людзей. І нават навуцы. Больш вартым было б чытаць курс навуковай рэлігіі, чым навуковага атэізму.

– А ў маскоўскім універсітэце як гэты курс чыталі?

– А там яго не было. Быў курс гісторыі рэлігіі. І ў праграме гэтага курса мы, студэнты, наведвалі розныя храмы разам з выкладчыкамі. Нікога гэта не турбавала.

Я скарыстаў момант, каб пацікавіцца, якое адкрыццё ў філасофіі зрабіла яна сваёй дысертацыяй.

– Філасофія – гэта навука, якая ўжо адбылася. Яна завершаная. У філасофіі няма чаго адкрываць, там усё адкрыта.

– Але ж дысертацыі абараняюць.

– Абараняюць па прыкладн*ы*х аспектах філасофіі. А цела філасофіі сфарміраванае цалкам.

Іншым разам я зазірнуў да яе пацікавіцца, што ў яе маецца з паэзіі “срэбранага веку”. У яе знайшліся пару зборнікаў. Пачалі размаўляць пра паэзію. Размова доўжылася ціха-мірна, і раптам яна павярнулася да мяне і мовіла:

– Вось бачыце, колькі ў Расіі цудоўных паэтаў! І Пушкін, і Лермантаў, і Блок, і Ясенін, і Ахматава... Я магу доўга пералічваць прозвішчы. Гэта такія вышыні! Гіганты! А хто ў Беларусі на такім узроўні? Ну так, я чула, што Купала і Колас – гэта велічыні. І ўсё?

– Ну як, – збянтэжыўся я такім напорам, – у нас таксама многа паэтаў.

– Ну хто? Ну хто? Можа, Барадулін?

Апошняе прагучала выразна іранічна. Маўляў, ну вось ёсць яшчэ ў беларусаў нейкі Цюпкін, які нешта рыфмуе.

У мяне тады не знайшлося чым грунтоўна запярэчыць ёй. Калі яна пра Купалу і Коласа толькі чула, а не чытала, то тым болей нічога не чытала з майго любімага Барадуліна. І як ёй паказаць, што гэта велічыня, не меншая за Блока. Працытаваць нешта па памяці я не мог. Дый ці зразумела б яна?

Перашкаджала мне і грызла душу яшчэ не зусім аформленая здагадка. Я раптам зразумеў: яна прыехала ў Беларусь з місіяй, яна прыбыла, як пасланец вялікай Расіі, уздымаць насельніцтва цёмнай расійскай ускраіны да культурных і навуковых вышыняў.

Я пажадаў ёй добрай ночы, мы развіталіся. Вярнуўся ў свой пакойчык і пачаў рыхтавацца да сну. Адарваў лісток календара з ужо прамінулай датай, зірнуў на адваротны бок. І з задавальненнем прачытаў барадулінскія радкі:

*Вякі вячыстыя і дні,*
*Жывое й нежывое,*
*Усё належыць цішыні*
*З паніклай галавою.*
*Ці зорную бярэм сяўню,*

*Ці назаляем ліху,*
*Мы толькі будзім цішыню –*
*Глухую парадзіху.*
*Такога б закілзаць каня,*
*Каб устурый –*
*Ды дзе там!*
*Як ні крычым,*
*А цішыня*
*Валодае Сусветам.*
*Мы толькі плодзім мітусню*
*І робім тлум усіхным,*
*Нахабна будзім цішыню –*
*І ўрэшце самі ціхнем.*

“Ну вось, і я зараз заціхну на пэўны час,” – падумаў з усмешкай, працягваючы распранацца. І раптам...

Не, без Божай падказкі тут не абышлося. Думка, якая крутнулася ў маёй галаве і пачала свідраваць мозг, была такой яркай і прыцягальнай, што супраціўляцца я не здолеў. Апрануўся і сеў за стол з асадкай і аркушам паперы. Так і прасядзеў паўночы “ў творчым экстазе”...

Назаўтра вечарам, пераканаўшыся, што мясцовыя філосафы не назаляюць ёй сваёй глыбакадумнасцю, пастукаў у 316 пакой.

– Паслухайце, які цікавы верш я знайшоў:

*Вся череда веков и дней,*
*Живое, неживое,*
*Принадлежит всё тишине*
*С поникшей головою.*
*Над звёздным полем гнём спину*
*Иль докучаем лиху,*
*Мы только будим тишину –*
*Глухую рожениху.*
*Такого бы взнуздать коня,*
*Чтоб взгрохотал –*
*Но тленно!*
*Как ни кричим, а тишина*
*Господствует Вселенной.*
*Мы только множим суетню*
*В величественном храме,*
*Нахально будим тишину –*
*В итоге ж тихнем сами.*

Прачытаў узнёсла, імкнучыся, каб яна не звярнула ўвагі на некаторыя слабіны першага ў маім жыцці перакладу. Мабыць, мне гэта ўдалося. Пачутае ёй спадабалася. Але не чакаў, што яна так лёгка клюне на гэтую нажыўку. Лена глянула на мяне прасвятлелымі вачыма і сказала амаль павучальна:

– Ну вось, бачыце, якія цудоўныя вершы пішуцца на рускай мове.

Памаўчала, смакуючы яшчэ раз тое, што пачула, і нарэшце спытала:

– Хто аўтар?

– Барадулін.

Я імкнуўся сказаць гэта самым абыякавым бясколерным тонам.

Далей была паўза. Гэта была Паўза, пра такія паўзы падрабязна пішуць у раманах. Я глядзеў на яе і амаль фізічна адчуваў, якое змаганне ідзе ў яе

душы, змаганне той, ранейшай, з ёй жа новай, якая толькі-толькі нарадзілася і прад'яўляе правы на жыццяздольнасць. І гэтая новая была дужэйшай.

Калі і былі ў маім жыцці значныя перамогі (спадзяюся, што былі), то гэтая сярод самых выдатных.

Калі б я дадаў, што яе ўлюбёны Дастаеўскі мае беларускія карані, узгадаўшы радзіму яго продкаў вёску Дастоева, то дабіў бы яе канчаткова. Але, па-першае, я, цёмны, сам тады гэтага не ведаў, а па-другое, яно ўжо было непатрэбным і, магчыма, нават лішнім.

Далей у Лены фанабэрыі ў дачыненні да беларускай паэзіі і ўвогуле да беларускай культуры не назіралася. Яна пачала цікавіцца тым, чым ганарацца беларусы, і раз-пораз рабіла адкрыцці, якія здзіўлялі. Істотна яе здзівіла віцебская школа жывапісу з Пэнам, Шагалам, Малевічам. Прозвішчы былі ёй добра знаёмымі, але лічыла, што яны належаць мастакам расійскага паходжання. Нават калі я сказаў, што ў сваім ранейшым меркаванні яна мае рацыю, бо Віцебск на той час быў у Расіі, яна запярэчыла:

– А ў сорак другім годзе Віцебск належаў Германіі. Дык што, тагачаснага віцебскага мастака трэ было б лічыць нямецкім мастаком?

Аднойчы ўбачыў на яе стале барадулінскі зборнік "Белая яблыня грому". Яна папрасіла патлумачыць, што азначае "жагнаць" і яшчэ некаторыя беларускія словы.

У Маскве застаўся каханы Ленін хлопец. Яны актыўна перапісваліся. Пра іх каханне жанчыны трэцяга паверха любілі гаманіць і ў нейкім сэнсе ёй зайздросцілі.

Так здарылася пазней, што мне давялося стаць яе душапрыказчыкам, пра што распавяду пазней, і ліставанні Лены засталіся ў мяне. Маю магчымасць некаторыя тут прывесці ў перакладзе з рускай мовы.

***Лена – Віктару (люты 1981)***

*"Маленькі мой, здаецца, самыя шчырыя лісты пішуцца ноччу: днём з'явы і праблемы губляюць глабальны характар, і можа аказацца, што нічога істотнага ў жыцці ўвогуле няма, усё перамелецца... Так кожнай раніцай у мітусні я адкладвала свой ліст да наступнага дня ў спадзяванні, што настане момант, калі я змагу выкласці прыемныя факты, але вечарам выяўлялася зноў, што ў маім валоданні толькі непрыемныя думкі, а насамрэч нічога не адбываецца. Але гэта няпраўда. Я заўсёды думаю пра цябе. Падзялюся хаця б невясёлымі пачуццямі. Мне дае сілы тое, што мае праблемы маюць для цябе значэнне, як і маё існаванне (я не памыляюся?). Можа здарыцца, што мы ўбачымся раней, чым у красавіку, і вось чаму: у сапраўднасці ўсё аказалася горш, чым я думала да прыезду ў Іркуцк і чым мне абяцалі. Курс гісторыі філасофіі мне чытаць не давядзецца, прынамсі ў гэтым семестры, а прапануюць толькі гістмат. Пасада старшага выкладчыка, на якую я разлічвала, дастанецца толькі праз пяць гадоў, інтэрнат не даюць, на кватэру магу разлічваць таксама праз пяць гадоў і то калі не буду адна ("у нас шмат выпускнікоў на ўсіх факультэтах," – намякнуў загадчык кафедры), публікавацца ў бліжэйшыя два-тры гады няма дзе. Усё гэта высветлілася ў размове з рэктарам, так што звесткі афіцыйныя. У панядзелак зноў іду на прыём да рэктара і, калі ён нічога не вырашыць памяняць, я адмоўлюся ад іркуцкай заяўкі і паеду назад у МДУ падпісваць штосьці іншае. Прынамсі, такія ж умовы прапануюць у іншых*

*гарадах, толькі яшчэ даюць інтэрнат, а тут – жыві дзе хочаш. Афіцыйныя інстанцыі ўзмоцнена прывязвалі мяне да бацькоў, але па прыездзе я зноў пераканалася, што гэта немагчыма. Вялікай памылкай быў мой прыезд сюды, але, магчыма, удасца што-небудзь памяняць. У такой мітусні прайшлі ўсе 6 дзён у Іркуцку. Вечарам што-нішто пачытваю, але ў асноўным думкі круцяцца вакол сваіх праблем, а іх вельмі шмат, і не толькі службовыя, “казённыя”. Дачакаюся наступнага тыдня і буду або збірацца ў Маскву, або як-небудзь прыстасоўвацца тут, каб не згнісці, буду займацца “тэорыяй” і пісаць табе лісты. І вельмі чакаю тваіх лістоў...*

*Хачу ў Батанічны сад. Тут холадна і адзінока. Адчуваю сябе ссыльнай. Магчыма, усім так на новым месцы, асабліва пасля высоткі МДУ? І ўсе маўчаць, а я жалюся табе напоўніцу. Але заканчваю з гэтым. На наступным тыдні ўсё вырашыцца, і пры любым выніку буду аптымісткай.*

*Віцечка-сонейка, як ты? Як здароўе, настрой, што чытаеш, што адчуваеш? Хачу, каб ты пісаў мне пра ўсё, таму што тваё жыццё мае для мяне вялікае значэнне.*

*Зычу табе поспехаў. Цалую. Лена”.*

Віктар Каласкоў рыхтаваўся да службы ў войску. Дзіця маскоўскіх інтэлігентаў, іх недаспелы інтэлектуальны плод, Віктар паспеў павучыцца на медыцынскім, але корпацца ў чалавечых страўніках, нырках і костках яму падалося непамысным. Кінуў медыцыну, заняўся фатаграфіяй. Яго партрэт нейкага артыста змясцілі на старонцы паважанага часопіса, гэта прыдало яму шарму, ён пачаў круціцца ў інтэлігенцкіх колах, заводзіць карысныя знаёмствы. Наслухаўся, набраўся штампованых глыбакадумных фраз, якімі раз-пораз карыстаўся ў рэпліках, разумна не дагаворваючы да канца.

Ёсць такі прыём, папулярны ў каляінтэлектуальным асяродку: агучыць пачатак якой-небудзь цікавай думкі і змоўкнуць. Людзі разумныя самі дадумаюць канцоўку, дадумаюць, натуральна ж, па-свойму, у меру свайго розуму. І такім чынам дадуманая фраза будзе выглядаць значна прывабней, чым тая, якую мог выказаць аўтар пачатку рэплікі. Але паколькі ён яе пачаў, то сутнасць фразы аўтаматычна прыпісваецца яму – і ў вачах атачэння ён ужо выглядае цікавым суразмоўцам. Тут галоўнае – не распусціць пёркаў, не пачаць гаварыць поўнымі фразамі, па якіх адразу высветліцца твая пустэча.

На адной з такіх тусовак Лена заўважыла сціплага хлопчыка ў акулярах, які не ўлазіў у філасофскія спрэчкі, але раз-пораз кідаў разумныя рэплікі. Ён зацікавіў яе, яны сталі сустракацца, і ўзбуянае пачуццё натуральным чынам адключыла розум. Яна закахалася. Але гэта быў час, калі трэ было з’язджаць з Масквы.

Калі яна прыехала ў Магілёў, Віктар ужо служыў недзе ў Казахстане. Яна слала туды пасылкі з кавай, якая на той час была даволі дэфіцытным прадуктам (хаця што ў Савецкім Саюзе не было дэфіцытам!), добрымі гатункамі чаю, цукеркамі і, асабліва, кнігамі. Знаходзіла цікавыя кнігі з дапамогай сваіх маскоўскіх сяброў, каб любімаму Каласку (так ласкава звярталася да яго) было цікавей бавіць вольны час.

Віктара, зважаючы на яго калямедыцынскую адукацыю ды яшчэ, мабыць, зважаючы на яго інтэлігенцкую хліпкасць, перавялі на працу (ці на службу) у шпіталь, што стала прыемным для яго варыянтам, бо і праца пасільная, і вольнага часу на чытанне і ліставанне хапала.

***Віктар – Лене (лістапад 1982)***

*“Не пішу доўга... Змітусіўся, здрабязіўся ў новых абставінах шпітальных. А дзе тут лепш?.. Магчыма, нават і карысна пабываць такім. Такой пешкай. Але ж як гэта цярпець. Мяне неяк натхніла гэтая круглая дата – Год, а тут яшчэ радасная мітусня дзембялёў, што зазбіраўся і я дадому. Ха-ха-ха! І як бацне па мазгах, па крыві рэальнасць, і цёмна навокал, і моташна. Абмываюся бегам вячэрнім пад спёкай заходу. Для мяне гэта не фізкультура. Не! Гэта магічны рытуал, пакланенне свабодзе...*

*Ніводная з дасланых табой кніг не зацікавіла маё начальства і акружэнне. Бралі Джойса, дый толькі таму, што малафарматны, зручна браць у электрычку (ці чыталі – вялікія сумненні). Рэрых фантастычны!*

*А цяпер пра пасылкі. Апраўдвацца няма прычын, але адчуваю сябе вінаватым. Падрабязней – атрымаў бандэролі з Магілёва і Масквы. Пасылка з Магілёва, абшытая і габарытная (па апісанні) не дайшла да мяне, сцягнулі. Што да бандэроляў, то яны, папяровыя, лёгка ўскрываюцца і часткова абкрадваюцца. Ні ў адной з іх не было ніякай запіскі, чаго, мяркую, быць не павінна. Напішу, што было: Рэрых, Лорка, цыгарэты 5 пачкаў, запалкі, шкарпэткі, шампунь, мыла, паста, пясочны гадзіннік, канвэрты, асадка, пакет чаю, цукеркі. І да гэтага ні радка. Дзіка! Жыву сярод марадзёраў.*

*Спякота. Паэма спякоты. Гарачыня гудзе, стукае ў скроні. На пісанне зараз цягі няма. “Публікацыю”* [вершаў] *пераўжый маларадасна, нарывацца на новую – яшчэ не сабраў сілёнак. Упісваюся вершамі з такімі слоўнымі шэрагамі, што... (ваніты, агрызак, злавесны, смертаносны...) радкі жахаў, дый што пісаць у месцах адпаведных. Выплёхваю жоўць. Потым рву і выкідваю. А любіць людзей цяжка. Можна, але не трэба. Або трэба, ды нельга. П’ю гэтую атруту, бягу ў адзіноту праз іржавыя абалонкі людзей. А потым бац з-за вугла па горлу пляўком славесным. Сёння падумалася: а чым не ваеннапалонны? Свабода перамяшчэння – тэрыторыя шпіталя 250х600 метраў. Нармальны канцлагер і дрот па перыметры...*

*Прабач, я сваёй чорнай дурнотай псую табе настрой, але ж вось зараза – прэ адусюль. А што было ўчора ці што сёння – гэта ж да бясконцасці. Ныцік пад маскай пакутніка...”*

***Віктар – Лене (снежань 1982)***

*“Зярнятка, я рады табе, тваім лістам...*

*Мне зараз смешна з сябе. Стан амёбы, узровень прымітыўных арганізмаў. І ведаеш, гэта не скарга, не нешта кіслае, а спроба разумення. Цешу сябе надзеяй, што гэта спроба зразумець. Я спрабую ўсвядоміць, уразумець гэтую сітуацыю – сітуацыю ўзаемасудакранання свядомасцяў...”*

***Віктар – Лене (студзень 1983)***

*“... Лісты мае атрымліваюцца жаласлівыя. Мне сорамна за гэта... Я не ведаю чаму, але пошта дае перабоі, дый я перад Новым годам быў у двухтыднёвым ад’ездзе. Тваю пасылку ўскрылі. І шампанскае – ах! Але Ёлка-Ёлачка! Цуд! Ліхтарыкі – сінь-зінь-крась. У такой глухамані гэта шакуе.*

*Ты нават не ўяўляеш, што гэта за мясціна. Сюды, туды – нельга. У горад нельга. Усюды патрэбен пропуск. Як у калодзежы: толькі ўверх. Я аднойчы паспрабаваў пашырыць дыяпазон магчымасцяў – і адразу быў расціснуты, кінуты на рыдлёўку. Змрочна.*

*Зярнятка, дзякую табе за ўсё, што ты думаеш і робіш, для мяне гэта вялікая радасць. За мяне, мабыць, не варта турбавацца, я неяк сам гэтым не займаюся, лічу бесперспектыўным. А дапамагчы мне нічым нельга. З аднаго боку, гэта слабасць – мае просьбы, але з іншага, гэта не тое, каб неяк насыціцца... Жарсць да рэчавага візуалізаванага свету. Калі можна, вышлі мне што-небудзь нестэрыльнае – ну, не ведаю, – сваю цыгарэту, заваляшчы білет, абрывак газеты...*

*А кнігі – кайф! Іх проста боязна трымаць у руках. Ты ўсё роўна цудадзейніца, нават калі будзеш адмаўляцца..."*

***Віктар – Лене (люты 1983)***

*"Вось замёрз, прыбег у пакой, прыціснуўся да батарэі... У нас нечаканы дождж, нават залева. А неба якое! Прасветы, цямніны, туманы і сонца.*

*Напалеон быў цудоўны. Жахліва цудоўны! Было гэта такім вечарам, калі ўсе начальнікі, усе афіцэры з'язджаюць у горад. І мы застаемся адны. Мы – салдаты. І тут дарэчы – напалеон. Кава. Шакалад. Цукеркі. Манга. Гэта ўзрушае, ашаламляе, акрыляе... Гэта песня.*

*Зіма сыходзіць, святлее душа...*

*Кніжкі атрымаў. Скарб! Не рашаюся нават дзякаваць...*

*А вось крыху крыўднага-непрыемнага. Першая пасылка з гарэлкай прыйшла ўскрытай. І не было там нічога, акрамя кубачка (вельмі прыгожага), цукерак і пачка чаю. Астатняе – вата. Паштавікі рабаўнулі. Мабыць, булькала вельмі ўжо. Мне тут параілі спосаб, як можна пазбегнуць такой працэдуры – даліваць да корка з дапамогай шпрыца. Раіць табе рабіць гэта я не стану. Клопаты..."*

***Віктар – Лене (люты 1983)***

*"Здаецца, не паведаміў табе, што пастаўлены фельчарам. Два тыдні таму павышаны ў званні. Цяпер мой подпіс пад дакументамі выглядае так: фельчар часткі 58121 малодшы сяржант Каласкоў. У гэтым будбаце хварэюць усе пагалоўна. Усім патрэбна вызваленне, якое даруецца маім подпісам. Адны просяць, каб адсвяткаваць свой дзень народзінаў, другія – каб прыйсці на яго, трэція – каб не патрапіць на губу, чацвёртыя – каб адаспацца-адпачыць і г.д. А некаторыя хварэюць па-сапраўднаму.*

*І вось так: адзін хворы, другі, трэці... Мілая карцінка.*

*Учора вырашыў пасля такіх напружанак расслабіцца. Дастаў спірту, прывезлі з горада. Тут прадаюць так званы "пітны спірт", 95°. Жудаснае пітво. Як высветлілася, дазіраваць немагчыма. Прыняў. Сагрэўся. Але праспаў пад'ём. Спазніўся. Камандзір застукаў. Дакараў. Але неяк зусім ледзь-ледзь, падазрона мала. Гэта насцярожвае, бо ён у нас пагрозлівы.*

*Самае страшнае тут, страшней за страшнае страшылішча, рыдлёўка.*

*Кожны імкнецца да нейкай утульнасці, да камфорту, блату. Уладкоўваюцца ў такія месцы, дзе праца не пыльная. А рыдлёўка – гэта сімвал такой працы, якая... як бы сказаць... яе можна параўнаць з працай у канцлагеры, на зоне. Бетон, друз, зварка, будаўнічыя працы на адкрытым паветры. Амаль без абмежавання ў часе – з 8 да 19, а то і да 20, 21, 22. Як скажуць. А ноччу могуць падняць і павесці разгружаць вагоны. Ваенным будаўнікам тут вой як нясоладка...*

*Вялізны-правялізны табе дзякуй за кнігі.Такія кнігі! ТАКІЯ КНІГІ! Няма слоў! Зярнятка-малайчынка! Папера і канвэрты, як ты вельмі правільна*

*здагадалася, тут дэфіцыт першага парадку. Цукеркі для мяне ўцеха нумар 3. Нумар 2 – чай, нумар 1 – лісты. Твае лісты для мяне вельмі і вельмі значымыя. Пішы як мага часцей.”*

***Віктар – Лене (люты 1983)***

*“Зярнятка, калі пра тое, што мне патрэбна, то, пераадольваючы сарамлівасць, скажу. Нічога? Патураць мне не трэба. Пакуль ёсць усё. За малым выключэннем – свечкі (часта адключаюць святло), простыя алоўкі, папера, тэчкі. Цыгарэты, запалкі, чай, ласункі (няшмат). А лепш за ўсё – пішы”.*

***Віктар – Лене (сакавік 1983)***

*“Вось просьба. Саслужывец сыходзіць у траўні дадому, хоча падпіжоніцца і штораз нагадвае мне пра сваё жаданне мець сонечныя акуляры ў прыстойнай металічнай аправе. Ужо амаль паўгода, як я яму паабяцаў. Ці нельга нам яго выручыць?..*

*Усе кнігі настолькі выдатныя, што ўзнікаюць казытлівыя моманты. Шкада будзе, калі яны прападуць. Дагэтуль я іх старанна аберагаў, як мог. Зараз гэта ўсё болей пад сумненнем... Больш за ўсё мяне бянтэжыць, што гэта табой дараванае. І што гэта можа дастацца ў рукі, якія не вельмі чыстыя”.*

***Лена – Віктару (красавік 1983)***

*“Добры дзень, яснае маё Сонейка! Больш за ўсё хацелася б цябе парадаваць-развесяліць-прыгалубіць. Пасылаю табе сякія-такія гасцінцы. Магчыма, у цябе прасвятлее на душы – гэта я да цябе імкнуся ў такой пераўтворанай форме.*

*Сёння я ў Маскве, заўтра з’язджаю. Як цудоўна гуляць па маскоўскіх вуліцах пры 25-градуснай гарачыні ў летняй сукенцы (блакітнай, якая табе так падабалася), есці яблык і любавацца горадам! Абышла нашы мясціны: вугал Тургенеўскай, вуліцы вакол плошчы Нагіна, Бяляева... Які я заўзяты хадок, ты б парадаваўся! Калі б нам так ісці разам!*

*Ластавачка, мой пяшчотны чароўны Каласок, зычу табе заставацца Сонейкам і не выдумляць, не вырошчваць плямаў. Яны – выдумкі метафізічнадумных астраномаў.*

*Вельмі ўзрадавалася, убачыўшы ў краме лікёр. Але потым, даследаваўшы налепку, выявіла, што ён нейкі асобны, горкі. Калі табе не прыдасца па смаку, пачастуй ім стэп-пустэльню. Астатняе, думаю, майму міламу ласунчыку ў самы раз. На здароўе!*

*Не забываю. Заўсёды хачу да цябе”.*

***Віктар – Лене (красавік 1983)***

*“Добры дзень, Зярнятка! Пішу да цябе з радасцю, што пішу, што маецца такая магчымасць. З таго часу, як даслаў табе апошні ліст, усё змянілася. Карэнным чынам – гэта я пра службу. І пакуль тыя змены не скончыліся.*

*Па-першае, пасадзілі на губу на 10 сутак. Адседзеў, знайшлі мае-твае схаваныя запісы-лісты, кнігі. 30 сакавіка забралі і дагэтуль не вярнулі. Вывучаюць. Я ў сітуацыі поўнай немагчымасці што-небудзь прадпрыняць, як-небудзь уздзейнічаць. Затым – знялі з пасады фельчара, адправілі ў*

*брыгаду на вытворчасць. Падалі дакументы на разжалаванне. Вось такі букет. Да таго ж пазбавіўся лікёра. Калі адседжваў тэрмін, смакаваў у марах, песціў надзею... Радаваўся – як мне кепска зараз, як цяжка, як падзямельна, але яшчэ трошкі, ужо скаранька, і – пад акампанемент лікёра дакрануся да лістоў, да кніг... Але, ужо седзячы ў падвале за кратамі, даведаўся пра вобшук-канфіскацыю. І стала так змрочна!*

*Зярнятка, я адчуваю сябе вінаватым, што не змог зберагчы і што зараз нічога не магу. Болей за ўсё баюся, каб нічога такога не здарылася з табой. Хаця няма да таго ніякіх падстаў, але ж... Такога ідыятызму ніколі ў жыцці не бачыў, не сустракаў.*

*Нампаліт – 28 год, капітан, пасля ПТВ пасталярнічаў і звязаў сваё славалюбства з арміяй. Марыць стаць падпалкоўнікам у 35-40 год. Ён не варты таго, каб яго памінаць тут. Лядашчы, з друзлым тварам алкаголіка, насоўвае фуражку па самыя вочы – мясцовы фюрэр. Чаму вы не займаецеся армейскай дзейнасцю, а ўсякімі там... чытаеце ўсякіх там... Зборнік "Американская новелла" – для яго антысавецкая літаратура. "Рэмарк? Не ведаю. Не браў у цябе. Я чытаю толькі рэвалюцыйна-палітычную літаратуру." Частку кніг мне вярнуў, але толькі частку. Допісы, лісты – не. І некаторыя кнігі. Кажа – аддаў у асобы аддзел, там разбіраюцца. Але хлопцы бачылі мае папкі і кнігі ў яго сейфе, казалі: асобы аддзел гэта не зацікавіла.*

*Не ведаю, што цяпер рабіць з пасылкамі. Без іх – змрочна. З імі – вясялей, але расслабляе. Шчыра кажучы, хочацца. Напішу, чаго, а перадумаць быць ласунчыкам паспею.*

*Трэба канверты, папера, асадка. Лепш за ўсё малымі камплектамі, захоўваць цяпер няма надзеі. Кнігі такія, каб не было шкада. Дый тут у нас адкрылася бібліятэка з мінімумам класікі. Так што калі нацэльвацца, то на кіна-філасофа-культуралагічныя. Калі можна, то з дапамогай лічбаў: 2 пачкі чаю, 5 пачкаў цыгарэт, 1 шакаладку, 300 г цукерак, 3 пачкі печыва, 10 канвертаў, 5 карабкоў запалак і пару шкарпэтак. Яшчэ 3-5 штук падцяжак, пажадана рознакаляровых, калі ёсць выбар, лепей шырокіх. Сябрам-таварышам. Слоік кампоту – той жа варыянт з даліццём даверху, каб не булькала. Толькі тут іначай...*

*Ужо позна. Пайду шукаць прахалоды ў часе, спакою ў высокім.*

*Цалую. Да сустрэчы".*

***Лена – Віктару (май 1983, пасля яго віншавальнай тэлеграмы з Першамаем)***

*"Сонейка маё адзінае, каханае! Дзякую табе, радасць мая, за віншаванне. Я і не чакала, што ты ў тых умовах выкажаш мне сваю любоў. Хаця ў гэтыя святочныя дні мой унёсак сумніўны, я ўсё адно рада сённяшняй тэлеграме. Калі не адбыліся нашы перагаворы, на мяне напалі самыя чорныя думкі – што цябе мучаюць, не пускаюць да мяне. Але тваё віншаванне супакоіла і ўзрадавала. Дзякую, Каласок мой чароўны!*

*Сёння глядзела па тэлевізары "Летят журавли" і адчула самы сапраўдны катарсіс. Хоць і чвэртка веку фільму, немагчыма сучаснай свядомасці паглядзець на гэты фільм высакамерна. Чароўна!*

*Толькі б нічога не здарылася, толькі б мы сустрэліся – і тады, здаецца, "царства божае на зямлі". Беражы сябе, непаслухмяны мой Каласок, бясцэнны; неймаверна, жудасна ўявіць, што было б без цябе...*

*Учора павінна была паехаць з агітбрыгадай у вёску пад Магілёвам пера-*

*выхоўваць сектантаў (я ў сваім амплуа: не танцую, не спяваю, а распавядаю дыялектыка-матэрыялістычныя гісторыі). Там – прыхільнікі цэркваў евангельскіх хрысціян-баптыстаў, антыдзяржаўная секта. Дайно ў мяне разгараецца апетыт на ісцінных вернікаў. Вось гэта была б сапраўдная праца! Але нічога не выйшла: начальства трэста-шэфа паехала піць ды гуляць на Вялікдзень у вёскі і забыла арганізаваць наш аўтобус. І гэта патэнцыяльныя "суддзі"!*

*У інтэрнаце на кухню не прабіцца: ідэйныя настаўнікі моладзі, выкладчыкі нашага слаўнага МДПІ фарбуюць яйкі і пякуць кулічы. У басейне сёння – ні душы, у лазні – таксама, ніхто не хоча быць "грэшнікам". Міфалагічная свядомасць у сучасных формах. Пасля гэтага мае лекцыі – "калым" і толькі, а не прапаганда атэістычнага светапогляду.*

*Ілля прыслаў "Древо жизни" Афанасьева (збіральнік рускіх народных казак) – пра міфалогію, прымхі ды інш. у старажытных славян. Гэта накшталт "Золотой ветви" Фрэзера, цікавая праца. Сутнасць: магія ў міфалагічных формах – гэта першы сінтэтычны светапогляд, ад якога адпачкоўваюцца навука, мастацтва, рэлігія, бо магія – гэта пошукі прычынна-выніковых заканамернасцяў, але навобмацак ("пасля гэтага – значыць па прычыне гэтага"; прыклад – сучасныя картачныя гаданні).*

*Яшчэ прыслаў Б. Грознова. Там раздзелы: I. Свет навукі. II. Развіццё навукі. III. Навука і культура. Усяго 250 старонак. Мне было дзіўна, што ён такі даступны: я сваім недаросткам прыкладна гэтак жа выкладаю спецкурс па буржуазнай філасофіі на IV курсе гістфака. Я прачытаю кнігу і вышлю табе, калі захочаш.*

*Каханы мой, пішы мне, калі ласка. Няпроста зараз табе распісвацца, разумею, але хаця б трошкі. Напішы, чым харчуешся, чым жывеш, хто цябе атачае, што табе прыслаць. Для мяне такая радасць – збіраць пасылку для майго каханага! Для цябе назапашваюцца падаруначкі; калі прыедзеш – я табе зладжу чароўнае прадстаўленне (як мне хочацца прагаварыцца!). Пішы заўсёды, мой міленькі, што хочацца – так я адчуваю сябе бліжэй да цябе.*

*А зараз, пакуль я не дакацілася да апісання сваіх гаспадарчых прыхільнасцяў (якія табе, эстэту, не па душы), напішу-ка лепш верш твайго любімага Баратынскага..."*

***Віктар – Лене (май 1983)***

*"Ужо трэці тыдзень у шпіталі. Пасля таго, як месяц прабыў "на рыдлёўцы" – бетоншчыкам, стропальшчыкам, землякопам, разгрузчыкам вагонаў... Нарэшце вырашыў, што ўсё гэта... не для мяне. Ніякіх магчымасцяў для заняткаў, адасаблення. Каб жыць нармальна ў казарме, на працы абавязкова трэба быць з кімсьці, калі не з усімі, трэба прыняць іх лад жыцця, жаданні, звычкі ды інш. Для мяне гэта праблема. Магчыма, гэта ўцёкі ад цяжкасцяў, праява слабасці, сябелюбства. Але, з іншага боку, непустое жаданне займацца.*

*Паспрабаваў, дарэчы. Паспрабаваў быць, як усе, з усімі. Дзіўна, але гэта аказалася няпроста. Для мяне любая сітуацыя натуральна і нязменна заканчваецца адзінотай, адасабленнем. Вось мы ідзем, нешта робім, я помню, што мне трэба быць з усімі, потым раз – і раптам выяўляецца, што я ўжо адзін, што яны далёка...*

*Зярнятка, галоўнае, каб у цябе было ўсё добра. У мяне такое ўражанне, яно, мабыць, блізкае да праўды, што я... такі нечуваны эгаіст, як... Я*

*сапраўды... не падбяру слоў... Праз мяне ў цябе столькі праблем, цяжкасцяў, хваляванняў. Мне няма чым цябе папракнуць. Але ў цябе зараз усё па-іншаму, іншае жыццё. Адчуваю, нібыта я перашкаджаю твайму дабрабыту. Мяне гэта бянтэжыць. І неяк усё... не ведаю...*

*І чаму ўсё так, і з чаго...*

*І калі ўсё стане іначай?..*

*Усё думаю, ці не замінаю я табе. Калі можаш, зразумей.*

*У мяне ў галаве нейкі кругаварот. Паступова расчароўваюся ў сабе. Пастаянны тужлівы сверб у грудзях, днём у працы заціхае, а ранкам, вечарам, у перапынках...*

*Армія ўжо надакучыла. Паўдзіцячае жаданне кінуць усё і з'ехаць.*

*Адчуваю, пасля ўсяго гэтага буду доўга адыходзіць ад здранцвеласці. Вось ужо ў шпіталі адчуваю прыкметны кантраст.*

*Думаю пра цябе пастаянна, але нешта не пішацца. Можа, ад таго, што большай часткай маўчу. А калі і кажу што-небудзь, то адным-двума словамі, кшталту "перадай хлеб", "пакладзі масла", "дай закурыць" і г.д.*

*Забаўна".*

***Віктар – Лене (май 1983)***

*"Зярнятка, вельмі рады тваім пасланням. Цэлых два з лішнім тыдні жыў без іх. І так цяжка. І чамусьці не пішацца. Праўда, была суровая пара – без канвэрта, без паперы. А зараз гэта не праблема.*

*Мне даўно хацелася пагаварыць з табой пра літаратуру...* [далей нешта незразумелае са шматкроп'ямі; звык выказвацца глыбакадумнымі паўрэплікамі, так і піша; вось наступнае ўжо поўным тэкстам]

*Атрымаў слоік кампоту. Ах, як здорава. Вось аднак незадача: пасылка прыйшла раскрытая і часткова абрабаваная. Так што магу толькі здагадвацца, што там было. А паласавацца ўдалося пачкам печыва, слоікам кампоту, пачкам "Космаса", трыма карабкамі запалак, плюс кніжкі, папера, канверты".*

***Віктар – Лене (жнівень 1983)***

*"Вітаю, Зярнятка! Тысяча вітанняў!*

*Самая, магчыма, важная просьба – з'ездзіць у інстытут кінематаграфіі і 1. даведацца, хто набіраў майстэрню на рэжысуру ў гэтым годзе і хто – на наступны год; 2. узяць аркуш з умовамі прыёму, ну і якую іншую інфармацыю... Хацеў напісаць адрас і як туды даехаць, але ўспомніў, што дарога туды табе знаёмая. Плюс – падручнік па гісторыі СССР, па гісторыі літаратуры і падручнік рускай мовы..."*

***Віктар – Лене (кастрычнік 1983)***

*"Зярнятка ласкавае, добры дзень. Плаваю ў тумане ціхай радасці. Ты клапатлівая малайчынка, дзякую табе. Усё атрымаў: некранутае, дыхае тваімі рукамі. У прасторы не згубілася.*

*Зярнятка, вельмі прашу цябе – патрэбныя вельмі і вельмі нататнікі, штук 3. Паспрабую яшчэ раз апісаць: у чвэрць стандартнага аркуша, на 150-200-250 старонак, пераплёт не яркага, лепш шэра-чорнага колеру. Ці гэта немагчыма?*

*Шлю яшчэ адзін варыянт фота, не вельмі падобны на мяне паўсядзённага, люстэркавага. А цябе пабачыць можна?.."*

***Віктар – Лене (сакавік 1984)***

*“... Змрочны і невясёлы быў ад таго, што... снег сышоў і раптам зноў. Лужыны, праталіны.*

*Наконт доўгачаканага і забытага, безмундзірнага пакуль нічога не чутна. Не спадзяюся ні на што, рыхтуюся чакаць да канца, да лета...*

*Нейкім чынам назбіралася куча кніг. Уся магчымая прастора забітая імі. Кнігі паспрабую адаслаць, астатнюю макулатуру спалю.*

*Дзякую, усё атрымаў у цэласці. Варэнне, мёд...”*

Вайсковыя гады Віктара ўрэшце мінулі. Варта адзначыць, што яму нейкім чынам пашанцавала. Не было “дзедаўшчыны”, не было асаблівай муштры. Меў час чытаць цікавыя кнігі і, галоўнае, меў такія кнігі, якія варта было чытаць. Пасылкі (хаця й часткова абрабаваныя) атрымліваў ад бацькоў, ад цёткі і, найбольш, ад Лены. Ад Лены – два-тры разы на месяц, з цукеркамі, печывам, шакаладкамі, цыгарэтамі, чаем, кавай, лікёрам, кампотам, мёдам, шкарпэткамі, падцяжкамі... Для сябе і для сяброў. І нават з манга! Дзе яна тое манга знайшла? Нават у Маскве ўбачыць гэты дзівосны плод у савецкія васьмідзясятыя было рэдкай выпадковасцю (тут, дарэчы, успамінаецца апавяданне О. Генры пра персік для каханай), але ёй, мабыць, пашчасціла. І ўсё дасылала бясцэннаму, чароўнаму, каханаму Каласку. А ён, “пераадольваючы сарамлівасць”, прасіў яшчэ. Стогн душы: “цэлых два з паловай тыдні жыў без тваіх пасылак...”

Трэці паверх інтэрната перашэптваўся: да Лены прыехаў каханы. Мабыць, хутка скончыцца яе магілёўская эпапея, з’едзе яна ў сваю Маскву і забудзе пра Магілёў, які стане маленькай рысачкай яе біяграфіі.

Так, каханы, доўгачаканы прыехаў.

А назаўтра паехаў...

Лена амаль месяц хадзіла змрочная, маўклівая, занураная ў свае думкі. Моўчкі ішла ў інстытут чытаць лекцыі (неяк знаходзіла на гэта сілы), моўчкі вярталася і сядзела ў сваім пакоі бязвылазна.

Ніхто не навязваўся з роспытамі, суцяшэннямі, спагадай. Усе разумелі, што адбылося. Маскоўскі хлопчык і не думаў звязваць сваё жыццё з правінцыйнай выкладчыцай філасофіі. Марылася: вось закончыць ён інстытут кінематаграфіі, стане знакамітым артыстам ці рэжысёрам, будзе купацца ў славе і ўсе самыя прыгожыя дзеўкі будуць круціцца вакол яго. А Лена? Лену будзе ўспамінаць з грэблівай усмешкай, як скарыстаны пасля абеду посуд. А, мо, і ўвогуле не будзе ўспамінаць. Непрыемна ўспамінаць пра тых, каму нечым завінаваціўся.

Дарэчы тут будзе сказаць, што падобны вынік можна было прадбачыць: вельмі далёкімі па інтэлектах былі яны адно ад аднаго, што выразна праглядваецца па цытаваных лістах. Нават калі б яны (пракруцім у думках немагчымае) сталі жыць разам, то гэтая рознасць інтэлектаў мучыла б і аднаго, і другую. Разыход быў бы непазбежны. І калі б Лена здолела ўключыць свой аналітычны філасофскі розум, то спыніла б гэтае валаводжанне раней. Ці, прынамсі, псіхалагічна рыхтавала б сябе да таго, што адбылося. Але пачуццё было вялікім, і розум у такіх выпадках недзеяздольны. Таму вяртанне ў рэальнасць прывяло ў шок. Глыбокі шок!

Па-рознаму паводзяць сябе людзі ў такім стане. Адны зануроюцца ў п’янства, каб адключыцца ад тужлівых думак. Другія, не вельмі ра-

зумныя, пачынаюць ненавідзець прадстаўнікоў іншага полу, саркастычна абагульняючы: усе яны такія! Трэція, мацнейшыя, неяк пераадольваюць хваробу і працягваюць далейшае жыццё са шнарам на душы. Чацвёртыя, слабейшыя, заканчваюць суіцыдам. Пятыя...

Лена надумала свой варыянт. Заўважана ў народзе, што шавец заўсёды без ботаў. Філасофія ў гэтым сэнсе мала адрозніваецца ад шавецкай справы. Як я ўжо казаў, Лена магла выразна раскласці па палічках любую жыццёвую сітуацыю, яе развагі былі пераканаўчымі і празрыста-зразумелымі. Але гэта адносна іншых людзей. Адносна ж сябе яе розум даваў збоі. Тым болей, у стане адчаю.

Яна вырашыла: калі ёй стаць шчаслівай у каханні не наканавана, то яна зробіць шчаслівым іншага чалавека, чалавека няшчаснага, якога лёс закінуў на самае дно жыцця.

Ёсць у расейскага народа такая рыса – з самымі добрымі намерамі стварыць сабе праблемы, а потым спрабаваць іх гераічна пераадолець. Адкуль такая рыса? Ды, мабыць, адтуль, што Расея доўгі час існавала і цяпер імкнецца існаваць у стане імперыі, і расейскія людзі прывыклі думаць пра ўсё чалавецтва больш, чым пра саміх сябе. Шмат хто з іх, нават той, хто не столькі жыве, колькі выжывае ў атачэнні матэрыяльных турбот, лічыць свой народ выратавальнікам свету. І коштам свайго паўгалоднага існавання дапамагчы якому-небудзь Гандурасу ці гвінейскім папуасам – звыклая прымальная справа. І хаця потым выяўляецца, што ні гандурасцам, ні папуасам тая дапамога ні да печы, ні да рэчы, знаходзіцца новая Бірма ці Мадагаскар, якіх расейцы гатовы абгарнуць сваёй ласкай. Ад стасункаў паміж народамі такая рыса перайшла і да стасункаў паміж людзьмі.

Вось так і тут.

У пакоі Лены з’явіўся нейкі малады бадзяга-бяздомнік Ваня. Насельнікі трэцяга паверха ціха абменьваліся гэтай навіной, не вельмі разумеючы яе сутнасці. Да Лены з роспытамі не лезлі. Дый яна сама істотна абмежавала свае кантакты з сябрамі і сяброўкамі.

Некалькі дзён ці тыдняў было ціха. А потым час-почас пачалі даносіцца з-за сцяны то крыкі, то нейкі грукат, але найбольш раздражняла песня, якая гучала неапраўдана часта. Прымітыўная тужлівая мелодыя з легкаважнымі словамі зусім не пасавала таму, што раней можна было чуць з пакоя Лены.

Неяк сустрэўшы Лену на лесвіцы, я пацікавіўся:

– Вам так падабаецца гэтая песня, што вы яе гатовы слухаць па дваццаць разоў на дзень?

– Гэта не мне, гэта яму падабаецца.

– А вас яна не раздражняе?

– Яшчэ як раздражняе. Аднойчы сказала яму пра гэта, дык ён мяне ўдарыў.

– Што?! Ударыў? І вы сцярпелі?

– А што мне рабіць?

– Выгнаць яго туды, адкуль ён з’явіўся.

У Лены нагарнуліся слёзы:

– Дык я ж распісалася з ім. І прапісала ў сябе.

Я ў неразуменні развёў рукамі.

– Вы яго пакахалі?

Яна махнула рукой і пайшла.

Праз колькі дзён, пачуўшы грукат у суседнім пакоі, я вырашыў пацікавіцца, што там адбываецца. Выйшаў. Са свайго пакоя выбегла Лена. За ёй Ваня з мацюкамі. Занёс кулак, каб ударыць, але, убачыўшы мяне, схамянуўся. Адышоў і, стукаючы ў сцяну кулаком, працягваў свой маналог:

– Бля... Ізуродую!.. Маць... Сука!..

– Ён, што, п'яны? – пацікавіўся я ў Лены.

– Не, п'яны ён бы спаў. Гэта ў яго такі цвярозы стан.

– Што здарылася? – звярнуўся я ўжо да мацюкальніка.

Але ён не звярнуў на маё пытанне ўвагі, працягваючы стукаць у сценку кулаком і выплёўваючы брудныя словы. Потым, уводзячы сябе ў яшчэ большае шаленства, працягваў сваё брыдкаслоўе:

– Ён – твой любоўнік! Ты з ім трахаешся! Я вас абоіх... Бля!..

– Гэта ён пра мяне? – дапяў нарэшце я.

– Напэўна ж, – пацiснула яна плячыма.

Я хацеў яму нешта сказаць, але Лена спыніла мой намер:

– Яго лепей не чапаць. А то ён будзе заводзіцца яшчэ болей. Потым палезе біцца. Хай пакуль б'е сценку, выплюхне свой запал.

– Можа, выклікаць міліцыю?

– А што міліцыя зробіць? Складуць пратакол і выпішуць штраф, на які ў яго грошай няма. Або забяруць, патрымаюць суткі і выпусцяць. Там яшчэ паб'юць. І ён вернецца, яшчэ больш заведзены, і стане адыгрывацца на мне.

– У яго што – так кожны дзень?

– Не. Я яму сказала, што падала на развод.

– Даўно пара. Нармальнае жыццё чалавеку не па нутру. Няхай вяртаецца ў сваё, звыклае.

Ваня, стукаючы ў сценку, крыху знізіў сваё словавывяржэнне і прыслухоўваўся да нашай размовы. Пасля маіх апошніх слоў стукнуў у сценку мацней і, мабыць, занадта моцна, схапіў другой рукой за кулак і стаў яго паціраць, суправаджаючы працэс новай плынню лаянкі. Лена зірнула на яго і сказала:

– Ідзіце да сябе. Далей я ўжо сама з ім. Ён ужо выкіпеў.

Мабыць, яна ведала нораў гэтага дурылы.

Працэс разводу, аднак, зацягнуўся. Ён не з'яўляўся ў суд, нягледзячы на позвы, якія яна яму перадавала, і суддзя адкладвала разгляд справы на іншы дзень. І Лену гэта пачало непакоіць. Пры чарговай сустрэчы яна, моцна ўсхваляваная, падзялілася сваёй турботай:

– Мне вось-вось павінны выдзеліць кватэру. І калі гэта адбудзецца да разводу, то атрымаецца, што кватэра выдзелена нам абаім. Тады яго адтуль не выселіш. Гэта будзе вар'яцтва! Не ведаю нават, што рабіць.

– Ідзіце ў суд і запатрабуйце, каб разглядалі справу без яго. Бо ён так і будзе ігнараваць позвы да бясконцасці.

Справа ўрэшце была вырашана, але гэта каштавала Лене процьмы страчаных нервовых клетак.

Кватэру яна хутка атрымала, перасялілася як хутчэй, не робячы там ніякага рамонту. А ён патрабаваўся, бо будаўнікі зграшылі, пакінуўшы паміж плітамі сцен дзіркі, акуратна заклеіўшы іх шпалерамі. Зімой было холадна. І яна, не ведаючы прычыны, заплаціла за дадатковыя звенні ацяпляльнай батарэі.

Пасля гоману інтэрната жыць адной было самотна. І Лена прасіла сяброў заглядваць да яе “на чай”. Мы заглядвалі. Мы – гэта мастак Саша Ганько, выкладчыца кафедры замежных моваў Сусанна Фёдараўна і я. Калі-нікалі да нас далучаліся іншыя, але касцяк складаўся з нас чатырох. Мы празвалі такія сустрэчы КлабЛО (KlubLO), “Клуб Лены Оськінай”. Я нават напісаў адозву Клуба, якая Лену здорава пацешыла:

“Мы, што ніжэй падпісаліся, ствараем гэты Клуб пад назвай КлабЛО з мэтай супольна бавіць час у прыемных размовах на высокія тэмы і занятках з карысцю для нас і для ўсіх, хто гатовы да нас далучацца...” і г.д.

Філосаф, мастак, мовазнаўца, матэматык – здаецца, зусім розныя людзі рознага ўзросту, у кожнага свае інтарэсы, звычкі, памкненні, але нам неяк цікава было разам. Знаходзілася нямала тэмаў, прыцягальных для ўсіх. То мы разглядаем і абмяркоўваем новую Сашаву карціну, то нейкую падзею ў інстытуце, то пераклад верша з нямецкай мовы, зроблены студэнткай Сусанны Фёдараўны, то тэкст прыдуманай мною “Клятвы аб адмове ад захопніцкіх войнаў”, якую павінен прыняць кожны народ рэферэндумам, то нейкі прачытаны артыкул (у час перабудовы цікавыя газетна-часопісныя тэксты пачалі з’яўляцца ўсё часцей), то штосьці з Дастаеўскага, то...

А то і проста гуляем у “Эрудыт” за круглым сталом на яе прасторнай кухні; у дакампутарны перыяд настольныя гульні дапамагалі бавіць вольны час.

Каталізатарам нашых разумова-духоўных кантактаў на сустрэчах у КлабЛО была, натуральна ж, Лена. У яе час ад часу нараджаліся выказванні, з якімі зрэдку хацелася спрачацца, але часцей хацелася абсмоктваць іх з усіх бакоў, настолькі смачнымі яны былі. Здараліся цікавыя выказванні і ў кагосьці з нас. Тады Лена ажыўлялася і гаварыла: “Ооо! Нешта падобнае казаў Гегель (ці Кант, ці Платон)”. І цытавала вялікага філосафа. І мы выраставалі ва ўласных вачах, бо – бач ты! – аказваліся здольнымі нараджаць думкі, дастасоўныя да думак такіх мысляроў-гігантаў.

Шчыра кажучы, я настальгую па такога роду “клубе”. Добра было б і сёння мець такога знаёмага, у кватэры якога час-почас збіраюцца сябры, куды можна прыйсці ў любы момант, каб пра штосьці паразмаўляць, нават не абавязкова ў агульнай кампаніі, але ведаючы, што прынамсі адзін сябар там будзе, гаспадар кватэры. Праўда, такі сябар павінен мець эрудыцыю Лены і яе прыцягальныя інтэлектуальныя здольнасці.

Аднак сёння людзі настолькі зануран25ыя ў бытавуху, у сямейныя і калясямейныя праблемы-клопаты, што часу на інтэлектуальныя “забавы” неяк не знаходзіцца. Цяпер такія заняткі не ў пашане. Дый “каталізатары” неяк не сустракаюцца.

Краіна жыла новым жыццём пад назвай “перабудова”. Сталі больш цікавымі праграмы тэлебачання, туды ўжо запрашалі людзей, якіх раней немагчыма было ўбачыць на тэлеэкране. Людзі зачытваліся нязвыклымі раней публікацыямі ў газетах і часопісах. На іх можна было свабодна падпісацца, нават на вечна дэфіцытны “Новый мир”, наклад якога адразу пераваліў за два мільёны. Імкнуліся за цэнтральнымі і мясцовыя выданні. Нават “Магілёўская праўда” стала запатрабаванай без ранейшай разнарадкі.

І вось выбух: у газеце “Літаратура і мастацтва” апублікаваны артыкул Я. Шмыгалёва і З. Пазьняка “Курапаты – дарога смерці” пра месца масавых забойстваў людзей. Падзеі пачалі развівацца імкліва. Створана гісторыка-

асветніцкае таварыства памяці ахвяр сталінізму “Мартыралог Беларусі” і пры ім – аргкамітэт па стварэнні Беларускага Народнага Фронту. Без дазволу кампартыі! Нечувана! Пра падзеі, звязаныя з мітынгам 30 кастрычніка 88-га года, газеты пачалі пісаць праўду, на якую партыйныя камітэты дазволу не давалі. Дух свабоды ап’яняў.

Народ разнявольваўся. Жахі сталіншчыны і брэжнеўская стабільнасць застою адыходзілі ў мінулае. Але гэтае мінулае пачало крытычна пераглядвацца, пераасэнсоўвацца, пераацэньвацца.

Адпаведныя працэсы пачаліся і ў Магілёве. Знайшлася група людзей, якія ўстурбаваліся стварэннем магілёўскай філіі “Мартыралогу”. Рыхтаваўся ўстаноўчы сход. Рыхтаваўся патаемна, але разумелі, што ад вока галоўнага кантрольнага органа дзяржавы ўтаіць не атрымаецца. Адчуванне небяспечнасці задуманага не адпускала. Але і баяцца надакучыла.

Уся гісторыя СССР ад 17 года да апошніх канвульсій – гэта гісторыя чалавечай боязі. Некалькі пакаленняў людзей пражылі ў боязі – з сутуленымі плячыма, з прымружанымі вачыма, з прыцішаным гукам размоваў, з прытоенымі думкамі. “Мы живём, под собою не чуя страны, наши речи за десять шагов не слышны...” – так выразна і ярка двума радкамі выказаўся пра свой час Восіп Мандэльштам. Боязь стала нормай, прарасла ў скуру і плоць. Чалавек, які асмельваўся крыху болей за іншых, выклік*а*ў падазрэнні, яго пачыналі асцерагацца, пазбягалі кантактаў з ім. Страх вісеў над людзьмі як хмары ў слотную пар*у*. Страх прыгнятаў, ціснуў – і гэта было праціўна чалавечай прыродзе. Усё болей нарастала жаданне скінуць страх, перастаць баяцца.

І гэты час настаў.

У чарговую сустрэчу ў КлабЛО я сказаў, што рыхтуецца сход былых рэпрэсаваных людзей і іх нашчадкаў дзеля стварэння арганізацыі, якая будзе абараняць памяць і правы людзей знявечаных лёсаў. Лену гэтае паведамленне зацікавіла. Яна выказала намер прыняць удзел у такім сходзе.

– Гэта рызыкоўна, – папярэдзіў я.

– А колькі нам можна іх баяцца! – выказала яна тое, што лунала над усімі. Турэмны вокліч “Не бойся!” раптам стаў агульным. Народ жарсна ірваўся з абрыдлай турмы.

У яе словах звярну ўвагу на гэтае падзяленне: “нам” і “іх”. “Яны” – гэта ўжо не “мы”. Гэтае чалавечае звыроддзе ўспрымалася народам як гнойны чырай, ад якога хацелася як хутчэй пазбавіцца. Для “іх” не існавалі запаветы Хрыста, але й не толькі, для іх не існаваў нават “Маральны кодэкс будаўніка камунізму”, прыняты “імі”, натуральна ж, для “нас”.

Пра той сход ужо пісалася ў прэсе, таму я не буду тут падрабязна распавядаць. Калі нас выгналі з памяшкання, дзе сабраліся, і мы лістападаўскім вечаровым змрокам ішлі групай няведама куды, куды вяла нас арганізатарка Тамара Раманькова, а за намі пагрозліва сунулася група “канваіраў”, як назваў “іх” хтосьці з нашай групы, хто добра ведаў, што такое канвой, і калі ад нашай групы ціхенька знікаў то адзін, то другі, я прапанаваў Лене:

– Можа, і вам варта адысці ўбок і знікнуць?

Але яна махнула рукой і прамаўчала. Ёй відавочна не было страшна. Дарэчы, страху не было і ў іншых паплечнікаў групы. У каго быў, тыя паступова пазнікалі. Але іх было няшмат. Група йшла, з’яднаная пачуццём годнасці той справы, да якой далучыліся.

Тамара давяла нас да будынка культасветвучылішча, дзе яна працавала, адкрыла дзверы загадзя прызапашаным ключом, запусціла групу ў будынак і закрыла дзверы на завалу. Канваіры, пераканаўшыся, што ў будынак патрапіць нельга інакш, як зламаўшы дзверы ці выбіўшы вокны, разгубіліся, замітусіліся. Пачалі шукаць дырэктара, які ўжо нядзельным вечарам рыхтаваўся да сну. Пакуль той вызвоньваў загадчыка гаспадаркі, каб знайсці ключ ад чорнага ўваходу, пакуль той ключ прывезлі і тузаліся з заржавелым замком, які не хацеў адмыкацца, нарэшце адчынілі і ўвайшлі ў будынак, сход заканчваўся. Магілёўская філія "Мартыралогу Беларусі" была створана 27 лістапада 1988 года.

Лена стала яе сябрам. Яна была б актыўным удзельнікам працэсу нашага адраджэння, але...

Чалавек мяркуе, а Бог парадкуе. Ранейшыя жорсткія выпрабаванні яе нярвовай сістэмы не прайшлі бясследна. Лена пачала заўважаць, што яе рухі становяцца не зусім правільнымі. Левы бок пачаў "тармазіць". Аднойчы яна ўзлезла на зэдлік, каб павесіць фіранку, і не ўтрымалася, яе павяло ўбок, і яна грымнулася на падлогу, стукнуўшыся плячом аб батарэю. Дзякаваць Богу, абышлося без пераломаў.

Магілёўскія ўрачы не маглі патлумачыць, што з ёю адбываецца. А хвароба павольна, але няўмольна забірала яе жыццёвую энергію. Цягліцы левага боку ўсё болей не слухаліся яе мозгу. Яна паехала на кансультацыю ў Мінск. Там паставілі страшны дыягназ: БАС, бакавы аміятрафічны склероз. Хвароба невылечная!

Урач даў маленькую надзею: бываюць рэдкія выпадкі, калі хвароба адступае, але прычыны таго медыцынскай навуцы невядомыя.

Яна звязвалася з усімі сваімі маскоўскімі сябрамі, каб знаходзілі ёй літаратуру па яе хваробе. Ёй дасылалі ці брашуры, ці іх ксеракопіі, у якіх яна шукала хаця б нейкіх намёкаў на вылечванне. Шукала безвынікова.

"Магілёўская праўда" паведаміла, што ў горадзе пэўны час будзе практыкаваць кітайская лекарка Дзінь Жэнь Шу, якая срэбранымі іголкамі лечыць розныя хваробы. Лена запісалася да яе на прыём. З маёй дапамогай яна дабралася да паліклінікі, самастойна перасоўвацца ўжо не магла.

Некалькі сеансаў у лекаркі не прынеслі ніякага аблягчэння. Да таго ж, лекарцы не спадабалася памяшканне, якое ёй выдзелілі для працы, яна пакрыўдзілася і з'ехала. Мяркую ўсё ж, што не памяшканне стала тут галоўнай прычынай, важней тое, што падобныя лекі магілёўскім хворым мала дапамагалі, а ў выпадку Лены не дапамагалі ніяк, і гэта зніжала лекарскі імідж кітаянкі, цікавасць да яе лячэння змяншалася. І адпаведна змяншаўся заробак. Лекарка паехала шукаць іншае месца.

Паўстала няўмольнае пытанне: што рабіць? Лена вырашыла напісаць бацькам. Да гэтага яна бацькоў не хацела турбаваць. Але іншага выйсця ўжо не было.

Прыехаў бацька і забраў яе ў Іркуцк. Па дарозе спыніліся на некалькі дзён у Маскве, каб параіцца з сталічнымі прафесарамі, але й тыя не знайшлі, чым грунтоўна дапамагчы.

Мяне Лена пакінула даглядаць за яе кватэрай.

– А калі што... – пачала яна пры развітанні, але не скончыла і махнула рукой.

– Там жа вашы запісы, лісты, – нагадаў я. Яна зноў махнула рукой:

– Рабіце тады з імі, што хочаце.

Пазней, успомніўшы гэтыя словы, я ўспрыняў іх як дазвол прачытаць іх і агучыць. Падумаў: калі яна, з'язджаючы, магчыма, назаўсёды, не знішчыла свае ліставанні з Віктарам (іншыя, дарэчы, знішчыла: ліставанні з сяброўкамі, з бацькамі), то дапускала, што яны будуць некалі кімсьці прачытаныя. Магчыма, нават хацела гэтага.

Мы развіталіся з пачуццём горычы.

Далейшыя кантакты між намі былі праз пошту. Я зараз чарговы раз дакрануся да іх з сваімі кароткімі каментарамі. Першы ліст яна напісала яшчэ дрыготкім почыркам сваёй рукі. Наступныя пад яе дыктоўку пісалі бацька або маці.

***Чэрвень 1992***

*"Міша, як Вашы справы? Ці атрымалі маю пенсію? У канцы месяца па кватэрах будуць насіць талоны. Атрымайце іх, калі ласка, не тлумачачы, дзе я..."*

***Ліпень 1992***

*"Вітаю, дарагі Міша! На жаль, пішу не сваёй рукой, дыктую бацьку. Вельмі рада Вашаму лісту, дзякую. Спадзяюся ў агляднай будучыні напісаць Вам сама. Зараз мае справы ідуць так: праз дзень прыходзіць дадому кітайскі доктар, ставіць іголкі, не балюча. Прайшлі сем сеансаў, і пахваліцца пакуль няма чым. Што будзе далей – не ведаю, бо доктар па-руску гаворыць яшчэ горш, чым доктар Дзінь...*

*Хутчэй за ўсё, у Іркуцку мне прыйдзецца затрымацца надоўга..."*

***Жнівень 1992***

*"... Пасля летніх вакацый, мяркую, пачынаецца і новы палітычны год. Зычу Вам поспехаў у палітычных бітвах, але застаньцеся ў іх жывым... Калі ўбачыце, перадавайце палымяныя прывітанні, абдымкі і пацалункі ўсім маім дарагім сябрам. Вялікі дзякуй за Вашы клопаты. Грашовы перавод атрымалі... Пасылку атрымалі тры дні таму..."*

[Далей аб тым, як атрымаць пенсію, як плаціць за кватэру ды іншае бытавое.]

***Кастрычнік 1992***

*"Міша, вітаю! Нават калі б у мяне была кепская памяць, я б ніколі не забыла пра Ваш дзень нараджэння. Калі вярнуся, я гарантую Вам нашмат больш пышнае святкаванне, я ўмею пячы торт у шэсць слаёў, і ён будзе са свечкамі.*

*Пра Вашага кума я помню, Вы мне распавядалі; я нават помню, калі гэта было: мы з Вамі глядзелі тэлефільм "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" гэтай зімой. Чым далей ад мяне ў прасторы і часе ўсё беларускае, магілёўскае, інстытуцкае, тым болей я ва ўсё гэта ўлюбляюся. Мне вельмі цікавыя ўсе вашы (дакладней, нашы!) навіны...*

*Сусанна Фёдараўна прыслала мне два лісты, якія вартыя таго, каб іх шматкроць перачытваць...*

*Я ўжо пяць дзён у лячэбніцы, не гледзячы на тое, што ў мяне былі вельмі негатыўныя адносіны да гэткіх устаноў. Тут лепей, чым я чакала, мне даюць лекі і робяць працэдуры, якіх раней не было, і, здаецца, мне ўжо крыху лепш..."*

***Снежань 1992***

*“Перапрашаю, што доўга не адказвала на Ваш ліст, няма настрою. Прычына вядомая: няма поспехаў у лячэнні...*

*25 лістапада выпісалі з лячэбніцы, прабыла там сорак дзён. У лютым будзе чарговы заход. Лячыцца давядзецца доўга, а перспектывы цьмяныя...*

*Атрымала ліст ад Сусанны Фёдараўны, напішу ёй пазней, а пакуль няма душэўных сіл... Яна – сапраўдны інтэлігент, а для мяне гэтае слова абазначае не гонар і не нейкую вышэйшую пробу, а пэўную пароду людзей, не здольных на “непрыгожыя ўчынкі” (абарваць, адмовіць, спыніць, даць адпор і да т.п.). Я шмат гадоў таксама была інтэлігентам, але ў апошнія гады, на шчасце, змагла вырасці з гэтага стану і цяпер ні за што не хацела б зноў стаць інтэлігентам, таму што яны не толькі даюць сябе на разадранне, але сваёй нядольнасцю да “непрыгожых учынкаў” патураюць злу. Я б нават сказала, што Сталін вырас на інтэлігентах, якім было “няёмка” яго своечасова абарваць... Добра быць інтэлектуалам, але кепска інтэлігентам...*

[Вось вынік яе горкага жыццёвага досведу: такім інтэлігентам яна ўжо быць не хоча. Падобныя меркаванні дапамаглі б у кантактах з Каласком, але тады розум быў адключаны, заціснуты каханнем.]

*А пацягнула мяне на развожанні аб інтэлігенцыі звесткі, якія засмуцілі мяне, аб тым, што Саша працягвае з апетытам ужываць дабрыню і інтэлігентнасць Сусанны Фёдараўны: яна купіла ў яго карціну за паўтары тысячы, а потым ён прынёс тую карціну як падарунак на дзень яе нараджэння. Такое пара спыніць. І я б за гэта ўзялася, будзь у мяне здароўе. Як я хачу і як мне трэба вярнуцца! Прычым, у мяне няма планаў знішчыць Сашу, яго трэба толькі спыняць для яго і яго атачэння карысці. Мне здавалася, што мы ўсе разам у Клубе складалі нейкае адзінае цэлае, а паасобку кожны па-свойму недасканалы...*

*Дзякую за ўсе магілёўскія навіны, яны мне вельмі цікавыя, бо так я нібыта набліжаюся к дому, куды вельмі хачу і спадзяюся вярнуцца...”*

***Снежань 1992***

*“Дарагі Міша!.. Пакуль мае справы па-ранейшаму. Па меры магчымасцяў займаюся фізкультурай, гэта займае амаль увесь час... Апошнім часам па радыё былі расповеды, як нерухомыя людзі самі сябе паднімалі трэніроўкамі з усіх сіл. Гэта займала шмат часу, у каго год, у каго болей. У мяне няма выбару, як следаваць іх прыкладу, так што я хутка не прыеду. Хіба што адбудзецца нейкі цуд. Але на сустрэчу з маімі дарагімі сябрамі вельмі спадзяюся калі-небудзь...*

*Я вельмі рада, што ў маім магілёўскім доме жывяце Вы, гэта здымае ўсе турботы за кватэру ў наш неспакойны час. І Вам, спадзяюся, зручна і добра жывецца там. Ужо Вам жа не пагражае загразнуць ва ўтульнасці! У кнізе Трубяцкога “Умозрение в красках” маецца моцны выраз: “Камфорт нараджае схільнасць да здрады”. Можна не пагаджацца, але нельга не думаць. Ці не таму Вы такі сапраўдны чалавек, што па-за ўтульнасцю, па-за камфортам? Але крыху трэба для выжывання, і я рада, што гэта ў Вас зараз маецца...”*

***Студзень 1993***

*“Атрымала Ваш вялікі ліст з віншаваннем перад самым Новым годам, вялікі дзякуй. Ваш ліст не “пацешыў мяне на пяць хвілін”, а вельмі ўзрадаваў, натхніў і сагрэў. Вы ніяк не здольныя мяне пакрыўдзіць, няхай такія думкі*

*не заходзяць у Вашу галаву... Вельмі цікавыя магілёўскія навіны, дзякуючы Вам я амаль там...*

*Я зараз нічога не чытаю, на гэта зусім няма часу. Раблю нейкае падабенства зарадкі цэлы дзень, то адно, то другое, стоячы перад тэлевізарам. І ўсе мае ўражанні з тэлевізара, або перажоўваю ранейшыя філасофскія звесткі. Вы некалі складалі ў думках шахматныя задачы, а я – філасофскія разважанні: у крытычнай сітуацыі дайшлі да аднаго і таго ж.*

[Я напісаў ёй у папярэднім лісце, што прачытаў студэнтам лекцыю, у якой пераконваў моладзь, быццам матэматыка падобная да рэлігіі: матэматыка вывучае аб'екты, якіх не існуе ў прыродзе, і грунтуецца на сцвярджэннях, названых аксіёмамі, якія не могуць быць даказаны ці праверaны, у якія можна толькі паверыць альбо не паверыць. Лекцыя была адкрытая і выклікала ў маіх калег па кафедры негатыўную рэакцыю, але не агрэсіўную. Такая лекцыя ў часы СССР была немагчымая, тут бы лектар атрымаў "па самы хвасцец" і, хутчэй, вымушаны быў бы развітацца з інстытутам. Пазней я гэтую лекцыю чытаў у іншых аўдыторыях, у тым ліку ў "Лятучым універсітэце".]

*Які Вы маладзец, што страсянулі акружэнне разважаннямі пра асновы матэматыкі. Я мяркую, Вы не памыляецеся: у аснове матэматыкі ляжыць сляпая вера, якая не адрозніваецца ад рэлігійнай. Пра тое пісалі яшчэ Расэл і Уайтхед у "Principia Mathematica" ў 1910-13 гадах. Гэтай працы няма на рускай мове, але ёсць іншыя, у прыватнасці "Почему я не христианин" Расэла, стаіць у мяне на палічцы. Там прыблізна пра тое ж крыху пішацца. Але яшчэ раней, да неапазітывізму, да пачатку XX ст., пра падабенства рэлігіі і памежна агульных палажэнняў (што б там ні было: філасофія, жыццёвая мудрасць і г.д.) ведалі Кант, Юм, а калі пакапацца яшчэ глыбей, то можна дабрацца да старажытнагрэцкіх скептыкаў.*

*Ваша праўда і вось якая ў Вас высокакваліфікаваная кампанія, не тое, што бедныя малаадукаваныя калегі.*

*Калі я перачытваю Ваш вялікі ліст, то нібыта размаўляем за маім круглым сталом. Настолькі папера данесла, што Вы мяне добра разумееце...*

*Я вельмі стараюся, каб устаць на ногі і вярнуцца хутчэй, але, пакуль не ў Магілёве, турбуюся, ці не ўзнікае якіх-небудзь праблем з кватэрай. Можа, лепш яе прыватызаваць, каб Вы там жылі спакойна? Калі што ад мяне патрэбна (даверанасць, грошы), то напішыце..."*

***Люты 1993***

*"За студзень атрымала ад Вас так многа, што няма слоў дзякаваць... Пішу Вам толькі цяпер, але Вы ведаеце, чаму.*

*Цяпер я чакаю санкцыі ўрача на дасланыя Вамі лекі; у бліжэйшыя дні зноў укладваюся ў лячэбніцу, і там Ваша лякарства, спадзяюся, знойдзе прымяненне, і, нарэшце, хаця б што павінна мне дапамагчы... Вы зацікаўлены ў маім выздараўленні больш, чым абсалютная большасць эскулапаў (хаця што з іх узяць). Гэта незвычайна прыемна. Вельмі спадзяюся, што лякарства спатрэбіцца яшчэ, і калі Вы будзеце высылаць, то пакуйце гэты эліксір жыцця для мяне надзейней, таму што 2 ампулы з дзесяці па дарозе разбіліся.*

*Мне вельмі прыемна, што Вас так абрадавала маё меркаванне пра асновы матэматыкі. Калі Вас цікавяць якія-небудзь філасофскія пытанні, заўсёды з задавальненнем да Вашых паслуг.*

*Магу што-нішто сказаць і пра чалавека свабоднага, пра суадносіну*

*любові і свабоды.* [Гэта наконт радкоў Шандара Пецёфі: “Каханне й свабода – усё, што мне трэба. Каханне коштам смерці я набыць гатовы. За вольнасць ахвярую і каханнем.”] *Я думаю, што ў “вузкім сэнсе” любоў і свабода несумяшчальныя, як пра тое піша Пецёфі, але адукацыя мае на мэце прывіць любоў да ісціны, дабра і прыгажосці, г.зн. зрабіць свабодным ад аблуды, зла і пачварства. Напышліва гэта гучыць, нават няёмка развважаць пра такія высокія рэчы. Паняцце духоўнай свабоды (а менавіта яе і спрабуе дасягнуць адукацыя) было выпрацавана хрысціянствам. Хаця большасць людзей (тых людзей, якія ўвогуле задумваюцца пра такія рэчы) памылкова лічаць, што паняцце свабоды склалася ў Новы час, асабліва ў эпоху французскай рэвалюцыі, у шэрагу паняццяў роўнасці, братэрства і да т.п. У Новым Запавеце, дакладней, у І-м пасланні апостала Яна шмат пра гэта сказана, асабліва: “Дзе дух Гасподзень, там свабода”* [удакладню: гэта з Другога паслання да карынфянаў святога апостала Паўла] *і “Хто баіцца, той недасканалы ў любові”* [а гэта ўжо ад Яна].

*Вось паміж гэтымі двума выказваннямі і выпрацавалася паняцце духоўнай свабоды, якое на працягу позняга сярэднявечча стала набываць адценне і свабоды матэрыяльнай, г.зн. у сэнсе даброт, маёмасці, уласнасці; гэтаму падала прыклад дзяржава, якая паспрабавала аддзяліцца ад царквы, г.зн. парушыць тэакратыю ранняга сярэднявечча. Пра тое я магла б шмат гаварыць, але не ведаю, наколькі Вам гэта цікава. А што тычыцца любові ў “вузкім сэнсе”, любові да чалавекаў, у беларусаў “кахання”, дык тут супрацьлеглы полюс у параўнанні з любоўю да Бога (чытай: да ісціны, дабра і прыгажосці). Калі ў двух словах, схематычна, то каханне і свабода суадносяцца такім чынам: чым меней дасканалы аб’ект кахання, тым большая несвабода* [вартая ўвагі формула! – чаму ж гэтая формула не дапамагла Лене ў сітуацыі з недасканалым Ванем?]. *Увогуле свабодная толькі любоў да Бога. Але й любоў да чалавека можа ўключаць момант свабоды як іскру Божую ў той меры, у якой яна прысутнічае ў чалавеку. Гэтак лічыў яшчэ Платон у пятым стагоддзі да нашай эры, у дыялогу “Пір”.*

*Калі Вам цікава пачытаць нешта талковае, ды не вельмі доўгае, то раю буйнейшага псіхатэрапеўта і псіхолага XX ст. В.Франкла “Человек в поисках смысла”, у мяне маецца на копіях.*

*Я помню, Вы мне пісалі, што былі на Сашавай шлюбнай цырымоніі з фотаапаратам. Ці ёсць фотаздымкі? Нягледзячы на розныя “але”, мне не хапае размоваў пра мастацтва, якія ў нас з Сашам зацягваліся на гадзіны.*

*А як мне не хапае Сусанны Фёдараўны!..*

*Вы мне столькі ўсяго прыслалі і напісалі, дарагі Міша, што мае словы “заўсёды чакаю Вашых лістоў” гучаць нахабна, але, тым не менш, гэта так”.*

***Красавік 1993***

*“Дарагі Міша! Вялікі дзякуй за Вашы клопаты, атрымала 11 пераводаў... Мне вельмі шкада, што Вам даводзіцца так многа бегаць з-за гэтых дробных пераводаў, а тут яшчэ інфляцыя, якая пагражае павысіць суму пенсіі да многіх тысяч, а мо й да мільёна. Колькі ж тады прыйдзецца дасылаць асобных пераводаў?!”*

[На перасылку грошай праз пошту існавалі абмежаванні. Інфляцыя прыводзіла да таго, што лічбы імкліва раслі, а абмежаванні заставаліся тымі ж, таму пенсію Лены ці грошы за прададзеныя рэчы даводзілася перасылаць у некалькі прыёмаў.]

***Чэрвень 1993***

*“... Мне вельмі спадабаліся Вашы артыкулы. Я помню, мы з Вамі ўжо абмяркоўвалі тое жудаснае здарэнне з філасофскім экзаменам* [я не здаў кандыдацкі іспыт па марксізме-ленінізме, не змог адолець гэтую “навуку”]. *Я цалкам згодна з Вамі і не згодна з Касценічам у пытанні аб неабходнасці філасофіі для ўсіх. У Касценічы і яму падобных гаворыць проста воля да ўлады, якую яны рэалізуюць праз “філасофскі” (а насамрэч ідэалагічны) гвалт. Як бы я ні любіла філасофію, я не магу сказаць, што яна больш важная ў духоўным самавызначэнні, чым рэлігія, паэзія ці мастацтва. Кожнаму – сваё. Калі філасофію спрабуюць гвалтоўна зрабіць масавай, як гэта было ў СССР, яна памірала, ператваралася ў зусім іншае: замест балета простыя прысяданні; нават горш за тое, бо прысяданні ўсё ж натуральныя, а нейкі вырадак, прыкрыты назвай “марксісцка-ленінская філасофія”, ненатуральны, тут хлусня выдаецца за ісціну. Я з Вамі цалкам згодна, што існаванне такога аспіранцкага іспыту – гэта не клопат пра ўсебаковае развіццё матэматыкаў ды іншых спецыялістаў, а парэшткі таталітарнага жадання уніфікаваць усіх з мэтай кіраваць усімі. А сапраўдная філасофія – птушка вольная (пра гэта пісаў нават “сухі” Арыстоцель у першым раздзеле “Метафізікі”). Вы – мой аднадумца. Як шмат хочацца абмеркаваць і як жудасна шкада, што абставіны не спрыяюць...*

*Я пастаянна абдумваю некаторыя філасофскія пытанні і, скажу без падманнай сціпласці, пастаянна расту як філосаф, хаця нічога зараз не чытаю па “тэхнічных прычынах”. І як жахліва, калі гэта не знойдзе прымянення...*

*Вялікі дзякуй за гатоўнасць выканаць любое маё даручэнне. Вы мне вельмі дапамагаеце, больш чуйнага, надзейнага і тонкага сябра не знайсці. У эпоху ўсеагульнага “выжывання” Вы адзіны чалавек, які не скардзіцца на матэрыяльныя цяжкасці і ўвогуле бачыць не свет у сабе, а сябе ў свеце”.*

***Ліпень 1993***

*“... Пакуль не атрымала Ваш ліст ад 1 ліпеня, перачытвала папярэднія лісты і артыкулы. У “Хай скажа народ” Вы знаходзіце такія простыя і такія глыбокія словы для адстойвання годнасці кожнага чалавека, для справядлівасці і дабра для кожнага. Калі гэта таксама палітыка, то я дзвюма рукамі за яе. Вы спрабуеце з’яднаць маральнасць і палітыку, што ў мінулым не ўдавалася нікому.* [Удавалася, былі выпадкі. Напрыклад, у Рабіндраната Тагора. Але, сапраўды, гэта рэдкія выпадкі.] *Магчыма, толькі ў мінулым?..*

*А як Вы патлумачыце, што камуністы ў Беларусі такія моцныя? Былі ж выбары на альтэрнатыўнай аснове. Іх хоча народ, ці народу ўсё адно, быў бы матэрыяльны дабрабыт? І зноў жа, я не разумею з мовай: хоча яе народ ці яму ўсё адно? Калі “ўсё адно”, то як можна адстойваць годнасць такіх людзей? Мне падаецца вельмі высакароднай, незвычайнай, патрэбнай па самым вялікім рахунку Ваша дзейнасць, і, звязаўшыся з “вялікім рахункам”, нельга не быць у абсалютнай меншасці. Я з ліку Вашых аднадумцаў, хоць і недзеяздольная...*

*Як рэдкасна прыемна, што Вы не пазбягаеце ніякіх тэм і нават так званыя змрочныя тэмы набываюць нейкі светлы ракурс...*

*Я чула ад Вас пра Гусакоўскага. Добра было б пазнаёміцца, прафесійных кантактаў сапраўды вельмі не хапае. Хаця філасофскія думкі нараджаюцца ў адзіноце, а ніяк не ў спрэчках (ёсць такі прафесійны жарт: мудрацом нельга быць на траіх), усё ж абменьвацца імі вельмі хочацца. Але сярод прафесіяналаў і непрафесіяналаў я ні ў кім не сустракала такога разумення, павагі і цяпла, як у Вас".*

***Жнівень 1993***

*"...так, як Вы разумееце палітыку, мне падабаецца, і ў такой палітыцы я не адмоўлюся ўдзельнічаць: у ёй увага да кожнага, павага да чалавечай годнасці. У Вашым сэнсе і Хрыстос быў палітыкам (хаця царква настойвае на тым, што яна па-за палітыкай). Атрымліваецца, што ўсякая дзейнасць чалавека сярод іншых людзей (на працы, па суседству...) ёсць палітыка. І, натуральна ж, як можна ад гэтага адстароньвацца? Вы так глыбока пішаце пра гэта, што я магу толькі ўспрымаць, а не дадаваць ці адымаць, не пярэчыць. Я Вам бясконца ўдзячная за тое, што Вы не абмінаеце ніякіх пытанняў. Для Вас гэта нармальна – адказваць, калі пытаюцца, – як і для мяне, але якая ж гэта рэдкасць! Тыпова ж ігнараванне, ухіленне ад адказаў; уладарыць у маўчанні, у цемры лягчэй...*

*Не перастаю здзіўляцца, як у Вас хапае нерваў на бясконцую барацьбу, і заўсёды ў меншасці, і як не знікне любоў да людзей. Вы выключны чалавек, і я маю шчасце і гонар, што Вы мой сябар. Я неаднакроць пыталася ў Вас, як атрымліваецца пры заўсёдным змаганні не стаць нярвова-хворым мізантропам, але так і не зразумела. Годны занятак па жыцці: ствараць парадак, гармонію з хаосу. Мая цікавасць да такіх пытанняў – вынік Вашага ўплыву.*

*Вялікі дзякуй за клопаты па прыватызацыі кватэры. Вельмі хочацца ў сваю кватэру, так яна мне падабаецца.*

*Я цяпер вельмі сумую па беларускіх пейзажах... Глядзіш, вывучу мову, калі вярнуся, толькі б гэта атрымалася..."*

***Лістапад 1993***

*"У нас жахлівая падзея: 23 кастрычніка памёр бацька... Цяпер наша жыццё стала яшчэ больш крутым. У мамы застаецца ўсё менш часу на мае лісты, таму пісаць Вам буду мала..."*

***Люты 1994***

*"Добры дзень, Міхаіл Пятровіч! Вам піша Наталля, сяброўка Лены. Першае, пра што яна прасіла напісаць: яна турбуецца, што Вам давялося мець пэўныя фінансавыя выдаткі пры прыватызацыі кватэры, таму яна просіць для кампенсацыі прадаць штосьці з яе рэчаў. Другое, абстаноўка ў сям'і пасля смерці бацькі вельмі ўскладнілася. Бацька быў нейкім буферам паміж ёю і маці, згладжваючы разлады паміж імі. У іх няма паразумення і душэўнай блізкасці. Лена крыўдзіцца на маці з таго, што яна часта раздражняецца, крычыць на яе, абражае. Можа, яно так на самой справе, мне цяжка судзіць, бо пры мне яна цярплівая, далікатная, ветлівая, клапатлівая. Ёй таксама вельмі цяжка. Яна хворая жанчына пасля цяжкай анкалагічнай аперацыі з цэлым букетам тэрапеўтычных захворванняў, пасля смерці мужа ёй было вельмі кепска, нядаўна паехала ў горад па справах, у тралейбусе адбылося*

*парушэнне мазгавога кровазвароту, яна восем гадзін правяла ў прыёмным пакоі бальніцы. Лена ўвесь гэты час была адна. Яе хвароба прагрэсуе. Яна не ў стане сябе абслугоўваць, гэта кладзецца на плечы маці. Жывуць яны адасоблена, блізкіх сяброў у горадзе няма, адна надзея на суседзяў.*

*Мы жывем далёка, у мяне дзіця, праца. Я працую выкладчыцай у медінстытуце, дадаткова дзяжуру па начах у клініцы, таму не магу часта бываць у іх.*

*У матэрыяльным плане свае праблемы. Пенсія ў мацеры маленькая, Лена ўвогуле нічога не атрымлівае. Але дома шмат рэчаў, напрыклад, для продажу. Тры халадзільнікі, два тэлевізары і г.д. Кватэра захламлена рэчамі. Але маці катэгарычна адмаўляецца іх прадаваць. Я не магу яе судзіць, у кожнага свае дзівацтвы. Але пасля наведвання іх у мяне застаецца пачуццё безвыходнасці, глыбокага смутку, адчаю. І бяссілля.*

*Лена сама не можа канвэрт раскрыць, таму можаце адказваць мне".*

Мабыць, самае цяжкае выпрабаванне для чалавека, калі галава ясная і разумная, яшчэ якая разумная, а рукі, ногі, язык ды іншыя часткі цела жывуць сваім вялым жыццём, непадуладным галаве. Твой канец няўмольна набліжаецца, і ты няздольны ні на што, каб яго прадухіліць ці хаця б аддаліць. Або нават абарваць...

***Люты 1994***

*"Дарагі Міша! Амаль два месяцы не размаўляла з Вамі ў лістах, хаця за гэты час атрымала два Вашыя: да Новага года, напісанае Вамі ў дзень майго нараджэння, і ў пасылцы з лекамі ад 30 снежня, якую атрымала 21 студзеня. Прабачце, калі ласка, Вы ўсё разумееце. Вялікі дзякуй за лекі, за пастаяннае жаданне дапамагчы. Вы нават мае просьбы называеце даручэннямі і ўсё робіце так натуральна. Гэта немагчыма не заўважыць і не ацаніць. Вы не прапускаеце нават дробязяў, калі я прасіла...*

*Я ўважліва сачу за падзеямі ў маёй дарагой Беларусі, хаця з радыё і тэлебачання паведамленні нейкія абрывачныя. Калі можаце, дадавайце, мне ўсё вельмі цікава. Інфляцыя 50% за месяц, сыход Шушкевіча з кіраўніцтва, сыход Адамовіча з жыцця – усё гэта для мяне сваё.*

*Праясню сэнс сваіх слоў "нарэшце Вас ацанілі"; гэта мая рэакцыя на Ваша восеньскае паведамленне аб тым, што Вам даручылі на кафедры апекавацца маладымі выкладчыкамі, і гэта азначае, незалежна ад рэгалій, што Вы самы дасведчаны і кваліфікаваны. Я гэтаму парадавалася. А пра тое няўдалае дацэнцтва я не ведала, цаню тое, што Вы са мной дзеліцеся. Умеюць у нас абараняць сваё наседжанае, хаця б прыніжаючы другога, хаця б і па трупах. Не ведаю, ці падыдзе гэта Вам, але я ў падобных выпадках цешылася тым, што Платон не быў ні дацэнтам, ні прафесарам, апошняе – проста мітусня..."*

***Сакавік 1994*** [З гэтага моманту лісты крыху змяняюць танальнасць; гэта не ад Лены, а ад яе маці, пазней ад брата, тут матэрыяльнае паступова адцясняе інтэлектуальнае.]

*"...Для мяне вельмі важнае пытанне аб прыватызацыі. Нельга дапусціць, каб кватэра прапала. Нягледзячы на свой кепскі стан, я ўсё ж спадзяюся на перамены да лепшага і спадзяюся скарыстацца кватэрай ці хаця б грашыма ад яе продажу. Магчыма, замест пашпарта падыдзе ваенны білет (ён*

*ляжыць у скрынцы пісьмовага стала, там і кандыдацкі дыплом). На ўсякі выпадак, зрабіце даверанасць па аналогіі і распішыцеся, як я; я ўсё адно не магу, а ў мяне вельмі просты подпіс. Да таго, як пойдзеце да натарыуса, звярніцеся да Сусанны Фёдараўны, у яе могуць быць сувязі, бо яна мясцовы жыхар і шмат каго ведае. Калі ўсё ж пашпарт патрэбны, тэлеграфуйце адным словам "пашпарт". Але Вы разумееце, што ў Іркуцку мне ў маім змрочным стане без дакументаў ніяк нельга. Таму трэба падключыць усе знаёмствы, каб абысціся іншымі дакументамі, якіх у мяне ў Магілёве нямала. І ў БТІ непажаданая чарга, лепш заплаціць грошы, каб хутчэй. У Іркуцку, напрыклад, ёсць паслуга – прыватызацыя за 1 дзень ці за 5 дзён, павінна быць і ў Магілёве. Для гэтага прадайце мае новыя боты, а калі гэта не пад сезон, то прадайце туфлі, якія ляжаць у ніжніх скрынях шафы. Для гэтага звярніцеся да Тамары ці Іры, яны лепш разбяруцца з продажам жаночых рэчаў. Мяркую, Вы зразумелі, што трэба гэтую важнейшую справу закончыць у што б тое ні вылілася. Не зрабіць – гэта выключана..."* [апошняе – мацярын слэнг; Лена на такія "загады" не здольная]

***Чэрвень 1994***

*"Атрымала Ваш ліст больш за месяц таму. Прабачце за затрымку. Толькі ўчора зрабілі даверанасць, і высылаю, тут абсалютна ўсё з'яўляецца праблемай... Не варта казаць, як я хачу выздаравець і вярнуцца дадому, у маю Беларусь, пра якую мы з Вамі столькі спрачаліся.*

*Я ведаю пра трохгадовую забарону прадаваць прыватызаваную кватэру, мяне гэта задавальняе. Магчыма, за гэты час мае справы палепшацца...*

*Што ў мяне добрага? Ажыўляюся толькі ад беларускіх звестак... Магчыма, Вам падалося, што мяне кранаюць паведамленні пра чыесьці поспехі? Натуральна, гэта адцяняе ўбоства маіх абставін. Але калі я задаю сабе пытанні, ці хачу я, каб у маіх сяброў не было поспехаў або ці хачу я нічога пра тое не ведаць, то на абодва пытанні адказваю: не.*

*Ночы мне падабаюцца болей, таму што сняцца сны, у якіх усё інакш...*

*P.S. Прыпіска ад мамы.*

*Пастарайцеся ўсю прыватызацыю зрабіць як мага хутчэй, каб...*

*Думаю, зразумееце маё ўмяшальніцтва правільна. Лена пра гэтую прыпіску нічога не ведае і не павінна ведаць.*

*З вялікай павагай да Вас за ўсё, што Вы робіце для Лены".*

***Жнівень 1994***

*"... Вялікі дзякуй за клопаты па ператварэнні мяне ва ўласніка кватэры. Больш надзейнага чалавека, чым Вы, я не ведаю. Мне вельмі пашанцавала..."*

***Ліпень 1995. Упраўленню міліцыі г. Іркуцка ад М. Булавацкага***

*"Да 1991 года на кафедры філасофіі Магілёўскага пед'інстытута працавала на пасадзе дацэнта Оськіна Алена Фёдараўна 1953 года нараджэння. У 1991 годзе яна захварэла бакавым аміятрафічным склярозам (БАС) і ў напаловупаралізаваным стане была перавезена летам 1992 года да бацькоў у Іркуцк, дзе пасля смерці бацькі пражывала з маці па адрасе...*

*Раней мы атрымлівалі лісты, напісаныя маці пад яе дыктоўку. Але ўжо сем месяцаў ад яе ніякіх звестак, што выклікае трывогу. Прашу паведаміць пра лёс гэтага чалавека, бо ў Магілёве засталася яе маёмасць".*

***30.08.1995. Тлумачэнне, узятае ў грамадзянкі Оськінай Т.М.***

*“Я пражываю сумесна са сваёй дачкой... Апошнім часам яе стан значна пагоршыўся (амаль не размаўляе). Я знаходжуся ў фізічным і душэўным знясіленні, цяжкім матэрыяльным становішчы. Прашу перадаць, каб нам напісаў Булавацкі М.П. Адказ гарантую”.*

Вечарам 21 кастрычніка 1995 года душа Лены ўзнеслася да Бога.

Няхай гэты тэкст стане помнікам выдатнай жанчыне, якая прыехала ў Беларусь са скепсісам, нават з фанабэрыяй, прыехала ўздымаць мясцовае насельніцтва да вышыняў маскоўскай культуры, а з’язджала з любоўю да Беларусі, напоўненая яе духам, яе святлом, яе культурай, з’язджала ў марах вярнуцца сюды, якія, на жаль, не здзейсніліся.

Далей у мяне былі доўгія і непрыемныя ліставанні з яе маці і братам пра маёмасць і кватэру. Усё гэта я параспрадаваў, грошы адправіў туды, дзеля чаго некалькі разоў давялося ездзіць у Смаленск.

Лёсу Вані я не ведаю, і мне ён нецікавы, бо вельмі прадказальны. Гэтае прыроднае стварэнне не магло зразумець, які шчаслівы латарэйны білет выпаў яму па жыцці. Дый ці шчаслівы? Яго ўцягнулі ў такое жыццё, да якога ён быў зусім не гатовым і не здольным. Адсюль і агрэсія непрымання.

А лёсам Віктара неяк пацікавіўся. Знайшоў у сеціве паведамленне пра спектакль (“сучасная драма”, 2 гадзіны, 1 антракт) у тэатры Кірыла Паніна, адным з актораў якога быў Віктар Каласкоў. Прагледзеў рэпертуар тэатра: “Курьер из интим-магазина”, “Училка влюбилась в старшеклассника”, “Приманка для одиноких женщин”, “За минуту до оргазма”, “Уроки рисования обнажённой натурщицы”... Знайшоў водгук чалавека, які наведаў адзін са спектакляў:

“Афіцыйна Панін называе гэта Канцэптуальным тэатрам. Па факту ж – ну які гэта тэатр. Мерапрыемства адбываецца раз на два тыдні ў кавярнях ці барах Масквы. Я быў з сябруком у бары «Frech» на спектаклі «Німфаманка». Актрысы і акторы распраналіся цалкам, прытым навязліва спрабавалі распрануць якіх-небудзь гледачоў і ўцягнуць у дзейства. Сцэнар прыдумваецца па ходу дзейства, суцэльная імправізацыя, хто на што здатны. Такому б тэатру ў свінгер-клубах выступаць...”

Вось такая доля ў Каласка без Зярнятка. Колас без зерня ў нас называюць пустамалотам. Ці яшчэ карацей – пустаком. Пустак – ён і ёсць Пустак.

На тым і скончу гэтую сумную гісторыю. Яна праўдзівая.

Усе прозвішчы, акрамя галоўнай гераіні, змененыя.

*Лета 2019 г.*

Валянціна Аксак



...Сёння
цалуйце мацней
сваіх родных.
А раптам...

# Толькі гром прагрыміць

### *ЗАЖУРАНЫ БОГ*

Тут неяк днямі знянацку
Бог зазірнуў да мяне.
Прысеў да стала
на сточаны шашалем зэдлік,
шмат гадоў на якім
гаспадар п'е гарбату,
і голасам хрыплаватым
папрасіў на прыску ачахлым
зварыць яму кавы.
Адпіўшы глыток,
кубак адсунуў убок
і прамовіў ледзь чутна:
"І кава твая не смакуе,
і я ўжо стаміўся
цябе ратаваць
ад спакусаў".

І – растаў у світанні,
як Яго й не бывала.
А я праглынула нагбом
пакінуты трунак,
прыпаўшы засмяглымі вуснамі
да парэпанай парцаляны,
і больш мне нічога
цалюткі той дзень
не хацелася,
абы толькі зноў
Бог
уранні знячэўку
ва ўбогі мой кут
зайшоў
на філіжаначку кавы.
І – не зажураны.

## АСАЛОДА

Твая,
заблукалая ў нетрах
пральнай машыны
шкарпэтка,
і патанулая
ў рондалі глыбакадумным
баравіковая верашчака,
адляцелая ў вырай
кашуля ўпадабаная...
Ах ты,
мой Божа,
якіх толькі стратаў
не страчаеш
на шляху
да тваёй
непарушнай
гармоніі!
І кожны мой крок –
асалода.

## СМАК СОНЦА

Сёння ў поўдзень
з неба пырснула
нечым такім
асалодным,
што аж вусны зайшліся
ў нечуванай дагэтуль

спакусе,
вочы ўраз набрынялі
новым адценнем,
засланіўшы
застылы блакіт
селязінавай бліскавіцай,
выдмы спраўна падзьмулі
ў вэрхал каштанавых кудзераў
і ўшчалі колаверць
проймы з форткі,
і выкрунтасы суквеццяў
рук і ног
перасціглі
ўсялякую спраўнасць,
і спружыністых целаў
адхланне
набыло
ваколземную дзівату,
і крывазварот
нехк нат неспадзеўна,
але дайшоў
ад любімае некалі
смочкі
да каханае смочкі
цяпер.

## *ПАМНОЖЫМ*

На гэтай канапе зачаўся
наш першынец,
а на тым тапчане
другі захацеў
стаць нам шчасцем.
Абодва радзінныя ўзложжы
тут з намі.
Але й новы прытулак дадаўся,
на якім убагоміўся ўнучак,
а неўзабаве на ім
і ўнучачка ножкаю тупнула
маме пад сэрца.
Павылупліваліся,
сталі на крыло,
адляцелі ў свет белы.
І што нам рабіць
з дзетароднымі гнёздамі? –
пытаюся.

А тое,
што й рабілі дагэтуль, –
кажаш ты
і атуляеш
усмешкаю любаснай
на кожнай нашай
шлюбнай
пасцелі.

## *СЁННЯ ЦАЛУЙЦЕ МАЦНЕЙ*

Ты выходзіш на шпацыр –
штовечаровы звычай
ад часоў нараджэння свету
ці, прынамсі, першынца,
каб спарадчыць душу
ад штодзённай мітрэнгі
для словатворчае ночы.
Ты цалуеш сыноў,
потым мяне
і ўжо на парозе кажаш заўсёднае:
“Не хвалюйся, я хутка вярнуся!”
Вяртанне –
то прыз усялякага падарожжа,
хай сабе толькі й на ўскрайку
жнівеньскай ночы.
І не важна,
каторага ранку
і ў які абымлелы пачуццямі год.
Глыбіня перадсвітальнай сустрэчы
адчуецца толькі на водмелі
паўдзённага прыпару.
Часам – не нашага.
Але завядзёнку раскладу
ніхто не адменіць.
Сёння
цалуйце мацней
сваіх родных.
А раптам...

## *ПАНДЭМІЧНАЕ*

Асцярожна лашчу
твае сэнсы,
што той вернік пацеркі
на шляху ў нікуды, –
напісаў ты мне сёння.

А я пашыла маску
з тваёй цішоткі.
Цяпер на вуснах маіх
шыхтом непарушным
стаяць твае водары.

### *ПАНТОФЛІКІ*

Сёння пад ранне падумала,
што ўжо досыць мне тут
скрушліва муштравацца,
а лепей выпраўлюся
за небакрай,
не азірнуўшыся ні разу
на перакручаную долю.
І стала выбіраць абутак
які зручнейшы
ў незваротны шлях.
Ды раптам рукі абдало цяплом
ад новых нетутэйшых скрынак,
а ў іх убачыла ажно тры пары
зусім не ношаных
пантофлікаў мадэльных.
Ну як жа некуды пайсці,
калі абновы не стаптаныя
чакаюць мяне
тут?!

### *ВАЛЯНЦІНУ АКУДОВІЧУ*

Лірыка ў ім не жыве
спакон веку.
Яго й рамантыка
паўвеку мінае.
Ды і рэальнасць
ён носіць рэшатам
і нешта ўсё некаму
з яго налівае.
А рэшту трымае ў сабе,
каб апладніць недарэку
і з курдупеля ўзгадаваць
асілка самотнага,
ці волата задуменнага,
ці бязмоўнага мысляра
ці хоць цмока балотнага.
Дзесь растуць яго дзеці,
убіраюцца ў сілу,

паказваюць моц,
злучаючы выспы
ў мацярык непарушны.
А прачнуўшыся некалі ранкам
у створанай імі краіне
на пытанне пра ўдалага продка
адкажуць:
яго ў нас няма.

### *ВОБМІРГ*

Сонца ўчарашняе
сёння не грэе,
поўня,
што заўтра ўзрасце,
зараз не цешыць.
Цяпло й мілажаль
выдыхаю
ў восеньскі золак,
нехта ў той вобмірг
адхуквае
рукі мае.

### *СЛОВАПАД*

Восень.
Словы спадаюць з мяне,
як лісты амярцвелыя з дрэваў.
Заўчора
закружылася ў прысадах
і лёгенька легла да ног
мара.
Учора
доўга трымцела на ветры,
але пад вечар усё ж адляцела
на супрацьлеглы бераг ракі
жаданне.
Сёння ад ранку
пад аголеным веццем
у парку ззалелым
гуляліся ў жмуркі
каханне й любоў.
Стаміліся
і прыгарнуліся сцішана
адно да аднога
яшчэ да шарай гадзіны.

Цяпер во
соладка спяць
пад коўдрай маёй
пухнатаю.
А я
сяджу ў нерухомасці
і варажу
на кававай гушчы:
заўтра
каторае з іх
пабудзіць мяне
на світанні?

### *ГУЛЬНЯ ГУКАЎ*

Перабіраю гукі
ў выпадковых словах.
Прысуседжваю розных.
Прытуляю падобных.
Дастасоўваю згодных
у гарызантальныя шэрагі.
Дапасоўваю супярэчлівых
у слупкі вертыкальныя.
Забаву маю бязвінную
раптам ступарыць блок
адной
надта прыткай чытачкі.
А кажаце,
што паэзія –
гэта ўсяго толькі
гульня гукаў
у выпадковых словах.

### *ЛЯ ПАЛАТЫ*

Хацела паехаць у горад,
у якім
маладая Рагнеда
навечна
адбіла слядочкі.
Але кірля знаёмая
прыляцела
й распавяла,
што там,
дзе чвырок Палаты
пры водмелі
захоўваў абрысы

босых ножак
князёўны цнатлівай,
цяпер толькі бачны
ступакі
выляжанкі
рабынічавай.

## *ЯК СМЕЦЦЕ З КВАТЭРЫ*

Самадайкі
ў рахубу жыцця
не ўваходзяць.
Гэта –
выняткі з лёсу,
як смецце
з кватэры,
у якой чысціня
і парадак
дзеля тога,
хто ў самадайкаў
скідвае бруд.

## *ДРУІДНЫЯ ГУЛЬНІ*

На зялёныя святкі
ў квартале чырвоных паходняў
любяць прыгадваць
дзіўныя звычкі
сталых кліентаў.
Хтось за хвілю
да ўзрыву ў сабе
маладога вулькану
хоча каўтнуць
едлаўцовай гарбаты.
Іншы да і пасля вывяржэння
з імпэтам раструшчвае жалуды.
А яшчэ ёсць такі,
які клён у двары абдымае
і штось летуценна нашэптвае,
гледзячы ў крону купчастую
перад тым,
як завучаным рухам
уціснуць у ложак цікаўную выляжанку.
Мабыць, сілу ад дрэваў бяруць, –
разважаюць путаны.
Ад такога радзіць бы не грэх –
здаровае будзе дзіця.

Не ведаюць прасталыткі,
што магічная моц
з няшлюбнага плоду
заўжды абрынаецца ў дол,
пакідаючы ў целе
заклёны наўкольным.
Але кельцкая кірля
ўляцела ў мой дом
і на падвоканні пёркам надрапала
назву расліны,
з якое запарваць напой
ад жарсцяў агульна даступных.
Код тых рунаў друічных
зашыфраваны ў капілярах
каханага ўлоння.

### *ЛЯЛЯ*

Учора княгіню на досвітку
абудзіла шчасная ўдзячнасць
да дваровае дзеўкі Татухі,
праз якую ёй Лада паслала
бясконцасць мілосных вёснаў.
І кожная з іх пачнецца,
як сёлетняя,
уборам, і станам, і ззяннем
селязіну вачэй у зяленіве
валадарства Ярылы,
і вянка з першацьветаў лілёвых,
і малочных частункаў сяброўак,
і шлюбу ў палацавым парку
з маладым мілажальным князем,
якому любосна расчэша
галінкамі белага бэзу
срэбрамудрую бараду.
На дзірвановым узложжы
кужэльныя Ляліны строі
ніколі не зменяць фасону
і чысцюткіх цнатлівых адценняў
ніколі не згубяць
у вечна вясновай ясноце.

### *ДУМАЮ ПРА МАМУ*

Зорка
акурат пасярэдзіне
майго вакна.

Гляджу і думаю:
мо гэта апошняя
начная свяцільня,
на якую
паспела падзівіцца
мая мама
перад тым,
як ніколі й нічога
ўжо
не пабачыць.

### *НА КАМЕННІ*

Узрыхляю розумам,
праполваю сэрцам,
паліваю слязьмі
маленечкі лапік зямлі,
на якім
толькі вецер гуляў
у засохлым бадыллі.
Але зярняткі,
што ўпалі сюды
сакавіцкім дасвеццем,
закрасавалі няўзнак,
несучы мне надзею,
усяляючы веру,
адарыўшы любоўю.
Глеба ўсюды й заўсёды
аднолькавая,
розняцца толькі
стасункі насельнікаў з ёю.
І наўздзіў мне глядзець,
як у тваім агародзе
на каменні
ўрадзіў
пустацвет.

### *НЕ ПЕРАЙМАЙСЯ*

Калі табе раптам раскажуць,
якое агіднае
маеш аблічча,
не пераймайся –
гэта яны шчэ не бачылі
ўсіх тваіх д’яблаў,
схаваных у нетрах
апастылага цела.

## *РАЗВІТАННЕ З СЯБРОЎКАЙ*

Развіталася сёння з Таётай.
Любіла яе і ўсяляк шанавала.
Ды вось неяк аднойчы
наткнулася поглядам
на першую літару ў назве яе
і жахнулася:
яна ж выдае
на крыж безгаловы.
Слуп, які мусіць
у неба імкнуцца,
зламаны.
Болей за тое –
пярэчынкі віснуць канцамі
ў зямлю.
Трупянеюць.
Як і чуцці мае
ў сустрэчах з сяброўкамі
з імем на літару Т.
Пакінула іх у мінулым,
а цяпер во й Таёце сказала:
бывай!
Каб самою не стаць
безгаловай.

## *НІХТО НЕ КРАНЕ МЯНЕ БЕСПАКАРАНА*

Твар, як патэльня,
хоць яечню засмажвай, –
слушна і справядліва
воблік падлеткавы мой
аднакласніца ацаніла.
Яна, між іншым,
са сваім бездакорным абліччам
стала акторкай.
Ты мне вельмі пасуеш,
як фон,
на якім я так хораша выглядаю –
шчыра сказала сяброўка студэнцтва,
перад тым, як пазваць на бяседу
з мастакамі вядомымі.
Але там нешта ёй не сфарціла,
і яна закруціла раман
з закаханым па вушы ў яе
братам маім.
Ясная справа – дзеля забавы.

Ведаеш,
вершы мае ўсе разбэрсаныя,
можа б ты іх крыху прычасала,
але рэдактарам кнігі
паставім імя
паэта выбітнага –
так будзе правільна
па маркетынгу.
Ну, зразумела, я згодная –
дзеля сяброўства
якая драбніца.
Тома акторка
сышла ў іншы свет,
не згуляўшы свае
зорканоснае ролі.
Сто разоў захлынулася
ў новай жарсці
і апынулася ў поўнай самоце
Лара-красуня.
Касавокасць у сыне,
у мужы,
у выстройванні лёсу
спасцігла цябе,
мая дарагая суаўтарка Лера,
якая так доўга хацела ўрасці
ў маю долю.
Ната станам цяпер
нагадвае слуп спарахнелы –
зычэнне яе
ў маю маладую паставу
не пацэліла
і вярнулася ёй бумерангам.
А пра Татуху й казаць
тут не буду –
бо з аблудаю ў блудзе яна
да скону не ўцяміць, што
Nemo me impune lacessit.
Ніхто не кране мяне
беспакарана.

### *ПЕРАЎТВАРЭННЕ*

Харошая,
добрая,
мілая,
сціплая,

сарамлівая,
спагадная,
усёдаравальная,
майстравітая,
гаспадарлівая –
адкідаю ўсе посныя
хваласпевы,
вартыя вернай прыслужкі
з-за печча.
Прышпіляю эпітэты
з балявальных святліцаў,
жарсцлівых узложжаў,
асалодных вясёлых вандровак.
Станаўлюся амаль што
гетэрай.
Можаш думаць –
мегерай.
Вусцішнаю вакханкай.
Непатрэбнай нікому жаною.
Каханай.

### *ПРАЧНУЦЦА*

Прачнуцца з першаю птушкай
і спрабаваць зразумець,
як доўга адной мне слухаць
самотную вакалістку.
У ціхенькай песеньцы чутна,
што ўжо абудзіўся світанак
і хутка заціўкаюць
іншыя пеюны.
Яна заспяшалася.
Збілася з рытму.
Меладычны мінор заскрыпеў
у фальцэтным мажоры.
Яго падхапілі і справа, і злева.
Абрынулі зверху.
Заглушылі салістку.
Заўтра нам з ёю
трэба спяваць
задоўга да досвітку.
Да дзённага хору.
Заўтра.
Прачнуцца.

## *ПРЫСУД САМОТНАЙ ПТАХІ*

Аднойчы ўвосень
ветру надакучыла
ў маіх няласкавых далонях,
і больш свавольніка я не злавіла.
Вясной жа сёлетняю
кветкі абурыліся
маёю фанабэрыяй
і дружненька пашкандыбалі ў нейчы
больш прыветны сад.
Сяджу на апусцелым полі
і слухаю прысуд
самотнай вечаровай птахі
пра пыху неўтаймоўную,
якую спадзявалася ўтапіць
у келіху бяздонным.
Раструшваю яго ды йду.
Не ведаю, куды вядзе
чырвоны след
па каламутнай сцежцы
ў тумановай роўнядзі
загуслага паўночнага паветра.

## *НЕ ПАВЕРЫЛА*

Сустрэліся з сынам старэйшым,
вясёлым і абыходлівым.
Пацалункі, абдымкі, балбатня ні аб чым.
І разбегліся.
Ускрылена рукі ўзнялі наўздагод.
Тэлефануе праз колькі хвілінаў
і разгублена кажа:
"Нас бачыла
мая нарачоная
і яна не паверыла,
што ты – мая мама".

# проза



Людміла Андзілеўка



*...следствіям устаноўлена*
*прычаснасць данных ліц*
*к угалоўнаму прэступленію...*

## Зорны час

***Апавяданне***

Ваўрыневіч перажываў свой зорны час... Ён заўсёды ведаў і памятаў: як чалавек паварочвацца да жыцця, так і яно ўрэшце павернецца да чалавека. Сказаць, што Ваўрыневіч шанцунчык, нельга і няпраўдай будзе. Нічога яму не валілася з неба. Дасягнутае за сорак тры гады мусіў Ваўрыневіч дабываць высілкамі, цярплівасцю, стараннасцю, паслухмянасцю – службай, адным словам. Хто служыў, таму распавядаць не трэба. Ваўрыневіч служыў міліцыі больш за дваццаць гадоў. Ад першых дзён зразумеў: як з цярпілавым не сябруеш, лепш скідай пагоны як мага хутчэй, іначай да бяды недалёка. Ён па прыродзе чалавек мяккі, многае такімі прымаецца лягчэй. Жлабом не быў па той жа прычыне, аднак і ў халуях не хадзіў. Ніхто не тыцне пальцам. Усё астатняе, як кажуць, – жыццё такое, нічога не зробіш... Аднаго баяўся – не ўпасці ў грэх, не забіць чалавека,

не нарабіць дзяржаве блоту. А з такім падыходам на пагоны зорак не начапляеш. Ваўрыневіч усё ж надзеі не губляў і чэсна нёс службу. Калі за святочным сталом пачыналі спяваць "Афіцэраў" Газманава, на словах "ваша сэрца пад прыцэлам" Ваўрыневіч ледзь стрымліваў слёзы, такім чуллівым і кранальным быў чалавекам. Канечне, яму не хацелася сваёй жаласлівасці выдаваць перад калегамі па службе і знаёмымі. Жонка яго характар цаніла. Асабліва цяпер, калі яму нарэшце далі капітана, жонка праніклася да мужа асаблівай павагай. Самому ж Ваўрыневічу – наадварот, менавіта цяпер стала перашкаджаць залішняя эмацыйная няўстойлівасць яго натуры. Вось сёння...

Кіраўніцтва даручыла Ваўрыневічу "произвести доклад" перад рэпарцёрамі і тэлекамерай, а ён не можа сабрацца. Які раз пачынае рапарт: то вусны задрыжаць, то шчака торгаецца, то ў горле перасохне да кашлю.

– Не хвалюйцеся так... Паспрабуйце сваімі словамі пераказаць, прасцей будзе, – супакойвала яго сімпатычная маладая дзяўчына, папраўляла на ім гальштук, выцірала спатнелы лоб.

Якое сваімі? Тут напісаныя і сто раз прачытаныя словы збягалі, сплывалі прэч неразборлівай стужкай.

– Спрабуем яшчэ раз, пачатак мы ўжо запісалі, патрэбныя кадры пакінем, няўдалыя – выдалім. Зробім мантаж, усё будзе о'кей. Давайце апошні абзац, канцовачку. Не хвалюйцеся.

(*Канцовачка...*): "Мы правялі цэлы рад разыскных і ісьледавацільскіх мерапрыяцій, б*ы*ла прыўлічано бальшоя калічаства нашых апіраціўных работнікаў і сатруднікаў МЧС. Задзействаваны агромныя срадств*а* і рэсурсы, как маціp'яльнава, так і фінансавава парадка. Мы ўлажыліс у кратчайшыя срак*а* па ўрэмені раскрыція прэступленія і п*о*імкі злосных прэступнікаў".

***

А было вось як...

Пілімень прачнуўся злосны. Ён мог спакойна спаць яшчэ паўдня, ды так захацелася есці, што, здалося, усярэдзіне хтосьці высмоктвае апошнія сілы. Ён заўсёды хацеў есці, колькі сябе памятаў. Малы не раз чуў ад суседзяў і радні: "З чаго гэты хлопец расце? Век галодны, някормлены, а во шыбуе ўвыш і ўшыр?" Надта-то ўвыш ён не шыбануў, спыніўся на 173 сантыметрах, а вось цельпукаватасці – дык і сам не рады. Пілiменя ў тлустыя ніяк не запішаш, але з прычыны караткаватасці рук-ног ён, сапраўды, ну вельмі ўжо падобны да пяльменя! Рухаецца Пілімень жвава, дробнымі крокамі, ён зусім не здольны спакойна хадзіць, толькі падскокам і подбегам, галава яго ўвесь час круціцца ў розныя бакі. Ці ад цікаўнасці, ці ад нервовасці? Карацей, Пілімень прачнуўся, гукнуў маці – ніхто не адазваўся. Ён раззлаваўся яшчэ больш, – значыць, маці зноў не начавала дома і паесці яму не ўдасца. Ён босымі нагамі прашлэпаў на кухню, пачухаў копчык, адчыніў лядоўню – адтуль шыбанула хваляй невыноснага смуроду. Халадзільнік стаяў пусты: пацёкі застарэлай крывавай жыжы ад даўно з'едзенага мяса, "астанкі-шкілеты" сырой рыбы – іх збіраліся зварыць кату, ды кот ужо тыдзень не паказваўся дома, відаць, сышоў на самастойнае сілкаванне, не давяpаючы гаспадарам, зброжанае на дне слоіка варэнне і падсохлыя, сцямнелыя кавалачкі "Часціка ў тамаце". На ім і спынілася вока Піліменя. Яго страўнік мог пераварыць нават цэмент з вапнай, не тое што сапсаваны часцік. Пацягнуўся па кансароўку і параніў аб востры ражок палец, глыбока,

няўдала – на самым хадавым месцы, дзе гнуцца фаланґі. Адразу пайшла цёмная густая кроў. Забінтаваць не знайшоў чым, пару разоў абцёр палец аб штаны, пару раз пацёр руку аб руку і забыўся. Вышкраб кансароўку, кінуў у сметніцу бляшанку, туды ж і ўпакоўку з хлебам, яго есці не стаў: змесціва поліэтыленавага пакета зарасло цвіллю. Пілімень апрануў сваю "зімалета" – робу бура-зялёнага ахоўнага колеру – і пабег да Цвіка. Па дарозе ён сунуў руку ў кішэнь, і аж запякло ў грудзях – намацаў там важкі скрутак. Бабло! Адкуль? Хацеў узрадавацца. Ды ўспомніў учарашнюю сварку з сястрой. Валька патрабавала выкупіць свой пярсцёнак, які Пілімень здаў у ламбард. Грошай на выкуп не было, Валька дастала з моднага бліскучага гаманца гэты скрутак, кінула на стол.

– Калі заўтра тут не будзе ляжаць мой пярсцёнак – яйцы соннаму адрэжу.

З Валькай жартаваць не выпадала, гэта Пілімень вывучыў змалку назубок. На сёння, значыць, праграма ёсць! Ідзём у ламбард. Настрой аптымізаваўся.

Цвік сядзеў на кухні, еў смажаную крышонку з апетытнымі шкарубачкамі. Пілімень выцягнуў з шуфляды лыжку і падсеў да стала. Цвіка кармілі як на ўбой. Маці дзьмула яму ў дупу ўсё жыццё і апекаваць збіралася да самай пенсіі, яго пенсіі, але дачакалася сваёй і памерла раптоўна, а Цвік ейны, па ўсім відаць, пенсіі не дачакаецца, бо ніколі і нідзе не рабіў. Хваліўся, што за ім лётаюць рэстаратары, запрашаюць шэф-поварам, але там мала, маўляў, плацяць, а Цвік дарма працаваць не дурны. Свішчы – думаў моўчкі Пілімень, але аддаваў належнае: Цвік мог прыгатаваць ежу, калі было з чаго. А было, пакуль што, з пенсіі бабулі. Матчына маці гэтак жа сама, як і дачка-нябожчыца, дзьмула ў дупу Цвіку. Ёй ужо за восемдзесят: Цвік ганяе старую як Сідар казу, калі напіваецца, а напіваецца, лічы, кожны дзень. Дык вось, яго кармілі як на ўбой, куды ўсё дзявалася – невядома. Быццам сіліцёр зжыраў знутры. Вечна меў сіне-зялёны твар. Цвік высачэзны, худы, прамы, як жардзіна, нягнуткі, і не толькі паставай – роўна і характарам – цвік-цвіком, уедлівы, упёрты, рэзкі. Жонка цвяліла – лепш бы такім нягнуткім быў у "нейкім іншым органе", толку больш было б. Пасля такіх слоў Цвік абражаўся, біў жонцы лыч, а тая не баялася ані – наўмысна нарывалася на бойку. Жылі кожны сам па сабе. Цвік сталаваўся пры бабулі, жонка з дзіцём пад'ядаліся ў ейных бацькоў. Сыдуцца на дзень, пасварацца, паб'юцца і – у розныя бакі.

Галава Цвіка сапраўды нагадвала шляпку цвіка. Яна пашыралася падверх і вянчалася прыплюснутай фрызурай прамых, жорсткіх, як дрот, валасоў – "кепка-аэрапорт грузіна".

Мінулы тыдзень Цвік з Пілименем цягаліся па кропках – ламбардах, марылі і жартам маракавалі, як бы лепш абрабаваць парачку. Ламбардаў, як і казіно з іґравымі клубамі, наторкана на кожным рагу, многія абсталяваныя электроннай аховай. Двума з іх запраўляюць амбалы-качкі. Яны, канечне, супраць Цвіка і Пілименя – пыл, гэта ясна! Але лепш выбраць той, дзе баба сядзіць. Бабы ва ўсіх кропках сядзелі хліпенькія, як на падбор, і не дужа злыя. Многія ламбарды месціліся ў "нявыгадных" шматлюдных павільёнах – не ламанеш. Затое два нагледзелі – самае тое! Вось у такі "ідэальны па ўсіх паказальніках" яны сёння выправяцца забіраць Вальчын пярсцёнак.

– Бачыў? – аблізваючы лыжку з апошняй жменькай крышонкі, Пілімень выняў з кішэні скрутак грошай, торкнуў пад нос Цвіку.

– Дзе ўзяў?!

– Дзе ўзяў, дзе ўзяў! З га...на зняў. Вальчын пярсцёнак зараз пойдзем выкупляць.

– Ааа... Во каб нам такі скрутачак, слухай! Адразу ў "Везувій" завалілі б такія! Сядзім такія за столікам, бля! Круты-ыя такія: "Чыскейт, хаддок... бягом, бля!"

– Давай што-небудзь здадзім, потым выкупім! – разласаваўся Цвіковай уяўнай карцінкай Пілімень. Цвік і сам ужо рашуча настроіўся.

– А што здасі?! Ні хера няма!

– Во, мікрахвалёўку тваю давай атапром. Новая, амаль што.

– Шкада... Маці з першай і апошняй сваёй пенсіі купіла. Знаеш, як крута ў ёй усё разаграваць. Баба прытарабаніць дранік з мясам, а я такі – клац пальцам, дзве мінуты і гатова. Шкада.

Але Цвік ужо аглядаў кухонны электрапрыбор. Ён быў акуратыстам – узяў сцірачку, намачыў пад кранам, стаў праціраць печ СВЧ з усіх бакоў: пашоргаў па шкле акенца, зазірнуў у шкапік, там павыціраў, выцягнуў з разеткі шнур.

– Папёрлі! Толькі дагавор: кроў з носу – выкупім!

– Факт!

Мікрахвалёўку з прыскокам нёс перад сабой Пілімень. На метры два адстаючы, важна і нетаропка, як дэпутат на паседжанне, сунуўся Цвік. Гэты ламбард арэндаваў вялікі пакой у будынку інтэрната якогась даследчага інстытута. На ўваходзе за сталом сядзела вахцёрка, а ў канцы доўгага пустога калідора, налева, за жалезнымі, рудога колеру дзвярамі прыёмшчыца чакала кліентаў. Першая палова пакоя пуставала, у ёй нецярпліва таўкліся Пілімень з Цвіком. Другую, надзейна і культурна адгароджаную моцнай металічнай рамай, выштукаванай з арматуры на манер мастацкага твора – букет цюльпанаў, займала прыёмшчыца. Пакуль жанчына адчыняла сваю гаспадарку пасля абеду, Пілімень разглядаў даўна знаёмы яму інтэр'ер закратаванай паловы. Там стаялі толькі стол з шуфлядкамі, высокая паліца пад аб'ёмныя рэчы і сейф. Жанчына пазнала сваіх кліентаў. Дастала з сейфа Вальчын пярсцёнак, пералічыла атрыманыя грошы. Пілімень чакаў, трымаючы перад сабой мікрахвалёўку – прыткнуць яе не было куды. Палец яго параненены напругі не вытрымаў, луснуў на засохлым разрэзе і пацёк барвовай крывёй па белай бакавіне печы.

– Будзеце здаваць СВЧ?

– Угу, – пацвердзіў Цвік.

– Давайце пашпарт.

– Выцягні з кішэні, – падставіў свой бок Пілімень.

Прыёмшчыца ацаніла амаль новую рэч не дарага, – але ж і выкупіць будзе прасцей, падумаў Цвік. Згадзіліся. Жанчына перапісала звесткі з пашпарта Піліменя наноў, нягледзячы на тое, што ў яе на стале заставалася ляжаць квітанцыя ад Вальчынага пярсцёнка.

– А раптам пашпарт памяняў? – пажартавала яна.

Сейф тым часам стаяў расчынены на працягу ўсяго папяровага працэсу, у ім віднелася добрая кіпа грашовых купюр і скрынка з кулёчкамі, у якія пакавалі пад захоўванне залатыя вырабы.

– Ну, давайце, хлопцы, заносьце СВЧ сюды, стаўце на паліцу.

– Зорны час, – прашаптаў Пілімень на вуха Цвіку. Міргануў яму, паварочваючыся ў праходзе. Той не скеміў, разявіў рот і застаўся стаяць вонку.

Пілімень паставіў мікрахвалёўку на паліцу, кінуўся да жанчыны, скруціў ёй рукі за спінай.

– Давай! – скамандаваў ён Цвіку чужым голасам.

Той няўклюдна, запаволена пасунуўся за краты, пачаў вынімаць што пападала пад руку з сейфа і запіхваць у кішэні. Пілімень падганяў яго, адной рукой дацягнуўся да шуфлядкі, адчыніў, знайшоў некалькі купюр, стаў намацваць і ніяк не мог намацаць кішэнь. Яны так нерваваліся, што не заўважылі, як жанчына націснула кнопку бяспекі.

(*Пачатак*): "Сігнал з аб'екту паступіў у аддзяленія апорнага пункта ахраны правапарадку ў 13:13, чэраз чатыры мінуты аўтамабіль з двумя сатруднікамі міліцыі прыбыл па вызаву на места сработаўшай сігналізацыі".

Машына з сінімі пасачкамі спынілася ля гуртжытла. Двое ўзброеных, апранутых у бронекамізэлькі супрацоўнікаў міліцыі вышлі з аўто. Яны запыталіся ў вахцёркі інтэрната, ці не здарылася што ў ламбардзе? Ці так – спрацавала сігналізацыя?

– Не ведаю. Напэўна, так, спрацавала. Я бачыла, як прыёмшчыца на абед выходзіла. Вярталася ці не – не заўважыла.

Міліцыянеры зірнулі ў доўгі цёмны калідор і вырашылі спачатку абысці будынак з вуліцы.

(*Працяг №1*) "Сатруднікі міліцыі акружылі зданія абшчэжыція, цем врэменем прэступнікі пакінулі памішчэніе ламбарда..."

Пілімень і Цвік выбеглі з інтэрната і падаліся за агароджу ў кусты. З кішэняў ва ўсе бакі пырснулі россыпам і паштучна залатыя ювелірныя вырбы.

(*Працяг №2*): "У працэсе расследаванія прышлось абрашчацца к помашчы металаіскацеля. Нашы сатруднікі вынужджэны былі скрупулёзна і чшацельна абследаваць маштабныя церыторыі с цэлью атысканія ўкрадзеных і пацераных у ходзе бегства прэступнікаў ювелірных ізделій із золата. Прахожыя людзі прынасілі свёрткі с залатымі ўкрашэніямі, найдзенымі на тратуарэ. Многае з украдзенава ўдалось вярнуць владзельцам ламбарда..."

У канцы завулка Цвік з Пілiменем спыніліся, паваліліся на газон. Яны, нязвыклыя да фіззарадкі і спартыўных нагрузак, захакаліся.

Калі выкліканая падмога ў выглядзе аператыўнай групы "уварвалася" нарэшце ў памяшканне ламбарда, раз'юшаная прыёмшчыца падала ім пашпарты і квітанцыі "кліентаў".

(*Працяг №3*): "У ходзе правядзенія апераціўна-разыскных мерапрыяцій следствію ўдалося па крупіцах сабраць мнагачысленыя ўлікі ў выглядзе атпічаткаў пальцаў, крові, так называема, пяцен бурава цвета, непасрэдственна слядоў ад обуві і так далее... Даставерна следствіям устаноўлена прычаснасць данных ліц к угалоўнаму прэступленію".

– Ніхера-а... Хутчэй у "Везувій"! – падхапіўся першым з газона Пілімень.

"Везувій", клуб гульнявых аўтаматаў з невялічкай кавярняй-барам, займаў суседняе памяшканне: дзверы ў дзверы з апорным пунктам аховы правапарадку, калі працей і больш звыкла, з аддзяленнем міліцыі. Ваўрыневіч выйшаў курнуць на ганак, у думках прыкідваючы, куды б маглі падацца рабаўнікі ламбарда? Разам з ім на ганак выйшаў з кавярні клуба "Везувій" знаёмы яму афіцыянт. Хлопец засмяяўся і па-сяброўску стаў падкалваць Ваўрыневіча.

– Ну што, яшчэ не надумаў у прыватную сферу падавацца? Во як працаваць трэба! – ён дастаў з кішэні той самы Вальчын скрутак. – Ты месяц будзеш заробак чакаць, які я толькі што атрымаў за адну падачу. У нас сёння "крутыя" чаявымі башляюць!

Свежыя кліенты клуба "Везувій" яшчэ і рот не паспелі адкрыць, каб паспытаць нядаўна прынесеную замову, як на руках злачынцаў клацнулі "бранзалеты".

## Яўген Гучок



...Забіць чалавека –
Замахнуцца на
Бога...

# Замах на Бога

***Слова аб забойствах***

*Паэма-эсэ*

*Забойства заўсёды гнюсна,*
*Часам яно неабходна,*
*Але заўсёды гнюсна.*

**Анры Барбюс**

* * *

Сярод злачынстваў на зямлі
Найбольш мярзотнае –
Забойства.

* * *

Усё забойцам у свеце ненавісна:
Прырода, чалавек і
Бог.

* * *

За забітыя рэчкі,
За забітыя моры
Неба адпомсціць людзям.

* * *

А ці ёсць што цяжэй і страшней
За забойства?!.
Яшчэ раз забойства... і не адно.

* * *

Адымаюць забойцы ў людзей
Жыццё, Радзіму
І любоў да Бога.

* * *

І як бы і што ні было,
Забойца заўжды –
Добраахвотнік.

* * *

Забойства –
Не іншае што,
Як, у першую чаргу, – людажэрства.

* * *

Лічаць забойцы: усё для іх,
А парэшткі, і парахня, і пыл –
Для астатняга люду.

* * *

Забойцы! Зямля – для іх,
Сонца – для іх,
Але Бог – не для іх.

* * *

Забойцы...
А ці не забівалі яны ў іншым жыцці
Жыцці чужыя?!.

* * *

У першую чаргу зямля
Забойствамі адгарадзілася
Ад неба.

* * *

Забойцы між людзей –
Горш тромбаў, што зрываюць
Рытмы сэрца чалавецтва.

* * *

І словы праўды,
І імпульсы сумлення
Забіў забойца у сабе даўно.

* * *

Забіць чалавека –
Замахнуцца на
Бога.

* * *

Усіх узроўняў забойствы
Да вар'яцтва вядуць
Чалавецтва.

* * *

З кожным забойствам
Да заходу свайго
Набліжаецца чалавецтва.

* * *

Спачатку – выспятак,
А потым – з носа кроў,
А там і да забойства – недалёка.

* * *

А коштам іншых
Ад тлушчу вар'яцець, –
Хіба і гэта не забойства?!.

* * *

На вынас чужога жыцця
Існуюць усіх рангаў
Забойцы.

* * *

Забойца спіць,
А ў ім даўно прачнулася
Забойства.

* * *

Не чухаецца ў роздуме забойца,
Забойства ў ім свярбіць
Бы заклік.

* * *

Няпраўда, што забойца не ўсведамляе,
Што вычварае ён!..
Ведае, вельмі добра ведае.

* * *

А сам забойца
Дык вельмі хоча жыць і ўладарыць,
І мае адвакатаў у грамадстве.

* * *

Кожны крок
І сэрца кожны грук
У забойцы – настырліва-агрэсіўныя.

* * *

Сэрцы забойцаў арагавелі,
Ад людства яны адгарожаны
Клыкамі дзікоў.

* * *

У забойцаў свае абсалюты, –
Каб здаровага чалавечага духу
Паўсюль не было.

* * *

Фанабэрацца ў колах сваіх забойцы,
Хто больш
І хто лепш забіваў.

* * *

Сёй-той забойствам пацяшаецца,
Рыхтуючы сабе пякельны
Лёс.

* * *

Забойца ролю забойцы
Імкнецца змяніць не невядомага
Ролю.

* * *

А яшчэ ёсць забойцы, якія
Любяць разыгрываць ролю
Рупліўцаў-любімцаў народа.

* * *

Камень за пазухай –
Сэрца і розум
Забойцы.

* * *

Так, камень за пазухай
Фарміруе унутраны ўклад
Забойцы.

* * *

І на камні за пазухай
Точыць сэрца сваё
Забойца.

* * *

Замоўшчык забойства –
Забойца
Ў квадраце.

* * *

Хто ставіць задачу перад забойцам?!.
Вядома, д’ябал у чалавечым нібыта
Абліччы.

* * *

Заказчык і выканаўца
Смалою забойства
Спаяны.

* * *

Як за работу,
Плацяць за забойства...
Ну як за спорт.

* * *

Істота з выгнілым сэрцам
Шукае-знаходзіць сабе ахвяру
І як правіла – безабаронную.

* * *

У забойцы душа – дыхляціна,
Агрэсіўная
І бязлітасная.

* * *

Душа забойцы – выграбная яма,
Куды невінаватых
Чалавеканенавісніцкі збаёдвае рэжым.

* * *

Забіць чалавека –
І ў думках –
І гэта кар’ера-гульня паскудніка.

* * *

З кім жа забойца раіцца,
Калі на забойства ідзе?!.
З апраметнай, вядома.

* * *

Чарговае забойства –
Вось і ўсе навіны
У забойцаў.

* * *

Забойца забойцу шукае,
Каб разам ахвяру забіць,
А потым самі – адзін аднаго.

* * *

Калі забіваюць забойцы забойцаў –
Для д'ябла відовішча пажаданае,
Як для патрыцыяў гладыятарскія баі.

* * *

Забіваць у забойцаў – проза,
А ёсць у іх яшчэ і
Паэзія.

* * *

З цягніка па дарозе ў вечнасць
Скачуць-валяцца пад адхон
Злачынцы-забойцы...

* * *

Ізноў Хрыста ўкрыжоўваюць.
А хто?
Пераважна так званыя хрысціяне.

* * *

А так званыя патрыёты
Радзіму сваю
Укрыжоўваюць.

* * *

Нырнуў у забойства –
І вынырнуў з вяроўкай
На шыі.

* * *

За вока – літасць,
За зуб – любоў...
І што ўрэшце рэшт з гэтага выйдзе?!.

* * *

Не любоў,
А забойствы
Удасканальваюцца на зямлі.

* * *

Грамадзянства забойства не мае,
І месціцца на ўсіх кантынентах яно
Ва ўсіх стагоддзях зямлі.

* * *

А мо і сапраўды
Наша зямля
Вар'ятня ў Сусвеце?!.

* * *

Гэтага за чужую маёмасць забілі,
Таго – за розум...
Няўжо абыякавым будзе Бог?!.

* * *

Злачынствамі і асабліва забойствамі
Планета перапаўняецца...
І не выключана, – рассыплецца яна ў парахню.

* * *

Д'яблу ногі памылі –
І вылілі тую вадкасць
На галовы забойцаў і іх заказчыкаў.

* * *

Хто сказаў, што птушкі
Пазбаўлены клопату?!,
А быць людзьмі не забітымі?!.

* * *

Эй, паляўнічыя,
А ці не пайсці вам без зброі
На тыгра?!.

* * *

Забіваць перастанем жывое –
Будзем літасцівы
І да бліжняга.

* * *

Быццё, асветленае праз забойства,
Больш змрочным і больш чорным
Будзе.

* * *

Што ім аднаго чалавека забіць,
І нават дзясятак, сотню, тысячу...
Яны на народы замахі маюць.

* * *

І масавыя забойствы людзей
Для забойцаў –
Звычайнае мерапрыемства.

* * *

Заўжды вялікі рэйтынг папулярнасці
Забойцы мелі у гнілым
Грамадстве.

* * *

А большасць усяго забойцаў
З пагонамі на плячах
І партбілетамі ў кішэнях.

* * *

І як правіла
Найбольш забойцаў
У так званых службах бяспекі.

* * *

Забойцы –
Чаляднікі
Мангола-татарскіх рэжымаў.

* * *

Часам масавыя забойствы
Прыкрываюць-апраўдваюць забойствам
Адной адыёзнай, бязбожнай істоты.

* * *

Забойствы не толькі праз нож,
Кулю бомбу і г. д.,
Але і хлусня, абраза, паклёп – з тае ж абоймы.

* * *

Мараль “гаспадароў” жыцця
Таксама жывіць
Псіхалогію забойцаў.

* * *

Не толькі мір,
Але і перамір’е
Для забойцаў не прымальны.

* * *

Ці ставіць помнікі забойцам?!.
Іх процьма па ўсёй зямлі
У бронзе, мармуры і кветачкі пад імі.

* * *

А тым, хто шкадуе забойцаў,
Параім пашкадаваць
Сябе.

* * *

У забойцаў шмат падтрымкі;
У ахвяры – звычайна яна –
І малая, і сціплая.

* * *

Выхавацелі, адвакаты забойцаў,
Паміж вамі з забойцам
Цвёрдай мяжы няма.

* * *

Забітая памяць
Аб нявінна забітых –
Забойства без межаў.

* * *

Большасць палітычных рэжымаў
Забоі і прадукуюць
І карэктуюць.

* * *

Шалёны сабака загрыз малечу...
А хто стане абараняць
Сабаку таго?!.

* * *

Кожны забойца пры статусе –
Партыкуляр, радавы, маршал...
А сутнасць у іх – адна.

* * *

А з носа крывёй пагражаць –
Хіба гэта не прыступка
Да забойства?!.

* * *

Смерцю караць забойцаў!
Але толькі не нашых,
Не дазволім!

* * *

Давёў да самагубства чалавека –
Ты і сябе
Забіў.

* * *

А іншым рот забіваць

Жалезабетонам –
Хіба гэта, скажаце, не забойства?!.

* * *

А галаслоўнасць, і дэмагогія,
І ашуканскія абяцанкі
Патыхаюць таксама забойствам.

* * *

Дзе карупцыя і дзедаўшчына,
І там прытулак мае
Забойства.

* * *

А гэта хіба не забойства
На дзяржаўным узроўні
Праўду забараняць аб паходжанні беларусаў?!.

* * *

І мову ставіць у такія ўмовы –
Гэта таксама
Забойства.

* * *

Так, этнацыд
І лінгвацыд –
Забойства планетарнага маштабу.

* * *

І зноў жа мову працягваць
Зжываць са свету –
Працягваць яе забіваць.

* * *

Ператвараць народ у нішто
Ці да сябе падобнага –
Забойства, забойства, забойства.

* * *

І забойствамі
Дарога ў пекла
Выслана.

* * *

Канавы, кюветы, ямы –
Гасцінец, бальшак
У пекла.

* * *

Так, на зямлі,
Тым болей забойствы –
Цераз забойствы.

* * *

Пераважна:
У ахвяры душа – басаножка,
У забойцы яна – бы кованы бот.

* * *

Пераадолець інстынкт забіваць –
Выхад са свету
Звярынага.

* * *

Прадухіліць забойства –
Даць паратунак
І ахвяры, і забойцы.

* * *

Чалавек! Чалавек!
Вучыся жывое не забіваць
І сябе – адначасова.

* * *

А хто не здольны забіваць,
Быць можа на зямлі
Супергероем.

* * *

Абясшкодзіць забойцу –
Не значыць
Яго забіць.

*P. S.*

Забойства – гэта перадусім –
Замах і на Бога,
Але бесперспектыўны і беспаспяховы.

## Эліза Ажэшка



...зорка, за якую
я аддаў жыццё...

# Смерць дома

***Навела***

*Пераклад з польскай Анатоля БУТЭВІЧА.*

### Загадкавая і праўдзівая Ажэшка

Як ні дзіўна, але я ўсё больш пераконваюся, што, чым глыбей спазнаю створанае Элізай Ажэшкай, чым мацней намагаюся зразумець нюансы яе твораў, яе задум, яе выяўленчых сродкаў, тым мацнее адчуванне, што я няздольны разгадаць усе яе загадкі і творчыя памкненні. І гэта не дзеля ўсхвалення і без таго прызнанай і годна ўсхваленай нашай знакамітай зямлячкі. Сапраўды, у творчасці Ажэшкі годна паядналіся і яўна бачныя сюжэты, хады, дбала выпісаныя характары, і тое, што выклікае развагі, заклікае да пошукаў ісціны, нярэдка схаванай за словам, у радках яе твораў, чаго часам вымагалі абставіны тагачаснага жыцця і нязмоўчная цэнзура. Тым не менш, не сказаць пра тое, што ёй балела, што хвалявала і захапляла, яна не магла. Выказвалася. Калі адкрыта, калі прыхавана, але людзі дасведчаныя разумелі ўсё. Праўда, з часу таго разумення мінула шмат дзён, і мо сённяшні погляд на

створанае Ажэшкай прыхоўвае тое ранейшае разуменне, змушае да высвятлення нібыта пабочных абставін і асэнсавання яе творчасці ў сукупнасці са створаным іншымі на тыя ж тэмы. Але справядліва і тое, што гэтаму спрыяе тая праўда гісторыі, якая больш поўна стала вядомай пасля творчасці і жыцця Ажэшкі. Тым не менш, сама пісьменніца пакінула нам шмат карысных сведчанняў тагачаснага народнага жыцця і змагання за сваю праўду, за лепшую будучыню сваёй зямлі.

Гэтыя развагі мо найбольш датычаць яе зборніку навел “Gloria victis” (“Слава пераможаным”), прысвечанаму паўстанню 1863 года. Хоць, што праўда, да паўстання яна звярталася і ў рамане “Над Нёманам”, дзе, таксама мае месца канспірацыя і схаванасць. Але ж... А вось пяць навел, якія Ажэшка ўключыла ў сваё апошняе прыжыццёвае (1910 год) выданне пад гэткай жа назвай “Gloria victis”, непасрэднае і ўжо практычна непрыхаванае сведчанне таго, што бачыла пісьменніца сваімі вачыма, што чула сваімі вушамі, пра што адкрыта гаварылі – праўда, між сабой – непасрэдныя сведкі, а то і ўдзельнікі паўстання. Здавалася б, тут ужо не месца загадкам. Аднак жа...

Як вядома, у прыжыццёвым выданні Ажэшкі было пяць навел – “Gloria victis”, “Афіцэр”, “Бог ведае хто”, “Яны”, “Ґекуба”. А вось у пазнейшыя кніжкі і зборы твораў выдаўцы дадалі да гэтага цыклу яшчэ тры навелы, небеспадстаўна палічыўшы, што яны таксама адносяцца да паўстанцкай тэмы. Хоць, калі на маё меркаванне, то у гэтых новадададзеных навелах тое паўстанне мо акурат найбольш прыхаванае, а то і моцна закамуфляванае, можа, нават – безасабовае.

Калі ў тых першых пяці навелах дзейнічаюць рэальныя людзі, часам называюцца канкрэтныя абставіны, то ў новых, а гэта “Смерць дома”, “Панна Ружа”, “Дзіўная гісторыя”, шмат іншасказальнага, невідавочнага. А яднае іх усе той жа дух, тая прыхільнасць Ажэшкі да мастацкага асэнсавання і запамінання ўсяго таго, што спарадзіла паўстанне, у тым ліку таго, што адбывалася пасля паўстання. І таму той жа разбураны як жыццёвы прытулак і галоўны набытак сям'і жылы дом, тая ягоная смерць без невядома куды (нам, як і Ажэшцы, вядома куды) зніклых гаспадароў, сведчыць пра паўстанцкі лёс гэтых насельнікаў дома. Таму і смерць дома, разрабаванага ўвішнымі суграмадзянамі, дома, у якім урэшце рэшт запанавала магільная цішыня, бясспрэчна становіцца сведкай смерці, рэальнай альбо ўяўнай – калі яны жывымі адпраўлены на катаргу, тых, хто цягам свайго жыцця ўладкоўваў і шанаваў гэты дом, збіраў і захоўваў ягоны багаты набытак, неабходны для годнага жыцця.

І хай сабе памрэ – не, памёр ужо – гэты некалі так добра абжыты стары, вельмі стары, дом, ды не знікне, не выветрыцца, не прыцьмее, не памрэ памяць пра тых, хто, ахвяруючы ўсім гэтым, далучыўся да паўстанцаў і падзяліў іхні жыццёва небяспечны лёс. Пра тое вельмі добра памятаюць ці не галоўныя героі твора – снягір з сарокай, жоўты сабачка, які з жалем праводзіць дарагія некалі і яму прадметы з дома. Нават снягір, продкі якога здаўна жылі тут, каля дома, не разумее, чаму “тыя вокны, даўней такія вясёлыя і прывабныя, зараз такія пустыя і нямыя”. А вось сарока не разумее яго, “смяецца зноў і адказвае, што трэба быць снегіром, каб не ведаць, што калі нехта памірае, то ў яго патухаюць вочы”.

Так, героямі навелы становяцца птушкі, жывёлы, прадметы, а не людзі, хоць і іхнія воблікі часам праглядваюцца праз гэтую разбуральна-прадметную мітусню каля дома і вакол ягонага колішняга і нядаўняга багацця. Пра страчанае і тое, што знікае з дома і з вачэй, больш непакояцца і ледзь не плачуць не гаспадары, а ўсе тыя і ўсё тое, што некалі жыло разам з імі.

Жыло. Некалі. А што зараз? Чытайце навелу...

**Анатоль БУТЭВІЧ**

## Смерць дома

Галас шумных размоваў, смеху, спрэчак; тлум коней, рознымі людзьмі трыманых за аброці, і быдла, якому на шыі накідваюць вяроўкі; натоўп сялян, габрэяў, дваровых, шэры, сярмяжны, разагрэты прагай выгады, гаварлівы, неарганізаваны, з бляскам вачэй з-пад пакамечаных шапак. Сярод натоўпу, перад адчыненымі варотамі стадолы, стайняў, кароўнікаў, на падсцілцы з бруднай і пажмяканай саломы – старая карэта, яшчэ новы і ладны кабрыялет, некалькі брычак, вазы, на адным з якіх блакітна пафарбаваная малатарня, на іншых плугі з бліскучымі лемяхамі, бароны, павернутыя зубамі ўгару, перамяшаныя ножкі ад сталоў і зэдлікаў, вялікія чырвоныя шафы, пашкоджаныя альбо паламаныя, безыменны і бясформенны інвентар, мэбля, розныя старыя рэчы, усялякая непатрэбшчына. Усё гэта на вялікім роўным дзядзінцы, з аднаго боку якога стаіць гушчар дрэў ужо амаль без лісця, з другога, за сям-там пафарбаваным плотам, ляжаць пад светлым небам парудзелыя, прасторныя, сонныя палі.

Пад густымі дрэвамі, што заслонай з цёмных кронаў узвышаюцца над белым, выцягнутым ўдоўжкі домам, на вялікім ганку, які падпіраюць чатыры тоўстыя калоны, стаіць стол з бруднай чарніліцай, з невялікім стосам шэрых папераў, з пяром, заплямленым чарнілам, і са старым званком, ручка якога імітуе гарэзліва выгнутую малпачку. Ля стала тры незанятыя на гэты час крэслы; з абодвух бакоў ганка па шэсць вокнаў, крышку прыўзнятых над зямлёй – усе шчыльна зачыненыя, а знутры голыя. Над гонтавым дахам з шырокім унізе навесам і спічастым верхам, на самым высокім дрэве знаходзіцца, відаць, ветрам скрыўленая буслянка.

Старасвецкія дзверы дома з разьбой, якая імітуе густа набітыя цвікі, шырока адчыняюцца і некалькі чалавек, моцна грукаючы велікаватым абуткам, выносяць з іх груваасткае і цяжкае начынне. Як быццам у адказ на гэты покліч частка натоўпу, што валтузілася каля коней, быдла і вазоў, паспешна кідаецца да ганка. Відаць, паны чыноўнікі ўжо скончылі снеданне і неўзабаве працягнуць перапынены на паўгадзіны распродаж. Коні, быдла, гаспадарскае начынне, старызна, якой былі забіты флігель і амбар, прададзеныя ўжо і набытыя; цяпер чэргі па хатні рыштунак. Ха-ха, цікавая гэта рэч, рыштунак такога старога дома; вельмі старога, бо садоўнік Іахім, якому ўжо, відаць, семдзесят гадоў, апавядае, што дом збудавалі тады, калі ягоны дзед быў яшчэ малады. За такі працяглы час і за жыццё гэтулькіх пакаленняў назбірацца там мусіла шмат розных рэчаў. Таму малады Франусь Кулік, які ў бліжэйшую масленіцу меў ажаніцца, раптоўна распіхвае людзей і з рукамі, абапёртымі на клубы, становіцца бліжэй да ганка. Але мельнік Заўрук і гандляр Мендаль нікому на распродажы саступаць не прывыклі; таму грудзямі, як таранам, стукаюцца аб жалезныя локці задзірыстага заступоўца, а вачэй не спускаюць з выстаўленай на беразе ганка вялікай і глыбокай канапы з чырвонага дрэва, з масіўнымі падлакотнікамі і аббіўкай, на цёмным фоне якой выдзяляюцца два спалавелыя, вышытыя па канве пейзажы. Даўно ўжо тыя пейзажы былі вышытыя, вельмі даўно, бо стары Іахім быў тады маладым задзірыстым хлопцам і, можа, не меў яшчэ дзесяці гадоў, калі старэйшая пані вышывала пейзажы, ткучы іх на кроснах, выглядалі яны такімі прыгожымі, што прыцягвалі позірк і рукі хлапца заўсёды, калі націраў паркет, а вокам кідаў на кросны. Тады і старэйшая пані была яшчэ маладой, і да прыемнага занятку прыступала не іначай, як з вясёлым напяваннем. Часам, калі пана не было дома, а дзеці забаўляліся ў садзе, яна адна сядала за кросны ля адчыненага вакна, праз якое даляталі шэлест лісця, пахі кветак, смех дзяцей. Вышывала і напявала. Колькі разоў прасоўвала нітку ў іголку, столькі разоў і напявала, а часам і спявала так голасна, што чуваць было ва ўсім доме. Напярэдадні імянін пана рымар Ежы абабіў тую канапу цёмнай матэрыяй з гэтымі вышытымі на ёй пейзажамі. Пан быў вельмі задаволены, госці,

якіх шмат наязджала на імяніны, гэткай працы не маглі надзівіцца. Іахім добра памятае той дзень, бо з'еў у буфетным пакоі шмат смачных рэчаў і некалькім аднагодкам, якія прыехалі разам з гасцямі, паказваў на алешынах, што раслі за садам, месцы гнездавання шпакоў і ўдодаў. Калі ж яны, як каты, залазілі на дрэвы, ад дома быў чутны гром музыкі, размоваў, бразганне сталовых прыбораў. Свет знаходзіўся ў зелені, а дом – у весялосці. Не дзіўна таму, што, усё тое добра памятаючы, старэча ў доўгай, да костачак, сярмязе становіцца на пальчыкі, худымі рукамі чапляецца за парэнчы ганка, выцягвае касцістую шыю і так пільна, уважліва, напружана ўглядаецца ў спалавелыя пейзажы канапы, што ажно жоўтыя павекі пад сівымі брывамі пачынаюць хутка, усё хутчэй міргаць. Але ў гэты ж момант паміж ягоным вялізным і запэцканым абуткам і парэнчай ганка ціхенька пралазіць стварэнне, якое таксама нешта памятае, і, асцярожна мінаючы людскі натоўп, набліжаецца да канапы. Гэта невялікі сабачка, вельмі худы, з жоўтай, ускудлачанай ад занядбання шэрсцю, з падобным да лісінага апушчаным хвастом і невыказна самотнымі вачыма ў белых абадках. Падбег, а хутчэй падпоўз да канапы, абнюхаў і, прыклаўшы да яе пысу, пачаў ціха скуголіць. Любімая канапа! Жоўты сабачка добра памятае, як называлі яе ў доме канапай бабуні, як сядалі на яе асобы, якіх ён любіў, і рукі якіх далікатна і прыязна, пяшчотна лашчылі яго па гладкай тады шэрсці. У той час ён меў права нават пасядзець на пейзажах, а зараз не можа хоць бы зірнуць на іх, бо людзі навокал ціснуцца так напорыста, так настойліва, што ён, скурчаны і прыгнуты да зямлі, мусіць ўціснуцца пад канапу, дзе звіваецца ў клубок і паціху скуголіць. Людзі ж тым часам так цесна абступілі стол з чарніліцай, паперамі і званком, што ў чыноўнікаў, якія сядзяць каля яго, відаць толькі адна шапка з бліскучай зорачкай, адзін бледны і востры профіль і адна худая доўгая рука, якая перакладае паперы. Тонкія вусны бледнага профілю гучна прамаўляюць некалькі словаў, якія заканчваюцца яшчэ больш гучным і падкрэслена выразным запытаннем:

– Пяць! Хто дае болей?

Францусь Кулік, чырванеючы, густым басам выгуквае:

– Пяць пяцьдзясят!

Мельнік, якога папрасіў Кулік, маўчыць, але гандляр, мяркуючы, што ўсё-ткі гэта сапраўднае чырвонае дрэва, піскліва крычыць:

– Шэсць!

Бледны профіль паўтарае:

– Шэсць! Трэці раз! Хто дае больш?

Кулік, увесь счырванелы, з замашыстым жэстам выкрыквае:

– Сем!

– Хто дае болей?

Маўчанне. Мендаль разважае і сумняваецца: а хто на такой старасвецкай рэчы захоча сядзець? Нікому іншаму з прысутных канапа з пейзажамі наогул для ніякай патрэбы не можа прыдацца. Тады доўгая худая рука, якая хвіліну да гэтага перабірала паперы, цягнецца да званка, хапае гарэзліва выгнутую малпачку і моцна ёю трасе. У паветры чуецца пранізлівы звон. Кулік з трыумфам дастае з-пад курткі скураны мяшэчак з грашыма і падступаецца з ім да стала.

Зараз ужо мноства рэчаў запаўняе вялікі ганак, а людзі, моцна стукаючы ботамі, выносяць з дому новыя і новыя і ставяць іх перад сходамі ганка. Гэта самае differnt начынне, больш-менш новае, і таму яно прадаецца хутка і добра. Цяжэй са старым пісьмовым сталом, багата аздобленым бронзай і ўпрыгожаным зверху двума люстэрачкамі. Яго ацанілі даволі дорага, а ва ўсім людскім натоўпе няма ніводнай пары вачэй, якія маглі б захапіцца гарманічнымі лініямі і строгім упрыгожаннем гэтай старой памяткі. Толькі стары Іахім, пастаянна абапёрты на парэнчу ганка, пазірае на яе шырока расплюшчанымі вачыма, бо вельмі добра

памятае, калі быў ужо садоўнікам, то прыходзіў найперш да старэйшага, а пасля да маладзейшага пана, а затым і да ўдавы маладзейшага, з пытаннем, парадай альбо просьбай, старэйшага і маладзейшага, і ўдаву маладзейшага часта знаходзіў ля адчыненага века таго пісьмовага стала, у мностве шуфляд і шуфлядак якога захоўвалася шмат гаспадарчых і іншых папер. Маладзейшага часцей бачыць у гэтую хвіліну перад сабой як жывога. Рахункаводам ён быў здольным; ля гэтага століка сядзеў ужо тады, калі ўсе ў двары яшчэ спалі, запісваў у кнігі лічбы, падкрэсліваў, падлічваў. Толькі маладзенькага сына заўчасна не навучыў лічыць, бо, як толькі пасталеў, улюбіўся ў зорку, узляцеў да яе, як арол, і загінуў, як муха, а дакладней, як асенні ліст: панясло яго кудысьці далёка, і – прапаў.

– Дваццаць! Трэці раз! Хто дасць болей?

– Дваццаць і адзін! – гукае сівы ягамосць у шэрым сурдуце і яшчэ крыху вагаецца, але махае рукой і дадае: – Што зробіш? Няхай хоць такія люстэркі для дзяўчат будуць у хаце!

Гарэзліва выгнутая малпачка, якую патрасае худая рука, пранізліва звоніць. Пакупнік, з растуленымі ад радасці вуснамі, высоўвае шуфлядкі над вечкам і, знайшоўшы ў адной з іх аркушы паперы, зверху данізу спісаныя, нядбала кідае іх на зямлю. Але нейкі чалавек, што стаіць побач, лысы, крыху скасабочаны, у элегантна скроеным і моцна пацёртым паліто, таемны дарадца з суседняга мястэчка, паспешна схіляецца, падымае аркушыкі і падносіць да вачэй. Авось нейкі дакуменцік альбо штосьці такое, што можа зацікавіць! Чытае, мармычучы: “Мая залатая мама! Мой брыльянтавы татачка! Хоць з Генрыкам мне як у раі, думкамі, згадкамі, сардэчным смуткам я часта бываю з вамі!” Прабягае вачыма адну старонку, другую, трэцюю, а ўнізе чацвёртай вычытвае: “З бязмежнай любасцю рукі вашы цалуючы, Геленка”, пагардліва прамаўляе: “Глупства!” і зноў кідае аркушы на падлогу, дзе іх праз некалькі хвілін растопчуць і абрыўкамі на брудных падэшвах разнясуць людзі, што цiснуцца, каб убачыць нешта новае. Бо вось і сама яна, Геленка, якая матку называла “залатой”, а бацьку “брыльянтавым”, прыгожа вымаляваная алейнымі фарбамі, у белай сукні, з ружай у залацістай касе, тонкая ў поясе, кволая. Яна і каля яе той хлопец, які так доўга не ўмеў лічыць, што з-за зоркі ахвяраваў жыццём, зоркі не дастаў, а жыццё страціў. Ганарысты, агністы хлопец, цёмнымі вачыма з-пад залацістых валасоў як жывы пазірае з партрэта.

Спачатку партрэт панны.

– Першы раз: хто дасць болей?

– Другі раз: хто дасць болей?

– Трэці раз: хто дасць болей?

Гаспадар карчмы даў найбольш, а папраўдзе кажучы, ён адзін выказаў жаданне набыць партрэт. Добрая карцінка: павесіць яе ў гасцінным пакоі, дзе часам начуюць падарожныя, над канапай, з якой лямец вялікімі жмутамі вывальваецца, насупраць акна, заседжанага мухамі і прыаздобленага двума кактусамі, падобнымі на паламаныя косці пакутнікаў.

А зараз партрэт хлопца. Ніхто фармальна купляць яго не хоча. Вось табе, хлопча, гонар і жаданне плаціць за зорку жыццём! Урэшце той самы карчмар, які набыў Геленку, і брата яе бярэ быццам бы з ласкі. Няхай ужо будзе тых карцінак да пары: мо панам-начлежнікам у карчме спадабаецца паненка, а паням – паніч!

Бронзавая малпачка ажно калоціцца ўся, так звоніць; жоўты сабачка вяртаецца ад воза, да якога праводзіў канапу бабуні. Зараз тая канапа стаіць на возе, а на адным з яе пейзажаў сядзіць Франусь Кулік з пугай у руках, у фантазійна скасабочанай шапцы, са сваёй высокай пазіцыі ён звяртаецца да некалькіх суседзяў і ажно заходзіцца ад басавітага смеху. Быдла, выведзенае за браму, рыкае, коні фыркаюць і часам іржуць. Жоўты сабачка спалохаўся пугі, рыкання, ржання, вярнуўся да ганка і заўважыў перад ганкам буфет, ад выгляду якога ягоны высахлы

язык хуценька абярнуўся вакол худой пыскі: небеспадстаўна, бо калі немаладая, прылежная і буркатлівая панна Алаіза альбо іншыя асобы тыя цяжкія дубовыя дзверы адчынялі, ён заўсёды стаяў каля іх з выцягнутай пыскай, спадзеючыся на кавалак печані альбо слодычы і – не падманваўся ніколі. Зараз жа вялізны дубовы буфет, увесь у палосах з разьбой, з-за адсутнасці задніх ножак так моцна нахіліўся назад, што вось-вось закрычыць ад здзіўлення альбо ад моцнага страху самлее. Як гэта! Вынеслі яго з кутка, з таго кутка сталовай залы, у якім гэтулькі дзясяткаў гадоў бачыліся яго цёмныя, важкія абрысы, кутка, да якога, здавалася яму, прыраслі ягоныя магутныя плечы! Увесь схілены назад, буфет гэты здаецца напалоханым і млеючым, а на ганку рэзкі і гучны голас паўтарае:

– Хто дасць больш? Хто дасць больш? Хто дасць больш?

Да гэтага голасу далучаецца значна цішэйшы, але таксама рэзкі – шчабятанне птушкі, якая вельмі паспешліва і з выразным здзіўленнем пытаецца:

– Што гэта? Што гэта? Што гэта? Што тут дзеецца?

Гэта снягір з чырвоным лобікам, які пасля летніх падарожжаў акурат сёння вярнуўся на зіму і вось што знайшоў! Сам ужо даволі стары, ён належыць да роду снегіроў, якія з незапамятнага часу гнездавалі кожнай зімой паблізу гэтага дома, таму шмат пра яго ведае і памятае. Унутранага начыння дома не бачыў ніколі, аднак яму добра знаёмыя гэтыя вокны, зараз цёмныя і пустыя, а да гэтага яны былі такія вясёлыя і прывабныя, у складках фіранак і зелені вазонаў! Альбо ганак! Заўсёды зімой ён быў ціхі, чысты, са шчыльна зачыненымі цяжкімі дзвярыма, на выпуклым малюнку якіх снягір часам сядзеў, прыслухоўваючыся да людскіх галасоў за імі. І зараз ён прылеплены да самага беражка ганкавага навеса, чырвоны лобік хістаецца то ў адзін бок, то ў другі, з шырока расплюшчанымі малымі вочкамі прыслухоўваецца, задумваецца, здзіўляецца. Трывогі не адчувае, бо бачыць, што ніхто займацца ім і не думае, толькі праймае яго жаль за цішыню на ганку і весялосць вокнаў, але адначасова прысутнічае і неспакой: ці гэтаксама не будзе тут нікога, хто б у самыя суровыя марозы для беднага птаства высыпаў бы на гэты ганак жмені зярнят і крошак? Расказвалі яму продкі, што такі звычай быў тут здаўна; ён у сваім жыцці таксама не раз карыстаўся ім і нават вельмі добра прыпамінае сабе абрысы рук, якія праз гэтыя дзверы і вокны высыпалі на бязлітасны снег збаўчы дожджык зярнятак. Прыпамінае рукі старыя, высахлыя, з бледнымі пальцамі, са зморшчанай скурай і іншыя: маладыя, рухавыя, белыя, толькі ў самым канцы, як пупышкі цэнтыфоліі, пачырванелыя ад марозу, і яшчэ іншыя, маленькія, пульхныя, падобныя на румяныя яблычкі. Зараз жа бачыць доўгую, касцістую, бяскроўную руку, якая хапае нейкага бліскучага вырадка, трасе ім і звоніць так пранізліва, што снягір зрываецца з навеса, узбіваецца на высокі дах дома і адлятае ўглыб сада, дзе праз хвіліну на галіне яблыні вядзе заўзятую размову са сваёй даўняй знаёмай – сарокай з жаласлівымі крыламі. На яблыні яшчэ сям-там вісіць чорнае і чырвонае лісце, каля ствала густа буяе бадылле сярэбранікаў і герані. Ветру няма зусім, таму ўсё навокал сцішылася і знерухомела, толькі снягір трапечацца на галіне, варушыцца і, падымаючы чырвоны лобік да сарокі, якая сядзіць вышэй, не перастае шчабятаць:

– Што гэта? Што гэта? Што гэта?

Сарока ажно заходзіцца ад смеху:

– Кра, кра, кра, кра! Кра, кра, кра, кра!

Снягір пачынае сердаваць. Трэба быць сарокай, каб ва ўсім гэтым знайсці падставы для смеху! Лепей зрабіла б, калі б замест смеху сказала яму, чаму тыя вокны, даўней такія вясёлыя і прывабныя, цяпер такія пустыя і нямыя.

Сарока смяецца зноў і адказвае, што трэба быць снегіром, каб не ведаць, што калі нехта памірае, то ў яго патухаюць вочы.

– Што? Што? Што? – шчабеча снягір.

Але сарока855 пералятае на іншае дрэва, якім з’яўляецца плакучая бяроза, і, зачапіўшыся за тонкую яе галінку, смяецца зноў.

Снягір даганяе яе і, усеўшыся на калочку плота, які аддзяляе сад ад луга, пытаецца яшчэ, але сарока, як на арэлях, хістаецца на тонкай бярозавай галінцы і смяецца сабе і з яго, і з усяго. Тады снягір на калку плота курчыцца, робіцца бухматым, натапырвае пер’е і паўсоннымі вачыма пазірае на купку старых вольхаў, якія тут жа, каля плоту, звоняць шчэбетам шпакоў, што спазніліся з адлётам, а ў гэты момант, калі надыходзіць вечар, ужо рыхтуюцца да сну.

Блізкі вечар няспешна і настойліва напаўняе паветра ўсё большым холадам і лёгкім змрокам. Тым больш яскрава ў негустой яшчэ цемнаце іскрыцца чырвоная абіўка на высокіх падлакотніках вальтэраўскага крэсла, тым больш ажурнымі здаюцца драўляныя парэнчы, якія атачаюць некалькі дзіцячых ложкаў, тым больш выразна блішчаць пазалочаныя рамы карцін і малюнкаў, шкляныя шары лямпаў, бронзавыя амуры шматрукіх падсвечнікаў, люстэрка на жаночым туалетным століку, металічныя фігуркі, адна з якіх, даволі вялікая, уяўляе чалавека ў трохвуголцы, са скрыжаванымі рукамі, які стаіць на адзінокай глыбе скалы. Таго і стары Іахім не памятае, але ад бацькі чуў, што гэтую фігуру прывёз сюды з далёкага Захаду адзін з жыхароў гэтага дома, які вярнуўся і сядзеў пасля ў вальтэраўскім крэсле, углядаючыся ў яе доўгімі гадзінамі як у сведку страчанага гонару і надзеі. Можа, ад жалю да гэтага прадмета хутка састарэў, пазбягаў людзей, жонкі не меў і, пражыўшы шмат гадоў самотна пад дахам тым, памёр, пазіраючы на добра бачную на глыбе скалы фігуру. Іахім ведаў імя гэтай фігуры і імя яе шанавальніка. Бацька яму расказваў, што той другі кожнаму з тых, хто ўваходзіў, паказваў яе першую, прамаўляючы пры гэтым дзіўным голасам: “Мой правадыр!”

Акрамя гэтых перад домам знаходзіцца шмат іншых рэчаў featu розных формы і памераў, ды ўсе яны здаюцца разбуранымі гвалтоўнай людской мітуснёй. Зараз жа даволі хутка ідуць справы на ганку; раз за разам чуецца пытанне: “Хто дасць болей?”, “Хто дасць болей?”, часта гучыць пранізлівы званок. Праца мусіць быць скончанай да вечара; спяшаецца грамадскасць, спяшаюцца чыноўнікі, спяшаюцца ад ганка да брамы дзве плыні: людзей і рэчаў. Першая нагадвае рухлівых мурашоў, асобныя постаці якіх мітусяцца і ўзаемна не пазнаюць адно аднаго, другая, якая нясецца над галовамі і сагнутымі спінамі першых, выразна паказвае кожную сваю частку. Карціны і малюнкі ў пазалочаных рамах, крэсла, абабітае чырвонай матэрыяй, туалетны столік на вялікіх драўляных ільвах, рагатыя падсвечнікі, высокія вазы, размаляваныя шырмы, вытачаныя і разьбяныя паліцы, гадзіннікі з двума чорнымі нерухомымі пальцамі на бледным абліччы, металічныя фігуркі, сярод якіх самая вялікая, строгая, цёмная фігура Напалеона, над галовамі і сагнутымі спінамі людзей рухаюцца, размінаюцца, раскідваюць бляскі фарбаў, шкла і металу, сунуцца цераз роўны дзядзінец у шарэючым паветры, адыходзяць, уцякаюць. Быццам ад трывожнай панікі альбо ў шале вандроўкі ўсе кіруюцца да вазоў і брамы, залазяць на вазы, выязджаюць за браму і там разам з вазамі, на якіх стаяць, згрувашчваюцца, пабліскваюць; рассыпаўшыся ў розныя бакі, здаюцца нейкі час цёмнымі, рухомымі, усё больш дробнымі кропкамі ў аднастайнай шэрасці паветра і мёртвай соннасці палёў.

На ганку ж тая чародка людзей, што засталіся, выбухае смехам. Што гэта за пацешная старызна высунулася праз дзверы і спынілася на ганку – ужо апошняя! Ах, якая ж пацешная рэч! Пазіраючы на яе, цяжка стрымаць смех! Як быццам фартэп’янчык, якому адрэзалі хвост, нібыта стол з двума радамі зубоў, чорных і вузкіх уверсе, а ўнізе шырокіх і, як у старой бабы, жоўтых, спрэс патрэсканых. Кароткая, патрэсканая, з абдзёртай у некалькіх месцах арэхавай скурай, стаіць гэтая забаўная старызна на вельмі добра і выдатна вытачаных чатырох ножках, здаецца, вышчарбленымі зубамі пытаецца: хто мяне возьме?

– Тры дваццаць! Хто дае больш?

Ніхто нічога не дае. Пазіраюць, аглядваюць, смяюцца, але навошта гэта некаму здалося! Цяжка нават зразумець, хто і калі на такім фартэп’янчыку здолеў бы сыграць.

Толькі Іахім ведае, хто на ім іграў і што называлася гэта не фартэп’янчыкам, а клавікордам. Быццам праз сон памятае ў далёкім-далёкім дзяцінстве невялікую бабульку, ласкавую і яшчэ жвавую, калі са срэбнымі пасмамі каля дробнага зморшчанага твару, у аксамітным кафтане, пакрытым дарагім футрам, яна сядала каля клавікорда ў вялікай зале і на ягоныя зубы, гэткія ж жоўтыя, як і зараз, апускала высахлыя пальцы, як слановая косць белыя і бліскучыя. З-пад пальцаў выплывала тады мелодыя лёгкая, прыемная, толькі крышку няспешная, з паўзамі для глыбокіх паклонаў, якая жаласным тонам заклікала падымаць далоні да сэрца. Калі гэты крыху палахлівы, крыху самотны, крыху рамансавы спеў клавікорда з вялікай залы расплываўся па доме, служкі на пальчыках падбягалі да прычыненых дзвярэй, радыя паслухаць, як найстарэйшая пані іграе менуэт. Часам пасля менуэта яе галава са срэбнымі пасмамі рамантычна схілялася набок і пры ціхіх акордах клавікорда слабы галасочак, ад успамінаў меланхалічны, ад старасці трымцівы, спяваў: “Ужо месяц зайшоў, сабачкі паснулі!”

– Другі раз: тры дваццаць! Хто дае больш?

Найбліжэй да клавікорда стаіць худы, лысы, трохі скасабочаны чалавечына ў некалі дарагім, заплямленым паліто, той самы таемны дарадца, які ліст Геленкі кінуў пад ногі натоўпу. Стаіць перад клавікордам і з усмешкай на вуснах, схаваных у рудым шчаціні, з жартаўлівым бляскам у вачах, прыкрытых цёмнымі шкельцамі, на адну з клавіш абапірае вялікі палец, раздзьмуты ў канцы накшталт цюльпана. Далікатнае, дрыготкае гучанне плыве па ганку. Не брыдкае яно: як быццам зазвінела струна арфы альбо зазваніў камар у начной цішыні. Значыць, старая рэч яшчэ спявае! Цікава, колькі тонаў яшчэ можа яна праспяваць! Дзесяць пальцаў цюльпанавага кшталту абапіраюцца на зжаўцелыя, спрэс патрэсканыя клавішы, бегаюць па іх усё больш жвава, стукаюць усё мацней, ажно увесь стары клавікорд брынькае гуляшчым, бравурным, усё больш бравурным, шалёным танцам. Тры ноты паўтараюцца няспынна і галавакружна, пастаянна і рытмічна, аднак іх перавышае крык адной, рэзкі, паспешны, які горача запрашае да бясконцага танца, да шалу без аглядкі, да шумных, п’яных, грубых, струменямі поту аблітых, падскокаў. Аднак далікатнаму старому інструменту цяжка выдаваць гэткія крыкі і шал, ён ажно падскоквае, хістаецца, а ў ягоным гучанні кшталту арфы альбо камара чуюцца такія енкі, скрыпенне, уздыхі, пыхценне, што смяюцца тыя, хто яго атачае, усміхаюцца нават чыноўнікі, радыя хвілёвай разнастайнасці цэладзённага стамляльнага занятку. У гэты вясёлы хор неўзабаве дадаюцца яшчэ два галасы. Спачатку снягір, прываблены музыкай, прылятае з саду, завісае на навесе і, круцячы чырвоным лобікам, са страхам і здзіўленнем шчабеча: “Што гэта? Што гэта? Што гэта?”. Пасля жоўты сабачка, зусім чуллівы ад музыкі, становіцца якраз насупраць таго, хто грае, і з выцягнутай угару худой пыскай працяжна, жаласна скуголіць. А тут і бронзавая малпачка заварушылася над сталом, моцна зазваніў званок, зычны голас загукаў:

– Трэці раз: тры дваццаць! Хто дае больш?

Таемны дарадца адрывае пальцы ад клавіш і выкрыквае:

– Тры сорак!

Пасля з паважным жэстам звяртаецца да млынара:

– Чорт з ім! Няхай яго там мае карапузы дарэшты растаўкуць!

Тады стары чалавечына ў доўгай, да костачак, сярмязе, як чурбан, цяжка адвальваецца ад парэнчы ганка, за якую трымаўся, нешта мармыча пад сівыя вусы і, вельмі павольна абышоўшы дом, уваходзіць у сад.

Вільгаць, цішыня, змрок пануюць у перакрыжаваных шырокіх і вузкіх алеях, на квадратах, засаджаных садовымі дрэвамі, і з мноствам сухога бадылля, у густых групах кустоў, на клумбах, пасярод якіх свецяцца бруднай жаўцізной і беллю падмарожаныя кветкі. Апалае лісце, вільгаццю прыбітае да зямлі, засцілае ўсе дарогі, толькі дзе-нідзе з яго стракатай падсцілкі чарнее зялёнасць травы. Праз шэрагі дрэў на алеях, іхні гушчар у іншых месцах, праз ўсё больш цёмныя карункі галін бачыцца неба, якое імкліва становіцца шэрым. У паветры, амаль што нерухомым, носяцца лёгкія павевы ветру і колькі разоў падлятаюць, столькі ж ля ствалоў дрэў з ціхуткім шамаценнем падымаюць воблакі апалага лісця, якое, толькі крышку праляцеўшы над зямлёй, ацяжэла падае зноў і замірае.

Стары Іахім, ідучы па каштанавай алеі, вельмі марудна ставіць цяжка абутыя ногі на пружыністую падсцілку са звялага і мокрага лісця.

Ідзе, спыняецца, з узнятай галавой пазірае на каштанавыя верхавіны, зноў ідзе, затрымліваецца, дзіўна пільна аглядае мясцовасць, на якой стаяла пад вязам лава; ідзе далей, на вузкай ліпавай алеі пачынае мармытаць малітву і перапыняе яе, калі бачыць плакучыя бярозы, перад якімі доўга ківае галавой, а пасля збочвае на іншую дарогу і спыняе крок перад вялікай купкай кустоў. Пазіраючы на чырвоную бузіну, пальцам дакранаецца да вачэй і вяртаецца на каштанавую алею, з якой саступае на іншую, з ліпы і ясеня, ажно зноў апынаецца пад вязам і ад яго пачынае ісці ўздоўж плакучых бяроз. Так задуменна ходзіць па адных і тых жа мясцінах, часам пальцам дакранаецца да вачэй, часам рукой робіць жэсты роздуму, а за ім, побач з яго доўгай сярмягай, ходзіць стварэнне худое, самотнае, нясмелае, з апушчаным хвастом і пыскай, ступае так ціха, што ягоныя крокі па звялым і мокрым лісці не робяць ніякага шамацення. Праўда, адзін раз там, дзе лісця было найбольш, яно зашамацела. Іахім азіраецца і спыняецца. Чалавек з апушчаным тварам і сабачка з нясмела паднятай пыскай хвіліну пазіраюць адзін на аднаго нязмерна самотнымі вачыма.

– Хадзі, Азор!

Жоўты сабачка не верыць сваім вушам, каб хто-небудзь на свеце мог да яго так прыязна прамаўляць! Стаіць і чакае!

– Хадзі, Азор!

Цяпер ужо сабачка больш смела пачынае ісці за доўгай сярмягай чалавека, абодва выходзяць з саду.

Перад домам, на ганку і на дзядзінцы ўжо няма ніводнай жывой душы. Ад’ехалі, разышліся ўсе. Ціха. Дзверы дома з выпуклым малюнкам зачынены; вароты кароўнікаў і стайняў зачынены; вокны флігеля цёмныя; адчуваецца, што і за імі няма ніводнай жывой душы. Ціха і пуста. Угары глыбокае шэрае неба, у паветры змрок, унізе зямля мокрая, парушаная нагамі людзей і капытамі; далей, навокал, прасторныя, цёмныя, заснулыя палі, а пад чорнымі кронамі дрэў без лісця – бялеецца ў змроку даўгі дом з зачыненымі вокнамі і дзвярыма.

Іахім спыняецца здалёк ад ганка і кладзе на грудзі шырокі знак крыжа, як мае звычай рабіць гэта перад ляжачым у труне памерлым. Пасля пачынае ісці да брамы, але, нешта прыгадаўшы, паварочваецца і гукае:

– Азор, хадзі!

Сабачка, пачуўшы зычлівы покліч, ціха скуголіць ад радасці, бяжыць, а калі знаходзіцца ўжо так блізка да чалавека, што пыскай амаль датыкаецца да сярмягі, зноў няспешна, без шамацення, пачынае ісці. Так адзін за адным выходзяць яны з брамы, праз хвіліну напрасткі перасякаюць поле, пасля збочваюць на сцежку, нейкі час яшчэ на аддаленні бачацца ўсё больш дробнымі кропкамі, пакуль не знікаюць у бязмерным абшары пусткі, змроку і заснулых палёў.

Значыць, тут не застаецца ўжо нікога жывога, нават сабачкі. Вечар становіцца ўсё цямнейшым, бо шматы хмар плывуць ужо пад воблакамі і пачынаюць сыпаць

на зямлю дробны і халодны дождж. Так мінае некалькі гадзін, пасля чаго цішыню наскрозь праразае ўсё больш моцны і шумлівы подых. Прылятае ён з луга, на якім цемра клубіцца то мацней, то слабей, будзячы шпакоў у вольхах, снегіра на яблыні, сароку у тонкіх бярозавых галінах, якая выбухае хрыплівым ад сну смехам: "Кра! Кра! Кра!" Пасля птушкі засынаюць зноў, а прыціхлыя вятры з лугу і лесу ўсё больш запаўняюць алею, з лёгкім трэскам ломяць сухія галінкі і бадылле, дабіраюцца ажно да споду пласта звялага лісця, якое падымаецца, ляціць у цемру, рассыпаецца, падае і падымаецца зноў, шамаціць і ляціць. Ад моцнага парыву зашумелі дрэвы, што растуць блізка каля дома і сваімі галінамі, як пальцамі, пачалі стукаць, званіць у цёмныя шыбы.

У цёмнае нутро дома пранікае праз вокны цьмянае святло, нешта накшталт шэрай гадзіны перад працяглай ноччу, палосамі яно кладзецца на нізкую столь, на гладкі паркет, на сцены, ад краю да краю пустыя. Гэтыя сцены, залітыя цемрай, напаўняе зараз ціхі, але шматгалосы шэпт, у якім выразна чуецца інтанацыя пытанняў – здзіўленых, устрывожаных, усё больш нечаканых, неспакойных, хуткіх. Гэта можа здавацца поўнай трывогі і недаверу размовай мноства істот, якія, з розных бакоў зляцеўшыся сюды, апынуліся перад нечым, што давяло іх да шалёнага здзіўлення. Чуваць, як яны стасуюцца між сабой з дрыготкім шумам і неспакойным шаптаннем, не ведаючы куды ісці, дзе шукаць, калі адпачываць, калі пацешацца, калі ўспамінаць. Сабраўшыся спачатку ў вялікай зале, яны неўзабаве рассыпаюцца па ўсім доме, у якім няма ўжо ніводнага ціхага месца. У адным з пакояў усе чатыры сцяны ахоплівае шоргат ног – няспынны, бясконцы, нястомны, быццам у роспачным пошуку нечага, нібыта гоніцца за прывідам, які пастаянна паказваецца і знікае. Недзе ў іншым месцы чуецца ўздых, у якім гучыць адно: "Ах! Ах! Ах!", а насупраць можна пачуць прыцішаны вокліч: "Божа! Божа!"; пасля гэты ўздых і вокліч паўтараюцца не раз, то больш гучна, то цішэй, нагадваючы размову ў неспакойным і нястомным рытме. Недзе яшчэ нараджаецца вокліч, у якім чуецца, як некага клічуць па імені, прыцішана, манатонна, пастаянна, пастаянна і ўсё больш жаласліва, безнадзейна. Тут нехта вельмі спешна бяжыць праз пакоі і з грукатам падае на падлогу; там тоненькі галасок гучыць скаргай, якую прыцішваюць пацалункі, адразу ж заглушаныя стогнамі, што разносяцца паўсюль і крыжуюцца з мноствам бегучых у розныя бакі галашэнняў, воклічаў, паспешных пытанняў, нягучных размоў накшталт працяглых і поўных роздуму разваг. У гэтай прыцішанай, аднак шматгалосай гамане перапалоханы мужчынскі голас зычна прамаўляе: "Значыць, ужо! Значыць, ужо!" Іншы з плачам адказвае: "Канец! Канец! Канец!"; нехта ўздымае голас да моцнага крыку: "Правадыр мой!", хтосьці, б'ючы крыллямі ў сцяну, няспынна паўтарае: "Зорка, зорка, зорка, за якую я аддаў жыццё!", яшчэ адзін шэпча: "Мама залатая! Мама залатая!" і заходзіцца ад плачу, а другі – далікатны і крыху рамантызаваны, дрыготкі ад старасці – слаба пачынае: "Ужо месяц зайшоў, сабакі паснулі!" Але ўсё гэта заглушае моцны шум, з якога чуваць: "Ціха! Ціха!", неўзабаве ён ператвараецца ў сумеснае, моцнае, глыбокае ўсхліпванне, што пераходзіць у працяжны плач, поўны галашэнняў, нараканняў, заклікаў, поклічаў да Бога, аповедаў, што гучаць як працяглыя рэчытатывы, у лямант, які напаўняе ўвесь дом ад верху да нізу і трывае вельмі доўга.

Вецер ляціць з луга, на якім клубіцца цемра, шуміць у вольхах, гучыць у каштанавых, ліпавых і ясеневых алеях, калоціць спрадвечную галаву вяза, ломіць з невялікім трэскам сухія галіны і бадылле, з шэлестам падымае з зямлі хмаркі ссохлага лісця, перабірае галіны дрэў, што растуць паблізу дома. Гэтыя бязлістыя, пругкія галіны, мокрыя ад дажджу, як пальцамі барабаняць у шыбы вокнаў, за якімі прыцьмелым і непагодлівым ранкам запанавала ў пустым доме непарушная магільная цішыня.

мастацтва

Адам Глобус



…скажы, хто твой сябар,
і я скажу, хто ты…

# Кім

## *Словы пра выкладчыка і мастака Кіма Шастоўскага*

### Чорная котка

«Адамчык...» – Кім Шастоўскі клікаў мяне Адамчыкам. Ён тактоўна вымаўляў маё пашпартнае прозвішча, так тактоўна, нібыта гэта было не прозвішча, а імя. «Што, Кім Фёдаравіч?» – «Бачыў цябе ў парку з дзяўчынай-першакурсніцай, з Аленай, чорненькай такой... Я не памыліўся? Ты гуляў у парку з першакурсніцай Аленай?» – «Гуляў... Нічога надзвычайнага паміж намі няма. Проста гулялі ў парку. Яна запрасіла мяне з’ездзіць да яе ў Кёнігсберг. Я думаю, можа, і паеду...» – «Адамчык, ты можаш мяне і не паслухаць. Маеш поўнае права не слухаць, але я мушу табе сказаць, што Алена табе не падыходзіць. Яна табе не пара. У яе персідскія вочы, скура смуглявая, кудзеры каштанавыя... Усё выглядае экзатычна, прывабна, спакуслівая. Ды толькі ўсё гэта не для цябе. Ты можаш намаляваць яе партрэт, можаш схадзіць з ёй у кіно, можаш пачаставаць яе марожаным, але яна не для цябе. Ты светлы, у цябе блакітныя вочы, табе



«КАСТРЫЧНІК» (1985).

трэба светлая жанчына са светлымі вачыма. Паглядзі – навокал столькі светлых дзяўчат з Мінска і Гомеля, а ты пра нейкі Кёнігсберг думаеш. Нічога не кажы. Падумай. Проста падумай пра мае словы...»

Не буду казаць, што ў маёй душы закалыхалася абурэнне. Зусім не. Я вырашыў, што не стану задумвацца над парадамі Кіма. Захочацца мне паехаць з Аленай у Кёнігсберг... Не захацелася. Нават гуляць у парку з ёй мне расхацелася. Было адчуванне, што паміж намі прабегла чорная котка. Прабегла і разбурыла адносіны, якія толькі-толькі пачалі складвацца. Кім нейкім чынам убачыў тую чорную котку і сказаў мне, што мы з дзяўчынай не пара, і меў рацыю.

## Цішыня

Мяне заўсёды дзівіла жаданне інжынераў звязаць колер і гук. Механічнае злучэнне магнітафона са светлафорам, акрамя раздражнення, асабіста ў мяне нічога не выклікала. Таму я цалкам згодны з тым, што мае развагі пра жывапіс і гук знарочыста суб'ектыўныя...

Разглядаючы ў Вене краявіды Густава Клімта, я пачуў музыку, падобную да твораў Моцарта. Гукі былі такімі далёкімі, што я не магу дакладна сцвярджаць, што чуў менавіта Моцарта. Пра гэтую сувязь Клімта і Моцарта я згадаў, калі гартаў на экране краявіды Кіма Шастоўскага. Згадаў, бо за карцінамі Кіма стаяла суцэльная цішыня. Звычайна, углядаючыся ў карціну, я чую і гукі, і нават водары, народжаныя візуальнымі вобразамі. Гледзячы, напрыклад, на вясновы краявід Бялыніцкага-Бірулі, я чую бруенне ручая пад снегам. Тут жа, за карцінамі Шастоўскага, была густая ціша. Падобная цішыня стаіць за фрэскамі Ранняга Адраджэння. Пасля палымянай готыкі, з яе квяцістымі і звонкімі вітражамі, Адраджэнне часоў Джота было спакойным, ураўнаважаным і ціхім. На Ранняе Адраджэнне і арыентаваўся Кім Шастоўскі, пэўна ж, так ён і навучыўся ствараць цішыню.

## Мянушка

Усходняя Беларусь мела моду на сканструяваныя імёны. Гертруда – Герой Труда па-руску – такое імя насіла ў пашпарце паэтэса Вера Вярба. Нінел – псеўданім Ленін, прачытаны ў люстэрку, – такім імем бацькі назвалі Ніла Гілевіча. Арлен – армія Леніна – з такім імем пражыў доўгае творчае жыццё графік Кашкурэвіч. Найбольш распаўсюджанае сярод падобных імёнаў было Кім – Камуністычны Інтэрнацыянал моладзі. Імя Кім насілі філосаф Хадзееў і кампазітар Цесакоў.

Мастак Кім Фёдаравіч Шастоўскі да свайго імя ставіўся з гумарам. Ён расказваў, што ў маладосці думаў памяняць яго на якое іншае, як зрабілі Вярба і Гілевіч, але гэтае жаданне знікла ў войску. Там Кіму давялося служыць з хлопцам з далёкага Туркестана, якога клікалі Кімбілет. Салдаты жартавалі, што сярод іх ёсць ажно два Кімы: адзін з білетам, а другі без білета. Мянушка Кім Без Білета засталася ў войску, а без мянушкі імя Кім зрабілася для мастака сваім і звычайным.

## Цяля

«Учора тут, каля крамы, навязанае цяля траву скубла. Можа, ты яго сёння бачыў? Ёсць у мяне адна ідэя – карціну пра вясновы спакой вырашыў напісаць. Куст бэзу ў квецені, дзяўчынка і цяля. Учора маляваў дзяўчынку і куст, а сёння запланаваў цяля намаляваць, прыходжу, а яго і няма...» – Кім Шастоўскі пастукаў навостраным алоўкам па картоннай папцы з паперай. «Гаспадыня яваё цяля яшчэ недалёка ад новай школы навязвае, каля самай дарогі...» – пачынаю казаць Кіму, але ён перапыняе мяне кароткім «пакажаш».

Мы ідзём праз вёску Латыголь, праз сонечнасць і водары гарачага чэрвеня. Нам шанцуе, бо гаспадыня ў той дзень навязала цяля каля самай дарогі, непадалёк ад новай беласценнай школы. Кім застаецца маляваць беланогае цяля, а я кіруюся ў жытнёвае поле, каб, схаваўшыся ад чужых вачэй, маляваць белацелую Жанну...

Недзе праз год на выставе я пабачыў карціну Кіма з бэзавым кустом, дзяўчынкай і цяляткам. Мяне страшэнна парадавала карціна. Яна мне не спадабалася, а менавіта ўзрадавала тым, што я паўдзельнічаў у яе стварэнні, што дапамог выкладчыку знайсці навязанае цяля. Табе ўся гэтая гісторыя можа падацца легкаважнай і малапатрэбнай, але я лічу, што маляванне спакою і райскай цішыні – занятак значны і чалавечны.

## Конь

Куды б я ні прыязджаў, я заўсёды стараўся наведаць кнігарню і бібліятэку. У вёсцы Латыголь, дзе Кім Шастоўскі кіраваў летняй практыкай студэнтаў, кнігарні не было, але мелася невялічкая бібліятэка – адзін пакойчык у будынку, дзе некалі была школа. Аднаго разу мы – студэнт і выкладчык – там і сустрэліся. Я гартаў свежыя нумары часопіса «Беларусь» – на той час адзінае выданне, у якім на мелаванай паперы друкавалі рэпрадукцыі сучаснага жывапісу. У часопісе «Маладосць» таксама з'яўляліся рэпрадукцыі, але значна меншага фармату і ў горшай якасці. «Карціны разглядаеш?» – папытаўся Кім. «Разглядаю...» – «Тады я пакажу табе рэпрадукцыю і сваёй карціны, – Кім узяў з паліцы падшыўку мінулагодніх часопісаў і хутка знайшоў сваё "Развітанне". – Паглядзі... Як табе карціна?» – «Конь мне падабаецца... Ён манументальны, як у адраджэнцаў. Ён галоўны на карціне... Так мне



*«МАЙСКІ ВЕЧАР» (1986).*



*«ЯНКА КУПАЛА. АДЗІН ДЗЕНЬ». (2014)*

бачыцца». – «Думаеш, што конь атрымаўся больш выразным за людзей?» – «Так... Людзей шмат, іх усё больш і больш, а коней усё менш і менш. Чым меней коней, тым больш яны нас дзівяць і радуюць». – «Люблю коней, люблю іх з дзяцінства, калі з бацькамі жыў у вёсцы Ляўкі. Скажу табе, Адамчык, пра рэпрадукцыі... Добра, што ты іх разглядаеш. Ведаеш, чаму добра? Ты на іх вучышся і будзеш вучыцца ўсё жыццё. Добра было б, каб і на рэпрадукцыях тваіх карцін нехта нечаму навучыўся».

## Купала

Успаміны пра выбітных і таленавітых творцаў мяне заўсёды цікавілі, бо натхнялі на працу. Праўда, большасць падобных успамінаў, каб патрапіць у друк і дайсці да чытача, праходзілі праз цэнзуру ды рэдактуру. Рэдактары з цэнзарамі ўсе ўспаміны прыхарошвалі і фарматавалі ў адпаведнасці з палітычным надвор’ем. Гэткай адфарматаванасці і прыхарошанасці супрацьстаялі вусныя апавяданні і паказкі. Таму мяне парадаваў успамін Кіма Шастоўскага пра Янку Купалу.

Кім расказваў, што яго, зусім яшчэ малога, Купала трымаў на руках. Тата Кіма Шастоўскага працаваў старшынёй калгаса ў Ляўках, дзе ў Янкі Купалы было лецішча. У Ляўках Купала хаваўся ад змрочнасці, якая панавала ў Беларусі. Кім ганарыўся тым, што яго тата Фёдар Шастоўскі вечарамі выпіваў з геніяльным паэтам. Кіму Фёдаравічу Шастоўскаму, чыё маленства прайшло ў Ляўках і для якога менавіта гэтае месца заўсёды бачылася зямным раем, я веры. Нават больш за тое, менавіта яго зусім кароценькае апавяданне-ўспамін пра Купалу для мяне ці не самае каштоўнае сведчанне пра жыццё найлепшага з беларускіх паэтаў.

## «Госці»

У вершы «Госці» Янка Купала апісаў сустрэчу з сялянамі вёскі Ляўкі. Ёсць у творы чатырохрадкоўе:

Такога гонару не меў ніколі,
Як я на гэтае зямлі жыву,
Каб так віталі мяне хлебам-соляй,
І то не ў сне якім, а наяву.

Сярод сялян, якія віталі Купалу, быў і Фёдар Шастоўскі, таму Кім Фёдаравіч Шастоўскі пісаў карціны, прысвечаныя паэту, з вялікай павагай не толькі да Янкі Купалы, але і да свайго бацькі, і да Ляўкоў, і да Аршаншчыны, і да ўсёй Беларусі.

## Карціна

Кім Шастоўскі вакол сябе бачыў шмат станоўчага, светлага і, як цяпер кажуць, пазітыўнага; а таму ён не часта маркоціўся і ніколі не наракаў на жыццё. Калі Кіму рабілася сумна, ён выпіваў з сябрамі, а часам і з вучнямі. Аднаго разу я выпіваў з Кімам Фёдаравічам, седзячы на скрынях з-пад бутэлек, за дамком, дзе прымалі шклатару. Мы пілі зусім танны вермут і размаўлялі пра жывапіс і маляванне з натуры. Кім лічыў, што мастак мусіць працаваць з натурай...

«Задумаў партрэт сыноў. Я яго ўбачыў. Мае хлопчыкі стаялі каля акна, за якім разгарнуліся новабудоўлі. Убачыў карціну – і заставалася яе намаляваць, а мае хлопцы адмовіліся пазіраваць. Каб цябе, Адамчык, бацька папрасіў пазіраваць для карціны, ты б адмовіўся?» – «Папазіраваў бы...» – «Правільна, бо для мастака важна пісаць і маляваць партрэты блізкіх людзей. Мае хлопцы гэтага яшчэ не разумеюць. Пазней яны зразумеюць і нават будуць ганарыцца гэтай карцінай, але тое будзе пазней, а мне трэба зараз намаляваць іх партрэты з натуры...»

Мы дапілі вермут, і я правёў Кіма да дзвярэй яго кватэры. Скарга на сыноў – бадай, адзіная скарга, пачутая мною ад Кіма Фёдаравіча. Варта сказаць, што Кім Шастоўскі задуму здзейсніў, праўда, замест новабудоўлі ён намаляваў зімовы краявід з чыгуначным адхонам і цыстэрнамі.

## Светапогляд

З Кімам Шастоўскім я лёгка знаходзіў агульную мову, бо ягоны светапогляд супадаў са светапоглядам майго таты: іх лучыла грунтоўная беларускасць. Кажу «грунтоўная», бо тая беларускасць з'яўлялася натуральным працягам беларускасці іх сваякоў-папярэднікаў. Бацька Кіма – Фёдар Лаўрэнцьевіч Шастоўскі таварышаваў з Купалам. Ён дапамагаў паэту будаваць дом на Аршаншчыне. Купала на сваім легкавіку катаў малога Кіма па Ляўках, што ў тыя часы лічылася неверагоднай раскошай. Дзядзька майго таты, Ян Фёдаравіч Шайбак, займаўся палітыкай у Заходняй Беларусі і падтрымліваў партыю «Грамада». Я выдатна разумеў, што для грунтоўнай беларушчыны ўсхваленне і нават пэўная ідэалізацыя беларускай вёскі і тутэйшага сялянства – справа значная. Карціны Кіма Шастоўскага з вясковымі краявідамі – не прымітывы правінцыйнага жывапісца-аматара, а вобразы Радзімы, якую мы як называлі, так і называем Беларусь.

## Сяброўства

Скажы, хто твой сябар, і я скажу, хто ты... Такі падыход збольшага правільны, але ў выпадку з Кімам Фёдаравічам Шастоўскім ён не зусім слушны. Кім умеў сябраваць з людзьмі самых розных светапоглядаў.

Ён з маладосці меў цёплыя адносіны са скульптарам Барысам Маркавым, які зрабіў у мінскі кінатэатр «Кастрычнік» выразны і на свой час рэвалюцыйны рэльеф. Той рэльеф схавалі



*«ГУЛЯННЕ НА МАСЛЕНІЦУ» (1997).*

ад гледачоў на чвэрць стагоддзя. Маркаў пакрыўдзіўся на мастакоўскі Мінск і з'ехаў у Маскву. Кім, кажучы пра Маркава, не забываўся падкрэсліць, што моцна шкадуе пра ягоны ад'езд.

Таварыскія адносіны былі ў Шастоўскага і з Уладзімірам Бегуном, які захапляўся вывучэннем масонаў і пісаў папулярныя брашуры з кідкімі назвамі кшталту «Апавяданні пра “Дзяцей удавы”». Варта ўдакладніць, што шырокую папулярнасць Бегуну прынеслі не эсэ пра масонаў, а кнігі пра сіянізм, да якіх Кім Фёдаравіч ставіўся іранічна.

Таварышаванне Кіма з Бегуном і Маркавым мяне не здзіўляла, а вось ягонае сяброўства з выкладчыкам фізкультуры Сакаловым крыху бянтэжыла. Я не разумеў, пра што мастак можа гадзінамі гутарыць з такім спартсменам, як наш Сакалоў. Акрамя Сакалова, Бегуна і Маркава ў Кіма Шастоўскага сяброў было многа, бо ён цаніў у чалавеку не яго светапогляд і не яго партыйнасць, а простую шчырасць у адносінах. Кім не любіў людзей з фігай у кішэні, і з такімі ён не сябраваў.

## Пыл

Свой жывапіс Кім Шастоўскі рабіў далікатна. Ён эканомна выкарыстоўваў фарбу і любіў так званыя праціркі, калі палатно фарбуецца напаўсухім пэндзлем. Кіму падабалася своеасаблівая фрэскавасць, у якой тэкстура палатна выконвала функцыю акуратна атынкаванай сцяны. Да корпуснага, шматколернага і шматслойнага жывапісу Кім Шастоўскі ставіўся паблажліва, маўляў, і такое можа быць. Праўда, у ягоным «і такое можа быць» чуліся не толькі паблажлівасць, але і скепсіс.

Кім ашчаджаў матэрыялы. На яго творы пайшла мізэрная колькасць лакаў і разбаўляльнікаў, фарбы і грунтоўкі, пэндзляў і алоўкаў. Пэўна, таму юбілейная выстава Шастоўскага мяне расчаравала. Карціны страцілі свой першапачатковы колер, яны пажухлі. Узнікла адчуванне, што іх прысыпала пылам, а мастак не папрыбіраў гэты пыл, калі рабіў экспазіцыю. Цяпер, згадваючы выставу, я інакш ацэньваю пажухласць і прыпыленасць старых карцін, бо яны, страціўшы першапачатковую каляровасць, набылі каштоўную вытанчанасць.

## Вучылішча

Кім Фёдаравіч меў талент выкладчыка. Ён быў не такі вулканічны, як у Альгерда Малішэўскага, не такі віртуозны, як у Леаніда Дубара, не такі акадэмічны, як у Трафіма Ігнаценкі, але ён быў таксама адметны. Кім Шастоўскі для студэнтаў заўсёды быў сваім чалавекам. Усе ведалі, што Кім нікога не закладзе. Ён выкажа незадаволенасць проста ў вочы, ён насварыцца за курэнне марыхуаны, ён пасмяецца з няўмелага малюнка ці няўдалай кампазіцыі, але ён не пойдзе скардзіцца да дырэктара ці заўгаса. Адпаведна, і ў вучнях ён цаніў прыстойнасць і простасць. Свае эстэтычныя каштоўнасці ён нікому не навязваў, але ягоны ўплыў часам праяўляўся досыць выразна. Цішыня, якая стаяла за палотнамі Кіма, нейкім чынам з'яўлялася і за карцінамі Кухто, Сабалеўскага, Лася і Чэха. Дзеля эксперыменту я таксама спрабаваў напісаць «ціхі» вясковы краявід, прысвечаны памяці настаўніка Кіма Шастоўскага. Сам Кім Фёдаравіч пра сваё выкладанне казаў так: «Жонка палічыла, што мне варта пайсці выкладаць, каб меней выпіваць...» Казаў ён тое заўжды са смехам, які любілі ягоныя вучні.

запісы

Юры Несцярэнка



...на канцэрт едуць такія зоркі – сур'ёзныя, інтэлігентныя, філосафы ўсе такія ўдумлівыя. А ўжо назад як – дык і не памятае ніхто...

# Пра думкі і прыдумкі

*...У кожнай народнай песні ёсць аўтар, толькі імя яго губляецца з цягам часу, і далей твор жыве сваім жыццём. "Калі я паказаў гэтую песню аднаму вядомаму літаратару, – распавёў Андрэй Вадзімавіч, – той доўга маўчаў і нарэшце сказаў: «Чалавек такое прыдумаць не мог – гэта мог прыдумаць толькі народ»..."*

З рэпартажа пра канцэрт А.В. Макарэвіча ў Мінску

*...Едзеш сабе ў якой-небудзь спадарожнай машыны, і раптам – такая гісторыя! Толькі запісвай ці проста далей каму пераказвай...*

Пераказчык народных прыдумак

### Грыбочкі

...А вось, праязджаем праз мост. Ну, дзе тая рэчка цяпер? От раней была рэчка дык рэчка! Ды і раслiннасць цяпер не тая – давялі прыроду да ручкі! У мяне цётка за савецкім часам у Казахстане жыла. Вельмі любіла яблыкі, "антонаўку" – у іх такія

не растуць. Мы з бацькам як прыйдзем на пошту, як пачнем скрынкі напаўняць гэтай антонаўкай – кожны яблык з два маіх кулакі! Па дваццаць скрыняў набівалі! От цётка радая была! Такіх яблыкаў цяпер ужо не бывае...

...Яна нам таксама шмат чаго перасылала. Там у іх на палях салдацікі працавалі, ураджай збіралі. Цётка дачакаецца, калі машына з зернем едзе, махае рукой, спыняе, салдаціку грошай крыху дасць, ежы ці гарэлкі. Ён заедзе ў двор, з кузава ўсё зерне скіне – дзве тоны ці тры, і паехаў далей – нібыта разгрузіўся. Дык цётка нам зярна потым па пошце як дашле-дашле...

...А яшчэ мы ў грыбы любілі хадзіць. Грыбы былі, я табе скажу, вышэйшага гатунку – цяпер такіх няма! Ужо набярэм дык набярэм усёй сям'ёй! Матка па свайму рэцэпту намарынуе – адных маслякоў ды апенькаў па чатырнаццаць вёдзер стаяла ў падвале, што ты!..

### Ні халеры не разумеюць

...Вось у тых палітыкаў – ці дурны, ці хворы! Ну, праўда – няма нармальных. Глядзіш на яго, слухаеш – а ён ні халеры не разумее, што нясе! Ахінею! Акалесіцу! Логікі ніякай – паспрабуеш разабраць штосьці з яго прамоваў – хрэн там! Ён кажа абы-што! Збірае боб з гарохам і прыкідваецца, што нешта разумее...

Ну, ладна там нашы – Пуцін ці Мядзведзеў – гэтыя хоць два словы могуць звязаць. А вось амерыкосы зусім з'ехалі дахам – як ні прыслухоўвайся, ці з перакладчыкам, ці без перакладчыка – нясе бог ведае што. Проста жах! Вось, напрыклад, на днях галоўнакамандуючы іхнім флотам заяўляе, маўляў, дайце мне суткі – і Шосты флот будзе стаяць каля берагоў Беларусі. Прыкінь? Ну, ты ўдумайся! Ну, параскінь мазгамі, што ён нясе? Ты разумееш? Спадзяюся, ты не глупы чалавек? Гэта азначае, што акрамя шостага флота – ёсць яшчэ пяць?..

### Ідэя

...Ты ж музыкант? Я ж не памыліўся? Па тэлеку час ад часу цябе паказваюць... Я таксама музыкай займаюся. Зараз вось еду з санаторыя. Ёсць яшчэ ў нашага міністэрства рэсурсы... Мне за палову кошту пуцёўка дасталася. Я ж усё жыццё ў гэтай сістэме – то ў аператыўнай службе, то ў іншых аддзелах. Карацей, "куда родіна пошлёт". Праўда, званне, якое я прасіў, так і не далі з выхадам на пенсію... А вось, бачыш, мы з табой зараз у адзін аўтобус патрапілі – мне здаецца, што гэта невыпадкова.

...А творчасцю займаўся заўсёды – і ў самадзейнасці спяваў, і на аглядах выступаў калісьці. Вось зараз музыку пішу. Інструменталіст я слабаваты – на клавішных не дужа, на гітары так сабе. Дарэчы, можа каго параіш, каб пару ўрокаў даў?

...Я песню падрыхтаваў да 9 мая. Знаёмыя хлопцы падказалі, да каго звярнуцца – зрабілі мінусоўку. Выступіў з гэтай песняй у святочным канцэрце ў нашым мястэчку. Я ж напачатку 70-х як з'ехаў адсюль, так і мала калі бываў. А вось цяпер – дамок набыў. Як лецішча – на лета прыязджаю. Ну і прапанаваў мясцоваму Дому культуры кшталту супрацоўніцтва.

...А пачуў маю песню старшыня райвыканкама. Падыходзіць пасля выступлення майго, з павагай вітае і здалёк пытаецца – а чаму Ваша песня ніяк не аформленая? Я кажу – у якім сэнсе? А ён – давайце, маўляў, зробім дыск, вокладку прыстойную, падпішам пад гэту справу фатографаў, дызайнераў, пазначым аўтараў, выканаўцаў, надрукуем вокладку на мелаванай паперы, зарэгіструем аўтарства. Я кажу – ну добра, давайце, што з вамі зробіш!

...Дамовіліся, што ён, калі паедзе на абласную нараду, пры выпадку дыск з песняй перадасць старшыні аблвыканакама (можа нават ён ужо і сустракаўся з ім, пакуль я тут па санаторыях езджу). Той паслухае, безумоўна, сам. Але калі паедзе ў сталіцу на сустрэчу кіраўнікоў на вышэйшым узроўні, то перадасць дыск... ну, ты разумееш... менавіта Яму.

Песня шэдэўральная, таму тут пытанняў быць не можа – зразумела, спадабаецца. Тэма вельмі актуальная – памяць пра ваяроў, што абаранялі Радзіму (а тут падыходзяць усе – і ветэраны Айчыннай, і афганцы ды іншыя інтэрнацыяналісты, разумееш?).

Ну, а ў Яго распараджэнні ўсе аркестры краіны – сам прыкідвай! Каму дасць загад – той і падрыхтуе аркестроўку...

...Але я вось што яшчэ не сказаў – усе ваяры, якім прысвячаецца песня, яны ж былі калісьці ў адной вялікай краіне, таму яе адразу ж падхопяць у Расіі – ну, як агульны гімн інтэрнацыяналістаў. А іншай такой песні няма – толькі мая! Таму ўжо расійскія дзяржаўныя аркестры яе будуць выконваць яшчэ больш крута!..

...Я табе павінен сказаць галоўнае – ты ж памятаеш, хто былі нашымі саюзнікамі – Англія, Бельгія, Францыя? Ну, памятаеш, напэўна – "Нармандыя-Нёман" і ўсё такое? Дык вось, тады, як песня стане знакамітай, надыйдзе час зрабіць міжнародны праект. І аркестры Еўропы зайграюць тэму памяці загінулым ваярам па ўсім свеце!..

Ну, што – ты будзеш адпачываць? Ладна, спі, пайду да свайго месца. Трэба падумаць – ёсць яшчэ адна ідэя...

## Канец Японіі

...Ды што такое зараз Японія? Усё, хан*а* ёй! Яна ўжо не зможа падняцца! Яна цалкам дэградавала! Ты паглядзі – гэтыя оргіі, гэтае вычварэнства! Што яны там вытвараюць?! Амаль што з дзецьмі... Як яны могуць потым нармальна нешта вынаходзіць ці будаваць, выходзіць на палітычную арэну – гэтыя старыя распуснікі?! Гэта грамадства ўжо ніколі не зможа дасягнуць ранейшых сваіх вышыняў. Усё! Ніякай маралі няма! Што яны там вы-тва-а-а-ра-а-аюць! А-я-я-й! Так! Японія звалілася ў яму распусты! З такой ступенню разбэшчанасці і страты маральных нормаў краіна не можа існаваць... Я па сваіх каналах даўно ўжо ўсё адсочваю, з Інтэрнэтам сябрую, я ў курсе ўсіх іхніх гульняў!..

## Sleeping Beauty

...Аднойчы зімой з братам ехалі з Мінска. Мароз бліжэй да ночы прыціснуў вельмі моцна. Калі да дома заставалася кіламетраў дваццаць, убачылі на абочыне дзяўчыну, па ўсім было відаць, што яна моцна змерзла. Спыніліся, спыталі, дакуль ёй ехаць? Яна, зразумеўшы, што мы не супраць яе падзвезці, адразу заскочыла на задняе сядзенне. Выглядала настолькі стомленай і змучанай холадам, што, як нам падалося, ёй ужо без розніцы было ўвогуле, куды ехаць, толькі б сагрэцца.

Мы паспрабавалі пагаварыць з ёй, але незнаёмка літаральна праз пару хвілін заснула. Мы не звярнулі асаблівай увагі на гэта – маўляў, хай паспіць, пакуль будзем ехаць.

Уехаўшы ў мястэчка, спыніліся і пачалі тармасіць нашу спадарожніцу, каб спытацца, куды яе падвезці? Тое аказалася нялёгкай справай. Дзяўчына так моцна правалілася ў сон, што не падавала ніякіх прызнакаў абуджэння. Мы не надалі гэтаму значэння, толькі жартавалі і спрабавалі яе мацней штурхаць. Але нашыя жартачкі скончыліся, калі мы зразумелі, што яна не прачынаецца ні праз пяць, ні праз пятнаццаць хвілін.

Што мы толькі ні рабілі – білі яе па шчоках, расціралі снегам твар, штурхалі, варушылі – плёну гэта ўсё не давала. Яна спала мёртвым сном.

Параіўшыся, мы вырашылі пад’ехаць на стаянку да нашага трохпавярховага дома. У той перыяд мы жылі ў бацькоўскай кватэры дзвюма сем’ямі. Два пакоі займаў адзін брат з сямействам, і два іншых – другі са сваёй сям’ёй. Нашыя жонкі спалі зараз з малымі дзецьмі. Што было б, калі б яны раптам прачнуліся і выйшлі з пад’езда? Я проста не ўяўляю, як бы мы растлумачылі нашым жанчынам пра наяўнасць у салоне дзяўчыны, якая спіць сном немаўляці!

Вырашылі арганізаваць дзяжурства. Маўляў, адзін застаецца ў машыне, час ад часу прагравае рухавік і чакае, пакуль нашая раптоўная пасажырка ачуняе. Калі не атрымаецца прывесці яе ў прытомнасць, – праз гадзіну “змена варты”.

Зразумела, што пасля няпростай далёкай паездкі, калі самі ўставалі гадзін у пяць раніцы, мы проста “вырубаліся” ад стомы, і гэтае выпрабаванне з “заснулай прыгажуняй” нам давалася цяжка.

Гадзіны ў дзве ночы зразумелі, што мы можам таксама, як і нашая нечаканая госця, паддацца чарам Марфея і па меншай меры абмарозіцца ў машыне – мінусавая тэмпература ў другой палове ночы пабіла рэкорд за ўсю зіму.

Наступныя падзеі выглядалі сапраўдным вар’яцтвам. Калі б хто з жыхароў дома выглянуў у тры гадзіны ночы ў вакно, то ўбачыў бы двух сваіх суседзяў, якія цягнулі цела чалавека ў пад’езд. А хтосьці б нават, безумоўна, разгледзеў бы і жаночую выяву.

Самым цяжкім было ціха пранесці нашую дарагую госцю праз іншыя пакоі. У дальнім пакоі дзяўчыну паклалі на ложак. Паставілі будзільнік на пяць раніцы. Галоўным цяпер было, каб, прачнуўшыся, госця не спалохалася і не пачала крычаць ці, напрыклад, не нарабіла шуму, ускочыўшы з ложка, калі б убачыла незнаёмых мужчын. Давялося сядзець абодвум на крэслах побач з ложкам і час ад часу разляпляць вочы (што давалася неверагоднымі высілкамі).

На пачатку шостай аперацыя па вяртанні начной вандроўніцы да рэальнасці была скончана. Усё прайшло спакойна, і яе ўдалося цішком вывесці на лесвічную пляцоўку.

Што з ёй было далей, мы не ведаем. Адкуль і куды яна трымала свой шлях, засталося таямніцай. Але праспалі мы ў той дзень амаль да вечара.

## Дай дарогу

Папрасілі музыкі з аднаго рок-гурта завезці іх з Маладэчна ў Мінск на канцэрт. Ды я колькі разоў вазіў рокераў на розныя выступленні. Цікава за імі назіраць, едуць туды – такія важныя, культурныя! А назад – нібыта зусім іншых людзей вязеш: крычаць, песні гарланяць, вакол горы бруду, пустых бутэлек, недапалкаў.

Я таксама, зразумела, не падарунак! Калі тым разам завёз сваіх пасжыраў у клуб, дзе павінен быў адбыцца іх канцэрт, сказаў, што адвярнуся па справах. Яны лішніх пытанняў не задавалі – маўляў, справы дык справы.

Выступалі мае сябры на адным канцы горада. А на супрацьлеглым адбывалася іншая музычная падзея. Там выступаў мой любімы гурт “Дай дарогу!” Туды я і накіраваўся. Прыехаў у клуб – квіткоў няма! У мяне схема адпрацаваная – я знайшоў патрэбных людзей (ну, ты разумееш) і ў зал патрапіў.

Як і належыць – спачатку “танцпол”! Пагойсаў добра! Аднак гады не тыя, не юнак ужо – як ні круці, саракет размяняў! Столікі на другім узроўні, зразумела, усе занятыя.

*Версія першая*

Гляджу, сядзіць бландынка. Не худзенькая, але вельмі прывабная. За спінай два ахоўнікі. Але побач два вольныя месцы. Я кажу:

– Келіх шампанскага – і я сядаю побач!

– Не трэба шампанскага – сядай!

*Версія другая*

Не, не так распавёў. Шампанскае (бутэльку) – адразу. А за бландынкай ахоўнік стаіць, можа таму, што хворая нага, – нейкая траўма ў яе была. А побач сядзіць сяброўка, здаецца, брунетка. Ну, бландынка адразу цалавацца... Не з сяброўкай, зразумела...

*Версія трэцяя (праз пэўны час пасля невялікага перапынку)*

Карацей, – бачу столік. За ім дзве асобы. Два месцы вольныя. Я падыходжу і без падрыхтоўкі: “Дзяўчаты, я бяру шампанскага і сядаю да вас!” Бландынка смяецца і паказвае ў бок асобы на суседнім крэсле: “Гэта не дзяўчына. Гэта мой сябар”.

Але “сябар” з пасмай пафарбаваных валасоў праз увесь твар ніяк не рэагуе на падзеі вакол, нібыта яго тое не тычыцца. Такое адчуванне, што ён засяроджаны на выступе гурта на сцэне. Альбо занадта засяроджаны на нечым іншым, тупа гледзячы ў бок сцэны.

Ну, як кажуць, – баба з возу... Мы выдатна праводзім час, нават трэці лішні нам не замінае. Праўда, у бландынкі нага ў гіпсе. Але гэта толькі надае шарму ўсёй сітуацыі. Я, зразумела, абяцанне выканаў – прынёс шампанскага. Бландынка аказалася выкладчыцай універсітэта. Я нават крыху захваляваўся, але ўслых адзначыў: “Якія ж адукаваныя людзі сярод нас сустракаюцца!” Дзяўчына выглядала шчаслівай, вось праўда, – як дзіця радавалася любым маім словам... Шчыра – я не хацеў нічога такога – хацеў проста з камфортам паглядзець выступ любімага гурта. Але пасля шампанскага чамусьці нас пацягнула на піва... Потым зноў шампанскае... Нібыта яна потым пакідала свае каардынаты...

Калі я пад’ехаў на таксі да прыступак клуба, дзе выступалі мае сябры, яны ўсе віселі на парэнчах, а клуб, падобна на тое, быў ужо зачынены. “Мы табе звонім, пішам – ты дзе падзеўся?!” З музыкантамі былі іхнія сяброўкі. І вось у адной з іх раптам змяняяецца выраз твару, і яна прамаўляе: “Дык ён жа... нецвярозы!”

Наступнае імгненне можна смела назваць момантам гендэрнага разладу. У дзяўчат на тварах застывае маска жаху, а ва ўсіх хлопцаў – шчаслівыя ўсмешкі: маўляў, гуляем да раніцы!

Вось я і кажу: на канцэрт едуць такія зоркі – сур’ёзныя, інтэлігентныя, філосафы ўсе такія ўдумлівыя. А ўжо назад як – дык і не памятае ніхто...

## Эдыт Піяф

...Памяць вярнулася ў той момант, калі стаяў на прыступках кавярні ды ламаўся ў зачыненыя дзверы. Можа, яны ўжо скончылі працу на той момант ці часова зачыніліся? Не ведаю. Там на французскай нешта было напісана, але я не зразумеў што. Адразу намаляваліся мянты іхнія. Ну, у сэнсе паліцэйскія. Што тут зробіш? Як даў я лататы прама праз дарогу, паміж машын! А на тым баку могілкі аказаліся па шляху. Я не бег, а ляцеў! Прынамсі, так мне здавалася. Спачатку былі старыя могілкі – у вялізным парку, пад шатамі старых дрэваў каменныя крыжы ў рост чалавека, помнікі, бюсты, склепы. А потым пайшлі ўжо сучасныя могілкі – мільён аднолькавых крыжыкаў на адкрытай прасторы. Я бег, бег, зачапіўся ды грымнуўся пасярод гэтых крыжыкаў.

Карацей, прачынаюся – ужо цямнее. Галаву ўзнімаю, а прама перад носам надпіс – "Эдыт Піяф". Я яе абняў, пацалаваў. Узняўся і пайшоў гайдаючыся. Нават не глядзеў, у які бок. Аднак потым прачнуўся ўжо ў гатэлі...

## Пакуты

...Замовіў піва, ды забыўся ўдакладніць, каб прынеслі не халоднае, а цёплае. Вось халера! А яны далі страшэнна халоднае! Пакутваў, але піў...

Потым узяў глінтвейн. Не хацеў з гваздзіком, – хочаш вер, хочаш не вер! – ён аказаўся менавіта з гваздзіком. Я проста пераблытаў, сказаў, каб без карыцы. У выніку піў з гваздзіком... Жах, а не сітуацыя...

## Хата Грышы Распуціна

Бацькі, прынамсі, як і ўсе сваякі, былі звычайныя вясковыя ўкраінскія людзі. Але ж вось камусьці карцела назваць іх "нацыяналістамі". Усе браты, сёстры, дзяды і бабулі жылі ў раёне Роўна і Луцка. За месяц да вайны іх выслалі. Дакладна столькі часу яны знаходзіліся ў дарозе ў Сібір. Як толькі прыехалі да месца прызначэння – пачалася вайна.

Апынуліся ў Цюменскай вобласці. Сяло Пакроўскае. Першынец у мамы памёр у 1947 годзе. Я нарадзіўся ў 1948 годзе. Бібліятэка была ў будынку школы (чытаў я любыя кніжкі, што траплялiся пад руку – як цяпер бы сказалі – быў фанат гэтай справы). Памятаю, як пры мінус 56 хадзілі ў школу – заняткі тады не адмянялі. А школа месцілася ў былой бацькоўскай хаце Грыгорыя Распуціна.

Ці думаў калісьці той Грыша, што з ягонай хаты выйдзе будучы студэнт Ленінградскага інстытута кінаінжынераў? Які ажэніцца на самай прыгожай студэнтцы курса і паедзе з жонкай-красуняй па размеркаванні ў старажытны горад Вільнюс. Там ён узначаліць канструктарскае бюро магнітнага запісу на творчым аб'яднанні "Вільма" на цэлых тры гады (а яшчэ тры гады дадаткова будзе кіраваць зборкай і наладкай). Аб'яднанне за савецкім часам лічылася вельмі аўтарытэтным і перспектыўным, трэба вам давесці. Нават не зусім і савецкім. Прынамсі, як і ўсё прыбалтыйскае ў Савецкім Саюзе.

Праз маскоўскае кіраўніцтва ў галіне сваёй спецыфічнай прамысловасці праз шэсць гадоў патрапіў у Магілёў, на завод "Зеніт". Дзе ўдала распрацоўваў знакаміты касетны магнітафон "Беларусь" (чырвоненькі і чорненькі). Наступных дзесяць гадоў працы праляцелі амаль незаўважна.

Але прыйшла перабудова. Спадар Гарбачоў шмат чаго нагаварыў з тэлевізара – натхніў рамантыкаў і летуценнікаў. Ніхто і ўявіць сабе не мог, што праз пару гадоў такая машына, як СССР, разваліцца. На прадпрыемстве станавілася ўсё цяжэй працаваць. А Міхаіл Сяргеевіч з тэлеэкранаў усё падбадзёрваў – маўляў, зараз час вялікіх магчымасцяў, не губляйцеся, бярыце ініцыятыву ў свае рукі.

Было вырашана пакінуць дзяржаўную працу і падацца на "вольныя хлябы". Так, з 1989-га пачаўся перыяд працы ў легендарным шапіку ў адным з самых крымінальных заводскіх раёнаў. Шапік распаўсюджваў магнітныя аўдыёзапісы на стужках розных фарматаў – на касетах і бабінах. З бандытаў-замаўляльнікаў, аматараў музыкі, рэдка хто пахваляўся пісталетам – у асноўным "прад'яўлялі" нажы. Вясёлы быў час.

Шапік дастаўся ў спадчыну ад легендарнага музыканта Аліка К., які эміграваў у Амерыку. Ён быў вядомы ў горадзе гітарыст рокавага кірунку – граў "Дып Пёрпл", "Крыдэнс" ды падобную музыку. Алік пакінуў пасля сябе маленькае "прадпрыемства" па распаўсюду сусветнай рок-спадчыны і разам з ім кволыя

гарантыі ад мясцовых аўтарытэтаў "крышаваць" шапік у выпадку прэтэнзій з боку іншых аўтарытэтаў.

Аўтарытэты ўсіх рангаў патрабавалі свой "музон". Народ патрабаваў "Ласкавы май". Вельмі рэдкія наведнікі прыходзілі па рок-музыку.

Праз два гады ў самым цэнтры горада нарэшце адбылося адкрыццё шыкоўнай новенькай крамы-студыі – акрамя бабін і касет тут ужо наведнікам прапаноўваліся вінілы, кнігі, музычныя часопісы і газеты, постэры, кампакт-дыскі, якія толькі-толькі з'явіліся. Што яшчэ важна – назбіралася аграменная калекцыя элітнага сусветнага кіно на відэакасетах.

Наступныя дзесяць гадоў былі моцна звязаныя з гэтай студыяй, а потым прыйшло разуменне, што трэба з'язджаць у Мінск. Прадалі кватэру ў Магілёве і пачалі працаваць як філіял адной буйной сталічнай студыі (пры адным з цантральных Дамоў быта). Самае цікавае, што любыя студыі гуказапісу за савецкім часам адносіліся да сферы бытавога абслугоўвання. Не да сферы культуры ці, напрыклад, адукацыі, а займалі сваё месца побач з пральнямі, рамонтам адзення і абутку, швейнымі майстэрнямі ды наладжваннем гадзіннікаў.

У Магілёве так склалася, што некаторыя буйныя студыі гуказапісу васьмідзясятых так ці іначай былі звязаны з выхадцамі з Каўказа. Адзін быў, напрыклад, асецін па бацьку, у другога – маці чачэнка. Вось быў такі Юра. І памочнік у яго быў Юра. Памочнік – цікавая такая асоба: і спартсмен, і меламан, і ўвогуле малойца.

Шматлікім знаёмым той Юра запомніўся тым, што збіраў вялікія кампаніі і наладжваў прагляды спецыфічных фільмаў. Ну, ты разумееш. Усе былі ў захапленні, а гаспадар тым часам незаўважна падаваў інфармацыю "куды трэба". Такім чынам заўзятыя гледачы, аматары кіно для дарослых? і самі не ведалі, што былі ў "спісах" пэўных устаноў.

Праз некаторы час спартсмен-меламан Юра тэрмінова сабраўся ў Амерыку. Але што важна – перад ад'ездам пакінуў мне цэлы чамадан арыгінальных вінілаў "Бітлз". А ў нашай сям'і незадоўга да яго ад'езду здарылася падзея – нарадзілася дзіцё. Час ішоў, сын падрастаў. І вось менавіта з тых бітлоўскіх кружэлак, што пакінуў відэааматар-эмігрант, я запісаў трохгадзінную складанку – атрымалася нешта кшталту "Best Of The Best". Усе песні з той складанкі сын засвоіў, як кажуць, з малаком маці.

Цяпер ён піша свае цудоўныя песні. Якія мы разам час ад часу граем на розных конкурсах і канцэртах. А яшчэ кожны год ездзім у Кактэбель, дзе выступаем у якасці вулічных музыкантаў (разам з тым яшчэ граем папулярныя джазавыя стандарты ў розных барах і рэстаранах, дзе нас ведаюць і чакаюць). Напісалі нават гімн Кактэбеля. Не так даўно маё сямідзесяцігоддзе на Чорным моры адзначалі – я на гітары, сын на бас-гітары...

Такія вось метамарфозы. Ці мог сабе такое ўявіць калісьці той Грыша Распуцін?

## Ягадкі

Хадзіла на балота перад Раданіцай. Леташнія журавіны збірала. Мне шанцуе. Сустрэла мядзведзя. Ну, такі, малады – драў кару на дрэве. А я яшчэ, дурніца, бліжэй сунуся – думаю, пагляджу, хто такі. Ці то нейкі мужык, ці хто? Пакуль я прыгледзелася, а ён ужо сам на мяне глядзіць – вочкі чорныя-чорныя! Як чарнасліў. Я і стаю як слуп. Стаю і думаю – калі ён мяне будзе раздзіраць, моцна будзе балець ці не? Думаю, хоць бы адразу задраў, каб толькі не балела.

Ведаеце, што на мінскай трасе старога мядзведзя машына збіла? Гэта тата ягоны быў – таго, каго я пазней сустрэла...

А так мне колькі разоў шанцавала на сустрэчы! Калі дзікі мяне напалохалі так, што я нават не на дрэва – на кусты арэшніку нейкім чынам узадралася. Не ведаю

як, але згарнула іх у ахапак, і на іх жа павісла. А дзікі пакункі мае цалафанавыя з журавінамі парвалі – унізе, пада мной, – пажэрлі ягады і далей пайшлі...

А раз на статак напаролася – дваццаць восем штук іх толькі дарослых было. Праз дарогу патрусілі...

Было раз, што рысь маладая прама наперадзе ў прыцемках аднекуль саскочыла. У першае імгненне падумала: вавёрка нейкая аграменная, ці што, – з “кістачкамі” на вушах? Потым ужо ў галаве мільганула, як абпаліла – якая вавёрка!? Гэтаж звер драпежны!..

А раз тры ваўкі мне сустрэліся. Два маладыя наперадзе паміж кустоў прамільгнулі – беглі не хутка, не павольна – сярэдне. Поўсць, лапы, спіны – такія здаровыя! А трэці, худзейшы, ад іх адставаў моцна. Мяне пачуў і спыніўся. Нейкі аблезлы быў. Ці то белаваты, ці то выцвілы нейкі. І ў мой бок галаву павярнуў. Але такое адчуванне, што сляпы быў. Бо ў яго нешта кшталту моцных брывоў нейкіх тырчала над вачыма...

Вось тут, калі ласачка, спыніце. Пайду на рынак ягады прадаваць...

Ірына Саматой



...архетыповы вобраз каханай жанчыны паўстае як увасабленне чалавечнасці, вышэйшай праявы адухоўленасці свету...

# “Белавежа, ты, як малітва”

### *Архетыповыя вобразы ў паэзіі Алеся Барскага*

Беларускамоўную літаратуру Польшчы цяжка ўявіць без Алеся Барскага (Аляксандра Баршчэўскага). У яго асобе ўдала спалучыліся таленавіты паэт, празаік, перакладчык, гісторык літаратуры, педагог, грамадскі дзеяч.

Пачатак літаратурнай творчасці Алеся Барскага прыпадае на сярэдзіну 50-х гадоў XX стагоддзя, калі актыўна развіваўся грамадска-культурны рух беларускай меншасці ў Польшчы. Рэальным плёнам гэтага руху было стварэнне Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), выданне штотыднёвіка «Ніва» (1956), выпуск гадавіка «Беларускі каляндар» (1957), узнікненне беларускага літаратурнага аб’яднання «Белавежа», выхад шматлікіх калектыўных і аўтарскіх зборнікаў. Літаратурна-культурная сітуацыя беларуска-польскага памежжа, безумоўна, уплывала на станаўленне светапогляду паэта, прадвызначыла ідэйна-эстэтычную скіраванасць яго вершаў, настойлівае памкненне спасцігнуць сутнасць быцця

чалавека, асэнсаваць духоўную прастору яго існавання. Найбольш удалося зрабіць гэта Алесю Барскаму ў паэзіі. Сведчанне гэтаму – вершы, змешчаныя ў кнігах «Белавежскія матывы» (Беласток, 1962), «Жнівень слоў» (Беласток, 1967), «Мой бераг» (Мінск, 1975), «Блізкасць далёкага» (Беласток, 1983), «Лірычны пульс» (Мінск, 1987).

Крытыкай неаднаразова адзначалася шматтэмнасць, шматпраблемнасць паэзіі “белавежца”. Кожны з пяці зборнікаў характарызуецца шчырасцю і непасрэднасцю пачуцця, прастатой думкі, схільнасцю да выкарыстання ў сваёй творчасці розных паэтычных форм і вобразаў.

Літаратурная дзейнасць беластоцкіх творцаў, у тым ліку і Алеся Барскага, за апошні час неаднойчы параўноўвалася даследчыкамі з дзейнасцю беларускіх адраджэнцаў пачатку XX ст. у плане актыўнага фарміравання нацыянальнага міфастварэння архетыпа нацыі ў кантэксце сусветнай культуры. У творчасці паэта відавочнае месца займае архетып “малой радзімы” – вёскі, якая мае канкрэтную назву – Бандары. Галоўны герой зборнікаў – лірычная асоба, што вырасла на Беласточчыне, назаўсёды захавала ў душы повязь з малой радзімай, яе людзьмі, родным наваколлем. Алесь Барскі перасцерагае тых, хто адракаецца ад сваіх каранёў:

Лёс пакіне нас там, дзе ён толькі захоча,
Але хай ён аслепіць сынам усім вочы,
Калі схочуць яны ці з бяды, ці з раскошы
Прамяняць родны край на хвалу ці на грошы [8, с. 73].

Патрыятычныя пачуцці і памкненні скіраваны да родных вёсак, мястэчкаў, дзе да гэтай пары яшчэ можна пачуць беларускае слова. Таму ў творчасці Алеся Барскага – песняра гэтага краю – гучыць асаблівая песня бацькаўшчыне:

Я толькі на роднай зямлі
Станаўлюся свабодным.
Выключна ў сваіх Бандарах
Да сонца й зямлі
Дастаю адначасна рукамі.
І толькі сярод землякоў
І дабро, і святло – мая ўласнасць [8, с. 25].

Родны кут, шчырая любоў да сваёй зямлі – асноўныя матывы твораў паэта ў яго кнізе «Белавежскія матывы». Большасць вершаў гэтага зборніка – адкрыццё харaства бацькоўскай зямлі, якая дае крылы для паэтычнага палёту. Аб гэтым гаворыць аўтар у вершы «Ёсць на свеце зямля»:

Ёсць на свеце зямля адна,
Да якой безупынна ідзём.
У майскіх і снежаньскіх снах
Цвіце вераснёвым агнём.
Цалуюць нас рып з-пад калёс,
Сардэчна крычаць вераб’і,
Пяшчотна шапоча галлё.
Чым далей мы жывём ад яе,
Тым любоў і туга гарачэй.
Да вяртання нам крылы дае,
Не знікае ніколі з вачэй [4, с. 93].

Любоў да Радзімы не сузіральнае пачуццё, банальнае любаванне краявідамі. Гэта ўсвядомленае адчуванне трывалай, непарыўнай повязі з тым асяроддзем, з якога ён пайшоў у шырокі свет:

Майго дзяцінства і юнацтва
Не аддзялялі боты. Ад зямлі...
Таму ў маіх нагах, руках і галаве
Ёсць сокі роднай глебы.
І пахі хлеба, і водар луга...
Усё з зямлі я ўвабраў
У сваю кроў [9, с. 12].

Дамінантнае месца ў творчасці Алеся Барскага займае архетып бацькоўскай хаты, месца, дзе паэт нарадзіўся, дзе адчуў смак хлеба, сеяў зярняты ў раллю, звінеў касою над лугамі, дзе сустрэў каханне, – гэта яго шчаслівы лёс, яго гонар:

Ля ціхай хаты, на галінах,
Калыша птушак дуб-равеснік,
І гэта ёсць мая Айчына,
Якой спяваю мае песні [9, с. 13].

Родная хата для паэта – гэта не толькі Бандары, пэўная прастора, а, перш за ўсё, тая субстанцыя, якую стварылі яго маці і бацька, гэта тое месца, па якім ён сумуе і да якога імкнецца ўсёй душой:

Далёкая, далёкая мінуласць,
Атуленая матчынай далонню,
Ты з чымсьці добрым,
З чымсьці чулым,
Што не забыць і не запомніць [9, с. 57].

Многія творы напоўнены прыгажосцю роднага краявіду, апісваюць вясковы быт. Так, з вершаў «Парог», «Бела-зялёныя стагі», «Беглі вятры» перад чытачом паўстае тое наваколле, у якім знаходзіцца лірычны герой, і яго пачуцці, перажыванні праходзяць перад вачыма. Пачуццё любові да роднага дому захоплівае сваёй прастатой і шчырасцю:

Нямала прайшоў я дарог,
І шляхоў, і нязведаных сцежак.
Ды ўспамін пра вясковы парог
Аставаўся ў памяці свежы...
Мне сягоння лягчэй уявіць,
У чым сіла традыцый і спадчын.
Спеў парога астаўся ў крыві,
Бо ён бацькаў, ён матчын [9, с. 20].

Відавочная пераклічка вершаў Алеся Барскага “Парог” з вершам Максіма Танка (“Парог, вычасаны з успамінаў, // Астаўся за мной...” [11, с. 195]). Архетыповы вобраз парога, як катэгорыі духоўнай, набывае акрэслены характар, а вяртанне да яго становіцца галоўнай дамінантай творчасці Алеся Барскага, эквівалентам роднага дома, Айчыны.

Паэт прызнаецца ў сваёй любові Беласточчыне, і гэта гучыць як сапраўдная сыноўняя споведзь:

Я сын зямлі беластоцкай.
І іншае мне маці не трэба,
Там рэчкі сінія-сінія
і ветры з далонямі кволымі
бягуць на зялёнай краіне,
як сябры, заўсёды вясёлыя... [9, с. 64]

Герой паэзіі Алеся Барскага – інтэлігент з сялянаў, чалавек эмацыянальны і

ўражлівы, які спыніўся дзесьці на паўдарозе паміж горадам і вёскай, хоць даўно лічыць сябе гарадскім. Вёска настойліва кліча яго да сябе хараством прыроды, усімі рэаліямі свайго жыцця і побыту. «Горад, – прызнаецца паэт, – завалодаў толькі маёй фізічнай субстанцыяй, але ніколі духоўнай» [1, с. 65]. Па словах Яўгена Адамовіча, «у яго паэзіі ўвасоблена душа земляроба, душа вясковага чалавека, але з разуменнем горада – душа інтэлігента і сына сваёй зямлі з марамі, імкненнямі, роспаччу, радасцю, спадзяваннямі і надзеямі на лепшае, весялейшае, скажам так, – людскае жыццё» [1, с. 65].

Ва ўсёй паэзіі Алеся Барскага высвечваецца сыноўняя адданасць роднай зямлі, тым вытокам, якія ўзгадавалі яго, дапамаглі стаць сумленным чалавекам, навучылі цаніць працу:

Трывогу нашу я ў сэрцы:
Зрабіў для Айчыны так мала,
І сёння гатоў памерці,
Каб толькі яна існавала! [9, с. 6]

Творчае крэда беларускіх пісьменнікаў 50 – 60-х гг. XX стагоддзя «Усе мы – з хат!» – не толькі прызнанне, а жыццёвая пазіцыя Алеся Барскага, той вызначальны лейтматыў, які праходзіць праз усю яго творчасць.

Надзвычай шырока і арганічна гучыць у лірыцы Алеся Барскага паэтызацыя прыроды роднага краю – крыніцы мудрасці, смутку і радасці. Паэт ідэалізуе прыроду і лічыць сябе яе часціцай. У адным з першых інтэрв'ю малады пісьменнік прызнаўся: «Я так глыбока разгубляюся, што нават часта не магу выдзеліць сябе з Белавежы ў нешта самастойнае. Ці Вам не здаецца, што я з'яўляюся адным з дрэў белавежскіх?» [10, с. 6]

Ад палёў мы сябе не аддзелім,
Не пакінем ніколі дубровы,
Лес нам ложа лістотай пасцеле,
Закалыша лірычнаю мовай [4, с. 84].

Аднаму з першых у беларускай літаратуры паэту ўдалося стварыць эмацыянальныя, пластычныя малюнкі наднарвенскай прыроды, скласці ўрачыста-прыўзнятую оду Белавежскай пушчы. Прыгадаем, што гэты натхнёны вобраз даў назву яго зборніку "Белавежскія матывы". Узоры малітоўнай лірыкі – вершы "Белавежа – анёлаў гурт", "Белавежа, ты, як малітва", "Мой лес, мой зялёны брат", "Лясы – душа маёй краіны". Архетыповы вобраз пушчы, лесу прысутнічае ва ўспамінах, выклікае насталыгію аб мінулым, фарміруе каштоўнасныя арыенціры лірычнага героя, дапамагае знайсці ўнутраную раўнавагу. Непасрэдна звяртаючыся да іх, ідэнтыфікуючы сябе са светам прыроды, паэт шчыра прызнаецца:

Я прыйшоў абарваны,
пусты і прыбіты,
бо горад сарваў
рукой дабрабыту
з плячэй маіх кужаль.
Пушча, мяне не гані ты,
Дай вопратку целу,
Дай сэрцу дужасць [4, с. 28].

Аўтар уважліва спасцігае зменліва-трапяткі прыродны стан пушчы, якую "халоднай далоняй кастрычнік абняў" [4, с. 76], дзе "ногі ў агні па калена" [4, с. 136], "маркоцяцца гнёзды ў трысці" [4, с. 72], "снег елкі па рукі засыпаў" [5, с. 105], "дыван травы, усквечаны дажджамі" [5, с. 96]. Прыродныя змены

ўслаўлены паэтам у лірычных медытацыях “З-пад снегу зноў”, “Белавежская зіма”, “Ціхутка з каронаў злятаюць лісты”, “Нядзеля, зноў восень у пушчы ў гасцях”, “Прычасці мяне, клёне зялёны”. Уяўляецца, што храм прыроды – пушча – не праходны вобраз, а інтуітыўнае адчуванне акаляючага свету, крыніца паэтычнага натхнення:

Змяшаўся я сёння з пушчанскім накцюрнам,
Не знаю, дзе песня, дзе я і дзе пушча [4, с. 91].

Цесная повязь чалавека і прыроды асабліва адчуваецца ў вершах, населеных жыхарамі пушчы – дрэвамі, раслінамі, птушкамі, жывёламі. Трэба адзначыць, што ўключэнне іх у пейзажныя замалёўкі прыводзіць да стварэння глыбока канкрэтнай, знаёмай паэтычнай карціны і служыць сродкам раскрыцця гарманічнага светабачання: “курапатак пасеяла восень / на полі бульбяным” [4, с. 96], “жураўлі дзесь галосяць / над летам скананым” [4, с. 106], “паходняй рыжай, агністай / мільганула вавёрка ў галінках” [4, с. 92], “і заяц выляцеў з дубровы, / як моль, у руні дзірку выеў” [4, с. 126], “лісіца рыжая прабегла праз пралеску / не, не лісіца, толькі восень” [5, с. 44].

Алесь Барскі свядома пазбягае ў вершах прыроднай экзотыкі замежных краін, захапляючыся сціплымі карцінамі, хараством і прывабнасцю родных пейзажаў. Успрымаючы прыроду як нешта жывое, дынамічнае аўтар прадстаўляе яе ў адушаўлёных вобразах-сімвалах. Так, клёны, бярозы – браты і сёстры ў каронах, вербы-плачкі – сведкі кахання, вяз – няшчасны закаханы, яліны – пані вяльможныя, елкі – трывожныя субяседніцы. Вобраз танкаўскай сасны з нарачанскага краю, які стаў сімвалічным у беларускай паэзіі, часта сустракаецца ў лірыцы Алеся Барскага як сімвал зямлі беластоцкай:

Тут па кожнай сасне
можаш узняцца ў неба
і стацца анёлам, і забыць,
што ты быў чалавекам
са злосцю і звадамі ў сэрцы [4, с. 136].

Пантэістычнае светаадчуванне пранізвае пейзажную лірыку, абумоўліваючы важнейшую адметнасць паэзіі Алеся Барскага.

У вершах паэта вельмі моцны сузіральны пачатак – стан самапаглыблення, спакою і душэўнай цішыні знайшоў увасабленне ў традыцыйнай структуры вершаванага твора, псіхалагічна насычанай пластыцы, асацыятыўнай вобразнасці, экспрэсіўнай тропіцы, уважлівым стаўленні да дэталяў і падрабязнасцей.

Менавіта праз прызму спасціжэння сутнаснай красы жыцця родных людзей і прыроды ідзе ў паэзіі беластоцкага аўтара асэнсаванне ўласна-спадчыннага, спаконвечнага, засвойванне коласаўска-танкаўскай традыцыі выяўленчай малюнкавасці.

У сістэме нацыянальных архетыпаў паэзіі Алеся Барскага вялікае месца займае жанчына, якая паўстае ў наступных архетыповых вобразах: жанчына-маці, жанчына-каханая. Усе гэтыя архетыпы ў творчасці паэта з’яўляюцца суб’ектыўна пададзенымі, гэта значыць праз яго ўласнае ўспрыманне. Праз іх ідзе глыбокае філасофска-мастацкае спасціжэнне жыцця, часу. Звяртаючыся да традыцыйнага ў беларускай літаратуры вобраза маці, паэт шукае яго вытокі ў міфалогіі, фальклоры, дзе маці – сімвал жыцця, сімвал вечнасці. Архетып маці ў творчасці Алеся Барскага годна ўпісваецца ў жаночую галерэю нашай нацыянальнай літаратуры поруч з апаэтызаванымі вобразамі жанчын Якуба Коласа, Янкі Купалы, Петруся Броўкі, Ніла Гілевіча, Максіма Танка, Рыгора Барадуліна. Заўважым, што ў творчасці беластоцкага паэта вобраз маці адметны рамантычнай узвышанасцю, лірычнай прачуласцю.

Выключнай шчырасцю, чуллівасцю і далікатнасцю напоўнены вершы, прысвечаныя высакароднаму вобразу маці, які з'яўляецца сімвалам жаночай дабрыні, ласкі, клопату:

Твой твар быў сонцам
над маёй калыскай,
якое я крануў рукою,
к якому прыглядаўся зблізку [9, с. 55].

Большасць вершаў Алеся Барскага напісана ад першай асобы, што сведчыць аб "аўтабіяграфічнасці" сюжэтаў і вобразаў. У сваёй публіцыстычнай кнізе "З пабачанага і пражытага" беластоцкі аўтар, узгадваючы мінулае, шчыра прызнаецца: "Прайшло многа часу з таго дзяцінства. Ужо чатырнаццаць гадоў не жыве мая маці. Аднак яе вобраз не зблякнуў і не пацямнеў у маёй удзячнай памяці. Асабліва ў часе бяссонных начэй, а часта і ў снах бачу яе пры кудзелі, дзяжы, жорнах. Бачу незаменную, незабыўную і святую. Мучаніцу, якая пусціла мяне на вольны свет, надзяліўшы пэўнымі ўласцівасцямі, дзякуючы якім магу аддзяліць дабро ад зла" [7, с. 17]. Успаміны аб маці сталіся крыніцай натхнення паэта і ўвасобіліся ў пранікнёных паэтычных радках:

Як толькі рассее
ў жытнёвых разлогах
валошку з хусцінкі
рука Беларусі,
мама, ты клікні
ціхутка з парога,
я ў Лодзі пачую
і з Лодзі вярнуся [9, с. 13].

У вершах Алеся Барскага маці паўстае ў вобразе жанчыны-працаўніцы, захавальніцы сямейнага дабрабыту, вернымі спадарожнікамі якой былі "ціхі спеў калаўрота" [9, с. 51], "пах прэлага жыта на печы" [9, с. 51], "маленькі серпік" [9, с. 62], "бруістая песня-быліна для сына" [9, с. 51]. Жыццесцвярджальныя рысы святла і цяпла ўласцівы паэтычнаму вобразу жанчыны-маці, асабліва, калі гаворка ідзе пра яе рукі, вочы, усмешку – дамінуючыя мастацкія дэталі, якія дапамагаюць паэту ўзнавіць дарагі з маленства воблік.

Рукі маці ў вершах Алеся Барскага ("Шчырыя рукі растуць проста з сэрца", "Колькі разоў рукі маці прагналі трывогу", "Ліст да маткі") маюць сілу сонца: яны саграваюць і ахоўваюць, ім ён прыпісвае абстрактныя пачуцці: шчырасць, пяшчотнасць, чуллівасць:

Колькі раз рукі маці прагналі трывогу,
Колькі раз паказалі ў шчасце дарогу,
колькі раз адагналі з парога вы голад,
колькі раз абагрэлі ў сцюжу і холад,
колькі раз былі цішай і сном на павеках,
колькі раз павучалі, як быць чалавекам [6, с. 70].

Ва унісон гэтаму вершу гучаць радкі Рыгора Барадуліна, які ўвекавечыў у беларускай літаратуры вобраз сваёй маці Куліны Андрэеўны:

Нам прыпомняцца рукі матчыны,
Што люлялі калыску, рукі.
Тыя добрыя рукі першымі
Ад зямлі нас падънялі ўгору... [2, с. 29]

У сталым узросце Алесь Барскі шукае позірк маці, яе вочы, якія з'яўляюцца самымі дарагімі:

І зноў дзяцінства
Радасны блакіт,
Матчын з-пад далоні
Позірк сіні
Шукаю я канца
Бясконцае ракі,
Хоць скроні серабрыць
Халодны іней [8, с. 83].

Сузор'ямі дабрыні і цяпла бачацца мацярынскія вочы ў паэтычных радках Рыгора Барадуліна:

Вочы твае
Нада мной узышлі
Сузор'ямі цішыні,
Сусветамі дабрыні... [2, с. 216]

Вобраз маці праходзіць праз усю творчасць паэта, канкрэтызуецца і набывае новыя рысы. Маці паўстае Мадоннай, Святой Заступніцай, паэт шукае яе падтрымкі ў спасціжэнні Айчыны і вяртанні да родных вытокаў, чакае матчынай малітвы “супраць злосці, хваробы і войнаў і бітваў, неўраджаяў...” [5, с. 69], просіць абароны ад чорнай зграі бяспамяцтва:

Мама,
стань перад іконай
і пацер ціхутка вышапчы...
................................
І памаліся за роднае слова –
на словам навісла чорная зграя –
каб жыло,
каб расло,
каб квітнела аднова
песенным ураджаем [6, с. 68].

Гімн жанчыне і яе долі гучыць у вершах “Ліст да маткі”, “Матчын хлеб”, “Як лета пакліча...”, “Бі мяне біткай”. Увасабленнем ахвярнай і святой любові з'яўляецца постаць маці, не выпадкова вылучаная творцам у архетыповыя сімвалы сваёй паэзіі.

У зборніку “Жнівень слоў” вобраз маці зліваецца з вобразам малой радзімы – Беласточчыны і набывае маштабнае значэнне. Да архетыпу маці далучаецца архетып Маці-Зямлі – прарадзіцелькі ўсяго жывога.

Уменне напоўніць змест твора ўніверсальным сэнсам, праз уласнае, асабістае закрануць і ўсхваляваць чытача адчуваецца ў драматычных радках памяці роднага чалавека:

І чорны я,
Як ноч начэй у лістападах,
Бо не магу сказаць
Ніколі болей – Мама [5, с. 28].

Паэт успамінае матчыны слёзы і надзеі, з пакораю гаворыць пра свае нягодныя ўчынкі і памылкі, просіць за іх прабачэнне:

...прабач усё тое, матуля,
што сам я сабе не прабачу [8, с. 52].

Матыў прабачэння, раскаяння гучыць і ў паэзіі Рыгора Барадуліна:

Даруй, што спазніўся
Пачуць тваё апошняе слова...
Даруй, што шчырасць тваю
Выстуджваў, як сівер, сурова [3, с. 61].

Паэтычны вобраз у паэзіі Алеся Барскага выступае як адзіная форма існавання думкі і перажывання. Адным з асноўных архетыпаў у лірыцы паэта з'яўляецца вобраз маці: яго разнастайныя архетыпічныя ўяўленні. Па-першае, маці-ахоўніца сямейнага дабрабыту, па-другое, захавальніца роднага слова, абергальніца традыцый, па-трэцяе, маці атаясамліваецца з вобразам малой радзімы – Беласточчыны. Усе гэтыя архетыпічныя ўвасабленні ўстойліва прысутнічаюць у паэтычнай канцэптасферы творцы.

У мастацкім кантэксце паэзіі Алеся Барскага архетыповы вобраз каханай жанчыны паўстае як увасабленне чалавечнасці, вышэйшай праявы адухоўленасці свету:

Ты створана небам,
Шчодрай яго жменяй,
Пахнеш навальніцай,
Сонечным праменнем.
Ва ўсім свеце гэтым
Толькі ты адна [8, с. 110].

У нізцы "У глыбіні вачэй тваіх зялёных" далікатна, ва ўсеабдымным сваім пачуцці, з налётам таямнічасці і загадкавасці паэт малюе вобраз Яе, поўны асалоды незабыўнага, непараўнальнага. У вершах "Ты была, як гронкі вінаграду", "Цябе стварыў Бог", "Ты – белая бяроза маіх сноў" вобраз жанчыны раскрываецца паступова, у параўнанні з навакольным краявідам, з'яўляецца сінонімам да слоў шчасце, каханне, лёс. Лірычны герой Алеся Барскага нястомны ў слоўных доказах вернасці каханай, у захапленні яе вонкавай і душэўнай прыгажосцю:

Усе мае радасці
І ўсе мае смуткі
Выплываюць з адной крыніцы.
Ты яе пачатак
І яе канец
Адначасна [8, с. 114].

Каханая жанчына ў паэзіі Алеся Барскага часта выступае на фоне прыроды. Характэрная асаблівасць гэтага фона – яркія, сонечныя вясновыя вобразы: "светласць ранняя", "квецень вясны", "добрая просінь", "васільковасць матчынага неба" пакідаюць надзею на ўзаемнае пачуццё і радасць сустрэчы. І нават ноч, спадарожніца закаханых, у вершах "У гэтую чорную ноч", "Ніколі гэтай ночы памяць не пакіне" падкрэслівае таямнічасць пачуцця, інтымнасць узаемнай блізкасці, а не спрыяе роспачы і безнадзейнасці.

Бязмежная радасць у вершах пра каханне саступае месца лёгкаму суму, расчараванню, журбе. Паэт сцвярджае, што сапраўднае пачуццё не можа існаваць без болю, без трагедыі ("У тваім каханні я не бачу болю"). У вершах з цыклу "Настальгіі", напісаных у час расстання з каханай жанчынай, аўтар з непадробным лірызмам разважае над сутнасцю і сэнсам кахання. Пераадольваючы трагедыйнае светаадчуванне, Алесь Барскі далікатна разважае пра трывожнае, выпрабаванае часам, інтымнае пачуцце маладых людзей ("Ствараю цябе, як яблыня яблык", "Замест пасагу", "Хацеў бы аб табе", "У табе ёсць такое святло"). З налётам таямнічасці і загадкавасці паэт стварае вобраз жанчыны, якая прыцягвае сваёй прыгажосцю і далікатнасцю, робіць мужчыну багатым духоўна, упрыгожвае яго жыццё:

З тваёй рукі
Бяру я промні
І вышываю імі
Сваю дарогу [8, с. 79].

Рамантызаваны вобраз жанчыны з'яўляецца сімвалам і адначасова рэальным адбіткам свайго часу і выкліканага ім настрою. Гэты вобраз пераадольвае адлегласці, творыць гімн каханню, без якога і з якім, па словах Алеся Барскага, "Як жабрак я ўбогі, – і, як князь, я багаты" [8, с.112].

Такім чынам, у творчасці беластоцкага паэта прадстаўлены ўстойлівыя архетыпы, першавобразы: Радзіма, родная хата з парогам-мяжой, пушча, жанчына-маці, жанчына-каханая. Праз іх ідзе глыбокае, філасофска-мастацкае спасціжэнне жыцця, яны нясуць абарону і ратаванне, выконваюць функцыі духоўнай тэрапіі для заклапочанага сучаснага чалавецтва.

Літаратура:

1. Адамовіч, Я. Вучоны, паэт, грамадзянін / Я. Адамовіч // Культура беларускага замежжа. – Мінск: Навука і тэхніка. – 1993.
2. Барадулін, Р. Зб. твораў у 5-ці т. Т.1. Вершы / Р. Барадулін. – Мінск: Мастацкая літаратура. – 1996.
3. Барадулін, Р. Маўчанне перуна: Новая кніга / Р. Барадулін. – Мінск: Мастацкая літаратура. – 1986.
4. Барскі, А. Белавежскія матывы / А. Барскі. – Беласток: ГП БГКТ. – 1962.
5. Барскі, А. Блізкасць далёкага / А. Барскі. – Беласток: ГП БГКТ. – 1962.
6. Барскі, А. Жнівень слоў / А. Барскі. – Беласток: ГП БГКТ. – 1967.
7. Барскі, А. З пабачанага і пражытага / А. Барскі. – Мінск: Мастацкая літаратура. – 1992.
8. Барскі, А. Лірычны пульс / А. Барскі. – Мінск: Мастацкая літаратура. – 1987.
9. Барскі, А. Мой бераг / А. Барскі. – Мінск: Мастацкая літаратура. – 1975.
10. Казбярук, У. Мая паэзія – мой абавязак. Слова пра А. Барскага / У. Казбярук // Наша слова. – 2001. – №2.
11. Танк, М. Мне пару крыл дало юнацтва / М. Танк. – Мінск: Мастацкая літаратура. – 2003.

Іван Штэйнер



...героі беларускай літаратуры
жывуць у перакуленым сусвеце...

# "Апошнім прыходзіць жаніх і смерць бярэ за нявесту"

***Рэцэнзія-развага***

***Франц Сіўко, Юры Станкевіч. Дыялог. – Галіяфы: Мінск, 2020. – 280 с.***

*Ломяцца ў дзверы і ў вокны сноў, шукаючы вас, апраметныя*
*жахі, і непрытомным натоўпам целы навальваюцца на вас,*
*а вы не можаце ўспомніць ніводнай малітвы.*

*Зрабілася нешта не так, а назад адрабіцца не можа:*
*ужо расступілася, выкапаная паслухмяна,*
*і вас засыпае задушлівая зямля.*

*Трэба прачнуцца – і немагчыма амаль прачнуцца.*
*Трэба вярнуцца – але няма ўжо куды.**

---

* Загалоўкам і эпіграфам да рэцэнзіі-развагі становіцца перадапошні радок з XVI і ўвесь X версэт з цыклу "Заваёўнікі" Алеся Разанава, які складаецца з 16 твораў, напісаных на працягу дваццаці гадоў (1982–2001). Паасобныя фрагменты з іншых версэтаў, свядома стылізаваных пад тэксты забытых прароцтваў, будуць выкарыстаны ніжэй.




Герадот у кнізе «Мельпамена» пісаў пра неўраў, якім за адно пакаленне да паходу Дарыя прыйшлося пакінуць сваю краіну, акупаваную змеямі. Бо не толькі іх уласная зямля спарадзіла вялікую колькасць паўзуноў, але яшчэ значна болей гадаў прыпаўзло з пустэльні ўнутры краіны. Няшчасныя вымушаны былі пакінуць свой край і пасяліцца сярод *Будиновъ, древнейшего славянского племени, заселявшихъ всю страну отъ верховьевъ Припети до Дона*, якіх Адам Кіркор у *Живописной России* называў продкамі сучасных палешукоў. Гісторыкі лічаць, што так метафарычна Герадот паведаміў свету старажытную легенду аб перасяленні скіфаў. Змяя ў народнай міфалогіі – увасабленне злога пачатку, а таму сімвалізуе варожых прыхадняў, якія выгналі неўраў з роднай зямлі. Якая магутная сіла змагла прагнаць народ, здольны валодаць чарамі ў такой ступені, што кожны з неўраў раз на год перакідаўся ў ваўка? Адкуль яна ўзялася? Як патрапілі выгнаннікі на Палессе? Чаму іх прынялі будзіны? Надоўга? Ці хутка былым неўрам шукаць новае месца жыхарства?

Знакі пытанняў – не проста граматычныя графіці, што перакінуліся ў знакі бяды, але найперш знакі сумневу, пра што сведчаць творы з рэцэнзуемай кнігі, якую магчыма арганічна дапоўніць не толькі цытаванымі версэтамі Алеся Разанава, прыпавесцямі Васіля Быкава, але і славутымі фантастычнымі апавяданнямі Яна Баршчэўскага.

Апошнія якраз і ўспрымаюцца як мастацка-філасофская прытча аб трагічнай долі беларуса; як алегарычнае ўвасабленне адвечнай нацыянальнай трагедыі; як згадка пра нашую выпадковасць на ёй (вось карані ваўкалацтва), бязвер'е ва ўласныя сілы, вечная залежнасць ад кагосьці больш дужага ці нахабнага. Родная зямля становіцца шчодрай да сваіх дзяцей толькі тады, калі прымае іх у сваё ўлонне:

...ўсе роўна зямлі, хто арэ яе,
хто засявае і хто кладзецца ў яе.

Як вынік – разуменне часовасці быцця нацыі; неўспрыманне яе гаспадаром гэтай быццам бы для яе Богам дадзенай зямлі ні самімі аўтахтонамі, ні больш-менш ваяўнічымі суседзямі. Ян Баршчэўскі не толькі адзначыў гэтую амбівалентнасць існавання беларусаў, але ўжо ў тыя часы не ўспрымаў новых парадкаў, што разбураюць традыцыйны ўклад, адвяргаў свет, дзе ўсё прадаецца і купляецца, а таму адлюстроўваў рэальнае ў алегарычна-міфалагічным аспекце. Разбураныя могілкі, апаганеныя святыні, разграбленыя курганы, дзе пахаваны героі мінуўшчыны, над якімі галосіць Плачка, у "Шляхціцы Завальні" Яна Баршчэўскага ўспрымалася як месца бою Бога з сатаною. Пісьменнік папярэджваў, што стрымліваючым пачаткам для чалавека павінен быў быць страх Божы, г.зн. такое *благоговение к беспредельной святости Божей и такое опасение оскорбить господа нарушением Его святой веры, что невольно развивает в христианине особенную бдительность, смиренине. Христианин, исполненный страха Божия... почитает гнев Отца небесного величайшим для себя несчастьем, а потому старается, чтобы не прогневать Его.* (Біблейская энцыклапедыя).

У якасці пакарання для мясцовых жыхароў, якія адышлі ад запаветаў продкаў, Бог пасылае нейкіх загадкавых прыхадней, *асташоў* з *шырокімі барадамі, круглымі тварамі і вялікімі скуранымі фартухамі.* Паганыя людзі, звязаныя з чарнакніжнікам, *пасылаюць пад лёд злога і той заганяе рыбу ў нерат, дык яны спустошылі ў нас азёры, навучылі нашу моладзь бязбожным учынкам, чарам, бессаромным*

*песням.* Менавіта яны і становяцца змеямі паўзучымі для насельніцтва: *Даўней і пра тых асташоў нікому і не снілася, а цяпер хутка забяруць у нас зямлю і ваду, так што і нам трэба ўжо ўцякаці куды далей.* Але позна. Наваколле скаланае рык д'ябла, які праводзіць інвентарызацыю здабытай зямлі.

Рэальна-фантастычную прыпавесць у духу свайго вялікага папярэдніка аб гібельнасці і незваротнасці дадзенага працэсу паведаў Франц Сіўко ў аповесці-прытчы "Удог". Як і ў класічных узорах жанру (успомнім смакоўніцу, вінаград, пшаніцу ў прытчах Хрыста, дрэва, карэньчыкі якога падгрызаюць чорная і белая мышы ў прытчы пра адзінарога), загалоўным становіцца шматзначна-сімвалічнае дрэва *удог.* Дарэмна эрудыты ад батанікі гартаюць слоўнікі і Вікіпедыю – падобнай расліны ў прыродзе не існуе, гэта проста мастацкая знаходка аўтара, які стварыў складаную метафару чужынца (незразумелага, падазронага, магутнага, каварнага, хітрага etc.), прывіўка якога на чужародную глебу спалучаецца з выключнымі трагічнымі і крывавымі падзеямі. Бо нельга перасадзіць на чужую зямлю дрэва ў ягонай поўнай сіле – змарнее і счэзне. Іншая справа – маленькае семя, сіла якога непамерная. У прыпавесці нумар два Хрыстос апавядае пра добрае семя і пустазелле, якія Нячысцік падчас сну чалавека засявае сярод першых. Калі ж чалавек прачнецца, то пустазелле ўжо закалосіцца разам з жытам, і хто зможа тады іх падзяліць?

З не меншым імпэтам ва "Удогу" менавіта вораг людства клапоціцца невядомым прышэльцам, абараняе таго ў хвіліны небяспекі. Невыпадкова працэс апекавання ў творы нечым галоўным, хоць і схаваным, унутраным, нагадвае працэс выседжавання цмока з яйка, знесенага чорным пеўнем, з аднайменнага апавядання Я. Баршчэўскага.

Ды і сам ён (працэс) суправаджаецца, як і ў творы класіка, анамальнымі з'явамі. З'яўленне нячыстай сілы ў навелістыцы Яна Баршчэўскага заўсёды звязана з навальніцай, маланкай, землятрусам. Тое ж характэрна і для мастацкай атмасферы аповесці нашага сучасніка. Гром сярод яснага неба *патанаў у знямелых ад пярэпалаху гаях і дубровах; зямля страхавіта ўздрыгвала пад ягонымі ўдарамі; аблепленыя птушкамі дрэвы глуха рыпелі патрывожаным голлем; вецер з гучным самотным свістам кружыў над імшарамі; зрэдку грымоцце суправаджала бліскавіца. Тады гром неяк глушэў, рабіўся кароткі і рэзкі, бы пошчак пугі.*

Якраз такою парою высаджвае Пелагея расток невядомага дрэва-чужаніцы, якое павінна завалодаць новай зямлёй. Па сутнасці перад намі дзве роўнавялікія падзеі, значнасць якіх пачварна велізарная – з'яўленне цмока і высадка сажанца. Гэта падкрэслівае і той факт, што якраз падчас нараджэння першага ў доме Карпы пачынаецца полтэргейст, а са з'яўленнем Пелагеі ўзнікаюць спарадычныя і масавыя (прычым мэтаскіраваныя) псіхозы (рэальныя і не вельмі). У творы Ф. Сіўко гэта вар'яцкі ўчынак чатырнаццаці моцных дзецюкоў-паўстанцаў, якія адурманена знішчаюць усю расліннасць навокал, абыходзячы толькі нядаўна пасаджаны ўдог.

Гэтае дрэва – родзіч віртуальна існуючаму пушкінскаму анчару, народжанаму ў дзень гневу прыроды і напоенаму страшэннай атрутай. Усё жывое баіцца анчара, нават тыгр: толькі горны віхор можа зачапіць ягоную крону. Аднак людзі пераўзыходзяць звера ў адвечна наканаваным памкненні да знішчэння падобных да сябе, таму ў кожным з іх заўсёды песціцца свой уласны анчар-удог. Перад чалавекам паўстае тое, *што саснілася ў сне.* (Бойцеся сваіх сноў і мараў, бо яны могуць стаць рэальнасцю.)

*«У-до-ог!» – гэтак, здаецца, назваў яго вар'ят з акрываўленымі рукамі. Дзядзька Андрэй кажа, быццам вывелі яго, прышчапіўшы флянец ад пасаджанага нейкім царом* (вось згадка) *у ваколіцах аднаго мястэчка блізу Дубраўкі і прывезенага графам пасля вайны. Быццам з крыві забітых людзей узышоў парастак, і палівалі яго вадою з ракі, у якіх тых забітых утапілі. І быццам такое атрутнае яно, гэтае дрэва, што як паясі варыва з ягоных ягад, здурнееш і будзеш рабіць абы-што.*

Аб значнасці прытчы для рэалізацыі светапогляду пісьменніка сведчаць некалькі рэдакцый твора. “Удог” упершыню надрукаваны ў часопісе “Полымя”, затым надзвычай аператыўна перакладзены для “Нёмана”. Можа таму, што аўтар працягвае на новым этапе класічную традыцыю асэнсавання надзвычай складаных, анталагічных праблем бытавання беларусаў на гэтай зямлі. Якія, на жаль, актуальны як у сярэдзіне XIX, так і на пачатку XXI стагоддзя. Апошняе сцвярджае і анатацыя, дзе адзначаецца, што *Франц Сіўко ў творах апошніх гадоў даследуе асаблівасці нацыянальнага менталітэту на пераломным этапе станаўлення незалежнай беларускай дзяржавы, адлюстроўвае вострыя сацыяльныя і маральна-этычныя праблемы сучаснасці.*

Дзеянне сваёй прыпавесці ў часопісным варыянце Ф. Сіўко пачынае з 1831 года, г.зн. за дзесяць гадоў да з’яўлення першых тамоў “Шляхціца”, што дазваляе супаставіць духоўна-матэрыяльны ўплыў філасофскай ідэі Яна Баршчэўскага і фізічнай дыверсіі, учыненай Пелагеяй. Гэтым і тлумачыцца той факт, што першая частка прыпавесці Ф. Сіўко ўспрымаецца як своеасаблівы пралог, а галоўнае дзеянне разгортваецца ўжо не ў сярэдзіне XIX, а ў другой палове стагоддзя XX, аднак у прыкладна падобных умовах: у той жа самай мясцовасці, у нашчадкаў той самай сям’і. Для прыпавесці з яе выразнай умоўнасцю гэта надзвычай істотна. Тым болей, што нячыстая сіла, створаная фантазіяй Яна Баршчэўскага, разам са злым духам Нікітронам, які з’яўляецца з язычка агню, пералятае ў нашыя дні і авалодвае адным з персанажаў. Злы дух пранікае не толькі ў свядомасць, але і ў душу героя твора Ромкі, якую той раскрыў сусвету неўсвядомленым забойствам бацькі.

Гэтае ззянне застаецца з хлопчыкам назаўсёды, што дазваляе аўтару ісці на апраўданы эксперымент: смела, падчас рызыкоўна ўводзіць у тэкст твора (заўсёды вылучаючы нават графічна) матыў хваробы, калі, нібы фурыі да ахвяры, у свядомасць хлопца пранікае вобраз бацькі ў самых фантастычных праявах ягонай гібелі. (Па сутнасці можна нават скласці невялічкі асобны калейдаскоп трызненняў героя.) Падобны *падарунак* багоў (згадаем сакральную хваробу Цэзара) прадвызначае долю абранцаў лёсу, аднак ў рэшце рэшт спапяляе (фізічна і метафарычна) няшчаснага. Зразумела, згаданае *ззянне* адразу выклікае пэўныя асацыяцыі са славутым раманам *караля жахаў* Стывена Кінга, якога нельга не згадаць, калі гаворка ідзе пра беларускія рэаліі. Аднак мы маем справу хутчэй з супадзеннем эвалюцыі-эманацыі вобразнасці ў двух выключна непадобных пісьменнікаў. Бо ў амерыканскага літаратара забойчае ззянне скіравана вонкі, ад асобы на іншых; у беларускага, у поўнай адпаведнасці з менталітэтам, на сябе – на самазнішчэнне і самаразбурэнне. Гераіня Кінга можа помсціць свету, Ромка – толькі сабе, бо непераадольны жах прымушае юнака баяцца нават сонца.

Ды і рэальная нечысць у Ф. Сіўко не менш жахлівая, чым уяўна фантастычная Яна Баршчэўскага. Якраз яна, амаль віртуальна, знішчае ксяндза, што з’яўляецца ўвасабленнем добрага пачатку; люта ненавідзіць усё мясцовае – *з іх недарэчнымі імёнамі і звычкамі. Гэтае нельга, тое – нявольна;* знішчае ўсё навокал, найперш ужо адноўлены палац – сімвал гістарычнай памяці. Ф. Сіўко ў прыпавесці – песіміст у вызначэнні гістарычнай перспектывы беларусаў, падчас нават фаталіст. Невыпадкова ў фінале твора вёску Дуброўка перайменавалі ў Падкрайну. Ды яшчэ падкузьмілі: *Скажы дзякуй, цётка, што свісцёлкай не назвалі. Усе вы тут свістуны сваё прасвісталі.*

Праўда, амаль бытавая канстатацыя трагедыі саступае ўжо згаданаму апісанню пачварнага, страшэннага д’ябла са “Шляхціца”, які крыкам крычыць, пералічваючы віцебскія азёры, і пасля кожнай назвы гарланіць *Маё!,* палохаючы людзей, звяроў і птушак. Аднак прадчуванне блізкай катастрофы разліта па ўсім тэксце, напаўняючы кожную літарку, дамінуе ў агульнай змрочнай атмасферы твора.

Нібы баючыся, што галоўная думка застанецца незразумелай, або нават не давяраючы ў нечым чытачу, якому мог паддацца толькі знешні (сюжэтны) антураж падзей, у кніжным варыянце (Ягня ахварнае: Прыпавесці, аповесць. – Віцебск, 2003) пісьменнік кардынальна змяніў структуру і змест твора Ён значна пашырыў хранатоп твора, пашырыў фінал, што дазволіла паказаць магчымыя вынікі незвычайнага здарэння. У цэлым падобнае лічыцца звыклым для беларускай прозы, дзе амаль кожны аўтар пасля з'яўлення таленавітага рамана спрабаваў адразу працягнуць яго, ператварыўшы задуму ў эпапею. Аднак гэта не галоўнае для Ф. Сіўко, які выключную ўвагу ўдзяляе паэтыцы сваіх твораў. Гэта і дзяленне звыклага мастацкага тэксту на пралогі і фіналы, паказ адной і той жа падзеі з пункту гледжання ўсіх яе ўдзельнікаў і сведкаў, каментары зусім, здавалася б, пабочных асобаў, з'яўленне фантастычных вобразаў, што цалкам апраўдвае ўмяшанне іх, нягледзячы на пратэст аўтара, у ход развіцця падзей і далейшы лёс ягоных герояў. Хаця аповесць Ф. Сіўко мы называем з поўным правам прыпавесцю, аўтар свядома пазбаўляецца ад прамых маралізатарскіх высноў і прымітыўных павучанняў. Як і ў класічнай прытчы, ён стварае магчымасць чытачу зрабіць уласную выснову ў поўнай адпаведнасці з уласным жыццёвым і мастацкім вопытам.

З адной прыпавесці па сутнасці вырастаюць тры. Першая з іх, "Угліс", пачынаецца з 1570 года ўступнай навелай "Падпал", у якой паказана, як апрычнікі знішчаюць мястэчка разам з жыхарамі. Страшэнныя сцэны катавання мірных людзей, іх гібель у палонках, енк маленькіх дзяцей назаўсёды застаюцца ў памяці зямлі, што сціснулася ад жаху, а сама напоўнілася не толькі крывёю ахвяраў, але і сокам абшкуматаных згаладнелымі вуснамі нетутэйшых ягад. Тым самым аўтар значна пашырае храналагічную прастору дзеяння, што дазваляе яму ўбачыць значна глыбей і далей вытокі і сутнасць праблемаў, якія з'явіліся і развіваліся да таго, як людзі пачалі іх усведамляць .

Па сутнасці, Ф. Сіўко захоўвае асноўныя прыёмы паэтыкі класічнай прытчы: ён не імкнецца да стварэння разгорнутага, псіхалагічна выверанага і пераканаўчага вобразу, які ў яго сістэме каардынат павінен найперш вызначаць як характар, як носьбіт пэўнай ідэі, сутыкненне якіх і павінна надаць дынаміку твору. Аўтар пазбягае падрабязных апісанняў з'яваў прыроды, ландшафту, што зусім не перашкаджае стварэнню панарамнага бачання поступу гісторыі. Перад намі міні-раман, у якім паказаны цэлыя пакаленні людзей, якія ў той ці іншай ступені паўплываюць на змену падзей і нават прынцыпаў існавання мясцовага люду. Згодна з законамі класічнай прытчы, дамінуюць не самі носьбіты пэўных жаданняў і памкненняў, а самі іхнія духоўныя сутнасці – любоў, патрыятызм, нянавісць, гардыня, пакорлівасць. Невыпадкова некаторыя паняцці ў творы пачынаюць уласнае жыццё – школа, помста, бурленне, падарожжа, апантанасць. Змяняюцца эпохі, змяняюцца часы, мяняюцца гаспадары жыцця (прыпавесць "Міжчассе" (1939 – 1952)), не змяняецца толькі сутнасць быцця. Не дзейнічае тут лацінскае выслоўе *Tempora mutantur et nos mutamur in illis (Часы змяняюцца, і мы змяняемся ў іх);* не змяняюцца людзі, бо нешта не дазваляе ім гэта зрабіць.

Франц Сіўко – майстар мастацкай умоўнасці, стварэння сітуацый, калі ў чалавеку на першы план выходзіць падсвядомае, *патаемнае,* невядомае нават яму, а таму падчас такое страшэннае і пачварнае, здольнае кардынальна змяніць людскую долю. Лапідарная абмалёўка героя і падзей спрыяе ўвасабленню адзінай задумы, значна ўзмацняе вобразна-выяўленчую палітру твора, бо аўтар нават кароткімі апісаннямі, трапнымі характарыстыкамі стварае ўласную рэальнасць. Падобнае спалучэнне элементаў класічнай прытчы з мазаічным адлюстраваннем рэчаіснасці і дапамагае ўсталяванню беларускай разнавіднасці класічнага жанру – *прыпавесці*, якая валодае выключнымі магчымасцямі. Пра гэта сведчаць прыпавесці Васіля Быкава, у тым ліку і "Пахаджане", якую можна ўявіць як ілюстрацыю да перасяленняў неўраў.

*Адкуль ты ўзяўся, пацук? Якая звіліна часу цябе павяла з сутарэнняў, які злом прасторы выпхнуў цябе наверх?*

Гэтая пачварная істота з фальклору і мастацтва Еўропы надзвычай сімвалічная і шматзначная, бо найперш выклікае ўсеагульную агіду. Разам з жабамі, павукамі, вужамі і іншымі адданымі слугамі д'ябла няўлоўнае, небяспечнае і пладавітае стварэнне становіцца змрочным валадаром разбураных хат, чорных пячор, каналізацыі, турмаў. Акрамя таго, знішчае харчы, атручвае ваду, прыносіць эпідэміі. Яго баяцца ва ўсе вякі, бо ён не ўспрымаецца асобна, а як арда, саранча, лемінгі, што апантана мігруюць з невядомай ні для кога мэтай. *(Як многа тут нораў і сховішчаў, нібы ён не проста адна істота, а – цэлая чарада.)* Хтанічны сусвет, усё, што прыходзіць з-пад зямлі, – пачварнае, невытлумачальнае, смяротнае, нясе зло і разбурэнне. Акрамя таго, на першы план выходзіць ягоная падступнасць і баязлівасць, якая дзіўным чынам ужываецца з нахабнасцю. Вось чаму людзі саступаюць ім, на падсвядомым узроўні адмаўляючыся ад барацьбы.

Новую інтэрпрэтацыю класічнай сімволікі прапануе Альбер Камю, які, у адрозненне ад Герадота, распавядаў у сваёй прытчы "Чума" не пра вужоў са змеямі, а пра пацукоў, якія пачынаюць здыхаць на вуліцах невялікага алжырскага гарадка на ўзбярэжжы мора. Спачатку адзін, затым пара, пасля мёртвыя цельцы агідных грызуноў запаланілі места. Наступнымі сталі паміраць каты і, нарэшце, людзі. У горад прыходзіць смяротная хвароба. Але чыноўнікі хаваюць праўду пра трагедыю і тым самым ператвараюць месцічаў у закладнікаў эпідэміі. Што зробіш, не заўсёды доля ў руках чалавечых, існуюць рэчы, якім трэба скарацца. Але А. Камю, апавядаючы нібы пра страшэнных грызуноў, сцвярджае, што кожны з гараджан павінен абраць свой шлях: змагацца за жыццё, шукаць выхад (*Нужно быть безумцем, слепым или негодяем, чтобы смириться с чумой*) ці пакорліва чакаць смерці.

Падобная дылема паўстае перад жыхарамі звычайнага беларускага гарадка ў аповесці "Любіць ноч – права пацукоў" разбуральніка стэрэатыпаў будзённай свядомасці і супольнага супакою Юры Станкевіча, творы якога ніколі не пакідаюць чытача абыякавым. Невыпадкова Святлана Алексіевіч адзначала, што гэтая *кніга – самая яркая з'ява ў айчыннай прозе за 1999 год. У беларускай літаратуры з'явіўся твор еўрапейскага ўзроўню.* У той жа час абвінавачвалі ў змрочнасці і некарэктнасці, ачарненні і празмерна песімістычным адлюстраваннем рэчаіснасці.

Прычым для падобных высноў знаходзілі грунтоўныя падставы. Як ніхто, за выключэннем В. Быкава, аўтар паказвае, як на нашых вачах змяняецца сусвет, разбураюцца скрэпы, якімі ён утрымліваўся. Нібы Раланд Кінга, на вачах якога сусветы ўзнікалі і разбураліся, Станкевіч прадчувае шматаблічнасць быцця перад ягоным сыходам. У Альбера Камю пацукі – візуальная матэрыялізацыя пачварнай эпідэміі, першыя сімптомы невылечнай хваробы. А вось сама чума – гэта не толькі выродства, але найперш метафара, бо яна (чума) калечыць не толькі цела (уражвае апісанне шанкраў у паху ахвяр), але і душу. Нібыта хвароба была на пачатку ў галаве ці душы няшчасных, а толькі потым перайшла на цела. Горад забіты дохлымі і ледзь жывымі пацукамі, але людзі абыякавыя да трагедыі, якая непасрэдна ім пагражае. Калі раней лічылі мёртвых грызуноў, трупікі якіх ледзь паспявалі паліць, то з цягам часу нават і колькасць памерлых за дзень гараджан нікога не ўражвае. Для аранцаў жыць самападманам – іх патрэба, таму што праўда, якой яны баяцца глянуць у твар, жахлівая. Талстой называў яе *страх перед созерцанием своей истинной жизни.* Швайцар у Камю *не бачыць* пацукоў, хоць тыя літаральна бегаюць па ягоных нагах, а мёртвых ён трымае ў руках, каб жыхары пад'езда не хваляваліся. Вось чаму і становіцца першай ахвярай эпідэміі. Эфект бумеранга спрацоўвае і ў Станкевіча. Сусед Данілы з дзіўным прозвішчам Манюка спрабуе, адвёўшы вочы, апраўдаць сваю талерантнасць: *І тыя людзі, ім*

*трэба жыць. Што мы зробім, калі міліцыя і ўлады рады даць не могуць, а можа не хочуць.* Дарэмная надзея адседзецца, калі гарыць хата суседа: ягоную непаўнагадовую дачку прыхадні згвалтавалі.

У творы Юры Станкевіча шчуры – таксама выключная метафара: *Калі пацукі заводзяцца ў доме, то гэта дрэнная прыкмета – значыць, туды неўзабаве бяда прыйдзе.* Зразумела, іх ролю прадказальніка маглі б выканаць і іншыя жывёлы ці птушкі – сімволіка нашай фаўны і флоры надзвычай багатая. Але гэты вобраз вельмі натуральны, добра ўкладваецца ў еўрапейскую традыцыю. Зачын твора нават нагадвае гісторыю горада Гамельна, які шмат стагоддзяў таму падвергнуўся нашэсцю пацукоў. У нямецкім варыянце нішто не можа справіцца з імі: шчуры нападаюць на катоў і сабак, кусаюць дзяцей у калысках. У беларускага аўтара жахі не менш пачварныя, бо адчуваецца, што наперадзе чакае зусім не казачная трагедыя. Пра гэта сведчыць рэмарка, што нават нараджэнне хворага хлопчыка(!) і смерць мужа(!) не здаваліся гераіне настолькі трагічнымі, як з'яўленне прыхадняў! А тыя і сапраўды з'яўляюцца нязвыкла: раптоўна, быццам з іншага вымярэння. Апісанне іх распаўсюджвання нагадвае паводку: бежанцы, нібы хвалі паводкі, захапілі пуню, павець, хату, валяць платы, гадзяць у садзе. Нельга з імі, нібы з жывёламі ці стыхіяй, знайсці паразумення, падкрэслівае аўтар.

Таму на месцы грызуноў магла б быць саранча, вобраз якой апасродкавана прысутнічае ў творы: *І тыя прыхадні рабілі сваю справу з механічнай мэтанакіраванасцю насякомых, якія адкладваюць свае яйкі на аблюбаваныя імі ахвяры.* Але саранча не жыве ў нашых умовах. Тым болей, яна не нападае на людзей. А вось агідныя грызуны падобных перашкодаў не ведаюць: *яны ўвайшлі ў смак і будуць паляваць на вас, як на жывёлу, пакуль свайго не даб'юцца.* У гэтым і знаходзяцца вытокі страху, спасціжэннне якога дапаможа адкрыць сутнасць быцця і свабоды. Страх неабходна пержыць, узяўшы на сябе. Слабых ён заб'е, моцных – загартуе.

*Усюды ён* (пацук – *І.Ш.*) *сее страх, і гэты ягоны хаўруснік і памагаты ўжо, пэўна, цікуе за намі.*

Страх – адна з асноўных катэгорый новай нацыянальнай літаратуры, прыкладаў таму легіён. Гераіня аднаго з твораў твора Сіўко *выйшла на двор, і страх ахапіў яе.*

*Страх! Каторы раз апошнім часам вось гэтак неўпрыцям, з-зе нейкае драбязы прахопліваецца з вантробаў. Ды каб жа толькі прахопліваўся ды тут жа і адпускаў! Не ж, працінае глузды і ўсю істоту так моцна, што, здаецца, ніколі ўжо ад яго не пазбавіцца. Страх зрабіць* не *так, як патрабуецца, страх камусьці не дагадзіць, не спадабацца, урэшце, - самы, бадай, галоўны, прынамсі, для яе галоўны – застацца да скону ў адзіноце, бы заціснутая з усіх бакоў вузкае ставы рыбіна.*

Героям Ю. Станкевіча абязрушвае павуціна невытлумачальнага страху, накрывае хваля нічым не стрыманага жаху, прычым апошнія становяцца *modus vivendi.* Калі ў ранніх творах гэта ўспрымалася як фобіі, то ў "Бесапатаме" менавіта страхам і вызначаецца развіццё дзеяння аповесці і эвалюцыя ўчынкаў героя. Дастаткова згадаць, што апошні ліст гераіні складаўся толькі з трох слоў: *Мне страшна Дана*, а перадсмяротнае – з аднаго: *Жах.* І подпісу, як артэфакта.

Юры Станкевіч у падобным прадчуванні як ніхто блізкі да да *караля жахаў* Стывена Кінга, хаця ў гэтым не прызнаецца. Практычна ўсе ягоныя героі, пачынаючы з воўка Лупа, надзеленыя прадчуваннем гібелі і звязанага з ім інстынктыўнага страху. Так, Віктар Небышынец амаль відавочна прадбачыць уласны сыход. Яму нават мроіцца, як разам з ім разбураецца маленькі свет, у якім ён існуе. Такім дарам валодаюць не толькі асуджаныя на смерць, але і каты, урач, санітар псіхлячэбніцы, сантэхнік, журналіст, г.зн. практычна кожны персанаж. (*Страх. Женщины носили его в лоне своем.)* Невыпадкова ў Ю. Станкевіча нават з'яўляецца збіральнік страху, абагулены вобраз сусветнай трывогі. У Стывена Кінга нават трава, згараючы, стварае новы ўзор, які навявае жах сваёй вызначанасцю; цела

героаў абліваецца хвалямі страху, пах якога яны адчуваюць, нібы сабакі. Згадаем, у сартраўскага Ракатэна ад наплыву неўсвядомленага страху пачынала ванітаваць. Слова *жах*, шматкроць паўторанае Станкевічам і ягонымі персанажамі, ператвараецца ў нешта бесцялеснае, але ў той жа час ліпкае і неадчэпнае. Яно сочыць за героямі і рыхтуецца да нападу. Невыпадкова ліст Данілавай сястры, напісаны за гадзіны да смерці, завяршаецца прароцтвам: *Тут у нас стала зусім дзіка, мне страшна...* Падсвядома брат адчувае: ёй блага ад нечага незразумелага яму. Тайна адкрыецца Данілу, калі ўбачыць, як на твары забітай сястры *застыла маска жаху.* Усе героі баяцца жыцця, а таму ненавідзяць тыя мясціны, дзе нарадзіліся і вымушаны існаваць. Невыпадкова з ягоных аднакласнікаў палова ўжо на могілках.

У класічнай літаратуры ў падобных выпадках звярталіся да Бога. Вось чаму амаль усе жыхары алжырскага горада, нават тыя, хто ніколі не быў у святыні, прыйшлі ў сабор, дзе айцец Панлю сурова канстатаваў факт: *Браты мае, да вас прыйшла бяда, і вы яе заслужылі, браты.* Так было ва ўсе вякі, пачынаючы з часоў, калі ўпершыню чума прымусіла фараона стаць на калені. Стагоддзямі бізун божы скараў сляпых і непакорных. Трэба задумацца, адумацца і ўкленчыць, прызнаўшы свае грахі. У наш час падобнага спадзеву няма. Нават Камю не можа, дый не хоча прызнаць, што пацукі, як і чума, боская кара, якая нясе смерць, знішчэнне. У еўрапейскай філасофіі адзінота чалавека перад абліччам Бога ператвараецца ў адзіноту перад нічым: *Сам Бог забыўся на іх,закінуў на гэтую зямлю і пакінуў, пайшоў вяршыць свае боскія справы. Таму чалавек усяго толькі кватарант на роднай зямлі без права прапіскі і валодання ёй.* Героі твораў В. Казько, зняверанья і пакінутыя ўсімі, блудзяць нават у роднай вёсцы, не пазнаючы таго, што некалі было родным. Невыпадкова нават у нейтральнай назве Нахаў аўтару чуецца класічнае – *на хер.*

Мажліва таму, што даволі часта адносінамі паміж людзьмі кіруюць зусім не боскія запаветы, пісьменнікі ствараюць віртуальна-рэальныя астраўкі быцця, у якіх аўтар можа застацца самім сабою са сваімі ідэаламі і ніколі ўжо ім не здрадзіць. Хаця і там не знаходзяць супакою. У акіяне быцця людзі заўсёды імкнуліся знайсці выратавальную дошку, якая раней станавілася метафарай Збавіцеля. Бо да гэтага часу вера, г.зн. стасункі чалавека з Богам, як і лад жыцця ці выбар асобаў для кантактавання і тых ці іншых маральных прыярытэтаў, цесна звязана з паняццем свабоды, унутранай і публічнай. Ва ўсялякім разе падобная ўстаноўка не дазваляе, нібы адметнай *сволачы* з эсэ Ф. Сіўко, быць вераломным і, заблудзіўшыся ў трох хвоях, звальваць віну на іншых. Як тая выдра, піша Франц Іванавіч, што зжэрла ў рацэ ўсю рыбу, а цяпер кожнаму гаворыць, што гэта зрабіў бабёр.

*"Бог абірае таго, хто сам сябе здольны абраць", – вы пераконваеце з дня ў дзень рэчаіснасць, а яна гэтаксама, з дня ў дзень, пераконвае вас, што Бог, якога вы маеце, мёртвы, што Бог, якога вы маеце, – с м е р ц ь.*

*Што гэта,* – дапытваецца Стывен Кінг, хаця з іншай прычыны, – *праява сусветнай іроніі ці акт безвыходнасці?* Чума ў Камю, пацукі ў Станкевіча – гэта толькі каталізатар, які паскарае працэс, робіць яго больш аб'ёмным і наглядным, не закранаючы сутнасці самой рэакцыі, што адбываецца незалежна ад усіх, і яе эманацыі. Надзвычай глыбока і пранікнёна прадчуваецца гібель усяго сусвету, ім набрыняла нават паветра, якім дыхаюць героі. Гэтай наканаванасцю і непазбежнасцю смерці, як і некаторымі ўдалымі апісаннямі нябожчыкаў, развіваецца еўрапейская традыцыя ўвасаблення чумы ды іншых сімвалаў як прадвесніка шатана, хуткага армагедона. Маска чырвонай смерці выглядае з-пад беларускага дома, і яна не менш бязлітасная, чым яе сярэднявечныя прататыпы. Дарэмны чалавечыя намаганні і парыванні, яны згінуць бясследна ў пакутах, бо над усім светам ідзе барацьба паміж белым снегам і чорнаю чумой.

На першы план выходзіць гратэскны тып мастацкага абагульнення і вобразнасці, звязаны з падобным успрыняццем рэчаіснасці. Па сваёй прыродзе гратэск надзвычай спрыяе ўвасабленню суб'ектыўнага, індывідуальнага светапогляду. Аднак, прыбліжаючы далёкае, спалучаючы неспалучальнае, ён разбурае стэрэатыпы, чым набліжаецца да парадоксу ў логіцы, дзякуючы чаму прыватнае становіцца заканамерным. Менавіта таму гратэскнае ўспрыняцце свету становіцца не толькі індывідуальным бачаннем асобы, але і вызначае светабачанне супольнасці. Пісьменнік баіцца рэальнага свету і ў сваю чаргу пужае чытача: *Гратэскнае – гэта свет, які стаў чужым.* (В. Кайзер). У ім *ars bene vivendi* (мастацтва вартага жыцця) заменена на *ars moriendi* (мастацтва гібелі). І толькі смерць усё перамагае і нівеліруе *(mors victris et nivellatrix)*. Аднак менавіта гратэск падказвае верагодную мажлівасць зусім іншага свету і ладу жыцця.

Героі беларускай літаратуры жывуць у перакуленым сусвеце, дзе пануе бяссэнсіца, хаатычнасць, некіруемасць самой маральнай атмасферы. Пазбаўленыя лёсам нармальных адносін да жыцця, яны тым самым вызвалены і ад яго бытавой і маральнай залежнасці. Падобныя персанажы сваімі словамі і дзеяннямі выварочваюць рэчаіснасць, у якой яшчэ дзейнічае логіка, але логіка страшная. Вакол пануе і заўсёды будзе панаваць таямнічае сваволле долі-чумы, долі-пацука, бо папярэдзіць стыхію разбурэння спрадвечнага зла, а тым болей справіцца з ім, нікому не ўдасца.

Чым жа можна вытлумачыць той факт, што большасць са, здавалася б, *прыстойных* людзей пачынае з ахвотай служыць Д'яблу, Уладару мухаў і гадаў паўзучых? Можа таму, што вораг роду чалавечага выступае ў самых разнастайных абліччах (пра гэта папярэджваў яшчэ Збавіцель); падчас нават супярэчлівых, што, аднак, зусім яму не перашкаджае ўздзейнічаць на людзей, спакушаць іх. Невыпадкова заўсёдным ягоным спадарожнікам з'яўляецца пацук, які можа набываць рысы жывёлы-духа. Шматгадовая эманацыя матыву прыводзіць да таго, што нават лавец пацукоў пачынае разглядацца як сімвал лаўца душаў і як падманшчык-спакушальнік.

Бязбожны свет Яна Баршчэўскага жахлівы, бо ім валодае Белая Сарока, злавеснае стварэнне, якое імкнецца знішчыць гэтую зямлю; восем злых духаў, што нясуць людзям пошасць і хваробы; шайтаны і нячысцікі са сваімі памагатымі, чарнакніжнікі са служкамі. Не менш жахлівы свет твора Юры Станкевіча. Герой едзе да месца трагедыі ў засмечаным вагоне, у якім, нягледзячы на спякоту, вокны зачыненыя, разам з жабракамі і нейкімі маргінальнымі асобамі; родны гарадок брудны, засыпаны друзам, жыхары неахайныя і пачварныя. Нават сабакі тут худыя, заражаныя лішаём, з залепленымі гноем вачыма. Некаторым рафінаваным эстэтам падобнае апісанне можа прыйсціся недаспадобы, але беларускаму аўтару яшчэ далёка да песімізму Льва Талстога: *Вчера ходил по улицам и смотрел на лица: редкое не отравленное алкоголем, никотином и сифилисом лицо.* Тым болей С. Кінга, які падкрэслівае, што трагедыя для кожнага пачынаецца з гібелі родных мясцін. Невыпадкова стралок пужаецца *скопления хижин, покрытых дерном. Поселения эти пришли в упадок и давно обратились в отдельные хутора, где обитали теперь прокаженные и помешанные.*

У бязбожным рэальным свеце пануюць не фантастычныя ці міфалагічныя персанажы, але вынік нязменны. Д'ябал, ідучы ў гэты свет, не бярэ з сабою памочнікаў, а знаходзіць сярод людзей. Як, ідучы да лесу, шукае дрэва, згоднае стаць тапарышчам, з дапамогай якога лёгка справіцца з астатнімі. Таму галоўнае не ў вытоках-крыніцы злога, нават не ў тым, хто ім распараджаецца. *Ясно и понятно до очевидности, что зло в человеке таится глубже, чем предполагают лекаря-социалисты, что ни в каком устройстве общества не избегнете зла, что душа человеческая останется та же, что ненормальность и грех исходят из нее самой.* (Ф.М. Дастаеўскі)

Калі руйнуюцца традыцыйныя прынцыпы грамадства, перамагае насілле, у свядомасці індывідуума і супольнасці ў цэлым дамінуюць песімізм, нігілізм, расчараванне ў чалавеку, жаданне схавацца ў сваім Я (нават самым маленькім *я*), з'яўляецца неабходнасць растлумачыць існуючае зло біялагічнымі, псіхалагічнымі прычынамі, знайсці вытокі бруду і нізкага не ў грамадскіх умовах, а ў самім чалавеку. Вось чаму ў супрацьлегласць эстэтыцы, заснаванай на катэгорыях высокай прыгажосці, свет у сучаснай мастацкай традыцыі ўсталёўваецца на эфектах вульгарнай брутальнасці, зайздрасці, сквапнасці, нізкага, што дазваляе гаварыць пра новую шкалу эстэтычных вартасцей, выкліканых заканамернасцю вызначэння меры неабходнай жорсткасці, дазволенай герою з прычыны недасканаласці грамадскіх адносін.

У прыпавесцях, нібы ў музычных п'есах, заўсёды дамінуе матыў, які служыць камертонам развіцця дзеяння і будовы сітуацый. У адным з твораў Ф. Сіўко гэта гукі бубна, якія маюць шырокую амплітуду – ад далёкага рэха да бравурнага марша, што заглушае, нібы удог, усё жывое. Недарэчнасць падобнага, якому яшчэ і надаюць сімволіку свята, якраз і падкрэслівае яе ўспрыняцце не чалавекам, а вугром, істотай, якая паводле навукі і не павінна чуць падобныя гукі, бо ў яе зусім адметныя органы слыху. Аднак пастаянныя ўдары па скурах жывёлы, з якіх зроблены гэтыя інструменты, ствараюць адпаведную атмасферу пагрозы і немінучай бяды, нібы тамтамы паднявольнай Афрыкі. Герой прытчы А. Камю запісвае ў сваім дзённіку, што кітайцы падчас эпідэміі стукаюць у барабаны, спадзеючыся ўміласцівіць духа чумы. Вопыт падобны нельга ігнараваць, бо чума якраз і прыйшла ў Еўропу з Кітая разам з гандлёвымі караванамі па Вялікім шаўковым шляху на пачатку XIV ст. А хто яго ведае, можа барабан болей эфектыўны, чым прафілактыка невядомых хвароб, якія могуць прынесці новыя караваны. Але падобны грукат яшчэ раз настойліва падкрэслівае пачуццё страху, якое нібы разліта ў паветры, вадзе, на зямлі, і якім кіруюцца мясцовыя людзі ў пастаянным жыцці. Менавіта страхамі і абумоўлена нянавісць жыхароў прыазер'я да выдраў, баброў, андатраў, якіх яны знішчаюць бязлітасна. Толькі некаторыя з іх спрабуюць адумацца, спыніцца на краю бездані, але ўсё заглушае бубен, які заклікае і прыводзіць у рух, наперад. Найменшыя зрухі душы забіваюць мажорныя рытмы свята, дзе ліецца бравурная чужая музыка, гучыць прыдворная паэзія чарговага фаварыта ад мастацтва, ладзяцца спаборніцтвы тыпу хто кіне далей рыбіну. Падобную функцыю ў творы Ю. Станкевіча адыгрывае сучасная папса, якая раве над пляцам прыхадняў, з вокнаў аўтамабіляў і шматлікіх кіёскаў і пераймае ўвагу абарыгенаў ад раптоўнага нашэсця.

Некалі Ян Баршчэўскі распавёў гісторыю пра няшчаснага Марка, якога чараўнік ператварыў у ваўкалака (відаць, памяць пра неўраў незнішчальная для нас на ўзроўні ДНК). Той бадзяўся па свеце ў аблічча звера, але з душою і поглядам чалавека, і толькі пасля шматгадовых пакутаў вярнуў іпастась чалавека. Ці не таму Ваўкалак, самы загадкавы персанаж народнай міфалогіі, знешняя і сярэдзінная сутнасць якога надзвычай амбівалентная, найбольш адпавядае душы беларускай. Якраз ён і становіцца сімвалам неўсвядомленага страху, які пасяліўся на генетычным ўзроўні. Ваўкалак у казцы Якуба Коласа "Ноч цвіцення папараці" паведаў пра трагічную долю дзяцей беларусаў, якія станавіліся служкамі суседзяў і ўжо саромеліся прызнаваць сябе нашчадкамі тутэйшага людства.

Зварот да вобразаў братоў меншых у прыпавесцях Ф. Сіўко дазваляе паказаць, што людзі забылі свой шлях з вялікага мора бурлівага жыцця ў маленькую рэчку-азярцо душы. Вугор гэта помніць, бо, у адрозненне ад *цюхаў*, як называе людзей, ён пераадолеў свой страх, страх адзіны, усемагутны і ўсясільны, ад якога перахопліваецца дыханне чалавека. Звяры і рыбы не чапляюцца за кожнае імгненнае жыцця, бо яны, у адрозненне ад уяўных *каралёў прыроды*, адчуваюць

прысутнасць нечага больш велічнага, чым сваё існаванне. Яны яшчэ падпарадкоўваюцца закону пра вечны зварот, таму могуць ажывіць сабою небагатыя, пранізаныя страхам ды адвечнай перасцярогай берагі.

Людзі, *цюхі*, згубілі гэты арыенцір, ён заглушаны ў іх душы гарэлкай, любошчамі, прымітыўнымі інстынктамі. Згадаем, што нібы гуінгмы ў Свіфта, не толькі жывёлы, але нават рыбы дамінуюць над чалавекамі і іхняй любоўю, якая зводзіцца да звычайнага задавальнення. Усе героі твораў Ф. Сіўко і Ю. Станкевіча юрлівыя, падвергнуты шалу, але так непрыгожа кахаюцца. Секс у іх прымітыўны, часцей за ўсё похапкам у машыне ці аўтобусе: *зусім голая дзяўчына ў салоне, адкуль патыхнула потам і спермай – спадніца яе і майка сушыліся на капоце, двое чужынцаў у цяньку на посцілцы за машынай, а накачаны, мускулісты Сярожа, які ўжо быў у трусах, – прама на траве: усіх, пэўна, змарылі хуткацечны секс, сонца і выпіўка.* Менавіта таму акт успрымаецца не як апафеоз кахання ў класічнай традыцыі (пра што вы кажаце!), нават не фізіялагічная патрэба, а своеасаблівая аддушына ад штодзённай мітрэнгі, *невыносимой легкости бытия.* Звычайна секс, коітус становяцца эфектыўным сродкам перамогі страху, некаторыя фізіёлагі праводзяць наўпроставую залежнасць паміж страхам смерці і аргазмам (напрыклад, у павешаных). Так, хваля незразумелага жаху, якая накрыла Раланда з першых крокаў па заклятай пустэльні, распаляе юрлівасць і штурхае хлопца да Эліс, якая ў сваю чаргу пазбаўляецца ад стрэсу, выкліканага з'яўленнем новага Лазара, у палавым кантакце. Кінг падкрэслівае розніцу паміж сапраўднай жарсцю і прымітыўным жаданнем *потрахаться.* У апавяданні Ю. Станкевіча "Совы" асуджаны на смерць мастурбіруе, а прыбышы з "Пацукоў" зацыкленыя на праблеме. Падобнае характэрна і для парабалы Ф. Сіўко, гераіняў твораў якога чакае шлях у дом распусты, бо нідзе яны не знойдуць шчасця. І толькі мацярынства ўзвышае Кіці, толькі ў гэтым яна ўздымаецца да ўзроўню вугрыхі, толькі такім чынам яна змагла перамагчы адвечны страх.

На падобным фоне дарэчы і філасофскія разважанні пра пасіянарнасць, ДНК і іншыя навуковыя рэчы, чым напоўнены раннія творы Юры Станкевіча, якія падчас нагадваюць зборнікі тэзісаў навуковых канферэнцый астраномаў ці прадстаўнікоў радыяцыйнай медыцыны. Невыпадкова ён цытуе Бродскага:

Того гляди, что из озерных дыр,
Да и вообще через любую лужу,
Сюда полезет посторонний мир.
Иль этот ускользнет наружу.

Таму даволі апраўдана жаданне з дапамогай тэорыі Гумілёва растлумачыць парадоксы быцця, якія такія прыгожыя ў навуковых трактатах і надвычай трагічныя ў рэальнасці. Бо з псеўданавуковых разважанняў будуюцца апоры для глыбокіх высноў, што плённа выкарыстоўваюцца дзеля апраўдання авантурыстаў:

*Нібы маладыя багі, вы ўзыходзіце на пракаветных палетках зямлі – і зямля становіцца вашай. Вам дазваляецца ўсё: вы пераймаеце ў свае рукі ўсялякі суд, і пераходзіць на ваш бок праўда.*

Тады голас, што патрабуе аднаўлення парушанай справядлівасці, становіцца *гласом вопиащего в пустыне,* бо толькі сатрасае паветра: *вы ж, пэўна, ведаеце, хаця б ад вашых інфарматараў, што гэтыя з намі роўныя, як вы кажаце, людзі крадуць і забіваюць, гандлююць наркатой, разбэшчваюць малалетніх дзяўчат, выкідваюць з могілак косці нашых продкаў, дзе хаваюць пасля сваіх нябожчыкаў, дураць і падманваюць вяскоўцаў, распаўсюджваюць хамства і распусту, дабіваюцца прывілеяў праз хабар.* Бо нават Даніла, які духоўна ўжо асмеліўся на пратэст, ідзе ўвечары па сваім участку нібы па незнаёмай варожай яму зямлі. Ён добра разумее, што новыя гаспадары саступяць толькі больш магутным: *Яны сыдуць, як тыя пацукі, калі ўбачаць сілу.*

Сюжэты практычна ўсіх твораў навелістычныя, бо вылучаюцца практычна заўсёды нечаканай канцоўкай, напаўняючы аповесці рамантычна-прыгодніцкай выключнасцю. Як у навеле, пісьменнікі апавядаюць аб найбольш выразным, пераломчым моманце ў жыцці герояў, пасля якога яны ўжо не застануцца былымі. Як і тыя, на вачах каго ці пры непасрэдным удзеле якіх адбылося гэта ўсё. Запаволена-маруднае бытапісальніцтва ў нашаніўскай традыцыі не для іх, пануе свядомае ўзнаўленне небудзённых падзей і сітуацый. У той жа час падобнае нельга растлумачыць толькі жаданнем здзівіць чытача, звярнуць ягоную ўвагу, прымусіць дачытаць твор. Кожны з іх здольны па-майстэрску збудаваць сюжэт, стварыць псіхалагічна выверананы партрэт. Можа таму героі Ф. Сіўко і Ю. Станкевіча даволі адметныя на фоне звыклай беларускай прозы; яны вылучаюцца з натоўпу не толькі сваімі знешнімі, але і ўнутранымі якасцямі. Невыпадкова падчас іх завуць *прыдуркамі*, смяюцца і кпяць з іх, а некаторыя маюць выразныя літаратурныя паралелі сваіх вялікіх папярэднікаў. Даволі рэдка герой твораў Ф. Сіўко актыўны, энергічны, дзелавы. Хутчэй за ўсё ён рэфлексуючы, няўпэўнены ў сабе, таму пакідае права вырашаць далейшы ход падзей, у тым ліку даволі часта і ўласны лёс, больш дужым ці нахабным. Чалавек настолькі адзінокі ў гэтым сусвеце, у сям'і, калектыве, што ягонай страты ніхто не адчувае. Калі ён, зразумела, не Грэгар са славутага апавядання Ф. Кафкі, і не шкодзіць сваім як быццам блізкім людзям. Ірвуцца сямейныя і сацыяльныя повязі. Сына Данілы практычна пакідае абыякавым вестка пра смерць роднай цёткі, не збіраецца ён забраць і пляменніка, як застаецца сам-насам з небяспекай. Менавіта ад выключнай самоты, ад жадання праверыць сваю неабходнасць і ідзе звыклы інжынер на незвычайны эксперымент, імітуючы сваю смерць або знікненне. Аднак нават гэтым не можа разбіць атмасферу абыякавасці і раўнадушша, усеагульнай млявасці. І толькі тады, калі ён свядома абірае спакой і самастойнасць, у поўнай адпаведнасці з д'яблавай тэорыяй, да яго імкнецца натоўп. Згадваецца тургенеўскае апавяданне, дзе чалавек і сабака, адзінокія ў сусвеце, міжволі прыціскаюцца адзін да аднаго, бо бачаць тое неадольнае, што іх чакае ў хуткай перспектыве. Хутчэй за ўсё чалавек чалавеку не дапамога, не прыстанак, а *пеклы,* як гаворыць бабулька-філосаф з аднайменнага апавядання Франца Сіўко. І страшэнныя не тыя *пеклы, кругі такія*, праз якія нябожчыкавая душа павінна прайсці, а пеклы ў жывых людзях, бо часцей за ўсё іменна такімі і становяцца яны для чалавека. У душах мала якіх герояў Станкевіча жыве Бог.

Першых канкісткадораў на сваёй зямлі індзейцы ўспрынялі ці не багамі, бо тыя, белыя і вялікія, прыбылі на конях, незвычайных істотах, якіх да гэтага ніхто не бачыў:

*За вамі ўзнікаюць і апярэджваюць вас пагалоскі, што вы не людзі, і дзіўная радасць, што вы сапраўды не людзі, вам укладаецца ў грудзі і вас уздымае над смерцю і над жыццём.*

“Заваёўнікі” Алеся Разанава матэрыялізаваліся зусім з іншага свету. Яны хутчэй нагадваюць герояў не С. Кінга, а Р. Брэдбэры, якія ненаўмысна знішчаюць матылька і тым самым маючую нарадзіцца невядомую цывілізацыю. У версэце беларускага паэта адзіны (!) стрэл знішчае эдэмскі сад, пастаральнае мроіва людства, і міжвольныя злачынцы адступаюць з цяжкаю ношаю гнятлівай віны. Надзвычай рэльефна праступаюць ідэі пасіянарнасці, непазбежнасці адплаты, наканаванасці і прадвызначанасці рока і лёсу-долі. У выніку рух заваёўнікаў па чужой зямлі нагадвае поступ робатаў з сучасных фільмаў, а сваёй жорсткасцю і неадступнасцю яны нагадваюць міфалагічных пачвараў дахрысціянскай эпохі. Так у паэзіі. У прозе ўсё значна празаічней і трагічней, бо рэальнае праламляецца праз успрыманне ахвяр. Тады *чорныя сонцы ўглядаюцца вам у вочы, смага поіць горкай вадой*, а плынь прарывае плаціну: *пераплюхнула цераз дамбу; мы сапраўды*

*мусім дарэмна затыкаць гэтую плаціну, якую ўжо прарвала і ваду назад не вернеш, праўда, а варта, можа, толькі сябе ратаваць.*

Мы ўсе – карлікі перад веліччу часу, а таму не можам спасцігнуць, чаму на зямлі існуе насілле, забойствы, а людзі атрымліваюць задавальненне ад пакутаў сабе падобных. У свеце Стывена Кінга дамінуюць пракажонныя і вар'яты: адзін з іх просіць героя знайсці Хрыста і перадаць яму компас з нержавейкі. Камю падрабязна апісвае смерць нявіннага дзіцяці. Невыносныя пакуты, якія перажывае бязгрэшная істота, прыводзяць героя да кардынальных высноў: *И даже на смертном одре я не приму этот мир божий, где истязают детей.* Юры Станкевіч невыпадкова робіць пляменніка Данілы *даўнёнкам.* Яшчэ Л. Талстой гаварыў, *что дети – это увеличительные стекла зла. Стоит приложить к детям какое-нибудь злое дело и то, что казалось по отношению взрослых только нехорошим, представляется ужасным по отношению детей.*

З даўніх часоў вобраз дзіцяці ў мастацкім творы выразна карэлюе рэальныя трагедыі жыцця, значна павялічваючы сілу іх уздзеяння. У творы Ю. Станкевіча падобны прыём дазваляе яшчэ раз згадаць блізкі па тым часе Чарнобыль: *хлопчык нарадзіўся такім, што быў зачаты там, дзе дазіметры паказвалі больш за 15 кюры*; падкрэсліць, што радыяцыя – абцяжарваючы фактар для нацыі, бо доля разумова адсталых павялічваецца: *Мы ў стадыі этнацыду, калі большасць імкліва дэградуе, няздатная пераадолець генетычны цяжар.*

Сонечны хлопчык, а менавіта так называюць дзяцей з сіндромам, кантрастуе з прынцыпамі *сапраўднага* жыцця: размаўляе з птушкамі, пчоламі, восамі, чмялямі, жабамі, трусам у клетцы, якога ён кліча Піля (ад імя Піліп). Можа слухаў народную казку пра маленькага рыбака Пiлiпку, які цэлы дзень бавіцца на возеры і нават забывае паснедаць. Таму маці сама прыходзіць да вады і кліча сыночка плыць пад беражок з'есці піражок. Але ў гэтай рэальнасці казкі з добрым канцом, якую чакаюць і дзеці, і дарослыя, не будзе, бо на гэты раз з'елі не ведзьму, што пагражала людзям, а трусіка Піліпку. Восы ніколі не джалілі даўнянё, а вось чужынскія дзеткі яго шчыкаюць і кусаюць. Наіўная істота не можа спасцігнуць, а тым болей прыняць зло свету.

Трэба згадаць, што вар'ятам і бажавольным, апушчаным і адвергнутым часта ўкладвалі ў вусны мудрыя словы, якія недаступныя людзям паспалітым: блазны ў Шэкспіра, дурнаваты "падростак" у Купалы, юродзівы ў Пушкіна. Менавіта таму славутую рэмарку апошняга *Народ безмолствует* трэба ўспрымаць як у антычнасці: *Народ мёртвы.*

Ю. Станкевіч шматкроць сцвярджае, што гарадок, у які прыязджае Даніла, мёртвы. І ўсе тут мёртвыя, – гаворыць былая каханая Данілы. Даўнёнак, які ў адпаведнай сітуацыі звычайна карыстаецца толькі адным словам, каб перадаць рэшткі мільгануўшай думкі, раптам *сумна ўсміхнуўся, зусім як дарослы, сказаў: Мы грэбаныя псіхі.* Ісціна ў вуснах дзіцяці – Мы такія! У Стывена Кінга наадварот, усе *грэбаныя выкрадальнікі дзяцей, грэбаная гоміка-наркафобія, далбагробы* – гэта чужынцы. Ці не таму *единственный способ объединить людей – это послать на них чуму.*

У эпоху вялікай дэпрэсіі ў ЗША існавала дамоўленасць з прафсаюзамі аб тым, што ў фіналах фільмаў будзе заўсёды перамагаць справядлівасць. Такім спосабам спрабавалі знізіць узровень сацыяльнай напружанасці ў грамадстве. Праз паўстагоддзя Стывен Кінг у рамане "Бясплодныя землі" шматкроць звяртаецца да вобраза бязлітаснага велізарнага кола, якое раскручвае наша жыццё. Зрабіўшы поўны круг, яно заўсёды вяртаецца да зыходнага пункту адліку. Гратэскнае кола беларускай юдолі не спыняецца ніколі, толькі зрэдку пад уплывам знешніх каталізатараў паскарае няспынны рух.

*Мяняюцца месцамі дзень і ноч, раскладаюць той свет і гэты карты: направа – турма, налева – труна.*

Нашы сучаснікі спаўна аддаюць даніну яшчэ адной не вельмі аптымістычнай традыцыі. Ф. Сіўко падкрэслівае: нішто ў гэтым свеце для беларусаў не змяняецца, яны гатовы, як заўсёды, грызціся між сабою і зараз, і праз тры дзесяцігоддзі, і праз стагоддзе. І толькі вышыванае ў колерах Хрыста радаводнае дрэва дае надзею на духоўнае ратаванне. Падобны фінал пазбаўляе прывязанасці да канкрэтнай эпохі, дазваляе прыпавесці набываць пазачасовы характар, гаварыць аб асноўных складніках жыцця чалавечага.

Многія бачаць неадпаведнасць шчаслівага фіналу логіцы разгортвання падзей і ў рамане Юры Станкевіча. Крытыкі бурчэлі, што гэта і не раман зусім, бо малы па аб'ёме, ахопу падзей і часавых адрэзках, ды і жыццясцвярджальнай раманнай ідэі няма. Адкуль жа мог узяцца *happy end?*

Згадаем, што і Камю як мастака крытыкавалі доўга і настойліва. Ды і самога Льва Талстога. Лічылася, што славутыя творцы найперш філосафы, а толькі пасля пісьменнікі, бо для найбольш дакладнага і ўсебаковага ўвасаблення сваіх поглядаў карыстаюцца раманнай формай. Можа таму і трэба ацэньваць падобныя эксперыменты з розных пазіцый. Бо і згаданыя апавяданні Яна Баршчэўскага са “Шляхціца Завальні” можна чытаць на выключна розных узроўнях. Як цікавыя займальныя казачкі пра ката, які можа быць зласлівым, цмока, што прыносіць золата гаспадару, вужынага цара, які вядзе сваіх падданых у логава. Або як баладу пра продаж душы, якую сквапны ліхвяр ці няшчасны закаханы аддае за прывідны бляск золата. І ўжо толькі пасля як прытчу пра сэнс жыцця, ягоныя асноўныя законы і прынцыпы. Тады і хвароба ды іншыя злыбеды, што выпадаюць на долю чалавека, – ужо не толькі хвароба, бо расплюшчвае вочы, прымушае людзей думаць.

Твор Станкевіча таксама можна і трэба чытаць па-рознаму. І як рэпартаж (з/без пятлі на шыі), і як прытчу, і як сцэнарый будучага выдатнага фільма. Па сутнасці перад намі першы беларускі баявік. Ліберальны заходні глядач з жахам і агідай праглынае кроў і нечыстоты “Васьмі мярзотнікаў” Таранціна, якія забіваюць і гінуць за дробязныя жаданні разбагацець, адпомсціць, узвысіцца. І ніяк не пратэстуе супраць таго. Бо так прынята. Як і паказваць у кіно, сцвярджае Ю. Станкевіч у эсэ “Пясняр самураеў”, *вобраз простага беларуса: гэта нешта кшталту напаўідыёта ў шапцы-аблавушцы, і каб адно вуха боўталася ў паветры.* А вось паказаць беларуса шляхціцам?

Вобраз Данілы ў пэўнай ступені і абумоўлены ўплывам мастацкага свету Курасавы, якім захапляецца беларускі пісьменнік. Нагрувашчанне элементаў таго, што потым назавуць *ачарненнем*, неабходна для паказу працэсу выспявання гронак пратэсту, які можа адбыцца і не ў самурайскай душы, калі яна становіцца дошкай ратавання, апошняй надзеяй. Тады і адзіночкі набываюць неверагодную сілу. Калі ва ўсім свеце застаюцца спадзяванні толькі на аднаго з усіх людзей, ён вымушаны іх апраўдаць. У канцы сваёй прытчы Камю лічыць, што *есть больше оснований восхищаться людьми, чем презирать их.* Наўрад ці хто захоплены героямі рамана Станкевіча, бо неяк не верылася, што нават Даніла здольны на пратэст. *В истории всегда и неизбежно наступает такой час, когда того, кто смеет сказать, что дважды два – четыре, карают смертью.* Але можа якраз з адчаю Даніла *раптоўна адчуў сваю адзіноту ў гэтым свеце і адказнасць за жыццё тых нямногіх, хто спадзяваўся толькі на яго, бо ім і не было спадзявацца больш ні на кога іншага.* Нібыта мог той японскі воін не толькі сказаць: *Пацукі на тое і здольны, каб існаваць уначы, так ужо ім наканавана, і тут трэба быць пільнымі і не дапусціць, каб яны ўсё пераўтварылі ў ноч.*

Прайшлі тыя часы, калі пісьменнікі лічыліся апосталамі, прарокамі. Цяпер

ніхто не спадзяецца, што літаратура ўратуе сусвет. Згадаем Льва Талстога, які сто гадоў таму казаў, што калі б зараз з'явіўся Хрыстос і выдаў бы Евангелле, то нічога не змянілася б: некалькі экзальтаваных кабет узялі аўтографы, а ўсё засталося, як і было. Няма той сілы, што можа абудзіць грамадства. Юры Станкевіч не мае на гэты конт ніякіх ілюзій: *яшчэ ніцшэўскі Заратустра, спусціўшыся з гор і звярнуўшыся да простых людзей з прамовай, не надта і здзівіўся, што народ стаў слухаць не яго, а "канатнага скакуна"*. Згадаем, як саркастычна гучыць падобнае на старонках з твораў Ф. Сіўко: *Паэт Ямбук раз-пораз ускокваў з месца, парываўся нешта сказаць, але яго ветліва асаджвалі: час паэзіі не паспеў, маўляў, пачакай. Чакаць, па ўсім было бачна, заставалася доўга, бо ўсё новыя і новыя стравы ўносілі ў залу і неўзабаве ўсім наогул стала не да паэзіі.*

С. Кінг згадваў, што маці вучыла яго так: калі баішся чаго-небудзь, назаві яго тройчы ўголас – і яго не будзе, знікне. Пісьменнік абазначае тое, што жахае яго, называе, тым самым пераўтвараючы свае фантазіі ў віртуальнае. Наша літаратура свае жахі згадвала ўголас не тры, а трыста трыццаць тры разы. Дарэмна. Ніхто яе не пачуў.

Можа таму, што і пісьменнікі ў сваёй большасці – зусім не інжынеры душ чалавечых. Бо і самі падчас, лічыць Ф. Сіўко, хворыя: *Творчы занятак нярэдка форма легалізацыі. Кепскага характару, псіхічнай хваробы, маладых амбіцый, старога вар'яцтва*. Жорстка?! Так. Але і ў значнай ступені справядліва. Усё жыццё бяззубы і картавы персанаж "Чумы" Гран, які шукае словы, каб выказаць нават самую простую думку, таемна піша кнігу. Але за дзясяткі гадоў напісаў толькі адзін сказ: *Прекрасным утром мая элегантная амазонка на великолепном гнедом коне скакала по цветущим аллеям Булонского леса...* Камю паказвае аблуднасць пошукаў формы, за якімі губляецца рэальнасць. Юры Станкевіч тлумачыць нечуваны раней узлёт графаманіі ва ўсім свеце адзінотай і слабасцю людзей. І яшчэ тым, што яны баяцца Космасу, бо падсвядома адчуваюць ягоную велічыню, у якой так лёгка згубіцца.

Прарокам у наш час стаць даволі лёгка. Трэба заўсёды быць песімістам і з разумным выглядам казаць: *А што яшчэ будзе*! Касандру багі надзялілі здольнасцю прадбачыць будучыню, але прымусілі людзей не верыць у прадказанні. Яе трагедыю добра выказаў Талстой. *Все больше и больше сознаю тщету писаний, всяких и особенно своего. А не сказать не могу.*

Раіса Шастак



...пачынаецца ўсё з пясочніцы
і заканчваецца ўсё пяском...

# Ну і ню, або Аголены боль

***Рэцэнзія на кнігу Міколы Гілевіча***

***Гілевіч М. Ню: Выбраныя вершы / М. Гілевіч, мастак А. Ксёндзаў. – Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2020. – 94 с.: іл.***

Мне ўсё ці амаль што ўсё падабаецца ў гэтай кнізе. Ад назвы, суперлапідарнай ды інтрыгоўнай, да вызначэння накладу.

Вокладка кнігі выбранай лірыкі Міколы Гілевіча – нечаканая, гожая і прыгожая. Трэба прызнаць – аўтару пашанцавала, што такі прызнаны мэтр у жанры “ню”, як Аляксандр Ксёндзаў, пагадзіўся, каб рэпрадукцыі з яго палотнаў аздобілі гэтае выданне. Тым болей, што нават назвы жывапісных твораў (“Зорка Венера” – 1-я старонка вокладкі, “Ева-спакусніца” – франтыспіс, “Мядовая” – 4-я старонка вокладкі) перагукаюцца з некаторымі вершамі.

Не магу не працытаваць нават, здавалася б, такі, звычайна малачытэльны тэкст, як выдавецкая анатацыя, на якую зважаюць хіба што выдаўцы, кнігараспаўсюднікі ды бібліятэкары.




“Ню (фр. *nu* голы) – выява аголенага цела ў выяўленчым мастацтве. У паэтычным жа выяўленні Міколы Гілевіча – гэта аголенасць у самым шырокім яе разуменні: аголенасць натуры, нерваў, чуллівае душы. І кніга “Ню” – гэта тое, што пісаў ён, прыхільнік муз Эўтэрпы і Эрота, для (і пра) галоўных у яго жыцці жанчын. Вымаўленае (ці нявымаўленае) цела і ўцялесненая душа непазбежна сыходзяцца ў каханні”.

Ці не Леаніду Дранько-Майсюку, рэдактару надзвычай дабразычліваму, тактоўнаму і спрактыкаванаму, належаць гэтыя радкі?

Менавіта ён адрэдагаваў у свой час найвыдатнейшую кнігу паэзіі “Мой свеце ясны” незабыўнага, вытанчанага лірыка Міхася Стральцова. Мабыць, нездарма і “Ню” выйшла ў такім самым фармаце, мабыць, менавіта там падгледжаныя і ўзятыя пад узор густоўныя каланлічбы: нумарацыя старонак набраная дробным курсівам і не лічбамі, а словамі, якія выдатна “трымаюць” ніжні правы край кожнай старонкі. Дарэчы, аблямоўка старонак зроблена ледзь заўважнай радзюжкай, імітацыяй жывапіснага палатна, што паядноўвае іх з вокладкай.

Тэксты ў кнізе набраныя прыгожай гарнітурай, на разваротах, як кажуць прафесіяналы, шмат паветра.

Невыпадковым успрымаецца і фотаздымак аўтара кнігі пры помніку Еўфрасінні Полацкай у Мінску скульптара Анатоля Арцымовіча, бо, несумненна, нябесная апякунка Беларусі – адна з жанчын, якія згаданыя ў выдавецкай анатацыі.

І калі ўжо напісаныя ў выходных звестках выдання словы “наклад” ды “асобнікаў”, дык арганічнымі бачацца і “аздоба і шыхт” замест звыклых “дызайн і вёрстка”. Зноў жа, лічба 150 у графе “наклад” – немалая і паводле еўрапейскіх мерак, асабліва падчас пандэміі, якая выключае традыцыйныя прэзентацыі.

Гэта былі словы пра форму.

Цяпер колькі словаў пра змест.

Мікола Гілевіч – вядомая ў культурніцкіх колах асоба. Паэт (аўтар кнігі вершаў “Горад”, якой засведчыў, што ён гарадскі чалавек і гарадскі паэт). Перакладчык (перастварыў шэраг навукова-папулярных кніжак). Рэдактар, крытык і журналіст (рэдагаваў часопіс творчай моладзі “Першацвет” і амаль дваццаць гадоў быў за рэдактара аддзела культуры “Настаўніцкай газеты”, дзе падрыхтаваў больш за тысячу цікавых інтэрв’ю, рэпартажаў, творчых партрэтаў і нарысаў). Але і пра паэзію ніколі не забываўся – як на старонках перыёдыкі ды ў інтэрнэт-прасторы, так і ў жыцці.

У пэўным сэнсе кніга “Ню” – паэтава выбарка і падсумаванне напісанага і апублікаванага ім (а ў тым ліку і пад псеўданімамі) за тры дзесяцігоддзі.

Трэба адзначыць добры густ аўтара, яго начытанасць і абазнанасць у сусветнай культуры, а таксама ў замежных, а найперш – у англійскай мове.

Галоўныя тэмы ў кнізе “Ню” – каханне і чалавечыя стасункі, экзістэнцыя і сэнс існавання на зямлі, каштоўнасць жыцця і “за краіну радзімую жах”.

Непрыхаваныя боль і трывога за лёс Айчыны гучаць у многіх паэтавых радках:

...Сёння мы не выем. Вецер вые
над Радзімай нашай залатой.
А ўжо ў Вільні падстаўляе вымя
нашая ваўчыца нашым з ёй
ваўчанятам, бы ў лацінскім Рыме...

Пэўныя паэтавы радкі гучаць па-філасофску, проста такі афарыстычна:

Пачынаецца ўсё з пясочніцы
і заканчваецца ўсё пяском.

Або:

Жыццё пражыць – згубіць вясло ў трысці.
А дзе жыццё, падклаў там нехта міны.
Ісці, ісці, пакутліва ісці...
Дайсці дадому і да дамавіны.

Як сапраўдны гімн вечнаму і жыццёстваральнаму пачуццю ўспрымаецца такія радкі як:

Нашае каханне – беларуская Саграда Фамілія.
Я – твой Гаўдзі. Ты – мая Каталонія...

У недалёкі, здаецца, час аўтару гэтых радкоў давялося і пашчасціла быць за ўкладальніцу анталогіі вершаў і песен пра каханне “Яна і Я”. Калі сёння трэба было б перавыдаваць той важкі том, дык неадменна ўключыла б у яго і некалькі вершаў з кнігі Міколы Гілевіча.

Ясенінская напеўнасць чуецца ў радках, кшталту:
Утапіўся здуру ў небе п’яны месяц.
Звар’яцеў ад страху палахлівы змрок.
Не кажы пра зоркі і мядовы месяц!
Хіба ўбачу неба, калі дрэнны зрок?

Хіба ўчую шчасце, калі пахне смерцю,
калі жахам мройным поўніцца прастор?
Недзе ў голым полі спатыкнуўся вецер;
Спатыкнуўся, войкнуў, грымнуў і памёр.

Мне б таксама згінуць – давяршыць карціну,
Мне ў пятлі вісець бы, – і такой бяды...
А ты гэтак проста, звыкла й беспрычынна:
“Любы, будзь ласкавы, прынясі вады”.

Не ў пятлю ж залезці – мне вады прынесці,
падыду да студні – апушчу вядро.
Зачарпну вады я, а дастану месяц.
Зазірну я ў студню, а пабачу змрок...

Апакаліптычныя матывы можна расчытаць і ў наступным вершы:

Ты ведаеш: нікога не забіў
і не заб’ю, відаць, ужо ніколі,
бо не выношу паху я крыві
і болей не хачу чужога болю.

Ты ведаеш: нікога не забыў.
Забыць цябе – не будзе болей гора.
Стаіць гара. А за гарой – абрыў.
А за абрывам – дзесь з крывёю мора.

Чытаеш такія радкі і хочацца ўсклікнуць: “Дай, Божа, каб памыліўся паэт у яго відзежах-прадбачаннях!”

Вершы ў кнізе разнастайныя па строфіцы і рытміцы – ад класічных, строгіх акта́ў да мініяцюр-верлібраў:

Так кахаў цябе,
што не заўважыў,
як кот ссівеў.

Шчодра дзеліцца паэт з чытачамі-суразмоўцамі і сваімі аўтарскімі наватворамі:

*Земляры* зямлю сваю цалуюць
і таму навечна вельмі рады.
Калі ты зямлю сваю *зямлюеш*,
ты пракляты, вечны ты араты.

Землякі зямлю сваю шануюць.
І яны таксама вельмі рады
бачыць *землярой*, што шпацыруюць
без зямлі і без зямной спагады...

Падобна, што адзін з першых звярнуўся паэт, паспрабаваў асэнсаваць тэму сусветнай пандэміі, да прыкладу, у вершы “COVID-19”:

Панядзелак, аўторак зніклі.
Серада надзявае маску.
У цябе і ў мяне “клікі”
На любоў, на мілосць і ласку.

А чацвер ужо распранецца.
Скіне маску – адбудзецца.
Ты таксама дастань сэрца.
Я вазьму яго – не застудзіцца.

Трывожаць і крыху насцярожваюць экзістэнцыйныя, а часам нават і суіцыдальныя матывы:

Мне сёння хочацца памерці,
не ўспомніў каб ніхто нідзе –
ні добрым словам у капэрце,
ні ў выраку на тым Судзе.

Ці такое:

Мёртвыя галубы кідаюцца пад ногі.
Мёртвыя паэты кідаюцца на шыбеніцу.
Мы з табой кахаліся да знямогі
і на Кастрычніцкай, і на Зыбіцкай.

Але там не было жывых паэтаў.
Не было акіяна, каб выкупацца.
Там было суцэльнае гета
без магчымасці выкупіцца.
Ці вось такі верш:
Палюбі мяне, пакуль не позна.
Неба – светлае. І я ў табе святло.
Бачу дзённай – яркай, дзіўнай, рознай...
А на дне начы ёсць толькі тло.

Суіцыдапрагнае каханне...
Дзе – каханне, дзе – з крывёю – шкло.
Толькі й змог я на сівым світанні
ўгледзець у крыві на шкле: “Нашто?”

У некаторых вершах прачытваецца ўплыў паэтыкі Анатоля Сыса, пра што сведчыць і адзін з эпіграфаў:

Ён не спаў тры ночы і тры дні
і цяпер, як зоркі, лічыць кроплі:
у пагоні страчанай крыві,
у палоне – вартавога крокі.

Але тут творцу варта было б асцерагацца: пільны калега можа згадаць Міхаіла Матусоўскага з яго знакамітым “Что ж ты, милая, смотришь искоса / Низко голову наклоня” ды спарадыраваць такія радкі:

Я вывернуў вочы свае навыварат.
Я паглядзеў унутр.
Мая ніцавокасць мяне не выратавала,
я аслеп на мінуту.

Але спынюся ў цытаванні, дам чытачу мажлівасць самому ўчытацца ў “Ню”, бо да гэтага, амаль 100-старонкавага выдання хочацца вяртацца, перагортваць яго, перачытваць паасобныя радкі і вершы – некаторыя з іх самохаць застаюцца ў памяці.

Форма ў кнізе, асмелюся сцвердзіць, арганічна паяднаная са зместам, а таму варта павіншаваць аўтара, творча-вытворчы калектыў, які шчыраваў над гэтым выданнем, а таксама ўсіх аматараў і аматарак беларускага прыгожага пісьменства, з выхадам у свет доўгачаканай, адметнай і гожай кнігі лірыкі.

# Нашыя аўтары

**Ажэшка Эліза** — польская пісьменніца беларускага паходжання. Аўтарка раманаў «Пампалінскія», «Сям'я Брохвічаў», «Над Нёманам», «Арганаўты», аповесцяў «Апошняе каханне», «Нізіны», «Марта», «Дзюрдзі», «Хам» і інш. Нарадзілася ў 1841 годзе ў маёнтку Мількаўшчына на Гарадзеншчыне. Памерла ў 1910 годзе ў Гародні.

**Аксак Валянціна** – паэтка, журналістка. Аўтарка кніг «Цвінтар», «Капліца», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца», «Дзікая сліва», «Кава ў арліным гняздзе». Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф» (2008). Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Андзілеўка Людміла** – празаік, мастак. Аўтарка кніг «Проста ноч на двары», «Гэта ты», «Паляванне на музу», «Ключ у боціку», «Няхай выбачае юнацтва». Нарадзілася ў 1958 годзе ў Глыбокім на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Булавацкі Міхась** – празаік, паэт, перакладчык. Адзін з заснавальнікаў магілёўскай філіі аб'яднання «Мартыралог Беларусі». Эсэ «Ноч свабоды» заняло прызавое месца ў літаратурным конкурсе «Мая свабода», праведзеным радыё «Свабода». Аўтар кнігі «Беларус у Беларусі. Эпісталярыі пра мову і маральнасць». Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Восы на Глушчыне. Жыве ў Магілёве.

**Бутэвіч Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісцікарунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці». Перакладаў творы С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хемінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Гучок Яўген** – паэт. Аўтар кніг «Блакітныя чмялі», «Паэма дзяцінства», «Сэрцам і думкай», «На патрэбу душы», «Ах, Родчанка!», «Беларусь у Магдэбургскім праве» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Слуцку. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі (разам з А. Клешчуком), «Скарб» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Законнікаў Сяргей** — паэт, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг «Бяседа», «Устань да сонца», «Пакуль жыве мая бяроза», «Прысак часу», «Заклінанне», «Лісцем дарога запала...», «Шалёная куля» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1992), міжнароднай літаратурнай прэміі імя Рыгора Скаварады і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Слабада на Бешанковіччыне. Жыве ў Мінску.

**Несцярэнка Юрась** – празаік, музыкант. Стваральнік гуртоў «White Night Blues» і «Nestary Band». Аўтар кнігі прозы «Звычайны шоу-бізнес», зборніка краязнаўчых нарысаў «Маё мястэчка ў часе і прасторы», кнігі для дзяцей «Чароўныя назвы». Нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Прыбар на Быхаўшчыне. Жыве ў Бялынічах.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі», «Знічы кахання» і інш., прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013), прэміі імя Наталлі Арсенневай (2017) і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Саматой Ірына** – літаратуразнаўца. Аўтарка артыкулаў па сучаснай беларускай літаратуры. Нарадзілася ў 1961 годзе ў мястэчку Будслаў на Мядзельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Цэслер Уладзімір** – мастак, дызайнер. Накірункі працы: плакат, жывапіс, графіка, скульптура, аб'ект, мастацкія акцыі, прамысловы дызайн, афармленне кніг, рэклама і інш. З 1978 года працаваў сумесна з Сяргеем Войчанкам. Міжнародную вядомасць тандэм атрымаў найперш у галіне плакату (больш як 30 узнагарод на міжнародных конкурсах і біенале). Нарадзіўся ў 1951 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Шастак Раіса** – крытык, культуролаг. Склала шэраг анталогій і хрэстаматый. Друкавалася ў часопісах «Дзеяслоў» і «Маладосць». Нарадзілася ў 1958 годзе ў вёсцы Траянаўка на Барысаўшчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**






Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра,
Дыркі Скібы, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.